# АРТЫКУЛЫ

## ЗА ВЫЯЎЛЕННЕ МАЛАДЫХ СІЛ

Нечуваныя тэмпы і размах сацыялістычнага будаўніцтва паставілі перад партыяй і пралетарыятам задачу падрыхтоўкі новых кадраў. Без вырашэння гэтай задачы немагчыма ў далейшым гэтак шпарка развіваць нашу гаспадарку і культуру. Нездарма ж праблема кадраў яшчэ перад з'ездам і асабліва на XVI з'ездзе Камуністычнай партыі трактавалася, як «неабходная перадумова выканання пяцігадовага плана» [1]. Патрэба ў кадрах стала надзённым пытаннем не толькі для нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, а для «ўсяе сістэмы дыктатуры пралетарыяту», гэта значыць, і для нашай культуры цалкам і для літаратуры асобна.

Незважаючы на гэта, нашы пісьменніцкія арганізацыі яшчэ і дагэтуль не ўніклі ў сэнс важнасці пытання і пакуль што не ўзяліся за практычнае вырашэнне праблемы літаратурных кадраў. Узнікае пытанне, што, можа, у літаратурных кадрах мы не адчуваем такой вострай патрэбы, як у іншых. Але гэта, бясспрэчна, не так. Ужо адно тое, што ў РСФСР, пры значна мацнейшых літаратурных сілах, задача падрыхтоўкі кадраў пастаўлена як адна з важных, гаворыць аб патрэбе ўзняць і вырашыць гэта пытанне і ў нас, на Беларусі.

[1] З рэзалюцыі XVI з'езда ВКП(б) «Аб выкананні пяцігадовага плана прамысловасці»; IV. Умовы выканання пяцігадовага плана прамысловасці, п. 2. *(Заўвага рэд.)*

Сапраўды, не гаворачы пра заўтрашні дзень, мы ўжо сёння не можам абысціся з тымі літаратурнымі сіламі, якія ў нас ёсць; мы ўжо сёння не можам на сто адсоткаў паспяхова выконваць тыя задачы, што стаяць перад савецкай літаратурай, не развязаўшы задачы кадраў.

Якія ж літаратурныя сілы маем мы сёння? Калі прыгледзецца да нашых часопісаў («Маладняк», «Узвышша», «Полымя»), дык прыходзіцца канстатаваць, што дзейснымі творчымі адзінкамі ў апошні час з'яўляюцца 15—20 чалавек, якія і абслугоўваюць гэтыя часопісы. Яшчэ горш з крытыкай: тут манапалістамі з'яўляюцца 3—4 чалавекі, «манаполія» якіх выражаецца ў тым, што даюць яны ў год кожны па артыкулу. Зразумела, што пры такім стане літаратурных кадраў задач культурнай рэвалюцыі літаратура выканаць цалкам не здолее. А задачы гэтыя велізарныя. Сотні тысяч чытачоў, што ліквідавалі і ліквідуюць сваю непісьменнасць, сотні тысяч чытачоў, што прыйдуць у выніку ўсеагульнага навучання, сотні тысяч чытачоў-рабочых становяцца спажыўцамі і творцамі беларускай савецкай культуры,— усе яны патрабуюць ужо і яшчэ патрэбуюць мільёнаў экземпляраў новых кніжак мастацкай літаратуры. Тыя вялізныя дасягненні беларускай пралетарскай літаратуры, якія мы маем, наўрад ці задаволяць мільённую армію новых чытачоў.

Тым часам гэта толькі невялічкая частка тых задач, што ставіць культурная рэвалюцыя і эпоха рэканструкцыі. Перад савецкай літаратурай стаяць яшчэ задачы стварэння новых жанраў, такіх, якія адлюстроўвалі б у мастацкай форме сённяшні дзень, у звычайным сэнсе гэтага слова, якія складалі б матэрыял газеты, якія білі б кожны прарыў, кожны недахоп востраю сатыраю. Я гэта вылучаю знарок таму, што так званыя вялікія жанры адстаюць ад тэмпаў жыцця, не могуць пакуль што выконваць надзённых задач. Само сабой зразумела, што гэта не выключае задачы стварэння і новых вялікіх жанраў. Толькі тады савецкая літаратура стане магутным чыннікам у фармаванні псіхікі новага чалавека, толькі тады яна перадасць сапраўдны працэс і пафас сацыялістычнага будаўніцтва, калектывізацыі, ударніцтва, спаборніцтва, змагання міжнароднага пралетарыяту за сваё вызваленне і інш., калі яна развіне свой сучасны стыль, а значыць, і свае новыя жанры, што будуць уласцівы толькі гэтаму стылю.

Такім чынам, маўклівасць нашых пісьменніцкіх згуртаванняў у справе падрыхтоўкі літаратурных кадраў тлу-

мачыцца не тым, што мы забяспечаны літаратурнымі сіламі, а, мне здаецца, агульнай маруднасцю літаратурнага жыцця, адставаннем літаратуры ад шпаркіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Пісьменніцкія згуртаванні яшчэ не здолелі перабудаваць сваю працу паводле запатрабаванняў нашага часу, яшчэ не здолелі цалкам уліцца ў агульныя тэмпы рэканструкцыі.

Як да гэтага часу была наладжана праца па выяўленню і выхаванню маладых пісьменнікаў? Трэба прызнацца адкрыта, што і літаратурныя згуртаванні і рэдакцыі газет і часопісаў мала цікавіліся гэтай працай, спадзяваліся на самацёк, на тое, што «сапраўдны талент не згіне». У выніку гэтага мы за апошнія гады, за выключэннем адзінак, не мелі сталага прыліву ў літаратуру, тым часам як да 1926—1927 года прырост пісьменніцкіх сіл быў больш масавым. І сталася гэта чамусьці цяпер, калі рабкораўскі і селькораўскі рух пашырыўся, калі насупор тэорыям нацыянал-дэмакратаў, што імкнуліся давесці адсутнасць беларускага пралетарыяту, рабочыя сталі не толькі сталымі чытачамі беларускай літаратуры, а і дзейнымі яе творцамі. Сотні лістоў з вершамі і апавяданнямі, што прысылаюць штодзённа ў рэдакцыі рабочыя з фабрык і заводаў, з рабфакаў і прафшкол, даводзяць гэта грунтоўна. Аднак нашы пісьменніцкія згуртаванні не зразумелі яшчэ добра важнасці гэтага руху, не сталі на чале яго. Не гаворачы ўжо пра арганізацыю літаратурных рабочых гурткоў, пісьменніцкія згуртаванні не цікавіліся нават працаю тых, што існуюць, нават не ведаюць пра іхняе існаванне. Праўда, БелАПП у гэтых адносінах сёе-тое рабіла, але магла б і павінна была зрабіць значна больш [1]. Мала цікавіўся гэтай працай і культсектар ЦСПСБ, абмяжоўваючыся толькі статыстычным падлікам колькасці гурткоў, у той час, як УсеЦСПС падрыхтаваў каля двух дзесяткаў маладых пісьменнікаў-рабочых.

Тое ж самае можна сказаць і пра гурткі сялянскіх і чырвонаармейскіх пісьменнікаў-пачынальнікаў. Група пісьменнікаў у дзень дзесяцігоддзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў урачыста дэкляравала арганізаваць і даць дапамогу ў працы маладым пісьменнікам-чырвонаармей-

---

[1] Калі гэты артыкул быў ужо набраны, БелАПП апублікавала шэраг пастаноў і дакументаў аб практычных захадах асацыяцыі ў справе падрыхтоўкі літаратурных кадраў.

цам, але далей дэкларацыі не пайшла і да гэтага часу канкрэтна нічога не зрабіла [1].

Дрэнна стаіць справа і з індывідуальнай кансультацыяй маладых пісьменнікаў. У нас сталай кансультацыі, трэба сказаць, няма. Тыя адказы рэдакцый, што часамі даюцца, носяць характар штампа, парады «вучыцца і працаваць». Зразумела, што пры такой колькасці літаратурных матэрыялаў, якая штодзень надсылаецца, рэдакцыі, не маючы спецыяльных штатаў, іншых адказаў і не могуць даць, бо нават немагчыма фізічна аднаму чалавеку пераглядзець усё. Але, з другога боку, пачынаючыя пісьменнікі маюць права патрабаваць уважлівых адносін да сваёй творчасці. І зусім заканамернымі з'яўляюцца іх скаргі на нячуласць і бюракратычныя адносіны да іх з боку рэдакцый. На іхнія скаргі пакуль бярэцца вельмі мала ўвагі, але гэта сцюдзёнасць і абыякавасць павінна быць знішчана.

Нарэшце, яшчэ адной перапонай, што перашкаджае выяўленню і выхаванню маладых пісьменнікаў, з'ўляецца адсутнасць друкаванага органа для пачынальнікаў. Раней, калі існаваў «Чырвоны Сейбіт», больш здольныя маладыя пісьменнікі знаходзілі сабе месца там; цяпер жа яны пазбаўлены і гэтага. Сталыя літаратурныя часопісы таксама амаль не адводзяць месца для маладых пачынальнікаў. Літаратурныя старонкі ў газетах, як гэткія, таксама чамусьці не выходзяць. Адзіным прытулкам для пачынальнікаў з'яўляецца пакуль што «Чырвоная Змена», але і яна ў апошні час значна скарачае літаратурны куток. Такім чынам, маладыя пісьменнікі, пакуль яны «не дараслі» да сталага часопіса, не маюць магчымасці зусім друкавацца, а значыць, і выхоўвацца.

Выходзячы з усіх вышэйзгаданых недахопаў у працы з маладымі пісьменнікамі, можна намеціць некаторыя практычныя задачы, што стаяць перад літаратурнымі згуртаваннямі і рэдакцыямі ў справе падрыхтоўкі літаратурных кадраў.

У першую чаргу пры Доме пісьменніка з прадстаўнікоў прафесійных і літаратурных арганізацый трэба ўтварыць, накшталт сектара літаратурных кадраў пры ФОСП'е, арганізацыйны цэнтр, які павінен будзе стаць на чале ўсёй працы па выяўленні і выхаванні маладых пісьменніцкіх сіл. У абавязкі гэтага цэнтра будзе ўваходзіць кантроль і кіраўніцтва працай цэнтральнай кансультацыі,

[1] У апошні час аформілася арганізацыя БелАЧАФ.

кантроль і дапамога кансультацыям пры рэдакцыях газет і часопісаў, распрацоўка праграм і метадычных дапаможнікаў для заняткаў у літаратурных гуртках і інш. Асобнай задачай гэтага цэнтральнага органа будзе з'яўляцца праца з маладымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі. Ужо ўзнімаецца пытанне аб стварэнні пры БДУ аддзялення па падрыхтоўцы літаратараў і журналістаў. Нашы пісьменніцкія згуртаванні павінны будуць дабіцца, каб гэта аддзяленне было адкрыта абавязкова. Цэнтральнае бюро па падрыхтоўцы літаратурных кадраў, з свайго боку, павінна будзе прыняць чынны і непасрэдны ўдзел як у стварэнні, так і ў кіраўніцтве працаю гэтага аддзялення. Гэта ў будучым. На сённяшні дзень перад бюро кадраў стануць меншыя па размеры задачы па падрыхтоўцы кадраў крытыкаў, але не меншыя па сваёй значнасці і патрэбе. Цэнтральнаму бюро трэба будзе звязацца з літаратурным аддзяленнем БДУ, выявіць там больш здольных студэнтаў і маладых крытыкаў, уцягнуць іх у літаратурнае жыццё, у працу пісьменніцкіх згуртаванняў, ставіць у Доме пісьменніка на абгаварэнне іх даклады аб літаратуры і інш. Для ажыццяўлення ўсіх гэтых задач цэнтральнае бюро па падрыхтоўцы літаратурных кадраў павінна будзе прыцягнуць да працы нашых крытыкаў і навуковых працаўнікоў у літаратуры.

Другой задачай у падрыхтоўцы літаратурных кадраў з'яўляецца стварэнне цэнтральнай кансультацыі і кансультацый пры рэдакцыях газет і часопісаў. Літаратурныя кансультацыі, як цэнтральная, так і рэдакцыйныя, будуць весці з пісьменнікамі-пачынальнікамі сталую працу, даваць на прысланыя творы грунтоўныя адказы, накіроўваць лепшыя з гэтых твораў у друк.

Неабходнай перадумовай паспяховай працы з маладымі пачынальнікамі з'яўляецца яшчэ вырашэнне пытання наконт сталага органа друку. Пісьменніцкія згуртаванні павінны будуць дабіцца калі не стварэння спецыяльнай газеты ці часопіса, дык, па крайняй меры, стварэння пры газетах сталых літаратурных куткоў, дзе іх яшчэ няма, а дзе ёсць,— дабіцца, каб яны былі пашыраны і выходзілі заўсёды стала. З свайго боку, пісьменніцкія згуртаванні павінны таксама адвесці пэўнае месца для пісьменнікаў-пачынальнікаў у сваіх часопісах.

Усе гэтыя мерапрыемствы, калі яны будуць нават цалкам ажыццёўлены, яшчэ не развязваюць праблемы літаратурных кадраў. Трэба помніць, што маса пісьменнікаў-

пачынальнікаў літаратурна малапісьменная; іх нават сталая кансультацыя задаволіць не можа; яны патрабуюць штодзённай тэарэтычнай і практычнай вучобы. Выйсцем у дадзеным выпадку з'яўляецца арганізацыя літаратурных гурткоў. У гурткі павінны будуць увайсці не толькі маладыя пісьменнікі, а і больш здольныя рабкоры і сelькоры, бо мы маем патрэбу не ў адных пісьменніках, а і ў мастаках нарыса і фельетона. Арганізавацца гэтыя гурткі павінны, на маю думку, па прынцыпу агульнагарадскіх рабочых і агульнараённых сялянскіх гурткоў. Толькі ў выпадку вялікай колькасці людзей (20—25 чалавек) яны могуць быць падзелены на два, на тры самастойныя гурткі. Гэты прынцып канцэнтрацыі дазволіць лепш абслугоўваць гурткі кіраўнікамі і літаратурай. Другім прынцыпам арганізацыі гурткоў з'яўляецца прымацаванне іх да пэўнага прадпрыемства ў горадзе і да буйнога калгаса ў вёсцы. Гэта, з аднаго боку, забяспечыць сувязь с вытворчасцю, а з другога боку, дасць і гуртку і прадпрыемству карысць тым, што гурток знойдзе сабе тут удзячную працу ў шматтыражцы, у насценнай газеце і інш. Гэтым самым праца літаратурнага гуртка будзе звязана з карысна грамадскаю працаю і зробіць добры ўплыў на творчасць гурткоўцаў. Да гэтага часу маладыя пісьменнікі (нават рабочыя), беручы ўдзел у працы насценных газет і шматтыражак, даюць у іх востры надзённы матэрыял, але ў рэдакцыі часопісаў вельмі часта прысылаюць творы надуманныя, адцягнёныя ад жыцця, перапевы благой літаратуршчыны буржуазных пісьменнікаў. Ніякай грамадскай і мастацкай вартасці такая творчасць не мае. Мне думаецца, што сувязь гурткоў з прадпрыемствам, праца над канкрэтнымі творамі газетнага парадку пазбавіць творчасць маладых пісьменнікаў ад гэтай «літаратуршчыны», дасць добры кірунак у іх далейшай працы.

Арганізацыю літаратурных гурткоў і кіраўніцтва імі павінны ўзяць на сябе пісьменніцкія згуртаванні, працуючы ў цеснай сувязі і з дапамогаю мясцовых камітэтаў камсамола і прафесійных арганізацый. Як тэарэтычную, так і практычную працу ў гуртках будуць праводзіць пісьменнікі і крытыкі, прымацаваныя ад гэтых гурткоў. Праўда, у правінцыі гэта пытанне ўскладняецца тым, што там вельмі мала (а то і зусім няма) выяўленых і падрыхтаваных пісьменнікаў. У такіх выпадках да сталай працы ў гуртку павінны быць прыцягнуты настаўнікі, выкладчыкі літаратуры. З свайго боку, пісьменніцкія згуртаванні змо-

гуць раз ці два разы ў месяц пасылаць туды на працу дзён на два, на тры сваіх сяброў. Таксама прыезд пісьменнікаў у тую ці іншую мясцовасць на выступленне павінен будзе выкарыстоўвацца для практычнай дапамогі ў працы гурткоў. Там, дзе выходзяць друкаваныя газеты, яны таксама павінны будуць звязацца з гурткамі, чула і ўважліва адносіцца да творчасці пачынальнікаў, дапамагаць у іх штодзённай працы.

Усе гэтыя мерапрыемствы арганізацыйнага парадку, пры ўсіх іх цяжкасцях і перашкодах, усё ж лягчэй развязаць, як вырашыць пытанне з праграмай гурткоў і метадам працы. Пры адсутнасці па гэтаму пытанню спецыяльнай літаратуры, пры адсутнасці сістэматызаванай марксісцкай паэтыкі, а ў беларускай мове наогул паэтыкі, гэта справа набывае характар найбольшай перашкоды ў падрыхтоўцы літаратурных кадраў. Праўда, калі будзе арганізавана цэнтральнае бюро літаратурных кадраў, калі яно здолее прыцягнуць да працы марксістаў-літаратуразнаўцаў, пытанне пастаноўкі навучання ў літаратурных гуртках можа быць вырашана больш лёгка. Але пакуль што я выходжу з таго, што ёсць, і на аснове гэтага раблю свае некаторыя прапановы, да праграмы і метаду працы ў літаратурных гуртках.

Праца ў літаратурных гуртках павінна ісці ў чатырох кірунках: 1) знаёмства з асновамі марксісцкага літаратуразнаўства, 2) разбор твораў пісьменнікаў, 3) разбор творчасці сяброў гуртка і 4) удзел гурткоўцаў у грамадскай працы (насценгазеты, літаратурныя выступленні, дыспуты і інш.). Знаёмства з асновамі марскісцкага літаратуразнаўства дасць пісьменніку-пачынальніку паняцце пра сутнасць літаратуры, пра яе сувязь з грамадою і класам і пра яе сацыяльныя функцыі. Пры шырокай пастаноўцы гэтых пытанняў, калі сябры гуртка будуць больш падрыхтаванымі, тут ільга будзе крануцца глыбей і агульных пытанняў дыялектычнага матэрыялізму.

Жанрыстыка, стылістыка і вершазнаўства, у сувязі и распрацоўкай агульных асноў літаратуры, павінны быць распрацаваны больш падрабязна і глыбока. Асаблівую ўвагу тут трэба будзе звярнуць на распрацоўку дыскусіі пра творчы метад савецкай літаратуры, яе стыль і жанры. Усе тэарэтычныя высновы ўжываюцца як пры разборы твораў сталых пісьменнікаў, так і пры разборы твораў саміх гурткоўцаў. Такім чынам, тэорыя і практыка павінны быць у цеснай сувязі, неадлучна адна ад другой.

З метадычнага боку, на мой погляд, больш карыснай і рацыянальнай будзе самастойная калектыўная ці індывідуальная прапрацоўка ўсіх пытанняў, з папярэднім уступам — растлумачэннем кіраўніка, а пасля — агульным абгаварэннем. Тут шмат што могуць даць, пры добрай пастаноўцы працы, і шырокія (у рабочых клубах) публічныя літаратурныя дыспуты, спаборніцтва паміж асобнымі брыгадамі літаратурнага гуртка. З аднаго боку, гэта забяспечыць кантроль прадпрыемства над працаю гуртка, а з другога боку, будзе стымулам для глыбокай прапрацоўкі матэрыялаў гуртоўцамі.

Уся праца гуртка не павінна адрываць сяброў гуртка ад агульных задач фабрыкі ці калгаса, ад агульных задач нашага часу. Праца гуртка не канчаецца ні гуртком, ні літаратурнымі выступленнямі, ні дыспутамі. Гуртоўцы павінны быць не толькі ўдарнымі супрацоўнікамі насценгазеты ці шматтыражкі, а і ўдарнымі працаўнікамі за выкананне прамфінплана. Гэта сапраўды дасць стымул для карыснай літаратурнай творчасці, дасць магчымасць выразіць у творах сапраўдны пафас змагання і будаўніцтва.

Літаратурныя творчыя гурткі з'яўляюцца асноўнай формай падрыхтоўкі пісьменніцкіх кадраў. Трэба зараз жа ўзяцца за практычную працу ў гэтым кірунку. Зіма, як найлепшы час для гурткавой працы, не павінна быць марна пратрачанай. У першую чаргу, мне здаецца, трэба рэалізаваць тую ўрачыстую дэкларацыю, якую ў дзень дзесяцігоддзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў дала група пісьменнікаў. Трэба неадкладна прыступіць да арганізацыі чырвонаармейскіх пісьменнікаў і ўзяцца з імі за працу.

Нарэшце, яшчэ адной важнай формай падрыхтоўкі літаратурных кадраў можа быць індывідуальнае шэфства над больш здольнымі пісьменнікамі-пачынальнікамі. Гэта форма некаторымі пісьменнікамі практыкавалася і практыкуецца цяпер, але не ў арганізаваным парадку, а ў парадку асабовай дапамогі. Мне здаецца, што гэтай форме літаратурныя згуртаванні павінны надаць больш арганізаваны характар. Праўда, яна не можа даць такога эфекту, як праца пачынальнікаў у гуртках, але яна дазволіць адзіночкам, што не могуць займацца ў гуртку, атрымаць заўсёды дапамогу. Літаратурныя згуртаванні павінны да такіх маладых пісьменнікаў-адзіночак прымацаваць свайго сябра. Праца кіраўніка-шэфа будзе выражацца ў тым, што ён будзе трымаць цесную сувязь с пачынальнікам, будзе ста-

лым ягоным кансультантам, будзе ведаць, як ягоны падшэфнік развіваецца, а значыць, будзе ведаць, што яму параіць чытаць, над чым працаваць.

Усе мае думкі, выказаныя наконт падрыхтоўкі кадраў, і канкрэтныя прапановы я падаю як папярэднія меркаванні, якія патрабуюць шырокага і глыбокага абгаварэння. Я спадзяюся, што нашы пісьменнікі-пачынальнікі выкажуць наконт падрыхтоўкі літаратурных кадраў свае меркаванні і практычныя прапановы. Шаснаццаты з'езд ВКП(б) вызначыў праблему кадраў, як цэнтральную праблему. У самы бліжэйшы час яна павінна стаць у цэнтры ўвагі і атрымаць сваё практычнае вырашэнне ў працы пісьменніцкіх згуртаванняў.

*1930 г.*

## ПРАЦА НАД СЛОВАМ

Літаратура — мастацкі твор — гэта надзвычайна складаны жывы арганізм, дзе ўсе самыя дробныя часцінкі, усе элементы павінны быць шчыльна і неадлучна знітаваны ў адно цэлае. Паўстае пытанне, чым жа, якімі сродкамі пісьменнік знітоўвае свой твор у адно цэлае? Зразумела, што гэтымі сродкамі з'яўляецца ідэя, думкі, якія кладуцца ў аснову ўсяго твора і паасобных яго частак. Але ж думкі — таксама рэч нематэрыяльная, і мы выражаем іх, перадаём другой асобе з дапамогаю слова. Значыць, слова з'яўляецца тым рэчавым матэрыялам, з якога будуецца твор.

Дрэнны быў бы той муляр альбо столяр, які не ўмеў бы так, як яму хацелася, зляпіць з гліны печ альбо зрабіць з дрэва стол, іначай кажучы, дрэнны быў бы той майстар, які не валодаў бы сваім матэрыялам, не ўмеў бы надаць гэтаму матэрыялу такой формы, якую ён — майстра — хацеў бы мець. Тое ж самае можна сказаць і пра пісьменніка; дрэнны той пісьменнік, якога не слухаецца слова, які дрэнна валодае сваім матэрыялам — моваю. На жаль, нашы пачынаючыя пісьменнікі над мовай працуюць мала, амаль не звяртаюць на яе ніякай увагі, хоць валодаюць словам вельмі дрэнна. Шмат каму з гэтых пісьменнікаў можа паказацца дзіўным: як гэта так, што яны не вало-

даюць словам? Яны ж кожную хвіліну гавораць з навакольнымі людзьмі, выражаюць словамі свае думкі?

Ёсць вялікая розніца паміж звычайнай, штодзённай нашай мовай і мовай літаратурнай. Калі ў гутарцы з тым ці іншым чалавекам мы не знаходзім патрэбнага слова і нас не разумеюць, дык мы, каб усё ж такі дакладна выказаць сваю думку, замяняем нязнойдзенае слова некалькімі іншымі, растлумачваем нашу думку больш шырока, дапамагаючы пры гэтым мімікай, жэстамі, інтанацыяй голасу і г. д.

Зусім іншая рэч з літаратурным творам. Пісьменнік не можа стаяць пры кожным чытачы і тлумачыць яму, калі той не зразумеў, сваіх думак, дапамагаючы пры гэтым, як у гутарцы, інтанацыяй і жэстамі. Пісьменнік павінен выражаць сваю думку і перадаваць свае пачуцці з усімі іхнімі самымі тонкімі адценнямі так дакладна і проста, каб непатрэбна было ніякіх тлумачэнняў, гэта па-першае. Па-другое, пісьменнік павінен быць эканомны, скупы на словы, бо калі ў творы будзе шмат слоў, а мала думак, дзеі, дык твор будзе расцягнуты, нудны, нецікавы. Нудны, аж прыкры будзе таксама і той твор, дзе аўтар без патрэбы, а толькі таму, што не меў у запасе іншых слоў, будзе паўтараць па некалькі разоў адно і тое ж слова. Як прыклад гэткага твора, я назваў бы верш пачынаючага пісьменніка Антося Лукашэвіча, дзе слова «машына» паўтараецца амаль у кожным куплеце, а слова «праца» нават па некалькі разоў у куплеце.

Такім чынам, пісьменнік, каб пазбавіцца нуднай для твора шматслоўнасці і дакладна выражаць свае думкі і пачуцці, не можа абмежавацца тым запасам слоў, якога, магчыма, досыць для вуснай гутаркі альбо для напісання пратакола ці якой адносіны. Пісьменнік павінен валодаць самым багатым запасам слоўнага матэрыялу, павінен ведаць як мага больш самых разнастайных адценняў слоў, што могуць выражаць адны і тыя ж альбо вельмі блізкія паняцці, як, напрыклад: смутак, сум, туга, жальба, маркота; альбо — будаўніцтва, будоўля, пабудова, будаванне і г. д.

Багаты запас слоў не толькі памагае пісьменніку дакладна выразіць сваю думку, але дае яму яшчэ і шырокія тэхнічныя магчымасці. Гэта асабліва важна для паэтаў. Скажам, паэт піша чатырохстопным ямбам[1] верш пра

[1] Ямб — гэта такі двухскладовы памер верша, дзе чаргуюцца адзін ненаціскны і адзін націскны склады.

Заходнюю Беларусь і хоча выказаць думку пра тое, што ў Заходняй Беларусі неспакойна і скрозь пануе смутак і гора. Паэт стварае такі вобраз:

У бераг б'юцца хвалі Віслы
і знепакоена шумяць,
над полем *смутак* і гора вісне,
бо людзям радасці няма.

Паэт дакладна выказаў сваю думку, але слова «смутак» не ўлазіць у памер верша: у гэтым слове адзін лішні склад. Як жа быць? Ні думкі, ні вобразу мяняць паэту не хочацца. Тады ён шукае ў сваіх слоўных запасах такога слова, якое было б на адзін склад карацейшае, але якое перадавала б хоць прыблізна такое ж самае паняцце. Ён знаходзіць слова «сум», і верш тады гучыць без перабою:

У бераг б'юцца хвалі Віслы
і знепакоена шумяць,
над полем сум і гора вісне,
бо людзям радасці няма.

З гэтага прыкладу відаць, што багаты слоўны запас мае пэўнае дачыненне да працы пісьменніка і над рытмам, ён дае пісьменніку ў гэтым кірунку надзвычай вялікія магчымасці для стварэння ў вершы самых разнастайных рытмічных пераходаў. Не менш важны багаты слоўны запас і для стварэння арыгінальнай і гучнай рыфмы. Возьмем ізноў прыклад на тыя ж словы. Паэт піша верш пра вясну; напісаў ён тры першых радкі:

Прыйшла вясна ў сваёй красе,
рака ізноў ад сну раскута,
яна на хвалях аднясе...

У чацвёртым радку гэтага верша паэт хоча сказаць, што рака данясе на хвалях:

«зімовых дзён халодных сум».

Але ж слова «сум» ніяк не рыфмуецца са словам «раскута». Тады паэт ізноў перабірае свае слоўныя запасы і знаходзіць там слова «смутак», якое выражае прыблізна тое ж паняцце, што і слова «сум», і якое рыфмуецца са словам «раскута». Верш тады гучыць так:

Прыйшла вясна ў сваёй красе,
рака ізноў ад сну раскута,
яна на хвалях аднясе
зімовых дзён халодны смутак.

Гэтыя цяжкасці, калі пісьменнік не знаходзіць слоў, каб выразна і дакладна выказаць сваю думку, альбо калі

пісьменніку ніяк не ўдаецца зрыфмаваць радкоў, ці калі ў рытм «не ўлазіць» слова альбо яго не хапае — гэтыя цяжкасці пачынаючыя пісьменнікі, напэўна, у сваёй рабоце сустракаюць часта. Больш таго, гэтыя цяжкасці, як сведчаць выказванні саміх пісьменнікаў, сустракалі ў сваёй рабоце нават такія майстры слова, як Пушкін, Гётэ і інш. Яны знаходзілі выйсце з гэтых цяжкасцей у тым, што ўпарта працавалі над пашырэннем свайго слоўніка, над сваёй мовай. Якое ж выйсце знаходзяць з гэтых цяжкасцей пачынаючыя пісьменнікі?

Замест таго каб узбагачаць свой слоўнік і гэтым перамагаць згаданыя цяжкасці, нашы пачынаючыя пісьменнікі знаходзяць іншае «выйсце»: ставяць не там, дзе належыць, націск у слове, перакручваюць слова, каверкаюць мову. Антось Лукашэвіч, напрыклад, не знайшоўшы, відаць, іншага слова, рыфмуе слова «гулянкі» са словам «станкі», пераносячы націск з апошняга склада на першы і перакручваючы гэтым самым слова да таго, што яго цяжка пазнаць. Зразумела, каб таварыш Лукашэвіч меў большы запас слоў, яму не патрэбна было б перакручваць слова «станкі», бо ён і так знайшоў бы для рыфмы адпаведнае слова, апрача «станкоў».

Я прывёў вышэй прыклады толькі таго, якую вялікую ролю іграе слова ў дакладным выражэнні думкі, у стварэнні рытму і рыфмы. Апрача гэтага не трэба забывацца і на тое, што чым больш свежымі словамі (нязбітымі, як гавораць, нетрафарэтнымі) будзе пададзен вобраз, будзе выказвацца думка, тым ярчэйшаю будзе яе форма, тым лепш гэта думка будзе ўражаць чытача, тым лепш яна будзе запамінацца, а гэта для мастацкага твора вельмі важна.

Кожны пісьменнік, апрача таго, што ён павінен валодаць вялікім запасам слоў, дык ён павінен яшчэ мець і густ на слова, гэта значыць, адчуваць ягоную эмацыянальную афарбоўку. Калі перад намі, напрыклад, скажуць слова «хвароба», дык у нашым уяўленні паўстае вобраз чагосьці смутнага, чорнага, нярадаснага; і наадварот, калі нам назавуць слова «радасць», перад намі адразу ж паўстае вобраз чагосьці светлага, сонечнага, вясёлага. Гэта значыць, што ў абыдзённым абыходзе кожнае слова набыло пэўны каларыт, які мы называем ягонай эмацыянальнай афарбоўкай. Гэтую афарбоўку пісьменнік і павінен адчуваць, іначай ён можа гаварыць адно, а створаны ім праз слова вобраз будзе выклікаць зусім адваротнае ўра-

жанне. Я ізноў тады падам некалькі прыкладаў з вершаў Антося Лукашэвіча.

Пішучы пра наш велічэзны размах будаўніцтва, таварыш Лукашэвіч гаворыць:

Будоўля расце безупынна,
растуць вялікія *хаты-святліцы.*

Хіба гэтыя радкі даюць вобраз велічэзнага размаху нашай будоўлі? Безумоўна, не. У чым жа справа? Справа ў тым, што аўтар гэтага верша не адчувае каларыту слова, не адчувае таго, што словы «хаты-святліцы» выклікаюць у чытача ўяўленне не чагосьці вялікага і грандыёзнага, а ўяўленне чагосьці нізенькага, маленькага, мяшчанскі ўтульнага, бо з гэтым словам у нас ужо звязана пэўнае паняцце. І хоць таварыш Лукашэвіч гаворыць, што ў нас «растуць *вялікія* хаты-святліцы», перад намі ўсё адно паўстае вобраз маленькіх хібарак і вузенькіх каморак.

Другі прыклад. У адным з сваіх вершаў таварыш Лукашэвіч хоча выказаць думку, што ў Польшчы наспела ўжо пралетарская рэвалюцыя:

«Рэвалюцыя ўжо накіпела».

Думка ў сваёй аснове вельмі правільная, але выказана яна такімі словамі, што вобраз рэвалюцыі, як магутнай і з'яднанай сілы, зніжаецца, бо слова «накіпела» выклікае ў чытача асацыяцыю нейкага бруднага накіпу ад гаршка, і толькі.

Трэці прыклад. Тав. Лукашэвіч піша:

«Кулі стальныя ўлезлі ў грудзі».

Гэтае слова «ўлезлі» надзвычайна рэжа вуха і не дае вобразу палёту кулі, зніжае нашчэнт дынаміку гэтага палёту, бо стаіць яно не на сваім месцы. У нас са словам «лезе» звязана паняцце чагосьці павольнага, маруднага, тым часам, як палёт кулі ёсць да таго шпаркі рух, што мы нават не бачым яго вачыма. Тав. Лукашэвіч не заўважыў, што вобраз самога слова «ўлезлі» карэнным чынам супярэчыць такому вобразу, які хацеў даць чытачу аўтар.

З пададзеных прыкладаў відаць, якое вялікае значэнне мае густ пісьменніка да слова, пісьменнікавае адчуванне каларыту, эмацыянальнай афарбоўкі слова. Калі гэтага ў пісьменніка няма, вобраз, як мы бачылі, набывае зусім адваротнае значэнне, чым тое, якое хацеў яму надаць пісьменнік.

Я мог бы яшчэ гаварыць пра ролю багатага запасу слоў у стварэнні звонкасці, гукапераймальнасці верша і г. д., але мне здаецца, што досыць сказанага, каб пераканацца, якое вялікае значэнне мае для пісьменніка праца над пашырэннем свайго слоўніка.

Перад тым як перайсці да крыніц, з якіх пісьменнік можа і павінен чэрпаць слоўны запас, я хачу яшчэ спыніцца на адным пытанні — на чыстаце мовы.

Мова, як прадукт і сродак сувязі ў чалавечай грамадзе, не бытуе замкнута, адмяжована ад другой мовы, наадварот, мовы ўплываюць адна на адну, запазычаюць адна ў другой словы. Аднак кожная мова мае свае асаблівасці, сваю форму, свае законы змен і развіцця. І таму, калі слова пападае з якой-небудзь мовы ў другую, яно перафармоўваецца там паводле законаў апошняе. Такі працэс зусім нармальны. Але часта бывае, што ў мову пераносяцца словы з іншае без жаданай патрэбы і змен і тым самым толькі загрувашчваюць мову лішнім матэрыялам, парушаюць яе чыстату і стройнасць. Каб пазбегчы гэтага, пісьменнік павінен аберагацца ад ужывання чужаземных слоў, русізмаў, паланізмаў і г. д., калі яны не прышчапіліся ў нашай мове і калі ў нас ёсць адпаведныя словы для выражэння тых жа паняццяў. Іначай гэтыя словы толькі будуць шкодзіць яснасці выражэння думкі і парушаць чыстату мовы, а тым самым будуць шкодзіць і мастацкасці твора. Пра гэта ў дачыненні да рускай мовы У. І. Ленін калісьці пісаў:

«Русский язык мы портим. Иностранные слова употребляем без надобности. Употребляем их неправильно. К чему говорить «дефекты», когда можно сказаць недочеты или недостатки или пробелы?

Конечно, когда человек, недавно научившийся читать вообще и особенно читать газеты, принимается усердно читать их, он невольно усваивает газетные обороты речи. Именно газетный язык у нас однако тоже начинает портиться. Если недавно научившемуся читать простительно употреблять, как новинку, иностранные слова, то литераторам простить этого нельзя. Не пора ли нам объявить войну употреблению иностранных слов без надобности?

Сознаюсь, что если меня употребление иностранных слов без надобности озлобляет (ибо это затрудняет наше влияние на массу), то некоторые ошибки пишущих в газетах совсем уже могут вывести из себя. Например, употребляют слово «будировать» в смысле возбуждать, тормошить, будить. Но французское слово «bouder» (будэ)

значит сердиться, дуться. Поэтому будировать значит на самом деле «сердиться», «дуться». Перенимать французски-нижегородское словоупотребление значит перенимать худшее от худших представителей русского помещичьего класса, который по-французски учился, но, во-первых, недоучился, а, во-вторых, коверкал русский язык.

Не пора ли объявить войну коверканью русского языка?» [1]

Так ставіў Уладзімір Ільіч Ленін пытанне пра чыстату рускай мовы; так павінен ставіць пытанне і кожны пісьменнік пра чыстату тае мовы, якою ён піша.

Мы пералічылі ў асноўным усе тыя запатрабаванні, якія стаяць перад пісьменнікам у галіне працы над моваю. Спынімся на тых спосабах і на тых крыніцах, з якіх пісьменнік можа і павінен папаўняць свае слоўныя запасы. Гэтых крыніц некалькі.

Пісьменнік, асабліва пачынаючы, павінен у першую чаргу добра авалодаць тым слоўным матэрыялам, якім карыстаецца навакольная грамадскасць (калгаснікі, рабочыя, сяляне). Зразумела, што не ўсе словы, якія яны ўжываюць, павінен ужываць пісьменнік, бо, як мы гаварылі ў пачатку, літаратурная мова, асабліва мова мастацкага твора, адрозніваецца ад звычайнай гутарковай мовы.

Другой крыніцай слоўнага матэрыялу павінна быць мова літаратурная. Адсюль пачынаючы пісьменнік павінен таксама папаўняць свае слоўныя запасы. Як гэта рабіць практычна, я рэкамендаваць не бяруся, зразумела, што трэба толькі як мага больш чытаць мастацкіх твораў, каб увесь моўны матэрыял урос, як гавораць, у цела і кроў. Не пашкодзіць, калі пачынаючы пісьменнік, чытаючы той ці іншы мастацкі твор, выпіша сабе ўсе словы, якія ён сустракае ўпершыню, каб скарыстаць іх пасля ў сваіх творах.

Трэцяй і надзвычайна багатаю крыніцаю для папаўнення слоўных запасаў з'яўляецца народная (як запісаная, так і не запісаная) творчасць. У гэтым сэнсе для пачынаючага пісьменніка карысна будзе прачытаць зборнікі Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў», зборнікі беларускіх народных песень Шэйна, Раманава, Бяссонава і шэраг іншых зборнікаў народнай творчасці. Ізноў-такі, нядрэнна будзе, калі пачынаючы пісьменнік, чытаючы гэтыя зборнікі, выпіша для сябе ўсе тыя

[1] В. И. Ленин. Об очистке русского языка (Размышление на досуге, т. е. при слушании речей на собраниях). Сочинения, изд. 4, том 30, стар. 274. *(Заўвага рэд.)*

словы, якіх ён дагэтуль не ведаў альбо якія яшчэ не ўваходзілі ў ягоны слоўны запас. Вядома, што і тут павінен быць строгі кантроль і адбор, каб не загружаць свайго слоўніка непатрэбным матэрыялам, гэта значыць, словамі, якія ўжо вельмі ўстарэлі альбо якія ўжо ёсць у літаратурнай мове.

Шмат дасць карыснага для пачынаючых пісьменнікаў чытанне слоўнікаў беларускай мовы. У гэтым сэнсе можна рэкамендаваць багаты «Словарь белорусского наречия», складзены І. Насовічам, краёвыя слоўнікі Чэрвеньшчыны, Віцебшчыны, выдадзеныя Беларускай Акадэміяй навук, слоўнікі беларускай літаратурнай мовы, як тыя, што выдадзены раней, так і, асабліва, расійска-беларускі слоўнік, першы том якога мае хутка выйсці з друку ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі.

Гэта чацвёртая крыніца для папаўнення слоўных запасаў, кажу ізноў, можа даць вельмі шмат цікавых і патрэбных слоў, калі працаваць умеючы, гэта значыць, робячы ўважлівы і строгі адбор.

Нарэшце, пятаю крыніцаю для пашырэння слоўных запасаў з'яўляюцца наватворы. Такіх слоў у беларускай літаратурнай мове пасля Кастрычніка з'явілася і ўвайшло ў бытаванне досыць шмат. Для прыклада прыгадаю хоць бы такія словы, як «адлюстраванне», «носьбіт», «безумоўна» і інш. У гэтым кірунку поле для дзейнасці надзвычайна шырокае. Аднак пачынаючы пісьменнік павінен падыходзіць да стварэння новых слоў вельмі і вельмі асцярожна, бо, каб ствараць новыя словы, трэба надзвычайна добра ведаць і самую жывую літаратурную мову і яе законы развіцця і змен. Гэтым, на жаль, нашы пачынаючыя пісьменнікі пахваліцца не могуць, і таму я яшчэ раз падкрэсліваю, што да стварэння новых слоў яны павінны падыходзіць надзвычайна асцярожна.

Я пералічыў у асноўным усе тыя крыніцы, з якіх пісьменнік можа чэрпаць матэрыялы для пашырэння свайго слоўніка. Але ж гэтым пісьменніцкая праца над моваю не абмяжоўваецца. Мала сабраць багаты запас слоў, трэба яшчэ ўмела яго выкарыстаць, каб ён не ляжаў у галаве мёртвым капіталам. Пісьменнік, як я ўжо казаў вышэй, павінен мець густ на слова, адчуваць ягоны каларыт, ведаць законы змен слова. Гэта па-першае. Па-другое, трэба ўмець злучыць слова ў нейкую сістэму, у парадак, у сказ. У пачынаючых пісьменнікаў часта гэтага ўмельства таксама няма. Бывае, што пачынаючы пісьменнік нагрувас-

ціць слоў багата, але яны не злучаны правільна ў пэўную сістэму, і таму сказ не мае ніякага сэнсу. Вось прыклад гэтага з вершаў таго ж пачынаючага пісьменніка Антося Лукашэвіча:

І на шчасце ім (белапалякам.— *П. Г.*) папалі
нашы партызаны
яны іх жа расстралялі
але ім былі галовы пазніманы.

Па-першае, аўтар нідзе не паставіў ніякага знаку прыпынку, па-другое, хто каго расстраляў і каму былі «галовы пазніманы» — невядома. Аўтар так пабудаваў сказ, што дайсці да сэнсу немагчыма. Тым часам паэзія патрабуе надзвычайна выразнага і зразумелага выражэння, і пісьменнік павінен умець правільна і лагічна выказваць свае думкі.

Працей кажучы, пісьменнік павінен добра ведаць граматыку, асабліва сінтаксіс, знакі прыпынку, без гэтага ён пісьменнікам быць не можа.

Як жа пачынаючаму пісьменніку падолець усю гэтую, так неабходную для яго, навуку пра мову? Зразумела, што малападрыхтаванаму пісьменніку аднаму будзе вельмі цяжка працаваць над гэтымі пытаннямі, і там, дзе ёсць літаратурныя гурткі, праца над мовою пачынаючага пісьменніка павінна ўвайсці ў праграму гэтых гурткоў. Трэба, каб літаратурны гурток, распрацоўваючы пытанні тэхнікі пісання, надзвычайна шмат удзяліў увагі пытанням мовы, прыцягнуўшы да гэтай працы лепшых выкладчыкаў мовазнаўства. Гэта яшчэ не вырашае цалкам праблемы авалодання мовай. Патрэбна, каб над моваю, над стылістыкай сваіх твораў пісьменнік працаваў штодзённа і ўпарта, беручы прыклад у гэтым сэнсе з нашых класікаў, патрэбна, каб пісьменнік як мага больш чытаў мастацкіх твораў, уважліва прыглядаючыся не толькі да іх вобразнай сістэмы, але і да іх мовы. Толькі ўпартаю працаю можна авалодаць такім багатым і непакорным матэрыялам літаратурнай творчасці, як слова.

«Літаратар павінен ведаць асабліва многа, і толькі тады ён здолее добра паказаць тое небагатае, да чаго зводзіцца ягоны асабісты вопыт, намаляваць у формах досыць простых, яскравых і маляўнічаперakанальных.

Апрача гэтага, ён павінен безупынна вывучаць сваю родную найбагатшую мову».

Так вучыць нас Максім Горкі.

*1933 г.*

## ОН БЫЛ МОИМ ДРУГОМ

Я познакомился с Трусом в 1-м классе высше-начального училища в м. Узде. Это было в осень 1918 года. Трусу тогда было 14 лет (он родился в 1904 году). О раннем его детстве знаю очень мало. В краткой автобиографии Трус рассказывает: «С ранних детских лет воспитывался в темной крестьянской семье. Семья жила бедно, что отразилось на воспитании всех детей».

Я могу несколько добавить о детстве Труса, что слышал от него, от его односельчан, а позже — видел и сам.

В школе ученики-односельчане Труса называли его «Паўлюк Шастаковых», а не Трус. Это деревенская кличка семьи Труса, которая очень характеризует имущественное состояние этой семьи. Отец Труса — Адам Трус владел *шестою* частью крестьянского надела, т. е. 2 десятинами земли. Прочего имущества почти никакого не было. Когда я был у Труса в 1927 (или 1928) г.— стояла уже обновленная, но еще без сеней, хата, полуразрушенный сарай; был узенький дворик, а за ним — садик (5—6 деревьев). Говорили, что «отец Труса с помощью сына начал богатеть». Из этого видно, что раньше семья жила еще беднее. Пропитание семье Адам Трус зарабатывал столярными работами. Дети с 9—10 лет шли в пастухи. Павлюку Трусу, как старшему, пришлось попробовать батраческого хлеба первому.

Отец решил детей избавить от батрачества и начал старшего учить в высше-начальном училище.

Павлюк Трус был очень способный, один из первых учеников. Однако учиться было трудно. До самого снега 14-летний парнишка ходил ежедневно из Узды (где была школа) домой в Низок за семь верст. Зимою жил в холодном тесном интернате при училище, питался впроголодь. Однако никогда не унывал. Был первым зачинщиком всех игр и шалостей, всех «бунтов» и протестов против некоторых педагогов. Трус отличался веселым характером. Смех бил из него ключом. Смех громкий, раскатистый... Однажды, увидев за окном, как козел атаковал старушку, Трус на уроке захохотал этим своим «здоровым» (как он позже называл) смехом. О шалости было приказано сообщить отцу и вызвать его к директору. Это пахло поркой. Трус выжидал момента, когда директор будет занят. Время пришло. Директор был на репетиции. И вот вваливается Трус:

— Павел Данилыч, отец приехал!

— Какое дело мне до твоего отца! Убирайся! — А назавтра директор говорил: — Значит, отец был? Жаль, что я не увидел его.

Умение найти выход из положения, острое слово, высокий полет мысли — вот качества Труса как собеседника. С ним всегда было весело. В 1920 г. при отступлении поляков Павел Адамович был выгнан в обоз. Доехал чуть не до Варшавы. Испытал голод и холод. Болел. Пробовал удирать. Ловили и били. Однако, рассказывают, что даже в этих условиях Трус был весельчаком. Он позже сам никогда почти не говорил о грустных моментах из этой «поездки», а только о смешных.

В 1923 году Трус поступил в Минский педтехникум. В этом же году начал печататься и вошел в литобъединение «Маладняк». В 1925 году поступил в комсомол. В 1927 и начало 1928 г. работал в Гомеле в редакции «Новая вёска» и «Полесская правда».

Осенью 1928 года поступил на литературное отделение БГУ.

В 1929 году, в августе, после непродолжительной болезни брюшным тифом, скончался молодой, талантливый поэт, жизнерадостный, дружественный товарищ.

О веселье, о раскатистом смехе, о юморе (иногда по-деревенски грубом) этого низкорослого, но крепкого, плечистого парня — знают все, кто с ним встречался, кто читал его юмористические вещи в печати.

Эта сторона трусовского характера, как весельчака, балагурщика, нашла свое выражение в его юмористических и сатирических произведениях.

Лирика — ею тоже насыщено каждое произведение Труса.

Но откуда взялась грусть, которая чувствуется в некоторых стихах Труса? Здесь три источника.

У Труса нерадостное детство.

Еще при жизни Труса мать его умерла от чахотки.

Всю домашнюю работу делала сестра-подросток (кажется, Маня).

Об этой грусти деревенской денщины и пишет Трус.

В его книге «Выбраныя вершы» на стр. 83—84, 89—91, 95, 98—99 — биографические стихи.

С другой стороны, грусть, порожденная своим прошлым и прошлым своей семьи, своего класса (стр. 98—99 и др.).

Третье, грусть о подневольном положении Западной Белоруссии и прошлом нашей Белоруссии (поэма «Дзесяты падмурак»).

Но эта грусть не есть отчаяние. Наоборот, через нее вырываются мужественный клич, вера в победу, она усиливает по контрасту эту веру и клич (стр. 39).

Трус сам не принимал участие в гражданской войне. Однако этою же силой и верой звучат его такие произведения, как «Астрожнік» (стр. 65), «Юны змаганец» (стр. 55) и ряд других.

Отец Труса служил на Кавказе в царской армии. Он много рассказывал сыну о Кавказе, об Украине. Трус сам очень увлекался народным творчеством и Шевченко. Из этого всего выкристаллизовался особый стиль Труса, народный, песенный, с налетами «экзотики»: моря, степей, гор.

Наконец, еще одна черта трусовского творчества — песня про уход из деревни «в люди», в город и... позже (стр. 92) возвращение в новую деревню. Здесь опять сказывается автобиографичность. Трус прошел трудный путь, закалился в борьбе с невзгодами жизни, и это дало громадную (я сказал бы горьковскую) любовь к человеку и веру в него (стр. 75). Здесь, конечно, влияние и Горького есть, даже в форме.

Об общественной работе Труса. Он всегда был хорошим общественником. Ни одна газета в техникуме не выходила без его участия. Громадную работу проводил Трус и в деревне во время каникул (доклады, спектакли, лекции). В 1928 году летом мы прошли с Трусом пешком почти весь Слуцкий и Минский округ. В каждой деревне, где только останавливались, вечерами Трус собирал молодежь, читал веселые рассказы (Чарота, Крапивы), танцевал, был своим парнем. Особенно много сделал Трус в смысле поширения литературы в деревне во время своих разъездов по деревням, когда работал в редакции гомельской газеты «Новая вёска». В самых глухих местечках и деревнях он выступал с докладами о литературе, читал свои стихи и стихи других, помогал в постановках пьес и в другой культурной работе.

В результате этой тесной спайки с трудовыми массами, в результате жестокого жизненного воспитания Трус и в жизни и в творчестве был верен трудовому народу. Он когда-то вышел был из «Маладняка» и собирался перейти в литературную организацию «Узвышша». Эти колебания

между «Маладняком» и «Узвышшам» повторялись еще несколько раз.

Несколько слов о семье Труса и деревне (я думаю, для очерка обстановка и место важны). Деревня Низок, где родился и воспитывался Трус,— это средняя (дворов 150) белорусская деревня, с соломенными крышами хат, покрившившимися сараями, занесенная зимою снегами, осыпанная летом цветами. В Узденском районе, даже во всей окружности, Низок — передовая деревня. После революции там была большая комсомольская ячейка, партийная, в то время как в других деревнях ни одного комсомольца не было.

Семья Труса состояла из 5 человек — Павлюк Трус сам (старший сын), брат Михась, отец Адам, мать и сестренка (лет 16 ей было в 1928 г.). Мать умерла, умер и сам Павлюк, остались трое: отец, младший сын и дочка. Осталось много ровесников и молодежи, которые помнят поэта, читают его стихи, поют песни и частушки.

*6/XII 1933 г.*

## У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ I ВЫДУМКІ

Я не збіраюся ні хваліць творчасць Куляшова, ні ганіць. Мне хочацца вызначыць толькі тое адменнае, асаблівае, што адрознівае творчасць Куляшова ад творчасці іншых паэтаў і што складае яе негатыўныя і пазітыўныя стораны.

Асаблівым у творчасці кожнага пісьменніка аднаго і таго ж напрамку з'яўляецца спосаб стварэння вобраза, своеасаблівыя прынцыпы ягонай пабудовы.

У сувязі з гэтым, перад тым як разглядаць своеасаблівую вобразнасць творчасці Куляшова, я хачу спыніцца некалькі на самым паняцці вобраза. Я перакажу тут ужо даўно вядомыя ісціны, але гэта неабходна.

Ужо не адзін раз адзначалі, што спецыфікай кожнага літаратурнага твора з'яўляецца вобраз. Пад вобразам разумеюць своеасаблівае адлюстраванне рэчаіснасці, дзе з'ява падаецца ў індывідуальнай форме з вылучэннем найбольш

характэрнага і тыповага для цэлага рада падобных з'яў. Адгэтуль усім вядомае патрабаванне да мастацкага твора, якое высунуў Энгельс, кажучы аб паказе тыповых характараў у тыповых абставінах.

Такім чынам, у вобразе мы адрозніваем дзве непадзельныя стораны, што складаюць ягонае адзінства,— гэта ягоная тыповасць и ягоная індывідуальнасць. Імкнучыся да больш яркай індывідуалізацыі і тыпізацыі, мастак няўхільна выходзіць за рамкі жыццёвага факта, адкідаючы з дапамогаю творчай выгадкі тыя ці іншыя моманты альбо дадаючы іх. І вось характар выдумкі, творчай фантазіі, абумоўленай класавым светаадчуваннем мастака, вызначае сабою і характар вобраза, прынцыпы ягонай будовы. Адгэтуль мы і маем у гісторыі літаратуры вобразы рэальныя, сімвалічныя, містычныя і інш.

У мастацкай літаратуры пісьменнік выражае вобраз праз слова; як любяць гаварыць,— вобраз матэрыялізуецца ў слове. У сувязі з гэтым мова ў літаратурна-мастацкім творы становіцца адменнаю — больш маляўнічаю, яркаю, метафарычнаю. Апрача гэтага, у паэтычным творы для выражэння вобраза паэт выкарыстоўвае яшчэ і гукавую старану мовы (рытміку, рыфму, гукаперайманне і інш.).

Само сабою зразумела, паколькі мова з'яўляецца сродкам выражэння вобраза, дык і характар яе, увесь яе склад, метафарычнасць, рытміка вызначаюцца характарам вобраза. Паэт падбірае такія словы, такую рытміку, такія метафары, якія найбольш поўна б раскрывалі вобраз.

Прыгадаем паэтаў-сімвалістаў. Яны ў сваёй творчасці імкнуліся стварыць такія вобразы, якія адпавядалі б іхнім філасофскім поглядам аб тым, што ўсе з'явы рэчаіснасці ёсць толькі знакі, сімвалы другога патустаронняга свету. Адгэтуль і ў эпітэтах, і ў метафарах, і ў рытміцы, і ў іншых сродках мастацкага выражэння ў сімвалістаў мы наглядаем неканкрэтнасць, адцягнутасць, рафінаванасць, псіхалагізм. Наадварот, калі мы прыгледзімся да творчасці замежных паэтаў-рэалістаў, дык мы заўважым, што і вобраз іх вызначаецца рысамі сугуба рэальнага свету. Узяць, для прыкладу, творчасць такога паэта, як Эміля Верхарна. Мы бачым, што яго эпітэт, яго метафара сугуба рэчавая, канкрэтная, насычаная густатою рэальнага жыцця.

Вышэй мы гаварылі, што вобраз мае дзве непадзельныя стораны, якія складаюць яго адзінства,— гэта тыповасць і індывідуальнасць. Найбольш паўнацэнным, зразумела, вобраз будзе тады, калі ён спалучыць у сабе ў роўнай меры

гэтыя дзве стораны, калі яго тыповасць будзе шырокім абагульненнем жыццёвых фактаў, а ягоная індывідуалізацыя будзе выклікаць рад канкрэтных і багатых асацыяцый.

Стыль сацыялістычнага рэалізму менавіта і характарызуецца такім вобразам, які цалкам з'яўляецца адлюстраваннем праўды жыцця, існых пачуццяў і думак чалавека ў іх тыповым і канкрэтным выражэнні. Тут няма месца ні сімвалам, ні схемам, ні містыцы. Тут ёсць толькі рэальная плоць і кроў зямлі, прыроды і сацыяльнага жыцця чалавека.

Адпаведна гэтаму вобразу і сродкі ягонага моўнага выражэння павінны быць пазбаўлены рафініраванасці, туманнасці, слязлівай напеўнасці; яны павінны служыць самаму яркаму выяўленню рэальнага жыцця. Іначай кажучы, у дачыненні да паэзіі ўся фактура верша мусіць быць важкая, густая, калі хочаце, рэчавая, поўная сокаў зямнога жыцця.

Гэта, мне здаецца, і ёсць у той ці іншай меры ў вобразнасці Аркадзя Куляшова.

У гэтым аснова і творчай арыгінальнасці паэта. Гэтым вобраз Аркадзя Куляшова рэзка і адмяжоўвае яго творчасць ад творчасці паэтаў папярэдняга перыяду і ад творчасці шмат якіх паэтаў нашай сучаснасці.

Чым характарызуецца творчасць паэтаў дарэвалюцыйнага часу і першых часоў пасля Кастрычніка ў плане вобраза і ў плане паэтыкі? Яна характарызуецца, не зважаючы на самы разнастайны і процілеглы змест, падабенствам вобраза да вобразаў сімвалістаў — тая ж схема замест тыповасці і тая ж абстракцыя замест канкрэтнасці. Адпаведна і метафара, і рытміка,— усе сродкі выражэння вобраза вызначаліся адцягнутасцю, рафінаванасцю, агульнасцю, што часта даходзіла да камізму. У творчасці савецкіх паэтаў тлумачыцца гэта тым, што самымі блізкімі іхнімі продкамі ў рускай паэзіі былі сімвалісты, а ў беларускай — нашаніўцы, таксама не пазбаўленыя ўплываў сімвалізму.

Наватарам у нашай паэзіі быў Міхась Чарот. Ён сваёй паэмай «Босыя на вогнішчы» разбурыў не толькі старую напеўную рытміку, уласцівую сімвалізму; ён разбурыў уласцівую для сімвалізму і метафару, і эпітэт, і ўсе іншыя сродкі выражэння. Паслядоўцам Чарота ў гэтым сэнсе быў Андрэй Александровіч. Але як сам Чарот, так і Александровіч (яшчэ ў большай ступені) не здолелі канчаткова па-

збавіцца ад паэтыкі, блізкай сімвалізму. Гэта досыць ярка адчуваецца ў квятлівай тканіне верша нават у некаторых апошніх творах Андрэя Александровіча.

Аркадзь Куляшоў, наследуючы лепшыя стораны з паэтыкі Чарота, паэтыкі Купалы і Коласа, імкнецца знайсці сваю адменную дарогу ў паэзіі. Ён нашчэнт разбівае стары рытм, старую метафару, старую «паэтычную» мову, уводзячы ў свае творы мову звычайнай штодзённай гутаркі. Гэтым, мне здаецца, ён робіць часам небеспаспяховыя пошукі тых адменных сродкаў мастацкага выражэння, якія павінны характарызаваць стыль сацыялістычнага рэалізму. Наколькі гэта Куляшову ўдаецца, мы будзем бачыць, калі прааналізуем яго творчасць.

Аркадзь Куляшоў яшчэ досыць малады пісьменнік, і яго творчы багаж не вельмі вялікі. Зборнікі: «Росквіт зямлі», «Па песню, па сонца», «Медзі дождж», аповесць «Аманал», паэма «Гарбун» і яшчэ некалькі вершаў, надрукаваных у перыядычных выданнях — вось і ўсё, што напісаў паэт.

Першая кніга Аркадзя Куляшова «Росквіт зямлі» нічым асаблівым не адрозніваецца ад цэлага рада іншых твораў таго часу. Як першыя зборнікі амаль усіх маладых паэтаў, ён носіць характар некаторай нясталасці і адсутнасці выразнага літаратурнага твару. Куляшоў сваім першым выступленнем не вылучыў сябе індывідуальным з агульнай беларускай савецкай паэзіі. Няма ў яго вершах таго адзінства і адменнасці, што характарызавала б іх як своеасаблівасць творчасці паэта. Тэматыка гэтых вершаў — гэта ўслаўленне (досыць адцягненае, неканкрэтнае) нашых перамог, услаўленне радасці новага жыцця, услаўленне калектыўнай працы, вялікіх пабудоў, камсамольскага запалу. Усе вершы характарызуюцца настроем маладосці і бадзёрасці, прастатою і даступнасцю формы. Гэтым зборнік вылучаецца з цэлага рада штампаванай літаратуршчыны, характэрнай для маладых паэтаў таго часу, г. зн. 1928—1929 гг. Але прастата не толькі ў выражэннях, а і ў падыходзе да з'яў прыводзіць часта паэта да павярхоўнасці, да захаплення вонкавасцю гэтых з'яў, не ўнікаючы ў іх глыбіню.

Агульнымі словамі малюе Аркадзь Куляшоў нашу будучыню:

Любы край, я добра знаю,
Ты зусім не здань,
Ты вясельнымі гудкамі
Устрывожыш рань...

Агульнымі словамі малюе ён перад намі і сучаснасць як «узрастанне», «красаванне». Вылучаецца ў гэтых адносінах верш «Вышла камуна ў палі працаваць». Але адначасна ён паказвае, што канкрэтнай тэмай, канкрэтнаю з'яваю Куляшоў яшчэ не аўладаў, каб паказаць яе ва ўсёй шырыні і глыбіні. Верш менш эмацыянальны за іншыя, менш тэхнічна апрацаваны, нават, я сказаў бы, празаічны.

Вядома, што прычынай павярхоўнасці ў падыходзе да жыцця была не прастата выражэння, а спрошчанае разуменне аб'ектыўнай рэчаіснасці, што тлумачыцца адсутнасцю ў паэта ў той час яснага выпрацаванага светапогляду. Гэты прабел малады Куляшоў і папаўняе агульнымі прыгожымі словамі, накшталт:

Праз мяцель і годы
Крочыць новы век,
Светлыя паходы
Ладзіць чалавек.

Або:

Мы сёння будуем вялікія дні,
Падмуркі высокіх сцен.
І песняй вясёлай кіпіць і звініць
Чумазы фабрычны дзень.

Мастацкія сродкі паэта сцвярджаюць мае думкі аб агульнасці, аб павярхоўнасці ў паказе нашай рэчаіснасці. Эпітэты не даюць рэальнасці, рэчавасці, яны не канкрэтныя, бледныя, псіхалагічна-адцягненыя, часта штампаваныя. Напрыклад: «светлыя паходы», «чумазы цэх», «любы край», «пекныя ўзоры», «восеньская рань», «зажынкавая гаць», «халодная раса», «квяцістыя маністы», «светлы час», «задумны лістапад». Асабліва шмат: «шырокі», «малады», «залаты», «сіні», «радасны», «мяцежны». Нічога не гаворыць чытачу і такія эпітэты, як «трактарныя межы», «вясельныя гудкі», альбо такія параўнанні і метафары: «як дзень, пераможны калгас», «у жылах пульсуе рабочы цэх», «у сэрцы фабрычны жар», «у сэрцы ахапкі сталёвых слоў».

Ад гэтага арсенала паэтычных сродкаў вельмі павявае старым. Але сям-там у Куляшова ўжо і ў першым зборніку прабіваецца новая метафара, што ідзе ад рэальнага жыцця, ад багатай каларытнай прыроды, ад быту. Вось некалькі прыкладаў гэтага:

Дзе раслі ў пустэлях травы,
Слаўся дзікі мох,—
Там расце ў вялікіх справах
Радасць перамог.

Або яшчэ:

Вясной зялёнаю,
На сонечных прыпёках
Ці чуў калі ты водарадь зямлі —
І гэты пах знаёмы і глыбокі
Ці можа нас з табою не хмяліць?!

У далейшым гэта цяга да прыроды, «водарадь зямлі», багацце яе фарбаў становяцца ў цэнтры паэтавай увагі і карэнным чынам мяняюць тканіну верша. І такім пераломным творам была для Куляшова паэма «Крыўда».

У паэме «Крыўда» Аркадзь Куляшоў імкнуўся паказаць усю жудасць і трагічнасць імперыялістычнай вайны. Але паказвае ён гэтыя жахі не як вынік капіталістычнага ладу, а як жахі, уласцівыя самой прыродзе. Людзей забіваюць і калечаць, а ім хочацца жыць, ім хочацца ладзіць сваю гаспадарку, дагледаць жывёлу, хадзіць «роснымі раніцамі за плугам на полі». І вось не тое, што вайна з'яўляецца сацыяльнай трагедыяй, а тое, што вайна калечыць чалавека як жывую істоту, і складае трагедыю ў гэтай паэме.

Дзесяць чалавек калек бязрукіх, бязногіх, сляпых ідуць помсціць тым, па чыёй віне яны сталі калекамі. Але гэта помста ізноў-такі гучыць як помста пакрыўджанай жывой істоты, а не як сацыяльна-класавая помста. Нават трохі смешным здаецца, што гэтыя дзесяць калек ідуць некалькі тыдняў у якісьці свет для таго, каб адпомсціць генералам, афіцэрам за сваё калецтва. Іншая помста, або праўдзівей сказаць — кара, якая расла ў акопах, у сэрцах здаровых людзей і якая потым выбухнула як рэвалюцыя. Гэтай кары і помсты Куляшоў у сваёй паэме «Крыўда» не паказвае. Адсюль, зразумела, паэма не можа прэтэндаваць на верны і праўдзівы паказ класавых супярэчнасцей на імперыялістычнай вайне. Але ў паэме ёсць цэлы рад месц, якія надзвычай па-мастацку гавораць пра крыўду занядбаных, асуджаных на смерць людзей. Куляшову ўдалося даць цэлы рад досыць яркіх сцэн настрояў і людскіх пачуццяў на імперыялістычнай вайне:

А калі загамоніць шырокі дуб,
Перадумае салдат многа доўгіх дум...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Сумуе па салдату конь яго,
Бо не жыць салдату на свеце доўга,
Не хадзіць яму полем палос,
Бо ніхто салдата ад смерці не разбудзіць.

І далей салдат дакарае самога сябе:

...Цягаў бы ты, салдат, сасновае бярвенне,
Сек бы ты, салдат, на балоце лозы,
Вязаў бы ты, салдат, белыя кошыкі,
Не хадзіў бы ты, салдат, бараніць сербаў,
Не хадзіў бы ты крыўдзіць немцаў.
Не кідаў бы ты сваёй хаты, гапак —
Хаваўся ў лесе дужы й цэлы,
Кахала б цябе твая жонка Ганна,
Цешыла б цябе маладым целам.
Калі загамоніць шырокі дуб
І закалоціцца верхавінне,
Перадумае салдат многа доўгіх дум,
Перад кім і ў чым ён вінен.

Тут надзвычай праўдзівыя і надзвычай лірычныя думкі селяніна, загнанага на вайну. Ён не просталінейна гаворыць пра сваю асуджанасць на смерць, а праз успаміны таго, што ён рабіў бы, каб быў дома. Уменне перадаць складаныя перажыванні чалавека праз дэталі вонкавага свету — і складае асаблівасць гэтай паэмы.

У выніку карціны выходзяць шматкаляровыя, багатыя фарбамі. Паэт значна адышоў у гэтай паэме ад ранейшых схем, канкрэтызуючы вобраз праз яркія дэталі:

А на фронце ішлі работы:
Афіцэры пілі гарэлку,
Казакі курэй кралі,
Сапёры нацягвалі калючы дрот,
А пяхота анучкі сушыць вешала,
Пяхота правіла мокрыя боты.

Гэтыя радкі праз некалькі дэталей даюць, можа, няпоўную, але яркую карціну вайны. Яны выклікаюць надзвычай шмат асацыяцый і малюнкаў.

Побач з апаэтызаванымі дэталямі побыту, у паэме шмат прыроды, і яе магутная буйная сіла яшчэ больш падкрэслівае жах і трагічнасць палажэння чалавека на вайне:

Жыло ў тым лесе звяроў багата,
хадзілі яны па звярыных сцежках,
дзе стаялі высокія, дужыя сосны...
Пчол даглядалі маладыя медзвядзёнкі
і крыўдзілі дзікіх пчол адвеку...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Стаялі салдаты, дзівіліся доўга:
чаго гэта лес так гарыць буйна,
па чыёй гэта волі рушыліся ясені,
попел гарачы лавілі вазёры,
прарэзліва крычалі дзікія качкі...

Шматгранны вобраз жахаў вайны і багатай прыроды

выражаецца адпаведна простаю, але яркаю і арыгінальнаю метафараю, свежым эпітэтам: «ветры з-пад ног вырываюць дарогу», «балоты прэсныя», «дужыя сосны» і г. д. Амаль кожнае азначэнне не рафінаванае, бледнае, як раней, а важкае, рэчавае. У самім прынцыпе пабудовы метафары і ва ўсім ладзе паэтычнай мовы мы заўважаем у гэтай паэме Куляшова шмат агульнага з народнай творчасцю. Прыгадайце прыведзеныя вышэй думкі салдата, падобныя па форме на галашэнні, альбо ўслухайцеся ў гэтыя радкі:

А крыўду сваю
Будзе доўга помніць,
Як выйсце не знойдзе.
Тады разважыць.
Хадзіць будзе зверам,
Глядзець будзе зверам,
Калоціць яго доўгай хворасці трасца.

Усе гэтыя новыя якасці верша, што выявіліся ў паэме «Крыўда», знаходзяць сваё выражэнне і ў далейшай творчасці Куляшова.

Але ў новых вобразах Куляшова, характэрных вялікай канкрэтызацыяй і індывідуалізацыяй з'яў, адсутнічае другая старана — абагульненне, тыповасць. Часта там, дзе Куляшоў спрабуе шырока абагуліць з'явы, ягонае абагульненне перарастае ў адцягненую сімволіку.

Месцамі не пазбаўлена вобразная сістэма гэтай паэмы і ад ранейшай схематычнасці. Вось як, напрыклад, падае паэт малюнак падрыхтоўкі грамадскай думкі аб вайне:

Тады пачынае сваю працу асадка,
тады пачынаюць хлусіць газеты,
прадажныя вершы пісаць паэты —
бо маюць праз гэта газеты грошы,
бо плацяць паэтам ганарар добры.

Не пазбаўлены паэт і фармалістычных выкрутасаў, якія ў далейшым становяць вялікую небяспеку ў творчасці Куляшова:

Выраслі новыя венікі
Шырокіх дарог каля.

У сэнсе кампазіцыі паэма характэрна імпрэсіяністычнымі карцінамі, адасобленымі адна ад другой і звязанымі толькі тым, што і там, і там дзейнічаюць адны героі — салдаты.

Гэта імпрэсіяністычнасць узмацняецца яшчэ тым, што ў творы надзвычай шмат паўтораў, разлічаных на эмацыянальнае ўражанне:

Такое —
бывае часта;
А тое, якому гарматы сведкай,
Такое —
бывае рэдка.

Гэтыя радкі паўтараюцца на працягу паэмы некалькі разоў, але мэты свае не дасягаюць і гучаць як чарговы фармалістычны выкрутас.

Далейшым крокам па шляху новага дэталізаванага паказу рэчаіснасці праз адменную, рэчавую метафару былі ў Куляшова вершы: «Па песню, па сонца», «Дарогі» і некаторыя іншыя, змешчаныя ў зборніку пад назвай «Па песню, па сонца». Найбольш цікавай з'яўляецца нізка вершаў «Дарогі». Гэта ўспаміны пра ўсё радаснае, што было ў маленстве. Дармо, што гэта маленства было цяжкое і пакутлівае, але ў ім былі такія дробязі, якія засталіся і застаюцца ў чалавека як штосьці светлае, на ўсё жыццё. Дармо, што не было ў маленстве вялікай, поўнай адчуваннямі радасці; былі паасобныя прасветы, і яны паўстаюць у вершы «Дарогі» як трывожны смутак, ад якога не кідаешся ў роспач, не тупееш, а наадварот — перажываючы які, хочацца імкнуцца кудысьці далей, хочацца жыць і працаваць. Такі настрой стварае нізка вершаў «Дарогі». Але выразных імкненняў, выразных мэт у гэтым вершы мы не знойдзем.

Куляшоў сам не ведае, куды яго клічуць успаміны пра маленства, «знаёмае да драбніц, да кожнай маленькай засечкі сякерай, невядома на дрэве калісьці зробленай».

І аўтар гаворыць:

Усё кружыцца ў галаве маёй —
Здаецца, падхапіў мяне палёт,
І я лячу ўсё вышай, вышай, вышай.

Адсутнасць выразных мэт, выразных імкненняў характарызуе гэты верш і з'яўляецца яго недахопам, бо гэта не дае тыповага малюнку, не дае тыповага жыцця.

Куляшоў гаворыць:

Вы знаеце, што ў целе маім кроў,
Якую людзі заклікаюць,
Якую заклікаюць дні мае
На розныя прыгоды і ўчынкі.

Але канкрэтызаваць, якія гэта «прыгоды», якія гэта «ўчынкі» — Куляшоў не здолеў.

Іншыя вершы, змешчаныя ў гэтым зборніку, не заслугоўваюць асаблівай увагі. Частка з іх ужо друкавалася

ў зборніку «Росквіт зямлі», другая частка значна слабейшая за папярэднія вершы або носіць уплывы іншых паэтаў, як, напрыклад, уступны верш «Па песню, па сонца». На гэтым вершы выразна адчуваецца ўплыў Лугаўскога, у прыватнасці, яго верша «Письмо республике от моего друга».

Тут не толькі рытмічнае падабенства, не толькі падабенства настрою — адданасць сваёй краіне, але падабенства і ў тым, што як Лугаўской заяўляе аб сваёй, калі можна так сказаць, пакоры краіне, так і Куляшоў. Лугаўской гаворыць, «што ўсё, што ты загадаеш, я зраблю, краіна». Гэта ж самае гаворыць і Куляшоў. І вось падабенства ў думках, у настроі, у рытміцы гэтых вершаў выразна сведчыць аб уплыве Лугаўскога.

Вершы «Маім аднагодкам» гавораць аб радасці, маладосці. Але яны надзвычай агульныя. У іх няма той канкрэтызацыі і разнастайнасці малюнкаў, як гэта ёсць у паэме «Крыўда» і ў нізцы вершаў «Дарогі».

Узяць верш «На лесазагатоўках». Аўтар імкнуўся паказаць камсамольца, які аддана працуе на лесараспрацоўках, але камсамолец выйшаў надзвычай бледны. Мы не ведаем ні яго пачуццяў, ні яго думак, апрача таго, што

Сярод барадатага люду
Адзін ён бязвусы зусім,
Напяў паласатую хутру
Ад ветра марозных зім.

Вызначаецца сваёй цеплынёй верш «Пагромы». Тут доля чалавека, яго цяжкі лёс падаюцца ў надзвычай цёплых жыццёвых тонах. Тут няма рафінаваных і штампаваных слоў, наадварот — слоўная тканіна верша вельмі простая, бытавая, абвеяная рамантыкай.

Аднак і гэты верш нельга лічыць далейшым крокам у тым кірунку, які пачаў Куляшоў у сваёй паэме «Крыўда». У гэтым вершы адсутнічае тая разнастайнасць малюнкаў, тое багацце асацыяцый, што характарызуюць «Крыўду», тут няма тае важкае фактуры верша, якую мы назіраем у паэме «Крыўда».

Такім чынам, зборнік «Па песню, па сонца» толькі некаторымі сваімі творамі, як «Дарогі» і яшчэ двума-трыма вершамі працягвае лінію, пачатую ў паэме «Крыўда». Гэта выяўляецца ў падачы дэталі, у шматграннасці малюнка:

У жытах з табой зрывалі каласы,
У лесе ідучы, мы іх вязалі разам.

Запальвалі пасля агонь вялікі
І ў стройных соснах смажылі пражмо.

Гэтыя дробязі маленства, гэта невялікая дзіцячая радасць, гэта дэталь лепш за сотню гучных слоў гаворыць аб паўнаце дзіцячых адчуванняў, аб паўнаце дзіцячых успамінаў.

Такіх месц у лепшых вершах нямала. Але паўтараю, што гэтыя вершы не пазбаўлены абстрактнасці, схематызму, нават наіўнасці:

Ой, як не люблю я праклятых формул.

Або:

Пра ўсё, пра ўсё патрохі пагаворым,
Але зараз зусім няма мне часу — спяшаюся.

У гэтым жа зборніку пачынае ярка прабівацца і фармалістычная тэндэнцыя, яна ў далейшым становіцца вялікай небяспекай для Куляшова. Тут жа заложаны і пачаткі таго разбурэння рытму, якое найбольш ярка выразілася ў паэме «Аманал» і ў шмат якіх вершах з кніжкі «Медзі дождж».

Вершы, змешчаныя ў зборніку «Медзі дождж» у раздзеле «Сонечнае заўтра», надзвычай актуальныя па сваёй тэматыцы, але адначасна і надзвычай неглыбокія па сваіх думках.

Гэта эскізныя зарысоўкі таго, як камсамольская ячэйка асушвае балоты, зарысоўкі стрэчы з трактарыстам Анісам, зарысоўкі работы каля сіласарэзкі, працы на сенажаці і інш. Гэта нарысы пра паасобныя факты, і яны не падымаюцца вышэй факта, пазбаўленыя глыбокай выразнасці і тыповасці. Па сваёй форме, я сказаў бы, яны таксама вельмі празаічныя. Тут Куляшоў парушае дарэшты рытмічную аснову верша, зводзячы яе часта да прозы. Адсутнасць яркіх метафар, дрэнная рыфмоўка яшчэ больш умацоўваюць уражанне празаічнасці.

Што крыху апаэтызоўвае гэтыя вершы, дык гэта іхняя цеплыня, якая ідзе ад шчырасці, ад цеплыні людзей, якіх паэт імкнецца паказаць.

Паэма Куляшова, якую ён называе аповесцю, «Аманал» выклікала цэлы рад самых жорсткіх ацэнак, і гэтага яна ў значнай ступені заслугоўвае.

Тут аўтар у пошуках новай арыгінальнай формы траціць меру пачуцця мастацкага. У выніку выйшла рэч, якая не з'яўляецца ні празаічным творам, ні драматычным, ні вершаванаю аповесцю і ні паэмаю.

«Аманал» складаецца з двух частак: «Хроніка продкаў» і «Праблема душы і рацыі». Яна ахоплівае час нэпа і пачатак калектывізацыі.

Паэма пачынаецца апісаннем халоднай лютаўскай ночы. У гэтую ноч да Гандляра ідуць два чалавекі ў госці, адзін з якіх былы белы афіцэр. Начальнік гэтага афіцэра — былы генерал-губернатар, стаўшы цяпер Гандляром, адчыняе краму. Аб гэтым крычаць на вуліцах хлапчукі, нанятыя Гандляром, і над гэтым злосна іранізуе валацуга, якога «людзі звалі дасціпным вар'ятам»: «Чычыкаў адчыняе магазін, будзе прадаваць гогалеўскія душы».

У гэты час у горад прыйшоў другі валацуга — Юнак. Яны заходзяць да Гандляра ў піўную. Валацуга-вар'ят успамінае, як некалі яму ў гэтай піўной хлапчукі славу крычалі: «У гэтай піўной п'е Сымон-Развой, п'е вялікі паэт Сымон-Развой!»

Юнак на гэта адказвае:

Паэт Сымон-Развой,
Ты іх наймаў, як гандляр, за грошы,
І яны крычалі перад піўной,
Крычалі за сённяшняе не горш.

Юнак успамінае, як яшчэ летась разам з Маладосцю яны лавілі бандыта, і цяпер Юнак шукае гэту Маладосць як «лепшую ад усіх парук для сэрца чалавечага».

У другім раздзеле Юнак у пошуках Маладосці ходзіць па вёсках і сустракае Настаўніка. Настаўнік праз увесь час сцвярджае, што скрозь:

Зноў той жа прыкры мірны захад,
Быццам пеўнікавага сэрца крывёю абліты —
І што ён чуе
Голас патайны,
Голас з-пад Эйфелевай вежы,
Што мы рэвалюцыю прытапталі,
І на мапе свету тыя ж межы.

Юнак і Настаўнік трапляюць у хату да кулака Худы. Тут паказана сцэна, як да Худы прыходзяць вяскоўцы пазычаць збожжа і як ён хітра закабаляе іх. Тут жа са слоў бедняка Худобы і Худавага парабка высвятляецца, што «камсамольцы зацяюць камуну».

У чацвёртым раздзеле сустракаем новага валацугу, які некаму дужа пагражаў кулакамі і праклінаў свой лёс валацугі. Валацуга ідзе да кулакоў. «Гаспадар назваў яго афіцэрам і братам, а той гаспадара назваў Якубам». Гэты афіцэр — брат кулака Худы адчыняе святую крыніцу і арганізуе секту штундаў:

У часе малення над крыніцай Юнаку —
Здалося смешным
яго валацужніцтва.
Ён толькі зірнуў на Настаўніка,
усміхнуўся і пайшоў упрочкі праз межы.

На партыйна-камсамольскім сходзе ўхвалілі[1] Настаўніка, «які нядаўна паступіў у штунды», зняць з працы і павесці змаганне супроць штундыстаў. Было вырашана наладзіць антырэлігійны дыспут, і новаму настаўніку Міколу даручылі «дамовіцца са штундаўскім арганізатарам наконт ягонага ўдзелу ў выступленні».

Мікола ідзе да штундаў і пазнае ў асобе іхняга прапаведніка былога афіцэра, удзельніка контррэвалюцыйнага паўстання. Мікола хоча арыштаваць афіцэра, але той забівае яго і гаворыць сялянам, што Міколу забіў д'ябал. Мікола ляжыць адзін. Вяртаецца з лесу Настаўнік і пазнае Міколу, з якім яны ні то разам былі ў Чэрыкаўскім астрозе, ні то Настаўнік вызваліў з гэтага астрога Міколу.

У пятым раздзеле мы даведваемся, што Гандляр багацее далей, адчыняе новую пякарню і набірае рабочых на паравы млын. Паэту Сымону-Развою хлапчукі ізноў крычаць славу, а каля гандляровай крамы стаіць чарга — беспрацоўныя прыйшлі прасіцца на работу...

У гэты час нехта прыносіць вестку, што зацверджана пяцігодка і шмат патрэбна рабочых на розных пабудовах. Беспрацоўныя кідаюць Гандляра і бягуць на работу. Апошнім у чарзе стаяў арганізатар камсамольскага атрада на Калінінішчыне, які лавіў бандыта Чырвонца, гэта знаёмы нам Юнак. Ён ідзе ў піўную, сустракаецца там з Развоем. Гандляр прапануе Юнаку напісаць характарыстыку гандляровых продкаў. Юнак адмаўляецца і едзе на радзіму. У канцы гэтага раздзела Куляшоў паведамляе, што на мяжы забілі кантрабандыстаў — Худавага брата, афіцэра, удзельніка Стракапытаўскага паўстання ў Гомелі.

На гэтым канчаецца жыццё белага афіцэра і першая частка аповесці.

Дзея другой часткі разгортваецца ў калгасе. Бухгалтар Жыгнер расказвае свайму сыну-інжынеру аб тым, як ён праводзіць у калгасе шкодніцтва. Далей Жыгнер навучае дачку, каб тая паставілася да камсамольца Алеся Калужнага так, нібы яна яго кахае. Тады Жыгнер расказвае мужу Аўгінкі Якубовічу, што яна кахае Калужнага, Якубо-

[1] Ухвалілі — у сэнсе вырашылі ці пастанавілі. *(Заўвага рэд.)*

віч раўнуе і пасылае Калужнага ў Данбас, дзе сын Жыгнера інжынер павінен затапіць яго ў шахце.

У другім раздзеле другой часткі калгаснікі, падбухтораныя п'яніцам Чыркам, і ў выніку агітацыі супроць трактара за электрычныя плугі,— адмаўляюцца ісці на работу, патрабуюць грошай. Жыгнер выдае ім грошы, і калгаснікі ідуць піць. Але трактарыстам і Якубовічу ўдаецца іх перакапаць. Яны ідуць на работу, застаецца толькі адзін Чырка.

У трэцім раздзеле Якубовіч гаворыць, што ён пойдзе і раскажа следчаму пра ўсё шкодніцтва Жыгнера. Жыгнер наказвае Аўгінцы, каб яна не пускала мужа, інакш ён заб'е яго. Аўгінка затрымлівае Якубовіча, падносіць яму вады, і ёй здаецца, што яна атруціла мужа. Аўгінка вар'яцее. У гэты час у клубе следчая Маладосць дапытвае Жыгнера, Бондара і Баргуту. Выкрываецца іх шкодніцтва. Усе галасуюць за тое, каб іх выслаць у Салаўкі.

Юнак, які цяпер працуе трактарыстам у калгасе, успамінае, як яны з Маладосцю разам лавілі бандытаў.

У чацвёртым раздзеле апавядаецца пра сны і адпачынак капальнікаў фасфарытаў і пра тое, як прыходзяць на станцыю два цягнікі — таварны і пасажырскі. У першым прывозяць трактары, а з другім высылаюць Жыгнера, Худу і Гандляра. З гэтым жа цягнікам прыехаў на радзіму Мікола і Настаўнік.

Ён пайшоў у лес,
узлез на высокую асіну
і на шыі завязаў пятлю,
адштурхнуўся ад дрэва
і такое пачуў і ўгледзеў:
«Ды на той асіначцы
удавіўся»...

У пятым раздзеле гаворыцца, як людзі, падкупленыя інжынерам, спрабавалі затапіць шахту. Калужны падслухаў іх змову і не дапусціў гэтага. Яго ранілі, ён праляжаў некалькі часу ў бальніцы, і калі яго выпісвалі, лістаносец прынёс тэлеграму, што ў калгасе адкапалі фасфарыты.

Канчаецца аповесць тым, як стары Дзядок, складаючы ў копы снапы, убачыў чараду ласёў. Яны беглі, «выставіўшы на сонца халодныя морды», і «маладзейшы быў з іх першым». Дзядок пагнаўся за імі, паваліўся і заплакаў, «прыгадваючы дзяцінства нейкую дробязь».

Я спыніўся падрабязна гэтак на сюжэце самой аповесці таму, каб паказаць, наколькі ў ёй шмат штучных і наіўных сітуацый і палажэнняў. Каб пазбавіцца, скажам, Калужнага, мяркуецца затапіць цэлую шахту, быццам нельга знайсці больш лёгкага спосабу; штучна паказана і вар'яцтва Аўгінкі, і смерць Настаўніка, і цэлы рад іншых момантаў.

Пры гэтай штучнасці, зразумела, не можа быць і гутаркі пра поўны і тыповы паказ рэчаіснасці. Яркі, жыццёвы матэрыял становіцца бледным і нерэальным.

А матэрыял у аповесці ўзяты надзвычай вялікі: нэп у горадзе, рост кулацтва на вёсцы, рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, актывізацыя класавага ворага, калгаснае будаўніцтва, машынізацыя сельскай гаспадаркі... Але ўсё гэта не сцэментавана адзіным сюжэтам, і таму не толькі першая і другая часткі бытуюць самастойна, але нават амаль кожная сцэна нічым не звязана з іншымі. Таму мы і не бачым таго поступу рэвалюцыі, якім быў нэп і рэканструкцыйны час. Мы чуем толькі з вуснаў герояў словы аб тым, што нэп не ёсць адступленне, а ёсць намнажэнне рэвалюцыйных сіл. Але на справе мы не бачым, як растуць рэвалюцыйныя элементы, як расце савецкая гаспадарка...

Поруч з гэтым у аповесці ёсць цэлы рад досыць рэалістычных сцэн, як, скажам, сцэна ў хаце кулака Худа, калі ён вядзе бухгалтэрыю сваіх пазык, дадзеных беднаце. Мы бачым тут хітрасць кулака, яго ўласніцкую прагнасць, яго нутро...

Са станоўчых вобразаў можна назваць Дзядка, які выступае жывым чалавекам, глыбока адчуваючы хараство прыроды, новае жыццё; ён па-дзіцячы захапляецца сілаю трактара, ягоным бычыным вокам.

А прыгадайце канец аповесці, калі Дзядок гоніцца за ласямі і падае, заплакаўшы і ўспомніўшы якуюсьці дробязь са свайго маленства. Гэта жывы чалавек, якому хочацца жыць, пазнаўшы штосьці новае, лепшае, можа, яшчэ не зусім выразнае для яго, у калгасным будаўніцтве.

Крыху лепш удаліся Куляшову адмоўныя персанажы, у прыватнасці, кулак Худ. Гэта хітры чалавек, прагны, ён імкнецца паказаць сябе добрым у дачыненні да беднаты, ён выдае сябе за культурнага і разумнага чалавека, ён жыве ў канкрэтных, рэальных і тыповых абставінах.

Нядрэнным параўнальна ўдаўся і вобраз Настаўніка — гэтага расчараванага чалавека ў рэвалюцыі, у жыцці, ра-

мантыка, які жыве мінулым і які гаворыць аб сабе, што ён «рана радзіўся на свет....».

Як бачым, у «Аманале» Куляшоў моцны менавіта там, дзе ён рэалістычна падае людзей і падзеі. Але гэтакіх месц, на жаль, у аповесці вельмі мала. Тут больш штучных сітуацый, штучных палажэнняў, штучных вобразаў, якія мяжуюцца з сімваламі, пра што гавораць нават самі адпрозвішчы герояў: «Юнак», «Маладосць». Штучнасць адчуваецца і ва ўсіх іншых кампанентах аповесці.

Рытміка, як гукавая старана вобраза, як штосьці стройнае і закончанае ў гэтай аповесці, амаль зусім адсутнічае...

Аднак я гэты твор лічу ўсё ж такі далейшым крокам Куляшова ў кірунку яго набліжэння да рэалістычнага паказу жыцця. Гэта можа гучыць парадаксальна, але гэта так.

Справа ў тым, што ў гэтай аповесці, апрача паасобных рэалістычных сцэн, уся слоўная тканіна верша надзвычайна рэальная, рэчавая, важкая, пазбаўленая сімвалічнай рафінаванасці. І хоць гэты твор не вызначаецца вялікай вобразнасцю мовы, у ім нямала вельмі рэльефных, чыста скульптурных, сочных метафар: «Але, мінаючы вёрсты, цягнікі, пачыналі жыць»; «зараз перад ім закатны пейзаж, голыя бярозы, як вылітыя з воску»; «спалі на канюшынавым шуме» і шмат іншых.

Гэта характэрная рыса фактуры верша, уласцівая рэалістычнаму стылю, праступае і ў тых творах, якія Куляшоў напісаў пасля аповесці «Аманал»: «Галодны паход», «Інтэрвенцыя», «Імперыялізм» і інш. У гэтых вершах ёсць яркая дэталь, рэчавая метафара, пазбаўленая імпрэсіяністычнага налёту і туману. Асабліва вызначаецца ў гэтым сэнсе верш «Хаўтуры». Ён напісан суроваю моваю і мужным шырокім рытмам. Ён поўны цеплыні да забітага рабкора. Ён поўны нянавісці да тых, хто прынёс і хто быў прычынаю гэтай смерці. Ён поўны надзеі ў будучыню...

Паэма «Гарбун» — гэта твор аб першых камунах, арганізаваных у былых панскіх маёнтках. Яна пачынаецца невялікім, досыць агульным, але шырокім лірычным пралогам. У першым раздзеле паэт знаёміць нас з Анісімам Шкробам, з яго багаццем, з яго кузнямі, млынамі, са стаеннікамі, рагатым статкам, з яго грамадскай дзейнасцю на пасадзе валаснога старшыні, з яго эксплуататарскай дзейнасцю, калі «перад ім на каленях укленчыўшы, пекла галасіла, кляло яго дом, яго рай!».

Да Анісіма Шкробы прыязджалі часта на патайныя

сходы эсэры. У яго быў сын Нікадзім — афіцэр і таксама эсэр. Гэты сын закатаваў Цімоха Загулу, які, прыйшоўшы з вайны, узняў у маёнтку бунт. У часе Кастрычніка Нікадзім і ягоны таварыш Ром уцякаюць ад рэвалюцыі з павятовага гарадка да Анісіма Шкробы. Тут яны вырашаюць пасадзіць Рома кіраваць воласцю.

З Петраграда прыходзіць у вёску Антось Шандабыла: у яго ў паходным ранцы было «тры брашуры Леніна, хлеб і вада». Ён арганізуе ў былым панскім маёнтку камуну, куды ўваходзяць: Ластаўка Макар, Агей Жаўна, паляк Вальдамар, палонны немец Курт, Даніла Дыб і сірата Якуб.

Камунары ідуць аглядаць палеткі і над магілай Цімоха Загулы выказваюць сваю жалобу, у якой чуваць прысяга, што пачатую Загулам справу яны давядуць да канца.

Ром арудуе ў воласці. Ён адводзіць свайму брату вялікі кавалак зямлі, той зямлі, якую заняла камуна. Ром агітуе ўсіх: «Касіце панскія жыты і маладыя нівы». Але, калі да яго брата на хутар прыходзяць камунары забраць зямлю, ён заяўляе:

Усім я землі раздаю —
Закон на гэта маю!
Злачынцаў жа, што чыняць гвалт,
Сваёй рукой караю.

У адказ на гэтыя словы рыбак Гарбун ударыў Рома дубцом па твары. Пазбаўленыя зямлі, камунары ідуць на балота, асушваюць яго, каб распрацаваць як след і мець ураджай. Адзін Агей Жаўна выкручваецца, бо яму Ром таксама адвёў валоку зямлі.

Але багацеям не падабаецца блізкае суседства камунараў, і кулакі, на чале з Ромам, умаўляюцца выжыць іх. Яны аднойчы, барабанячы ў вёдры і засланкі, натоўпам прыходзяць у камуну. Тады Шандабыла скамандаваў камунарам выбірацца ў дарогу.

Камунары запрэглі коней, выгналі жывёлу і накіраваліся ў лес. Услед Ром і Агей Жаўна пасылаюць ім лаянку, а Ромаў парабак Рог, нацкаваны натоўпам, ударыў Шандабылу ў грудзі. Але

Той ішоў высокі, горды,
І яго шляхі гуталі,
А навокал білі ў вёдры,
І раўлі, і рагаталі...

На шостай вярсце камунары спыніліся і разбілі палаткі. Праз некаторы час Антон Шандабыла плыве ў чоўне

па Сожы і бачыць, як Ром б'е свайго парабка Рога, а той уцякае ў гушчар, «лес ломячы сабою». Куляшоў выразна не гаворыць, але трэба думаць, што Антон плыў на хутар, каб адпомсціць Рогу, бо Шандабылу катавала крыўда. І калі Шандабыла ўбачыў Рога ў горы, ён зразумеў, што

— Ёсць ворагі, і ёсць сябры,
Ёсць бедны люд, багаты,
І дуб той самы на гары
Сукі прасцёр гарбаты.
Няма і не было маны,
Свой сонца круг рабіла,
Заблыталіся мы адны,
Бярозавае біла!

У вёску прыязджае атрад прадармейцаў. «Багатыя і хітрыя мужыкі» сустрэлі яго з чырвоным сцягам, «нізка б'ючы паклоны». Ром размясціў чырвонаармейцаў па хатах, дзяўчаты частавалі іх святочным пірагом, рыбаю, малаком і мёдам. Але, калі прадармейцы заснулі, кулакі забралі зброю і чырвонаармейскіх коней. Чырвонаармейцам давялося адступіць, а іхняга камісара замкнулі ў дубовую клецъ. П'яны Ром здзекуецца над ім.

Усё гэта бачыў Антон Шандабыла. Ён вырваў у клеці прабой, вызваліў камісара і прапануе яму схавацца ў камуне. Але камісар на гэта адказаў:

Імчы адзін паўз ветракі,
Мінаючы вазёры!
Сюды склікай людзей сваіх,
Хавацца ў лесе годзе!

Шандабыла склікае камунараў, і яны ідуць забіраць у кулакоў хлеб. Мы бачым камісара ізноў у хаце Рома. Ён патрабуе ключы ад свірнаў. А ў гэты час брат Рома, уцёкшы праз акно, бяжыць і забівае сякерай Шандабылу.

Паэма канчаецца эпілогам, з якога мы даведваемся, як расце камуна. У гэту камуну едзе ў госці сакратар райкома Даніла Дыб і начальнік палітаддзела, што некалі быў тут камісарам.

Як бачым, сюжэтная лінія ў гэтай паэме больш простая і выразная, ніж у «Аманале». Тут няма штучных палажэнняў, але ў той жа час сітуацыі напружаныя, трагічныя. Праўда, некаторыя паасобныя сцэнкі залішне рамантызаваны, але і яны падкупляюць чытача сваёй шчырнёй пачуцця, сваім напружаным зместам.

Не засталося ранейшага штукарства і ў іншых прыёмах. Толькі ў раздзеле «Кара» гэта яшчэ крыху адчуваец-

ца ў перапляценні двух планаў. У адным плане падаецца сустрэча Нікадзіма і Шандабылы, а праз радок у другім плане падаецца ўспамін пра Цімоха Загулу:

Чулі рэкі і вазёры,
Чайкі сумныя крычалі,
Гулі дрэвы і пячоры,
Як Загулу катавалі.

Мне здаецца, што ўстаноўка ў гэтай паэме была — паказаць тую адданасць, тую ўпартасць, тыя жахлівыя ўмовы, у якіх даводзілася працаваць першым арганізатарам калектыўнай гаспадаркі. І гэта аўтару ўдалося. Перад намі праходзіць багатае пышнае жыццё Анісіма Шкробы, перад намі праходзяць яркія сцэны балявання эсэраў у гэтага кулака, калі яны «спалі на канюшыне з парабчанкамі і дачкамі яго». Перад намі ўстаюць глыбока трагічныя сцэны таго, як катуюць Загулу, як галосіць над яго магілаю яго сястра парабчанка, як кулакі гоняць камунараў у лес, як забіваюць Шандабылу. І ў выніку гэтага мы адчуваем, што людзі ў паэме — не схемы, яны пакутуюць, радуюцца, жывуць поўным напружаным жыццём.

Узяць забітага цёмнага парабка — пастуха Рога. Ён калісьці, нацкаваны натоўпам, кідаўся з кулакамі на Шандабылу. Але прайшоў час. Рог убачыў, што Шандабыла рабіў добрую справу. І калі Шандабылу забіваюць, у Рога з'яўляецца вялікая сіла пачуцця да гэтага чалавека. Куляшоў чатырма радкамі надзвычай ярка характарызуе рост свядомасці ў пастуха Рога:

Нават цяжка мне выказаць вершам —
І як нёс, і як клаў на парог,
І як выў над Антонам памершым,
Як над братам, парабак Рог.

Або возьмем другі прыклад — пахаванне Шандабылы. Тут таксама няма ярка пададзеных персанажаў, але ёсць яркія людзі, яркі дружны калектыў, у якім і свае пільшчыкі, і свае цесляры.

Не прасілі яны чужой ласкі —
Самі пільшчыкі, цесляры...
Распілоўвалі дрэва на часткі,
Габлявалі яго на зары.

А ўзяць Шандабылу, калі ён дае наказ камунарам:

Нам спакой і волю бор дасць,
данясіце ж да сасонак
і жыццё дзяцей, і гордасць
сваіх жонак!

Каб сыны ў мяхах ваўчыных
крэпка спалі на світанку,
вы спявайце, везучы іх,
калыханку!

Гэта камуніст, які не толькі верыць да канца ў справу сваю, які не толькі можа павесці за сабою людзей, але які поўны клопату і любасці да гэтых людзей, поўны трывогі за жыццё іх дзяцей і гордасць жонак. Гэта жывы і паўнакроўны вобраз, дармо што ён пададзены не ў дынамічным развіцці, а статычна застыглым.

Такім чынам, гэта паэма вызначаецца яркаю сілаю, яркім людскім калектывам. Гэта паэма не герояў, гэта паэма мужнасці простых людзей, якія ўпарта дамагаюцца сваёй мэты.

Шырыня ахопу падзей, глыбіня пачуццяў, у якіх шмат думкі, яркасць вобразу, звонкасць верша і прастата, даступная шырокім колам чытачоў,— гэта лепшая ацэнка паэмы.

У гэтай паэме Аркадзь Куляшоў, як і ў «Крыўдзе», ізноў выкарыстоўвае своеасаблівы падыход да з'яў, падаючы іх не просталінейна, а праз канкрэтныя, пабочныя дэталі.

Вось прыклад характарыстыкі Анісіма Шкробы:

У Анісіма Шкроба
гонтам крытыя
хаты,
кузня, млын
і на тры дзесяціны сад,
і стаенніхі-коні,
і статак рагаты,
і шырокі кулацкі
зад.

Тут не сказана просталінейна, што Анісім Шкроб багаты, але гэта ярка відаць з тых дэталей, якімі паэт абрысоўвае фігуру кулака — млын, стаенніхі-коні, рагаты статак, парабкі, людзі, якія дзень і ноч круцяць жорны, і г. д.

Гэтыя карціны выклікаюць багата асацыяцый, багата новых малюнкаў, асабліва тады, калі сама разнастайнасць, рэчаіснасць падаецца праз яркія метафары, а гэтага ў паэме «Гарбун» досыць шмат:

На кручах арахоўнік рос
І трос на кручы росы,
Дванаццаць неслі яны кос,
Як бліскавіцы косы.

Па сёлах, вёсках даў загад,
Што сонца адрачэцца,
Што адрачэцца маткі гад,
Які на гвалт памкнецца.

Тут прынцып пабудовы метафары той жа, што і ў «Крыўдзе», блізкі да прынцыпаў пабудовы метафары ў народнай творчасці. Для гэтай паэмы характэрны і гіпербалізм, таксама ўласцівы народнай творчасці:

Дзе знак кідалі капыты,
Раслі ў тым месцы дзівы...
. . . . . . . . . . . .

Як хроп той конь,
Аж беглі з хат
За ім людскія сем'і.

Нельга сказаць, што Куляшоў усюды ўмела выкарыстоўвае прынцып гіпербалізму. Там, дзе ён у гіпербалічных фарбах падае Рома, ён гэтым самым ідэалізуе яго. Але ў паэме нямала і такіх месц, дзе гіпербала альбо адмоўнае параўнанне, запазычаныя з народнай творчасці, дапамагаюць правільна і ярка падаць вобраз:

Не кпіны кпіў з яго лясун,
Не перун трэснуў з хмары,
А біў яго рыбак Гарбун
Крывым дубцом па твары.

Жывая стыхія народнай творчасці адчуваецца і ў рытме. Рытм «Гарбуна» строгі і стройны. Але ён не салодка напеўны, у ім багата розных пераходаў, асабліва такіх, як пераход ямбічных радкоў у харэічныя, у дактылічныя і, наадварот, што характэрна для творчасці і Купалы:

Цябе ветры прыгарнулі,
А трава і мох
На грудзях тваіх паснулі,
Загула Цімох.

Такім чынам, шырыня мастацкіх малюнкаў, багацце і яркасць дэталі, рэчавая густата метафары, зробленай часта па прынцыпу народнай, мужны шырокі рытм з багаццем розных заканамерных пераходаў — усё гэта стварае такую фактуру верша, што яе амаль адчуваеш навобмацак. І гэта ёсць характэрная рыса апошніх твораў Куляшова. Яна, не зважаючы на рамантызацыю паасобных фактаў, набліжае яго творчасць да стылю сацыялістычнага рамантызму.

Пасля паэмы «Гарбун» Куляшоў напісаў некалькі вершаў. Мне здаецца, што яны не вызначаюцца нічым асаблі-

вым, не ўносяць нічога новага ў сэнсе якасных змен яго стылістычнай асаблівасці, і таму я не буду на іх спыняцца.

Адзначу толькі, што ўрывак з паэмы «Брыгадзір», надрукаваны ў «Літаратуры і мастацтве», пры ўсіх сваіх ранейшых моўных сродках рытмічна нагадвае паэму Ясеніна «Анна Снегіна». Некаторыя радкі нават гучаць як пераклад:

То шыбка іду, то паціху.

А ў Ясеніна:

Бегут говорливые дроги
Не шатко, не валко, как встарь.

І падобных радкоў у гэтым урыўку досыць багата.

Вядома, што судзіць паводле гэтага ўрыўку аб усёй паэме немагчыма. Але я звяртаю ўвагу на падабенства таму, што і ў ранейшых творах Куляшова досыць часта адчуваюцца ўплывы і Багрыцкага, і Лугаўскога, і Васільева.

Я не спыняюся тут і не маю магчымасці спыніцца на ўсіх дробных недахопах, недакладнасцях і непісьменных мясцінах, якіх таксама нямала ў творчасці Куляшова, нават у паэме «Гарбун».

Я хачу паказаць адно, што творчасць Аркадзя Куляшова за апошнія часы вырасла досыць значна. Няхай яна не вызначаецца сваёю тэматыкаю, людскімі вобразамі, вялікай шырынёй і ідэйнасцю — гэтага патрабаваць ад Куляшова, магчыма, яшчэ і рана. Але мы не можам не радавацца, калі бачым, што нават звычайная тэма, звычайны верш, невялікі зместам, у Куляшова гучыць арыгінальна, у ім адчуваеш мастацкую праўду, сілу глыбокага пачуцця.

Можна любіць і не любіць гэту арыгінальнасць, але абысці яе ніяк нельга. Арыгінальнасць — неабходная якасць для кожнага паэта, і гэта вынікае з самой спецыфікі мастацтва.

Мы ўжо гаварылі, што вобраз, з'яўляючыся тыповым адлюстраваннем рэчаіснасці, у той жа час з'яўляецца і індывідуальным адлюстраваннем рэчаіснасці. А для таго каб гэта індывідуалізацыя была найбольш яркай, паэт павінен быць арыгінальным, уладаць вялікай творчай фантазіяй, каб умець адабраць з мноства фактаў і з'яў тое, што больш ярка і больш рэльефна адцяняе дадзеную рэч. Аркадзь Куляшоў умее гэта рабіць.

Ягоныя рэчы, нават найменш удалыя, нават тыя, якія можна лічыць прарывамі ў творчасці Куляшова, усё ж такі

ў сваіх паасобных сцэнах вызначаюцца гэтай шырынёю, багатым перасячэннем асацыяцый, яны будзяць шмат пачуццяў і думак.

Другое, што характэрна для творчасці Куляшова, гэта яго любоў да жыцця. Ён любіць прыроду, гоман рэк, азёр, лясоў, кручы, гарбатыя дубы. Прычым у яго любоў гэта — не сантыментальнае любаванне пейзажам, а любоў да прыроды як да вялікай сілы, што безупынна нясе жыццё.

Можна сказаць, што жыццё ў творчасці Куляшова варушыцца, як цяжкая, вялікая глыба, густое, напоенае сокамі.

Адлюстраванню гэтага густога, здаровага, насычанага жыцця ў фламандскім стылі служаць і мастацкія сродкі, у якіх матэрыялізуюцца вобразы. Я гавару пра метафару, пра эпітэт, рытм і рыфму. У Куляшова яны пазбаўлены рафінаванасці, імпрэсіяністычнасці, невыразнасці. Ягоная мова не выключная, своеасаблівая, а звычайная, блізкая ў сваіх лексічных і сінтаксічных формах да звычайнай гутаркі.

Калі гаварыць аб рытме, нават там, дзе Куляшоў, як я гаварыў, парушае яго нашчэнт, то трэба адзначыць, што гэта менавіта ёсць пошукі новага рытму, які б не закалыхваў чытача сваёй саладкавай напеўнасцю, а які б гучаў, як гучыць бадзёры марш сваімі кароткімі і шырокімі, сваімі высокімі і нізкімі нотамі.

Гэтага ў поўнай ступені дамогся Куляшоў у паэме «Гарбун».

Вось усё тое асноўнае, што адрознівае ў добрым сэнсе паэзію Куляшова ад творчасці шмат якіх нашых іншых паэтаў і што Куляшоў павінен і ў далейшым развіваць і паглыбляць.

Але, каб паэзія яго не стала фальклярыстыкай, квятлівацю экзотыкай, трэба зрабіць яшчэ шмат. Трэба і ў сітуацыях, і ў паказе людзей, і ў паказе абставін, унікаючы натуралістычнага фатаграфавання, даючы нейкую выключнасць (у тым сэнсе і палажэнні, і людскія характары ў паэзіі павінны чымсьці адрознівацца ад жыццёвых фактаў), не ўпадаць у фармалістычныя выкрутасы, у штучнасць. Інакш кажучы, трэба дамагацца таго, каб тыповыя характары падаваліся б у тыповых абставінах. Калі Куляшоў умее ярка індывідуалізаваць свае вобразы, дык ён яшчэ не заўсёды ўмее надаць ім шырокае абагульненне, тыповасць. Ён толькі ідзе яшчэ да гэтага, пра што сведчаць яго некаторыя ранейшыя творы і асабліва апошняя паэма

«Гарбун». З гэтым можна згаджацца і не згаджацца, але не трэба ніколі чалавека адштурхваць ад пошукаў свайго, арыгінальнага і ў той жа час характэрнага для нашай эпохі, для нашага класавага стылю.

Аркадзь Куляшоў жыве гэтымі пошукамі, пошукамі вялікай жыццёвай праўды і яркай мастацкай выдумкі.

*1935 г.*

## ЗБОРНІК ВЕРШАЎ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

Ужо самыя першыя вершы Пімена Панчанкі выдатна адрозніваліся ад вершаў іншых маладых паэтаў Беларусі. Апрача бясспрэчнай здольнасці і нядрэннай паэтычнай тэхнікі, у іх адчуваўся свой асаблівы голас паэта, свае адносіны да свету, свая манера пісьма. Усімі гэтымі якасцямі, у той ці іншай ступені, вылучаецца і новы зборнік вершаў Пімена Панчанкі «Вераснёвыя сцягі».

Невялічкая кніжачка мае тры раздзелы. У першым, названым «Вызваленне», аб'яднаны сем вершаў, прысвечаных вызваленню Заходняй Беларусі. Другі раздзел «Дасяпванне» змяшчае ў сабе вершы аб нашым сучасным жыцці, аб мінулай барацьбе, аб пачуццях і адчуваннях савецкіх людзей. У трэцім раздзеле змешчана паэма «Апошні хутаранін».

Першае, што кідаецца ў вочы, калі чытаеш вершы Панчанкі, гэта сапраўдны мастацкі падыход да вырашэння той ці іншай тэмы. Паэт бярэ тэму не ў лоб, а вядзе да яе чытача абходным шляхам, праз шэраг апасродкаванняў, і раскрывае яе праз асобныя, часамі вельмі звычайныя, але заўсёды канкрэтныя рэчы і з'явы. У выніку ідэя верша не навязваецца чытачу звонку, а вынікае непасрэдна з паказу таго ці іншага кавалка рэчаіснасці, з малюнка, напісанага паэтам. У якасці прыклада можна прывесці верш «Жабракі». Аўтар негаласлоўна гаворыць аб бязмежнай галечы, на якую асудзілі працоўных буржуазныя кіраўнікі Польшчы, ён дае жывы малюнак гэтай галечы:

Гэта страшная праўда, не сон —
Ля касцёла сядзяць жабракі.
Скупа сыпле журботны звон
На далоні калек медзякі.

Пасля гэтай праўдзіва і добра напісанай карціны чалавечага няшчасця зусім лагічна і пераканаўча гучаць заключныя радкі верша, якія раскрываюць асноўную яго ідэю і пачуццё вялікай нянавісці да прыгнятальнікаў, чым напоўнены ўвесь верш:

Мне не будзе спакойна спаццa,
Я не выпушчу стрэльбу з рукі,
Покуль ёсць паны у палацах,
Покуль ёсць на зямлі жабракі.

Гэта па-сапраўднаму паэтычны падыход да тэмы. Праўда, у кнізе Панчанкі, асабліва ў першым раздзеле, ёсць некалькі вершаў, напісаных нібы абстрактна, без асаблівай мастацкай дэталізацыі. Вось як, напрыклад, у вершы «Вызваленаму брату» паказана барацьба за вызваленне Заходняй Беларусі:

Гнеўны шквал па зямлі прайшоў
І развеяў туман тугі.

І далей:

Расступіліся дрэвы з дарог,
Ліхаманкава біў кулямёт...
Слава тым, хто пад Гроднам лёг
За цябе, беларускі народ.

Тут няма канкрэтызаванага дэталямі паказу барацьбы. Аднак увесь верш цалкам гучыць вельмі добра і выклікае ў чытача пэўны настрой. Панчанка стварыў тут вобраз не столькі адборам і паказам асобных дэталей, колькі глыбокім пачуццём, цудоўна выказаным праз суровы, мужны рытм верша. У гэтых вершах няма лішніх слоў, яны зроблены па-майстэрску, яны напоўнены музыкай, яны пругкія і мускулістыя:

Не трубіў на зары гарніст,
Не грымела аркестраў медзь.
Скрозь асенняга ветру свіст
Наляцела на панства смерць.

Апошнім часам у нас шмат, і ў дачыненні да некаторых паэтаў вельмі справядліва, гавораць аб лагоднасці ў паэзіі. У вершах Пімена Панчанкі таксама няма нервознай, і таму непатрэбнай, устрывожанасці, але ў іх няма і абыякавай да ўсяго самазаспакоенасці, у іх няма бесклапотнасці. Велізарныя падзеі сучаснасці не прыводзяць паэта да разгубленасці, але прымушаюць задумацца над лёсам людзей, якія асуджаны другой імперыялістычнай вайной на жорсткія выпрабаванні. У вершы «Жураві»,

паказаўшы пералёт жураўоў у другія краіны, туды, дзе «лютуе крывавы бог вайны», паэт задуменна пытаецца:

Пад залатымі сонечнымі промнямі
Не хочацца і птушкам паміраць,
І будуць доўга галасамі сумнымі
Радзіму жураўліную гукаць.
А што ж сказаць аб сэрцы чалавечым,
Якога лёс — выгнанне і галеча?

У вершах Панчанкі ёсць добры, упэўнены спакой і некаторы роздум, за якім хаваецца і заклапочанасць, і ўсхваляваныя юнацкія мары:

Ну, а я — ўсё такі ж,
неспакойны юнак-летуценнік,
Мора — радасць мая,
мора песенны мой успамін,—

гаворыць аб сабе паэт у вершы «Мора». Аўтарскую самахарактарыстыку можна цалкам аднесці і да лірычнага героя вершаў Пімена Панчанкі. Гэты герой — малады наш сучаснік, які сціпла і сумленна робіць сваю справу, іншы раз успамінаючы мінулае і марачы пра будучае. Ён упэўнены ў гэтым будучым, ён горды перамогамі свайго народа, але ён сціплы і не крыклівы, як не крыклівыя і сціплыя вершы Панчанкі. Больш таго, аўтар нават дабрадушна іранізуе над самаусхваленнем сваіх герояў (верш «Суседкі»). Вось чаму ў многіх вершах Панчанкі адчуваецца добрая ўсмешка. І не мае рацыі той, хто гаварыў, што іранічны верш аджыў свой час. Панчанка даў некалькі добрых вершаў і ў гэтым жанры («У навальніцу», «Асеннім днём» і інш.).

Вялікае месца ў вершах Панчанкі займае пейзаж, прычым пейзаж не як абрамленне верша, нават не фон яго, а з'яўляецца неадлучнай часткай мастацкага свету паэта. Асабліва ярка гэта адчуваецца ў вершы «На зары». Вобраз раніцы выпісаны тут не для ўкрасы, а як атмасфера, у якой жыве паэт і ў якой адбываліся калісьці іншыя падзеі: «адступалі на захад палякі», у сяло прыйшлі будзёнаўцы, і

Сонца яркае ўзяла на піках,
Дзень шчаслівы радзіўся
Над спаленым нашым сялом.

Гэты ж прыём выкарыстоўвае Панчанка і ў другіх вершах, дзе пейзаж таксама служыць зыходным пунктам пры ўспамінах паэта аб мінулым (верш «Бяроза», «Мора» і др.). Наогул, з'явы прыроды ў вершах Панчанкі заўсёды

цесна ўвязаны з тымі або іншымі падзеямі грамадскага жыцця. Такім чынам, жыццё ў гэтых вершах праходзіць як непарыўная сувязь з'яў прыроды і людскога грамадства. Трэба адзначыць пры гэтым, што Панчанка паказвае прыроду ў яе непарыўнай змянальнасці: лета змяняецца восенню, восень — зімой і г. д. Вось ярка напісаная карціна наступлення зімы:

Яшчэ апошні ліст да тратуара
Не дакрануўся, а чырвоны дах
Расправіў крылля, як вялізны птах,
І прагнуў узляцець насустрач хмарам.
А потым цішыня. За ёй — зіма і радасць.
Абрысы камяніц прапалі, як у сне...
А небасхіл на горад падаў, падаў,—
І твар гарачы мой кранув пушысты снег.

З якой добрай назіральнасцю выпісана ў гэтых радках восеньская бязмежнасць прасторы, адцененая асабліва тым, што «чырвоны дах расправіў крыллі і прагнуў узляцець насустрач хмарам». Скупа і з тонкім пачуццём выпісаны тут і першы подых зімы: «а потым цішыня, за ёй — зіма і радасць». Але гэтае пачуццё радасці хутка змяняецца новым, і нядаўняе становіцца ўжо надакучным:

За парогам — зіма і нуда.
  за парогам — раздум'е і боль.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Завіруха чарэмшын мяне
  захапіла ў белы палон.

У гэтай змянальнасці пачуццяў паэта б'ецца нястрымнае жаданне новых уражанняў, імкненне безупынна рухацца наперад.

Як бачым, паэтычны свет Панчанкі своеасаблівы і яркі. Аднак гэты свет некалькі вузкі, абмежаваны, у ім не адчуваецца вялікіх падзей нашага часу, няма шырокіх абагульненняў. І калі ў інтымных перажываннях паэта, у яго лірычных вершах гэты недахоп згладжваецца цеплынёй і непасрэднасцю пачуццяў і выступае не так рэзка, дык у паказе больш шырокага кавалка жыцця, як, напрыклад, паэма «Апошні хутаранін»,— ён адчуваецца надзвычай выразна. І хаця ў паэме нямала асобных удалых мясцін (пейзажныя замалёўкі на пачатку паэмы, дзве першыя страфы ў раздзеле «Раздум'е» і інш.), аднак трэба сказаць, што вялікая тэма распрацавана вельмі павярхоўна. Жывыя чалавечыя пачуцці, у дадзеным выпадку пачуцці ўласнасці паказаны прымітыўна:

I разагнуў спіну Рыгор.
У гневе вочы цёмныя яго.
Узрушана шаптаў ён: — Не аддам!
Мая зямля — і я тут уладар.
Мая мяжа. Я — бог тут і закон.

Так жа не зусім пераканаўча і бледна паказаны і адносіны людзей да Рыгора на сходзе і яго ўласнае пераараджэнне:

I з'явіліся самі
На вуснах патрэбныя словы:
— Хачу радасць і гора
Я з вамі сумесна дзяліць...

У гэтым, я паўтараю, з асаблівай сілай праявіўся недахоп паэта — некаторая абмежаванасць яго паэтычнага свету, адсутнасць шырокіх абагульненняў, што адчуваецца, хоць і не так рэзка, і ў іншых, нават добрых вершах паэта. Праўда, новыя вершы Панчанкі. апублікаваныя ў нашым перыядычным друку, гавораць аб тым, што маладзы здольны паэт расце з кожным днём і настойліва працуе над пераадоленнем сваіх недахопаў.

*1940 г.*

## АБ НАШАЙ ПАЭЗІІ І АБ НОВЫХ ВЕРШАХ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

У друку і ў прыватных размовах нашы крытыкі неаднойчы скардзіліся, што яны «вельмі засумавалі па добрых вершах». Глыбока засмучоныя, яны сталі сарамліва апускаць вочы і маўкліва абмінаць кожны нованадрукаваны верш, не стараючыся нават разабрацца — дрэнны ён ці добры. Так прайшлі незаўважанымі нашай крытыкай новыя кнігі вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і цэлай плеяды маладых аўтараў. Тым часам паэты працавалі далей і, без усякай тэарэтычнай і практычнай у гэтым дапамогі крытыкаў, шукалі новых шляхоў развіцця паэзіі, аж пакуль і не падрыхтавалі яе далейшага ўздыму, «аб якім зараз можна гаварыць як аб рэальным, адбыўшымся факце».

Гаворачы аб новай кнізе Петруся Броўкі, я мог бы і не распачынаць гэтай адвечнай спрэчкі паміж паэтамі і крытыкамі, калі б Р. Бярозкін у сваім артыкуле «Аб вершах»

(«Літаратура і мастацтва», 11 сакавіка 1940 г.) не закрануў і вершаў Петруся Броўкі, стараючыся накіраваць паэта да «інтанацыйнага верша». Не згаджаючыся з гэтым, я вымушан закрануць і некаторыя іншыя палажэнні з артыкула тав. Бярозкіна.

Па-першае, што тычыцца агульных разважанняў тав. Бярозкіна аб зрухах у нашай паэзіі. Разважаючы аб гэтым, Р. Бярозкін лічыць, што гэтыя зрухі абстрактна-лазунговай паэзіі да сапраўднай, паўнакроўнай паэзіі адбыліся ў выніку пераключэння на новы матэрыял і аднаўлення парушанага адзінства паміж сэнсам верша і яго канкрэтна-пачуццёвай прыродай. Але такое сцвярджэнне вельмі аднабаковае, паколькі яно высвятляе толькі вынікі зруху, а не яго прычыны.

Мне здаецца, што прычыны новых павеваў у паэзіі крыюцца значна глыбей, чым гэта здаецца на першы погляд. Каб разабрацца ў гэтым, трэба прыгадаць даўно вядомую ісціну, што галоўным аб'ектам усякага мастацтва, у тым ліку і паэзіі, з'яўляецца чалавек. Між тым нашы паэты часта забываліся на гэтую непарушную ісціну мастацтва. Велізарныя падзеі сучаснасці, тварцамі якіх былі нашы савецкія людзі, засланялі часта ад нашых паэтаў гэтых жа людзей. Праглядзіце так званую абстрактна-лазунговую паэзію: у ёй гаворыцца аб падзеях і фактах, аб машынах і рэчах, але не аб жывых людзях, не аб іх пачуццях і душах.

Выходзячы з гэтых меркаванняў, мне здаецца, што недахопы нашай паэзіі былі (ды яшчэ і цяпер ёсць!) *не столькі ў малой дэталізацыі фактаў, аб якіх пісалі паэты, колькі ў занядбанні пачуццямі і страсцямі жывога сучаснага чалавека.* Прыгадайце класічную паэзію, і вы знойдзеце там не адзін выдатны верш, напісаны ў некалькі агульнай, абстрагіраванай форме. Нават выключнай сілы лірычны верш Пушкіна «К А. П. Керн», перасыпаны такімі эпітэтамі і параўнаннямі («чудное мгновенье», «гений чистой красоты», «томленья грусти безнадежной», «тревоги шумной суеты», «бурь порыв мятежный», які «рассеял прежние мечты» і інш.), якія не толькі з пункту гледжання нашай, але і тагачаснай паэтыкі нельга назваць *канкрэтнымі* дэталямі. Магчыма, што некаторыя нашы крытыкі з іх патрабаваннямі сугуба рэальнай дэталі ці, як яны гавораць, «блізкага абыдзённага прадмета», а гэта значыць бытавой, рэчавай дэталі,— магчыма, што такія крытыкі і гэты верш залічылі б да вершаў абстрактных,

але ад гэтага ён ніколькі б не страціў у сваёй сіле, таму што ў ім жывое чалавечае сэрца.

Драматычная літаратура, у якой, паводле выразу Бялінскага, пануе чалавек, не можа ўжо ў сілу асаблівасцей свайго жанру так непрыкметна для вока падмяніць чалавека — яго страсці бяздушнымі падзеямі ці фактамі. І поспехамі нашай савецкай беларускай драматургіі (у прыватнасці, п'ес Крапівы) у значнай меры тлумачацца тым, што ў цэнтры яе ўвагі ўвесь час быў жывы сучасны чалавек.

Толькі гэтым, увагаю паэтаў да чалавека, да яго пачуццяў, тлумачыцца і тое ажыўленне, тыя радасныя зрухі, якія наглядаюцца ў апошні час у нашай паэзіі. Гэта, вядома, не значыць, што ў кожным невялікім, нават вельмі добрым лірычным вершы паэты даюць нам шырокія карціны чалавечага жыцця, ярка выпісаныя характары і г. д. Гэта немагчыма, ды гэтага і непатрэбна. «Мімалётнае і імгненнае адчуванне, якое ўзрушыла душу паэта, як вецер струны Эолавай арфы, складае змест лірычнага твора»,— гаворыць Бялінскі. І мы ведаем у Пушкіна, у Фета, у Блока (асабліва ў апошняга) нямала вершаў, якія выражаюць надзвычай вокаімгненныя ўражанні, але якія насычаны глыбокімі настроямі і, нібы знутры, асветлены вялікім агнём пачуцця. І па гэтых настроях і пачуццях мы пазнаём чалавека, яго думы і душу, яго жыццё і імкненні.

Такім чынам, тэмай для верша можа быць і пейзаж, і каханне, і смерць, і гераізм. Важна, каб паэт, на якую б тэму ён ні пісаў, здолеў выразіць свае пачуцці так, каб у іх, як у кроплі вады, адлюстравалася жывая душа нашага сучаснага чалавека.

Вядома, гэтыя элементарныя ісціны Пятрусь Броўка зразумеў і адчуў як паэт не цяпер. Заставалася перамагчы пэўныя літаратурныя традыцыі. На гэта было патрачана некалькі год, за якія было напісана дзве кнігі. Пасля з'явілася новая кніга вершаў, аб якой будзе гутарка і якая носіць назву «Шляхамі баравымі».

І вось пасля ўсяго гэтага дзіўна гучыць другое сцвярджэнне тав. Бярозкіна ў тым жа самым артыкуле, што быццам бы «ў творчасці П. Броўкі апошніх год таксама намячаўся пэўны адыход ад патрабаванняў верша ў бок агульнаапісальных меркаванняў».

Бяром кнігі Броўкі, пачынаючы ад зборніка «Цэхавыя будні», пераглядаем іх і бачым, што якраз наадварот: з кожнай кнігай Броўка ўсё больш і больш адыходзіў ад

факта і падзеі, набліжаючыся да чалавека і яго перажыванняў. І адна з кніг Петруся Броўкі, выдадзеная яшчэ ў 1935 г., недарма носіць назву «Прыход героя».

Тав. Бярозкін аргументуе, ці, праўдзівей, называе ў якасці аргумента свайго палажэння аб адыходзе Петруся Броўкі «ў бок агульна-апісальных меркаванняў» паэму «Кацярына». Але, нават прыняўшы пад увагу ўсе сапраўдныя і прыпісаныя гэтай паэме недахопы, нельга ніяк згадзіцца з тым, што гэта «адыход у бок агульнаапісальных меркаванняў», адыход ад паказу канкрэтнага жыцця да абстракцыі, адыход ад паказу чалавека. Наадварот, разуменне, што цэнтрам паэзіі з'яўляецца чалавек, прывяло Петруся Броўку да напісання паэмы «Кацярына». Тут паэт Броўка сустрэўся з новым чалавекам як з аб'ектам эпічнага твора, каб, праверыўшы на ім праўдзівасць сваіх пачуццяў і думак, перанесці яго як суб'екта ў лірычныя свае вершы. Ад гэтага пачалася і кніга «Шляхамі баравымі».

Я думаю, ніхто не стане спрачацца, што ў такіх вершах з новай кнігі Петруся Броўкі, як «Скрыпач», «Падарунак», «Сустрэча», «Танкісты», «З паходаў», «Апошні хлеб», «Дзед і ўнук» — безумоўна, цэнтральнае месца займае чалавек. Яго радасць і смутак, яго весялосць і турботы, яго жаданні і мары складаюць змест гэтых вершаў.

Іначай абстаіць справа з такімі вершамі, як «Дождж», «Крыніца», «Паляванне», «Мяцеліца», «Мы з табой хадзілі часта ў поле», «Гэты кветкамі-пухам абсыпаны сад» і іншымі інтымна-лірычнымі пейзажнымі вершамі, дзе на першы погляд вобліка чалавека нібы і не відаць. Але гэта толькі на першы погляд. Прачытаўшы іх, мы прыпамінаем і цалкам згаджаемся з думкаю Бялінскага, што хаця «чыста лірычны твор уяўляе сабою як бы карціну... у ім галоўнае не сама карціна, а пачуццё, якое яна абуджае ў нас...».

Такім чынам, і пейзажныя і інтымна-лірычныя новыя вершы Броўкі не ёсць вершы мёртвай з'явы, сухога факта, яны вершы чалавечага пачуцця, паэзія чалавечага сэрца. У гэтым іх сіла і ў гэтым іх асаблівасць і навізна як у творчасці самога Броўкі, так і наогул у нашай паэзіі.

Другая асаблівасць амаль усіх новых вершаў Петруся Броўкі заключаецца ў тым, што паводле ледзь прыкметнага руху пачуцця, выражанага ў іх, мы пачынаем адчуваць рух душы чалавека нашага часу. Не толькі грамадская тэма, але і адвечная тэма кахання і пейзаж у твор-

часці Броўкі набываюць сваё адменнае асвятленне. Ён гаворыць часамі аб тым, што ўжо не нова, аб чым не раз, можа, было сказана, але гаворыць па-новаму, з пункту гледжання нашага сучасніка.

І гэты настрой праходзіць праз усе тэмы і праз усе жанры новай кнігі Петруся Броўкі. А дыяпазон жанру і паэтычнага голасу паэта ў гэтай кнізе надзвычай вялікі: ён прасціраецца ад паэмы да песні, ад высокай патэтыкі да самай пяшчотнай лірыкі...

У прастаце і мілай непасрэднасці чалавечага пачуцця, у вялікай сіле любві я таксама пазнаю высакародныя рухі душы нашага сучасніка. Яны асабліва ярка выступаюць у параўнанні з мінулым ці на фоне яго. Возьмем для гэтага верш «Скрыпач». Параўнаем скрыпача Андрэя з нашымі знаёмымі калгаснікамі з верша «Падарунак». Ён выпісан у Броўкі вельмі ярка, і сам па сабе слаўны чалавек:

Акружку абыдзі людзей,
Пачуеш ты спярша:
— Андрэй?!
Ды гэта ж чарадзей,
Вясёлая душа.

Але не зважаючы на яго вясёлую душу, за Андрэем ходзіць нейкі нябачны цень тугі. Вакол яго адчуваецца настрой адзіноты:

Садок у колькі вішань, сліў.
Пад вокнамі касач.
Хацінка ціхая.
Там жыў
Стары Андрэй-скрыпач.

Гэта мінулая адзінота вясёлай чалавечай душы прывяла Андрэя да таго, што ён стаў нейкі загадкавы: ён абходзіў нават куст, каб не сагнаць птушкі, якая пяе. І хоць аўтар пра гэта не гаворыць, але чытаеш паміж радкоў, што гэты дужы чалавек, сілач, вясёлая душа, быў адзінокі ва ўсім свеце і напэўна баяўся кожнага чалавека ў жыцці, баяўся самога жыцця.

А вось перад намі выступаюць нашы сучаснікі, людзі, якія не ведаюць, што такое адзінота, людзі вялікай упэўненасці і сілы. І адразу мяняюцца ў Броўкі не толькі фарбы верша, але і сама інтанацыя:

А мы,
Што многа год таму
Стаялі пад акном,—
З-пад гэбля зладзілі яму
Як след сасновы дом.

Нават смутак у гэтых людзей свой, адменны: у ім няма ні кроплі роспачы, а ёсць нейкая вялікая затоеная сіла, якая родзіцца ад непарушнай веры ў жыццё, ад усведамлення таго, што чалавек стаіць на зямлі, што ён гаспадар жыцця і што свет належыць яму:

І перадалі смутак наш
Прасторам жоўтым ніў —
Зайгралі мы Андрэеў марш,
Што нам аддадзен быў.

Так выглядаюць нашы сучаснікі ў штодзённым мірным жыцці — простыя і непасрэдныя ў сваіх пачуццях, у сваёй любві да краіны, упэўненыя ў сваім сучасным і наступным, поўныя фізічных і душэўных сіл. Але вось яны ў якасці танкістаў трапляюць на фронт. Радзіма і партыя дала ім заданне:

Прарвацца ў тыл,
У сем назад,—
Такі атрыманы загад.

У гэтых абставінах якасці савецкага чалавека памнажаюцца на храбрасць і гераізм. Але танкісты трапілі ў засаду. І вось

У вочы пырснула агнём...
Сказаць старэйшы змог:
— Ну, што ж, таварышы, памром?..
— Памром!..— сказалі ўтрох.

Паэт пакуль што рысуе толькі карціну, і мы яшчэ не адчуваем той інтанацыі, з якой было сказана гэта страшнае слова: памром — з засмучэннем? з адчаем? з надзеяй? Належную інтанацыю паказвае толькі канцоўка:

Ляцеў у далечы вякоў
Магутны гімн бальшавікоў.

Ва ўсіх гэтых і іншых надзвычай удалых кампазіцыйных завяршэннях многіх вершаў выявілася не толькі майстэрства Броўкі як паэта; тут выявілася ў першую чаргу і закончанасць паэтычнай думкі як вынік непасрэднага і глыбокага адлюстравання настрояў і пачуццяў сучаснага чалавека. На жаль, я не маю ніякай магчымасці спыняцца ў паасобку на кожным вершы, каб даводзіць гэта. Лічу яшчэ неабходным закрануць толькі некалькі інтымна-лірычных і, асабліва, пейзажных вершаў, дзе на першы погляд, як я ўжо казаў, чалавечы воблік цяжка і заўважыць.

Мы ўсе і досыць часта любім паўтараць, што савецка-

му чалавеку нішто жывое і чалавечае не чужое. Між тым у творчасці мы аб гэтым забываемся. Броўка ўспомніў і напісаў некалькі прырода-апісальных і бытавых вершаў, прычым, здолеў на гэтую старую тэму сказаць па-новаму, здолеў асвятліць яе вялікім пачуццём новага чалавека. Вазьміце верш «Бор» — гэта амаль сімвал. (Заўважу ў дужках для аматараў сімвалізму, што гэта нічога агульнага з апошнім не мае.) Рэальная, ярка выпісаная карціна старадаўняга бору, які непакорна змагаецца з няшчаднай бурай і дружнай сям'ёй абараняе сябе і хаціны сяліб... Як яна нагадвае чытачу карціну чалавечага змагання, змагання нашай краіны з капіталістычным светам! І колькі сілы і пачуцця веры ў дружную сям'ю абуджае гэты верш!

Тое ж самае і верш «Дождж». Да гэтага верша, мне здаецца, больш як да якога іншага можна дапасаваць словы Бялінскага аб тым, што часта ў лірычным вершы не так важна карціна, колькі тое пачуццё, якое яна выклікае. А гэта пачуццё надзвычай ярка выражана ў вершы ў двух апошніх строфах. Тут і багацце сіл, і жаданне бітвы, і смага жыцця, і, нарэшце, цвёрдая вера ў наступнае:

Цераз вясёлкі бачыць зрок
Зялёную траву.

Гэты ж комплекс пачуццяў выклікае і верш «Мяцеліца». Праўда, тут напружанне пачуцця дасягае яшчэ большай сілы. Яно тут ускладняецца і трывогаю за каханага чалавека, і смуткам аб ім, надзеяй на скорае спатканне, і музыкаю самога верша, якая не зможа зачараваць хіба ўжо зусім раўнадушнага да паэзіі і да хараства чалавека.

Нарэшце возьмем вершы «Мы з табой хадзілі часта ў поле» і «Гэты кветкамі-пухам абсыпаны сад», у першым з якіх так многа празрыстасці ў вобразах і душэўнай чыстаты ў пачуццях, а ў другім — маладосці і вясны, неўціхамірнага жадання вечна кудысьці імкнуцца, і вялікіх, часамі нават нязбытачных надзей:

Будзем мёд сабіраць мы з пахучых далін...
Сядзем потым спачыць мы пад лістам адным.
Згодна ты?..
Ты маўчыш...
Паляцім?!
Паляцім.

Вядома, ёсць і ў гэтых вершах і ў іншых няўдалыя мясціны, а ў кнізе ёсць нават цэлыя няўдалыя вершы. Я не гавару ўжо пра такі сухі верш, як «Паэт», але нават

і такі верш, як «Рыбак», зроблены па ўсёй форме «канкрэтнай дэталі», не выклікае ніякага пачуцця.

Аднак не гэтыя вершы і не дробныя недахопы вызначаюць характар новай кнігі Петруся Броўкі. Яго вызначаюць вершы, у якіх цэнтральнае месца займае чалавек, яго пачуцці і думы, дармо што гэтыя вершы напісаны часамі аб дажджы ці аб крыніцы. У гэтых вершах Пятрусь Броўка зрабіў надзвычай удалую спробу перадаць жывыя пульсы чалавечага пачуцця так, што пад імі адчуваецца магутнае сэрца людзей нашага часу. А праўдзівасць і непасрэднасць пачуцця вызначылі ў сваю чаргу і разнастайны характар рытмічнага рысунку і строфікі. Гэта кніга ў гэтым сэнсе самая багатая не толькі ў творчасці самога Броўкі, а і ўсіх нашых маладых паэтаў. І, мне здаецца, што няма ніякага сэнсу цягнуць Броўку да інтанацыйнага верша на той толькі аснове, што ён, як гаворыць тав. Бярозкін, быццам бы «паэт-прамоўца, паэт строга вызначанай інтанацыйнай устаноўкі».

Броўка стаіць на правільным шляху. Ён не толькі пашырыў круг сваёй тэматыкі, ён змяніў свой падыход да тэмы. Хочацца, каб раўналежна ішло і далейшае паглыбленне тэмы.

Калі гэта будзе, то не можа быць ніякага сумнення, што чарговая кніжка Петруся Броўкі будзе новым поспехам у нашай паэзіі.

*Жнівень, 1940 г.*

## АДАМ МІЦКЕВІЧ

26 лістапада 1940 года споўнілася 85 год з дня смерці геніяльнага пісьменніка польскага народа Адама Міцкевіча. Ушанаванне памяці паэта ў сувязі з гэтай датай адбывалася ў нашай дружнай, шматнацыянальнай краіне ў абставінах велізарнай зацікаўленасці яго творчасцю, жыццём і працай. Ва ўсіх самых блізкіх і далёкіх мясцінах нашай неабдымнай Радзімы друкаваліся артыкулы аб творчасці Адама Міцкевіча; на ўсе шматлікія мовы народаў Савецкага Саюза перакладаліся вечна жывыя і вечна свежыя яго творы. З асаблівай зацікаўленасцю падышлі да творчасці Адама Міцкевіча чытачы нашай краіны, той кра-

іны, дзе нарадзіўся, рос і пачынаў сваю работу вялікі польскі паэт. І многім пры гэтым міжвольна прыйшлі на памяць радкі, прысвечаныя Адаму Міцкевічу ягоным сучаснікам, геніем рускага народа, Аляксандрам Сяргеевічам Пушкіным:

Он между нами жил
Средь племени ему чужого, злобы
В душе своей к нам не питал, и мы
Его любили. Мирный, благосклонный,
Он посещал беседы наши. С ним
Делились мы и чистыми мечтами,
И песнями.

І сапраўды, у самым літаральным сэнсе гэтага слова, Адам Міцкевіч жыў сярод нас, сярод нашых продкаў, дзелячыся з імі і чыстымі марамі, і песнямі. Але, жывучы на гэтай зямлі, Адам Міцкевіч жыў, па-сутнасці, у іншай краіне, зусім непадобнай на сучасную, бо жыў ён у іншую, далёкую ад нас эпоху. Сваімі найбольш істотнымі старанамі гэта эпоха адлюстравалася ў паэзіі Адама Міцкевіча і пэўным чынам абумовіла і яе вышыні і яе зрывы.

Што ж гэта была за эпоха? Для Захаду гэта была эпоха канчатковага распаду феадалізму і эпоха буржуазных рэвалюцый. Для Польшчы гэта была эпоха развалу, заняволення яе суседнімі дзяржавамі і эпоха паўстанняў за нацыянальную незалежнасць.

Польшча перад яе падзеламі паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй была рэспублікай дваранскай, заснаванай на эксплуатацыі прыгоннага сялянства, рэспублікай выключна для шляхты, тым часам, як усё іншае насельніцтва не карысталася ніякімі правамі. Вышэйшым органам улады ў дзяржаве быў сейм. Кожны дэпутат сейма карыстаўся правам апратэставаць і сарваць любую пастанову сейма. Пры такіх парадках моцнай улады, вядома, быць не магло. Не было ў Польшчы і моцнай арміі, таму што шляхта, абараняючы свае класавыя інтарэсы, была супроць стварэння сталай арміі, на якую мог бы ў выпадку чаго абаперціся кароль у сваім змаганні супроць шляхты. Не было ў Польшчы і трэцяй сілы, якая магла б зламаць існуючы лад і ўстанавіць новы парадак, таму што сялянства было прыгоннае, гарады не развіваліся і буржуазія была вельмі слабая, вынікам чаго Расія, Аўстрыя і Прусія ў канцы васемнаццатага стагоддзя падзялілі Польшчу паміж сабою.

«Падзел Польшчы ажыццявіўся дзякуючы саюзу буйнай феадальнай арыстакратыі ў Польшчы з трыма дзяржавамі, якія прымалі ўдзел у падзеле. Ён зусім не быў

прагрэсам... а быў апошнім сродкам для вышэйшай арыстакратыі выратаваць сябе ад рэвалюцыі, ён быў таму наскрозь рэакцыйным». (Маркс — Энгельс, т. VI, стар. 383.)

У выніку падзелу адбываецца збліжэнне дробнай шляхты, мяшчанства гарадоў, а часткова нават і сялян для змагання як супроць чужаземных прыгнятальнікаў, так і супроць сваёй польскай арыстакратыі. Успыхваюць адно за другім паўстанні: паўстанне Касцюшкі 1794 г., паўстанне 1830 г., Кракаўскае паўстанне 1846 г. і рад іншых больш дробных.

Самы актыўны ўдзел у гэтых паўстаннях брала дробная шляхта, якая ў выніку падтрымання царскім урадам буйных польскіх магнатаў бяднела ўсё больш і больш і папаўняла сабою рады вясковых земляробаў, гарадскога рамесніцтва і інтэлігенцыі.

Такім чынам, змаганне палякаў за сваю нацыянальную незалежнасць ператваралася ў змаганне за свабоду, за дэмакратыю большай часткі народа. Вось чаму, ацэньваючы польскі паўстанскі рух, Ленін гаворыць, што «пакуль народныя масы Расіі і большасці славянскіх краін спалі яшчэ непрабудным сном, пакуль у гэтых краінах не было самастойных, масавых, дэмакратычных рухаў, шляхецкі вызваленчы рух у Польшчы набываў гіганцкае, першаступеннае значэнне з пункту погляду дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, але і ўсееўрапейскай». (Ленін, т. VII, стар. 457.)

Вось гэты шляхецка-вызваленчы рух і парадзіў у Польшчы рамантычную паэзію, геніяльным прадстаўніком каторай з'явіўся Адам Міцкевіч.

Адам Міцкевіч нарадзіўся 24 снежня 1798 года ў сям'і дробнага шляхціца, навагрудскага адваката Мікалая Міцкевіча. Дзіцячыя гады паэта прайшлі сярод велічнай і прыгожай прыроды Беларусі, сярод простых людзей, у асяроддзі, абвеяным казкамі, легендамі і песнямі.

У 1806 годзе бацькі аддаюць Адама ў дамініканскую школу ў Навагрудку.

Па сканчэнні гэтай школы Адам Міцкевіч быў у 1815 г. залічан студэнтам філалагічнага факультэта Віленскага універсітэта. Віленскі універсітэт у той час быў цэнтрам перадавой навукі ў тагачаснай так званай Літве і адначасна быў асяроддзем перадавой патрыятычна настроенай моладзі. У сценах універсітэта ствараюцца розныя таварыствы, якія ставяць сваёй мэтай змаганне за айчыну, уда-

скаваленне ў навуках і маральнае ўзвышэнне сваіх членаў. 1-га кастрычніка 1817 года быў зацверджаны статут такога легальнага таварыства пад назвай філаматаў. На чале яго стаяў Томаш Зан. Адам Міцкевіч кіраваў секцыяй літаратуры і маральных навук гэтага таварыства. Члены таварыства чыталі рэфераты на сваіх пасяджэннях, абмяркоўвалі творы, рабілі прагулкі за горад.

На гэты час прыпадаюць першыя вершаваныя спробы Адама Міцкевіча. Некаторыя з гэтых твораў, як, напрыклад, «Гарадская зіма», былі ўжо ў 1818 годзе надрукаваны ў «Тыгодніку Віленскім».

У 1818 годзе Адам Міцкевіч скончыў Віленскі універсітэт і быў прызначаны ў Ковенскую гімназію выкладчыкам латыні. Аднак сувязі з Віленскім універсітэтам паэт не парывае. Ён часта наведвае сваіх сяброў у Вільні, прысутнічае на пасяджэннях новаарганізаванага таварыства «Філарэтаў», прымае актыўны ўдзел у спрэчках, чытае свае новыя творы.

Аднак, нягледзячы на частыя выезды ў Вільню, Міцкевіч адчувае ў Коўне вялікую адзіноту. Адзіным паратункам ад яе служыць работа. І паэт працуе многа і ўпарта. Як відаць з прадмовы да першага томіка паэзіі, Міцкевіч добра ўжо ведае ў гэты час і старажытную грэчаскую і рымскую літаратуру, і літаратуру сярэдніх вякоў, і новую. Ён перакладае ўрыўкі з твораў Гарацыя і Авідыя. Ён многа піша і сам, піша ў новай рамантычнай манеры. Першым найбольш яркім творам гэтага кірунку была «Ода да маладосці», якая стала сцягам і лозунгам рэвалюцыйна настроенай універсітэцкай моладзі. У гэтым вершы Міцкевіч няшчадна бічуе эгаізм і забабоннасць, услаўляе дружбу і заклікае моладзь да служэння бліжнім, апявае тых, хто лёг сваім целам за агульную справу і тым самым стаў для другіх прыступкаю ў сад славы. Канчаецца верш заклікам, поўным упэўненасці ў надыход лепшай будучыні:

Вітай жа заранку свабоды,<br>За зоркаю сонца збавення!

Многія выразы з гэтай оды сталі прыказкамі, а сама ода, поўная пачуцця энтузіязму, волі да барацьбы і веры ў лепшую будучыню, стала праграмай дзейнасці паэта на ўсё жыццё. Высока-грамадскую ідэю служэння народу, выказаную ў гэтым вершы, паэт пранёс у благародным сэрцы аж да канца сваіх дзён, часамі збіваючыся з вернай даро-

гі, але ніколі, нават блукаючы ў цемры містыкі, не здрадзіўшы лозунгу свабоды, справядлівасці і гуманнасці.

Ужо ў сваёй першай кнізе паэзіі, у якой былі сабраны балады і рамансы, напісаныя пераважна паводле матываў беларускіх народных легенд і песень, гэта высокая грамадская ідэя, ідэя суровага і непазбежнага пакарання за прычыненыя народу крыўды, ідэя гуманнасці і справядлівасці гучыць досыць выразна. З яшчэ большай сілай яна выражана ў другім томіку паэзіі Адама Міцкевіча, які выйшаў з друку ў 1823 годзе, праз год пасля першага. У змешчанай тут другой частцы драматычнай паэмы «Дзяды» матывы сацыяльнай барацьбы, пратэст супроць прыгнечання і эксплуатацыі сялянства набываюць выразны рэвалюцыйны пафас.

Першыя томікі паэзіі Міцкевіча стварылі ў польскай літаратуры цэлую эпоху. Слава паэта грыміць з нечуванай дагэтуль сілай. Але Міцкевічу не шэнціла пажаць плады гэтай славы. Царскі ўрад, устрывожаны папулярнасцю паэта і нарастаннем рэвалюцыйнага руху, пачынае паход супроць усякіх праяў грамадскай дзейнасці, асабліва ў польскіх землях. У 1823 г. пачынаецца следства аб тайных таварыствах у Польшчы і Літве. 23 кастрычніка Міцкевіча, у ліку іншых 108 філарэтаў і філаматаў, арыштоўваюць і заключаюць у турму ў сценах старога базыльянскага манастыра ў Вільні.

Праз шэсць месяцаў турэмнага заключэння, 21 красавіка 1824 г. Міцкевіч быў выпушчаны з турмы на парукі прафесара Іахіма Лелевеля.

Выйшаў Міцкевіч з турмы новым, перароджаным чалавекам. У душы яго адбыўся вялікі пералом. Ён канчаткова адрокся ад рамантычных пошукаў шчасця асобы дзеля змагання за шчасце сваёй пакутнай краіны і народа, прысвяціўшы ім усё сваё жыццё і здольнасці. З рамантычнага летуценніка з яго туманнымі ідэаламі дабра і красы, ён стаў разважлівым і загартаваным змагаром супроць царызму і дэспатыі. Пазней, у трэцяй частцы «Дзядоў», паэт так адлюстраваў гэты пералом праз свайго героя Густава, які напісаў на сценах турмы: «Густаў памёр лістападаўскай ноччу 1823 г., тут нарадзіўся Конрад лістападаўскай ноччу 1823 г.»

22 кастрычніка 1824 г. Міцкевіч атрымаў загад праз дзень выехаць пад канвоем жандараў у Пецярбург. Рускі даследчык і крытык Багдановіч на падставе пэўных дакументаў расказвае, што на адным са сходаў перад ад'ездам

у Расію, калі Ян Чачот, які пісаў і па-беларуску, заспяваў сваю новую беларускую песню «Да лятуць, лятуць, шэрыя гусі, да нас павязуць да далёкай Русі», Міцкевіч увесь пабялеў, папрасіў аднаго з прысутных іграць ціхую маркотную мелодыю на флейце і пачаў імправізаваць баладу, у якой апісваў выезд у далёкую краіну, і закончыў яе нейкім дзіўным прарочым тонам, што да глыбіні душы ўразіў усіх слухачоў, якія яшчэ ніколі не бачылі паэта ў такім настроі. Магчыма, што тэмай гэтай імправізацыі была тэма, якая атрымала сваё выражэнне ў вершы «Марак». Прынамсі, настроі імправізацыі і гэтага верша былі, напэўна, вельмі блізкія. У гэтым вершы марака дакараюць, што ён спяшае выехаць з роднага краю і пакідае яго вясёлы, з усмешкаю. На гэта марак адказвае, што бачанае ім у родным краі не магло абуджаць у сэрцы пачуцця вясёласці. Але цяпер ён пазнаў маці з сэрцам спартанкі і моцную духам яе дачку, і ўжо будучыня яго не палохае:

Зведаў! І будучнасць больш не пужае...
Ветразі ўгору, браток!
Едзьма! Не згіне айчына, што мае
Матак такіх і дачок.

З такою верай і надзеяй выехаўшы 24 кастрычніка 1824 г. з Вільні, Міцкевіч прыбыў у Пецярбург 9 лістапада. У Пецярбургу паэт пазнаёміўся з дзекабрыстамі Бястужавым і Рылеевым. Знаёмства хутка перайшло ў самае цёплае сяброўства, сведчаннем чаго з'яўляюцца выдатныя радкі з верша Міцкевіча «Рускім прыяцелям», а таксама рэкамендацыйнае пісьмо Рылеева да Туманскага, у якім Рылееў пісаў: «Мілы Туманскі! Палюбі Міцкевіча і сяброў яго Малеўскага і Яжоўскага: добрыя і слаўныя хлопцы. Зрэшты, і пісаць лішне: па пачуццях і думках яны ўжо сябры, а Міцкевіч да таго ж і паэт — улюбёнец сваёй нацыі».

З гэтым рэкамендацыйным пісьмом, па загаду начальства Міцкевіч у лютым 1825 г. выязджае з Пецярбурга ў Адэсу выкладчыкам у Рышальеўскі ліцэй. У час прабывання на поўдні Міцкевіч зрабіў падарожжа па Крыме, вынікам чаго з'явіліся яго вядомыя «Крымскія санеты». Але начальства было занепакоена прабываннем Міцкевіча на поўдні, і цар патрабуе вярнуць паэта з паўднёвых губерняў і выслаць яго як мага далей ад Польшчы. У выніку гэтага загаду Міцкевіч у снежні 1825 г. прыехаў у Маскву і з 1 лютага быў залічаны ў штат канцылярыі Маскоўскага ваеннага генерал-губернатара. У Маскве Міцкевіч знаё-

міцца і блізка сходзіцца з маскоўскімі літаратарамі, а ў сярэдзіне кастрычніка знаёміцца і завязвае цесную дружбу з геніем рускай літаратуры А. С. Пушкіным. Міцкевіча прымаюць усюды радасна і цёпла, ён часта сустракаецца і гутарыць з Пушкіным, з вялікім поспехам выступае на літаратурных вечарах са сваімі імправізацыямі, да якіх у Міцкевіча быў незвычайна вялікі дар.

Знаёмства з рускімі літаратарамі і з рускім перадавым грамадствам значна пашырылі жыццёвыя і літаратурныя гарызонты Міцкевіча.

Паэтычны талент паэта вырас і памужнеў. Вырасла і паэтычная слава Міцкевіча сярод рускіх, асабліва з выхадам у Маскве ў 1826 г. яго крымскіх санетаў. У гэтых санетах Міцкевіч у смелых, некалькі ў стылі ўсходняй паэзіі, вобразах малюе веліч крымскай прыроды і на яе фоне свае перажыванні, свой смутак па далёкай і любай радзіме. Але гэтыя перажыванні і смутак былі перажываннямі ўжо мужнай і моцнай духам асобы.

Санеты выклікалі ў Варшаве рэзкія нападкі з боку прадстаўнікоў класічнай паэзіі. Але ў Маскве яны выклікалі самае шчырае захапленне, і іх адразу ж сталі перакладаць і прозай (паэт Вяземскі), і вершам (паэт Казлоў). У прадмове да празаічных перакладаў гэтых санетаў Вяземскі ў часопісе «Московский телеграф» за 1827 г. пісаў: «...крытыцы застаецца толькі пахваліць у польскім паэце багацце, раскошу ваабражэння, моцнае і жывое пачуццё паэтычнае, якое ў яго ўсюды выдаецца, і ў верным выражэнні пераліваецца ў душу чытача: майстэрства незвычайнае, з якім умеў ён уцясніць у старую раму санета карціны поўныя і часта іспалінскія».

Аднак ні шырокія і цікавыя сувязі з рускімі літаратарамі, ні цёплы іх прыём, ні слава не маглі заглушыць у Міцкевіча тугі па радзіме. Яе лёс, яе сучаснасць і будучыня неадступна хвалююць паэта. Але ва ўмовах чорнай рэакцыі царызму пісаць пра гэта адкрыта не было ніякай магчымасці. І Міцкевіч выбірае для сваёй новай паэмы «Конрад Валенрод» гістарычны сюжэт з жыцця Літвы, які як быццам бы не мае ніякага дачынення да злабадзённых тагачасных польска-рускіх адносін. Да выдання гэтай паэмы, выпушчанай у Пецярбургу ў лютым 1882 г., пасля пераезду туды з Масквы Міцкевіча, паэт піша спецыяльную прадмову, у якой ён называе цара клапатлівым бацькам усіх плямён яго дзяржавы. Зразумелая рэч, што гэта было сродкам толькі ашукаць недаверлівую царскую цэнзуру,

аб чым ужо за межамі гаворыць сам Міцкевіч у пасланні «Рускім прыяцелям».

Такім чынам і далёкі гістарычны сюжэт, і прадмова былі толькі вэлюмам, з-пад якога Міцкевіч адкрываў сваім землякам і сваім рускім сябрам праўду сваіх дум і намераў у паэме «Конрад Валенрод». Польская і еўрапейская крытыка прызнала гэту паэму адным з самых выдатных твораў сусветнай літаратуры. Ідэя паэмы выклікала гарачыя спрэчкі. У чым жа сутнасць і ідэя гэтай паэмы?

Конрад Валенрод, галоўны герой паэмы, быў калісьці літвінам. У маленстве, у час нападу крыжакоў на Літву, ён быў узяты ў палон. Там яго ахрысцілі і далі імя Вальтэр Альфа. У замку, у якім ён выхоўваўся, знаходзіўся стары літоўскі вайдэлот (народны пясняр). Ён абудзіў у Вальтэра пачуццё любасці да прыгнечанай Літвы, і Альфа ў час бойкі паміж крыжакамі і літоўцамі пераходзіць да літоўцаў. Ён пасяляецца ў літоўскага князя Кейстута і жэніцца з яго дачкою Альдонай. Тым часам напады крыжакоў на Літву не спыняюцца. Страціўшы ўсякую надзею адстаяць Літву сілаю зброі, Вальтэр Альфа пад імем Конрада Валенрода ўступае ў ордэн крыжакоў, дабіваецца там пасады магістра і сваёю здрадаю прыводзіць ордэн да пагібелі, а сам канчае жыццё самагубствам.

У гэтай паэме безумоўна адчуваецца ўплыў Байрана і Шылера, але поруч з гэтым у ёй ёсць таксама і ўплыў твораў Макіавелі, эпіграф з якога Міцкевіч узяў для паэмы. На гэтай аснове некаторыя крытыкі вінавацілі паэта ў макіавелізме, бачачы ў паэме быццам бы апраўданне і апаэтызацыю здрады. Але Конраду Валенроду па самай яго натуры агідна ўсякая здрада, усякія нягодныя сродкі змагання. Учынак Валенрода ёсць для яго суровая і непазбежная неабходнасць. Паступкамі Конрада кіравалі не асабістыя меркаванні, не яго злая натура, а выключна грамадская неабходнасць. І ў барацьбе паміж гэтай грамадскай мэтазгоднасцю, паміж служэннем прыгнечанай радзіме і паміж простымі, звычайнымі асновамі чалавечай маралі і заключаецца драма Конрада Валенрода, драма, якая прыводзіць яго да страшэннага душэўнага спусташэння. У гэтым веліч паэмы, у той час як яе слабасць у тым, што Міцкевіч не бачыў яшчэ рэальных сіл народных мас, якія толькі адны і маглі прынесці вызваленне яго радзіме. У гэтым была трагедыя самаго Міцкевіча.

Паэма «Конрад Валенрод» была апошняй данінай паэта індывідуалістычнаму рамантызму, пасля чаго ён усё больш

і больш пераходзіць да сацыяльных пытанняў, да ўсхвалення пафасу барацьбы. Такім пераходным творам з'яўляецца верш «Фарыс», які пэўным чынам пераклікаецца з ранняй «Одай да маладосці» і адначасна, па сваіх настроях, блізка стаіць да паэмы «Конрад Валенрод». З гэтай паэмай яго зближае агністае пачуццё нянавісці да ўсякага прыгнечання і велізарнае імкненне да волі. Але ў вершы «Фарыс» няма таго смутку, які пранізвае паэму; у ім гучыць велізарная ўпэўненасць у перамозе, і ў гэтым ён пераклікаецца з «Одай да маладосці».

У 1829 г. з Пецярбурга Міцкевіч выехаў за мяжу. Падарожжа і жыццё ў Германіі, Швейцарыі, Італіі і Францыі прынесла яму многа новых уражанняў і вобразаў. Пад гэты час у ноч на 29 лістапада 1830 г. у Польшчы ўспыхнула паўстанне. Вестка аб ім дайшла да Рыма, дзе жыў у той час Міцкевіч, толькі ў пачатку снежня. Яна ўсхвалявала паэта да глыбіні душы. Міцкевіч лічыў сваім абавязкам, абавязкам ідэйнага правадыра нацыянальна-вызваленчага руху быць сярод паўстаўшых. Але з розных прычын, у першую чаргу з прычыны цяжкіх матэрыяльных умоў, выехаць у Польшчу Міцкевіч не змог. Толькі вясной 1831 г. ён выехаў з Рыма і праз Жэневу і Парыж у жніўні прыехаў у Пазнань. Паўстанне ішло на спад. Хутка рускія войскі занялі Варшаву. Паўстанцы перайшлі цераз прускую граніцу. І адразу ж у асяроддзі польскай эміграцыі пачынаецца распад і раздробленасць на розныя партыі і групы. Міцкевіч імкнецца прымірыць іх усіх і ўнесці ў асяроддзе эміграцыі ідэю рэвалюцыйна-патрыятычнага адзінства. З небывалай сілай у паэта прачынаецца творчы ўздым. «...На працягу гэтых некалькіх тыдняў не выпускаю з рук пяра»,— піша ён 26 красавіка 1832 г. з Дрэздэна. У Дрэздэне ж у першай палове 1832 г. ён піша «Кнігі народа польскага і польскага пілігрымства», якія неўзабаве былі выдадзены ў Парыжы, стаўшым цэнтрам польскай эміграцыі.

Кнігамі гэтымі, напісанымі пад стыль біблії, паэт безумоўна меў на мэце ў першую чаргу суцешыць роспач эмігрантаў, пагадніць іх паміж сабой, абудзіць іх гордасць і пашану да сябе саміх, уліць у іх сэрцы кроплю веры і надзеі. Але якое суцяшэнне мог прапанаваць Міцкевіч? Які сацыяльна-палітычны ідэал ён мог прадставіць, каб захапіць расчараваных удзельнікаў паўстання? Такога ярка акрэсленага ідэалу будучыні Міцкевіч, на жаль, не меў сам. І ён звярнуўся да мінулага, да гісторыі і, у прыватна-

сці, да гісторыі Польшчы. Па яго думцы гісторыя народаў была гісторыя барацьбы паміж хрысціянскай ідэяй братэрства і вольнасці і паміж паганскім пакланеннем розным ідалам, у прыватнасці, ідалу, які Міцкевіч называе інтэрасам. Перамог скрозь у Еўропе ідал, і народы папалі ў няволю. Верным хрысціянству застаўся адзін польскі народ. «І даў бог,— піша Міцкевіч,— каралям польскім і рыцарам вольнасці, і ўсе называліся братамі, і найбагацейшыя і найбяднейшыя». І далей: «а нарэшце кароль і рыцарства дня трэцяга мая задумалі ўсіх палякаў зрабіць братамі, спачатку мяшчан, а потым і сялян». Але каралі забілі і пахавалі вольнасць Польшчы. Засталася жывая душа, яна злучыцца з целам, народ уваскрэсне з мёртвых і «вызваліць з няволі ўсе народы Еўропы».

Міцкевіч ідэалізуе, безумоўна, і польскую дваранскую рэспубліку, і канстытуцыю 1791 г., якія былі знішчаны да Міцкевіча і былі абвеяны легендамі змагання за іх, хоць на самай справе, як мы ведаем, ніякай вольнасці народу яны не давалі. Але поруч з гэтай ідэалізацыяй шляхецкай дзяржаўнасці, поруч з нацыяналістычным месіянізмам мы маем у «Кнігах пілігрымства польскага» выказванні надзвычай прагрэсіўныя, рэвалюцыйныя, у якіх Міцкевіч, па сутнасці, парывае з польскім шавінізмам. «Беднякі і жабракі — роўныя са мной уладары», «усе гавані, моры і землі ёсць уладанні вольных народаў»; «там айчына, дзе дрэнна; бо дзе толькі ў Еўропе ёсць прыгнечанне свабоды і барацьба за яе, там ёсць барацьба за айчыну, і за гэту барацьбу павінны змагацца ўсе»,— піша Міцкевіч у радзе месц сваёй кнігі. Але яснага, канкрэтнага ўяўлення аб будучым палітычным ладзе краіны ён не мае, ды яго гэта не так і цікавіць. «Сапраўды гавару вам,— піша ён у тых жа кнігах,— не старайцеся дазнацца, які будзе лад у Польшчы, досыць вам ведаць, што будзе лепшы за ўсе, якія вы знаеце».

Так, маючы самыя чыстыя намеры, ідучы ад справядлівасці, свабоды і братэрства народаў, Міцкевіч прыходзіць да блытаных, часта афарбаваных у рэлігійны колер, наіўных палітычных канцэпцый. Аднак, кажу ізноў, погляды Міцкевіча на справу вызвалення Польшчы, як на справу агульнаеўрапейскай дэмакратыі, таксама, як і яго погляды на абавязкі кожнага паляка, адданага сваёй радзіме, змагацца за вызваленне прыгнечаных усяго свету, безумоўна, былі рэвалюцыйнымі поглядамі. Іменна гэтыя погляды далі магчымасць Міцкевічу ўбачыць у Расіі поруч з ненавіс-

ным дэспатызмам самаўладства пакуты народа і змагароў за яго вызваленне, што асабліва ярка выражана ва ўступе да трэцяй часткі драматычнай паэмы «Дзяды». Гэта частка была выдадзена таксама ў 1832 г. у Парыжы, хоць пісаць яе Міцкевіч пачаў яшчэ ў Дрэздэне, і поруч з другой часткай «Дзядоў» яна з'яўляецца найбольш яркім выражэннем пратэсту супроць існаваўшага ладу. Прыкладам гэтага з'яўляецца малюнак, у якім Міцкевіч паказвае, як злы і суровы пан нясе па смерці самую жорсткую кару за свае ўчынкі. Ён церпіць смагу і голад, яго дзяўбуць чароды дзікіх птушак, ён просіць хоць бы адну кроплю вады і адно зярно пшаніцы. Але хор начных птушак яму адказвае адмоўна:

Дармо плачаш, трацiш словы.
Мы тут чорнай завірухай,
Крумкачы, вароны й совы,
Твае слугі, што без шкоды
Памарыў ты галадухай,
Спажывём кармы і воды.

Далей птушкі прыпамінаюць крыўды, учыненыя ім панам, калі яны былі яшчэ людзьмі. Аднаго галоднага за сарваны яблык пан прывязаў да сахі і збіў лазою. Другую — удаву з сіротамі, у якой ён забраў дачку ў двор і якая прыйшла прасіць у яго хлеба, пан загадаў гайдуку выгнаць вон, і гайдук выцягнуў яе за валасы. Так адна за другой праходзяць здані — строгія сведкі і суддзі панскай бесчалавечнасці.

У сэнсе паказу пакут народа, у сэнсе гнеўнага пратэсту супроць прыгнечання і здзекаў з чалавека гэтая частка пераклікаецца з трэцяй часткай паэмы. Дзея гэтай часткі адбываецца ў Вільні ў 1824 г. у час следства па справе ўдзельнікаў гурткоў Віленскага універсітэта. Абураны несправядлівасцю і пакутамі нявіннага народа, Міцкевіч вуснамі свайго героя Конрада дакарае самога бога, называючы яго не добрым айцом людзей, а бязлітасным царом.

Не дзіва, што цару і яго акружэнню, яго сенатарам і чыноўнікам, усяму вышэйшаму стану тагачаснага грамадства прысвечаны ў паэме, асабліва ў некалькіх раздзелах уступу, такія ж гнеўныя радкі, як і богу. Міцкевіч малюе бязмежныя пустэльныя прасторы Расіі, з беднымі хацінамі пад саламянымі стрэхамі, з дарогамі, па якіх жандары вязуць схопленых бязвінных і невядомых людзей, з горадам, пабудаваным на людскіх касцях, малюе парады з ваеннай муштрай, са здзекамі і знявагай чалавека. На аснове гэта-

га некаторыя імкнуліся прыпісаць Міцкевічу нянавісць да ўсяго рускага народа. Безумоўна, гэтага ў Міцкевіча не было, і тут меў рацыю Луначарскі, які пісаў: «Мы можам чытаць гэтыя ядавітыя радкі з гордасцю, таму што іменна нам удалося пакончыць з тым кашмарам, які прыводзіў у такі жах Міцкевіча і які прымушаў яго на такую бязмежную нянавісць». Тым больш гэта справядліва, што Міцкевіч ненавідзеў толькі царызм і тых, хто падтрымліваў яго, адначасна прыхільна, з любасцю, ставячыся да ўсіх тых, хто змагаўся супроць царскай дэспатыі. Аб гэтым сведчыць прысвячэнне «рускім прыяцелям» у той жа трэцяй частцы «Дзядоў».

«Ці ўспамінаеце вы мяне? — піша Міцкевіч.— Я заўсёды думаю аб смерцях, выгнаннях і турэмных заключэннях маіх сяброў, думаю і аб вас: вашы чужаземскія воблікі маюць права грамадзянства ў маіх марах. Дзе ж вы цяпер? Благародная шыя Рылеева, якую я абдымаў як братнюю, вісіць, па загаду цара, прывязаная да ганебнага дрэва». І далей: «Тая рука, якую мне падаваў Бястужаў, пясняр і салдат, тая рука ад пяра і зброі адарвана, і цар яе запрог у тачку: сягоння яна капае ў рудніку, скутая поруч з польскай далонню». І яшчэ: «Калі да вас здалёку, ад вольных народаў, аж на поўнач залятуць гэтыя сумныя песні і адгукнуцца зверху над краінай ільдоў, няхай яны спавяшчаюць вам волю, як жураўы вясну. Пазнаяце мяне па голасе; пакуль быў у аковах, поўзаючы моўчкі як вуж, ашукваў дэспата, але вам адкрыў тайны, замкнутыя ў пачуццях, і для вас меў заўсёды галубіную прастату. Цяпер выліваю на свет гэтую чару атруты; горыч майго слова пажырае і паліць, горыч гэта высcана з крыві і са слёз маёй айчыны; няхай жа яна пажырае і паліць не вас, а вашы аковы».

Паэма «Дзяды» самы выдатны твор у паэзіі Адама Міцкевіча і адзін за самых выдатных твораў у сусветнай літаратуры як па сіле сацыяльнага пратэсту, як па сіле вобразаў, поўных вялікай чалавечай страсці, так і па сіле гібкага і суровага верша, які гучыць і звініць, як вылітьі са сталі.

Перад выданнем паэмы «Дзяды» Міцкевіч прыехаў у Парыж. У Парыжы паэт жыў у самоце, у невялікім гуртку блізкіх сяброў і прыяцеляў. І, як і заўсёды, ляцеў да радзімы, жыў успамінамі аб ёй. Вынікам гэтых успамінаў была вялікая эпічная паэма ў 12 песнях «Пан Тадэвуш», самы рэалістычны твор рамантычнага Міцкевіча, па-

чаты яшчэ ў 1832 г. і скончаны ў 1834 г. Гэта паэма была лебядзінай песняй паэта, таму што пасля яе не толькі нічога такога буйнога, а і чаго-небудзь больш-менш выдатнага Міцкевіч ужо не напісаў.

У чым жа яе вялікасць? Вялікасць яе ў тым, што яна дае шырокую і поўную карціну шляхецкага жыцця на пачатку XIX стагоддзя ў яго прыватных і грамадскіх узаемадачыненнях, у дробных і важных падзеях, у хвіліны абыдзённага жыцця і агульнага патрыятычнага ўздыму. Карціна напісана ў рэалістычных вобразах, з сумленнасцю шчырага мастака. Тут паказаны і станоўчыя рысы побыту і характараў герояў, але не абойдзены і дабрадушна высмеяны і іх адмоўныя рысы.

У паэме перакрыжоўваюцца некалькі сюжэтных ліній, асноўная з якіх — гэта спрэчка за замак паміж Сапліцамі і Гарэшкамі з апошнім наездам шляхты і каханне Тадэвуша і Зосі. Усё гэта адбываецца на фоне блізкага прыходу Напалеона, які абудзіў сярод шляхты спадзяванні і размовы аб аднаўленні Польшчы. Дзея паэмы часта перарываецца адступленнямі, эпізодамі палявання, гульнямі, цудоўнымі малюнкамі прыроды.

Міцкевіч выступае перад чытачом у гэтай паэме то важна спакойным, калі паказвае важнае, то дабрадушна ўсмешлівым, калі малюе што дробязнае, але скрозь яго адносіны да паказанага — цёплыя і пранізаны некаторым смуткам аб усім гэтым далёкім, але дарагім. Праўда, гэта не перашкодзіла паэту паказаць шляхту такою, якой яна была сапраўды з яе дробнымі сваркамі і звадкамі, дробязнай яе ганарлівасцю, няздольнай да агульнага дзеяння ў вялікай справе, падатлівай на ўсякія авантуры, як апісаны заезд, адным словам, паказаць шляхту такой, якая ніякім чынам не можа стаць апорай у нацыянальна-вызваленчым руху. У гэтым і заключаецца заслуга Міцкевіча, у якім мастак-рэаліст перамог абмежаванасць свайго класа. Дэмакратычныя погляды паэта дапамаглі яму аб'ектыўна падысці да шляхецкага асяроддзя і стварыць паэму нечуванай сілы, аб якой крытык праўдзіва сказаў: «Наша стагоддзе ганарыцца толькі адной сапраўднай эпапеяй, але не нямецкай і не англійскай,— гэта «Пан Тадэвуш» Міцкевіча».

На жаль, гэта паэма была апошнім творам вялікага паэта. Пасля яе ён нічога не пісаў, знясілены бесперапынным цкаваннем арыстакратычнай часткі эміграцыі і цяжкою барацьбою за кавалак хлеба. У пошуках гэтага кавалка

хлеба Міцкевіч вымушаны быў у 1838 г. узяць кафедру латыні ў пратэстанцкім універсітэце ў Лазане. Неўзабаве парыжскія сябры Міцкевіча выстараліся яму кафедру славянскіх літаратур у Колеж дэ Франс у Парыжы. Міцкевіч зноў перасяліўся ў Парыж і 22 снежня 1840 г. прачытаў уступную лекцыю. Паэт выдатна валодаў французскай мовай, і хоць веды па славянскіх літаратурах у яго былі невялікія, аднак яго красамоўства і энтузіязм зрабілі яму папулярнасць выдатнага лектара і заваявалі сімпатыі вялікай часткі слухачоў. Праўда, прыхільныя і аб'ектыўныя адносіны Міцкевіча да рускага народа і яго мінулага выклікалі ў шавіністычна настроеных польскіх слухачоў абурэнне, і яны гатовы былі звінаваціць паэта ў здрадзе за кожнае спагадлівае слова ў дачыненні да рускіх. Адам Міцкевіч з гонарам змагаўся супроць гэтага шавіністычнага чаду. На жаль, на другі год Міцкевіч страціў спакойную разважлівасць вучонага і кінуўся ў містыцызм і рэлігію. Змена поглядаў адбылася ў выніку знаёмства Міцкевіча з містыкам і прайдохам Тавіянскім. Тавіянскаму, які з дапамогаю свайго вучэння хацеў абнавіць рэлігію і на гэтым грунце аб'яднаць палякаў і аднавіць Польшчу, патрэбны былі выдатныя людзі, аўтарытэты, якія маглі б прапагандзіраваць яго вучэнне, і ён звярнуўся да Міцкевіча. Змучаны неадступным смуткам па сваёй радзіме, расчараваўшыся ва ўсіх рэальных сродках яе выратавання, Міцкевіч паверыў Тавіянскаму і стаў яго прыхільнікам. На шчасце, у хуткім часе Міцкевіч разарваў з Тавіянскім, пабываўшы ў апошняга ў Цюрыху і не сышоўшыся з ім у поглядах на рэвалюцыйны рух у Еўропе. Міцкевіч адчуваў, што надыходзяць грозныя падзеі рэвалюцыі 1848 г. і што яны прынясуць змены ў жыцці Еўропы і Польшчы. І калі ў Галіцыі пачалася ў 1846 г. расправа з памешчыкамі, Міцкевіч не спужаўся гэтага, як некаторыя рэакцыйныя польскія пісьменнікі, а мужна заявіў, што гэтага заўсёды трэба было чакаць і што гэта справа зусім натуральная.

З такімі шырока-дэмакратычнымі і рэвалюцыйнымі поглядамі сустрэў Адам Міцкевіч рэвалюцыю 1848 г., усёй душой аддаўшыся грамадскай рэвалюцыйнай дзейнасці. Ён арганізаваў польскі легіён на дапамогу італьянцам у іх змаганні супроць аўстрыйскага прыгнёту. У «Палітычным сімвале», складзеным для гэтага легіёна, паэт наступным чынам фармуліруе свае погляды на будучы лад дэмакра-

тычнай Польшчы: «Кожнаму славяніну, які жыве ў Польшчы, братэрства, грамадзянства, роўныя з усімі правы».

Пасля рэвалюцыі 1848 г. Міцкевіч стаў выдаваць газету на французскай мове пад назвай «Трыбуна народаў». Газета была рэспубліканская і радыкальная і хутка была закрыта. На гэтым скончылася і публіцыстычная дзейнасць Міцкевіча. Скора Міцкевіч быў канчаткова адстаўлены і ад кафедры славянскіх літаратур у Колеж дэ Франс і заняў скромную пасаду бібліятэкара пры арсенале ў Парыжы. Але нішто не зламала волі Міцкевіча да барацьбы. У час руска-турэцкай вайны 1854 г. надзеі Міцкевіча на аднаўленне Польшчы ажылі ізноў. Ён прапанаваў французскаму ўраду паслаць яго на ўсход у навуковую камандзіроўку. У верасні паэт атрымаў гэтую камандзіроўку і накіраваўся морам у Канстантынопаль. У Канстантынопалі Міцкевіч захварэў, і 26 лістапада 1855 г. яго ўжо не стала сярод жывых. Цела паэта было перавезена ў Парыж і 21 студзеня 1856 г. пахавана на могілках Манмарансі, а праз трыццаць чатыры з лішнім гады, 4 ліпеня 1890 г. прах паэта быў перанесены ў асобную нішу старадаўняга Вавеля ў Кракаве.

Як бачым, жыццёвы і творчы шлях Адама Міцкевіча быў надзвычай складаны і цяжкі, поўны змагання і працы, вялікіх узлётаў і частых ідэйных зрываў. Але ніводная самая вялікая памылка ў выбары сродкаў не была адступленнем ад раз накрэсленай ідэі свабоды і прагрэсу, і таму перад намі ўстае чысты і благародны воблік вялікага паэта.

У сваіх філасофскіх поглядах Міцкевіч, безумоўна, быў ідэалістам. Паводле яго пераканнняў уся сутнасць грамадскага жыцця заключаецца не ў сацыяльных і палітычных парадках, а ў норавах, у маралі людзей. Але, будучы вялікім мастаком, ён у сваіх лепшых творах («Дзяды», «Пан Тадэвуш») сам супярэчыць сваім установкам і праўдзіва адлюстроўвае істотныя бакі рэчаіснасці таго часу.

У сацыяльных пытаннях Міцкевіч таксама не мог цалкам пазбыцца абмежаванасці свайго класа, і ён рысуе часамі ўзаемаадносіны паміж сялянствам і памешчыкамі ў некалькі ідылічных тонах, але ён заўсёды выступаў з гуманістычных пазіцый у абарону прыгнечанага народа супроць паноў-тыранаў і быў нязменным прыхільнікам адмены прыгону.

Найбольш блытаўся Міцкевіч у палітычных пытаннях. Аднак вызваленую Польшчу ён хоць і не зусім акрэслена,

але заўсёды ўяўляў як выключна дэмакратычную рэспубліку. Ён быў патрыётам і заступнікам сваёй заняволенай радзімы. І паколькі змаганне за вызваленне Польшчы ў той час было справай рэвалюцыйнай, пастолькі нават чыста нацыянальныя моманты ў яго творчасці не могуць зменшыць рэвалюцыйнага значэння яго паэзіі.

Не бачачы для вызвалення Польшчы сіл у шырокіх масах народа, Міцкевіч расчароўваўся часамі ў рэальных сродках выратавання радзімы і ўпадаў у містыку, у нацыяналістычны месіянізм. Але моманты нацыяналізму ў яго ніколі не перарасталі ў шавінізм, у нянавісць да другіх нацый. У дачыненні да Расіі Міцкевіч ненавідзеў не народ, а выключна царскую дэспатыю, якая была жандарам і свайго народа, і ўсяе Еўропы. І калі запраўілы былой памешчыцка-буржуазнай Польшчы імкнуліся прыкрываць свае брудныя шавіністычныя ўчынкі патрыятызмам Міцкевіча, дык гэта ім ніколі не ўдавалася. Не ўдавалася, па-першае, таму, што сама панская Польшча стала жандарам рэакцыі, турмою народа і ў «патрыятызм панства» ніхто сур'ёзна не мог паверыць: усім было вядома, што, як некалі ў часы Міцкевіча польская арыстакратыя прадавалася рускаму царызму, так пазней польскія запраўілы прадаваліся чужаземным банкірам, аж пакуль не збеглі зусім, пакінуўшы польскі народ на волю лёсу.

Не ўдавалася польскаму панству прыкрыцца Міцкевічам і таму, што для шавіністычнай прапаганды ў творчасці Міцкевіча няма ніякіх матэрыялаў. Мы ўжо бачылі, з якою любасцю ставіўся Міцкевіч у сваіх лекцыях да рускага народа, з якою любасцю ён пісаў аб рускіх дзекабрыстах. Мы ведаем, як цесна дружыў Міцкевіч з рускімі літаратарамі, у прыватнасці, з Вяземскім і Пушкіным. З першым ён неаднойчы сустракаўся пасля выезду з Расіі за межамі, а пра другога, нягледзячы на некаторыя разыходжанні ў палітычных поглядах, даў самы высокі водгук у сваім артыкуле.

Цёпла і з любасцю маляваў Міцкевіч прадстаўнікоў рускага народа і ў сваіх творах, як, напрыклад, вобраз чэснага і чалавечнага Рыкава ў паэме «Пан Тадэвуш».

З такім жа братэрскім пачуццём сардэчнасці ставіўся Міцкевіч і да літоўскага, і да ўкраінскага, і да беларускага народа. З беларускім народам Міцкевіч быў звязаны асабліва цесна. Ён вывучаў яго жыццё і побыт, захапляўся беларускай прыродай, любіў і выкарыстоўваў беларускія народныя легенды і песні. Надзвычай высокую ацэнку

ў лекцыях па славянскай літаратуры Міцкевіч даў беларускай мове, назваўшы яе «самай багатай і чыстай гаворкай», поўнай «узвышанай прастаты».

Адам Міцкевіч быў інтэрнацыяналістам у поўным сэнсе гэтага слова.

Аб гэтым сведчаць і яго творы, аб гэтым сведчыць і яго друг, Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, гаворачы пра Адама Міцкевіча:

Он говорил о временах грядущих,
Когда народы, распри позабыв,
В великую семью соединятся.

Надзеі Міцкевіча здзейсніліся. Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік аб'яднаў у сваёй сям'і сотні нацыянальнасцяў, стаўшы айчынай працоўных усяго свету.

Да сваёй сям'і год таму назад вярнулася Заходняя Беларусь, радзіма Адама Міцкевіча.

У гэтую сям'ю не так даўно, як роўная паміж роўных, увайшла Літва, апетая геніем Міцкевіча.

Волю і роўнасць гэтым землям прынёс савецкі народ і яго гераічная Чырвоная Армія.

Беларускі народ разам з народамі ўсяго нашага Савецкага Саюза пойдзе да новых сонечных вышынь у жыцці і ў паэзіі, несучы ў сваіх сэрцах дзівосныя песні Адама Міцкевіча і шануючы яго светлую памяць, памяць вялікага паэта і смелага змагара за справядлівасць і свабоду народаў.

*1940 г.*

## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Гаворачы аб літаратуры Заходняй Беларусі, я маю на ўвазе беларускую літаратуру, якая зарадзілася і развівалася на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі ва ўмовах белапольскай акупацыі, г. зн. да 1939 г. Прычым, я гавару выключна аб літаратуры рэвалюцыйна-дэмакратычнай, амаль не закранаючы зусім той бяздарнай пісаніны, якую беларускія нацыяналістычныя элементы намагаліся, па загаду сваіх польскіх паноў, проціставіць сапраўднай мастацкай літаратуры.

Польскія паны на працягу вякоў імкнуліся заняволіць беларускі народ і зрабіць яго краіну сваёй калоніяй. Скарыстаўшы цяжкае эканамічнае і ваеннае становішча маладой савецкай дзяржавы, яны рушылі на яе ў 1919 годзе свае легіёны. Беларускі народ плячо ў плячо з украінскім народам, абапіраючыся на шчырую і вялікую дапамогу брацкага рускага народа, мужна і гераічна змагаўся за сваю незалежнасць. Але сілы былі няроўныя — за плячыма панскай Польшчы стаялі дзяржавы Антанты, і ў выніку гэтага польскія паны захапілі Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь.

Калі Заходняя Беларусь апынулася пад уладай панскай Польшчы, прававое становішча яе насельніцтва вызначалася цэлым радам міжнародных трактатаў і ўнутрыпольскіх заканадаўчых актаў. У іх гаварылася пра абарону жыцця, свабоды і маёмасці ўсіх грамадзян, не зважаючы на нацыянальнасць, пра ўжыванне роднай мовы на судзе або праве займаць пасады на дзяржаўнай службе і інш. Згодна параграфа восьмага «Трактата аб нацыянальных меншасцях» беларусы мелі права засноўваць прыватныя школы і культурна-асветныя ўстановы, а таксама дабрачынныя і грамадскія арганізацыі. У дзевятым параграфе гаварылася, каб у гарадах, дзе насельніцтва пераважна не польскай нацыянальнасці, выкладанне ў школах вялося на адпаведнай роднай мове і каб культурна-асветныя ўстановы гэтай нацыянальнасці карысталіся падтрыманнем са сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Нагляд за выкананнем гэтага трактата аб нацыянальных меншасцях ускладаўся на Лігу нацый.

Яшчэ больш выразна вызначаліся правы беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі Рыжскім дагаворам, які быў падпісаны паміж РСФСР і Польшчай 18 сакавіка 1921 г. у горадзе Рызе. Так, напрыклад, у параграфе сёмым Рыжскага дагавора было сказана, што Польшча забяспечыць беларусам усе правы для свабоднага развіцця іх культуры і мовы, што яна ўнутраным заканадаўствам забяспечыць таксама права ўсіх нацыянальнасцяў культывіраваць сваю мову, арганізоўваць на гэтай мове школы, развіваць культуру і засноўваць з гэтай мэты таварыствы і саюзы.

Таксама цвёрда і выразна былі вызначаны правы беларускага насельніцтва і ў эканамічнай галіне. Але, як толькі быў падпісаны Рыжскі дагавор і панская Польшча запанавала ў Заходняй Беларусі, яна самым вераломным чы-

нам растаптала ўсе свае ўрачыстыя дэкларацыі і самым зверскім чынам пачала распраўляцца з беларускім насельніцтвам. Польскія юрысты і публіцысты па-свойму пачалі «тлумачыць» міжнародныя акты. Яны гаварылі, што паколькі ЗША не падпісалі Версальскага трактата ў частцы, якая датычыць Лігі нацый, то ўвесь пратакол аб нацыянальных меншасцях не мае для Польшчы ніякай сілы. «Версальскі трактат наогул,— пісаў Станіслаў Лось,— не абмяжоўвае Польшчу ў яе нацыянальнай палітыцы і не прымушае яе адмовіцца ад задач асіміляцыі».

Польскія шавіністы сталі ствараць «тэорыі», што Беларусь — гэта «пераходная тэрыторыя ад Расіі да Польшчы». Публіцыст Студніцкі пісаў: «Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і гутаркі, таму што беларусы не маюць ніякіх уласных традыцый. Пра беларускую культуру нельга гаварыць з прычыны таго, што ў беларусаў няма культурнага адзінства: гэта сфера скрыжавання польскіх і рускіх уплываў. Беларусь — гэта этнаграфічны матэрыял, пераходная форма паміж палякамі і рускімі». З гэтых «тэорый» рабіліся вывады, што, як пісаў Ст. Грабскі, «адно цяпер трэба, каб «тутэйшае» (беларускае) сялянства стала польскім». Для гэтага, па думцы польскіх палітыкаў, трэба, каб палякі не стваралі самі штучнага «беларускага пытання» і каб беларусы Заходняй Беларусі былі далей ад беларускага цэнтра — ад Мінска.

На гэтыя пасяганні польскіх паноў на сацыяльныя і нацыянальныя правы беларусаў Заходняя Беларусь адказвала народнымі паўстаннямі і партызанскай барацьбой. На працягу 1921—1925 гадоў гэтых паўстанняў было некалькі тысяч. Згодна аўтарытэтнай заявы ў польскім сейме ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне ў 1922 г. адбылося паўстанняў, тэрарыстычных актаў супроць польскіх акупантаў, нападаў на іх — 878, у 1923 годзе — 503.

Паўстанні з кожным годам набывалі ўсё шырэйшы размах. Яны адбываліся пад сцягам сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы. Змаганне вялося супроць польскіх памешчыкаў і фабрыкантаў, супроць паліцыі і асаднікаў, за зямлю, за беларускую культуру і школу. Часта змаганне набывала выгляд сапраўднай грамадзянскай вайны. «Газета Варшаўска» ў № 155 за 1925 г. пісала: «Відавочна, што паліцыя не спраўляецца з гэтым рухам. Застаецца адно выйсце — заняць гэтыя мясцовасці войскам». Орган правай памешчыцкай партыі «Ржэч паспаліта» патрабавала яшчэ больш суровай расправы з народным паўстаннем.

«Калі мы,— пісала яна,— не патопім яго ў крыві, яно адарве ад нас некалькі правінцый. Неабходна зараз жа ліквідаваць усе банды; неабходна высветліць, дзе ім дапамагае мясцовае насельніцтва, і з усім гэтым хуліганствам расправіцца хутка і не саромячыся. Адказ на паўстанне адзін — шыбеніца і больш нічога. Неабходна ўсё тамашняе (беларускае) насельніцтва зверху і данізу падвергнуць такому тэрору, каб у яго ў жылах застыла кроў».

І польскія памешчыкі пачалі бязлітасна распраўляцца з беларускім народам. Ва ўсёй Заходняй Беларусі было абвешчана ваеннае становішча; былі ўведзены ваеннапалявыя суды; войска і паліцыя былі падвоены. Пачаўся люты масавы белапольскі тэрор. Паўстанні былі задушаны. Урад панскай Польшчы павёў барацьбу з апошнімі ачагамі беларускай нацыянальнай культуры. У час першай імперыялістычнай вайны ў межах Заходняй Беларусі ўзнікла і працавала каля 400 беларускіх школ. К канцу 1925 г. яны былі ўсе закрыты або launched пераўтвораны ў польскія, за выключэннем 18 школ, якія былі пераўтвораны ў так званыя ўтраквістычныя, г. зн. духоўныя.

Не лепш было і з сярэдняй школай. Да падпісання Рыжскага дагавора беларускія гімназіі існавалі ў Вільні, Радашковічах, Будславе, Нясвіжы, Гарадку і Навагрудку. У Свіслачы была настаўніцкая семінарыя. Амаль усе гэтыя сярэднія навучальныя ўстановы неўзабаве былі таксама закрыты. Імкнучыся да школы на роднай мове, насельніцтва пачало засноўваць прыватныя беларускія школы. Але і іх сустрэла тая ж доля: к канцу 1925 г. было закрыта 67 прыватных беларускіх школ з 71.

У мэтах барацьбы з нацыянальнай школай польскі ўрад у 1924 г. выдаў так званы «Закон аб мове». Згодна гэтага закона бацькі дзяцей у ліку не менш 40 чалавек павінны былі падаваць мясцовым уладам адпаведныя дэкларацыі аб тым, што яны хочуць мець беларускую школу. Подпісы бацькоў павінна была сведчыць мясцовая адміністрацыя. Зразумела, што гэтая адміністрацыя пускалася на самыя разнастайныя хітрыкі, каб не засведчыць подпісаў: яна прымушала хадзіць сялян за некалькі дзесяткаў кіламетраў, не прызнавала прадстаўленых дакументаў, арыштоўвала хадатаяў і часта пабоямі прымушала адмовіцца ад сваіх подпісаў.

Не звяртаючы на гэта ўвагі, беларускае насельніцтва на працягу 1925—1926 навучальнага года падало некалькі тысяч заяў адносна адкрыцця 412 беларускіх школ. Поль-

скі ўрад не адкрыў ніводнай з гэтых школ; а беларускіх настаўнікаў павысылаў у далёкія ад Беларусі раёны цэнтральнай Польшчы.

Пад такім нечуваным прыгнётам знаходзілася і беларуская прэса. Па-першае, беларускія выданні не мелі ніякай фінансавай базы. Яны выдаваліся на тыя мізэрныя сродкі, якія збірала ў дабравольным парадку беднае, абрабленае панамі беларускае насельніцтва. Па-другое, амаль кожнае выданне на 2—3 нумары па той ці іншай прычыне, а часцей за ўсё без усякіх прычын, канфіскоўвалася і закрывалася. Пры гэтым па закону ад 9 лістапада 1936 г. нёс адказнасць не толькі рэдактар і выдавец, але і ўсе іншыя работнікі, якія мелі тое ці іншае дачыненне да газеты,— сакратар рэдакцыі, загадчык аддзела, выпускаючы, нават наборшчык.

Праследаванне беларускага друку ўрадам панскай Польшчы праводзілася сістэматычна. Газета «Наша будучыня» была канфіскавана тры разы, закрыта пасля 9 нумара; «Новае жыццё» — канфіскавана чатыры разы, закрыта пасля 13 нумара; «Іскра» — канфіскавана 2 разы, закрыта пасля 7 нумара; «Воля народа» — закрыта пасля 2 нумара; «Саха» — пасля першага. Такімі ж недаўгавечнымі былі і іншыя беларускія газеты, газеты самых разнастайных напрамкаў, як «Наш шлях», «Вольны сцяг», «Змаганне», «Голас Беларусі», «Сны беларуса», «Сялянская праўда», «Беларуская доля», «Жыццё беларуса», нават хадэцкая «Крыніца».

Мала таго, што польскія ўлады канфіскоўвалі і закрывалі беларускія выданні, яны забіралі пры гэтым адрасы падпісчыкаў, каб пасля праследаваць іх.

У такіх умовах жудасных рэпрэсій супроць беларускай школы, культуры і друку зараджалася і развівалася ў Заходняй Беларусі беларуская мастацкая літаратура. У час акупацыі Заходняй Беларусі панскай Польшчай там не заставалася ніводнага больш-менш вядомага беларускага пісьменніка. Выдатныя беларускія пісьменнікі, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля і іншыя са старэйшага пакалення, жылі і свабодна працавалі ў сваёй роднай дзяржаве — Савецкай Беларусі. У Заходняй Беларусі ў той час быў Гальяш Леўчык, Макар Краўцоў, Леапольд Радзевіч, Казімер Сваяк і яшчэ той-сёй з яшчэ менш вядомых. Асаблівай літаратурнай актыўнасці яны не праяўлялі. Гальяш Леўчык пісаў мала, а перакладаў розную рэлігійную літаратуру. Праўда, ён падрыхтаваў быў збор-

нік «Жаваранак Беларусі», але гэты зборнік свету так і не пабачыў. Макар Краўцоў таксама займаўся перакладамі з Лермантава. Радзевіч выпусціў у 1922 годзе зборнік «Беларусь», складзены з вершаў і з рытмічнай прозы. Фармальна, з надворнага боку, гэта было штосьці новае, а па-сутнасці старыя перапеўкі нашаніўскіх матываў. Зразумела, што ён не мог заваяваць да сябе сімпатыі чытача і тым больш не мог і не меў ніякага ўплыву на новае маладое пакаленне пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Тое ж самае можна сказаць аб вершах Казімера Сваяка, якія выйшлі з друку асобным зборнікам пад назвай «Мая ліра» пазней — у 1926 годзе. Праўда, у іх адчуваецца часамі сапраўдная паэзія, але іх клерыкальны дух варожы быў рэвалюцыйным настроям мас.

Такім чынам, рэвалюцыйная літаратура Заходняй Беларусі не мела сваіх непасрэдных папярэднікаў на акупіраванай тэрыторыі. Яна зарадзілася на выдатных рэвалюцыйных традыцыях нашых класікаў і развівалася пад уплывам літаратуры Савецкай Беларусі. Яе выклікала да жыцця рэвалюцыйная барацьба беларускага народа супроць белапольскай акупацыі. Невыпадкова, што прыход у літаратуру першых рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў Заходняй Беларусі супаў з новым масавым уздымам народнага руху, вядомага пад назвай «Беларускай работніцка-сялянскай грамады».

Вышэй ужо было сказана, якімі жорсткімі мерамі ўрад задушыў барацьбу беларускага народа супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску з боку польскіх паноў. Але беларускі народ не здаўся. Ад узброенай барацьбы ён перайшоў да барацьбы за свае сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы іншымі сродкамі. І калі ў 1925 годзе арганізавалася «Беларуская сялянска-работніцкая грамада», працоўныя масы тысячамі сталі ўлівацца ў яе рады. У вёсцы і на прадпрыемствах пачалі арганізоўвацца гурткі Грамады, лік якіх рос кожны дзень. Пад канец 1926 года лік гэтых гурткоў дасягнуў 1000, а лік членаў Грамады дасягнуў небывалай лічбы — 100 000 чалавек.

Такія гарачыя сімпатыі і шырокае падтрыманне з боку працоўных мас Грамада знайшла таму, што яе праграма ў значнай ступені адлюстроўвала сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы гэтых мас. У першым раздзеле сваёй палітычнай платформы Грамада патрабавала самавызначэння народаў, выказвалася за аб'яднанне беларускага народа ў адзінай дзяржаве пад уладай рабочых і сялян і ад-

крыта выказвала ў сваім друку сімпатыі да Савецкай Беларусі. У другім раздзеле платформы гаварылася аб саюзе сялян і рабочых, у чацвёртым — аб перадачы сялянам зямлі без выкупу, у дзевятым — аб правах рабочых на працу, сацыяльнае страхаванне і інш. Грамада патрабавала свабоды сходаў, слова, друку і палітычных і эканамічных арганізацый рабочых і сялян. Яна патрабавала агульнага бясплатнага навучання і дэкларыравала змагацца за поўную свабоду развіцця культурна-асветнай дзейнасці на роднай мове. І хоць, як гаварылася ў апошнім 51 параграфе платформы, Грамада «карыстаецца шляхамі легальнай законнай барацьбы», дзейнасць яе, часта, можа, нават супроць волі яе кіраўнікоў, была сапраўды рэвалюцыйная, з ярка выражаным класавым характарам.

Разам з палітычнай і нацыянальнай прапагандай гурткі Грамады вялі культурна-асветную работу, арганізоўвалі бібліятэкі, хаты-чытальні, засноўвалі школы, народныя дамы, выдавалі і распаўсюджвалі беларускія газеты і кнігі, абуджалі класавую і нацыянальную самасвядомасць беларускіх працоўных мас.

Польская буржуазная прэса павяла супроць Грамады самае шалёнае цкаванне. Майскі фашысцкі пераварот у Польшчы ў 1926 годзе, прыход да ўлады Пілсудскага завяршыў справу. Паставіўшы сабе за мэту «санацыю», «аздараўленне» «ўсходніх крэсаў», Пілсудскі ў першую чаргу пачаў расправу з Грамадой. 2 снежня 1926 года фашысты разам з паліцыяй у Стара-Бярозаве Бельскага павета напалі на памяшканне, дзе адбываўся з'езд Грамады, разграмілі дом, збілі і разагналі дэлегатаў. Гэта было пачаткам разгрому Грамады. Неўзабаве былі разгромлены ўсе гурткі Грамады, а таксама беларускія культурна-асветныя ўстановы, як ТБШ, Віленская гімназія і інш. Вялікая частка членаў Грамады была арыштавана, а іншыя пайшлі ў падполле.

Але дзейнасць Грамады не спынілася. Вялікі народны рух абудзіў нацыянальную самасвядомасць, узняў на сваіх хвалях маладую літаратуру Заходняй Беларусі. Яна тварылася часамі легальна, а часта падпольна, развівалася ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы і прайшла за параўнальна кароткі час некалькі этапаў. Першы ахоплівае час ад першых дзён польскай акупацыі да 1929—1930 гадоў. Найвышэйшым пунктам яго былі гады дзейнасці Грамады. У гэты час, прыблізна каля 1925 г., у літаратуру прыходзіць Міхась Васілёк, пазней трохі, у 1927 годзе,

Піліп Пестрак, Міхась Машара і рад іншых. Яны гурталіся ў асноўным вакол грамадаўскіх выданняў, як «Народная справа», «Беларуская справа», «Народны звон», сатырычны часопіс «Маланка» і інш.

Асноўнымі матывамі ў творчасці паэтаў Заходняй Беларусі таго часу былі матывы беднага вясковага жыцця, заклікі змагацца з нядоляй-няволяй, але заклікі досыць агульныя, якія выражаліся словамі: «Наперад», «Да сонца» і г. д. Праз дзесятак год пазней Максім Танк у артыкуле «Літаратурны маладняк і крытыка» вельмі рэзка, але небеспадстаўна так характарызаваў гэты перыяд:

«Нашы паваенныя пісьменнікі, нягледзячы на вялікія навакольныя перамены, спачатку спрабавалі ўваскрасіць нашаніўшчыну і, раз дваццаць прайшоўшы шлях ад істэрычнага аптымізму да чорных начэй, затрымліваліся ў тупіку». І сапраўды, новых матываў і новай паэтыкі ў літаратуры гэтага часу цяжка было заўважыць. Новае слова мог бы сказаць найбольш таленавіты і арыгінальны паэт Піліп Пестрак, але ён сядзеў ужо ў турме, і голасу яго не было чуваць.

Пасля разгрому масавага народнага руху ў літаратуры таксама адчуўся разброд. У 1927 годзе былі спробы аб'яднацца вакол часопіса «Родныя гоні». Але «Родныя гоні» хацелі зрабіць гэта за кошт таго, каб пісьменнікі менш займаліся палітыкай, а больш культурна-асветніцкай справай. Далей, у «Родных гонях» друкаваліся людзі самых разнастайных палітычных арыентацый, з якімі многім лепшым паэтам, як Васілёк ці Машара, было не па дарозе.

Была яшчэ спроба стварыць аб'яднанне пад назвай «Веснаход»; але польскія ўлады не зацвердзілі статута арганізацыі, і справа скончылася выданнем у 1928 годзе невялікага зборніка «Рунь веснаходу». Тут таксама былі прадстаўлены самыя разнастайныя людзі — ад самых правых да самых левых.

Такім чынам, арганізацыйна ў гэты перыяд пісьменнікі Заходняй Беларусі не былі аб'яднаны, хоць яго ў пэўным сэнсе можна назваць агульнанацыянальным. У гэты ж перыяд ідэйна ішло далейшае расслаенне: далей і далей на правы бок адыходзілі старэйшыя і частка маладых. Больш перадавая частка моладзі выхоўвала свой светапогляд і шукала новага слова. Завяршэннем гэтага перыяду ў творчым сэнсе быў зборнік Міхася Васілька «Шум баравы», які выйшаў з друку ў 1929 годзе.

Другі перыяд у літаратуры Заходняй Беларусі харак-

тэрны вострай класавай барацьбой у самым яе асяроддзі. Рэвалюцыйны друк у гэты час канчаткова быў загнаны ў падполле. Найбольш рэвалюцыйна настроеныя пісьменнікі вымушаны былі ў легальных выданнях гаварыць вельмі асцярожна. Аднак іх новае, свежае слова даходзіла да мас і мела вельмі вялікі рэзананс. Польскія ўлады павінны былі гэтаму штосьці проціставіць. На паслугах іх была беларуская «санацыя», правадыры якой апраўдвалі сябе на працэсе Грамады паклёпамі на камуністаў і прысяганнямі верна служыць польскім панам. Луцкевіч нават заявіў, што ён не беларус, «беларус-паляк». Гэтыя свае прысяганні беларускія нацыянал-фашысты павінны былі апраўдаць. Астроўскі пачаў праводзіць фашызацыю Віленскай гімназіі, а рэвалюцыйна настроеных вучняў выдаваць дэфензіве як камсамольцаў. З дапамогай гэтай жа дэфензівы група Паўлюкевіча выдае «Беларускае слова», ва ўсіх бульварных і бессаромных выданнях вядуцца шалёныя нападкі на Савецкую Беларусь.

Перад абліччам гэтай чорнай здрадніцкай навалы маладыя пісьменнікі-рэвалюцыянеры ставяць перад сабой задачу аб'яднаць свае сілы. Для іх Савецкая Беларусь, як і для ўсяго народа Заходняй Беларусі, была запаветнай марай. Выданая ў 1931 г. у Савецкай Беларусі «Хрэстаматыя рэвалюцыйнай заходнебеларускай літаратуры», некалькі старонак у нашых газетах, прысвечаныя гэтай літаратуры, даклады аб ёй і артыкулы былі вялікім маральным падтрыманнем для заходнебеларускіх пісьменнікаў у іх барацьбе. У гэты ж час малады паэт Валянцін Таўлай пабываў у Мінску і, вярнуўшыся зноў у Заходнюю Беларусь, расказаў аб росце і росквіце літаратуры Савецкай Беларусі. Усё гэта акрыліла літаратурную моладзь і надало ёй сіл і энергіі. Стаў падпольна выходзіць часопіс «Пралом», які выдаваўся Цэнтрам нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Першы нумар быў рукапісны, а другі — друкаваны на шапірографе. Тут упершыню выступіў Максім Танк — таленавіты паэт шырокага і арыгінальнага голасу.

«Беларуская газета» (легальны орган КПЗБ) выдала літаратурны дадатак. Пасля выхаду першага нумару ў дадатак даслалі свае вершы каля 30 чалавек. Тут былі вершы Міхася Васілька, Піліпа Пестрака, Алеся Дубровіча, Петруся Граніта, Анатоля Іверса, Міколы Засіма і інш. Зноў узнікла думка аб стварэнні літаратурнай арганізацыі. У канцы 1933 года з гэтай мэтай у Вільні быў склікан

нелегальны з'езд пісьменнікаў. Запрошаны былі ўсе, хто прымыкаў да левага крыла, але прыехала нямнога: Васілёк, Граніт, Чабор, Дубровіч і яшчэ некалькі чалавек. Сабраліся на кватэры Любы Асаевіч — жонкі Максіма Танка. Танк у гэты час быў у турме. Даклад аб становішчы беларускай літаратуры ў Савецкай і Заходняй Беларусі зрабіў Валянцін Таўлай. З'езд абмеркаваў Дэкларацыю Літаратурнага фронту і пастанавіў выдаваць месячнік «Літаратурная старонка».

Першы нумар гэтага часопіса падрыхтаваў Таўлай, але выйшаў ён ужо без яго, бо Таўлай таксама трапіў у турму. У нумары былі змешчаны Дэкларацыя Літаратурнага фронту, вершы Пестрака, Васілька, Танка (без подпісу), Дубровіча і інш. Польскі і беларускі нацыяналістычны друк узнялі супроць «Літаратурнай старонкі» цэлую кампанію, і на першым жа нумары яна была закрыта. Многія пісьменнікі сядзелі ў турмах. Творчасць іх знаходзіла сабе месца на старонках нелегальных выданняў.

Адным з такіх цікавых выданняў быў рукапісны месячнік «Краты», які ў 1934 годзе быў заснаваны Максімам Танкам у віленскай турме на Лукішках і выходзіў у 2—3 экземплярах. Рэдактары яго, хоць і не вельмі часта, але мяняліся: выходзіў на волю Танк, на змену яму ў турму прыходзіў Пестрак ці Таўлай. Адным словам, польскія ўлады вельмі руплівa «клапаціліся», каб турэмны часопіс «Краты» не застаўся без рэдактара і паэтаў, і калі выпускалі на волю адных, зараз жа на змену ім садзілі другіх. «Краты» выходзілі рэгулярна: на працягу 1934—1936 гг. выйшла каля 20 нумароў. Не зважаючы на вельмі абмежаваны тыраж, часопіс меў шырокі круг чытачоў. Яго чыталі ўсе палітзняволеныя, завучвалі вершы на памяць і пасля выхаду на волю неслі іх у самыя шырокія масы.

Тым часам урад панскай Польшчы вырашыў канчаткова расправіцца з рэвалюцыйнай беларускай літаратурай. На Лукішкі з усіх турмаў былі сабраны беларускія паэты. Следства вялося два з палавінай гады. Судовы працэс адбыўся ў канцы сакавіка 1936 года. Абвінавачвалі за два «смяротныя грахі»: за стварэнне Літаратурнага фронту і за арыентацыю на Савецкую Беларусь. Валянцін Таўлай абараняў права паэтаў на сімпатыі да Савецкай Беларусі, а Піліп Пестрак — на арганізацыю Літаратурнага фронту. Суддзі імкнуліся інкрымініраваць паэтам антыпольскую крамолу і дыскрэдытаваць беларускую паэзію. Пракурор назваў яе творцаў «імгліцай». З яркай прамовай

выступіў Пілін Пестрак. «Так, мы — паэзія бунту,— сказаў ён,— бо мы не можам не бунтавацца. Вы стварылі такія ўмовы, што нават ксёндз Казімер Сваяк бунтуе». Пестрак зачытаў вершы Сваяка. «Вы,— гаварыў ён далей,— называеце нас крамольнікамі за тое, што мы клічам да бунту. Вялікі польскі патрыёт Жаромскі, які аплакваў раны польскіх паўстанцаў, таксама ў вачах рускага царызму быў крамольнікам. Вы называеце нас імгліцай. З імгліцы фармуюцца зоры. А чым ноч цямней, тым ясней гарадь зоры».

Паэты былі асуджаны на доўгія гады турмы, але працэс над беларускай літаратурай быў выйграны. Загнаная глыбока ў падполле, скрамсаная, зраненая панскай цэнзурай, яна развівалася далей.

Так выглядае звонку становішча літаратуры Заходняй Беларусі на другім этапе яе развіцця. Найбольш яркім выражэннем яе ідэйнай і мастацкай сутнасці быў першы зборнік Максіма Танка «На этапах», які адразу ж пасля выхаду быў канфіскаваны. Гэта — канец другога і пачатак трэцяга кругаабароту. Апошні абдымае час 1935—1936 г. і да дня вызвалення Заходняй Беларусі.

Характэрным у грамадскім жыцці народа гэтага часу быў агульнанародны фронт, якім выступілі працоўныя масы капіталістычных краін перад пагрозай фашызму. Пад напорам з'яднанай народнай сілы вымушаны былі лявець нават правыя. З'яўляюцца зноў нібы «агульнанацыянальныя» выданні, накшталт «Маладой Беларусі» ці «Калоссяў», у якіх дэкларыруецца, што «рэдакцыя будзе старацца, каб наш часопіс меў характар агульнабеларускі і рэпрэзентаваў, па магчымасці, усе віды літаратурнай творчасці...» («Калоссе», № 1, 1935 г.) Вядома, што гэтыя выданні не маглі адмовіцца ад сваіх буржуазных установак, але яны сапраўды час ад часу давалі месца для твораў і рэвалюцыйных пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Аднак цалкам сваімі і роднымі для апошніх былі толькі выданні Народнага фронту, як газета «Наша воля», а таксама часопіс ТБШ «Летапіс», перайменаваны пасля закрыцця ТБШ у «Беларускі летапіс», якія выдаваліся пры актыўным удзеле Рыгора Раманавіча Шырмы. Іменна ў гэтыя выданні з турмы дасылалі пад рознымі псеўданімамі свае творы Пілін Пестрак, Таўлай і інш. Тут друкаваліся і астатнія маладыя паэты. Тут упершыню выступіла і Ніна Тарас.

Чым жа характарызуецца гэты перыяд у літаратурна-

творчым сэнсе? У артыкуле «Літаратурны маладняк і крытыка» Максім Танк гаворыць аб гэтым так:

«Наплыў маладняка стварыў у нас не толькі ажыўленне, але выклікаў бліжэйшы, непасрэдны падыход да пытанняў дня, канкрэтызацыю ў дэталях цэнтральнай думкі на шырокім палатне нашых летуценняў, на палатне грамадскага жыцця і мастацтва. Трэба было даць творчасць не аб «адраджэнні», а творчасць адраджэння, не песні «аб вёсцы», а песні вёскі і горада. А гэта мог даць і даў маладняк, які выйшаў з народа і з народам прайшоў па этапах і тварыў, не парываючы з ім сувязь». І далей: «Ясней будзе гэта яшчэ тады, калі мы ўявім сам працэс адраджэння, звязаны з сённяшнім днём, з штодзённай барацьбой. Не з гэтай, што ў вершах з клічам «наперад!», супроць «ночы». Гэта сімволіка мала прамаўляе, бо няма вобразу, з якога павінен выйсці рух наперад».

Вось з гэтага пункту гледжання — адмаўлення ад агульных абстрактных заклікаў і набліжэння да паказу ў канкрэтных мастацкіх вобразах штодзённага жыцця і барацьбы народа — мы і разгледзім творчасць паэтаў Заходняй Беларусі.

Першым з маладых паэтаў у літаратуру Заходняй Беларусі прыйшоў Міхась Васілёк. Вершы яго з'явіліся ў друку прыблізна каля 1925 г. Бедны сялянскі хлопец зазнаў у сваім жыцці нямала гора. Ён вымушан быў гаспадарыць на вузкай палосцы зямлі і карміць сям'ю. А тут здарылася няшчасце — памерла жонка. Васілёк застаўся зусім адзін з малым дзіцем на руках. Трэба было гадаваць сына і весці гаспадарку. Здавалася б, што цяжкае сялянскае жыццё, пазнанае Васільком на горкім уласным вопыце, знойдзе ў здольнага паэта канкрэтнае вобразнае выяўленне. Але тут прычыніліся традыцыі старой нашаніўскай літаратуры. Яны паклалі вельмі глыбокі след на раннюю творчасць Васілька. Замест канкрэтнага паказу сялянскага жыцця мы бачым у яго творах досыць агульныя развагі аб сялянскай долі ў народніцкім характары. Вось прыклад з верша «Васількі»:

Сум, васілёчкі, на вас адбіваецца,
Жальба на ўсіх —
Быццам з вас выразіць кожны мне маецца:
«З слёз мы людскіх.
З кропелек мутных, што мылі спякотаю
Твар ратая,
З слёзак празрыстых, што лье за работаю
Бедна жняя».

Знаёмыя ўсё вобразы, але не з жыцця заходнебеларускай вёскі 1927 г., а з папярэдняй літаратуры. Шчырае пачуццё паэта выказана чужымі інтанацыямі. У далейшым Васілёк усё больш і больш вызваляецца ад гэтых уплываў і становіцца на ўласныя ногі. Тэмы яго ўсё тыя ж: змены года, праца ў полі (ворыва, жніво), беззямелле, смерць маці, скарга аб мінуўшай маладосці, але ва ўсім гэтым ужо больш глыбокі роздум над сялянскай доляй і мары пра лепшую будучыню, калі:

Барозны шэрыя
Дадуць нам ураджай за ўбогія гады,—
І песні сумныя над роднаю зямлёю
Заменім песняй радасці дружынаў маладых.

Радасць, аптымістычны погляд на жыццё, аб чым у свой час у літаратуры Заходняй Беларусі гаварылася нямала, у творчасці Васілька амаль не маюць сабе месца, бо не мелі яны яго і ў навакольным паэту жыцці. Ён бачыць радасць толькі ў далёкім будучым і ў прыродзе. Але і тое, што датычыць радасці ў прыродзе, то —

...У гэтай радасці гняце штось сэрца болем:
Вясна ідзе, вясна... і голад... слёзы...

Зразумела, што паэт хацеў бы спяваць аб радасці.

Хачу пяяць аб пунсавым прадвесні,
Пушыць акордамі сінеючую даль,
Але з нізоў жыцця бунтуе мае песні
Галодных гімн, як мора грозных хваль.

З тым большай прагай Васілёк ірвецца ў светлае будучае, усё часцей і часцей заклікае змагацца за яго, верыць у яго ўсёй душой і ахвяруе яму сябе як паэта.

Паміж нягод, паміж штодзённых брудаў —
Працоўных ідэал штораз ярчэй гарыць.
Тым краскам новых дзён складаць я песні буду,
Што полымем цвітуць, як сонца на зары...
Сыны мы ўсе працоўнае краіны.
Радзіла праца нас, скупаўшы у крыві,
Наказ такі дала: працуй і не загінеш!
Ты створыш новы свет — змагайся і жыві!

Па вобразнай сістэме сваіх твораў Міхась Васілёк, безумоўна, паэт вёскі, сялянскіх ніў. Метафары, параўнанні ўзяты ім непасрэдна з сялянскага быту: «рудою ворсаю зіма кісяліцца», «снег арфуючы, гула мяцеліца», «сады ўжо малаком заліў вясёлы май», «сонца калаўрот», «май расплюскаў хмельны солад», дзень «на сінюю пашу ў неба

хмаркі — белыя лебедзі — выгнаў», «сыпнула ночка зорамі, як з рэшата вясковага» і г. д.

Міхась Васілёк — лірык. Пачуцці яго крыху аднастайныя, але шчырыя і чыстыя, абвеяныя задумённасцю. Толькі зрэдку ў яго з'яўляецца горкая іронія, накшталт наступных цудоўных радкоў:

Дзьме вятрыска з захаду,
Поіць сэрца горычай.
Зразумейце, як гэта
Нам раздзетым горача.

У час польска-нямецкай вайны Міхась Васілёк, будучы жаўнерам польскай арміі, трапіў у нямецкі палон. Там ён быў аж да Айчыннай вайны, калі яму ўдалося выбрацца з палону і дайсці да роднай зямлі. Тут ён у апошнія часы нямецкай акупацыі быў у партызанах. Такім чынам, жыццёвыя абставіны паэта склаліся так, што ён не мог даць нам свае новыя творы. Мы іх чакаем.

Услед за Васільком у літаратуру прыйшоў Міхась Машара. Нарадзіўся паэт у 1902 г. у вёсцы Таболы Шаркаўшчынскага раёна, у сям'і селяніна. У 1914 г. ён скончыў народную школу, некаторы час быў памочнікам валаснога пісара, пасля паступіў у Глыбокім у «высше-начальное училище», але не скончыў яго, бо ў 1919 г. з прыходам белапалякаў вучылішча было закрыта. У 1920 г. Машара добраахвотна ўступае ў Чырвоную Армію. Часць, у якой ён служыў, была акружана ў Аўгустоўскіх лясах, прабілася з акружэння, перайшла граніцу Германіі і была там інтэрніравана. Пасля Рыжскага дагавора Машара вярнуўся дадому і адразу трапіў у канцэнтрацыйны лагер у Верхняй Сілезіі. У 1921 г. ён быў адпушчан дадому пад нагляд паліцыі. З 1923 па 1925 г. быў у польскай арміі. Дэмабілізаваўшыся, стаў працаваць у Грамадзе: спачатку распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру, а пасля супрацоўнічаў у газеце «Наша воля». За гэту дзейнасць у 1927 г. Машара трапіў у турму, адкуль выйшаў у 1931 г. зноў пад нагляд паліцыі. Жыў паэт гэты час на мізэрнай гаспадарцы, а пасля служыў вартаўніком на дарозе.

Творчы шлях Міхася Машары вельмі няроўны. Першы яго зборнік вершаў «Маланкі», які выйшаў у 1928 г., склалі вершы, напісаныя ў час Грамады. Пазней Машара трапіў у акружэнне хадэкаў, і гэта паклала след на яго творчасць, што асабліва ярка выявілася ў цыкле «Падарожжа», дзе паэт пайшоў на яўны кампраміс з рэакцыянерамі і заявіў:

Не знаем мы нацдэмаў і хадэкаў,
Ніякіх «філаў», ані «ізмаў»,
Усцяж шукаеш чалавека,
Што служыць скрыўджаным і лішнім.

Толькі прыблізна ў 1937 г. Міхась Машара больш рашуча вызваляецца ад гэтых уплываў. Праўда, трэба сказаць, што гэтыя ўплывы ніколі не былі пераважаючымі: праз увесь час у творчасці Машары асноўнай была ўсё ж такі рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь.

Вельмі правільна ахарактарызаваў творчасць Міхася Машары Максім Танк у артыкуле «Стрэхі за гасцінцам». «Міхась Машара,— гаворыць Танк,— тыповы паэт вёскі, вёскі, якая стаіць воддаль ад вялікіх гасцінцаў, па якіх ідуць людзі... скрыпяць калёсы абозаў з сялянскай бядой... Куды яны ідуць? І дзе мэта? Не відаць яе з прасёлачных дарог ды з меж... Толькі паэт чуе, што там, куды ідуць людзі, недзе ёсць шчасце, і яны яго здабудуць, і здабудуць для ўсіх. Кожная няўдача тых людзей хвалюе паэта, кожны іх адважны крок, калі не парывае за сабой, усё ж пакідае глыбокі след, улівае надзею ў поступ і веру ў тыя далёкія вехі, якія гараць на народных шляхах...»

Трэба згадзіцца, што вёска Машары сапраўды стаіць далёка ў баку ад шырокіх і шумных гасцінцаў жыцця. Вобраз яе падобны на вобраз даўняй вёскі, геніяльна намаляваны нашымі класікамі — Купалам і Коласам.

Вёска, вёска родная,
Стада шэрых хат!
Вокны старамодныя,
Яблыні тры — сад.

Вось яшчэ другі прыклад вёскі з верша Машары «У хаце»:

Каля печы па далоўю —
Парасё і стада кур.
У вокны бітыя з надвор'я
Заглядзеўся гурбаў мур.
Дзе ні глянеш — пуста, гола,
Дзе ні глянеш — бруду шмат.
У нашых вёсках, у нашых сёлах
Знойдзеш многа такіх хат.

Нарэшце, трэці прыклад вёскі з верша «Хата бабылкі»:

Хата... ды нават не хата,
а проста пахілы дамок.
Быць бы не мог нат багатым
Беднай бабылкі куток.

Вокны... якія там вокны,—
Шыбы ў зямлю ўраслі.
Сенцы і дзверы замоклі,
шмат дзе вуглы адгнілі.

Вонкавы малюнак вёскі хоць аднастайны, але досыць верны. Аднак унутраная сутнасць вёскі не адпавядае сапраўднасці. Карціна напісана такімі спакойнымі фарбамі, што быццам бы вёску не патрасалі вайна, рэвалюцыя, паўстанні. Тым больш рэжа вуха тая ідылічнасць, якая прарываецца ў вершах Машары пра вёску, як, напрыклад:

Летам аж да вечара
радасны настрой...
Сонца... люба... весела...
Пахне лебядой...

Гэта любаванне вясковай ідыліяй у творчасці Машары не арганічнае, а знарочыстае. Яно ідзе ад установкі на той павярхоўны беспадстаўны аптымізм, аб якім, як я ўжо казаў, у літаратуры Заходняй Беларусі вяліся гарачыя спрэчкі. Машара бачыць і падае чытачу жабрацкі выгляд вёскі, прыгнечанай сацыяльна і нацыянальна. Аднак ён катэгарычна не раз і не двойчы заяўляе:

Вёска, вёска, ты прамокла,
Навакол туман і слякаць.
Ах, не муч мне сумам вока,—
Я з табой не буду плакаць.

Безумоўна, гэты аптымізм галаслоўны, паколькі пры паказе вёскі не відаць тыя рэальныя сілы, сілы рэвалюцыі, якія бушавалі ў вёсцы і давалі ёй надзею на лепшую, светлую будучыню. Вось чаму і бадзёрыя, рэвалюцыйныя заклікі паэта гучаць абстрактна, адцягнена. Яны не вырастаюць, як правільна сказаў Танк, з вобраза, а бытуюць самастойна. Таму і сімволіка іх часта цьмяная і незразумелая.

Павольна, але цвёрда і няўхільна Машара вызваляўся ад гэтых абстракцый, хоць канчаткова і не перамог іх. Аднак, крытыкуючы гэтыя недахопы ў творчасці Міхася Машары, мы не можам і не павінны забываць высакароднай мэты, якую ставіў паэт — абуджаць і клікаць народ да лепшай будучыні. Ад няўдалага творчага метаду яго заклікі трацілі ў мастацкай сіле ўздзеяння на чытача, але яны ў свой час былі патрэбныя і рабілі сваю справу.

Машара гаварыў:

Біся, сэрца, пад замець трывогі!
У грудзях і надзея, і страх.

Толькі ў буры знайдзем перамогу,
барацьбой пракладзем сабе шлях.

Пры ўсіх хістаннях паэта гэта была яго цвёрдая вера, і яна спраўдзілася. Машара напісаў нямала нядрэнных лірычных вершаў пра сялянскую працу, пра клопаты і думы вясковага чалавека, пра смутак вязняў аб волі, пра вясну і лета, восень і зіму ў Беларусі. Яго паэзія мела шырокага чытача, і яна была зыходным пунктам для многіх маладзейшых паэтаў Заходняй Беларусі.

Вобразы ў паэзіі Машары, як і ў Міхася Васілька, звязаны з вясковым бытам, але яны не так арыгінальныя, як у апошняга, і больш простыя. Нельга не сказаць, што ў Машары досыць часта сустракаюцца недакладныя і дрэнныя выразы, як, напрыклад: «Беларусь ужо спіць неглыбока» або: «стаялі доўга, без адрыву ў вочы гледзячы сабе». Асабліва часта ў Машары сустракаюцца парушэнні рыфмы. Ён, напрыклад, рыфмуе: «сёстры — косы, цішыні — мы, маглі — сады, магу — душу, віхром — жыццё, ёй — ідзе, сцюдзёным — словы, працаваў — першыня» і г. д.

Ад гэтых недахопаў Машару трэба пазбавіцца як мага хутчэй.

Адрознае ад Васілька і Машары месца займае ў літаратуры Пілін Пестрак. Нарадзіўся паэт таксама ў сялянскай сям'і, на Палессі, у 1903 г. У 1914 г. скончыў пачатковую школу і ў тым жа годзе выехаў з бацькамі ў бежанкова. Апынуліся яны аж у Самарскай губерні, у сяле Максімаўка. Там Піліп Пестрак і жыў аж да 1920 г., да наступлення ў Самарскі універсітэт. Гнаны голадам, які ахапіў Паволжа, у 1921 г. паэт разам з сям'ёй вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, акупіраваную палякамі. Піліп Пестрак пайшоў працаваць на лесапільны завод. У 1923 годзе стаў служыць лесніком у купца-лесапрамыслоўцы. Панскія парадкі страшэнна прыгняталі паэта, і летам 1924 г. ён вырашыў уцячы ў Савецкі Саюз. На граніцы яго злавілі, этапным парадкам прывялі дахаты і месяц трымалі пад арыштам. У 1927 г. за ўдзел у камуністычнай дэманстрацыі ў Косаве папаў пад следства і паўгода адсядзеў у турме. Выйшаўшы на волю, зноў аддаўся рэвалюцыйнай рабоце. Але ў 1929 г. быў арыштаваны і засуджаны на пяць год турмы. Адбыўшы іх, пяць месяцаў пабыў на волі і зноў папаў у турму, у якой прасядзеў 6 год аж да прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі. Такім чынам, жыццёвы і творчы шлях паэта 11 год праходзіў у турме.

зразумела, што гэта наклала свой адбітак на яго творчасць. У творчасці паэта таксама закранаюцца і агульныя праблемы жыцця, праблемы вёскі і праблемы вызвалення і будучыні. Але ўсё гэта праломлена праз прызму высокасвядомага рэвалюцыянера-прафесіянала.

Грунтам для гэтых спадзяванняў і веры Пiлiпа Пестрака з'яўляецца нязломная воля працоўных мас Заходняй Беларусі, іх змаганне супроць польскіх паноў. Эпітэт «барацьбяная Беларусь» у Пестрака невыпадковы. Паэт на працягу ўсёй сваёй творчасці паказвае, што народ Заходняй Беларусі не скарыўся перад панскай Польшчай, а вядзе нястомнае змаганне за сваё вызваленне. Апісваючы, як і іншыя паэты, цяжкую сялянскую працу, Пестрак не абмяжоўваецца канстатацыяй гэтага факту; ён паказвае, як у грудзях аратага ўздымаецца «наш сялянскі зямельны бунт». У вершы «Дала мне кашы картаплянай» у вобразе простай сялянскай жанчыны з вялікай сілай выказана тое спачуванне, якім акружала сялянства сваіх змагароў.

Як там дзвярыма хто забразгаў,—
На кожны стук,
На кожны рух
Тады ў вокны жвава паглядала,
Ты за мяне дазор вяла,
Мяне — паўстанца — сцерагла.

І ў гэтым адрозная рыса паэзіі Піліпа Пестрака. Ён паказвае не толькі пакуты працоўных Заходняй Беларусі, але і іх упартую барацьбу з белапольскімі акупантамі. Ён нястомна кліча да гэтай барацьбы. Яго заклікі часамі таксама носяць публіцыстычны характар, але яны заўсёды насычаны канкрэтным палітычным зместам. Піліп Пестрак — паэт-трыбун. Адсюль і вобразная сістэма яго твораў мае ўзвышаны, аратарскі характар. З другога боку, тут адчуваецца ўплыў Маякоўскага.

Вечар апаў.
Груз цемры кладзецца на плечы.
Куды пайду? Якім слупам
Я занясу цяжар свой чалавечы?

У гэтых радках адчуваецца нават не ўплыў Маякоўскага, а пераймання яго. Аднак трэба сказаць, што такіх месц у Пестрака няшмат. Ён вучыцца ў Маякоўскага, але застаецца арыгінальным. Недахопам яго творчасці з'яўляецца іншае: вобразная сістэма паэта вельмі складаная і часта абцяжараная так, што сэнс страфы вельмі цьмяны. Піліпу Пестраку трэба дабівацца большай прастаты.

Па ідэйнай накіраванасці сваёй творчасці блізка да Пестрака стаіць малады паэт Заходняй Беларусі Валянцін Таўлай. Нарадзіўся Таўлай у 1914 г. у г. Баранавічы, у сям'і чыгуначніка. Пасля акупацыі Заходняй Беларусі белапалякі звалілі бацьку Таўлая з чыгункі, як «нядобранадзейнага» беларуса. Сям'я пасялілася ў вёсцы і працавала на зямлі. Скончыўшы пачатковую школу, Валянцін Таўлай у 1925 г. паступіў на падрыхтоўчы курс польскай настаўніцкай семінарыі. Але правучыўся там нядоўга: пры перапісе паэт адмовіўся запісацца палякам і быў выключан з семінарыі. Увосень 1927 г. Таўлай паступіў у 3-ці клас Віленскай беларускай гімназіі. Вясной 1928 г. уступіў у падпольны камсамол Заходняй Беларусі. За ўдзел у кіраўніцтве студэнцкай забастоўкай пратэсту супроць фашызацыі гімназіі — у 1929 г. быў выключан са школы і аддан у рукі паліцыі. Дастаўлены па этапе на месца жыхарства, ён разгарнуў на вёсцы камсамольскую працу, быў сакратаром РК ЛКСМ ЗБ. У 1929 г. паліцыя зноў арыштоўвае Таўлая, і ён амаль год сядзіць да суда ў астрозе. Суд, нарэшце, прыгаварыў паэта, як непаўнагадовага, да 6 месяцаў турмы. Але пракурор падаў скаргу ў вышэйшую апеляцыйную інстанцыю, і кара была павышана да двух гадоў. Да паўторнага разгляду справы Таўлай быў на волі і ў суд не з'явіўся. ЦК КПЗБ накіраваў яго ў кастрычніку 1930 г. у БССР. У Мінску Таўлай працаваў у рэдакцыі «Звязды» і вучыўся на літфаку БДУ. У канцы 1932 г. ён быў зноў адкліканы ў распараджэнне КПЗБ. Там ён працаваў у Варшаве членам рэдакцыі пры ЦК КПЗБ, а пасля ў Вільні — рэдактарам легальнай рэвалюцыйнай газеты «Беларуская газета». У пачатку 1934 г., прабіраючыся зноў у Мінск, ён быў на граніцы арыштаваны і асуджаны на 8 год катаргі. Выйшаў з турмы толькі пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі.

У адным з сваіх вершаў Валянцін Таўлай так пісаў аб сваёй паэзіі:

Калі наспее ў сэрцы гром
І задрыжаць Лукішкі,
Пішу я вершы не пяром
І не ў запісную кніжку.
Тут і агрызак алаўка
Недатыкальней табу.
А знойдуць — аднаго чакай:
За ўсё адкажуць скабы.

І далей:

Я сам — і пасядзець магу,
А вершам — часу шкода:
Шумець ім трэба на сцягу
І калыхаць паходы.
Глядзі ў ваўчок як дзень, так ноч,
Не ўбачыш, чорт зіркаты,
Што я заўзята і даўно
Пілую вершам краты.

З гэтых радкоў перад чытачом паўстаюць і тыя ўмовы, у якіх Таўлай пісаў свае вершы, і тыя задачы, якія ён ускладаў на іх — пілаваць краты няволі, шумець на сцягах у час рэвалюцыйнага паходу. І гэта складае сутнасць паэзіі Валянціна Таўлая. З аднаго боку, у яго вершах, як і ў вершах Піліпа Пестрака, вялікае месца займае «быт» турмы — туга аб волі, барацьба вязняў з турэмнай адміністрацыяй, галадоўкі, рэдкія наведванні родных і інш. З другога боку, у Таўлая, як і ў Пестрака, ярка паказана не толькі прыгнечанае становішча насельніцтва Заходняй Беларусі, але і яго мужная, самаадданая барацьба з сацыяльным і нацыянальным уціскам. Такімі творамі з'яўляюцца паэмы «Кобрыншчына», «Песня пра сухар» і іншыя лепшыя рэчы паэта. Яны напісаны скупымі і суровымі фарбамі. У іх праўдзіва адлюстравана і галеча вёскі Заходняй Беларусі, і яе спадзяванні, але адлюстравана без народніцкага аплаквання і без павярхоўнай весялосці.

Доўга сцяблінку загон калыхаў;
Покуль яе выплыў колас,
Дробны, маленькі — быццам блыха,
На валасінцы кволай.
Як ні стараўся колас той
Хоць да другіх прытуліцца,—
Кожны на ніве млеў сіратой
Ў катках і ў мятліцы...
І галасіў на вятрах адзін,
Кляў і схіляўся ў паклоне.
Ніва стагнала — цяжка радзіць
На гэткім вузкім загоне.

Карціна сялянскай нівы, паказаная ў гэтым урыўку, рэалістычная і суровая — яна невясёлая, але ў ёй няма і безнадзейнага песімізму. Верны праўдзе жыцця, Таўлай паказвае і радасць вёскі, але якая гэта скупая радасць!

Жорны размялі зярнятаў мязь.
Маці зрабіла рашчыну...
Хлеба такога не есць і князь,
Гэта — пірог па чыну.

І, пахіліўшы бохан набок,
Бацька ім лусты кроіў.
— Дзеткі, шануйце заўсёды хлябок,
Стойце за чорны гарою!..

Будучы глыбока рэалістычнай і рэвалюцыйнай па духу, паэзія Валянціна Таўлая пазбаўлена той традыцыйнай сімволікі, якая так часта сустракалася ў вершах таўлаеўскіх папярэднікаў і ад даўнасці так сцёрлася, што яе рэвалюцыйны змест стаў вельмі цьмяны. Гаворачы аб свабодзе, аб лепшай будучыні, Таўлай не маскіруе гэтых паняццяў вобразамі вясны, паводкі і г. д., а называе іх сваімі імёнамі. Відаць, у гэтым ляжыць адна з прычын і таго, што ў вершах Таўлая вельмі мала метафарычнасці.

Таўлай — лірык, але стыль яго амаль эпічны. Толькі зрэдку ў яго спакойныя, ураўнаважаныя пачуцці ўрываецца горкая ўсмешка або з'едлівая іронія, накшталт выказанай у наступнай страфе:

Суддзі! Рыхтуйце новы артыкул
І кайданы-аковы:
Ноч вядзе спадцішка, без крыку
З камуністамі змову.

Трэба сказаць яшчэ таксама, што вершы Таўлая па сваёй мастацкасці вельмі няроўныя і, апрача таго, Таўлай піша, на жаль, таксама вельмі мала.

Мы гаварылі вышэй аб тым новым, што ўнеслі ў літаратуру Заходняй Беларусі Пестрак і Таўлай у параўнанні са сваімі папярэднікамі — Васільком і Машарам. Але і Пестрак, і Таўлай былі, калі можна так сказаць, «стыхійнымі» наватарамі.

Свядома даючы свайму новаму напрамку тэарэтычнае абгрунтаванне, працаваў у галіне паэзіі адзін з самых выдатных паэтаў Заходняй Беларусі, паэт шырокага дыяпазону і вялікага таленту Максім Танк.

Нарадзіўся Максім Танк у 1912 г. у вёсцы Пількаўшчына Вілейскай вобласці, у сям'і селяніна. Першая сусветная вайна выгнала сям'ю паэта ў бежанства. Вярнуліся яны на радзіму толькі ў 1922 г. ужо пасля таго як Заходняя Беларусь была акупіравана белапалякамі.

Вучыўся Максім Танк у рускай пачатковай школе ў Маскве, пасля — у польскай школе ў суседняй вёсцы, затым — у рускай гімназіі ў Вілейцы, нарэшце — у беларускай гімназіі ў Радашковічах і ў Вільні. Пасля гэтага пачаліся этапы «ад вастрога да вастрога». За ўдзел у падпольным друку Максім Танк трапіў у турму і некалькі

год прасядзеў на Лукішках. Там, як адзначае паэт, у 1932 г. былі напісаны яго першыя вершы. Дапоўненыя пазнейшымі творамі, яны ў 1936 г. выйшлі з друку асобнай кніжкай пад назвай «На этапах» і зараз жа былі канфіскаваны. Зборнік «На этапах» выклікаў многа спрэчак і гутарак. Паэт у гэтым зборніку гаварыў аб новым і новымі словамі. Амаль упершыню ў літаратуры Заходняй Беларусі Максім Танк гаварыў не толькі аб беларускім селяніне, але і аб цэлым народзе Заходняй Беларусі. Нарачанскія рыбакі, сялянскае беззямелле, сезонныя рабочыя, сустрэча беспрацоўнага парабка і рыбака, вымушаная эміграцыя ў пошуках работы, паўстанцы, рабочыя прадмесці, жыццё ў гарадскіх падзямеллях, астрожныя этапы, смерць вязня, асадніцтва, родная мова і школа, беларуская гісторыя і легенды — усё гэта разнастайнае і шматграннае жыццё народа Заходняй Беларусі стала тэмай творчасці Максіма Танка. Але не толькі і не столькі сваёй адрознай і шырокай тэматыкай характарызуецца творчасць Максіма Танка. Яе вылучае новы, адменны стыль. У вершы 1935 г. паэт так характарызуе сваю песню:

Прыйшоў ад бур
І чорных хмар,
Прыйшла і з веснаходам ты;
Твае нат слёзы
Залаты
Зары сушыў,
Паліў загар.

І сапраўды, песня Максіма Танка, нават элегічная, абпаленая румяным сонцам, мае здаровы залаты загар працы. Яна напоўнена сумным і радасным жыццём народа. Яна новая па сваіх рытмах і вобразах, але не мае нічога агульнага з пісанінай розных мадэрністаў. Аб іх Максім Танк гаворыць з пагардай:

Калісь пілі, гулялі
З падскокамі і свістам
З зачараванай краляй
Храмыя мадэрністы.
Адзін сягоння дрэме
Без формы і без зместу;
Другі пячэ паэмы
З ясенінскага цеста.
. . . . . . . . . . . . .
А дні цяпер такія,—
Ядуць хлеб без натхнення.
Хаця б пераўжылі як
Явы час «адраджэння».



П. Ф. Глебка. 60-я гады.



Якуб Колас, Янка Маўр, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Міхась Клімковіч, Сцяпан Майхровіч і Іван Гутараў сярод маладых пісьменнікаў. 1947 г.

У палемічных вершах, у артыкулах Максім Танк выступіў не толькі супроць чэзлай і бледнай паэзіі, а ў першую чаргу супроць наскрозь гнілой ідэалогіі «адраджанізму», «паэзіі» слязлівага галашэння над доляй народа, «паэзіі» ружовага аптымізму розных мадэрністаў Максім Танк процістравіў сапраўдную паэзію жыцця і веры ў жыццё. Гэта не значыць, што паэт закрываў вочы на змрочную рэчаіснасць Заходняй Беларусі. Не, ён бязлітасна раскрываў гэтую рэчаіснасць, гаварыў аб тых прычынах, якія яе нарадзілі, паказваў рэальныя сілы, якія яе могуць змяніць. У выніку гэтага ў яго не абстрактныя заклікі: «наперад!», «да сонца!», а канкрэтныя вобразы, якія падказвалі народу думкі аб тым, куды ісці і дзе шукаць свайго шчасця. Такімі з'яўляюцца зборнікі вершаў «На этапах», паэма «Нарач» і іншыя творы.

Вось як проста і сурова паказвае вёску Максім Танк у адным са сваіх цудоўных вершаў «Песня кулікоў».

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай;
Цішыня ў хаце згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч з даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ну, садзіся з намі! — дзед стары гавора
І акраец хлеба чорнага кладзе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бачыш: у нас голад, людзі жывуць бедна,
Хлеб на стол кладзецца толькі для гасцей...

А вось малюнак цяжкай сялянскай працы на вузкім загоне:

Яшчэ не змыў іржы стальны нарог,—
Плуг цяжка рве і крышыць баразну.
Да сонца цягнецца вузкі загон.
Залёгшы у хамут, памалу конь
На дальні перавал валочыць плуг:
— Пайшоў!.. Но!.. Проста!.. Но жвавей! Гняды!..
І топяцца ў baрознаў чорны пух
Глыбокія лапцюжныя сляды...

З гэтых гранічна-наглядна выпісаных вобразаў арганічна вынікаюць тыя вывады, да якіх прыходзіць аўтар і прыводзіць свайго чытача:

Путы дай у горны!
Мы іх ўдарам молата скрышым:
Толькі молатам лепшая доля куецца!
Агонь запалілі мы поўпаччу чорнай,—
Да штурму гартуйце жалеза і сэрца.

Штурм гэты будзе цяжкі і суровы. Могуць быць і няўдачы, але гэта не павінна палохаць і падрываць надзеі:

Не плач, яшчэ зарана,
Хоць адступілі ўчора.
Зацісні моцна рану.
Хай не смяецца вораг.
Выходзьце на дарогу
У паход, шчыльней радамі!
Ты ведай: перамога
Ужо не за гарамі.

Так натуральна, выкліканы рэальным улікам сіл, з'яўляецца аптымізм. Танк не дэкларыруе яго, а паказвае як неад'емнае адчуванне працоўнага чалавека. Вось у глыбокім сутарэнні працуе саматужнік:

Трэба было б адпачыць трохі, трэба,
Але з калыскі малы чалавек
Сонныя думкі уміг перасек —
Крыкам галодным напомніў аб хлебе.

Рукі гарачым абліліся потам,—
І ў падзямеллі нам хочацца жыць!
Сталь у руках мазалістых звініць —
Зноў закіпела ў варштаце работа.

Аптымізм Максіма Танка мае сваёй крыніцай аптымізм народа, яго сілу і еднасць. Чалавек чалавеку брат. Вось той дэвіз, пад якім яднаюцца працоўныя людзі ў адну сям'ю. Танк надзвычай зварушліва перадае гэтыя пачуцці і ў вершы «Над калыскай» і ў вершы «Да дня». У гэтым апошнім паэт расказвае, як памёр у турме яго таварыш па камеры. Ён звяртаецца да нябожчыка:

І паслухай, хоць ты спіш,
Я не напішу тваім бацькам.
У сэрца з кіпцюрамі лезці стыдна,
Вырываць надзеі хоць бы цень.
Можа, калі глянуць на гасцінец:
— Сын ці не?
У кожным падарожным
На гасцінцы шэрым
Паміж жоўтых, чорных, белых калянін
Вечная надзея застанецца ім.

Дзеля дабра і шчасця чалавека, дзеля яго свабоды і будучыні людзі не павінны шкадаваць нічога, нават свайго жыцця. Гэта палажэнне складае аснову філасофіі Максіма Танка. Для сцвярджэння гэтага прыводзім невялічкі верш Танка «Бяроза»:

За частаколам ціха што так,
Расой ты плачаш на пясок?

Мы прынеслі вядро і лотак,
Каб малады твой выпіць сок.
І, можа, ты за нашу радасць,
Як ляжам мы на струнах меж,
Асыплеш жарам лістападу,
Густым карэннем апляцеш.
І возьмеш ўсё, што не аддалі,
Ці не забыліся аддаць,
Людзям, баразнам, сіняй далі
І новым маладым гадам.

Усе гэтыя высокія думы паэта — вернага сына свайго народа — выказаны ў Максіма Танка рэалістычнымі, яркімі, пластычнымі вобразамі. Метафары яго і параўнанні арыгінальныя і яркія.

Сонца доўга ў калоссі згарэць не магло.
Прыйдзе і ноч — на бярозы павесіцца.
Месяц прыйдзе, скамарох, у сяло
З чорнай кудлатай мядзведзіцай.

Гэтыя складаныя моўныя вобразы служаць не для ўпрыгожвання радка; яны дапамагаюць больш ярка і глыбока выказаць думку. Вось у краме купец-татарын прадае квяцістыя ўсходнія дываны:

А ў кутку вісяць і цэняцца другія:
Неба, нівы каласістыя і браткі.
— Колькі хочаш вось за гэтыя льняныя?
За напевы і за казкі маёй маткі?

Якое глыбокае і паэтычнае хараство ў гэтай метафары, дзе простыя льняныя дываны параўнаны з напевамі і казкамі роднай маткі. Падобных прыкладаў з твораў Максіма Танка можна прывесці нямала. Гэта не толькі новая паэтыка, гэта зусім новае светаадчуванне паэта, зусім новы змест паэзіі Заходняй Беларусі. Яна была падрыхтавана папярэднімі рэвалюцыйнымі паэтамі, і ў творчасці Максіма Танка, адзначанай высокім арыгінальным талентам паэта, знайшла сваё найбольш поўнае і закончанае выяўленне.

На жаль, гэтыя дасягненні паэзіі Заходняй Беларусі больш маладыя паэты скарысталі вельмі і вельмі мала. Анатоль Іверс у сваім зборніку «Песні на загонах», выданым у Вільні ў 1939 годзе, па сутнасці паўтарае самыя старыя перапевы паэзіі Заходняй Беларусі. Ён не знайшоў яшчэ ні сваёй тэмы, ні сваёй манеры пісьма, і яго вершы неглыбокія і сацыяльна мала насычаныя.

Больш свежымі і пачуццёвымі здаюцца вершы маладой паэтэсы Заходняй Беларусі Ніны Тарас. У яе ёсць свой погляд на жыццё, але тэматыка яе вершаў вельмі абмежа-

ванная: тая ж бедная вёска, успаміны пра яе ў горадзе, жабрак, калыханка, хворая сястра — вось, бадай, і ўсе яе тэмы. Аднак тыя вершы Ніны Тарас, якія былі напісаны пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР («Дождж»), а таксама вершы, што з'явіліся ў друку ў самы апошні час, сведчаць нам, што паэтэса расце і развівае свой талент.

Арыгінальныя, з сатырычным ухілам пісаў вершы Мікола Засім. На жаль, яго вершы вельмі няроўныя, тэхнічна апрацаваны слаба і друкаваліся мала.

Мы не гаворым нічога аб мастацкай прозе Заходняй Беларусі, таму што яе амаль зусім не было. Нядаўна з Заходняй Беларусі прыйшоў у нашу літаратуру малады і здольны празаік Янка Брыль. Да апошніх гадоў ён амаль не друкаваўся і выявіўся як пісьменнік ужо ў наш савецкі час.

Вялікі гістарычны акт уз'яднання беларускага народа ў адной дзяржаве раскрыў як перад маладымі, так і перад выяўленымі пісьменнікамі Заходняй Беларусі самыя шырокія магчымасці для іх далейшай працы і росту. Пісьменнікі Заходняй Беларусі з радасцю сустрэлі гэту вялікую падзею ў жыцці нашага народа і ўславілі яе не ў адным з сваіх вершаў. Калі ж на нашу радзіму напалі нямецкія полчышчы, пісьменнікі Заходняй Беларусі разам з усімі савецкімі пісьменнікамі, разам з усім савецкім народам у радах Чырвонай Арміі і ў партызанскіх атрадах мужна і аддана, пяром і вінтоўкай змагаліся за свабоду і незалежнасць нашай вялікай і непадзельнай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Наша партыя і ўрад высока ацанілі іх работу і ўзнагародзілі многіх з іх ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза. Гэта натхняе іх на яшчэ больш актыўную работу ў адзінай дружнай сям'і савецкіх пісьменнікаў.

*1945 г.*

## ПАЭЗІЯ БАРАЦЬБЫ І ПЕРАМОГІ

Прайшло пяць год з тых дат, калі адначасова з першымі гарматнымі стрэламі прагучалі першыя словы паэзіі ваеннага часу. Гэта быў заклік да абароны ад каварнага і лютага ворага. Мы развіталіся з мірным жыццём і ўступалі ў рады барацьбітоў за чэсць, свабоду і незалежнасць

нашай Радзімы. Пісьменнікі ўзбройваліся вінтоўкамі і новым мастацкім словам. Абрысы перамогі, у якую мы верылі ўсёй душой, былі яшчэ для нас нябачны. Цяпер гэтая перамога здабыта. Мы маем права і павінны падлічыць нашы страты і нашы здабыткі.

Беларускія пісьменнікі ваявалі супроць нямецкіх акупантаў у радах Чырвонай Арміі і ў партызанскіх атрадах, яны змагаліся супроць азвярэлага ворага штыком і словам, пяром і куляй. Некаторыя з іх палі на ратных палях, некаторыя навекі адышлі ад нас у выніку суровых нягод вайны. Сярод нас няма карыфея паэзіі Янкі Купалы, класіка нашай прозы Змітрака Бядулі, буйнейшага пісьменніка Беларусі Кузьмы Чорнага.

Гэта нашы цяжкія і незабыўныя страты. Балюча і горка іх пераносіць, але гора не павінна засланяць нашых здабыткаў. Янка Купала пакінуў нам за час вайны невялікі зборнік «Беларускім партызанам». У ім нямнога вершаў, але кожны з іх — гэта агонь вялікага мяцежнага сэрца, якое так моцна любіла свой народ і так бязмежна ненавідзела ворага. Якуб Колас напісаў кнігу вершаў «Голас зямлі» і дзве паэмы: «Суд у лесе» і «Адплата». Пятрусь Броўка выдаў кнігу вершаў «Насустрач сонцу» і апублікаваў дзве лірычныя паэмы: «Беларусь» і «Ясны кут». Аркадзь Куляшоў даў нашаму чытачу некалькі вершаў і тры паэмы: «Сцяг брыгады», «Дом № 24» і «Прыгоды цымбал». Максім Танк выпусціў вялікую эпічную паэму «Янук Сяліба» і напісаў кнігу лірычных вершаў. У 1943 годзе выйшаў з друку зборнік вершаў Пімена Панчанкі «Дарога вайны», а цяпер надрукавана новая кніга — паэма «Далёкія станцыі». Максім Лужанін надрукаваў кнігу вершаў «Шырокае поле вайны». Надрукавана кніга вершаў, у якую ўваходзяць таксама дзве паэмы — «Мой майстра» і «Аксання» — Антона Бялевіча. Невялічкі, але цікавы і змястоўны зборнічак вершаў «Гартаванне» выпусціў Цімох Крысько, які пасля гэтага напісаў лірычную паэму «Поўдзень» і рад вершаў. Выйшлі з друку зборнікі вершаў Анатоля Астрэйкі «Крамлёўскія зоры» і Эдзі Агняцвет «Край мой родны». У 1944 г. выйшаў зборнік вершаў Міхася Машары пад назвай «Беларусі». Падрыхтавала да друку кнігу вершаў «Світанне» наша старэйшая паэтэса Канстанцыя Буйло. Друкуюцца зборнікі маладых паэтаў Таўлая, Кірэенкі, Гамолкі.

Мы не называем тут твораў Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Алеся Кучара, Міхася Клімко-

віча, Ільі Гурскага, Віталія Вольскага, Алеся Якімовіча і іншых празаікаў і драматургаў, паколькі разгляд іх не ўваходзіць у нашы задачы. Мы не маем таксама магчымасці, ды і не ставім задачы даваць падрабязны агляд усіх пералічаных твораў. Нам хочацца вызначыць тое асноўнае і агульнае, што пры ўсіх асаблівасцях, уласцівых кожнаму паэту, аб'ядноўвае нашу паэзію ў адно цэлае, як паэзію Вялікай Айчыннай вайны і перамогі.

Вайна ў першую чаргу, зразумела, унесла ў нашу паэзію новую тэматыку.

Радзіма, смутак аб ёй, любоў да яе, клятва аддаць за яе жыццё, яе гарады і сёлы, прыгожыя і выдатныя месцы, Масква, Крамлёўскія зоры, Нёман, Прыпяць, Сож, Мінск, Гомель, Магілёўскае шасэ і Белавежская пушча,— усё гэта знайшло ў нашай паэзіі сваіх таленавітых песняроў.

Значная частка вершаў нашых паэтаў прысвечана Чырвонай Арміі. У гэтым раздзеле паэзіі мы маем вершы аб яднанні народа і Чырвонай Арміі, аб героях Савецкага Саюза, як Даватар, Гастэла, Смалячкоў і інш., тут мы маем вершы аб нашых танкістах і разведчыках, аб раненым байцу і дзяўчыне-рэгуліроўшчыцы, аб мужнасці і кемлівасці савецкіх воінаў.

Многа і часта вельмі добрых вершаў напісана аб вялікім партызанскім руху, які ахапіў у часе вайны сабою ўвесь беларускі народ. Партызанская засада і партызанская зямлянка, стары пастух і маладая дзяўчына, стаўшыя партызанамі, свядомыя барацьбіты і народныя мсціўцы — Заслонаў, бацька Мінай, Саша Тышкевіч і безыменныя героі, быт і жыццё, змаганне і дзейнасць партызан — усё гэта ў той ці іншай ступені знайшло сваё адлюстраванне ў нашай паэзіі.

Крывёю сэрца напісаны нашымі паэтамі радкі аб разбурэннях і зверствах, зробленых нямецкімі варварамі на беларускай зямлі. Бяздомныя і асірочаныя дзеці, адзінокія маці, паланянкі, сялянскі лагер у лесе, могілкі, узрытыя нямецкімі бомбамі, зверствы немцаў у Трасцянцы, папялішчы і руіны нашых гарадоў і сёл, як сведкі нечуваных злачынстваў гітлераўскіх людаедаў, устаюць са старонак суровых кніг беларускай паэзіі.

Есць у нашай паэзіі і вершы, напісаныя нібы на тэмы, далёкія ад вайны. Гэта — лес, крыніца, сустрэча ў Іране з бярозай, зубры Белавежы, жураўлі, якія ляцяць з выраю, і калодзежны журавель, прыкуты да зямлі, Ардабільскі перавал і Беларускі вакзал у Маскве, жаўранак і сінія

касачы і інш. Але і ў гэтых вершах чуецца подых ваенных дзён, страсць барацьбы, як і ў вершах, напісаных непасрэдна на ваенныя тэмы. Можна смела сказаць, што тэматыка беларускай паэзіі часу Айчыннай вайны — гэта даволі поўны летапіс нашага жыцця і змагання, нашых імкненняў і надзей. Справа іншая, што не кожная тэма знайшла сабе вартае выражэнне, але яна так ці інакш закранута ў беларускай паэзіі. Горыч адступлення і часовых няўдач, радасць наступлення і звароту на радзіму, няўтольная прага адбудовы, ярасць барацьбы і шчасце перамогі, шчасце творчага жыцця — вось тыя пачуцці, якія даюць эмацыянальныя колеры нашай сённяшняй паэзіі.

Аб чым бы ні пісалі нашы паэты, іхнія пачуцці і думкі былі накіраваны на адно — хутчэй дабіць ненавіснага ворага і вярнуць сваёй краіне яе былое шчасце і красу. Ідэі высокага савецкага патрыятызму займаюць у нашай паэзіі адно з першых месц.

Гарачая і бязмежная любоў да радзімы напісана ў нашай паэзіі крывёю сэрца. Яна адлюстравана ў простых, але яркіх, фізічна адчувальных вобразах. І кожны паэт выказаў сваё замілаванне да радзімы па-свойму. У лірыцы Якуба Коласа малюнкі любай Беларусі напісаны тонкімі акварэльнымі фарбамі. У паэме Петруся Броўкі «Беларусь», а таксама ў яго іншых творах яны паданы яркімі каларытнымі мазкамі. У вершах і паэмах Аркадзя Куляшова Беларусь паўстае як чулая лірычная песня. У паэме «Янук Сяліба» Максім Танк расказвае пра яе ў суровых эпічных тонах.

Любоў да радзімы, выказаная ў нашай паэзіі, не абстрактная. Яна звязана з тымі месцамі, дзе чалавек нарадзіўся, рабіў свае першыя крокі, жыў і тварыў для дабра ўсяго савецкага народа. Яна мацнейшая нават самаго жыцця чалавека. Гэта думка добра выказана ў Аркадзя Куляшова ў яго вершы «Над брацкай магілай». На паўночным захадзе, каля вёскі Лажыны, байцы хаваюць сваіх забітых сяброў-беларусаў. Здавалася б, што мёртвым цяпер усё роўна. Аднак,

> Хоць прымае іх гэта зямля, як сыноў сваіх, шчыра,
> Але просяць іх вочы хоць жменьку палескага жвіру.

Любоў да сацыялістычнай бацькаўшчыны не мае ў сябе ні ценю нацыянальнай абмежаванасці. Савецкія патрыёты, выхаваныя Леніным і яго партыяй у духу нацыянальнай гордасці, спалучаюць гэтае пачуццё з пачуццём непарушнай дружбы народаў Савецкага Саюза.

Дружба народаў знайшла ў нашай паэзіі сваё адлюстраванне і ў непасрэдным яе выражэні і праз паказ гераізму брацкіх народаў, прыроды іхніх краін і іхняй дапамогі беларускаму народу. Такімі з'яўляюцца верш Панчанкі «Байцу, які першым уступіў на беларускую зямлю», верш Броўкі «Каўказ», верш Якуба Коласа «Чымган» і інш.

Савецкі патрыятызм знаходзіць сваё надзвычай яркае праяўленне ў палітычна-маральнай еднасці народа. Перад тварам грознай небяспекі, якім з'явілася нашэсце гітлераўскіх захопнікаў, савецкі народ яшчэ цясней згуртаваўся вакол сваёй партыі. Мудрае народнае выслоўе: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго — стала дэвізам нашых дзён. Кіруючыся гэтай мудрасцю, адчуваючы ўсёй сваёй істотай брацкую еднасць, простыя савецкія людзі, як ляснік і лясніча паэме Куляшова «Сцяг брыгады», мужна хаваюць ад немцаў савецкіх байцоў, выпраўляюць іх у дарогу, як родных сыноў, перавозяць іх ў лодках цераз рэчку, хоць за гэта ім пагражае кара смерцю. З гэтым жа пачуццём узаемнай шчырасці селянін у вершы Пімена Панчанкі аддае савецкаму разведчыку свайго каня, «узгадаванага ўласнай рукою».

З надзвычайнай лірычнай цеплынёй перадае высокае пачуццё чалавечнасці Пятрусь Броўка ў паэме «Ясны кут». У зруйнаваны, бязлюдны калгас вяртаюцца дзед-партызан, ранены баец і дзяўчына з нямецкага палону. Утраіх яны пачынаюць адбудову калгаса. І першая думка ў іх аб тых, якія яшчэ ідуць дарогамі вайны або пакутуюць у нямецкім палоне. Яны збіраюць кветкі і ставяць іх на акно адбудаванага дома, каб яны былі ім маяком:

Каб гарэлі яны агацькамі,
Каб жа кожны, дамоў ідучы,
Бачыў днём іх і позна ўначы.

Да гэтага ж заклікае і Максім Лужанін, калі гаворыць пра байца, які павінен вярнуцца з вайсковага шпіталя на пабыўку:

Зазаві яго ў дом свой і ежу пастаў.
Пайку хлеба пакрой папалам.
Хай не ломіцца стол пад раскошаю страў,
Абы ветласць у хаце была.

Еднасць савецкага народа, пачуццё ўзаемнай сардэчнасці, як адно з праяўленняў савецкага патрыятызму, мае, зразумела, і сваю процілегласць — лютую нянавісць да ворага. Мы ўжо гаварылі вышэй аб сардэчнасці лесніка і

леснічыхі да савецкіх байцоў у паэме А. Куляшова «Сцяг брыгады». У той жа паэме ёсць і процілегласць гэтаму. Жэніцца нямецкі прыслугач Мядзведскі, і вось:

На вяселлі іграць гарманіст
Не згадзіўся, і вёска
Аб'явіла таксама байкот —
Пуста ў хаце,
Ад бацькоў адвярнуўся народ,
Ад сватоў і ад сваццяў.

Гэта халодная адчуджанасць хутка перарастае ў гарачую нянавісць, і неўзабаве «грымнуў стрэл па Іудзе».

Святое пачуццё нянавісці да ворага з асаблівай сілай выказаў вялікі патрыёт Янка Купала ў вершы «Беларускім партызанам»:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

Палкай нянавісцю і гневам супроць нямецкіх акупантаў і іх прыслужнікаў пранізаны паэмы Я. Коласа «Суд у лесе», «Адплата» і многія яго вершы.

Не плач, зямля! Народ мой, не тужы!
Вышэй ўзнімі сваю сякеру
За здзек, за кроў, за грабяжы
На Гітлера, на звера!

Нянавісць да ворага выказвае Пімен Панчанка ў вершы «Апошняя куля», дзе ён гаворыць, што, калі яго акружаюць ворагі і ў парабелуме застанецца апошняя куля, ён успомніць аб усім, што немцамі разбіта і ўкрадзена.

І апошняю куляй, што да ўласнага сэрца прымерана,
Я яшчэ аднаго прусака у зямлю заганю
І, стрымаўшы салдацкую клятву на вернасць,
Сваё цела аддам і пятлі, і свінцу ці агню.

Паказваючы барацьбу савецкага народа супроць нямецкіх акупантаў, беларускія паэты, верныя праўдзе жыцця, не маглі і не абышлі маўчаннем суровых умоў гэтага змагання і тых выпрабаванняў, якія выпалі на долю нашага народа.

Былі першыя дні вайны. Ад нечаканай нямецкай навалы савецкія людзі ішлі на ўсход, і здавалася, як гаворыць Максім Лужанін,

Каржакаватымі нагамі,
Карэнне вырваўшы з зямлі,
Лясы пайшлі услед за намі,
І ўслед нам рэкі паплылі.

Пакінуўшы ўсе свае набыткі, савецкія людзі неслі ў сваіх сэрцах вобразы роднай краіны, як той музыка з паэмы Куляшова «Сцяг брыгады».

А краіну сваю, без якой
Жыць не мог, край вялікі
Захапіў у дарогу з сабой,—
Умясціў ён у сэрцы музыкі!..

І адразу ж у першыя дні нямецкага нашэсця пачалася лютая барацьба з акупантамі.

Яны выпоўзалі за балку
З гармат прытоеным агнём,
Як падаткнула ты запалку
Пад наш гасцінны стары дом.

Так паказвае пачатак гэтай барацьбы М. Лужанін. У вершах Пімена Панчанкі «Так пачынаецца народны гнеў», «Пачастунак», «Саша» дан паказ далейшага разгортвання і нарастання народнай барацьбы. Нарэшце, у паэме Якуба Коласа «Суд у лесе» мы маем ужо разгорнутую дзейнасць партызанскага атрада. І гэтыя матывы — адступлення, пачатку разгортвання і ўсё далейшага і далейшага нарастання барацьбы з нямецкімі захопнікамі — мы знаходзім амаль у кожнага паэта. Умовы барацьбы надзвычай цяжкія. Яна не абыходзіцца без вялікіх ахвяр. У паэме Максіма Танка Янук Сяліба траціць самых дарагіх людзей, але гэта не спыняе яго дзейнасці, не аслабляе яго сіл. У вершы Пімена Панчанкі «Начны мсцівец» пілот Адам Краўчук вымушан бамбіць родны горад, і ён сумленна выконвае загад. У другім вершы таго ж Панчанкі — «Курганы» — байцы, чакаючы ў сем гадзін атакі, усведамляюць, што да восьмай гадзіны не ўсім ім дажыць, і ўсё ж такі ўсё, як адзін, падымаюцца на ворага.

Праз паказ вялікіх выпрабаванняў і суровых умоў барацьбы нашы паэты нядрэнна здолелі акрэсліць рысы мужнага, загартаванага і да канца адданага сваёй радзіме савецкага чалавека — байца і працаўніка.

Нязломны дух савецкага чалавека ярка паказан у вершы Куляшова «Балада аб 4-х заложніках». Дзеці вядомага бацькі Міная ведаюць, што яны асуджаны на смерць, і без адзінага слова скаргі ці просьбы выходзяць і становяцца пад нямецкія карабіны. Сам бацька Мінай таксама ведае, што пагражае яго дзецям. Але ў яго хапае душэўнай сілы не кінуцца ім на дапамогу, бо ён абавязан жыць для свайго народа, «не мае на гэта бацькоўскага права».

Самаахвярнасць савецкага чалавека, яго жалезная воля

паказаны з выключнай сілай у вершы Пімена Панчанкі «Герой».

Высокая цудоўная сіла савецкага чалавека была невычэрпнай крыніцай яго непарушнай веры ў нашу перамогу, у перамогу светлага савецкага пачатку над гітлераўскім цемрашальствам. Адчуваючы і бачачы гэту сілу, беларускія паэты разам са сваім народам ужо ў першыя, самыя цяжкія для нас, дні вайны адчувалі і бачылі абрысы нашай перамогі.

Яшчэ ў 1941 г., гаворачы аб горкіх днях адступлення, аб лютым панаванні Гітлера, з непахіснай упэўненасцю і перакананнем Янка Купала пісаў:

Ачысцім нашы лес і поле  
Ад Гітлера, ад яго бандаў,  
Зноў будзем шчасце мець і волю  
Ў сваіх абноўленых прысадах.

Гэтыя ж думкі амаль у кожным сваім вершы нязменна сцвярджаў народны паэт Якуб Колас. Яны пранізваюць сабою творчасць Петруся Броўкі і Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі і Цімоха Крысько, Анатоля Астрэйкі і Антона Бялевіча.

Паказваючы патрыятызм савецкага народа, яго палітычна-маральную еднасць, яго беззаветную адданасць і мужнасць, нашы паэты (адны ў большай меры, другія ў меншай) крок за крокам раскрывалі заканамернасці нашай перамогі і тыя сілы народа, якія вызначалі гэту перамогу, вялі да яе і забяспечылі яе прыход. Вось чаму вершы, напісаныя два і тры гады таму назад, гучаць актуальна і сёння, у дні канчатковай перамогі над ворагам. Вось чаму, гаворачы аб паэзіі Айчыннай вайны, мы гаворым аб ёй як аб паэзіі барацьбы і перамогі. Дапоўненая вершамі аб вызваленні нашых гарадоў і сёл, аб першых цаглінах, пакладзеных у грунт адбудовы нашай гаспадаркі і культуры, беларуская паэзія набывае ўжо новыя рысы, якія характарызуюць яе як паэзію перамогі. Калі ў 1942 г. Броўка ўпэўнена сцвярджаў, што «будзем сеяць, беларусы», то ў паэме «Ясны кут» ён паказвае першую сяўбу на вызваленых палях. Гэта ўжо — адзін з канкрэтных момантаў перамогі. Яна ўваходзіць у нашу паэзію не толькі ў вобразе веры, але і ў вобразе непасрэднай рэальнасці.

Апрача вершаў аб вызваленні і паэмы Броўкі «Ясны кут» мы маем на гэтую ж тэму і паэму Куляшова «Дом № 24» і рад вершаў іншых паэтаў. Характэрнай адзнакай іх з'яўляецца няўтольная прага жыцця, прага творчасці,

вялікі і светлы аптымізм. Мы ведаем, што пасля першай імперыялістычнай вайны амаль уся заходнееўрапейская літаратура была літаратурай аб чалавеку, пакалечаным і душэўна апустошаным вайной. Вялікая Айчынная вайна, вайна за прагрэс, за светлыя ідэалы чалавецтва, натхняе нашых мастакоў на творы, якія ўсімі сваімі вобразамі не адмаўляюць жыццё, а сцвярджаюць яго. У вершы «Перад сустрэчай» Пімен Панчанка піша:

Мінаючы бары і рэкі,
З вайны мы вернемся дамоў,
Як стомленыя дрывасекі,
Зваліўшыя пяцьсот дубоў.

Хто выйдзе цэлы, хто абрубак
Павалачэ ў далёкі шлях.
І ўсё ж усім нам будзе люба
І лёгка крочыць па палях.

Вайна не можа ні вытруціць жывых пачуццяў, ні апустошыць душы нашага чалавека, хоць можа і пакалечыць яго фізічна. Вось чаму ён успрымае і будзе ўспрымаць ва ўсёй паўнаце ўвесь навакольны свет, усе яго адценні, гукі і фарбы; вось чаму яму «будзе люба і лёгка крочыць па палях».

Тэндэнцыі светлай, жыццесцвярджальнай, глыбока аптымістычнай літаратуры, якія намеціліся ў некаторых вершах і асабліва ярка выражаны ў лірычнай паэме Броўкі «Ясны кут», павінны быць развіты і прадоўжаны. Паказ адбудовы жыцця — чарговая задача нашай паэзіі. Тыя, што загінулі на ратным полі за нашу перамогу, звяртаючыся да жывых, гавораць словамі Лужаніна:

Вяла ў жыццё дарога нас адна,
Мы разам верылі, змагаліся, любілі,
Мы дзён не дажылі, мы спраў не дарабілі,
Дык вы, адпомсцўшы, зрабіце ўсё за нас.

Савецкія людзі змагаюцца супроць смерці і паміраюць за жыццё, за яго далейшы росквіт. Чалавек можа загінуць, але народ бяссмертны. Жыццё, яго традыцыі і заветы перадаюцца з пакалення ў пакаленне, яны не гінуць. Савецкі народ, творачы вялікую сучаснасць, нястомна думаючы пра будучыню, заўсёды высока цаніў славу мінулага. Калі ж нямецкія вылюдкі насмяяліся з нашай нацыянальнай чэсці, апаганілі нашы святыні,— наша мінулае стала нам яшчэ даражэй. Слаўная спадчына нашых продкаў, традыцыі мінулага ажылі і набылі новае значэнне ў рэчаіснасці і ў паэзіі. Пімен Панчанка піша:

I легенды лунаюць над роднай зямлёй,
Што адважны Гаркуша
Драпежнікаў глушыць,
Што Кастусь Каліноўскі выходзіць на бой...

I калі ў Панчанкі Кастусь Каліноўскі «выходзіць на бой» яшчэ толькі ў легендзе, то ў Петруся Броўкі ён ужо выступае ў вобразе рэальнага партызана.

Мы змагаемся не толькі за наша сённяшняе, мы клапоцімся пра будучыню, пра наступныя пакаленні. У вершы «Байцам-беларусам» Пятрусь Броўка гаворыць, што нішто не заглушыць боль яго душы, пакуль ён не вернецца на радзіму і не перадасць усіх здабыткаў у спадчыну сыну.

Шануючы сваё мінулае, мы імкнемся перадаць у спадчыну наступным пакаленням і нашы матэрыяльныя здабыткі, і нашы думы, і нашы традыцыі.

Калі мне дзіцёнкам жыццё упрыгожыш,
Дык уцешнай дзяўчынкаю хату сагрэй,
Дай ёй светлыя косы, як спелае збожжа,
I на ясным аблічча валошкі вачэй.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Каб падобнай была і па гордасці гэткай,
Як і тыя з яе незнаёмых сясцёр,
Што ўзрывалі чыгунку, хадзілі ў разведку
I цяплілі ў лясах партызанскі касцёр.

Так выказвае думы сучаснікаў пра наша бліжэйшае пакаленне Максім Лужанін.

Творачы сучаснасць, паміраючы за яе ў баях, людзі клапоцяцца аб сваім бяссмерці ў наступных пакаленнях. Аснова гэтага бяссмерця — радзіма і яе неўміручы народ. У выдатнай паэме Максіма Танка «Янук Сяліба» гэтая думка надзвычай ярка выражана ў легендзе пра музыку. Жыў на Палессі музыкант Кулік, якога ўпадабаў і бог і чорт. Заспрачаўшыся за яго, яны прапанавалі музыку выбіраць, куды пайсці — у рай ці ў пекла. Музыка ўспомніў родны край, паправіў лапці, патужыў струны і пайшоў на сваё Палессе. Па яго паслалі смерць:

I вось, як цень, за ім брыдзе яна,
Пільнуючы, ці скора ўжо канец
Вяселлем, хрэсьбінам. I кожны раз
Пытаецца ў карчме: — А не пара
Табе на неба? — Не, вось паглядзі:
Яшчэ не бачу ў хмельнай чарцы дна.—
I, пэўна, век музыка будзе жыць
Сябрам на радасць і на славу нам.

Бяссмерце народа складае аснову філасофіі нашай паэ-

зіі. Мы перажываем велізарнейшыя падзеі, грамадская практыка і дзейнасць нашага народа — неабдымныя, і даць ім філасофскае абагульненне ў творчасці таго ці іншага паэта — справа не такая простая. Вось чаму многія вершы не стаяць яшчэ на ўзроўні гэтай практыкі. Але ўзятая цалкам, наша паэзія ў яе лепшых узорах у значнай ступені адлюстравала вялікія падзеі вайны і так ці інакш імкнецца даць ім пэўнае сваё абагульненне. Тэматычна яна насычана высокім савецкім патрыятызмам, які знайшоў сваё праяўленне ў любві да радзімы, у еднасці і дружбе народа, у лютай нянавісці да ворага, у самаахвярнай барацьбе супроць нямецкіх захопнікаў. Імкнучыся даць асобным фактам і з'явам сваё абагульненне, яна стаіць на грунце філасофіі глыбокага аптымізму, веры ў жыццё, у бяссмерце народа. Такім чынам, з'яўляючыся паэзіяй барацьбы за чэсць, свабоду і незалежнасць савецкага народа, яна з'яўляецца і паэзіяй перамогі — і не толькі таму, што ў ёй закранута тэма нашай ваеннай перамогі, але яшчэ і таму, што яна па сваіх ідэях з'яўляецца паэзіяй перамогі жыцця над смерцю, паэзіяй перамогі светлага, гуманнага пачатку над чорным, чалавеканенавісніцкім цемрашальствам гітлераўцаў. Развіваючы гэты светлы пачатак, паэзія мужнага і працавітага беларускага народа пойдзе да свайго вышэйшага росквіту і славы.

*1945 г.*

## ПІМЕН ПАНЧАНКА — «ДАЛЁКІЯ СТАНЦЫІ»

Кніга Пімена Панчанкі «Далёкія станцыі», якая выйшла з друку ў канцы 1945 г.— з'ява ў нашай паэзіі надзвычай цікавая і ўсцешная. Напісана яна таленавіта, арыгінальна і разумна. Яна глыбока хвалюе чытача і раскрывае перад ім своеасаблівы і шырокі свет. Аўтар яе валодае пільным поглядам. Ён многа бачыў і перажыў, і падзеі, і з'явы глыбока адгукнуліся ў ягоным сэрцы:

Каля рэек сталёвых я стану
І паклічу праз мачты лясоў,—
Адгукнуцца далёкія станцыі
Мільёнамі галасоў.

Толькі гляну ў далеч — і пырскамі
Дзьмухне вецер у твар малады

Чарнаморскай, і каспійскай,
І балтыйскай салёнай вады.

Толькі ў памяці крыху парыюся,—
Зашумяць між маіх радкоў
Тэгеранскія кіпарысы
З завушніцамі маладзікоў... *(стар. 4—5)*

Уся гэта шматграннасць убачанага і перажытага знайшла сваё адлюстраванне ў вершах Пімена Панчанкі. Стэпы Расіі і лясы Беларусі, Эстонія і Тэгеран, Уральскія горы і Каспійскае мора, дзіця, пазбытае ў нямецкай няволі маленства, і сустрэтая ў Іране паўночная бяроза, белавежскія зубры і ашалелыя на полі бітвы коні, вырай жураўоў і старажытныя курганы, нядрэмнае вока снайпера і рэгуліроўшчыца на ваенных дарогах, лётчык, які бамбіць родны горад, і пехацінец, што лёг на калючы дрот, каб па ягоным целе таварышы прайшлі ў атаку,— усё гэта і многае іншае паслужыла паэту матэрыялам, на якім ён стварыў сапраўды мастацкія вершы аб Радзіме і любві да яе савецкага чалавека. Панчанка не дэкларуе гэту любоў, яна дыхае ў яго ў кожным радку, аб чым бы ён ні пісаў. Вось ён у Іране бачыць, як адлятаюць на Поўнач жураўлі. У гэтую пару, вясною, ён прывык іх сустракаць у роднай Беларусі:

А тут журавель, узмахнуўшы крылом,
У вырай праз сэрца ляціць напралом. *(стар. 74)*

Пачуцці паэта выліваюцца ў гарачую патаемную любоў да роднай краіны, але выказваюцца яны не просталінейна, а праз глыбокі паэтычны роздум:

Я зайздрасці к птушкам ніколі не меў,
Без крылляў мне нават ямчэй,
А зараз ад крыўды глухой анямеў
І з неба не зводжу вачэй.

Панчанка валодае мастацкім дарам выказваць вялікія чалавечыя пачуцці проста і стрымана. У вершы «Герой», расказаўшы, як па целе пехацінца, што лёг на калючы дрот, таварышы прайшлі ў атаку, паэт робіць выснову:

А ён свае косці з іржавых калючак
Сваімі рукамі без стогну аддзёр,
Зваліўся на травы, і стала балюча
І травам, і росам, і ветрам гаючым,
Што прыляцелі з Валдайскіх азёр.

Мастацкі такт і чуйная стрыманасць у выказванні чалавечых перажыванняў арганічна спалучаюцца ў вершах

Панчанкі са шматграннасцю пачуццяў, яркасцю вобразаў і паэтычных асацыяцый — гістарычных, бытавых і літаратурных. Панчанка смела перафразуе пушкінскія радкі («Не, гэта не апошняя аповесць, і летапіс яшчэ не скончан мой»), аперыруе імёнамі Хаяма і Саадзі, успамінае палавецкія часы, параўноўвае сосны са сланамі («Хвоі тоўстыя за акном цяжка тупаюць, як сланы»),— і ўсё гэта не здаецца стракатым, а арганічна ўваходзіць у вобразную тканіну паэта. У выніку паэтычны свет Панчанкі шырокі і шматколерны. Ён шматгранны не толькі тэматыкай, але і пачуццямі. Панчанка — лірык. Але побач з гэтым яго радкі асветлены часта ўсмешкай, а часта насычаны едкай сатырай. У адпаведнасці з гэтым, Панчанка не шукае нейкіх асаблівых слоў, прыдатных быццам толькі для лірыкі, а карыстаецца ўсёй разнастайнасцю літаратурнай і бытавой мовы. Ён ужывае, здавалася б, залішне грубыя словы, але ўжывае іх з тактам, і яны гучаць свежа і магутна. У гэтым, бадай, адна з прычын яркай і арыгінальнай вобразнасці паэта. Вось для прыкладу некалькі метафар Панчанкі: «і пражэктар далёкі светлым багром б'е маўкліва ў чырвоную хмару пажару», «і апошні нягучны гром стаў у шосты накат забіваць залатыя цвікі дажджу», «на цыпкі прыўстанеш, і добра відно з сланамі і львамі брытанскую Індыю», «каўшом серабрыстым Вялікай Мядзведзіцы паўмора зачэрпну і ў Піншчыну выплесну».

У некаторых метафарах Панчанкі адчуваецца роднасць з У. Маякоўскім. Адчуваецца яна і ў рытміцы, і ў слоўніку, і ў рыфмоўцы Панчанкі. Але пры ўсім гэтым і кроплі няма запазычанняў ад Маякоўскага. Панчанка надзвычай арыгінальны і самабытны паэт, бадай, адзіны ў нашай паэзіі, якому арганічна блізкі цяжкі і шырокі шлях Маякоўскага. Апошняя кніга Панчанкі «Далёкія станцыі» — яркі доказ гэтаму, і яна заслугоўвае быць прадстаўленай на атрыманне Дзяржаўнай прэміі ў галіне паэзіі.

*15/III 1946 г.*

## ПЯСНЯР НАРОДА

У вершы «Водгулле», напісаным у 1921 годзе, праводзячы паралель паміж прыродай і душой чалавека, Якуб Колас вызначыў задачы паэта наступным чынам:

А ты, калі гора каго напаткае
Ці жальба пачуецца, плач.
Або запануе дзе крыўда ліхая,—
На ўсё адгукніся, адзнач!
А радасць пачуеш, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весткі падаць,
Няхай тады струны твае засмяюцца
І песняю шчасця гучаць!

Праз усю сваю саракагадовую дзейнасць паэт цвёрда трымаўся гэтых прынцыпаў: на ўсё адгукнуцца і ўсё адзначыць у сваёй творчасці — і гора народа і яго радасць.

Ужо ад самых першых дзён маладосці жыццё Якуба Коласа было суровае. Але яшчэ больш горкім і суровым было жыццё беларускага селяніна, якога бачыў штодзённа паэт. Гэтыя абставіны, галоўным чынам, і вызначылі характар коласаўскай паэзіі:

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.
Я б смяяўся, жартаваў бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды на жыцце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

Выдатны пясняр беларускага народа Якуб Колас праўдзіва і глыбока адлюстраваў у сваёй творчасці гэту суровую старонку гісторыі нашай краіны пачатку XX стагоддзя.

Аб'ектам яго творчасці становіцца пераважна сялянства, але ён закранае часамі і жыццё рабочага і вясковай інтэлігенцыі. Родны край, вёска, мужычае жыццё, плытнікі, араты, жыццё ўдавы, доля батрачкі, пастушок, першы заработак, жніво — вось што з'яўляецца тэмай коласаўскай паэзіі. Іначай кажучы, у цэнтры гэтай паэзіі стаіць сялянскае жыццё ва ўсіх яго праявах.

Аднак сцвярджэнні пэўнай часткі нашай крытыкі, што быццам бы Якуб Колас з'яўляецца толькі паэтам грамадскага смутку, не маюць пад сабой ніякіх падстаў. Якуб Колас апяваў не толькі гора народа. Ён, поруч з Янкам Купалам, быў у нашай паэзіі песняром народнай барацьбы ў рэвалюцыі 1905 года; ён быў трыбунам, які заклікаў народ на змаганне з царызмам; ён быў прарокам, які верыў у сілы народа і ў яго перамогу; ён быў пісьменнікам, у творчасці якога знайшлі сабе месца і гумар народа і яго дасціпнасць.

Апяванне народнага гора, некаторая задуменная засму-

чанасць, з якою Якуб Колас глядзеў на ўбогую прыгнечаную Беларусь,— гэта толькі адзін бок яго творчасці. Талент Якуба Коласа ў аснове сваёй эпічны. Там, дзе лірык можа лёгка перайсці ад адной фарбы да другой, Колас, верны свайму эпічнаму метаду аднапланавасці, дае малюнак толькі ў адным колеры. Таму поруч з вершам «Пясняр», у якім Якуб Колас гаворыць, што ён «пра радасць пець не здаўся», паэт у тым жа годзе дае другі верш, дзе звяртаецца да песняра з такім заклікам:

Заспявай жа ты песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна!

Вось чаму поруч з вершамі, поўнымі смутку аб народнай долі, з-пад пяра Коласа з'яўляюцца вершы, прасякнутыя палымяным пратэстам супроць тагачаснага ладу і заклікам да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. І калі творы аднаго парадку з'явіліся ў выніку бяспраўнага сацыяльнага і нацыянальнага становішча народных мас Беларусі, дык другія былі народжаны і адлюстроўвалі змаганне гэтых мас у рэвалюцыі 1905 года.

Паасобныя рысы тагачаснай рэвалюцыйнай рэчаіснасці знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданнях Якуба Коласа «Бунт», «Нёманаў дар» і нават у такіх гумарыстычных рэчах, як «Соцкі падвёў», «Недаступны». З найбольшаю сілаю рэвалюцыйныя настроі мас выяўлены Якубам Коласам у яго лірычных і сатырычных вершах.

Устаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна,—

заклікае паэт у адным з вершаў 1906 года. Але тут заклік носіць яшчэ абстрактны характар. У вершы «Ворагам» Якуб Колас называе ўжо сваімі імёнамі прыгняtальнікаў працоўнага народа, і заклік яго набывае велізарную сілу. Ён гучыць як магутны прысуд над заклятымі ворагамі:

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам —
Каты вы, зладзеі!
. . . . . . . . .
Ужо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

У гэтым вершы Якуб Колас правільна, з паслядоўна-рэвалюцыйных пазіцый намячае шляхі да барацьбы супроць памешчыкаў і капіталістаў за поўнае сацыяльнае вызваленне працоўных мас. Ён гаворыць, што толькі цераз бязлітаснае змаганне з памешчыцка-буржуазным ладам можна прыйсці да перамогі і ўстанаўлення новага, справядлівага грамадскага парадку. І гэты заклік паэта даходзіць да мас і знаходзіць водгук у іх думках.

Адкрытае выступленне Якуба Коласа не толькі супроць панства і багацеяў, але і супроць іх трывалай апоры — царызму, не магло быць даравана паэту. Тым больш што пад гэты час паўстанні былі падаўлены царызмам з нечувалай лютасцю, і рэвалюцыйны рух пайшоў на спад. Па ўсёй краіне пачаліся рэпрэсіі. Наступіла сталыпінская рэакцыя.

Але ні жорсткія рэпрэсіі, ні чорныя дні рэакцыі, ні турма не зламалі цвёрдага духу і волі Якуба Коласа. Мне здаецца, памыляюцца тыя, што па шаблону імкнуцца характарызаваць творчасць паэта перыяду рэакцыі як адступленне ад рэвалюцыйных прынцыпаў у бок яшчэ большага смутку і нават песімізму. Факты творчасці Якуба Коласа гавораць аб адваротным.

У першую чаргу тут трэба адзначыць вялікі цыкл вершаў на тэмы астрожнага жыцця. У большасці гэтых вершаў са смуткам успамінаюцца родныя мясціны, жыццё на волі. І ў кожным з іх затоена моцнае, прагнае жаданне свабоды.

З другога боку, з'едлівы здзек з царскіх абяцанак даць вольнасць і канстытуцыю тут, у сценах турмы, набываюць асабліва глыбокі сэнс і выразнасць. У адным месцы Колас зазначае нібы намёкам, што «мужычы сын пахілы роўнасць мае... у магіле». А ў вершы «Канстытуцыя» ён дае разгорнуты паказ тых «свабод», якія «дараваў» народу цар Мікалай. Ён горача кліча змагацца з гэтымі парадкамі, бо верыць, што не задушаны канчаткова ў народзе рэвалюцыйны дух:

Я — мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Колас бязлітасна бічуе тых, што зняверыліся ў сілах народа, «ад думак даўнейшых сваіх адракліся», пакорліва паклалі на шыі тыя ярмы, якія самі ж раней асмяялі.

«Ці чуеце, хлопцы?» — звяртаецца да іх паэт і тут жа гаворыць:

Адказу не маю
І вечны пакой Вам ў астрозе спяваю.

Колас з гарачым заклікам звяртаецца да тых, хто не адрокся ад сваіх ранейшых ідэалаў, але каго запалохала чорная ноч рэакцыі.

Ён сваім словам імкнецца загартаваць у іх душах цвёрды дух, волю да пераадолення вялікіх цяжкасцей на шляху барацьбы:

Гэй, выгнаннікі,
Сябры любыя,
Да канца, браты,
Будзьма цвёрдымі!

Паэт верыць, што жаданая вясна вернецца, і ён усім сэрцам сваім заклікае яе:

Сагрэй ты нас, цяплом абвей...
Ідзі, вясна, ідзі скарэй!

Такім чынам, і ў чорныя гады сталыпінскай рэакцыі, у гады страшнага ідэйнага разброду сярод інтэлігенцыі, Якуб Колас заставаўся верным сваім рэвалюцыйна-дэмакратычным ідэалам, свайму народу. Ён смуткаваў аб горкай народнай долі, але ніколі не сумняваўся ў сілах народа, бязлітасна выкрываў царызм, бічаваў здраднікаў рэвалюцыі, клікаў да змагання за волю і верыў у перамогу.

Залатое жыццё прынесла народам Расіі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. Пасля рэвалюцыі ўсю ўвагу Колас аддае рабоце над паэмамі «Новая зямля», «Сымон-музыка». Яны былі пачаты яшчэ да рэвалюцыі і становяць сабой арганічны пераход ад твораў дакастрычніцкіх да твораў паслякастрычніцкіх.

Паэма «Новая зямля» з'яўляецца адным з самых выдатных твораў Якуба Коласа і ўсёй нашай беларускай літаратуры. У ёй з гранічнай выразнасцю напісана трагедыя беззямельнага селяніна, які не пазбыўся яшчэ ілюзій мірным шляхам і адным сваім мазалём прыдбаць кавалак зямлі, і такім чынам вызваліцца ад панскай залежнасці. Такім селянінам у паэме з'яўляецца Міхал. Ён служыць у пана лесніком. Лёс яго цалкам залежыць ад людзей, якія стаяць вышэй за яго. Церпячы ад іх усялякія крыўды, Міхал думае, як бы яму стаць незалежным, вольным чалавекам, і ў яго з'яўляецца мара:

Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут.
І там зажыць сабе нанова:
Свая зямля — вось што аснова.

Для дасягнення пастаўленай мэты Міхал прыкладае ўсе свае намаганні. Але на яго шляху стаіць уся памешчыцка-капіталістычная арганізацыя з яе банкамі, натарыяльнымі канторамі і іншымі ўстановамі запрыгнечання. Страціўшы ў няроўнай барацьбе ўсе свае сілы, Міхал памірае, не дасягнуўшы запаветнай мэты.

У рамках гэтага нескладанага сюжэта Коласу ўдалося намаляваць шырокую і яркую карціну жыцця і побыту сялянства перад рэвалюцыяй 1905 года. І гэту паэму справядліва называюць энцыклапедыяй беларускага сялянскага жыцця. У ёй праўдзіва і з вялікім майстэрствам выпісаны характары. У ёй з высокім натхненнем апаэтызавана чалавечая праца. У ёй ярка і дакладна напісаны малюнкі сялянскага побыту. Яна прасякнута паэзіяй беларускай прыроды і мяккім сялянскім гумарам.

Аднак веліч паэмы «Новая зямля» не толькі ў гэтым. Яна, у першую чаргу, у вялікай ідэі, якую раскрывае аўтар праз усе падзеі і выкрывае тут трагічную неадпаведнасць паміж спрадвечнаю мараю селяніна аб зямлі і тымі нерэальнымі, ілюзорнымі шляхамі, якімі многія спрабуюць да яе ісці. Павінен быць іншы, сапраўдны шлях да шчасця,— робіць вывад чытач, слухаючы заключны акорд паэмы:

Прасторны шлях! Калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

У іншым плане напісана другая выдатная паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка». У ёй расказваецца аб таленавітым самародку-музыку, сялянскім хлапчуку Сымоне. Багата абдараваны прыродай, Сымон не можа развіваць свой талент, таму што ўмовы жыцця надзвычай жорсткія. Выгнаны бацькамі з дому, ён трапляе спачатку да жабрака, пасля да карчмара і, нарэшце, да пана. Але нідзе няма свабоды яго таленту. Адна толькі сялянская дзяўчынка Ганна разумее душу музыкі. Сымон ірвецца да яе ўсёй сваёй істотай, уцякае з панскіх палацаў і ідзе на шырокія прасторы жыцця.

Гэта сюжэтная лінія складае адзін, рэальны план паэмы. Поруч з гэтым у паэме разгорнуты другі, рамантычна-казачны план, у якім у выглядзе адступленняў і ўста-

вак раскрываецца мудрасць і паэзія народа, яго ўяўленні аб прыродзе, песні, легенды, паданні і вераванні.

Закончыўшы паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», Якуб Колас працуе над вершамі і апавяданнямі на сучасную тэматыку і адначасна піша аповесці «У Палескай глушы», «У глыбі Палесся», якія, па сутнасці, з'яўляюцца дзвюма часткамі вялікага твора аб дарэвалюцыйным жыцці сялянства і вясковай інтэлігенцыі, аб іх абуджэнні да актыўнай грамадскай і рэвалюцыйнай дзейнасці.

У гэтыя ж гады з-пад пяра Якуба Коласа выходзіць аповесць «На прасторах жыцця». З уласцівай пісьменніку чуйнасцю да ўсяго новага Якуб Колас паказвае ў гэтым творы тыя велізарныя зрухі ў жыцці і ў свядомасці сялянства, якія прынесла ў вёску Савецкая ўлада. «На прасторах жыцця» — аповесць аб нашай моладзі перыяду аднаўлення гаспадаркі пасля грамадзянскай вайны. У ёй паказаны першыя крокі работы Ленінскага камсамола ў вёсцы, яго роля ў ломцы старых звычаяў і забабонаў. У аповесці паказаны цяга моладзі да навукі і культуры і тыя шырокія прасторы, якія раскрыла ў гэтым кірунку Савецкая ўлада.

У аповесці «На прасторах жыцця», бадай, упершыню ў беларускай савецкай літаратуры, Якуб Колас загаварыў аб асушцы балот і аб калектыўнай працы ў сельскай гаспадарцы. З цягам часу ў перыяд барацьбы нашай партыі за калектывізацыю гэта тэма ў творчасці Якуба Коласа становіцца асноўнай. Тут трэба адзначыць цыкл вершаў «Калгаснае» і аповесць «Адшчапенец».

У вершах «Калгаснае» паэт раскрывае погляды розных класавых праслоек на справу калектывізацыі. Ён зрывае маску з кулака, які прыкідваецца няшчаснай істотай і прыхільнікам калгаса, а на самой справе з'яўляецца воўкам у авечай шкуры, заядлым ворагам Савецкай улады. Ён паказвае гібельнасць старой вёскі і раскрывае перспектывы новай; ён выступае палкім агітатарам за калектывізацыю:

> «Мая зямля», «мой поплаў», «паша»,
> «Мой луг», «мой конь», «мае каровы» —
> Злінялыя, старыя словы!
> Пара, пара даць сэнс ім новы:
> Змяніць іх час на «наш» і «наша»!

Якуб Колас паказвае працэс калектывізацыі не спрошчана, а з усімі перашкодамі і цяжкасцямі, якія стаялі на гэтым шляху. Ломка псіхікі селяніна ідзе складанымі

і звілістымі сцежкамі. Гэта разгорнута і досыць глыбока паказана ў аповесці «Адшчапенец». Цэнтральны вобраз гэтага твора, Пракоп Дубяга, прыходзіць у калгас не адразу. Ён моцна прывязаны да ўласнасці, і разлучыцца з ёю ў яго не хапае сіл. Тым часам уся сям'я Пракопа стаіць за калгас. Тады Пракоп кідае дом і ідзе ў свет. Але скрозь ён адчувае сябе «адшчапенцам». Яму сорамна перад людзьмі за свае бязмэтныя вандраванні, і, прыйшоўшы ў калгас «Хвалі рэвалюцыі», ён выдае сябе за сялянскага дэлегата. Пазнаёміўшыся з калгасным жыццём, Пракоп разумее сваю памылку і вяртаецца ў сваю вёску прыхільнікам калгаса.

Магчыма, што сюжэтная лінія аповесці некалькі выпадковая. Але ў рамках гэтага сюжэта Якубу Коласу ўдалося адлюстраваць тыповыя моманты класавай барацьбы на вёсцы і праўдзіва і пераканальна перадаць складаны працэс змен у псіхіцы селяніна.

Аповесць «Адшчапенец» увайшла ў нашу літаратуру як адзін з прыкметных твораў аб калектывізацыі, якую Якуб Колас горача вітаў і славіў у сваёй творчасці:

Я вітаю вялікі, шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасці іх.
Дык ярчэй жа гары, сонца радасных дзён!

У далейшыя перадваенныя гады Якуб Колас зноў не раз звяртаецца да калгаснай тэмы і прысвячае ёй такія цудоўныя творы, як паэтычны цыкл «Восеньскае», вершы «Песняю вітаю я вас», «Дзед-калгаснік», «Таніна тайна» і інш. У гэтых творах адлюстравана ўжо новая калгасная вёска, з яе шырокімі палямі і новымі будынкамі, з трактарамі і камбайнамі, з новымі людзьмі і з новымі сацыялістычнымі адносінамі да працы.

Нямала добрых вершаў напісаў Якуб Колас і аб сацыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны. Пяцігодкі, вялікія новабудовы, агні электрастанцый, новыя гарады, стаханаўскія метады працы — усё гэта ў той ці іншай ступені стала аб'ектам творчасці паэта. Якуб Колас убачыў Беларусь у новай постаці. Змяніліся гарады і вёскі, змяніўся пейзаж краіны — замест панурых і цёмных фарбаў зайгралі светлыя, сонечныя колеры. Новыя, радасныя настроі загучалі і ў вершах Якуба Коласа:

І я ў захапленні, радасны і горды
За свой край, народ,
Убіраю ў сэрца дзіўныя акорды,
Творчай сілы ўзлёт...

Вось чаму я сёння не тужу па леце,
Па сваёй вясне
І па тым, што колісь навяваў мне вецер
У юнацкім сне.

Не матывы смутку, а радасць і шчасце, пачуцці гордасці за свой край і народ поўным голасам гучаць у творчасці паэта.

Гаворачы аб вялікіх поспехах і шчасці Савецкай Беларусі, Якуб Колас заўсёды помніў і цяжка перажываў пакуты Заходняй Беларусі, якая стагнала пад ярмом белапанскай Польшчы. Не адзін добры верш напісаў паэт аб сваіх земляках — людзях Заходняй Беларусі, і не адну сатыру накіраваў супроць паноў і іх наймітаў. Але самым выдатным творам аб змаганні беларускага народа з польскімі панамі з'яўляецца аповесць «Дрыгва». Яна стала адным з любімых твораў нашага чытача і перакладзена на многія мовы народаў Савецкага Саюза.

У чым жа сіла гэтай аповесці?

Сіла яе ў шырокім і глыбокім паказе народнай барацьбы супроць адвечных ворагаў нашага народа — польскіх паноў. Сіла яе ў затоеным і глыбокім гневе супроць ворагаў. Гэты гнеў падымае на барацьбу і сямідзесяцігадовага Рыгора Талаша і падлетка Панаса.

З пратэстанта-адзіночкі Рыгор Талаш у ходзе барацьбы вырастае ў камандзіра партызанскага атрада. Рост яго адбываецца натуральна. Праўдзіва выпісаны і іншыя вобразы аповесці, і гэта праўда надае ёй мастацкую глыбіню і пераканальнасць.

За час Вялікай Айчыннай вайны Якуб Колас напісаў кнігу вершаў «Голас зямлі», дзве паэмы «Суд у лесе» і «Адплата» і дзесяткі публіцыстычных артыкулаў. Усе гэтыя творы яднае ў адно цэлае глыбокая нянавісць да нямецкіх захопнікаў і заклік да роднага народа бязлітасна помсціць гітлераўскім катам за разбурэнне і смерць, заклік адважна змагацца з нямецкай навалай.

Якуб Колас не толькі заклікае да барацьбы. У вершы «Засада» і «Над магілай партызана» ён дае паказ гэтай мужнай барацьбы беларускага народа, арганізаванага нашай партыяй. Аднак гэта толькі яшчэ паасобныя штрыхі карціны. Больш разгорнутыя малюнкі партызанскага руху Якуб Колас малюе ў паэмах «Суд у лесе» і «Адплата». У аснову паэмы «Суд у лесе» пакладзены адзін толькі эпізод, які завяршаецца партызанскім прысудам над ворагамі. Вобразы змагароў тут толькі яшчэ намечаны. Най-

больш яркімі з іх з'яўляюцца Іван Гурба і дзед Гамыра. І ўсё ж такі ад паэмы вее шырокім размахам і сапраўдным подыхам партызанскай барацьбы. Паэма моцная ярка выпісанымі карцінамі народнага гора. Яе адухатварае нянавісць да ворага, глыбокая любасць да Радзімы.

Паэма «Адплата» — больш шырокае эпічнае палатно аб партызанскай барацьбе з нямецкімі акупантамі і іх прыслужнікамі. Тут раскрываюцца дасціпныя метады барацьбы і народная кемнасць партызан. У гэтым — вялікае пазнавальнае значэнне паэмы.

Ярка напісаны ў паэме карціны партызанскага жыцця. З асаблівай любасцю выпісаны пейзаж, цудоўным майстрам якога з'яўляецца Якуб Колас.

Паказваючы разбурэнні і смерць, якія прынеслі ў нашу краіну нямецкія фашысты, балюча перажываючы вымушаную разлуку з радзімай, заклікаючы да змагання і помсты, малюючы гераічную барацьбу Чырвонай Арміі і партызан,— Колас заўсёды верыў у сілу народа і Савецкай дзяржавы, верыў у нашу перамогу над нямецкімі чалавеканенавіснікамі. Яго надзеі збыліся: Чырвоная Армія вызваліла нашу краіну, разграміла нямецкія полчышчы і атрымала сусветна-гістарычную перамогу.

Якуб Колас ад шчырасці ўсяго свайго сэрца вітаў нашу перамогу і шматлікімі вершамі адзін з першых адгукнуўся на вялікі творчы энтузіязм, з якім наш народ узяўся цяпер за аднаўленне разбуранай немцамі гаспадаркі і культуры. Савецкі урад і партыя высока ацанілі работу паэта ў дні Айчыннай вайны і аднаўлення. За вершы «Майскія дні», «Дарогай славы», «Салар», «Майму другу», «Родны шлях», «На захад», «Голас зямлі» Якубу Коласу прысвоена высокае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі.

* * *

Талент народнага паэта надзвычай разнастайны. Якуб Колас — лірык і эпік, драматург і публіцыст. Ён піша вялікія празаічныя аповесці і кароткія гумарыстычныя апавяданні, паэмы і лірычныя вершы, глыбокія філасофскія рэчы і простыя творы для дзяцей. Спакойная, каларытная паэзія «Новай зямлі», узвышаная лірыка «Сымона-музыкі», задушэўная апавядальнасць «У Палескай глушы», глыбокая жыццёвая філасофія «Казак жыцця», эпічная шырыня «Дрыгвы», мяккі лірызм пейзажных вершаў, вя-

сёлы і цёплы гумар жанравых апавяданняў — вось тыя асноўныя рысы, якія складаюць характар коласаўскай творчасці. Глыбокая ідэйнасць, высокае грамадскае пачуццё асвятляюць гэтыя рысы сапраўдным пафасам, яднаюць іх у адно цэлае, і перад намі выступае маналітная постаць магутнага паэта і пісьменніка.

*1946 г.*

## МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ — ПІСЬМЕННІК І ГРАМАДЗЯНІН

У 1917 годзе, скончыўшы Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, будучы пісьменнік Міхась Лынькоў атрымаў на Гомельшчыне пасаду настаўніка. Год вялікай рэвалюцыі стаў пачаткам яго дзейнасці. Такім чынам, на працягу амаль трыццаці год Лынькоў з'яўляецца актыўным удзельнікам нашага культурнага будаўніцтва. На яго вачах савецкая краіна стала краінай сацыялізма. Вялікія змены адбыліся ў жыцці і ў душах людзей. Дапытлівым вокам мастака пісьменнік наглядаў гэтыя змены і адлюстроўваў у сваіх творах. Можна сказаць, што яго творчасць ёсць, у пэўнай ступені, гісторыя нашага жыцця за трыццаць год. У ёй нямала вельмі яркіх старонак, на якіх апісана барацьба старога і новага, адміранне гэтага старога і нараджэнне і росквіт новага.

Страшнае аблічча старога свету Міхась Ціханавіч Лынькоў пазнаў яшчэ хлапчуком. Нарадзіўся ён у 1899 годзе ў вёсцы Зазыбы на Віцебшчыне ў сям'і рамонтнага рабочага. Маці пісьменніка працавала вартаўніцай на чыгуначным пераездзе, на якім яна трагічна і загінула. З малых год Лынькоў вымушаны быў здабываць хлеб уласнай працай. Зімою, у час вучобы, ён зарабляў сёе-тое лекцыямі, а ўлетку — падзённай работай па чыгунцы. Жыццё праходзіла ў вечнай нястачы і ў цяжкай беспрасветнасці.

Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя разняволіла чалавечую працу і акрыліла людскія надзеі. Міхась Лынькоў горача вітаў гэтыя радасныя змены ў жыцці і са зброяй у руках стаў на абарону Кастрычніка. Спачатку ён змагаўся супроць немцаў і белапалякаў у

партызанскіх атрадах, а затым, у 1919 г., уступіў у рады Чырвонай Арміі. З доблеснымі савецкімі войскамі Міхась Ціханавіч прымаў удзел у паходзе на Варшаву, пабываў на Урале і Заходняй Сібіры. Дэмабілізаваўшыся ў канцы 1922 года з арміі, Міхась Лынькоў ізноў займае пасаду настаўніка. Адначасна ён вядзе ў вёсцы вялікую грамадскую работу, становіцца актыўным карэспандэнтам савецкага друку. Заўважыўшы яркія літаратурныя здольнасці Лынькова, рэдакцыя бабруйскай газеты «Камуніст» запрашае яго ў 1925 годзе на сталую працу ў рэдакцыі. Неўзабаве ён становіцца рэдактарам гэтай газеты. З 1926 года Міхась Лынькоў пачынае публікаваць у друку свае апавяданні.

Ужо самыя першыя творы Міхася Лынькова паказалі яго як таленавітага і арыгінальнага пісьменніка. У іх адчуваўся аўтар, здольны і ўдумлівы, наглядальны і багаты жыццёвым вопытам. Поўны нястрымных парыванняў да новага, ён бязлітасна выкрывае ў сваіх апавяданнях жудасную спадчыну старога свету. Перад намі ў першых апавяданнях Лынькова праходзяць людзі з добрымі сэрцамі і пачуццямі, але людзі прыдушаныя нягодамі і дробязнымі справамі. Нястачы, сацыяльная несправядлівасць і нікчэмнасць старога жыцця аплялі іх, нібы пустазелле, і заглушылі ўсякія светлыя парыванні. Многія з іх, падобна Манчжуру, страцілі нават мэту жыцця. «І хочацца Манчжуру нечага новага, светлага, а чаго — і сам не ведае. А жыццё — камень цяжкі, прыціскае на самае дно, на твань, і навокал зірнуць некуды: стаіць, не скалыхнецца вада мутная, гнілая вада» (апавяданне «Манчжур»).

Міхась Лынькоў паказвае, як у агні грамадзянскай вайны, у горне разняволенай працы, перад агульнымі інтарэсамі народа знікаюць прыватныя мізэрныя клопаты чалавека, яго хітрыкі, а часта і справядлівыя, але дробязныя справы. Людзі змываюць з сябе бруд старога і ачышчаюць новым святлом свае душы. Такім выступае і Манчжур, і Васька Шкетаў з апавядання «Над Бугам», і іншыя героі ранніх твораў Міхася Лынькова.

Перад вялікай праўдай новага жыцця гэтыя людзі, прыціснутыя ў мінулым голадам і здзекам, брудам і тванню свайго бытавання, ажываюць ізноў дзеля добрых імкненняў і здольны на гераізм у бітвах і на подзвігі ў працы. Пры гэтым гераізм іх не крыклівы і не паказны, а спакойны і сціплы. Ён з'яўляецца не ў выніку захаплення ці роспачы, а ў выніку глыбокага ўсведамлення сваіх аба-

вязкаў перад тым жыццём, якое абнавіла чалавеку душу.

Тэма доблесных, баявых учынкаў шырока распрацавана Міхасём Лыньковым у яго апавяданнях аб грамадзянскай вайне. Тэма працоўнага гераізму знайшла сваё адлюстраванне ў творах пра першыя гады аднаўлення пасля грамадзянскай вайны. Лепшым з іх з'яўляецца апавяданне «Андрэй Лятун», у якім з выключнай сілай перададзена любоў чалавека да вызваленай працы і паэзія гэтай працы.

Трэцюю групу апавяданняў Міхася Лынькова складаюць рэчы, у якіх рысы абноўленага чалавека праяўляюцца не столькі ў знешніх гераічных учынках, колькі ў высакароднай мужнасці яго душы. Такім вобразам з'яўляецца вобраз Рыпіны Скварчун з апавядання «Радо». Добрая, самаахвярная, яна з велізарнейшай мужнасцю пераносіць асабістую трагедыю, цалкам аддаючы сябе рабоце на карысць грамадства.

Даючы агульную характарыстыку творчасці Міхася Лынькова першага перыяду, можна сказаць, што яна ад пачатку і да канца прысвечана жорсткай барацьбе старога і новага — у працы, у побыце, у сямейных узаемаадносінах, у думках і пачуццях людзей. У паказе Лынькова, як гэта было і ў жыцці, ломка старых укладаў і станаўленне новых адбываецца ў надзвычай вялікіх цяжкасцях. Але, прайшоўшы праз іх, людзі выходзяць у жыццё абноўленыя і загартаваныя, цвёрдыя духам і воляй.

Тэма перавыхавання людзей у савецкіх умовах з'яўляецца асноўнай тэмай і больш позніх твораў Міхася Лынькова. Пісьменнік расказвае ў іх аб грамадзянскай вайне («Міколка-паравоз»), аб аднаўленні гаспадаркі («Апошні зверыядавец»), аб новых сацыялістычных будоўлях («На вялікай хвалі»), аб калектывізацыі вёскі («Саўка-агіцірнік»), аб вызваленні Заходняй Беларусі («Сустрэчы»). У яго творах знайшлі адлюстраванне амаль усе найбольш важныя падзеі з жыцця нашай краіны. Але на фоне гэтых падзей у цэнтры ўвагі пісьменніка заўсёды стаіць чалавек. Паказваючы станаўленне і росквіт савецкай краіны, Міхась Лынькоў паказвае станаўленне і рост новага сацыялістычнага чалавека. Гэты чалавек праходзіць суровы і складаны, але зайздросны і светлы шлях: ад радавой, занядбанай у мінулым работніцы да дырэктара фабрыкі і дэпутата Вярхоўнага Савета рэспублікі (апавяданне «Пра маладосць»).

Сіла і праўдзівасць мастацкіх твораў Міхася Лынькова

ў тым, што, паказваючы старыя капіталістычныя перажыткі ў свядомасці людзей, ён шырока выяўляе і сцвярджае новыя, сацыялістычныя якасці савецкага чалавека. У адным са сваіх твораў пісьменнік гаворыць, што «для будучыні чалавек ніколі не шкадуе прыгожых і сонечных фарбаў». Гэта стасуецца і да самога Міхася Лынькова: адлюстроўваючы сучаснасць, яго творы напоўнены мэтаімкнёнасцю ў будучыню. Яны асветлены знутры святлом любасці савецкага чалавека да сваёй радзімы, яго марамі аб яе яшчэ больш вялікай будучыні.

Тэма савецкага патрыятызму з асаблівай сілай загучала ў творчасці Міхася Лынькова ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Яшчэ да 1941 года, звяртаючыся час ад часу да матэрыялаў першай сусветнай вайны, Міхась Лынькоў ведаў і паказваў жудасныя зверствы немцаў. Тут можна назваць і аповесць «Міколка-паравоз», і апавяданне «Няўдача Ота фон Гаўбера» і іншыя творы. Але тое, што прынеслі нашай краіне гітлераўскія вылюдкі, жахнула сэрца пісьменніка. Аднак не роспач і плач над руінамі і папялішчамі чалавечага шчасця, а гнеў і нянавісць да ворага запаладілі душу пісьменніка. Непакоранасць савецкага чалавека — вось асноўная ідэя яго апавяданняў перыяду Айчыннай вайны (зборнік «Астап»).

Героямі гэтых апавяданняў сталі новыя савецкія людзі, выхаваныя і загартаваныя партыяй Леніна, пазнаўшыя праўду і радасць жыцця і гатовыя ісці за іх на самыя самаахвярныя ўчынкі. Іх мужнасць жывіць ужо не толькі надзея на лепшую будучыню, як гэта было ў апавяданнях аб грамадзянскай вайне, але і рэальнае, дасягнутае шчасце, сіла краіны і народа, якія стаяць у іх за плячыма.

Вось чаму ні агнём, ні жалезам не могуць нямецкія вылюдкі выпаліць іх веры ў нашу перамогу. Гэтая вера і любасць да радзімы, да ўсяго таго, што дала нам сацыялістычная бацькаўшчына і што мы называем нашым шчасцем, падымаюць і вядуць савецкіх людзей на бязлітасную барацьбу з нямецкімі захопнікамі.

Вобразы савецкіх людзей, створаныя Міхасём Лыньковым на матэрыяле Вялікай Айчыннай вайны, рэальныя і жывыя. Яны, пачынаючы ад маленькай Вулькі і Міколы і канчаючы старым Астапам і незнаёмым з апавядання «Кавалак хлеба», кроў ад крыві і косць ад касці людзі небывалай у гісторыі краіны. Іх высакародства і самаахвяр-

насць, іх любоў да радзімы і самаадданасць нашай партыі, іх гераізм і высокія маральныя прынцыпы з'яўляюцца асноўнымі рысамі сацыялістычнага чалавека нашай эпохі. Многія з гэтых людзей прайшлі праз жыццё і праз творы Міхася Лынькова складаны і суровы шлях — ад занядбаных і зняважаных пасынкаў у мінулым да гордых і непакорных гаспадароў і змагароў у сучасным.

Не выпадкова, што творы Міхася Лынькова заваявалі сабе шырокую папулярнасць і любоў сярод нашых чытачоў. Многія з іх перакладзены на мовы народаў Савецкага Саюза, а некаторыя і на замежныя. Папулярнасць іх крыецца ў праўдзівым шырокім паказе жыцця. Сіла іх заключаецца ў высокай ідэйнасці. Яны вабяць нас сваёй мэтаімкнёнасцю ў будучыню. Глыбока рэалістычныя, яны па-рамантычнаму ўзвышаныя; у іх прырода і жыццё авеяны сапраўдным лірызмам; у іх усмешка і засмучэнне — шчырыя і задушэўныя.

Міхась Лынькоў не толькі выдатны пісьменнік, але і актыўны грамадскі працаўнік. У час Вялікай Айчыннай вайны ён быў арганізатарам і рэдактарам беларускай франтавой газеты. На працягу многіх год Міхась Лынькоў з'яўляецца нязменным кіраўніком Саюза Савецкіх пісьменнікаў Беларусі. Адначасна Міхась Лынькоў праводзіць і літаратуразнаўчую работу, з'яўляючыся членам-карэспандэнтам і загадчыкам секцыі літаратуры Акадэміі навук БССР.

За поспехі ў літаратуры і за работу ў час Вялікай Айчыннай вайны Міхась Лынькоў узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Чырвонай Звязды, а таксама медалямі «Партызану Айчыннай вайны» першай ступені, «За абарону Масквы», «За перамогу над Германіяй» і «За доблесную працу ў Айчыннай вайне».

У 1940 годзе Міхась Лынькоў быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Жабчыцкай выбарчай акрузе Пінскай вобласці. Ён сумленна як грамадзянін і пісьменнік выконваў свае грамадскія абавязкі. Працоўныя Жабчыцкай выбарчай акругі ізноў аказалі яму свой давер, вылучыўшы яго другі раз кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па той жа акрузе.

*1947 г.*

# ГІСТАРЫЧНЫЯ ТВОРЫ М. КЛІМКОВІЧА

Міхась Клімковіч працуе ў нашай літаратуры ў галіне драматургіі, прозы, паэзіі і крытыкі. Аднак можна сказаць амаль беспамылкова, што яго прызванне — драматургія, і ў гэтай галіне пісьменнік дабіўся найбольшых поспехаў.

Першая п'еса Міхася Клімковіча «Кацярына Жарнасек», якую аўтар назваў драматычнай паэмай, была напісана ў 1937 годзе. З таго часу пісьменнік і працуе галоўным чынам у галіне драматургіі. Услед за драматычнай паэмай «Кацярына Жарнасек» з-пад яго пяра выйшлі «Ноч перад выбарамі» (п'еса ў адным акце, напісаная ў 1938 годзе), «Лішні білет» (дзве сцэны з жыцця беларускага пагранічча, напісаная таксама ў 1938 годзе), «На віленскім шляху» (драматычны абразок з дзіцячых год Т. Г. Шаўчэнкі, напісаны ў пачатку 1939 года) і «Апошняя ноч на хутары» (опернае лібрэта, напісанае ў 1940 годзе).

Пасля гэтых рэчаў, пераважна так званага малога жанру, Міхась Клімковіч у 1941—1943 гадах піша на гістарычную тэму п'есу «Адплата». У тым жа 1943 годзе ён аднаўляе страчанае ў часе вайны опернае лібрэта «Кастусь Каліноўскі». Услед за гэтым пісьменнік прыступае да работы над драматычнай трылогіяй «Георгій Скарына», першая частка якой закончана ў 1945 годзе, а другая — у 1946 годзе. У 1947 годзе Міхась Клімковіч напісаў гістарычную п'есу «Уся ўлада Саветам!» і цяпер працуе над трэцяй часткай трылогіі «Георгій Скарына».

Як відаць з пералічанага, асноўная частка твораў Міхася Клімковіча, і самыя грунтоўныя з іх, напісана на гістарычную тэматыку. Пры гэтым не цяжка заўважыць, што драматурга найбольш цікавяць два перыяды нашай гісторыі — першая палова і сярэдзіна XVI стагоддзя, якім прысвечана, па сутнасці, пяць п'ес (тры часткі трылогіі «Георгій Скарына» і п'есы «Адплата» і «Кацярына Жарнасек»), і першая палова і сярэдзіна XIX стагоддзя, некаторыя моманты з якіх Міхась Клімковіч імкнуўся адлюстраваць у творах «Кастусь Каліноўскі» і «На віленскім шляху».

Гэты выбар у творчасці пісьменніка не выпадковы. Як першы, так і другі азначаныя перыяды гісторыі Беларусі вызначаюцца вялікімі гістарычнымі падзеямі. У пачатку і сярэдзіне XVI стагоддзя з аднаго боку ішла жорсткая класавая барацьба паміж сялянствам і панамі-феадаламі,

а з другога — нацыянальнае змаганне супроць апалячвання і акаталічвання беларускага народа польскімі магнатамі і каталіцкім духавенствам. Гэтая барацьба вылівалася ў сялянскія паўстанні, выклікала так званы казацкі рух і вялася ў форме вострай рэлігійнай барацьбы паміж каталіцызмам і праваслаўем.

Не менш зацятая барацьба ішла і ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Даведзенае памешчыкамі да жабрацкага становішча сялянства імкнулася разарваць кайданы прыгону і атрымаць зямлю. Пад гэты ж час пачынаецца на Беларусі і нацыянальна-вызваленчы рух, водгук якога мы маем і ў паўстанні 1863 года, на чале з Кастусём Каліноўскім.

Як бачым, гістарычныя часы, на якіх канцэнтруе ўсваіх творах увагу Міхась Клімковіч, насычаны вострай барацьбой і вызначаюцца вялікімі падзеямі. Зразумела, што бурныя эпохі ствараюць заўсёды і яркія, каларытныя гістарычныя фігуры. Усё гэта дае пісьменніку ўдзячны матэрыял, багаты драматычнымі калізіямі і моцнымі характарамі.

Не цяжка заўважыць таксама, што як у XVI, так і ў XIX стагоддзях сацыяльная барацьба ў Беларусі цесна пераплятаецца з нацыянальнай барацьбой беларускага народа за сваю мову і культуру. Не толькі сацыяльны, а і нацыянальны ўціск з боку польскіх магнатаў выклікаў у беларускага народа цягу да Масквы, да рускага народа, які быў родны яму і па мове, і па звычаях, і па рэлігіі. Гэта спрадвечная еднасць беларускага і рускага народаў, шматвяковая барацьба за яе даюць пісьменніку ўдзячны матэрыял для стварэння мастацкіх твораў, насычаных глыбокім савецкім патрыятызмам.

Усе гэтыя акалічнасці і вызначылі выбар Міхасём Клімковічам тых тэм, на якія напісаны яго гістарычныя п'есы. І трэба яшчэ раз сказаць, што выбар гэты зроблены слушна. Міхась Клімковіч упершыню ў практыцы беларускай літаратуры падняў з архіваў надзвычай багатыя і яркія матэрыялы аб жыцці і барацьбе нашага народа і на падставе іх стварыў каштоўныя па сваёй ідэйнасці і мастацкай праўдзе драматычныя творы.

Як ужо зазначалася вышэй, на матэрыялах XVI стагоддзя Клімковіч напісаў чатыры п'есы [1] — «Кацярына

[1] Да часу напісання гэтага артыкула Міхасём Клімковічам былі закончаны дзве часткі трылогіі. *(Заўвага рэд.)*



Пісьменнікі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны.
Злева направа: Іван Грамовіч, Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў, Ілья Гурскі, Пятро Глебка і Алесь Бачыла. 1947 г.



Дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства,
этнаграфіі і фальклору АН БССР П. Ф. Глебка
сярод удзельнікаў мастацтвазнаўчай экспедыцыі. 1961 г.

Жарнасек», «Адплата» і першую і другую часткі трылогіі «Георгій Скарына». Першаю па часе напісання з'яўляецца драматычная паэма «Кацярына Жарнасек». Але нам здаецца, што лепш будзе разглядаць іх не па часе напісання, а па храналогіі тых падзей, якія ў іх разгортваюцца.

Першая частка трылогіі «Георгій Скарына» пачынаецца 1504 годам і канчаецца 1512 годам; другая частка пачынаецца 1514 і канчаецца 1519 годам, яны абдымаюць сабою пятнаццаць год жыцця і дзейнасці Георгія Скарыны — першага беларускага друкара і выдатнага чалавека, які шмат зрабіў для пашырэння пісьменнасці і асветы на Беларусі.

Няма патрэбы пераказваць тут сюжэт гэтых твораў М. Клімковіча, паколькі чытач пазнаёміцца з імі сам. Куды больш важна адзначыць, што ў гэтым сюжэце адпавядае сапраўдным фактам, засведчаным у гістарычных дакументах, а што з'яўляецца творчым домыслам самога драматурга.

З гістарычных дакументаў вядома, што Георгій Скарына нарадзіўся ў Полацку ў сям'і заможнага купца-мешчаніна. Дакладна час яго нараджэння невядомы; ёсць меркаванні, што Скарына нарадзіўся 6 сакавіка 1486 года. Больш-менш цвёрда можна сцвярджаць, што час нараджэння Скарыны падае прыблізна на год, блізкі да 1486 года.

Пачатковую асвету Георгій Скарына атрымаў дома. У 1504 годзе ён паступіў на філасофскі факультэт Кракаўскага універсітэта, дзе ў 1506 годзе атрымаў годнасць бакалаўра. Пасля гэтага Скарына дзесьці яшчэ вучыўся шэсць год, але дзе — невядома. У 1512 годзе ён, маючы ўжо годнасць доктара «сямі свабодных навук», прыбыў у Італію, у горад Падую, каб трымаць экзамен на доктара медыцыны. Бацька яго — Лукаш пад гэты час памёр, і Скарына жыў, відаць, у нястачы, не меў чым заплаціць за экзамен. Віцэ-прыер Т. Мусаці прызначыў 5 лістапада 1512 года паседжанне прафесараў медычнага факультэта, на якім Скарыне было дазволена трымаць экзамен бясплатна.

Шостага лістапада, у прысутнасці чатырнаццаці прафесараў, Георгій Скарына трымаў уступныя экзамены, а дзевятага лістапада сабралася медычная калегія Падуанскага універсітэта з дваццаці чатырох асоб пад старшынствам вікарнага біскупа П. Забарэлі, і пачаліся экзамены

Скарыны на годнасць доктара. Пасля экзаменаў Скарына аднагалосна быў прызнаны варты гэтай годнасці, якую ён і атрымаў з рук прафесара Бартламея Барызоні.

У 1517—1519 гадах Скарына знаходзіцца ў сталіцы Чэхіі Празе і друкуе там сваю Біблію. У 1525 годзе яго друкарня працуе ўжо ў Вільні, у доме віленскага бургамістра Якуба Бабіча. Даследчык Скарыны П. В. Уладзіміраў гаворыць, што «ў Германіі хадзілі размовы аб адносінах Скарыны на Лютэра». Некаторыя другія гісторыкі сцвярджаюць, што па дарозе з Прагі Скарына наведаў Вітэнберг, дзе тады выступаў Лютэр. Каталікі абвінавацілі яго ў сувязях з Лютэрам. Скарыну арыштавалі і засудзілі на спаленне, але ён неяк апраўдаўся і прыехаў у Вільню. Тут Скарына некалькі год, пры грашовым падтрыманні Онькава і Бабіча працуе над сваімі выданнямі. Пасля ж таго як Скарына кінуў друкарскую справу, ён быў сакратаром і лекарам віленскага біскупа.

Прыблізна каля 1529 года Георгій Скарына ажаніўся з удавою віленскага мешчаніна Юрыя Адверніка Маргарытай. Пад гэты ж час памёр брат Скарыны Іван, які гандляваў у Пазнані шкурамі. Пасля яго смерці засталося шмат даўгоў, якія падалі і на Георгія Скарыну, паколькі маёмасць у іх была агульная. За гэтыя даўгі Скарыну ў 1532 годзе арыштавалі і пасадзілі ў пазнанскую турму. Аб гэтым даведаўся пляменнік Скарыны Раман. Ён прыехаў з Гданьску і пачаў дабівацца вызвалення Скарыны, які ў чэрвені месяцы і быў выпушчаны на волю. Але судовая справа цягнулася далей, і па гэтай справе ў дакументах 1535 года апошні раз упамінаецца імя Георгія Скарыны.

Вось і ўсе тыя дадзеныя, якія мы маем аб Скарыне і якія здабыты на падставе пэўных гістарычных дакументаў. Зразумела, што пісьменнік, узнаўляючы вобраз Скарыны, не можа абмежавацца гэтымі скупымі і не звязанымі паміж сабою фактамі з біяграфіі Скарыны. Ён, можа, і мае права дамысліць сувязі і пераходы паміж гэтымі фактамі, ажывіць іх некаторымі новымі рысамі і дапоўніць мастацкую біяграфію сваімі здагадкамі. Важна, каб усё гэта было зроблена ў духу эпохі і ў характары гістарычнай асобы, якую малюе пісьменнік.

Так паступіў і Міхась Клімковіч. Ён у першай частцы трылогіі нарысаваў нам юныя гады Скарыны, праўдзіва і ярка напісаў абставіны, у якіх жыў (ці, праўдзівей кажучы, мог жыць) Скарына ў доме бацькі ў Полацку, затым

у Вільні і ў Кракаўскім універсітэце і, нарэшце, у Падуі. У другой частцы трылогіі таксама свабодна і праўдзіва намалявана жыццё Георгія Скарыны ў Вільні і яго дзейнасць у Празе.

Аднак супроць некаторых момантаў як у першай, так і ў другой частцы трылогіі можна запярэчыць. Так, напрыклад, некалькі выдуманай здаецца карціна, у якой Скарына сустракаецца ў цясніне каля Падуі з разбойнікамі — «браво». Яна, па-першае, зусім выпадковая, для яе ў біяграфіі Скарыны няма ніякіх падстаў, калі не лічыць таго, што Скарына быў у Падуі. Па-другое, яна прыгодніцкая, і таму не адпавядае ўсяму характару трылогіі.

Тое ж самае можна сказаць і аб месцы ў п'есе князя Міхаіла Глінскага. Выклікае сумненне не столькі тое, што для ўвядзення ў п'есу Глінскага няма падстаў у біяграфіі Скарыны, колькі сама трактоўка гэтага вобраза. Міхаіл Глінскі падаецца ў п'есе як прадстаўнік рускага кірунку. Але нам вядома, што Глінскі прыняў у свой час каталіцызм, быў фаварытам караля Аляксандра, пасля — маскоўскага князя Васіля, якому таксама здрадзіў, і хацеў пазней перайсці на бок Сігізмунда.

Праўда, праз нейкі час цар зняў з яго апалу, ажаніўся з яго пляменніцай Аленай Глінскай і нават прызначыў, паміраючы, Міхаіла Глінскага адным з апекуноў свайго малалетняга сына Івана IV. Але папярэднія хістанні Глінскага гавораць за тое, што Глінскі не мог быць паслядоўным барацьбітом за рускую справу. А значыць, і яго роля ў барацьбе сям'і Скарыны за рускую народнасць некалькі перабольшана.

Не зважаючы на гэтыя і іншыя, больш дробныя, недахопы, Міхась Клімковіч у першай і другой частцы трылогіі «Георгій Скарына» даў правільны і глыбокі паказ тагачаснай рэчаіснасці з яе вострай сацыяльнай і нацыянальнай барацьбой, якая часта прымала тады форму рэлігійнай барацьбы.

Гісторыя і сутнасць гэтай барацьбы наступныя.

У 1386 годзе адбылася унія Літвы і Польшчы. Беларускія вобласці, якія дагэтуль былі пад уладаю Літвы, трапілі пад уладу Польшчы. Год за годам польскія магнаты ўсё больш і больш распасціралі сваё панаванне над беларускімі землямі. Найбольшы прыгнёт, зразумела, цярпеў у выніку гэтага просты народ — прыгонныя сяляне і бяднейшыя пласты гарадскога насельніцтва. У пошуках ратунку іх погляды былі скіраваны на ўсход да адзіна-

кроўнага рускага народа. Баючыся гэтых тэндэнцыи беларускага народа, польскія паны пачынаюць праводзіць яшчэ больш жорсткую каланізатарскую палітыку. З мэтай апалячвання яны сілаю насаджваюць сярод праваслаўнага беларускага насельніцтва каталіцызм.

За сто год пасля уніі значная частка дваранства Беларусі моцна апалячылася і прыняла каталіцызм. Вернымі старой, праваслаўнай рэлігіі заставаліся «галоўным чынам прыгонныя, у той час як іх высакародныя паны амаль усе былі рымска-каталіцкай веры» (К. Маркс і Ф. Энгельс, т. XIII, ч. I, стар. 160).

Вось гэтыя прыгонныя, а разам з імі і дробная буржуазія гарадоў і ўсталі на абарону сваёй рэлігіі, мовы і звычаяў, супроць апалячвання і акаталічвання. Яны і вылучылі са сваіх шэрагаў такіх барацьбітоў за рускую народнасць, як Георгій Скарына.

У п'есе Клімковіча наваколо Скарыны гуртуюцца самыя адданыя прыхільнікі праваслаўнай рускай арыентацыі. Другі лагер складаюць польскія паны і каталіцкае духавенства, асабліва заядлае ў асобах немцаў, як Ёган фон Шпілер. У барацьбе супроць іх Скарыну падтрымліваюць як чэшскія, так і польскія прагрэсіўныя элементы (Глагоўскі, Андржэяка і іншыя).

Найбольш ярка напісаны ў п'есе вобраз Георгія Скарыны. Не парушаючы гістарычнай праўды, аўтар яго вуснамі выказвае нязломную вернасць беларускага народа сваёй краіне:

Не дачакае вораг. Буду паміраць
Ад голаду, калець пад плотам,
А не прадам я ім адной крупіцы,
Што сабіраў я, брацці, маёй Русі!
Як Глінскі, не збягу, пакінуўшы народ,
З зямлі сваіх карэнняў я не вырву...

І Георгій Скарына сваё слова трымае. Упартасць, непахісная воля ў дасягненні пастаўленай мэты — складаюць адну з асноўных рыс яго характару як у юнацкія, так і ў больш сталыя гады. На яго шляху сустракаюцца непераадольныя, здавалася б, перашкоды. Яго не хочуць прыняць у Кракаўскі універсітэт; яго чарадою абступаюць крэдытары; ён траціць каханую: ён трапляе ў турму; супроць яго ворагі плятуць дзесяткі інтрыг,— але зламаць ягонай волі ніхто не можа. Ён застаецца непахісным змагаром супроць каталіцызму, не толькі як супроць «чужой»

рэлігіі, а як супроць самага страшнага цемрашальства, якое глушыла ўсякую жывую думку, асвету народа:

Не, чорныя сутаны Рыма,
Друкарня будзе тут! Асвета будзе!

Магчыма, на гэтай глебе ў Скарыны вырастае калі не атэізм, дык досыць абыякавыя адносіны да рэлігіі як да такой. Рэлігія часамі служыць яму для своеасаблівай сацыяльнай прапаганды, калі ён гаворыць пра Хрыста, што той «рабоў не меў», «багацця не збіраў», і зазначае:

Ці знаеш ты, што папа Леў дзесяты
Багацця мае больш за караля любога,
Але адкрыў дамы распусты ў Рыме.

Такія выказванні, безумоўна, сведчаць, што Скарына не быў сляпым, ярым заступнікам рэлігіі. І гэта не супярэчыць гістарычнай праўдзе. Мы ведаем, што Скарына, перакладаючы кнігі святога пісьма, падкрэсліваў заўсёды не так рэлігійныя задачы, як асветніцкія. Дабро народа, яго асвета турбавалі Скарыну перш за ўсё. У п'есе гэтая рыса Скарыны, яго любоў і ўвага да народа вылучаюцца вельмі ярка.

Любіць людзей — найбольшай асалоды
Душа мая не знае,—

гаворыць Скарына і сцвярджае гэта ўсёй сваёй дзейнасцю. Тут можна прыгадаць прыведзеныя мной меркаванні некаторых гісторыкаў, што Скарына сустракаўся з Лютэрам. А Энгельс гаворыць, што «Лютэр заўсёды ставіў сабе задачай зварот да сапраўднага хрысціянства і ў вучэнні, і ў жыцці, сяляне хацелі таго ж... Яны разумелі, што нельга звязваць рабства і падчыненне, у якім яны жылі, з вучэннем Бібліі» (К. Маркс і Ф. Энгельс, т. II, стар. 402). Праўда, Лютэр потым здрадзіў сялянству; кіраўніком сялянскага руху стаў Томас Мюнцэр. І Міхась Клімковіч правільна ўкладвае ў вусны Георгія Скарыны рэпліку пра Лютэра:

Кум-ціхаход, яго так Мюнцэр дражніць,—
Плоць тлустую сваю між небам і зямлёй
Павесіў: богу свечка, чорту качарга.

Гэта ў вельмі асцярожнай форме характэрныя адносіны Скарыны да Лютэра і Мюнцэра, а значыць — і да сялянскага пытання таго часу. Аўтару трылогіі для такой характарыстыкі Скарыны даюць падставы і дзейнасць, і заўвагі апошняга, раскіданыя ў прадмовах і пасляслоўях да надрукаваных ім кніг.

Вобраз Георгія Скарыны вызначаецца яшчэ адной высакароднай рысай — самаахвярнасцю. Тут можна прыгадаць, напрыклад, цудоўны момант, калі Скарына, пачуўшы, што Маргарыце не ўдасца развесціся з Адвернікам, па сутнасці назаўсёды расстаецца са сваёй марай. Але ён не думае аб сваім шчасці, ён думае аб шчасці іншых і гаворыць Маргарыце: «Аддай ты дзецям сэрца».

Вобраз Скарыны абмаляваны ўсебакова. Весялосць і дасціпнасць, глыбокі розум і адукаванасць, любоў да таварышаў і простых людзей, упартасць і цвёрдая воля, адданасць народу і сваёй зямлі — усё гэта арганічна спалучаецца ў вобразе Скарыны. Многія рэплікі, якія характарызуюць Скарыну, узяты Клімковічам амаль цалкам з яго прадмоў і пасляслоўяў. На пытанне, якія думкі хацеў Скарына данесці да таго, хто возьме яго кнігу ў рукі, ён адказвае:

Любіць зямлю сваю і свой народ,
Як птушка вольная — гняздо сваё,
Як рыба — вір, як звер — сваю бярлогу,
І бараніць яго, як пчолы вулей
Бароняць ад чужых і сквапных лап.
Другая думка — аб карысці працы,
Ахвярнай працы на карысць народа,
Наколькі сіл стае, на колькі служыць розум.

У гэтай цытаце выразна адчуваюцца сапраўдныя вядомыя словы Скарыны, і яны надаюць сапраўдны каларыт усёй асобе Скарыны.

Нядрэнна выпісаны ў трылогіі «Георгій Скарына» і многія іншыя вобразы, асабліва айцец Сіман, Дарота, Скамарох і яго прыяцель Сцяпан і суддзя. На іх ляжыць выразны адбітак іх часу. Суддзя, напрыклад, гаворыць, што праўда заўсёды ў багатага, таму што ён не ўкрадзе, не заб'е, бо яму няма ў гэтым патрэбы:

А бедны што? Не ўкраў, дык украдзе,
Як сёння не салгаў, дык заўтра ён салжэ;
Не вінаваты ў тым, за што падсудны сёння,
Дык сто разоў раней яго судзіць я мог,—
Калі б папаўся ён,— за гэткае ж злачынства.

Ужо з адной гэтай рэплікі відаць не толькі рысы дадзенага суддзі, а і наогул норавы і мараль суддзяў таго часу.

Наогул, трэба сказаць, што Клімковічу амаль усюды ўдалося захаваць каларыт эпохі. У п'есе прадстаўлены яркія людзі тагачаснай надзвычай пярэстай эпохі. Тут і заморскія госці, і манах-кнігапісец, і знахар, і іншыя лю-

дзі з іх адменным жыццём і побытам, з іх забабонамі і верай, з іх гарачымі рэлігійнымі спрэчкамі і разнастайнымі сацыяльнымі інтарэсамі. Складаючы ў дачыненні да галоўных дзейных асоб нібы знешняе наваколле, яны і дапамагаюць аднавіць каларыт таго часу. Гэтаму спрыяе і мова п'есы — зразумелая, сучасная, але з водарам старасвеччыны.

Паводле падзей, якія разгортваюцца ў трылогіі «Георгій Скарына», а таксама па сваёй ідэйнай накіраванасці і сапраўднасці гістарычных асоб у блізкай сувязі да гэтага твора стаіць п'еса Клімковіча «Адплата». Але паколькі яна не ўваходзіць у дадзены зборнік, разгляд яе можна абмінуць. Спынімся на другой п'есе, напісанай на матэрыяле сярэдзіны XVI стагоддзя,— на драматычнай паэме «Кацярына Жарнасек».

«Кацярына Жарнасек» — першая гістарычная п'еса Міхася Клімковіча. У ёй у поўнай ступені адчуваецца яшчэ недастатковая спрактыкаванасць драматурга. У ёй б'ецца паўнакроўны пульс тагачаснага жыцця, але яго прыглушае часамі, сціскае літаратурная форма. Можна сказаць, што ў гэтай п'есе вельмі шмат і ад непасрэднага жыцця, і ад літаратуры — у пабудове фразы, у паасобных словах, у рытме верша. У якасці прыкладу можна назваць першую рэпліку Кацярыны, якой яна сустракае свайго каханага — Рыгора:

Ты занадта прыткі — зараз ды у сваты!
А чаго ж, мой мілы, бродзіш каля хаты,
Ловіш чуткім вухам ціхі спеў дзявочы?
Сам ты знаеш — з песні не выкінеш слова,
Дык не будзь на подслух гэтакім ахвочым,
Каб не чуць, Рыгорка, пра сябе благога.

Характар рэплікі, асабліва яе рытмічная будова выразна бяруць свой пачатак не ў самой стыхіі сялянскай мовы, а ў літаратурных традыцыях, яны нагадваюць некалькі формы опернай драматургіі.

Гэтае ўражанне падмацоўваюць і шматлікія фальклорныя ўстаўкі: казка пра Ліха, якую расказвае дзед Ахрэм; казка пра пчолы, што заелі мядзведзя; прыпеўкі дзеда Ахрэма; украінскія песні казакоў; беларускі і ўкраінскі варыянты адной і той жа песні, якую спяваюць казакі, касцы і жнеі; польская песня Ядвігі; песенька ксяндза і іншыя. Ужо адзін пералік гэтага казачнага і песеннага элемента гаворыць аб тым, што аўтар як быццам бы браў установку на драматычна-музычны твор. Але паколькі

рэч паводле свайго жанру з'яўляецца ўсё ж такі драмай, а не літаратурнай асновай для музычнага твора, многія фальклорна-песенныя элементы яе не заўсёды арганічныя ў тканіне п'есы. Наяўнасць іх можна апраўдаць толькі тым, што яны заўсёды нясуць сацыяльную нагрузку.

Я раблю гэтую заўвагу для таго, каб чытачу лягчэй было зразумець надзвычай складаную арганізацыю п'есы, якая названа аўтарам драматычнай паэмай, але якая з'яўляецца, па сутнасці, сацыяльна-гістарычнай драмай.

У адрозненне ад трылогіі «Георгій Скарына» ў драматычнай паэме «Кацярына Жарнасек» няма гістарычных асоб у поўным сэнсе гэтага слова.

Калі ў першай дзейнічаюць пераважна канкрэтныя гістарычныя людзі (Скарына, Бабіч, Онькаў, Глінскі і іншыя), імёны якіх запісаны ў тагачасных актах, дык у другой дзейнымі асобамі з'яўляюцца наогул людзі таго часу, імёны якіх у гістарычных дакументах альбо зусім не зафіксаваны, альбо, калі і сустракаюцца (князь Капуста), дык нічога не гавораць нашым уяўленням. Аднак ад гэтага п'еса «Кацярына Жарнасек» нічога не траціць у сваёй гістарычнасці, таму што ў ёй намаляваны праўдзівыя гістарычныя падзеі, якія мелі месца ў той час на Беларусі.

«Дзея адбываецца,— як гаворыць аўтар,— у сярэдзіне 16 стагоддзя. Гэта быў час, калі пры каралі Сігізмундзе-Аўгусце II, апошнім з роду Ягела, узмацніўся прыток на Беларусь польскага панства,— абшарнікаў і чыноўнікаў,— які закончыўся Люблінскай уніяй, аддаўшай Беларусь на канчатковае разграбленне польскім магнатам і шляхце».

Мы помнім, што ў трылогіі «Георгій Скарына» дзея адбываецца на пачатку XVI стагоддзя. Такім чынам, падзеі, якія разгортваюцца ў «Кацярыне Жарнасек», з'яўляюцца працягам падзей, пададзеных у трылогіі. І калі ў першым выпадку польскія магнаты, насаджаючы каталіцызм і змагаючыся з усім рускім, імкнуцца ідэалагічна падрыхтаваць новую унію, дык у другім выпадку яны карыстаюць ужо з пладоў сваіх першых перамог, завяршаючы эканамічнае заняволенне беларускага народа. І таму цэнтр барацьбы ў гэтай п'есе перанесены з ідэалагічнай сферы ў сферу сацыяльна-эканамічную. Пачынаюцца сялянскія паўстанні, прыгонныя ўцякаюць на Украіну да запарожцаў, далучаюцца да казацкага руху.

Перанясенне цэнтра барацьбы з адной сферы ў другую было абумоўлена, між іншым, і тым, што пад гэты час

прыгонныя траціць нават тую мізэрную асабістую незалежнасць, якой яны карысталіся дагэтуль. Раней, напрыклад, прыгонныя мелі права раз у год, на Юр'еў дзень, пераходзіць ад аднаго пана да другога. Шляхта дабілася ад караля такіх прывілеяў, якія канчаткова касавалі і гэту «свабоду» сялян.

Усе гэтыя паднявольныя ўмовы жыцця і барацьба супроць іх сялянства і складаюць змест драматычнай паэмы «Кацярына Жарнасек». У ёй паказваецца, як вяльможны князь Капуста адабраў ад сялян не толькі землі, але імкнецца адабраць і іх чалавечую годнасць. Яго натхняюць і дапамагаюць яму ў гэтым наехаўшыя з каронай Польшчы нахлебнікі — паны Заянчкоўскі і Бабаецкі, ксёндз Антоній і іншыя.

Вобразы гэтых драпежнікаў на чале з князем Капустай выпісаны праўдзіва і ярка. Яны маюць тыповыя рысы, і ў той жа час кожны з іх выразна акрэслены індывідуальна. Ставячы перад сабою мэту канчаткова заняволіць Беларусь і адарваць яе назаўсёды ад Масквы, яны па-рознаму падыходзяць да яе вырашэння. Князь Капуста — гэта ўпэўнены ў сваёй магутнасці самадур, і ўсе яго паводзіны вызначаюцца яго ж выразам: «У замку — я кароль, у сяле — я гаспадар».

Пан Заянчкоўскі — гэта збяднелы магнат каронай Польшчы; ён прапіў і прагуляў свае маёнткі, але ў яго ні на кроплю не паменшала пыхі; ён храбры ў размове і баязлівы ў справе. Вобраз яго дапаўняе вобраз ксяндза Антонія — ханжы і цыніка.

Супроць гэтых магутных, але нікчэмных людзей выступаюць простыя і высакародныя людзі. Яны самааддана змагаюцца за сваё права на лепшае жыццё, за сваю чалавечую годнасць, за брацтва з рускім народам. Цэнтральнае месца сярод гэтых вобразаў займаюць вобразы Рыгора і Кацярыны. Каваль Рыгор — моцны духам просты чалавек, працавіты, поўны веры ў сілы народа і ў свае ўласныя; у яго сэрцы гарыць і не гасне імкненне да свабоды і праўды. У такім жа плане намаляваны і вобраз Кацярыны. Рысамі, якія адцяняюць яе індывідуальнасць, з'яўляюцца шчырасць, дабрата і сардэчнасць.

Другі асноўны ў п'есе жаночы вобраз — Марына. Гэты вобраз напісаны ў прыўзнятым, рамантычным стылі. Часамі рэплікі Марыны залішне рытарычныя. Але вобраз яе чаруе нас вялікай сілай любві да народа і бязмежнай нянавісцю да паноў. У гэтым вобразе нібы сімвалізуецца ўся

векавая крыўда народа і яго прага да справядлівай помсты тым, хто заняволіў і растаптаў чалавечае жыццё.

Нельга не адзначыць у п'есе дзеда Ахрэма — лірніка і казачніка, дасціпнага чалавека, багатага жыццёвым вопытам і народнай мудрасцю. Пры ўсёй весялосці дзеда Ахрэма ў ім захаваны нейкі мудры і ўпэўнены душэўны спакой, які выражае аптымізм народа:

Сто разоў пры мне на дрэвах
Абрывала восень лісце,
А вясна іх зеляніла,—
У ліхалецці кожным выйсце
Ёсць на свеце, браце мілы...

Драматычная паэма «Кацярына Жарнасек» была першым гістарычным творам Міхася Клімковіча. У ёй ёсць свае недахопы, але яна правільна вызначала кірунак пісьменніка па шляху стварэння гістарычнай драмы. Ад гэтай п'есы драматург, як мы ведаем, перайшоў да вырашэння больш складанай праблемы: адлюстраваць не толькі гістарычныя падзеі, але канкрэтных гістарычных асоб. З'явілася «Адплата», а затым дзве часткі трылогіі «Георгій Скарына», якія ўсе разам даюць праўдзівы і выразны малюнак жыцця на пачатку і ў сярэдзіне XVI стагоддзя.

У некаторых сваіх іншых работах Міхась Клімковіч перайшоў [redacted] XVI стагоддзя да сярэдзіны XIX. Ён напісаў драматычны абразок «На віленскім шляху» і опернае лібрэта «Кастусь Каліноўскі». Зразумелая рэч, што невялікі эцюд «На віленскім шляху», у якім падаецца эпізод з юнацкіх год Тараса Шаўчэнкі, не можа ісці ні ў якое параўнанне са шматактавымі грунтоўнымі творамі з жыцця XVI стагоддзя. Мы адзначаем гэты абразок, каб яшчэ раз падкрэсліць ідэю, якую Міхась Клімковіч праводзіць праз усе свае гістарычныя п'есы. Гэта ідэя аб непераадольнай прорве, якая падзяляе прыгонных сялян і панства, і аб еднасці працоўных трох братніх славянскіх народаў — рускага, украінскага і беларускага.

У творах Міхася Клімковіча ёсць і значныя недахопы. Некаторыя з іх мы адзначылі вышэй. Тут трэба заўважыць яшчэ, што верш Клімковіча не заўсёды стаіць на належнай вышыні. Аўтар часта не зварочвае патрэбнай увагі на дасканаласць мовы. Але гэтыя недахопы не павінны і не могуць засланіць ад нас таго каштоўнага, што зроблена Міхасём Клімковічам як драматургам гістарычнага жанру. Ён першы, па сутнасці, палажыў у беларускай літаратуры пачатак гэтаму жанру ў такіх сваіх лепшых творах,

як «Георгій Скарына» і «Кацярына Жарнасек». Ён ажывіў перад намі нашу старажытнасць, узняў падзеі дзён даўно мінулых і прымусіў іх, не фальсіфікуючы гісторыі, служыць нашай сучаснасці. У гэтым яго заслуга.

Варта адзначыць, што ў апошнія часы Міхась Клімковіч з поспехам працуе і над сучаснай тэматыкай. Аб гэтым сведчыць яго новая п'еса «Уся ўлада — Саветам», пра Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Беларусі, і лібрэта оперы «Песня аб шчасці» — пра аднаўленне калгаса, разбуранага нямецкімі захопнікамі.

*1947 г.*

## ПІЛІП СЯМЁНАВІЧ ПЕСТРАК

Піліп Сямёнавіч Пестрак з'яўляецца таленавітым прадстаўніком той рэвалюцыйнай беларускай паэзіі, якая зарадзілася і развівалася да 1939 года на тэрыторыі Заходняй Беларусі, акупіраванай панскай Польшчай. Каб зразумець у поўнай меры матывы і характар творчасці Пестрака, трэба прыгадаць тыя сацыяльныя і палітычныя ўмовы, у якіх жыў і тварыў паэт да 1939 года, пакуль Заходняя Беларусь не была вызвалена з белапанскай няволі і не ўвайшла ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі.

Піліп Пестрак нарадзіўся ў 1903 годзе ў палескай вёсцы Сакоўцы ў незаможнай сялянскай сям'і. Вясной 1914 года ён скончыў пачатковую школу, а летам таго ж года пачалася першая сусветная вайна. Нямецкія полчышчы набліжаліся да родных мясцін Піліпа Пестрака. Адзінаццацігадовы хлапчук разам са сваімі бацькамі выехаў у бежанства. Апынуліся яны аж у Самарскай губерні ў сяле Максімаўка Бузулуцкага павета, дзе і жылі да 1921 года.

Пад гэты час разгарэлася вайна. Драпежныя сілы Антанты ніяк не маглі пагадзіцца з існаваннем савецкай дзяржавы і рушылі на яе легіёны Пілсудскага. Польскія паны, падбухтораныя і падтрыманыя Антантай, спадзяваліся заняволіць Украіну і Беларусь і зрабіць іх сваімі калоніямі. Украінскі і беларускі народ, абапіраючыся на моц рускага народа і Чырвонай Арміі, мужна і гераічна змагаўся з інтэрвентамі і адстаяў сваю незалежнасць.

Праўда, сілы ў гэтай барацьбе былі няроўныя: маладая савецкая дзяржава яшчэ не паспела паправіцца ад шматгадовай вайны, эканоміка яе была моцна падарвана, у той час як за плячыма панскай Польшчы стаялі магутныя капіталістычныя дзяржавы. У выніку гэтага польскім панам удалося ўсё ж такі захапіць частку Украіны і Беларусі.

У адпаведнасці з Рыжскім мірным дагаворам, бежанцы з гэтых захопленых панамі тэрыторый пачалі вяртацца на свае старыя месцы. Разам з сям'ёй паехаў у Заходнюю Беларусь і Пілiп Пестрак. Няветліва і сурова сустрэла ўцекачоў іхняя радзіма, заняволеная польскімі панамі. Хата і гаспадарка былі нашчэнт разбураны вайной. Чакаць дапамогі ад ураду панскай Польшчы не даводзілася. Наадварот, гэты ўрад прыняў усе захады, каб адабраць у беларускага народа тыя правы, якія яму былі гарантаваны міжнароднымі дагаворамі, і як мага мацней прыціснуць насельніцтва Заходняй Беларусі.

Так, напрыклад, у сёмым артыкуле Рыжскага мірнага трактату было сказана, што Польшча забяспечыць беларусам усе правы для свабоднага развіцця іх культуры і мовы, што яна ўнутраным заканадаўствам забяспечыць таксама права ўсіх нацыянальнасцей культывіраваць сваю мову, арганізоўваць на гэтай мове школы, развіваць культуру і засноўваць з гэтай мэтай таварыствы і саюзы.

Таксама цвёрда і выразна былі вызначаны правы беларускага насельніцтва і ў эканамічнай галіне.

Але, як толькі быў падпісаны Рыжскі дагавор і панская Польшча заўладала тэрыторыяй Заходняй Беларусі, яна самым вераломным чынам растаптала ўсе свае ўрачыстыя дэкларацыі і самым зверскім чынам пачала расправаўляцца з беларускім насельніцтвам.

Польскія шавіністы пачалі ствараць «тэорыі», што Беларусь — гэта «пераходная тэрыторыя ад Расіі да Польшчы». Нейкі Студніцкі пісаў: «Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і размовы, таму што беларусы не маюць ніякіх уласных традыцый». З гэтых тэорый рабіліся практычныя высновы, што, як пісаў Ст. Грабскі, «адно цяпер трэба, каб «тутэйшае» (беларускае) сялянства стала польскім».

Для гэтага паводле думкі польскіх палітыкаў трэба, каб палякі не стваралі самі штучнага «беларускага пытання» і каб беларусы Заходняй Беларусі былі далей ад беларускага цэнтра — ад Мінска.

На гэтыя пасяганні польскіх паноў на сацыяльныя і нацыянальныя правы беларусаў Заходняя Беларусь адказала шырокімі народнымі паўстаннямі і партызанскай барацьбой.

На працягу 1921—1925 гадоў гэтых паўстанняў было некалькі тысяч.

Паўстанні з кожным годам набывалі ўсё шырэйшы размах. Яны адбываліся пад сцягам сацыяльнай і нацыянальнай барацьбы. Змаганне вялося супроць польскіх памешчыкаў і фабрыкантаў, супроць паліцыі і асаднікаў, за зямлю, за беларускую культуру і школу.

Часта змаганне набывала выгляд сапраўднай грамадзянскай вайны.

Польскія памешчыкі пачалі бязлітасна расправіляцца з беларускім народам. Ва ўсёй Заходняй Беларусі было абвешчана ваеннае становішча; былі ўведзены ваенна-палявыя суды; войска і паліцыя былі падвоены. Пачаўся люты, масавы белапанскі тэрор.

Пілін Пестрак, пазнаўшы ў Савецкай Расіі сапраўдную народную свабоду і сустрэўшыся ў панскай Польшчы з нечуваным белапанскім тэрорам, не мог, зразумела, абыякава глядзець на гэта і не мог пагодзіцца з існуючым ладам. Вярнуўшыся ў Заходнюю Беларусь, ён вымушаны быў шукаць кавалка хлеба і пайшоў працаваць на лесапільны завод. Там ён спазнаў увесь смак паднявольнай працы і нялюдскіх здзекаў.

Панскія парадкі страшна гнявілі Пілііпа Пестрака, і летам 1924 года ён вырашыў уцячы ў Савецкі Саюз. На граніцы яго злавілі, этапным парадкам прывялі дахаты і месяц трымалі пад арыштам.

Пілін Пестрак зразумеў, што выйсця трэба шукаць у рэвалюцыйнай барацьбе. Праўда, народныя паўстанні ў Заходняй Беларусі пад гэты час былі задушаны польскімі ўладамі, але барацьба беларускага народа супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску не спынілася.

У Заходняй Беларусі разгарнуўся масавы рэвалюцыйны рух.

У гэтым рэвалюцыйным руху чынны ўдзел прымаў і Пілін Пестрак. У 1927 годзе, пасля вялікай і бурнай дэманстрацыі ў Косаве, ён папаў пад следства і паўгода сядзеў у турме. З гэтага часу пачынаецца яго доўгі шлях па этапах і турмах панскай Польшчы. Але праследаванні не зламалі рэвалюцыйнай волі Пестрака. Выйшаўшы з турмы

пасля першага арышту, ён зноў акунуўся ў дзейсную рэвалюцыйную работу, за што ў 1929 годзе быў арыштаваны другі раз і засуджаны на пяць год зняволення. Адбыўшы іх, Пілiп Пестрак толькі пяць месяцаў папрацаваў на волі і трапіў ізноў у турму, у якой праседзеў ужо шэсць год, аж да прыходу ў 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі.

Літаратурную дзейнасць Піліп Пестрак пачаў у 1927 годзе. З гэтага часу і да 1939 года адзінаццаць год ён правёў у турме. Астатнія гады былі прысвечаны гарачай рэвалюцыйнай барацьбе на волі. Усё гэта паклала свой адметны адбітак на творчасць Пестрака, паставіўшы яе некалькі асобна ад творчасці іншых рэвалюцыйных паэтаў Заходняй Беларусі.

Вышэй было ўжо адзначана, як бязлітасна распраўляўся польскі буржуазны ўрад з беларускім насельніцтвам і яго свабодалюбнымі імкненнямі. У далейшыя гады праследаванні беларускага народа ў Заходняй Беларусі яшчэ больш узмацніліся. Ад працоўнага сялянства гвалтоўна адбіралі зямлю і перадавалі яе асаднікам. Беларускіх рабочых не прымалі на працу. Былі зачынены ўсе беларускія школы.

Пад такім жа нечуваным прыгнётам знаходзілася беларуская прэса. Беларускія выданні не мелі ніякай фінансавай базы. Яны выдаваліся на тыя мізэрныя сродкі, якія збірала ў добраахвотным парадку беднае, аграбленае панамі беларускае насельніцтва. Праследаванне беларускага друку ўрадам панскай Польшчы праводзілася сістэматычна.

У такіх умовах жудасных рэпрэсій супроць беларускай школы, культуры і друку, зараджалася і развівалася ў Заходняй Беларусі беларуская мастацкая літаратура. Я гавару «зараджалася» таму, што падчас акупацыі Заходняй Беларусі панскай Польшчай там не заставалася ніводнага больш-менш вядомага беларускага літаратара.

Рэвалюцыйная літаратура Заходняй Беларусі не мела сваіх непасрэдных папярэднікаў на акупіраванай тэрыторыі. Яна зарадзілася на выдатных рэвалюцыйных традыцыях нашых класікаў і развівалася пад уплывам савецкай літаратуры. Яе выклікала да жыцця рэвалюцыйная барацьба беларускага народа супроць белапанскай акупацыі. Не выпадкова, што прыход у літаратуру першых рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў Заходняй Беларусі супаў з новым масавым уздымам народнага руху ў

1925—1926 гг. Гэта літаратура тварылася амаль падпольна і развівалася ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы. Пісьменнікі яе гуртаваліся вакол рэвалюцыйных беларускіх легальных і падпольных выданняў. Творы іх часта пашыраліся і праз рукапісныя лістоўкі і часопісы.

Асноўнымі матывамі творчасці рэвалюцыйных пісьменнікаў Заходняй Беларусі таго часу былі матывы беднага сялянскага жыцця. У ёй выказваліся заклікі змагацца з нядоляй-няволяй, але яны насілі вельмі часта агульны і досыць абстрактны характар. Замест канкрэтнага паказу сялянскага жыцця мы бачым у многіх тагачасных творах пісьменнікаў Заходняй Беларусі развагі аб сялянскай нядолі ў «нашаніўскім» духу.

У творчасці Піліпа Пестрака матывы сялянскага жыцця маюць зусім іншы характар. У яго творах, поруч з праблемамі вёскі, закранаюцца і агульныя праблемы жыцця, праблемы барацьбы і вызвалення, праблемы будучыні Заходняй Беларусі. Прычым, усё гэта пераломлена праз прызму погляду свядомага рэвалюцыянера-прафесіянала. Своеасаблівы каларыт паэзіі Піліпа Пестрака надаюць таксама вершы з турэмнага жыцця. У іх апісаны і доўгія турэмныя ночы, і хада па этапах, і галадоўкі вязняў, няўтольная і нязломная прага да волі:

Чуеш, птушкай шчабеча лазур...
Да акна падыдзеш, гэтай песняй праняты,
І далёкую сінь пацалуеш праз краты,
У сэрцы здушыш бунтарства слязу.

Натаміўшыся праз доўгія гады ў турэмных адзіночках, паэт з вялікай сілай перадае радасць выхаду на волю. Якімі светлымі вачыма глядзіць ён на прыроду і на ўвесь навакольны свет!

Іграе вецер на скрыпцы мелодыю ранку,
Жытнія струны звіняць,
Пералівам флейты-крыніцы
Альшаннік пяе безустанку,
А ў небе — стрэлы сонца шумяць.

Пестрак любіць і глыбока адчувае прыроду як чалавек, які доўга тужыў аб шырокіх прасторах сёлавых дарог, аб каласістых нівах. Але ў яго няма эстэцкага любавання прыродай. Карціны яе ў паэзіі Пестрака насычаны сацыяльным зместам.

Вось, як прыклад, некалькі строф з цудоўнага верша «Дарожка»:

Дарожка з вербаў выбегла,
Памчала за сяло,
Як быццам з дому выгнану
Бяздолле павяло.
Ляцела, прыпынілася,
Цягнула за масток,
Мураўкай пакацілася,
Нырнула у лясок.

Далей гэты зварушлівы вобраз дарожкі выклікае ў паэта асацыяцыі, звязаныя з сацыяльнымі пытаннямі і надзеямі на лепшую будучыню:

І ў далі акунулася,
Як з ношкай, пабрыла,
Прыстала, аглянулася,
Слязамі заплыла.
Жабрачкай-папрашайкаю
Ў шырокі свет пайшла,
Няскончанаю байкаю
Ты гора панясла.
Калі ў каптан адзенешся,
Лахманая сям'я?
Калі ж багачкай вернешся,
Дарожанька мая?!

Піліп Пестрак не толькі ставіць пытанне, калі Заходняя Беларусь стане багачкай. Ён дае на гэта пытанне і выразны адказ. Будучыня ў яго не абстрактная, а мае канкрэтныя і выразныя абрысы. Гэта асабліва выразна выказана ў вершы «Сон аб аграноме»:

Люд-пралетар, люд песні-працы,
Заб'е прыгоннае пракляцце,—
Па рэках новых і па шынах,
Ўздыхнуўшы вольнымі грудзьмі,
Сталёвым туркатам машыны
Па пушчы рэхам загрыміць!
І ўторыць будзе перабіўны
Крыніц радзімых спеў турбінны!..
Як будуць змыты ўсе сляды
Амшэлай, дзікай, горкай плесні
Краіны нашай, век забранай,—
Прыйду праменны я тады
З той падарожжы барацьбянай
На свята трактарнае песні.
. . . . . . . . . . . . . . .
...б'ючы паходным, смелым крокам.
Сустрэне песняю мяне
Круглавіды, сінявокі,
Рассмеяны і жвавы піянер.

Грунтам для гэтых спадзяванняў і веры Піліпа Пестрака з'яўлялася нязломная воля працоўных мас Заходняй

Беларусі, іх змаганне супроць польскіх паноў. Эпітэт «барацьбяная Беларусь» у Пестрака не выпадковы. Паэт на працягу ўсёй сваёй творчасці паказвае, што народ Заходняй Беларусі не скарыўся перад панскай Польшчай, а вядзе нястомнае змаганне за сваё вызваленне. Апісваючы, як і іншыя паэты, цяжкую сялянскую працу, Пестрак не абмяжоўваецца канстатацыяй гэтага факта; ён паказвае, як у грудзях аратага ўздымаецца «наш сялянскі зямельны бунт».

З твораў Пестрака селянін выступае не як пакутнік пакорны, а як дужы працавік і нязломны змагар. У вершаваных радках паэта б'ецца затоены бунт сялянства супроць паноў. Мы адчуваем у іх перавагу селяніна над панам і яго вялікую сацыяльную і рэвалюцыйную сілу. У адным з вершаў, паказваючы касьбу, Пілін Пестрак гаворыць:

Бачыў пан, як вялі атаку
Сталлю звонкай за радам рад;
Прыйдзе час — пературнём і гарляку
І той панскі падвойны карк.

Адметнай рысай паэзіі Піліпа Пестрака з'яўляецца яшчэ тое, што ў ёй паказваецца не рэвалюцыянер-адзіночка, а рэвалюцыянер-народ, рэвалюцыйныя масы Заходняй Беларусі. У вершы «Дала мне кашы картаплянай» у вобразе простай сялянскай жанчыны з вялікай сілай выказана тое спачуванне, якім акружала сялянства сваіх змагароў.

Як там дзвярыма хто забразгаў,—
На кожны стук,
На кожны рух
Ты ў вокны жвава паглядала,
Ты за мяне дазор вяла,
Мяне — паўстанца — сцерагла...

І ў гэтым адметная рыса паэзіі Піліпа Пестрака. Ён паказвае не толькі пакуты працоўных Заходняй Беларусі, але і іх упартую барацьбу з белапольскімі акупантамі. Ён нястомна кліча да гэтай барацьбы. Яго заклікі часамі носяць публіцыстычны характар, але яны заўсёды насычаны канкрэтным палітычным зместам. Паэтычная стыхія Піліпа Пестрака — паэзія працы, пафас народнай барацьбы, светлы і глыбокі аптымізм. Яму па праву належаць цудоўныя радкі, у якіх ён характарызуе сваю паэзію:

Для ніў запушчаных я знаю песню сонца,
Для душ абуджаных я знаю гімны зор.

Адменны, глыбока рэвалюцыйны змест паэзіі Пестрака патрабаваў і адменных, новых сродкаў паэтычнага выражэння. Пілiп Пестрак — паэт-трыбун. Адгэтуль і вобразная сістэма яго твораў мае ўзвышаны, аратарскі характар. На ёй выразна адчуваецца ўплыў Маякоўскага:

Вечар апаў.
Груз цемры кладзецца на плечы.
Куды пайду? Якім слупам
Я занясу цяжар свой чалавечы?

Як бачым, у гэтых радках адчуваецца нават не ўплыў Маякоўскага, а непасрэднае перайманне яго. Аднак трэба сказаць, што такіх мясцін у Пестрака няшмат. Ён вучыўся ў Маякоўскага, але стараўся заставацца і застаўся арыгінальным.

Характэрнай асаблівасцю яго творчасці з'яўляецца складаная і шырокая метафара. І тут мы знаходзім у Пестрака вельмі цікавыя і сапраўдныя паэтычныя знаходкі, як, напрыклад:

Па раўніне гладкай
Шырыні нябёс
Месяц-серп украдкам
Хмарак жне пакос.

Але, імкнучыся даць яркую і складаную метафару, Пiлiп Пестрак часта залішне абцяжарвае яе. У яго творчасці мы сустракаем такія нечаканыя і далёкія асацыяцыі, як *«ірдзісты* подых ветрыку», «скрыгат-піск журбы», *«крыніцы* сіл», якія выліваюцца *«гарой»*.

Недахопам паэтычнага стылю Пестрака з'яўляецца таксама і вельмі заблытаная інверсія, накшталт: «бяроз наўскраіне задума расставання», «мы з нашых сіл крыві» і падобныя.

Нарэшце, яснасці і зразумеласці паэзіі Пестрака шкодзіць часта залішняе нагрcaptadжэнне метафар, эпітэтаў і іншых, часта дыяметральна процілеглых азначэнняў да аднаго і таго ж паняцця. У якасці прыкладу гэтага можна прывесці такія радкі:

Беднячы хлеб, хлеб паншчыннай краіны,
Чорны жарнавік, вяночна-каласны.
Мятлічны спадчыннік той наядзі-мякіны,
Падспорнік зельнае, заціра чнай вясны!

Усе гэтыя недахопы паэтычнага стылю Піліпа Пестрака маюць сваё тлумачэнне. Пiлiп Пестрак імкнуўся не толькі зместам, а і ўсёй пабудовай верша супрацьставіць сваю паэзію той панылай і плаксівай творчасці, якою пра-

баўляліся эпігоны горшых узораў «нашаніўства». Паставіўшы перад сабой такую мэту, Пілін Пестрак пераходзіў часамі цераз край. Але поруч з гэтым ён дасягнуў і безумоўных перамог: яго паэзія глыбока рэвалюцыйная і аптымістычная зместам і ў адпаведнасці з гэтым арыгінальная і яркая па сваёй форме.

Вызваленне Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе ў адзінай Беларускай Савецкай дзяржаве раскрыла перад рэвалюцыйнымі пісьменнікамі Заходняй Беларусі самыя шырокія магчымасці для іх далейшай працы і росту.

Пілін Пестрак прывітаў гэту радасную падзею ў жыцці нашага народа ўсхваляванымі і ўрачыстымі вершамі:

Рубеж крывавы змыт. Дзяржаўны крок грыміць.
Свабодных дзён краса ў зорах пяцікутных
Да сонца сцеле шлях для радаснай зямлі,
Руйнуе ўсе сляды народнае пакуты.

Усім сэрцам сваім вітаючы разняволенне народа Заходняй Беларусі і далучэнне яго да творчага сацыялістычнага жыцця, паэт ад імя гэтага народа і ад свайго ўласнага ўрачыста абяцаў:

Мы не забудзем дня, калі шумлівым ходам
Ішлі байцы... Як расцвіла зямля!..
Вясна мая! Шумі ж ты карагодам,
Каб кожны міг цябе ў песнях праслаўляць.

І Пілін Пестрак стрымаў сваё слова. Ён актыўна ўключыўся ў літаратурны рух Савецкай Беларусі, услаўляючы сваімі вершамі новае, сацыялістычнае жыццё, за якое ён змагаўся і аб якім марыў доўгія гады.

Напад фашысцкай Германіі на савецкую краіну перапыніў мірную працу беларускага народа. Пілін Пестрак, не паспеўшы эвакуіравацца, ідзе ў партызанскі атрад. Зброяй і паэтычным словам ён змагаецца супроць нямецкіх акупантаў. У радках яго вершаў грыміць ратная слава савецкіх байцоў і партызан:

Пушчай, дарогай, палянай
Рэха удараў шуміць;
Гэта грымяць партызаны —
Сыны беларускай зямлі.

Як і ўсе савецкія людзі, Пілін Пестрак цвёрда верыў у сілы свайго народа і ў яго перамогу над ворагам. Гэтай верай пранікнуты і трагічныя («Маці»), і гераічныя («Рыцар айчыны»), і лірычныя вершы паэта, напісаныя ў гады Вялікай Айчыннай вайны:

Знаем мы,— прашумяць аблакамі
Нашы дні — баявыя труды,
Будзе свята і ў нас, і тады
Першы Май прамянець будзе з намі.

У напружанай гераічнай барацьбе з ворагам савецкі народ атрымаў сусветную перамогу. Пілін Пестрак сустрэў яе і ўславіў вершамі, у якіх з найбольшай сілай выявілася яго пачуццё гордасці за свой народ і пачуццё яго непарушнай сыноўняй еднасці з народам:

Вялікая закончана дарога
У громе бітваў, гора і ахвяр,
І прамяністая над светам перамога
Ўсёй людскасці нясе шчаслівы дар.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
І ў гэтай святасці вялікай, пераможнай,
Калі шуміць савецкая зямля,
Я чую сэрца Беларусі роднай,
Дзе свеціць Леніна вялікае імя.

Пасляваенныя вершы Піліпа Пестрака прысвечаны ў пераважнай сваёй большасці аднаўленню нашай краіны. Яны актуальныя і напісаны з пачуццём, але паказ творчай, будаўнічай працы нашага народа не знайшоў у іх яшчэ свайго паўнакроўнага адлюстравання. У гэтым сэнсе значна выгадней вылучаюцца апублікаваныя Пестраком урыўкі з яго паэмы «Сын Кастрычніка», дзе вельмі важная тэма дружбы народаў распрацоўваецца значна глыбей і цікавей. У гэтых урыўках заўважаецца і больш рашучы паварот паэта да мастацкай прастаты верша. Праўда, гэты паварот наглядаўся ўжо і ў іншых вершах Пестрака, напісаных пасля 1939 года, але ў згаданых урыўках ён афарміўся ўжо больш выразна. Трэба спадзявацца, што Пілін Пестрак, не трацячы арыгінальнасці і метафарычнасці верша, дасягне ў сваёй далейшай рабоце і сапраўднай паэтычнай прастаты.

Пілін Пестрак працуе ў літаратуры дваццаць год. За гэты час ён прайшоў цяжкі жыццёвы і творчы шлях. Яго вершы нарадзіліся ў агні рэвалюцыйнай барацьбы народных мас Заходняй Беларусі, і ў іх палыхае і цепліцца гэты нязгасны агонь. Яго паэзія была новай не толькі па зместу, а і па форме. Свядома супрацьстаўляючы яе застарэлым канонам эпігонаў «нашаніўства», паэт дасягнуў немалых здабыткаў, але поруч з гэтым ён і абцяжарыў свой верш непатрэбнай «складанасцю».

Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, не губляючы свайго пафасу і паэтычнай узнёсласці, Пілін Пестрак паступова

вызваляецца ад гэтай вычурнай «складанасці» і шукае простыя формы для выражэння сваіх пачуццяў. Савецкае разнастайнае і шматграннае жыццё жывіць яго паэзію свежымі сокамі. Можна спадзявацца, што ўпартая праца здольнага паэта дасць новы багаты плён — глыбокі і свежы, арыгінальны і яркі.

*1947 г.*

## ГЕНІЯЛЬНЫ ПАЭТ РУСКАГА НАРОДА

Стопяцідзесяцігадовы юбілей з дня нараджэння генія рускай і сусветнай літаратуры А. С. Пушкіна савецкі народ адзначае на парозе свайго ўступлення ў новую вялікую эпоху — эпоху камунізма. І невыпадкова, што ў гэтых умовах у нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай краіне юбілей вялікага сына рускага народа стаў усенародным святам. Высакародныя традыцыі вялікай рускай культуры, адным з геніяльных заснавальнікаў каторай быў і А. С. Пушкін, беражна прыняты ў спадчыну шматнацыянальнай сацыялістычнай культурай і гэтак жа беражна будуць перададзены нашым нашчадкам — грамадзянам камуністычнага грамадства.

У асобе і творчасці Пушкіна знайшлі сваё адлюстраванне самыя лепшыя, самыя высакародныя рысы душы і характару рускага народа: любоў да свабоды, таленавітасць, светлы і дапытлівы розум, бязмежная адданасць сваёй бацькаўшчыне. Адлюстраваўшы гэтыя рысы, геній Пушкіна паказаў свету магутную сілу і крыштальную душу рускага народа і навекі праславіў і ўзвялічыў нашу Радзіму. Геніяльныя па сваёй глыбіні, сіле і выразнасці творы Пушкіна з'явіліся новым крокам у мастацкім развіцці чалавецтва, і неўміручая краса іх не завяне ніколі.

«Пушкін належаў,— гаварыў Бялінскі,— да з'яў, якія вечна жывуць і рухаюцца, якія не спыняюцца на тым пункце, на якім застала іх смерць, а працягваюць развівацца ў свядомасці грамадства. Кожная эпоха выносіць аб іх сваю думку і як бы ні правільна зразумела яна іх, але заўсёды пакіне наступнай за ёю эпосе сказаць што-небудзь новае...»

Аднак можна сказаць з усёй упэўненасцю, што толькі ў наш час, калі пад кіраўніцтвам мудрай партыі Леніна здзейснена сусветна-гістарычная справа пабудовы сацыялістычнага грамадства, калі нацыянальная палітыка прывяла ўсе народы нашай краіны да высокай сацыялістычнай культуры, калі творы вялікага рускага паэта сталі даступнымі самым забітым у мінулым народам,— толькі ў гэты час нацыянальнае і агульначалавечае значэнне творчасці Пушкіна раскрылася ва ўсёй сіле і харастве. Кастрычніцкая рэвалюцыя прынесла Пушкіну сапраўдную ўсенародную славу.

М. Горкі назваў Пушкіна «самым поўным выражэннем духоўных сіл Расіі». Гэта азначэнне стасуецца не толькі да творчасці, а і да магутнага, цэльнага чалавечага вобліка паэта, у асобе якога, як і ў яго творах, знайшлі сваё выражэнне лепшыя рысы рускага народа, рускага нацыянальнага характару.

А. С. Пушкін нарадзіўся ў калысцы зямлі рускай, у горадзе Маскве, 26 мая (6 чэрвеня па новаму стылю) 1799 г., на рубяжы двух стагоддзяў. Гэта быў суровы і бязлітасны час. У Расіі царыў звар'яцелы імператар Павел І. Рабства, галеча і бізун панавалі ў запрыгоненай краіне. Але рос і наспяваў пратэст супроць самаўладства і тыраніі. Яшчэ перад гэтым, у 1790 годзе з'явілася кніга А. Радзішчава «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву», у якой былі закладзены пачаткі рускай рэвалюцыйна-вызваленчай думкі. Праз трынаццаць год пасля нараджэння Пушкіна, у 1812 г., рускі народ, натхнёны высокім патрыятызмам і свабодалюбнасцю, паўстаў на барацьбу за сваю незалежнасць, адстаяў у баях сваю радзіму і вызваліў народы Еўропы ад дэспатызму Напалеона. А ў 1825 годзе, калі паэту было ўжо дваццаць шэсць год, адбылося паўстанне дзекабрыстаў. Гэтыя падзеі і вызначаюць тыя гістарычныя межы і грамадскія настроі, у якіх праходзіла маленства і маладосць Пушкіна.

Бацька паэта, Сяргей Львовіч, належаў да старадаўняга занепалага баярскага роду. Па мацеры Пушкін быў патомкам Абрама Пятровіча Ганібала — «арапа» і хросніка Пятра І. Бацькі Аляксандра Сяргеевіча былі людзі, перш за ўсё, свецкія. Сяргей Львовіч ні гаспадаркай, ні службай не цікавіўся і, выйшаўшы ў адстаўку, жыў у Маскве жыццём бесклапотнага рускага пана. Ён любіў бываць у свеце, шмат увагі аддаваў тэатру, літаратурным вечарам і забавам. Любімым яго заняткам было пісанне

вершаў на французскай мове. Вясёлы, начытаны і дасціпны на слова, ён пры ўсім тым быў чалавекам павярхоўным. Да дзяцей ён ставіўся зусім абыякава.

Маці паэта, Надзежда Осіпаўна Ганібал, «красуня-крэолка», як яе называлі, падобна мужу любіла «свет» і падобна яму была абыякавай да гаспадаркі і сям'і. Да старэйшага сына Аляксандра яна ставілася з халоднасцю, якая змянялася часамі выбухамі гневу. У роднай сям'і Пушкін не меў ні матчынай любасці, ні бацькавай клапатлівасці.

На гэтым фоне нярадаснага і няўцешнага маленства светлымі людзьмі для паэта былі яго бабка Марыя Аляксееўна Ганібал і старэнькая нянька, вядомая Арына Радзівонаўна. Іменна гэтыя рускія жанчыны, і ў першую чаргу простая сялянка Арына Радзівонаўна, выхавалі чалавецтву вялікага рускага паэта. Арына Радзівонаўна прышчапіла свайму выхаванцу любасць да народнай творчасці. Яна была ўзорам высокаталенавітай рускай жанчыны, ведала безліч песень і казак і сваю разумную і вобразную мову перасыпала прыказкамі і пагаворкамі. Глыбокая сардэчнасць гэтай жанчыны зрабіла плённы ўплыў на сэрца паэта.

Арына Радзівонаўна мела вялікае значэнне і ў развіцці паэтычнай здольнасці Пушкіна. Праўда, сям'я Пушкіных была літаратурнай сям'ёй. Мы ўжо зазначылі, што бацька паэта Сяргей Львовіч цікавіўся літаратурай і сам пісаў французскія вершы. Досыць вядомым паэтам у свой час быў дзядзька Пушкіна — Васілій Львовіч. І. І. Дзмітрыеў, Н. М. Карамзін, В. А. Жукоўскі, К. Н. Бацюшкаў былі сябрамі Васілія Львовіча і бывалі ў доме Пушкіных.

Аднак, як прызнаецца сам А. С. Пушкін, упершыню Муза наведала яго, схіляючыся над ім у вобразе старой нянькі, «вясёлаю бабулькай», «у шушуне, у вялікіх акулярах». Тыя вечары, калі паэт, будучы хлапчанём, заставаўся адзін са сваёй нянькай і чакаў ад яе казкі, назаўсёды адлюстраваліся ў яго памяці. І калі ён, нарэшце, засынаў — прачыналася ў яго творчасць.

З блакітнай вышыні тады далоў
Крылатай мараю на ложа сноў
Чараўнікі натоўпамі зляталі
І сны мае падманам чаравалі.
Я ў імпэце салодкіх дум дрыжаў;
У глушыні, між Мурамскіх пустыняў,
Страчаў ліхіх Палканаў і Дабрыняў;
Дзіцячы розум ў вымыслах лунаў.

Гэтыя дзіцячыя «вымыслы» «праз сон» і былі першымі тварэннямі паэта. Паэт адплаціў за гэта сваёй няньцы цёплай прыхільнасцю і любасцю, якія ён захаваў да канца свайго жыцця. Ён прысвяціў Арыне Радзівонаўне шэраг вершаў, як «Зімовы вечар», «Няньцы» і інш. Вобраз яе некаторым чынам ускосна адлюстраваўся і ў вобразе старой нянькі Тацяны Ларынай.

Вялікае значэнне для знаёмства малога Пушкіна з жыццём простага народа мелі яго летаванні ў падмаскоўнай вёсцы Захар'іна. Тут ён упершыню ўбачыў пакутнае жыццё сялян, якія, не разгінаючы спіны, працавалі на пана ад цямна да цямна. Тут ён упершыню пазнаёміўся з той жахлівай прыгоннай рэчаіснасцю, якую пазней так праўдзіва апісаў.

Да дванаццацігадовага ўзросту Пушкін выхоўваўся і вучыўся дома. Паэт ліхам памінае тых гувернёраў і гувернантак, якія замянілі Арыну Радзівонаўну. Пазней, у запісцы «Аб народным выхаванні» ён вельмі рэзка выказаўся наконт такой сістэмы выхавання. «У Расіі,— гаворыць ён,— хатняе выхаванне ёсць самае недастатковае і самае амаральнае». Пушкін запаўняў прабелы свайго хатняга выхавання чытаннем кніг. Багатая бібліятэка бацькі была ў поўным распараджэнні будучага паэта. Заўзяты ахвотнік да чытання, ён з галавой акунуўся ў кнігі Ламаносава, Вальтэра, Плутарха, Карамзіна, Крылова, Мальера, Жукоўскага — усіх без разбору і з аднолькавай прагнасцю чытаў у маленстве Пушкін. У гэтыя ж гады Пушкін пачаў пісаць вершы, якім бацькі яго не надавалі значэння.

У 1811 годзе дзядзька паэта Васілій Львовіч, які меў у Пецярбургу яшчэ некаторыя сувязі з высокапастаўленымі асобамі, павёз пляменніка ў толькі што адкрыты тады Царскасельскі ліцэй. Гэта была закрытая навучальная ўстанова для дваранскіх дзяцей, якіх рыхтавалі для ваеннай і дыпламатычнай службы. Вялікая ўвага ў ліцэі аддавалася гісторыі, юрыдычным навукам, літаратуры і мовам. Сярод выкладчыкаў ліцэя былі досыць перадавыя і адукаваныя для свайго часу людзі, як, напрыклад, Д. І. Будры, родны брат аднаго з правадыроў французскай рэвалюцыі — Марата, або прафесары А. І. Галіч і А. П. Куніцын, якія пазней абодва былі падвергнуты царскім урадам ганенню і звольнены са сваіх пасад — Галіч па абвінавачванню ў атэізме і дыскрэдытаванні ўлады, а Куніцын за свой падручнік «Права натуральнае», дзе рэакцыя ўбачыла вы-

чэнне, «якое супярэчыць ісцінам хрысціянства і хіліцца да знішчэння ўсіх сувязей сямейных і дзяржаўных».

Паміж ліцэйскімі таварышамі Пушкіна была досыць моцная любасць да літаратурных заняткаў: многія пісалі вершы, многія перакладалі артыкулы з замежных часопісаў. Ліцэісты выдавалі свае рукапісныя часопісы: «Ліцэйскі мудрэц», «Нявопытнае пяро» і інш. Будучы ў ліцэі, Пушкін трымаў сувязь з Бацюшкавым і Жукоўскім, пісаў ім вершаваныя пасланні. У ліцэі ж Пушкін пазнаёміўся з П. А. Вяземскім і Карамзіным і бываў у апошняга дома, калі той летам жыў у Царскім Сяле. Ліцэістам Пушкін пасябраваў з П. Я. Чаадаевым, які меў на палітычнае развіццё паэта досыць вялікі ўплыў і да якога ён пазней звярнуўся з вядомым вершам «Надзей, кахання, гордай славы...».

Пушкін прабыў у ліцэі шэсць год — з 1811 па 1817. Гады, праведзеныя ў ліцэі, засталіся назаўсёды лепшымі гадамі жыцця ў памяці Пушкіна; аб гэтым сведчаць некалькі цудоўных яго вершаў, напісаных у памяць гадавіны адчынення ліцэя 19 кастрычніка 1811 года; аб гэтым гаворыць паэт і ў рамане «Яўгеній Анегін», калі зазначае:

У дні, калі ў садах Ліцэя
Я бесклапотна расцвітаў...

Надзвычайна важную ролю ў разумовым развіцці Пушкіна ў ліцэйскі перыяд адыграла Айчынная вайна 1812 г., за якой ліцэісты прагна сачылі, збіраючыся ў сваёй бібліятэцы і слухаючы свежыя паведамленні. «Жыццё наша ліцэйскае,— успамінае пазней друг паэта І. І. Пушчын,— зліваецца з палітычнай эпохай народнага жыцця рускага. Рыхтавалася навальніца 1812 года. Гэтыя падзеі моцна адбіліся на нашым дзяцінстве».

У вершах на ліцэйскую гадавіну 1836 года Пушкін успамінаў аб тых часінах:

Вы помніце: цякла за раццю рать;
Братам на развітанне даўшы рукі,
Вярталіся пад засень мы навукі,
Зайздросцячы таму, хто паміраць
Ішоў паўз нас...

Айчынная вайна 1812 г. дала Пушкіну магутную народна-патрыятычную зарадку. Яна спрыяла ўздыму рэвалюцыйнага руху ў Расіі, які затым нарадзіў паўстанне дзекабрыстаў. Яна абудзіла ў душы паэта свядомую і глы-

бокую любасць да Радзімы. Гэта высакароднае пачуццё пранізала ўсю творчасць і ўсё жыццё паэта. Магутны патрыятычны ўздым рускага народа, які падняўся на абарону сваёй бацькаўшчыны, натхніў паэта на творчасць.

Пушкін, як мы ўжо зазначылі, пачаў пісаць вельмі рана; паводле сведчання сястры паэта Вольгі Сяргееўны, ён пісаў ужо да паступлення ў ліцэй. Аднак захаваліся яго вершы толькі з 1812 года. Першым надрукаваны быў верш «Да друга вершатворца» ў ліпені 1814 года, у часопісе «Вестник Европы». Ужо ў гэтым вершы пятнаццацігадовы Пушкін выказвае думку, што шлях паэта нялёгкі. Ён не спакушаецца, што літаратура можа даць багацце ці бесклапотнае жыццё; ён ведаў ужо, што жыццё сапраўднага мастака ў тагачасным грамадстве — гэта подзвіг, «рад гаркот», а «гучная слава — сон».

Не так, мой любы друг, пісьменнікі багаты;
Ім не даны ні мармуровыя палаты,
Ні чыстым золатам набітыя куфры:
Хацінка над зямлёй, каморка на гары —
Вось пышныя палацы іх і вось іх залы.

З гэтага верша, праз яго жартаўлівы тон, відаць сур'ёзныя, поўныя глыбокай пашаны адносіны да мастацтва і ўсведамленне яго высокага значэння. І не выпадкова, што пры такім удумлівым стаўленні да паэтычнай працы, ужо праз год пасля апублікавання першага верша паэта, на яго долю выпадае сапраўдны літаратурны трыумф. Пушкін апісвае яго так:

«Гэта было ў 1815 годзе, на публічным экзамене ў ліцэі. Як даведаліся мы, што ў нас будзе Дзяржавін, усе мы ўсхваляваліся. Дэльвіг выйшаў на лесвіцу, каб дачакацца яго і пацалаваць яму руку, якая напісала «Вадаспад»... Я прачытаў мае «Успаміны ў Царскім Сяле», стоячы ў двух кроках ад Дзяржавіна. Я не маю сіл апісаць стан душы маёй: калі дайшоў я да радка, дзе ўспамінаецца імя Дзяржавіна, голас мой па-дзіцячы зазвінеў, а сэрца забілася ў невымоўным захапленні... Не помню, як я скончыў сваё чытанне, не помню, куды збег. Дзяржавін быў у захапленні; ён клікаў мяне, хацеў абняць... мяне шукалі, але не знайшлі...»

«Успаміны ў Царскім Сяле» — гэта верш, у якім паэт выказаў той патрыятычны ўздым, які ахапіў рускае грамадства. З гэтага часу Пушкін становіцца прызнаным паэтам. Аб гэтым паэт успамінае ў цудоўных вершах з рамана «Яўгеній Анегін», дзе расказвае пра лёс сваёй музы:

І свет яе адразу ўбачыў;
Нас першы поспех акрыліў;
Стары Дзяржавін нас адзначыў
І перад смерцю блаславіў.

Апошнія гады прабывання ў ліцэі Пушкін усё больш і больш аддае часу літаратурнай творчасці. Грамадска-палітычныя погляды яго выкрышталізоўваюцца. Ён усё больш усведамляе сябе прадаўжальнікам тых рэвалюцыйных традыцый, якія бяруць пачатак ад дзейнасці Радзішчава. І калі ў першых сваіх ліцэйскіх вершах Пушкін аддаў некаторую даніну «эпікурэйскай» лірыцы з яе матывамі забыцця нягод жыцця і матывамі бесклапотнай асалоды, дык цяпер ён рашуча адыходзіць ад гэтага і пачынае одай «Вольнасць» цыкл палітычных вершаў.

Сыдзі з вачэй маіх далоў,
Цытэры кволая ўладарка!
Дзе ты, дзе ты, граза цароў,
Свабоды гордая пяснярка?
Прыйдзі вянок мой растаптаць
І ліру спешчаную гэту —
Хачу апець свабоду свету,
На тронах ганьбу пакараць.

У гэтым закліку да музы ярка выказаны палітычныя і эстэтычныя погляды паэта. З гэтага часу ў творчасці Пушкіна ўсё больш поўна і нязменна гучыць голас грамадзяніна сваёй краіны, які верыць у яе лепшую будучыню і сам рупліва дбае аб яе свабодзе і перамозе чалавечага розуму над дзікім цемрашальствам.

Росквіт літаратурнай дзейнасці Пушкіна прыпадае на эпоху, калі Расія задыхалася пад прыгонам. Рускае сялянства, глыбока ненавідзячы прыгнятальнікаў, узмацняла свае выступленні супроць памешчыкаў. Яно не магло весці арганізаванай барацьбы, але сваім стыхійным абурэннем абуджала перадавых людзей шукаць выйсця з тых вострых сацыяльных супярэчнасцей, якія раз'ядалі грамадства. Ленін пісаў пра тую эпоху прыгону:

«Прыгонная Расія забітая і нерухомая. Пратэстуе нікчэмная меншасць дваран, бездапаможных без падтрымання народа. Але лепшыя людзі з дваран дапамаглі разбудзіць народ».

Да гэтых лепшых людзей належаў і А. С. Пушкін. У 1817 годзе ён закончыў ліцэй і ў чыне калежскага сакратара быў залічаны на службу ў калегію замежных спраў. Ён апынуўся ў Пецярбургу ў тым грамадстве, дзе

на адным полюсе канцэнтравалася самая чорная рэакцыя, а на другім групавалася апазіцыя, ствараючы розныя тайныя гурткі і таварыствы.

У адным з такіх літаратурных гурткоў, які называўся «Зеленой лампой», прыняў актыўны ўдзел і А. С. Пушкін. Гэты гурток быў цесна звязаны з тайным таварыствам «Союз благоденствия». На сходках гуртка слухалі і разбіралі вершы, вялі размовы аб тэатры. Але тут гаварылася нярэдка таксама «наконт нябеснага цара, а іншы раз наконт зямнога».

Пушкін у гуртку быў у кругу сваіх аднадумцаў. Яны з захапленнем слухалі яго гнеўныя палітычныя вершы, якія па цэнзурных умовах не маглі быць надрукаванымі і пашыраліся ў рукапісах. Барацьба з прыгонным правам была адным з асноўных пунктаў праграмы дзекабрыстаў. Пушкін прысвяціў гэтай тэме востры палітычны верш «Вёска», у якім няшчадна бічуе рэжым рабства і прыгнёту, з абурэннем гаворыць аб паразітычным панстве, якое:

Прысвоіла сабе гвалтоўнаю лазой
І час, і працу земляроба, й скарб ягоны.

Страсныя, пранікнутыя ідэямі свабоды і нянавісцю да прыгнечання, вершы Пушкіна атрымалі самае шырокае распаўсюджанне. Іх чыталі і ведалі на памяць усе пісьменныя людзі — не толькі двараие і студэнты, а і салдаты.

Вялікае ўражанне зрабіла на публіку закончаная ў гэты час паэма Пушкіна «Руслан і Людміла». Глыбокія чалавечыя перажыванні, аптымістычнае ўспрыманне жыцця, народнасць, іранічныя і пародыйныя інтанацыі знайшлі ў гэтым творы сваё майстэрскае выражэнне. Гэта выражэнне жыццесцвярджальных пачаткаў, рэальнасць казачнага вымыслу нібы знарок былі падкрэслены ў процілегласць казачным матывам Жукоўскага з яго адыходам у ірэальны свет. Гнуткасць і хараство пушкінскага верша давяршылі чароўнасць паэмы. Прачытаўшы яе, Жукоўскі, на памяць «аб гэтым урачыстым дні», падарыў Пушкіну свой партрэт з надпісам: «Пераможцу вучню ад пераможанага настаўніка».

Сваім наватарствам паэма выклікала бурныя водгукі і спрэчкі. Літаратурныя стараверы ганьбілі яе за «нізкія выразы», «мужыцкія рыфмы», як яны называлі простую, народную мову паэмы. Але гэтыя якраз якасці паэмы сталі прадметам захаплення другой часткі грамадства. І з ча-

су з'яўлення паэмы «Руслан і Людміла» ў рускай літаратуры па-сапраўднаму загучалі матывы народнай паэзіі. Слава Пушкіна пашырылася і замацавалася.

Тым часам над галавой паэта збіралася навальніца. Вершы, накіраваныя супраць самаўладства і прыгону, дайшлі да цара. Пушкін незалежна трымаў сябе ў пецярбургскім грамадстве і адкрыта ганьбаваў цемрашальства і тупасць царскіх прыбліжоных, і рэпутацыя паэта як ворага манархіі была канчаткова за ім усталёвана. Цар Аляксандр I заявіў, што Пушкін «запаланіў Расію абураючымі вершамі», і меў намер саслаць паэта ў Сібір або ў Салавецкі манастыр. І толькі дзякуючы хадайніцтву Жукоўскага і Карамзіна, якія вымусілі ў паэта абяцанне не пісаць на працягу двух гадоў антыўрадавых вершаў, Сібір была заменена высылкай на поўдзень Расіі.

5 мая 1820 года Пушкін выехаў з Пецярбурга ў Екацерынаслаў. Праездам на Каўказ герой 1812 года генерал Н. Н. Раеўскі з сям'ёй наведаў Пушкіна і застаў яго хворым. Па хадайніцтву Раеўскага для Пушкіна ўдалося атрымаць водпуск, і хворы паэт разам з Раеўскімі накіраваўся на Каўказскія мінеральныя воды, а затым у Крым. У верасні Пушкін прыехаў у Кішынёў, куды з Екацерынаслава была пераведзена канцылярыя генерала Інзава, якому падначальваўся паэт.

У Кішынёве Пушкін меў зносіны з цэлым радам дзеячаў дзекабрысцкага руху: П. Песцелем, В. Раеўскім, В. Давыдавым, М. Арловым, С. Валконскім і іншымі. У сваім дзённіку таго часу Пушкін запісаў аб сустрэчы з Песцелем:

«Разумны чалавек ва ўсім сэнсе гэтага слова... Мы з ім мелі размову метафізічную, палітычную, маральную і інш. Ён адзін з самых арыгінальных розумаў, якіх я ведаю».

Увосень 1820 года Пушкін наведаў маёнтак Давыдавых — Каменку, куды з'ехаліся дзекабрысты, каб абмеркаваць некаторыя палітычныя пытанні. Пушкін не належаў да тайнага таварыства дзекабрыстаў і не ведаў нават аб яго існаванні, але прымаў актыўны ўдзел у спрэчках дзекабрыстаў і ва многім падзяляў іх погляды.

У Кішынёве Пушкін пазнаёміўся таксама з правадырамі вызваленчай барацьбы ў Грэцыі, братамі Іпсіланці. Паэт нават меў намер уцячы з Кішынёва, каб прыняць удзел у паўстанні грэчаскага народа супраць турэцкай няволі. Ён цікавіўся і спачуваў рэвалюцыйнаму руху ў Іспаніі, Італіі, Партугаліі. І гэтая глыбокая цікавасць да са-

цыяльна-палітычнага жыцця Расіі і Заходняй Еўропы — характэрная рыса Пушкіна. Вострае ўспрыманне сацыяльна-палітычнай рэчаіснасці паэт захаваў да канца жыцця.

Летам 1823 года Пушкін быў пераведзены з Кішынёва ў Адэсу. Намеснік новарасійскага краю граф Варанцоў спачатку прыняў паэта прыхільна, але, пабачыўшы незалежныя паводзіны Пушкіна і самастойныя выказванні, адразу ж перамяніў свае адносіны. Ён не пагрэбаваў нават данесці на Пушкіна, і па яго намаганню паэт быў з Адэсы выдалены. Па строга вызначанаму маршруту, без права заязджаць у Маскву, Пушкін выехаў у глухое сяло Міхайлаўскае Пскоўскай губерні, пад нагляд грамадзянскіх і духоўных уладаў.

Гады, праведзеныя Пушкіным на поўдні, былі для яго гадамі творчай узмужнеласці і росквіту. Творчае развіццё паэта праходзіць пад знакам паглыблення і афармлення новых мастацкіх прынцыпаў. Ён працягвае цыкл палітычных твораў, сярод якіх верш «Кінжал» з'яўляецца палымяным заклікам да барацьбы з самаўладствам. Паэт адкрыта ўсхваляе ў гэтым вершы царазабойцу Брута, і ў яго пратэсце супраць тыраніі выразна гучаць рэвалюцыйныя ноты.

На поўдні Пушкін напісаў таксама сваю атэістычную «Гаўрыліяду» і так званыя рамантычныя паэмы «Бахчысарайскі фантан», «Каўказскі нявольнік», «Цыганы». У гэтых паэмах, асабліва ў дзвюх апошніх, узнікае вобраз адзінокай расчараванай асобы, якая процістаўляе сябе свайму колу грамадства і шукае вырашэння супярэчнасцяў і душэўнага заспакаення сярод прыроды і простых людзей.

Апяваючы рамантычных герояў, што не прызнаюць тых прынцыпаў, на якіх пабудавана грамадскае жыццё, бунтуюць па сутнасці супраць іх,— Пушкін процістаўляе суровае, але вольнае жыццё чаркесаў і цыганоў аднастайнаму і мёртваму жыццю свецкага грамадства, ён змагаўся супраць падпарадкавання чалавека сістэме дзяржаўна-саслоўных нормаў. Такім чынам, і тут Пушкін застаецца на пазіцыях палітычнай барацьбы з самаўладствам.

Аднак, поруч з гэтым і не зважаючы на рэальныя абставіны, у якіх адбываюцца падзеі рамантычных паэм,— Пушкін быў незадаволены некаторай дозай той экзатычнасці, якая ўласціва і каўказскаму нявольніку і Алека з паэмы «Цыганы», і перад паэтам узнік план рэалістычнага рамана ў вершах, гэта быў «Яўгеній Анегін», які Пуш-

кін і пачаў пісаць яшчэ ў Кішынёве і працягваў у сяле Міхайлаўскім.

У сяле Міхайлаўскім паэт прабыў два з лішнім гады — з жніўня 1824 па верасень 1826 года. Тут 15 снежня 1825 года ён даведаўся, што напярэдадні на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу адбылося паўстанне, якое было названа пасля паўстаннем дзекабрыстаў. Праз некаторы час паэту стала вядома, што паўстанне разгромлена, а ўдзельнікі яго арыштаваны. Сярод імён «найвышэйшых дзяржаўных злачынцаў» Пушкін убачыў імёны знаёмых яму людзей: Рылеева, Бястужава, Якубовіча і інш. Паведамлялася, што ўлады шукаюць ліцэйскіх сяброў паэта — Пушчына і Кюхельбекера. У хуткім часе ўдзельнікі паўстання скончылі сваё жыццё на шыбеніцы або былі сасланы на катаргу. «Пляшывага франта» Аляксандра I змяніў другі каранаваны дэспат — Мікалай I.

Але нават і пасля паражэння паўстання, ва ўмовах бязлітаснай мікалаеўскай рэакцыі Пушкін не адрокся ад сваіх сяброў-дзекабрыстаў, не здрадзіў сваім ідэалам і не адмовіўся ад барацьбы з самаўладствам. З першаю ж аказіяй паэт перасылае дзекабрыстам пасланне ў Сібір, у якім гучыць непахісная вера ў перамогу свабоды:

Цяжкія кайданы спадуць,
Астрогі рухнуць, і ля ўхода
Вас прыме радасна свабода,
І меч браты вам аддадуць.

Зварот Пушкіна да дзекабрыстаў быў вялікім падтрыманнем для ўсіх сумленных людзей, адданых ідэалам свабоды. Герцэн гаворыць, што ў той змрочны час «адна толькі звонкая і шырокая песня Пушкіна гучала ў далінах рабства і пакут; гэтая песня працягвала эпоху мінулую, напаўняла мужнымі гукамі сучаснае і пасылала свой голас у далёкае будучае...».

Жывучы ў Міхайлаўскім, Пушкін нястомна працуе над новымі творамі. Тут была напісана гістарычная трагедыя «Барыс Гадуноў». У аснове яе ляжыць шырокі ахоп сацыяльных з'яў, узаемадзеянне розных грамадскіх сіл у палітычнай барацьбе. І галоўным героем у трагедыі выступаюць не ўзурпатары, не прэтэндэнты на трон, а народ; ён яшчэ загадкава маўчыць, але ў ім ужо адчуваецца сапраўдны герой гісторыі, сапраўдны грозны суддзя злачынстваў, якія чыняць цары і баярства.

Трагедыя «Барыс Гадуноў» з'яўляецца найвялікшым

творам сусветнай літаратуры, узорам драматургіі. У ім ва ўсёй паўнаце выявіліся прынцыпы рэалізму, заснавальнікам якога ў рускай літаратуры быў Пушкін. Паэт майстэрскі рэалізаваў тут тыя новыя, процілеглыя класіцызму асновы драматургіі, якія ён сцвярджаў, гаворачы: «Я цвёрда ўпэўнены, што нашаму тэатру да твару народныя законы драмы Шэкспіравай, а не прыдворны звычай трагедыі Расіна».

У лістах з Міхайлаўскага да сяброў, у шматлікіх крытычных нататках Пушкін няспынна звяртаецца да думкі аб самабытнасці рускай літаратуры і шмат увагі аддае пытанням народнасці мастацтва. Пад народнасцю Пушкін разумее адлюстраванне «асаблівай фізіяноміі народа», яго «спосабу думання і адчування», «звычаяў, павер'яў і прывычак, якія належаць выключна якому-небудзь народу». Гэтыя прынцыпы сапраўднай народнасці Пушкін бліскуча развіваў і рэалізаваў у сваёй далейшай творчасці.

Пад гэты час, у 1826 г., Пушкіну было дазволена вярнуцца з высылкі ў сталіцу. Мікалай I зрабіў гэта з мэтай, каб загладзіць цяжкае ўражанне, зробленае на грамадскасць бязлітасным пакараннем дзекабрыстаў, і трымаць паэта пад больш пільным наглядам. Цар узяў на сябе цэнзуру твораў паэта і ўстанавіў за ім строгі паліцэйскі нагляд. Кожны крок паэта быў вядомы царскаму шэфу жандараў Бенкендорфу. Пушкіну двойчы зноў пагражала небяспека царскай кары. У рукі Бенкендорфа трапілі «Гаўрыліяда» і «Анры Шэнье». Паэт вымушаны быў адмовіцца ад аўтарства гэтых твораў. Паднаглядная існаванне было для паэта велізарнейшым цяжарам.

Не зважаючы на гэта, Пушкін не пакідаў упартай працы над новымі творамі, накіраваўшы ўсю сілу свайго таленту на вывучэнне і апісанне тых бакоў рускага жыцця, якія складалі сутнасць гістарычнага развіцця Расіі. У 1828 годзе з-пад яго пяра выходзіць «Палтава», твор высокіх патрыятычных пачуццяў і адмаўлення феадальнай марнаісці. У ім развенчаны вераломства і каварства Мазепы — чалавека нізкіх душэўных якасцей, які ахвяруе каханнем і дружбай для дасягнення сваіх эгаістычных мэт. З любасцю паказаны Качубей і Іскра, да канца адданыя Пятру і яго вялікай справе абароны і абнаўлення Расіі.

Поруч з гэтым у тым жа 1828 годзе Пушкін піша накіраваны супраць тыраніі верш «Анчар», у якім з глыбокім гневам гаворыць аб бязлітаснай уладзе ўладара над рабом, чалавека над чалавекам.

...І згінуў бедны раб ля ног
Уладара свайго ліхога.
А цар атруты гэтай даў
Напіцца стрэлам-навальніцам
І разам з імі смерць паслаў
Ўдаль за суседнія граніцы.

Летам 1829 года Пушкін едзе на Каўказ, дзе ў той час ішла вайна з Турцыяй. Гэту паездку паэт апісаў у «Падарожжы ў Арзрум». Вярнуўшыся з Каўказа, восень 1830 г. Пушкін правёў у бацькоўскім маёнтку Болдзіна. Гэта быў адзін з самых напружаных і плённых момантаў у творчасці паэта. У Болдзіне быў закончаны раман «Яўгеній Анегін», над якім Пушкін працаваў сем год, напісаны «Домік у Каломне», «Аповесці Белкіна», «Гісторыя сяла Гарухіна», маленькія трагедыі («Каменны госць», «Скупы рыцар», «Моцарт і Сальеры»), «Казка аб папе і работніку яго Балдзе», рад лірычных вершаў і літаратурна-крытычных артыкулаў і нататак.

У час сваіх паднявольных і вольных вандраванняў Пушкін аб'ездзіў многія куткі краіны — ад Пецярбурга да Крыма і Закаўказзя, ад Балтыкі да Урала і стэпаў Сярэдняй Азіі, і ярка паказаў чытачам свет, у якім яны жывуць. Але найбольш поўна і ўсебакова адлюстраваў Пушкін рускае грамадства дваццатых гадоў мінулага стагоддзя ў рамане «Яўгеній Анегін», які Бялінскі назваў энцыклапедыяй рускага жыцця. З рамана, як жывыя, паўстаюць шматлікія і разнастайныя вобразы, карціны жыцця вышэйшага пецярбургскага свету і глухіх маёнткаў, эпізоды, якія малююць побыт дваран і прыгоннага сялянства. «Яўгеніем Анегіным» Пушкін паклаў аснову рускага сацыяльна-псіхалагічнага рамана, увёў у літаратуру будзённае жыццё людзей з іх жыццёвымі імкненнямі. Пушкін паказаў у ім і эканамічныя працэсы, якія адбываліся тады ў прыгоннай гаспадарцы, і паказаў іх так глыбока і праўдзіва, што Маркс спасылаўся на адпаведныя радкі з «Яўгенія Анегіна» ў сваіх палітыка-эканамічных працах. А Энгельс у лісце аднаму свайму рускаму карэспандэнту гаварыў, што ў сваіх поглядах на гэта пытанне Пушкін стаяў вышэй вядомых эканамістаў канца XVIII стагоддзя.

Расказваючы ў рамане аб жыцці свецкага грамадства, Пушкін малюе яго сатырычна. Ён выносіць яму свой прысуд з пазіцый дзекабрыстаў. Нават вобраз Анегіна паэт падае іранічна. Ён выразна сцвярджае, што гэты грамадска-бескарысны чалавек, «разумная непатрэбнасць», па-

водле трапнага выразу Герцэна, ёсць параджэнне пустога і бяздушнага дваранскага асяроддзя.

Поруч з гэтым Пушкін малюе свой «мілы ідэал» Таццяну. У гэтым вобразе рускай жанчыны, у процівагу штучнасці і пустаце свецкага грамадства, паэт паказвае прыродную натуральнасць і шчырасць душэўных імкненняў. У імя вышэйшага абавязку вернасці, Таццяна ахвяруе асабістым шчасцем; яна, з яе цікавасцю да кніг, да культуры, з'яўляецца адмаўленнем застойных бакоў тагачаснага грамадства.

Глыбокі сацыяльны змест, тыповая характарыстыка грамадства, палітычныя і філасофскія развагі, цудоўныя апісанні прыроды, спалучэнне класічнай строгасці з яркасцю і натуральнасцю, паэтычнасцю апавядання,— усё гэта надае раману надзвычайную паэтычнасць і ставіць яго на адно з выдатных месц у шэрагу геніяльных твораў сусветнай літаратуры.

«Няхай ідзе час,— пісаў Бялінскі,— і прыводзіць з сабой новыя патрэбнасці, няхай расце рускае грамадства і абганяе «Анегіна»: як бы далёка яно ні пайшло, але заўсёды будзе яно любіць гэту паэму, заўсёды будзе спыняць на ёй поўны любасці і ўдзячнасці погляд».

Прабыванне ў Болдзіне ўвосень 1830 года зноў напомніла Пушкіну аб галечы і бяспраўі народа. Ён прысвячае паказу людзей, якія займаюць ніжнія паверхі грамадскай іерархіі, «Аповесці Белкіна». Гэта апавяданні аб людзях, якія становяцца ахвярай феадальна-дваранскай практыкі. Сацыяльная драма маленькага чалавека ўзнята тут да вялікага абагульнення; у ёй гучыць прызнанне і сцвярджэнне права гэтага чалавека на сваю незалежнасць. З пачуццём горкага роздуму над лёсам запрыгоненай вёскі Пушкін гаворыць аб гэтым і ў «Гісторыі сяла Гарухіна».

Лёс маленькага чалавека ў бяздушным вялікасвецкім грамадстве быў блізкі да лёсу самога паэта. Зімой 1831 г. Пушкін ажаніўся з Н. Н. Ганчаровай і пасяліўся ў Пецярбургу. Ён адмоўна ставіўся да пустога вышэйшага свету і прыдворнай знаці і ў той жа час не мог ухіліцца ад гэтага асяроддзя. Пушкін балюча перажываў гэтую калізію. Асабліва востра адчуваў ён супярэчлівасць свайго становішча, калі Мікалай І надаў яму годнасць камер-юнкера. Гэта быў здзек са славутага і любімага народам паэта, таму што званне камер-юнкера давалася толькі самым зялёным юнакам. Пушкін прасіў зняць з яго гэта званне, але

выклікаў гэтым толькі незадаволенасць цара і вымушаны быў пастаянна бываць у прыдворных колах.

У лістападзе 1831 года Пушкін быў залічаны на службу па міністэрству замежных спраў і атрымаў дазвол вывучаць архівы. Ён заняўся вывучэннем сялянскага руху і дзейнасці Пугачова і задумаў напісаць на гэтым матэрыяле раман. У жніўні 1833 г. Пушкін накіраваўся ў Казанскую і Арэнбургскую губерні збіраць расказы аб Пугачове.

Вяртаючыся з падарожжа, Пушкін зноў заехаў у Болдзіна і напісаў там «Меднага конніка», «Дуброўскага», «Пікавую даму», «Анджэла», «Казку аб рыбаку і рыбцы», «Казку аб мёртвай царэўне» і рад вершаў.

У паэме «Медны коннік» Пушкін стварае вобраз горада, які ўзнік «з багны балот і цьмы лясоў». Намаляваны ў паэме Пецярбург з'яўляецца своеасаблівым сімвалам новай культуры, якая перамагае дзікую прыроду і адсталасць. «Медны коннік» — гэта ўслаўленне прагрэсіўнай дзейнасці Пятра. Пушкін гаварыў, што Пётр пісаў свае ўказы бізуном, і называў яго «нецярплівым, самаўладным памешчыкам». Але гэта не засланяла ад паэта таго, што Пётр быў пераўтваральнікам феадальнай Русі, і, услаўляючы Пятра, Пушкін услаўляе ў «Медным конніку» творчыя сілы рускай дзяржаўнасці і культуры.

У сваіх гістарычных творах, таксама як і ў творах аб сваёй сучаснасці, Пушкін быў гарачым патрыётам. Руская гісторыя была для яго невычарпальнай крыніцай гордасці. «Ганарыцца славаю сваіх продкаў,— гаварыў паэт,— не толькі можна, але і патрэбна; не паважаць яе ёсць ганебнае маладушша». Ён ганарыўся ў рускай гісторыі не царамі і радавітымі баярамі, а вялікімі, хоць і простымі людзьмі. «Імёны Мініна і Ламаносава ўдваіх перавысяць, можа быць, усе нашы старадаўнія радаслоўныя»,— зазначаў паэт.

У аповесці «Капітанская дачка», напісанай у 1836 годзе, Пушкін стварыў такі вобраз простага, але незвычайнага чалавека — Пугачова. Можа, ні ў адным са сваіх мастацкіх вобразаў Пушкіну не ўдалося дасягнуць такой народнасці і жыццёвай праўды, як у вобразе правадыра народнага паўстання. Пугачоў неадлучны ад народа, ён увасабленне не толькі мяцежнай стыхіі народа, але і іншых якасцей, якія Пушкін высока цаніў у народзе. Паэт паказвае ў гэтым вобразе арлiную шырыню натуры, кемлівасць

і розум Пугачова, яго глыбокае разуменне людзей, велікадушнасць і гуманнасць.

Апошнія гады жыцця Пушкіна прайшлі ў напружанай і шматграннай творчай працы і актыўнай публіцыстычнай дзейнасці. І ў кожнай са сваіх работ паэт прыходзіць да вываду, што ў аснове рускага жыцця ляжыць антаганізм паміж разбэшчаным дваранствам і запрыгоненым сялянствам.

Вялікасвецкае грамадства ненавідзела Пушкіна і падрыхтавала трагічную канчыну паэта. Вакол яго згушчалася атмасфера плётак і цкавання. Завяршэннем гэтага быў паклёп, які вымусіў паэта выклікаць на дуэль сусветнага прайдзісвета, прыёмнага сына галандскага пасланніка Дантэса. Пушкін абараняў на дуэлі не толькі свой гонар і сваю сям'ю ад чорных паклёпаў, ён абараняў у гэтай апошняй смяртэльнай схватцы з цёмнымі сіламі рэакцыі справу ўсяго свайго жыцця. «...Я належу краіне,— пісаў паэт,— і хачу, каб імя маё было незаплямленым усюды, дзе яно вядома».

Дуэль адбылася ў ваколіцах Пецярбурга — за Чорнай рэчкай, 27 студзеня 1837 года. Пушкін быў смяртэльна паранены, і праз два дні, 29 студзеня, яго не стала.

Па некаторых даных ёсць падставы думаць, што гнусная інтрыга, ахвярай якой стаў паэт, была падрыхтавана самім Мікалаем І. Прынамсі, Мікалай, які «апекаваўся» над паэтам, калі справа ішла аб цэнзуры яго твораў, не праявіў ні кроплі сваёй «дзяржаўнай волі», каб абараніць паэта ад цкавання. З «увагай» цар і яго жандармерыя паставіліся да паэта толькі пасля яго смерці. Баючыся грамадскага гневу, урад Мікалая І зрабіў усё, каб пахаванне прайшло непрыкметна.

Труна з целам Пушкіна тайна была вывезена з Пецярбурга і адпраўлена ў Святагорскі манастыр. Шостага лютага Пушкін быў пахаваны. Але спраўдзіліся словы паэта, выказаныя ім незадоўга да смерці ў вершы «Помнік»:

Не, ўвесь я не памру — душа не стане прахам,
У ліры дарагой свой захавае жар,—
І слаўны буду я, пакуль пад Млечным Шляхам
Жыў будзе хоць адзін пясняр.

Разняволеныя Кастрычніцкай рэвалюцыяй народы Расіі прынялі спадчыну Пушкіна ў скарбніцу сваёй культуры. Уплыў геніяльнага паэта вялікага рускага народа на развіццё нацыянальных літаратур даўно перайшоў ужо

тыя межы, якія вызначаў сам паэт, калі ў тым жа «Помніку» гаварыў:

Пачуюць пра мяне па ўсёй Русі вялікай,
І кожны назаве той моваю, што звык,
І горды ўнук славян, і фін, і зараз дзікі
Тунгус, і друг стэпоў калмык.

Творчасць Пушкіна аказала велізарнейшы ўплыў на развіццё ўсёй сусветнай літаратуры. Асабліва глыбокі і плённы гэты ўплыў на літаратуры народаў, з'яднаных вялікай Руссю ў непарушны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Творы Пушкіна гучаць на мовах усіх народаў нашай краіны. Яны сталі цяпер даступнымі ва ўсёй сваёй паўнаце і неўміручай красе і беларускаму чытачу. Але знаёмства з імі, уплыў іх на беларускую літаратуру пачаўся даўно. Ужо ў адным з самых ранніх твораў беларускай літаратуры XIX стагоддзя, у безымяннай паэме «Тарас на Парнасе» з любасцю і першым упамінаецца імя Пушкіна сярод імён паэтаў яго плеяды.

Во, нешта разам зашумелі,
Народ раздаўся на канцы;
І, як бы птушкі, праляцелі
Чатыры добрых малайцы.
Народ то быў ўсё не такоўскі:
Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі
І Гогаль, шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас.

Паэма «Тарас на Парнасе» напісана безумоўна пад уплывам пушкінскага верша. Яна на працягу паўстагоддзя перадавалася з вуснаў у вусны. І той факт, што нават у вуснай перадачы простага народа не загубілася дарагое нам імя, сведчыць аб вялікай любві і пашане беларускага народа да вялікага паэта. На падставе ўсяго гэтага можна сказаць, што пры калысцы беларускай літаратуры стаяў геній рускага народа, геній А. С. Пушкіна.

Уплыў Пушкіна на беларускую літаратуру адчуваецца і ў творчасці паэтаў, якія не прымыкалі да рэалістычнага напрамку. Сюжэт камеды-оперы «Сялянка» Дуніна-Марцінкевіча навеяны аповесцю «Паненка-сялянка».

Асабліва вялікі ўплыў зрабіў Пушкін на пазнейшых беларускіх паэтаў, якія на чале з Я. Купалам і Я. Коласам прыйшлі ў літаратуру ў рэвалюцыю 1905 года. У гэтых умовах, прасякнутыя свабодалюбасцю і накіраваныя супроць самаўладства, творы Пушкіна сталі асабліва блізкімі беларускім паэтам рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера. Можна прывесці цэлы рад паралеляў паміж выказван-

нямі Пушкіна аб прызначэнні паэта і літаратуры і выказваннямі Я. Купалы. Даследчыкі не без падставы звяртаюць таксама ўвагу на падабенства манеры пісьма і стылю ў «Яўгеніі Анегіне» і ў «Новай зямлі» Якуба Коласа. Пад уплывам Пушкіна, і ў прыватнасці яго «Барыса Гадунова», напісаны «Летапісец», «Кніга», «Перапісчык» і некаторыя іншыя творы М. Багдановіча, які быў і першым перакладчыкам Пушкіна на беларускую мову.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі беларуская літаратура атрымала неабмежаваныя магчымасці для свайго развіцця, яна не адкінула пушкінскіх традыцый, а беражна прыняла іх у якасці вялікай і жывой спадчыны. За гады Савецкай улады амаль усе асноўныя творы Пушкіна былі перакладзены на беларускую мову і многа разоў выдаваліся ў сотнях тысяч экземпляраў. Янка Купала пераклаў «Меднага конніка», Якуб Колас — «Палтаву», Аркадзь Куляшоў — «Яўгенія Анегіна», К. Чорны — «Аповесці Белкіна». Лірыку і казкі Пушкіна перакладалі многія лепшыя паэты Беларусі: М. Танк, П. Броўка, А. Якімовіч, М. Лужанін і інш.

Творчасць Пушкіна жывіць не толькі літаратуру, але і мову і тэатральнае мастацтва беларускага народа. На высакародных творах Пушкіна моладзь Беларусі, падобна старэйшым пакаленням, выхоўвае ў сабе пачуццё гордасці за свой народ і пачуццё глыбокай любасці да сваёй радзімы.

У чым жа сіла і краса твораў Пушкіна, у чым іх прывабнасць для ўсіх народаў і для ўсіх пакаленняў?

Творчасць Пушкіна вызначаецца надзвычайнай шырынёй сацыяльнага дыяпазону. У ёй адлюстраваны вобразы людзей самых разнастайных эпох і сацыяльных слаёў і нацыянальнасцей: цары і дзяржаўныя дзеячы, прыдворныя і правадыры народнага паўстання, старадаўнія баяры і сярэдневяковыя рыцары, памешчыкі і прыгоннае сялянства, каўказскія горцы і бесарабскія цыганы... І праз усю творчасць Пушкіна праходзіць рэзкай размежавальнай лініяй любасць да занядбаных простых людзей і пагарда да разбэшчаных вышэйшых станаў.

У імя гэтых простых людзей, у імя запрыгоненага народа Пушкін да канца сваіх дзён вёў непрымірымае змаганне супроць самаўладства і тыраніі, у якой бы форме яны ні праяўляліся. У творах Пушкіна з вялікай сілай паказана абуджэнне чалавечай асобы. Ён апеў права чалавека на поўнае раскрыццё і праяўленне фізічных і духоў-

ных творчых сіл. У творах Пушкіна адлюстравалася не толькі вострае ўспрыманне сацыяльнай рэчаіснасці, але і неўтаймаваная цяга да актыўнага пачатку. Кожны радок яго твораў сцвярджае, што жыццё — гэта дзейнасць, гэта асваенне ўсёй шматграннасці навакольнага свету.

Пушкін усёй душой адмаўляў прыгон, які душыў сілы народа, і страсна заклікаў свабоду. Ён застаўся ёй верны ў самыя чорныя гады рэакцыі. Уся яго творчасць прасякнута глыбокай свабодалюбнасцю. І гуманізм Пушкіна, які так горача сцвярджаў права людзей на шчасце і свабоду, быў адлюстраваннем антыпрыгонных, свабодалюбных настрояў народа. І гэтым нам дораг Пушкін, у гэтым ён бачыў і сам сваю заслугу перад народам:

І доўга буду я за тое люб народу,
Што ў сэрцах добрыя пачуцці абуджаў,
Што ў жудасны мой век услявіў я свабоду
І літасць к занядбаным зваў.

Пушкін быў нястомным змагаром супроць усякага цемрашальства, за перамогу чалавечага розуму, за развіццё вялікай рускай культуры. Ён з'явіўся зачынальнікам сацыяльна-псіхалагічнага рэалізму ў рускай літаратуры. У яго творах майстэрскі пададзена глыбіня псіхалагічнага раскрыцця чалавека, лаканічнасць псіхалагічнай характарыстыкі і злітнасць яе з характарыстыкай сацыяльнай.

Пушкін з'яўляецца неператзыдзеным майстрам апісання рускай прыроды, якое мы помнім усе са школьнай лаўкі і якое захоўвае сваю чароўнасць і дагэтуль. Ён стварыў тую багатую і прыгожую рускую мову, якой напісаны творы Бялінскага, Тургенева, Талстога, Дабралюбава, Чэхава, Горкага, якую Ленін назваў «вялікай і магутнай» і якую па творах Пушкіна вывучаў Маркс. Пушкін быў наватарам рускага вершаскладання і даў такія высокія ўзоры верша, дзе арганічна спалучаецца прастата і непасрэднасць з вялікай прыгожасцю і дасканаласцю.

Усім гэтым Пушкін дэмакратызаваў літаратуру, вывеў яе з панскіх асабнякоў на шырокую дарогу сапраўднай народнасці і самабытнасці. Гэтыя пераўтварэнні ў рускай літаратуры, з крыніц якой чэрпаюць цяпер усе народы, мог зрабіць у такі кароткі тэрмін толькі геній рускага народа, якім быў Пушкін. І за гэта мы шануем і любім Пушкіна.

Пушкін нам дораг як вялікі і гарачы патрыет сваёй радзімы. Расіі былі прысвечаны высокія парывы яго ду-

шы. Глыбокая і чыстая любасць да бацькаўшчыны, думы аб народзе, гарачыя мары аб яго шчасці пранізваюць усю творчасць паэта. Але Пушкін любіў не самадзяржаўную, не прыгонную Расію. Ён любіў у Расіі тыя велізарныя сілы і багатыя магчымасці, якія бачыў у рускім народзе і рускім характары. Ён прадбачыў у радзе сваіх вобразаў рускага чалавека ў яго будучым гістарычным развіцці. І на падставе гэтага з вялікай празорлівасцю ён прадчуваў, што «вызваленне Еўропы прыйдзе ад Расіі».

Глыбока і горача любячы Расію, Пушкін гэтак жа глыбока і горача ненавідзеў тых бязродных касмапалітаў, для якіх, як пісаў паэт, «дзе добра, там і радзіма, для якіх усё адно: ці бегаць ім пад арлом французскім, ці рускай мовай ганьбаваць усё рускае — абы толькі былі пад'еўшы».

Ужо тады, у гады росквіту буржуазнай дэмакратыі, Пушкін убачыў пад яе пакрывалам агідны твар заходнееўрапейскага і амерыканскага капіталізму. «Прачытайце,— піша ён,— скаргі англійскіх фабрычных работнікаў: валасы ўстануць дыбам ад жаху. Колькі агідных катаванняў, незразумелых пакут! Якое халоднае варварства з аднаго боку, з другога — якая страшэнная беднасць!..»

Яшчэ больш рэзкую характарыстыку дае Пушкін у артыкуле «Джон Тэнер» амерыканскай «дэмакратыі»:

«Са здзіўленнем убачылі дэмакратыю ў яе агідным цынізме, у жорсткіх забабонах, у яе нясцерпным тыранстве. Усё высакароднае, бескарыслівае, усё, што ўзвышае душу чалавечую — падаўлена няўмольным эгаізмам і страсцю да нажывы... рабства неграў сярод адукаванасці і свабоды...»

**Няшчадна** бічуючы агіднасці буржуазнай «дэмакратыі», дбаючы аб свабодзе рускага народа, гаворачы аб высокім гістарычным прызначэнні Расіі, Пушкін марыў аб сапраўднай свабодзе і сапраўднай народнай дэмакратыі. Ні ў сваіх мастацкіх творах, у якіх ён з любасцю паказаў вобразы людзей разнастайных нацыянальнасцяў, ні ў сваіх публіцыстычных выказваннях ён не праяўляў нацыянальнай абмежаванасці. Разам са сваім другам, польскім паэтам Міцкевічам, ён марыў аб часах наступных, калі народы, забыўшы звадкі, злучацца ў вялікую сям'ю.

Спадзяванні Пушкіна, які разумеў сілы і магчымасці, закладзеныя ў рускім народзе і развітыя пасля Кастрычніка, збыліся. Расія стала ўзорам сапраўднай дэмакратыі і брацкага супрацоўніцтва народаў. І гэта новая Расія не

забыла вялікага сына рускага народа. Слава Пушкіна стала ўсенароднай, а творчасць яго з'яўляецца адным з тых звенняў братэрскіх сувязей, якімі, натхнёныя розумам Леніна, народы нашай краіны навекі звязаны ў адзіны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

*1949 г.*

## БЯССПРЭЧНЫ ПОСТУП

У канцы мінулага года з друку выйшаў новы зборнік М. Лужаніна «Поступ»[1]. У кнізе сабраны творы, напісаныя паэтам на працягу 1944—1949 гг. Аўтар падзяляе іх на пяць раздзелаў: у першым падаюцца вершы аб нашай савецкай сучаснасці, у другім — аб змаганні народаў свету за мір і дэмакратыю, у трэцім — аб Вялікай Айчыннай вайне, у чацвёртым — вершы, прысвечаныя А. С. Пушкіну, Я. Купалу і Я. Коласу, у пятым — паэма «Кладкі Градоўскага».

Зборнік адкрываецца вершам «Камуністы, сыны камуністаў», які вызначае сабой у асноўным характар усёй кнігі. Гэта іменна кніга аб сённяшнім пакаленні бальшавікоў — партыйных і непартыйных.

Узыходзіць яно да пачатку шляхоў,
Да прамоў у рэўкомах і сцягоў вячыстых.
Прыняло непаўторную мужнасць бацькоў
  Пакаленне сягоняшніх будаўнікоў —
  Камуністы, сыны камуністаў.

Так характарызуе радаслоўную гэтага пакалення М. Лужанін. Народжаныя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, выхаваныя партыяй Леніна, прадстаўнікі гэтага пакалення вядуць наступ «на нетры зямлі і балот», «узвышаюць палацы, гадуюць сады», вырошчваюць жыта і кок-сагыз, будуюць электрастанцыі і праводзяць навуковыя доследы. Яны — «акадэмікі, цеслі, прарабы, міністры, фрэзероўшчыкі сталі, бетоншчыкі дзён!». Яны — мужныя воіны, адны з якіх баранілі сваю радзіму, «ў лёгкім ястрабку ўзняўшыся пад хмары», другія тапілі ворага ў Чорным моры, а трэція падкладалі пад

[1] М. Лужанін. Поступ. ДВБ, 1950.

чыгуначныя рэйкі «цяжкія міны». Яны — нястомныя змагары за свабоду і дэмакратыю ва ўсім свеце, адзін з якіх

Уздымае высока імя — камуніст,
Зберагаючы гордую годнасць — іспанец...

На жаль, аўтар, называючы ў кнізе гэтую вялікую сям'ю «камуністаў, сыноў камуністаў», не заўсёды раскрывае перад чытачом духоўнае аблічча кожнага з яе прадстаўнікоў. Між тым найбольшай удачы паэт дасягае іменна там, дзе ён ідзе гэтым шляхам — шляхам паказу канкрэтнага чалавечага вобраза нашага сучасніка. Як жывы паўстае, напрыклад, перад намі вобраз астраханскага сталявара — гэтага няўрымслівага і дапытлівага чалавека (верш «Кілаграм солі»). Гэты мажны, падцягнуты, поўны сілы і энергіі чалавек вабіць нас і сваім знешнім выглядам, і, асабліва, сваёй багатай і вясёлай, неспакойнай і няўрымслівай душой. Гэта чалавек поўны вялікіх мар, закаханы ў жыццё і ў свой край, у сваю справу.

Ярка намаляваны паэтам і вобраз салдата Івана Бярозавіка, магілёўскага калгасніка, які ў якасці савецкага патруля ўпэўнена і з гонарам крочыць па вуліцах Берліна.

По службе ён стары салдат,
Хоць малады па веку.

Яшчэ ў пачатку вайны, калі на Беларусь хлынулі нямецкія орды, ён сваёй рукой падпаліў ніву, каб не даць спажывы ворагу. Але ён ведаў:

...будзе зноў
Сам і араць, і сеяць,
І жменю поўных каласоў
Пакінуў на насенне.

Захаваныя зярняты салдат «вынасіў на сэрцы» «на ўсіх вузлах сваіх дарог». Ён у шпіталі

Казаў уночы штось да іх,
І зерні штось казалі.

Вернага свайму вайсковаму абавязку салдата нецярпліва «на поле кліча выйсці плуг», з ім у гумне з-пад страхі размаўляе каса, з ім гамоніць кожны кусцік на роднай зямлі. Пабачыўшы, як «услед за ўсходнім ветрам» цягнецца жураўліны вырай, ён звяртаецца да яго:

Шпарчэй імкні, птушыны ключ,
І там скажы зямельцы,
Што зерні просяцца ў раллю,
Прарастаюць на сэрцы.

Ды не забудзься перадаць:
Быць можа, нават заўтра
Дадому вернецца салдат,
Вось толькі скончыць варту.

Такім, верным свайму вайсковаму абавязку, поўным замілавання да радзімы, улюбёным у сваю мірную справу і поўным веры ў хуткі зварот у родныя мясціны, выступае перад намі савецкі калгаснік і салдат Іван Бярозавік.

М. Лужанін паказвае «камуністаў, сыноў камуністаў» і ў час мірнай працы. Такім з'яўляецца старшыня калгаса з верша «Абяцанне».

Гэты просты, сярэдняга веку, мужчына.
Паважаюць яго за разумныя рукі,
Паважаюць за клопат, што ўсё яму рупіць...

Разам з калгаснікамі ён даў краіне абяцанне вырасціць у калгасе высокі ўраджай. І калі стала «скупавата з дажджом», па яго прапанове на палетак ад рэчкі пракапалі канаву.

І адразу значна —
Лапушней стала лісце ў грэчкі,
Ячмені і аўсы убіраюцца ў сілу.

Старшыня ў клопаце аб ураджаі не спіць ночы і не ведае зморы. Для яго дадзенае абяцанне ўсё адно што вайсковая прысяга.

У гэтых думках старшыні калгаса выяўлены вялікая гордасць за свой народ. Якая вялікая гордасць за свой народ і якая высокая адказнасць перад народам аднаго з радавых прадстаўнікоў пакалення «камуністаў, сыноў камуністаў»!

З пачуццём цёплага замілавання малюе М. Лужанін самых маладых прадстаўнікоў пакалення «камуністаў, сыноў камуністаў». Гэта — вучні рамесных школ, будучыя кадры маладога рабочага класа Беларусі. Яны толькі нядаўна пакінулі «прысады і стрэхі» і толькі нядаўна ўступілі ў «пprасторныя цэхі». Але ў іх ужо ёсць сапраўдны рабочы спрыт:

Здаецца жывою
Ў руках у хлапчыны
Дэталь, без якое
Не ходзяць машыны.

Перад маладым майстрам раскрыты шырокія жыццёвыя прасторы, яму дадзены найвялікшыя магчымасці для азнаямлення з нашай багатай і разнастайнай рэчаіснасцю:

Ён выхадзіў горад удоўж і ўпоперак,
Ён чуў, як артысты спяваюць у оперы,
Ён шмат чаго бачыў на ўласныя вочы...

Вечарамі маладыя майстры збіраюцца ў клуб пачытаць, пагуляць у шахматы, пагаварыць аб тым, як праз год з іх завода пойдуць аўтамашыны. Яны цесна звязаны з жыццём сваёй краіны, і ад гэтага ім «і дышацца лёгка, і бачыцца светла».

Іменна гэтым шырокім дыханнем, светлым і ясным поглядам на жыццё вызначаюцца людзі, унутраны свет якіх раскрывае М. Лужанін. Неабавязкова, каб гэта быў свет героя, гэта можа быць свет і самога аўтара. Прыклад таго — вершы «Грузавікі», «Вярблюджы караван», «Дождж» і многія іншыя, дзе паэт дае, на першы погляд, малюнак толькі знешняга свету. Але гэты свет увесь, як сонцам, прасякнуты аўтарскім святлом. У выніку — малюнкі жывуць. Адны з іх вабяць нас сваёй шырынёй прасторы («Дзень перамогі»), другія — сваім імклівым рухам, сваёй дынамікай («Грузавікі»), трэція — сакавітасцю фарбаў («Дождж»).

На жаль, як я ўжо сказаў, паэт не заўсёды ідзе гэтым шляхам. У зборніку ёсць вершы, у якіх падзеі ці прадметы як бы засланяюць чалавека («Расказ брыгадзіра», «Стрэча» і некаторыя іншыя). І гэтыя вершы ўступаюць па сіле сваёй тым, дзе ў цэнтры ўвагі аўтара стаіць унутраны свет чалавека. Яны небездакорныя і па сваёй тэхніцы. У іх некаторыя рытмічныя хады вельмі вялыя (вершы «Сёстры»), а метафары надзвычай адцягненыя, накшталт: «руку узняўшы да брывей, далеч мерае...» (гэта гаворыцца аб горадзе ў вершы «Стрэча»). Сустракаюцца тут часта радкі і вельмі недакладныя, як напрыклад: «дамоў цагляных каміны мы ўздымаем штодзень» (стар. 8); «мужна пранеслі баі на плячах» (стар. 16) і інш.

Адзначаныя недахопы некаторых вершаў М. Лужаніна не могуць пахіснуць агульнай станоўчай ацэнкі зборніка. У сваёй пераважнай большасці вершы вызначаюцца вельмі высокім майстэрствам: у іх заўсёды ёсць канкрэтная і выразная думка, яны стройныя і закончаныя па кампазіцыі, радок іх напоўнены і напружаны. Яны актуальныя па сваёй тэматыцы і разнастайныя па жанрах. Яны прысвечаны мужным учынкам савецкіх людзей у час Айчыннай вайны, іх сённяшнім працоўным подзвігам, іх барацьбе за мір. І поруч з глыбокімі лірычнымі і пафаснымі вершамі

мы тут маем і сатырычныя, прасякнутыя з'едлівай іроніяй і накіраваныя супроць падпальшчыкаў новай вайны.

Асабліва радуе ў многіх вершах М. Лужаніна паказ духоўнага аблічча савецкага чалавека, яго шырокай натуры, яго дапытлівага розуму і трывалага сэрца. У зборніку ёсць верш, які так і называецца — «Трываласць». У ім расказваецца, як лесарубы, пілуючы сасну, дасталі з яе «разрыўны аскабалак жалеза». Пільшчык, трымаючы на далоні кулю, успамінае, што і ў яго ж «у баку дактары даставалі такую». І аўтар заключае верш наступнымі радкамі:

Пастаіць, як стаяла,
Не адзін яшчэ дзень,
Гэта племя трывалае
Дрэў і людзей.

Гэта вельмі характэрныя для зборніка радкі. Іменна духоўнай і фізічнай трываласці савецкіх людзей, загартаваных у горне Айчыннай вайны, прысвечаны лепшыя вершы зборніка. Гэты матыў праходзіць і праз адзін з найбольшых і адзін з найлепшых твораў зборніка — паэму «Кладкі Градоўскага».

Пры сваім з'яўленні ў свет паэма «Кладкі Градоўскага» выклікала дыяметральна процілеглыя ацэнкі: адны, не зважаючы на яе дробныя недахопы, справядліва палічылі яе цікавай з'явай не толькі ў творчасці М. Лужаніна, а і наогул ва ўсёй нашай беларускай паэзіі; другія ж, ухапіўшыся за гэтыя недахопы і раздзьмуўшы іх, не ўбачылі ці не захацелі ўбачыць таго станоўчага і новага, што сапраўды ўносіць гэты твор у нашу паэзію. Мне думаецца, найбольшую долю праўды аб гэтай паэме сказаў Якуб Колас у сваёй рэцэнзіі ў газеце «Звязда». Задача далейшай крытыкі заключалася не ў тым, каб агулам адмовіць усе якасці гэтай паэмы, адзначаныя Я. Коласам, а ў тым, каб канкрэтна паказаць М. Лужаніну на тыя недахопы, якія ў рэцэнзіі Я. Коласа былі толькі названы. На жаль, памеры рэцэнзіі не дазваляюць мне таксама зрабіць падрабязны аналіз паэмы. Але нашай крытыцы да гэтага твора варта яшчэ вярнуцца.

Паэма «Кладкі Градоўскага» напісана на тэму, якая ў нашых буйных паэтычных творах амаль яшчэ не закраналася. У ёй паказваецца сакратар райкома партыі, які ў час Айчыннай вайны ідзе ў падполле і кіруе барацьбой савецкіх патрыётаў у тыле ворага. Ён горача верыць у пе-

рамогу над фашысцкімі полчышчамі і марыць ужо ў той час аб вялікай стваральнай працы на вызваленых у будучым землях і распачынае з народам ажыццяўленне гэтых мар пасля перамогі.

Трэба сказаць, што раздзелы, у якіх Градоўскі паказаны ў якасці кіраўніка партызанскага руху, напісаны больш моцна, чым тая, дзе ён выступае як кіраўнік аднаўленчых работ пасля вайны. У другой палове паэмы гэты вобраз страціў некалькі тую стрыманую, але глыбокую і моцную страсць, якая характарызуе яго ў першай палове. І ўсё ж вобраз Градоўскага — бясспрэчная ўдача паэта, і пры тым такая ўдача, якая абумовіла ўдачу ўсёй паэмы ў цэлым.

Па заданню партыі Градоўскі кладзе пачатак партызанскаму руху ў сваім раёне. У пачатку яго партызанская група была невялікая. Але яна нечакана з'яўлялася ўсюды. І ці гэта быў налёт на нямецкіх канваіраў, гнаўшых на фашысцкую катаргу савецкіх жанчын, ці гэта быў падпал нямецкага бензаскладу, людзі пазнавалі работу Градоўскага і гаварылі:

— Значна работа па майстрах —
Наш сакратар райкома.

Праз невялікі час атрад Градоўскага вырастае ў партызанскую брыгаду, якая бярэ пад свой кантроль раён і вобласць і не дае ўжо ворагу ні хвіліны спакою.

Савецкія людзі цесна гуртуюцца навакол Градоўскага таму, што гэта верны прадстаўнік роднай народу партыі. Апынуўшыся ў падполлі, ён не адчувае сябе адарваным ад партыі, ён звязаны з ёю ўсімі ніцямі свайго сэрца. Я не магу ўтрымацца, каб не падаць тут цудоўных радкоў аб гэтым. Градоўскі ведаў ужо, што «Мінск бамбяць», што сувязь з ЦК КП(б)Б перарвана. Але вось ён падыходзіць да тэлефона:

— Цк!
Ты слухаеш, ЦК!
І дзень вярнуўся майскі,
Драты нясуць яму ў адказ:
— Я чую ўсё!
                    Трымайся!
Падзьмуў у трубку:
                    цішыня...
Яшчэ паслухаў — ціха.
А словы чутыя звіняць,
І лёгка стала дыхаць.
Ён чуў іх!

Штаб бальшавікоў
Пад сцягам прамяністым
Мільёны мае правадоў
Да сэрца камуніста.

Бязмежная адданасць народу, глыбокая вера ў справу партыі, няспынная мэтаімкнёнасць і моцная воля — вось тыя рысы, якія характарызуюць Градоўскага.

Гэтыя якасці яго характару раскрываюцца ва ўсёй дзейнасці героя, і асабліва глыбока — у першай палове паэмы. Праз паэму рэфрэнам праходзяць радкі, у якіх выяўляюцца вытокі і крыніца гэтых якасцей; яны заключаюцца ў тым,

што сэрца ў нас рашае так,
як партыя рашыла.

Вобраз Градоўскага — абагулены вобраз партыйнага кіраўніка. Нядарам паэт у адным з вельмі прачулых раздзелаў, разважаючы аб тым, якое даць імя свайму герою, зазначае:

Ты быў да ўсіх
і да цябе
Усе былі падобны.

Але гэта не значыць, што Градоўскі пазбаўлены індывідуальных рыс. Наадварот, толькі таму, што ў гэтым вобразе мы бачым канкрэтнага жывога чалавека, мы адрозніваем у ім і тыповыя рысы, характэрныя для многіх.

Слабей, але таксама нядрэнна напісаны ў паэме і іншыя чалавечыя вобразы. Трэба сказаць толькі, што ў дыялогах некаторых герояў адчуваецца часамі нейкая ненатуральнасць, якая ідзе ад штучнай пабудовы фразы. Шкодзіць строгаму тону паэмы і тое, што паэт збіваецца часамі на няўдалыя, вельмі лёгкія рытмічныя інтанацыі, накшталт:

Прыезджы шпарка увайшоў:
— Склікай таварышоў.
Збяром
Бюро.

Гэтыя недахопы ў далейшых выданнях павінны быць выпраўлены. Паэма заслугоўвае гэтага як твор, у якім глыбока раскрыты прыгожыя рысы савецкага чалавека, партыйнага кіраўніка. Яна заслугоўвае гэтага як твор, у якім маляўніча і шчыра напісаны многія і многія эпізоды, у якім шмат цудоўных як па сваёй трапнасці, так і па вобразнасці паэтычных мясцін. Яна, як і многія іншыя вер-

шы зборніка «Поступ», сведчаць аб далейшым смелым поступе аўтара наперад, што з'яўляецца безумоўным поспехам усёй нашай паэзіі.

*1951 г.*

## ПАМЯТНЫЯ РАЗМОВЫ

У 1918 г. я запісаў ад нашага вясковага настаўніка некалькі беларускіх вершаў. Яны мне вельмі падабаліся, але хто быў іх аўтарам — я не ведаў. Дазнаўся я аб іх аўтарстве толькі ў 1921 г., калі мне трапіў у рукі зборнік Янкі Купалы «Шляхам жыцця», у якім былі і знаёмыя мне ўжо вершы:

Горы ды каменне,
Вузкія палоскі:
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі.

Я быў ашаломлены блізкімі і родным майму сэрцу купалаўскімі вобразамі і зачараваны музыкай яго вершаў. Зразумела, з якой прагнасцю, прыехаўшы ў 1924 г. у Мінск на вучобу, я хацеў пабачыць любімага паэта. Я ад усёй душы зайздросціў многім маім аднакурснікам з педагагічнага тэхнікума, якім удавалася сустракаць Я. Купалу на вуліцы. А мне ўсё не шанцавала. І я першы раз убачыў Івана Дамінікавіча толькі вясной 1925 г. у будынку Інстытута беларускай культуры, у якім тады знаходзілася і літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», куды я заходзіў ужо са сваімі першымі вершамі.

У тым жа годзе ўлетку я меў шчасце ўпершыню слухаць выступленне паэта. Гэта было ў час яго дваццацігадовага юбілею, у зале Дома прафсаюзаў. Іван Дамінікавіч быў моцна ўсхваляваны віншаваннямі і гаварыў вельмі мала, а прачытаў сваім пявучым голасам вялікі верш «Шляхам гадоў».

Трэба сказаць, што Я. Купала наогул быў негаваркі, ён не любіў доўгіх прамоў і гутарак, а свае глыбока вынашаныя думкі выкладаў заўсёды на паперы. Калі я добра яшчэ не ведаў гэтай рысы ў характары паэта, яго дабраты і ветлівасці, мне здавалася, у такіх выпадках, што Іван

Дамінікавіч нечым незадаволены. Так было, напрыклад, пры нашай першай асабістай сутрэчы ў доме Я. Купалы.

Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна жылі тады на Правіянцкай вуліцы. Насупраць іх дома быў наш студэнцкі інтэрнат. Позняй вясной 1926 г. Уладзіслава Францаўна сустрэла мяне на вуліцы і, з уласцівай ёй гасціннасцю, запрасіла зайсці ў дом. Я збянтэжыўся, доўга аднекваўся, але адпрасіцца было немагчыма.

Я зайшоў. Іван Дамінікавіч павітаўся са мною, пачаставаў півам, папытаўся з вясёлай усмешкай:

— Як здаюцца залікі? — І змоўк. Я адчуваў сябе вельмі няёмка і хутка стаў развітвацца.

— Што ж вы так спяшаецеся? — сказаў Іван Дамінікавіч і дадаў, жартуючы: — Абыходзіць мяне моладзь... А жывём мы па-суседству. Заходзьце...

Моладзь цягнулася да Янкі Купалы, як да сонца. І ён шчыра яе любіў, пільна сачыў за ростам маладых паэтаў, рабіў кароткія, але трапныя заўвагі аб іх творчасці. Я сказаў бы, Іван Дамінікавіч валодаў своеасаблівым дарам прадбачання: па двух-трох вершах ён амаль беспамылкова ўгадваў сілу таленту маладога паэта і, як выяўлялася ў далейшым, рэдка калі памыляўся. А заўважыўшы сапраўдны малады талент, Янка Купала радаваўся яму ад усяго сэрца.

Мне ўспамінаецца такі факт. У 1936 ці ў 1937 г. Максім Танк прыслаў з Заходняй Беларусі Янку Купалу зборнік сваіх вершаў і нумар часопіса «Калоссе», у якім была надрукавана частка паэмы «Нарач». Праз некалькі дзён пасля гэтага мне давялося быць у Івана Дамінікавіча. Апрача мяне да Купалы прыйшоў яшчэ нехта з яго знаёмых. Мне здалося, што Іван Дамінікавіч як быццам нечым устурбаваны. Я ведаў, што, стаміўшыся, Іван Дамінікавіч любіў пайсці ў спальню і пакруціць радыёпрыёмнік — «павандраваць па свеце», як ён казаў.

— Вы, мусіць, хочаце адпачыць, Іван Дамінікавіч? — сказаў я.

— А вось і не ўгадалі. Я вас хачу пазнаёміць з адным паэтам.

— З кім?

— А вось пойдзем, даведаецеся.

Мы пайшлі ў рабочы пакой Івана Дамінікавіча.

— Чытайце,— падаў мне Іван Дамінікавіч вершы Максіма Танка.

Я пачаў чытаць. Янка Купала ўважліва слухаў, курачы папяросу за папяросай. Відаць, што ён хваляваўся. Звычайна так ён слухаў свае вершы, калі даваў іх чытаць П. Броўку ці каму-небудзь іншаму, каб «праверыць іх,— як ён казаў,— пры добрым голасе».

Я прачытаў усе вершы, на якія мне паказаў Іван Дамінікавіч.

— Ну, як? — запытаўся Іван Дамінікавіч.

— Цікавы паэт. Злоўжывае толькі «маладнякоўскімі» наватворамі — «журавініць», «завірыў»...

— Нічога вы ў паэзіі не разумееце. Словы направіць можна. А шырыня ў вершах цудоўная.

Трапныя купалаўскія ацэнкі паэзіі былі не толькі вынікам высокага мастацкага густу паэта, а і добрага ведання і глыбокага разумення ім сусветнай літаратуры. Праўда, Я. Купала рэдка выступаў з прамовамі і артыкуламі па пытаннях літаратуры, але ў прыватных гутарках ён часта проста-такі здзіўляў сваімі ведамі ў гэтай галіне. Асабліва добра ён ведаў рускую, украінскую і польскую літаратуры.

Я помню, мы сустрэліся аднойчы з Іванам Дамінікавічам летам 1937 г. у Доме пісьменніка. Была страшная гарачыня. Амаль усе пісьменнікі жылі ў Пухавічах. Уладзіслава Францаўна таксама была ў Ляўках на дачы. Я. Купала, заняты нейкімі справамі, быў у горадзе адзін.

— Можа, пойдзеце да мяне, бабыля, абедаць? А то я нешта засумаваў...

Мы пайшлі да Івана Дамінікавіча. І сапраўды, відаць, што ён занудзіўся на адзіноце, бо шмат гаварыў і расказваў. Я падзяліўся сваімі ўражаннямі ад толькі што прачытаных мной паэм у прозе С. Пшыбышэўскага.

— А вы не паэмы яго чытайце, а прозу або драмы,— параіў мне Іван Дамінікавіч і тут жа дадаў: — Цікава Плеханаў сказаў аб сімвалістах... Ведаеце?

Я адказаў, што не помню.

— Нічога вы не ведаеце,— ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказаў Іван Дамінікавіч, дастаў том Плеханава і прачытаў: «Сімвалізм, гэта — нешта накшталт пасведчання аб беднасці».

— А вы ж, Іван Дамінікавіч, і самі, здаецца, некалі грашылі сімвалізмам?

— Гэта дык вы ведаеце! Хто гэта вам сказаў? Гэта выдумка. Не кожная рамантыка — сімвалізм. Вы лепш, Петрусёк, чытайце Бялінскага.

На гэты раз Іван Дамінікавіч пайшоў у другі пакой

і прынёс Бялінскага. Ён доўга гартаў том і нарэшце падаў яго мне:

— Чытайце.

Я прачытаў: «Рамантызм, без жывой сувязі і жывога дачынення да іншых бакоў жыцця, ёсць найвялікшая аднабаковасць».

— Адно і тое ж,— сказаў я.

— Тое, ды не тое. Галоўнае — сувязь з жыццём... І Славацкі быў рамантыкам. Але які гэта вялікі паэт!

І гутарка пайшла аб польскай літаратуры, аб яе месцы сярод літаратур свету. Але аб гэтым трэба пісаць спецыяльна, паколькі Янка Купала часта ў сваіх гутарках закранаў гэтую тэму.

Добра ведаў Я. Купала і ўкраінскую літаратуру. Асабліва, як вядома, любіў ён Т. Шаўчэнку. Гэтую любоў да славянскіх літаратур непрыкметна, сваімі гутаркамі, сваімі кароткімі заўвагамі развіваў ён і ў маладых беларускіх паэтаў. Я помню, што, калі мы працавалі над перакладамі твораў Т. Шаўчэнкі на беларускую мову, Іван Дамінікавіч часта злаваўся:

— Што гэта ў вас тут за рыфмачка, паглядзіце...

— Асананс, Іван Дамінікавіч.

— Нішто сабе асананс: «браце» і «хата».

Я. Купала быў патрабавальным і да сябе і да іншых. Перакладаючы «Меднага конніка» А. Пушкіна, асобныя страфы ён перарабляў па тры-чатыры разы. А заўважыўшы няўдалы радок у чужым вершы, Іван Дамінікавіч, дабрадушна жартуючы, гаварыў:

— Што ж гэта вы тут напісалі нейкую «энеіду навыварат»?

І ніхто на такі жарт не крыўдзіўся, бо кожны адчуваў шчырае жаданне Я. Купалы дапамагчы маладому паэту. Сваімі заўвагамі народны паэт выхоўваў у маладых пісьменнікаў пачуццё высокай адказнасці за вялікую справу савецкай літаратуры.

Пачуццём гэтай адказнасці была прасякнута ўся дзейнасць Я. Купалы. Аднойчы, я памятаю, Іван Дамінікавіч папрасіў мяне дапамагчы яму скласці зборнік вершаў для выдання на рускай мове. Трэба было адабраць не толькі беларускія тэксты, а і лепшыя пераклады іх на рускую мову. Я перачытваў пераклады, не звяраючы іх з арыгіналам, і выбіраў лепшы паводле яго агульнага гучання. Але Іван Дамінікавіч часта не згаджаўся з маім адборам. Мы пачыналі спрачацца.

— Вы паслухайце, тут жа цудоўна перададзена музыка вашага верша,— гаварыў я.

— Музыка, можа, і перададзена, але душы маёй няма. Вы параўнайце з арыгіналам...

Я параўноўваў і вымушаны быў згаджацца з Іванам Дамінікавічам.

Узнікалі ў нас спрэчкі і аб парадку размяшчэння матэрыялу ў кнізе. Мне здавалася, што тут асабліва думаць няма чаго і можна размясціць вершы ў храналагічнай паслядоўнасці. Але ў Івана Дамінікавіча былі іншыя меркаванні.

— Кніга вершаў,— сказаў ён,— павінна прадстаўляць сабой адно цэлае, а не быць выпадковым зборам. Трэба думаць, Петрусёк, пра таго, хто будзе чытаць.

Янка Купала думаў пра свайго чытача, пра свой народ заўсёды. Паэт хацеў «з цэлым народам гутарку весці», і ён знайшоў шлях да вялікага і любячага сэрца народа. І яно захавае песні паэта і памяць аб ім навечна.

*1952 г.*

## ВЯЛІКІ ПАЧАТАК

Пяцьдзесят гадоў таму назад, 28 мая 1905 года, у мінскай рускай газеце «Северо-Западный край» быў надрукаваны першы верш Я. Купалы «Мужык». Беларускі народ не выпадкова адзначае сёння гэтую дату: першае выступленне выдатнага песняра з'явілася пачаткам той вялікай творчасці, якая складае ў развіцці беларускай мастацкай літаратуры цэлую гістарычную эпоху. Пад яе уплывам расла і развівалася як дакастрычніцкая, так і савецкая беларуская літаратура.

Сіла купалаўскай паэзіі заключаецца ў яе глыбокай народнасці. Тварэц гэтай паэзіі з'явіўся першым вялікім нацыянальным паэтам Беларусі, які дастойна апеў запаветныя думы і гераічныя справы свайго народа: яго тытанічную барацьбу за вызваленне і яго натхнёную працу ў сацыялістычным будаўніцтве. Паміж гэтымі двума этапамі ў творчасці Я. Купалы ёсць непарушнае адзінства: у дарэвалюцыйных творах паэт марыў аб волі і шчасці народа,

а ў творах савецкага часу ён пісаў пра гэта, як пра сонечную рэальнасць, якая перасягнула яго летуценні.

Зусім натуральна, што ў першы перыяд сваёй творчасці ўсю сілу свайго магутнага таленту Я. Купала накіроўваў супроць тых, хто душыў волю і шчасце народа. Паэт стаяў на пазіцыях крытычнага рэалізму. Ён бязлітасна выкрываў самадзяржаўны лад, эксплуататарскую сутнасць памешчыкаў і буржуазіі. Ён без усялякіх прыкрас паказваў гаротнае становішча працоўнага народа.

Але гэтым паэт не абмяжоўваўся. Як сапраўдны народны трыбун ён клікаў працоўныя масы на змаганне з сацыяльным і нацыянальным прыгнётам. Ён заявіў у сваіх творах аб тых патрабаваннях і стаў выразнікам тых ідэалаў, якія выстаўляла рэвалюцыйнае сялянства ў перыяд першай рускай рэвалюцыі.

Поруч з гэтым, заклікаючы да паўстання і славячы барацьбу супроць самаўладства, паэт заклікаў працоўных Расіі да еднасці, славіў згуртаванасць народаў у іх вызваленчай барацьбе. Толькі ў аб'яднаных намаганнях працоўных усіх нацыянальнасцей Расіі Я. Купала бачыў рэальную магчымасць сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення свайго роднага народа.

Як вядома, Я. Купала непасрэдна не быў звязаны з дарэвалюцыйнай барацьбой рабочага класа і не ўсведамляў выразна канкрэтных задач пралетарыяту ў рэвалюцыі. Аднак многія з адзначаных рыс яго творчасці гавораць аб тым, што Я. Купала як прадстаўнік шырокіх рэвалюцыйных мас народа, як прадстаўнік рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху зближаўся па некаторых пунктах сваіх поглядаў з пралетарыятам.

У сувязі з гэтым важна адзначыць яшчэ адну асаблівасць дарэвалюцыйнай творчасці Я. Купалы. Калі папярэднікі паэта паказвалі беларускі народ пераважна як пакутніка, дык Я. Купала паказвае яго ў першую чаргу як змагара. Ён стварыў цэлую галерэю вобразаў стойкіх, гордых і моцных барацьбітоў супроць сацыяльнай несправядлівасці, за народную справу. Гэта простыя людзі, але людзі высакародных ідэалаў і смелых імкненняў, людзі цвёрдай волі і непахіснай веры ў народ.

Лепшыя вобразы прадстаўнікоў народа, створаныя Я. Купалам, штосьці зближае з некаторымі вобразамі М. Горкага. У манеры іх абмалёўкі купалаўскаму рэалізму ўласціва глыбокая рэвалюцыйная страсць і горкаўскі жыццесцвярджальны пафас. У гэтых адносінах вельмі ха-

рактэрным з'яўляецца верш «А хто там ідзе?», які М. Горкі заўважыў і не выпадкова даў яму высокую ацэнку.

Я. Купала намаляваў у сваім вершы магутны вобраз прыгнечанага народа, які «на худых плячах, на руках у крыві» нясе сваю крыўду і грозна патрабуе «людзьмі звацца». У гэтым патрабаванні мы адчуваем глыбокае ўсведамленне паэтам рэвалюцыйнага права народа, як права адзінага і сапраўднага творцы гісторыі. Вось чаму мы можам сказаць, што як у гэтым вершы, так і наогул у дарэвалюцыйнай творчасці Я. Купалы ёсць ужо зародак таго рэалізму, на глебе якога развіўся рэалізм сацыялістычны.

Але матывы, якія з такой сілай праявіліся ў вершы «А хто там ідзе?», у менш прыкметнай форме прагучалі ўжо і ў першым вершы Я. Купалы «Я буду жыць! — бо я мужык!». І вельмі знамянальна, што гэты першы верш выдатнага беларускага паэта быў надрукаваны ў рускай газеце, у якой друкаваліся артыкулы У. І. Леніна.

Адзначаючы сёння пяцідзесяцігоддзе з дня апублікавання першага верша Я. Купалы, мы з радасцю можам сказаць, што той вялікі пачатак, які паклаў паэт сваім першым літаратурным выступленнем, ён з гонарам працягваў і развіваў яго праз усю сваю творчасць і ў савецкую эпоху давёў да бліскучага росквіту. Творчая спадчына вялікага паэта з'яўляецца для беларускіх пісьменнікаў і выдатнай літаратурнай школай і высокім прыкладам самаадданага служэння свайму народу.

*1955 г.*

## АДАМ МІЦКЕВІЧ У БЕЛАРУСІ

Вялікі нацыянальны паэт польскага народа блізкі і дарагі ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву. Ён увайшоў у сусветную літаратуру як дэмакрат і гуманіст, як страсны пясняр дружбы народаў, у творчасці якога перадавыя ідэі свайго часу знайшлі геніяльнае мастацкае ўвасабленне. Ён блізкі і дарагі нашаму беларускаму народу яшчэ і таму, што ў творчасці яго адлюстраваліся таксама і некаторыя істотныя бакі тагачаснай беларускай рэчаіснасці.

Праўда, А. Міцкевіч у сваіх творах і навуковых працах, бадай, зусім не ўжываў слова «Беларусь», але часта

ўспамінаў сваю родную «Літву», разумеючы пад гэтым тыя этнаграфічна беларускія і літоўскія землі, якія ўваходзілі некалі ў склад Літоўскага княства. Як вядома, у часы А. Міцкевіча сярод вышэйшых пластоў насельніцтва гэтага краю, населенага пераважна беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі, шырока была распаўсюджана польская культура. Больш таго, да гэтай культуры так ці інакш дачыняліся нават і незаможная шляхта, а то і просты народ.

Нарадзіўшыся і вырасшы ў такіх складаных нацыянальных і культурных умовах, Адам Міцкевіч не мог не адлюстраваць іх і ў сваёй творчасці. Цесныя сувязі з простым беларускім народам, які цярпеў сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, пакінулі глыбокі след у свядомасці паэта і садзейнічалі яго выхаванню ў духу любві да ўсіх народаў.

Даследчыкі звярталі ўжо ўвагу на тое, што многія творы вялікага польскага паэта цесна звязаны з жыццём беларускага народа, з яго побытам і звычаямі, з яго гісторыяй і фальклорам.

З гэтым нельга не згадзіцца. Некаторыя творы А. Міцкевіча падказаны, безумоўна, беларускай рэчаіснасцю, аднак іх мясцовы каларыт авеяны самабытным духам польскага нацыянальнага генія.

Як я ўжо адзначыў, на працягу вякоў узаемаадносіны і ўзаемасувязі паміж нашымі краінамі былі вельмі складаныя. З аднаго боку, магнаты і феадалы Польшчы, у саюзе са сваімі беларускімі супольнікамі, нязменна кіраваліся палітыкай, варожай беларускаму народу, імкнучыся навечна заняволіць яго сацыяльна і нацыянальна. З другога боку, працоўныя Польшчы і Беларусі заўсёды імкнуліся жыць у братняй дружбе і супрацоўніцтве і не раз выступалі адзіным фронтам як супраць сваіх польскіх і беларускіх прыгнятальнікаў, так і супраць царызму.

У выніку ўсяго гэтага гістарычны лёс нашых народаў быў заўсёды надзвычай цесна пераплецены. У гэтых умовах перадавыя людзі Польшчы і Беларусі не маглі не мець сувязі паміж сабой і дэмакратычныя культуры не маглі не ўплываць адна на другую. І зразумела, што гэты ўплыў ішоў у першую чаргу ад такога непаўторнага генія польскай літаратуры, як Адам Міцкевіч.

Чым можна вытлумачыць гэты ўплыў на маладую беларускую літаратуру XIX стагоддзя? Мне думаецца, не толькі сілай мастацкага генія А. Міцкевіча. Тут вялікую ролю адыграў і той факт, што ў асобе А. Міцкевіча знайшлі сваё спалучэнне многія перадавыя ідэі як польскага, так і ру-

скага вызваленчага руху. Як вядома, даследчыкі амаль адзінадушна згаджаюцца з тым, што рэвалюцыйны рух дзекабрыстаў аказаў на Міцкевіча надзвычай плённы ўплыў. А. Міцкевіч зразумеў, што лёс польскага народа непарыўна звязаны з лёсам народаў Расіі, з іх барацьбой за сваё вызваленне. Іменна ў гэты час у Міцкевіча ўзнікла ідэя сумеснай барацьбы супраць тыраніі, ідэя брацкага яднання народаў.

Ці маглі гэтыя ідэі Міцкевіча, узнікшыя, безумоўна, пад уздзеяннем рускай рэвалюцыйнай рэчаіснасці, не закрануць пэўных пластоў беларускай інтэлігенцыі? Безумоўна, не. Значная частка беларускай інтэлігенцыі таго часу цесна была звязана з польскай культурай, часамі выхоўвалася на ёй, і многія беларускія пісьменнікі XIX ст. пісалі і па-беларуску, і па-польску. Зразумела, што ў такіх умовах іх нацыянальная самасвядомасць часта ўзнікала і развівалася пад непасрэдным уздзеяннем А. Міцкевіча аб брацтве народаў, пад уздзеяннем яго творчасці, прасякнутай замілаваннем да Беларусі, пад уздзеяннем яго высокіх ацэнак беларускага народа і яго мовы, дадзенай паэтам, напрыклад, у «Курсе славянскіх літаратур», у лісце да А. Ходзькі і іншых дакументах.

Першыя спробы перакладаў твораў польскага паэта на беларускую мову належаць аднаму з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры В. Дуніну-Марцінкевічу, які ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, адразу ж пасля смерці А. Міцкевіча, пачаў працаваць над перакладам яго неўміручай паэмы «Пан Тадэвуш». На сродкі, сабраныя сярод насельніцтва, у тым ліку, як адзначалася ў прадмове да выдання, і сярод сялян, дзве першыя песні былі ў 1859 г. надрукаваны. Але царская цэнзура арыштавала кнігу, і ўвесь яе тыраж быў спалены. Выпадкова ўцалела толькі некалькі экземпляраў, адзін з якіх захоўваецца ў бібліятэцы Кракаўскага універсітэта. Што тычыцца да астатніх песень паэмы, дык лёс іх невядомы і да гэтага часу, хоць некаторыя даследчыкі мяркуюць, быццам бы паэма была перакладзена цалкам.

Не даведзены да канца быў і другі пераклад паэмы, зроблены А. Ельскім. Першая песня гэтай паэмы была выдадзена ў 1892 г. у Львове, і ў прадмове да выдання перакладчык адзначаў: «Для браку часу і другіх прычын не мог я даць у перакладзе адразу цэлага «Пана Тадэвуша», так і буду друкаваць часцямі». Але далейшых частак у друку не з'явілася. У чым жа прычына?

Прычына, мне думаецца, у тым, што маёмасныя класы Беларусі не зацікаўлены былі ў выданні паэмы на беларускай мове і не хацелі падтрымаць падобнае мерапрыемства матэрыяльна. В. Дунін-Марцінкевіч гаворыць аб гэтым у сваёй прадмове прама:

«Праца мая ў гэтай мове, што мела заахвоціць нашага беларускага мужыка і бедную шляхту да навукі, можна сказаць, зусім не сустрэла прыяцеляў. І не знайшла яна прыяцеляў сярод тых багатых людзей нашае старонкі, што павэдлуг бога і сумлення павінны б памагчы адкрыць цёмнаму народу вочы».

Ліберал па сваіх поглядах, Дунін-Марцінкевіч апеляраваў да сумлення маёмасных класаў. Але сумленне іх было глухім. Творчасць А. Міцкевіча знаходзіла сапраўдны шчыры водгук на Беларусі толькі ў сэрцах простага народа і ў сэрцах прадстаўнікоў яе прагрэсіўнай інтэлігенцыі. Іменна для гэтай інтэлігенцыі, і ў першую чаргу, для беларускіх літаратараў, А. Міцкевіч быў узорам служэння свайму народу, і творчасць яго аказала самы плённы ўплыў на развіццё беларускай літаратуры.

Уплыў гэты выразна адчуваецца ўжо ў творчасці Дуніна-Марцінкевіча. Праўда, ён мае не столькі ідэйны характар, колькі літаратурны і выражаецца часамі ў прамым перайманні. Так, напрыклад, апісанне карчмы ў паэме Марцінкевіча «Гапон»:

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына,—

выразна нагадвае пачатак балады А. Міцкевіча «Пані Твардоўская».

Такім жа знешнім падабенствам адзначаны і ідылічныя малюнкі маёнткавага побыту ў некаторых творах Марцінкевіча, якія нагадваюць асобныя сцэны з «Пана Тадэвуша». Але калі ў А. Міцкевіча гэтыя сцэны прасякнуты гумарам, іроніяй, дык у Марцінкевіча яны падаюцца сантыментальна.

Больш глыбокі ідэйны ўплыў ідзе ад А. Міцкевіча на творчасць такіх дэмакратычных беларускіх пісьменнікаў XIX ст., як Ф. Багушэвіч і Я. Лучына. Тут уздзеянне польскага паэта адчуваецца не столькі ў форме (хаця і гэта ў асобных вершах ёсць), колькі ў ідэйнай лініі, у тых думках, якія А. Міцкевіч выказаў аб беларускім народзе і якія

сталі ў пэўнай ступені зыходнымі для развіцця нацыянальных поглядаў беларускіх паэтаў.

З новай сілай цікавасць да творчасці А. Міцкевіча абуджаецца ў беларускім грамадстве і літаратуры з рэвалюцыі 1905 г. Ужо ў 1907 г. на старонках газеты «Наша ніва» перадрукоўваюцца фрагменты з марцінкевічаўскага перакладу «Пана Тадэвуша». У 1908 г. дзве песні паэмы ў тым жа перакладзе выходзяць у Пецярбургу асобным выданнем. Такім чынам, хоць праз пяцьдзесят год пасля яго з'яўлення, але беларускі чытач усё ж такі здолеў пазнаёміцца з перакладам Марцінкевіча выдатнай паэмы польскага паэта.

У 1905—1913 гадах Я. Купала перакладае на беларускую мову «Трох Будрысаў», «Удагонку», «Пані Твардоўскую», фрагменты з «Конрада Валенрода» і іншыя творы А. Міцкевіча.

У тыя ж гады пашыраецца і паглыбляецца ўплыў польскага паэта на беларускую літаратуру. Гэта можна заўважыць, у першую чаргу, на творчасці Я. Купалы, які добра ведаў польскую літаратуру і ў аўтабіяграфіі назваў А. Міцкевіча адным з любімых паэтаў.

Водгукі творчага генія А. Міцкевіча выразна чуваць і ў выдатных творах другога народнага паэта Беларусі Я. Коласа. Я маю на ўвазе яго паэму «Новая зямля», якая пачынаецца наступнымі вершамі:

Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай
Вясны жыцця маёй убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душой адпачываю.

Няма сумнення, што як гэтымі радкамі, так і агульным сваім строем, сваёй архітэктонікай з устаноўкай не столькі на сюжэт, колькі на шырокія жанравыя і пейзажныя карціны — паэма «Новая зямля» пераклікаецца з «Панам Тадэвушам». Праўда, беларускі аднафамілец і зямляк польскага паэта Канстанцін Міцкевіч (Я. Колас) не валодае так польскай мовай, як валодаў ёю Я. Купала. Але ён нарадзіўся і жыў у тых жа мясцінах, дзе і А. Міцкевіч, дзе культ польскага паэта быў і застаецца жывой і неўміручай з'явай. Я. Колас ужо ў маленстве чуў вершы польскага паэта з вуснаў народа і добра ведаў яго творчасць як па рускіх, так і па беларускіх перакладах. З асаблівым замілаваннем Я. Колас, прызнаны ў беларускай літаратуры

майстрам пейзажу, адзначае, што прырода ў творах А. Міцкевіча «апісваецца так выразна, так паэтычна, што, здаецца, чуеш шум лісця, гоман ручаіны, паданне снегу, бачыш усходы і захады сонца, красаванне палёў і лугоў». Гэтаму майстэрству ў польскага паэта вучыўся і Я. Колас. І нашым літаратуразнаўцам вельмі цікава было б правесці паралелі паміж «Панам Тадэвушам» і «Новай зямлёй».

Агульнародную папулярнасць здабыла творчасць А. Міцкевіча ў Беларусі ў гады Савецкай улады. Ужо ў 1940 г., калі ў Савецкім Саюзе адзначалася 85-годдзе з дня смерці паэта, імя яго і многія творы сталі агульнавядомымі не толькі ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, але і пад кожнай сялянскай страхой. Многа новых перакладаў з Міцкевіча і артыкулаў аб яго творчасці з'явілася таксама ў сувязі з 150-й гадавінай з дня нараджэння паэта.

З глыбокай любоўю да вялікага польскага паэта, да яго дзейнасці і творчасці прайшло ў Беларусі ўшанаванне памяці А. Міцкевіча ў сотыя ўгодкі ягонай смерці. Амаль на ўсіх прадпрыемствах, у калгасах, навучальных і культурна-асветных установах праведзены сходы, прысвечаныя паэту. Беларускі народ аднавіў у Навагрудку зруйнаваны вайной домік А. Міцкевіча, у якім з дапамогай нашых рускіх, польскіх, украінскіх і літоўскіх сяброў арганізаван музей — грунтоўная база для папулярызацыі і вывучэння творчасці паэта. Беларускі народ свята ахоўвае ўсе месцы, звязаныя з імем генія польскай літаратуры.

Да сотых угодкаў смерці А. Міцкевіча выйшаў з друку аднатомнік выбраных твораў паэта, у перакладзе якіх на беларускую мову прынялі ўдзел лепшыя нашы паэты — Я. Колас, К. Крапіва, М. Танк, П. Панчанка і інш. Значную работу як у галіне папулярызацыі, так і ў галіне даследавання творчасці Міцкевіча прарабілі і нашы літаратуразнаўцы. З'явілася таксама некалькі дысертацый, прысвечаных творчасці Міцкевіча. Аднак гэта толькі пачатак вялікай працы. Перад намі стаіць задача — паказаць ва ўсім маштабе тую выдатную ролю, якую адыграў А. Міцкевіч у абуджэнні нашай нацыянальнай літаратуры як фактам сваёй творчасці, ахапіўшай многія стораны жыцця беларускага народа, так і сваімі поглядамі на гісторыю і культуру беларускага народа. Мы павінны гэта зрабіць у цесным кантакце і брацкім супрацоўніцтве з польскімі сябрамі ў імя гістарычнай праўды і ў імя далейшага ўмацавання нашай непарушнай сучаснай дружбы.

*1955 г.*

## ТАЛЕНАВІТЫ ПЯСНЯР

Творчасць У. У. Маякоўскага пераможна праходзіць па ўсіх шыротах зямлі, несучы на сваім сцягу вялікія прынцыпы сацыялістычнай паэзіі і асвяжаючы сваім магутным подыхам людское паэтычнае слова. Будучы новым крокам у паэтычным развіцці грамадства, паэзія Маякоўскага стала неадлучнай часткай сацыялістычнай культуры народаў нашай Радзімы. Яна ўвайшла ў скарбніцу нашай культуры не толькі як важны набытак мінулага, але і як вострая зброя сучаснасці. У вершах У. Маякоўскага, напісаных многа гадоў таму назад, мы знаходзім водгук амаль на ўсе пытанні сучаснасці. Выдатны паэт жыў шырокімі інтарэсамі свайго народа, і яго творчасць, выяўляючы запаветныя імкненні народа, усёй сваёй сутнасцю накіравана ў нашу будучыню.

У. У. Маякоўскі, бязлітасна бічуючы ўсё гнілое, усім сваім вялікім сэрцам радаваўся кожнаму парастку новага і свежага. Рэвалюцыяй мабілізаваны і прызнаны, ён для ўслаўлення яе аддаваў усяго сябе і прагна хацеў толькі аднаго: каб і пасля сваёй смерці гаварыць з нашчадкамі, як з жывымі. І мы сёння з хваляваннем слухаем голас паэта нашай сучаснасці. Такім ён быў і застаўся таму, што кроўна быў звязаны з усім ходам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Іменна яна жывіла глыбокі лірызм паэзіі Маякоўскага і гнеўны сарказм яго сатыры, накіраванай супраць ворагаў рэвалюцыі. Яна паіла вобразнасць Маякоўскага кіпучымі сокамі жыцця і давала яго паэзіі вялікую сілу абагульнення. За ўсімі праявамі рэвалюцыйнай рэчаіснасці паэт бачыў пераможны паступ народа ў сваю вялікую будучыню.

Народы Савецкага Саюза горача любяць і высока цэняць паэзію У. Маякоўскага як сваю грозную і баявую зброю ў змаганні за камунізм. Кожнае слова вялікага паэта прасякнута бязмежнай любоўю да савецкай зямлі і гордасцю за першую ў свеце краіну сацыялізма. Слова гэта напоўнена глыбокай пашанай да гераічных спраў савецкіх людзей, якія на сваіх руках «выняньчылі» гэтую зямлю і заснавалі на ёй новы свет. І слова гэтае, як радасць, натхняе савецкіх людзей у іх творчасці, як меч, паражае ворага.

У. У. Маякоўскі — самы таленавіты пясняр нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Паэзія яго з'яўляецца непарыўным звяном ў вялікай дружбе нашых народаў. На

ўзорах гэтай паэзіі вучыліся і вучацца паэты ўсіх народаў Савецкага Саюза. Дабратворны ўплыў зрабіла яна і на творчасць беларускіх паэтаў — П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, К. Кірэенкі. З любоўю і пачуццём вялікай адказнасці перакладаюць беларускія паэты творы У. Маякоўскага. Але нельга сказаць, каб у гэтай справе ўсё было зроблена беззаганна. Задача беларускіх паэтаў — данесці баявое слова У. Маякоўскага ва ўсёй яго велічы і непасрэднасці. І гэта будзе найлепшым выяўленнем той глыбокай любві і пашаны, з якою беларускі народ ставіцца да паэзіі вялікага песняра сваёй Радзімы.

*1957 г.*

## ДУБОЎКА

За плячыма Уладзіміра Дубоўкі вялікі і складаны літаратурны шлях. Яшчэ ў 1923 годзе ў Вільні выйшаў з друку невялікі зборнічак паэта «Строма», у якім было змешчана каля двух дзесяткаў вершаў маладога аўтара. Праўда, гэты зборнічак Ул. Дубоўкі не звярнуў на сябе асаблівай увагі. Але неўзабаве адзін за другім з'явіліся новыя кнігі паэта («Трысцё», «Там, дзе кіпарысы», «Крэда», «Наля»), аб якіх ужо загаварылі і крытыка і чытачы. Уладзімір Дубоўка становіцца адным з самых прыкметных беларускіх паэтаў дваццатых гадоў. Пад яго значным уплывам уваходзілі ў літаратуру многія маладыя паэты таго часу, пачынаючы ад аўтара гэтых радкоў і ўключаючы такога самабытнага і таленавітага паэта, як Паўлюк Трус.

Чым вабіла да сябе літаратурную моладзь творчасць Ул. Дубоўкі? Сваімі свежымі для беларускай паэзіі матывамі, сваёю шчырасцю і арыгінальнасцю. Яна сапраўды была наватарскай. У ёй адчуваўся не толькі глыбокі талент, але і новая адметная паэтычная культура. Для разумення ўсяго гэтага, мне здаецца, небескарысна будзе адзначыць тыя сацыяльныя і культурныя ўмовы, у якіх фармавалася творчая індывідуальнасць паэта.

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся 15 ліпеня 1900 г. у вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна. Пачатковую адукацыю атрымаў ён у Манькавічах Вілейскага па-

вета, а затым два гады вучыўся ў Мядзелі ў двухкласнай школе. Многа мядзельскай моладзі жыло тады ў Петраградзе, дзе яна працавала на заводах або вучылася. Праз яе ў Мядзель трапляла нямала добрай літаратуры, у тым ліку і рэвалюцыйнай. Уладзімір Дубоўка многа чытаў і ўжо ў тыя гады пазнаёміўся з гісторыяй Беларусі, прачытаў некаторыя творы Янкі Купалы, часта праглядаў газету «Наша Ніва».

У 1914 г. Дубоўка паступіў у Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю. Выкладчыкам літаратуры там быў добры педагог Іван Іванавіч Рэнскі, які старанна імкнуўся не толькі прышчапіць вучням любасць да мастацкага слова, але і даць ім глыбокае разуменне яго. (Дарэчы, раней, яшчэ ў Маладзечанскай семінарыі, у таго ж настаўніка вучыўся і Міхась Чарот.)

Уладзіміру Дубоўку не ўдалося закончыць Нова-Вілейскую семінарыю. У сувязі з наступленнем немцаў сям'я будучага паэта ў 1915 г. пераехала ў Маскву, дзе бацька яго стаў працаваць на Маскоўска-Беларускай чыгунцы. Эвакуіравалася на Віцебшчыну і Нова-Вілейская настаўніцкая семінарыя. Але родныя лясы і пушчы, азёры і ўзгоркі назаўсёды засталіся ў сэрцы паэта і, як адзначае ён сам, далі яму настрой на ўсё яго далейшае жыццё.

Ведаючы паэзію Ул. Дубоўкі, з гэтым нельга не згадзіцца. Доля Заходняй Беларусі, лёс акупіраванай польскімі панамі бацькаўшчыны сталі адным з асноўных матываў яго творчасці. Гоман мядзельскіх лясоў і шум нарачанскіх хваль то радасным успамінам, то горкім смуткам вельмі часта адгукаліся ў творах паэта.

Скончыўшы ў 1918 г. настаўніцкую семінарыю, Ул. Дубоўка дзве зімы працаваў у Тульскай губерні вясковым настаўнікам, затым з 1920 па 1921 г. быў у Чырвонай Арміі. Дэмабілізаваўшыся, паэт прыязджае ў Маскву і паступае ў толькі што заснаваны тады Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Я. Брусава. На ўступных экзаменах В. Брусаў, пазнаёміўшыся з беларускімі вершамі Ул. Дубоўкі, паставіў перад ім некалькі пытанняў па творчасці Я. Купалы. Калі паступаючы здзівіўся гэтаму, Валерый Якаўлевіч сказаў:

— Я не толькі ведаю творы вашага вялікага паэта, але і сам перакладаў іх на рускую мову. Тым больш павінны ведаць і любіць яго творы дзеці беларускага народа.

Навучанне ў літаратурна-мастацкім інстытуце, які ўзначальваў выдатны паэт і майстар мастацкага слова і ў

якім выкладалі лепшыя маскоўскія філолагі, дало Ул. Дубоўку грунтоўныя, глыбокія веды як па гісторыі, так і па тэорыі рускай і сусветнай літаратуры. Вялікую карысць і добрую літаратурную практыку прынесла маладому паэту яго работа навуковым сакратаром «Кабінета паэтыкі», старшынёй якога быў сам В. Я. Брусаў. Значны ўплыў на фармаванне літаратурных поглядаў Ул. Дубоўкі мелі шматлікія літаратурныя дыспуты і спрэчкі, якія вяліся тады ў Маскве з удзелам В. Маякоўскага, С. Ясеніна і іншых паэтаў самых разнастайных літаратурных напрамкаў і стыляў.

Такім чынам, выступіўшы адным з першым прадстаўнікоў маладога пакалення беларускай савецкай паэзіі, Ул. Дубоўка меў ужо не толькі значны жыццёвы вопыт, але і грунтоўную літаратурную падрыхтоўку. У яго творчасці адразу ж выявіліся не толькі бясспрэчныя здольнасці, але і адметная ад іншых паэтычная школа.

Па характару свайго таленту Ул. Дубоўка — лірык. Нават у яго паэмах лірычны пачатак пераважае над апавядальнасцю. І таму, калі гаварыць аб тэматыцы яго вершаў, цяжка вызначыць яе так дакладна, як гэта можна зрабіць у дачыненні да эпічных твораў. У паэме «Кругі» адна з чытачак, нейкая Наста Нарутавічанка, звяртаецца ў сваім лісце да паэта з такім дакорам:

...Чаму у песнях вашых нестае
адной маленькай справы — чалавека?
Хіба пачуцці ўсе яго, мае
не закранаюць вашыя павекі?
Знаходжу ў песнях кветкі, палыны,
рассыпаныя скрозь пялёсткі...
Любоў да нашай роднай стараны,
да саламяных стрэх і вёскі...
І так далей, і так далей — адно
або штодзённая прысяга Беларусі.

Цяжка сказаць, ці быў такі ліст у сапраўднасці. Магчыма, што гэта самахарактарыстыка паэта. Тым больш мы можам яе за такую прыняць, паколькі ў канцы паэмы аўтар згаджаецца са сваёй адрасаткай. Аднак, мне здаецца, што характарыстыка гэтая залішне жорсткая, хоць у ёй ёсць значная доля праўды. З адным ужо адразу ж нельга згадзіцца — з тым, што быццам бы ў вершах паэта «нестае адной маленькай справы — чалавека». Не, чалавек ёсць, і чалавек з вялікім пачуццём, з гарачай любоўю да жыцця,— гэта сам паэт. Але піша ён сапраўды вельмі часта аб кветках і палынах, аб саламяных стрэхах і пялёстках, аб

хараства роднай Беларусі і сваёй вернасці да яе. Ён радуецца, што яна дачакалася сваёй шчаслівай долі, стала свабоднай Савецкай рэспублікай.

Сардэчныя і моцныя словы знаходзіць паэт для характарыстыкі працоўнага чалавека гэтай краіны, гаворачы пра яго:

Выйдзе ў поле — аж крэкча плуг,
Выйдзе з касой — гудзяць сенажаці.
Камень нагой разатрэ на жарству:
Толькі б стаць добра,
Толькі б упяцца.

Прыгнечаны ў мінулым вякамі сацыяльнай і нацыянальнай няволі, працоўны чалавек Беларусі рос, «перамагаючы гора», і такую «набыў размашыстасць у працы», такую сілу, якая дазваляе, як гаворыць паэт, «з чортам у загрудкі брацца». І Уладзімір Дубоўка шчыра верыць у светлую будучыню свайго народа, у тое, што

Гэтая сіла — збудуе свет,
новы свет — справа рукі мазольнай.

Праўда, у вершах паэта мы не часта знаходзім разгорнуты паказ гэтага новага свету. Ул. Дубоўка абмяжоўваецца нярэдка даволі агульнымі сцвярджэннямі, вобразамі, накшталт таго, што «цяпер рэспубліка Саветаў, і радасць пунсавее скрозь». Але пры ўсім гэтым мы адчуваем, што слова паэта ідзе ад шчырага сэрца, і яно пераконвае. І калі Ул. Дубоўка дадае да гэтага нават скупую дэталь, як «серп гарбаты на месяц ускінуць», а «на яго з зямлі засмяецца электрычная жнейка скора», мы адчуваем гэтую дэталь як арганічную рысу таго новага, якое жыве ў марах паэта.

Велізарныя сацыяльныя зрухі, прынесеныя Кастрычніцкай рэвалюцыяй, больш разгорнута паказвае Ул. Дубоўка ў сваіх невялічкіх паэмах «Камсамолка Ганна» і «Студэнт». У гэтых творах вырысоўваецца ўжо ў некаторых рысах новая біяграфія прадстаўнікоў вясковай моладзі. Яны нядаўна прайшлі франты грамадзянскай вайны, а цяпер удзень працуюць на прадпрыемствах, грузяць вагоны, а ўвечары вучацца на курсах і ў вышэйшых навучальных установах. Паэт падкрэслівае, што гэта лёс не адзінак, а ўсяго пакалення:

Не адзін быў і ў школе вялікай,
трэці раз нарадзіўся на свет,—
сотняй зваць яго, тысячай клікаць,
мільёны ідуць услед.

Тэма новага жыцця выступае ў творчасці Ул. Дубоўкі не ў разгорнутых эпічных вобразах, а ў радасным лірычным успрыманні новага жыцця, часта ў супрацьстаўленні сучаснага мінуламу, Савецкай Беларусі — Беларусі Заходняй.

Тэма Заходняй Беларусі займае ў творчасці Ул. Дубоўкі значнае месца. І гэта зразумела — там быў родны бацькоўскі кут паэта, там ён правёў сваё маленства і юнацтва, з далёкімі роднымі мясцінамі звязаны думы і пачуцці паэта.

Далёка я... А ты у даляглядзе
з'яўляешся, як непазбыўны сон.

І вось сталася так, што

Адна зара, ой зорка-зарніца,
у літарах БССР цвіце.
Другая ночы, ночы-начаніцы
дапамагае крыллем шалясцець.

Усведамленне гэтага цяжкага паднявольнага становішча Заходняй Беларусі, дзе нават « і песня не песня, а плач навальніцы», глыбока раніла сэрца паэта.

Але ён бачыў, што і над гэтым «струджаным краем» «гарыць і палае пад ветрам паходня». І калі паэту гаварылі часамі, а то, можа, і ў сэрца яго самога закрадалася сумненне, што «долю і волю бачыць не суджана нашай айчыне», ён мужна перамагаў гэтыя хвілінныя настроі і горача пратэставаў, упэўнена сцвярджаючы:

Шчасце здабудуць мазольныя рукі,
шчасце мы створым сваімі рукамі.
Ведаць не будуць пра гора унукі,
што панавала ад веку над намі.

Гэтая вера ўмацоўвалася ў сэрцы паэта не толькі тагачасным змаганнем працоўных Заходняй Беларусі, а і мінулай барацьбой свабодалюбівага беларускага народа, які ніколі не мірыўся з няволяй і не раз паўставаў на змаганне супроць польскіх магнатаў і прыгнятальнікаў. Як напамінак аб гэтым, з'явіліся паэмы Ул. Дубоўкі «Браніслава» і «Крычаўская спакуса». У першым творы сацыяльны пратэст беларускага народа супроць панства ўвасабляе ў сябе сялянская дзяўчына Браніслава; у другім гэты пратэст выліваецца ўжо ў сапраўднае паўстанне, у якім бяруць удзел шырокія народныя масы. Супроць гармат і мячоў радзівілаўскага войска ўзброены яны былі вельмі прымітыўнай зброяй — сякерамі і косамі:

Несамавітая зброя, як быццам,—
косы, сякеры з гартованай сталі.
Цяжка сякерам з гарматамі біцца,
але сякеры за праўду стаялі.
Іменем круля ды іменем бога
коса і крыва страляли гарматы.
Іменем шчасця народа самога
білі сякеры усіх прыгнятых.

Перавага крычаўскіх паўстанцаў, якія на працягу чатырох гадоў адбівалі шалёныя атакі шматлікіх радзівілаўскіх палкоў, была не ў зброі, а ў іх праўдзе, у тым, што яны дзейнічалі «іменем шчасця народа самога». Гэтым прыкладам з гістарычнага мінулага паэт нібы хацеў падтрымліваць дух сваіх сучаснікаў з Заходняй Беларусі ў іх няправядлівай барацьбе з белапанскай няволяй. Гэтай нязломнай воляй да барацьбы за вызваленне прасякнуты лепшыя творы Ул. Дубоўкі аб Заходняй Беларусі, і ў першую чаргу «Плач навальніцы». У творы няма канкрэтна акрэсленых чалавечых вобразаў. Паэт характарызуе героя проста:

Трое іх.
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.
Трое іх.
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.

Як бачым, характарыстыка героя вельмі скупая, нават, можна сказаць, некалькі агульная, але, прасякнута глыбокім лірызмам, яна хвалюе і западае ў сэрца. За трыма цьмяна акрэсленымі постацямі, змучанымі працай і няволяй, адчуваецца непакорны народ, якому, як і гэтым тром, «павязалі рукі, павязалі ногі, павязалі цела», але «дух звязаць няможна». І няхай гэтых трох закатавалі, замучылі на смерць,— барацьба супроць панскай няволі не спыніцца: на змаганне за вызваленне «вецер ад Усходу будзіць міліёны».

Барацьбу за вызваленне Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе ў адзінай Савецкай дзяржаве, Ул. Дубоўка не адрывае ад агульнай пралетарскай барацьбы супроць капіталістычнага свету эксплуатацыі і няволі. І як верыць паэт у шчаслівую долю роднай Беларусі, так верыць ён у тое, што хутка на ўсім свеце настане «светлае Ранне». «Яно надыходзіць,— гаворыць паэт,— прадвесне відаць Камуны народаў сусвету».

Пачуццё пралетарскай еднасці працоўных, ідэя «Камуны народаў сусвету» — паўтараюцца ў творчасці Дубоўкі даволі часта і складаюць адзін з яе вельмі выразных матываў. Вось чаму і самаахвярная любасць паэта да роднай Беларусі праходзіць праз усю яго паэзію вельмі глыбокім і бурным струменем. Сэрцам паэта валодае адзінае жаданне:

Над працай каб прымусу не было,
каб жыў працоўны там, дзе вокам кіне.
На ўзбярэжжа акіяну ад балот
ішоў з краіны у краіну.

Вось чаму можна смела сказаць, што пры ўсёй сваёй нацыянальнай самабытнасці ў тэматыцы і ў формах яе выражэння, паэзія Ул. Дубоўкі сваімі лепшымі бакамі раскрыта самаму шырокаму свету. Поруч з глыбокім патрыятызмам у ёй закладзены пачуцці дружбы, любасці да чалавека:

Што на свеце роўнага па сіле
знойдзецца да шчырай дружбы?

У творчасці Ул. Дубоўкі дваццатых гадоў значнае месца займае інтымная лірыка. Сярод гэтага цыкла ў Дубоўкі ёсць надзвычай тонкія эмацыянальныя замалёўкі, як, напрыклад, верш «Цягнік спяшаўся», у якім чыстымі акварэльнымі фарбамі намалёван вобраз маладога дзявочага харавства. Але ў сваёй пераважнай большасці нават інтымная лірыка паэта насычана не толькі яго асабістымі перажываннямі, а і шырокімі грамадскімі настроямі. Звяртаючыся да каханай, паэт гаворыць:

Ты напорна ідзеш, маладая,
да вядомага ўпартай хадою.
Табе песні, сястрыца, складаю,
заваражаны доляй такою.

Прызнаючыся ў тым, што «паглядзець я люблю і на Сільву, але іншая наша дарога», свой ідэал паэт бачыць у вобразе простай жанчыны працы:

Больш чаруе мяне твая пастаць,
паўкажушак, хусцінка чырвоная.
Галаву трымаеш так проста.
І сама сабой задаволена.

Шчырасць і глыбіня пачуцця, чыстыя і светлыя тоны яе выражэння — вось тая лірычная атмасфера, якой агорнута інтымная лірыка Ул. Дубоўкі. Праўда, нярэдка пачуццям лірычнага героя наносяцца цяжкія раны. З вуснаў яго зрываюцца сумныя прызнанні:

Балюча мне было, да горкіх слёз,
кахаць і памыліцца.

Матывы разрываў з любімым чалавекам у вершах Ул. Дубоўкі не заўсёды выразныя. Але яны з большай сілай падкрэсліваюць і адцяняюць пачуццё вернасці.

Глыбокім роздумам агорнуты і некаторыя іншыя лірычныя вершы паэта, у якіх ён задумваецца над будучыняй краіны, над жыццём чалавека:

Адцвітае, усё адцвітае —
і гады, і хвіліны, і кветкі.
Маладосць ты мая залатая,
і цябе панясе так па ветру.

Але пры ўсіх гэтых журботных часамі роздумах паэзія Ул. Дубоўкі ў аснове сваёй светлая і жыццесцвярджальная. Аптымізм яе грунтуецца на цвёрдым усведамленні таго, што на свеце змяняецца ўсё: і людзі, і думкі іх, і настроі, і толькі ў адным «вечнасць не зменіць закон: у радасці працы, у змаганні».

Іменна радасць у працы, запалам змагання прасякнута творчасць Ул. Дубоўкі. Для яе характэрна пачуццё чалавека яснага светаўспрымання, мужнага, упартага ў барацьбе і працы, працятага цвёрдай верай у будучыню, напорыстага ў яе дасягненні:

Мэта ёсць? Да шчасця?
Значыць, поўным ходам.

У адпаведнасці з гэтай асноўнай настраёвасцю паэта, рытм яго верша шырокі і паўнаводны, фарбы светлыя і ясныя. Лірычны герой Ул. Дубоўкі жыве не ў замкнутых і цесных збудаваннях, а на адкрытай шырокай прасторы. Праўда, прастора гэтая не лакалізавана, але яна заўсёды рэальная і канкрэтная ў сваіх дэталях.

Я на ўзгорак выходжу круты,
Я выходжу сусвет прывітаць,—

гаворыць паэт у адным са сваіх вершаў. Ён не паказвае, дзе знаходзіцца гэты ўзгорак, але называе нам адну з яго выразных асаблівасцей — «круты». Падобнае дачыненне паэта да навакольнага свету складае характэрную асаблівасць яго вобразнага мыслення. Калі вобраз развіваецца не столькі ў сілу сваёй унутранай логікі, колькі па асацыяцыі. У выніку метафара перарастае часта ў своеасаблівы сімвал.

Маладая савецкая паэзія з'явілася на свет следам за такімі буржуазнымі плынямі, як сімвалізм, імажынізм

і футурызм. Зразумела, што паэтыка яе не магла адразу і канчаткова парваць з паэтыкай папярэдніх плыняў. Гэта знайшло свой адбітак і ў творчасці Ул. Дубоўкі. На пасобных яго вершах быў некаторы налёт фармалізму. Больш глыбокі ўплыў зрабіла на іх паэтыка сімвалізму. І гэта зразумела. Ул. Дубоўка, як мы бачым з яго біяграфіі, праходзіў літаратурную вучобу пад непасрэдным кіраўніцтвам такога выдатнага прадстаўніка рускага сімвалізму, як В. Брусаў.

Аднак трэба падкрэсліць, што творчасць Ул. Дубоўкі не мае нічога агульнага з філасофіяй сімвалізму, хоць вобразная сістэма яе і не пазбаўлена сімволікі. Магчыма, што тут сказаліся традыцыі і нашай беларускай дарэвалюцыйнай класікі, дзе за метафарай нярэдка выступае сімвал. Гэта наглядаецца і ў ранняй творчасці Ул. Дубоўкі. Так, прачытаўшы радкі:

> Пунсавеюць хмары над радзімым полем...
> Шчасце ёсць! —

мы ўспрымаем іх як пэўны сімвал цёмнага мінулага, кранутага ўжо чырванню, пунсовасцю новага жыцця.

Падобная своеасаблівасць паэтыкі Ул. Дубоўкі дазваляла крытыкам у свой час інтэрпрэтаваць некаторыя творы паэта даволі адвольна і прадузята. Аднак крытыка правільна заўважыла недахопы, якія мелі месца ў творчасці Ул. Дубоўкі, у прыватнасці абмежаваны круг рэчаіснасці, якая з'яўлялася прадметам мастацкага асмыслення паэта. Ул. Дубоўка сам, напэўна, адчуваў, што нешырокі круг яго тэматыкі і вобразаў вычарпаны. Паэт пачынае глыбока задумвацца над задачамі паэзіі, над шляхамі яе далейшага развіцця і сваёй уласнай паэтычнай дарогай. Ён звяртаецца да народнай творчасці, пачынае выкарыстоўваць яе сюжэты і матывы. Так з'явілася паэма «Кругі», у якой паэт не без удачы імкнуўся паказаць дапытлівасць працоўнага народа, яго мудрасць. Але «гэты твор, пераходны, ламаны», як назваў яго сам паэт, не вырашаў праблемы пошукаў новай праблемы. Не вырашала яе і паэма «І пурпуровых ветразей ўзвівы», дзе палеміка аб сутнасці паэзіі паміж Лірыкам і Матэматыкам завяршаецца тым, што сам аўтар не ведае, пазіцыю каторага з іх прыняць.

Шляхі да сапраўднай новай паэзіі ляжалі на шырокіх прасторах бурлівага савецкага жыцця. Ул. Дубоўка ў той час не разумеў гэтага як мае быць і, замест аб'ектыўнага паказу рэчаіснасці, уступаў, бадай, у кожным сваім творы ў непатрэбную палеміку з крытыкамі і літаратурнымі

працаўнікамі, становячыся часта на вельмі суб'ектывісцкія пазіцыі. У канцы дваццатых гадоў у яго паэзіі з'явіліся творы, у якіх беспадстаўны палемічны задор і невыразныя асабістыя крыўды паэта засланяюць сабой рэчаіснасць, вядуць да няправільных абагульненняў і незразумелых нараканняў на сучаснасць, а часамі нават да іранічных адносін да яе, напрыклад у нізцы вершаў «Пярэсты букет».

З адлегласці часу відаць, што крытыкі, у тым ліку і я сам, у сваіх ацэнках паэзіі Ул. Дубоўкі часта перабольшвалі адмоўныя яе моманты, абагульняючы творчасць паэта і пашыраючы недахопы і памылкі паасобных твораў на ўсю яго літаратурную дзейнасць. Аднак і цяпер нельга замоўчваць таго, што ў творчасці Ул. Дубоўкі былі значныя памылкі і ідэйныя зрывы. У тагачасных умовах жорсткай класавай барацьбы падобныя творы, паміма волі іх аўтара, igралі, безумоўна, адмоўную ролю.

З той пары мінула ўжо даволі шмат часу. У творчасці Ул. Дубоўкі быў значны перапынак. Але паэт разам з народам жыў справамі сваёй краіны. Ён многа пабачыў і шмат перадумаў. Вярнуўшыся зноў да актыўнай літаратурнай дзейнасці, ён уважліва і крытычна перагледзеў свае творы, многія з іх адкінуў зусім, многія перапрацаваў нанава, дамагаючыся большай іх ідэйнай і мастацкай выразнасці.

Поруч са старымі ў зборнік выбраных твораў паэта ўключаны і новыя, напісаныя ім у апошні час. Ул. Дубоўка не падзяляе іх у храналагічным парадку, а размяшчае ў кнізе ў адпаведнасці з жанравымі і тэматычнымі асаблівасцямі. І гэта вельмі слушна, таму што, як няцяжка заўважыць, у стылістычных адносінах яны складаюць адно цэлае. Распрацоўваючы новыя тэмы, падказаныя паэту сучасным жыццём, ён застаецца верным свайму мастацкаму ўспрыманню свету, сваёй індывідуальнай паэтычнай манеры. І з гэтага боку новыя творы Ул. Дубоўкі няма патрэбы характарызаваць. Можна толькі дадаць, што яны вызначаюцца большай выразнасцю думкі і выяўленчых сродкаў, захоўваючы ранейшую цеплыню і ўсхвалляванасць. У якасці прыкладаў можна назваць хоць бы такія творы, як «О, Беларусь, лясная ружа», нанава напісаны па матывах аднаго са старых вершаў паэта, «Паходная песня» і многія іншыя.

У тэматычных адносінах круг творчасці Ул. Дубоўкі значна пашырыўся. Увагу паэта прыцягваюць і эпізоды

грамадзянскай вайны, і барацьба нашага народа супроць гітлераўскіх захопнікаў, і асваенне сібірскіх пrастораў, і праца камуністычных брыгад, і нашы міралюбівыя імкненні, і хараство родных нарачанскіх мясцін — усё, чым жыве савецкі чалавек, змагар і будаўнік. Паэт прачула і ўсхвалявана гаворыць аб мужнасці і гераізме гэтага чалавека, аб яго працавітасці і духоўнай веліччы, аб яго адзіным жаданні і мэтанакіраванасці:

абы над намі ды роднае неба,
абы не есці дарэмнага хлеба.

Як і раней, Ул. Дубоўка шырока выкарыстоўвае у сваёй творчасці матывы і сюжэты вуснай народнай паэзіі, імкнучыся перадаць у простай вершаванай форме яе хараство, мудрасць народа і яго высокія маральныя прынцыпы. Асабліва вялікае значэнне маюць гэтыя творы паэта для выхавання нашых дзяцей і юнацтва.

Такім чынам, можна спадзявацца, што самы разнастайны круг чытачоў з цікавасцю сустрэне і прачытае кнігу Ул. Дубоўкі. Яна не толькі яркая старонка гісторыі беларускай паэзіі, а і гарачае, усхваляванае слова нашага сучасніка.

*1959 г.*

## РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ЗА 40 ГОД

Пад словам «культура» разумеюць, звычайна, суму чалавечых дасягненняў у галіне адукацыі, навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва, іначай кажучы — амаль усю дзейнасць грамадства ў яго духоўнай і нават матэрыяльнай творчасці.

Творчыя здольнасці кожнага народа не абмежаваны ні ў сваёй сіле, ні ў разнастайнасці формаў яе праяўлення. Але магчымасці іх развіцця і дастасавання цалкам залежаць ад канкрэтных гістарычных умоў.

Гісторыя беларускага народа на працягу многіх стагоддзяў, аж да самай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г., складалася такім чынам, што ён не мог у поўнай меры і хараств разгарнуць свой мастацкі геній. Трагічны лёс беларускага мастака пры феадальным і буржуазна-памеш-

чыцкім ладзе добра абмаляваны і ў нашым фальклоры, і ў мастацкай літаратуры. Прыгадайце такія творы, як «Курган» Я. Купалы, «Сымон-музыка» Я. Коласа, «Салавей» З. Бядулі, «Музыка» М. Багдановіча. Малюючы горкую і беспрасветную долю таленавітага чалавека з народа, Я. Колас з вялікім смуткам у сэрцы пісаў:

Эх, чаго нам ні прыйшлося,
Брацце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, непрызнаных,
Неаплаканых нікім!
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвісткам глухім!

Не зважаючы, аднак, на шматвяковы сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, беларускі народ стварыў нямала выдатных мастацкіх каштоўнасцей і ў мінулым. Аб гэтым у першую чаргу яскрава сведчаць невычэрпныя багацці беззыменнай народнай творчасці — непаўторныя па сваёму хараству і меладычнасці песні, цудоўныя па фантазіі і глыбокія па зместу казкі, зграбныя і поўныя дынамікі танцы, разнастайныя па рысунку і гарманічныя па колерах тканіны і вышыўкі беларускага народа.

Аб высокім узроўні беларускай мастацкай культуры ў мінулым сведчаць многія архітэктурныя помнікі нашай краіны. Шырока вядомы беларускія старажытныя рэзчыкі па дрэву, майстры мастацкай керамікі, жывапісу, графікі.

Высокага ўзроўню дасягала мастацтва беларускага народа і ў многіх іншых галінах творчасці. Сусветную славу здабылі сабе вядомыя слуцкія паясы. Высока цаніліся таксама мастацкія фаянсавыя і шкляныя вырабы целеханскіх і ўрэцкіх майстроў.

Выдатныя здольнасці паказаў беларускі народ і ў галіне тэатральнага народнага і самадзейнага мастацтва. У XIX і XX стст. у Беларусі пачалі з'яўляцца аматарскія тэатры на беларускай мове, як, напрыклад, тэатр В. Дуніна-Марцінкевіча, а затым тэатр Ігната Буйніцкага.

Усё гэта сведчыць безумоўна аб высокай таленавітасці беларускага народа, якая няспынна шукала сабе выйсця ў творчасці, але, закутая ланцугамі сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, рэдка вырывалася на волю. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя разбіла гэтыя ланцугі. Беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць і, як роўны сярод роўных, уступіў у вялікую савецкую сям'ю будаўнікоў сацыялізма.

Савецкая ўлада не толькі адкрыла шырокія прасторы для росквіту талентаў і здольнасцей беларускага народа, а і стварыла для гэтага ўсе неабходныя матэрыяльныя і духоўныя перадумовы. З беднай адсталай ускраіны царскай Расіі Беларусь ператварылася ў перадавую рэспубліку развітай прамысловасці, буйной сельскай гаспадаркі і высокай сацыялістычнай культуры. Цяпер Беларусь з'яўляецца краінай усеагульнай пісьменнасці. Яна пакрыта шырокай сеткай школ, бібліятэк, клубаў, кінатэатраў, музеяў, сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Усё гэта служыць духоўнаму ўзбагачэнню народа, павышае яго попыт на мастацкія каштоўнасці, без чаго не можа быць развіцця і самога мастацтва.

Савецкая ўлада стварыла таксама і шырокую матэрыяльную базу яе як для падрыхтоўкі мастацкіх і літаратурных кадраў, так і для рэалізацыі іх творчасці. Зараз у Беларусі выдаецца 267 газет, 15 часопісаў, існуюць іншыя шматлікія выданні. Толькі ў 1957 г. выйшла 928 кніг агульным тыражом 16 мільёнаў экз. Створаны шматлікія мастацкія арганізацыі і ўстановы. У рэспубліцы працуе кансерваторыя, 6 музычных вучылішчаў, 54 музычныя школы-сямігодкі, тэатральна-мастацкі інстытут, мастацкае вучылішча, кінастудыя, некалькі тэатраў, філармонія, два дзяржаўныя харавыя калектывы, аркестр народных інструментаў, Саюз кампазітараў, Саюз мастакоў, Саюз работнікаў кінематаграфіі і іншыя мастацкія арганізацыі, калектывы і ўстановы.

Клопаты Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада аб развіцці беларускай культуры пачаліся з самых першых дзён Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. І на працягу ўсіх сарака з лішнім гадоў, і ў мірны час і ў суровыя гадзіны вайны, партыя руплівa дбала аб культурным будаўніцтве ў рэспубліцы і мудра кіравала яго складаным працэсам. Велізарнейшае значэнне для развіцця савецкай, у тым ліку і беларускай літаратуры і мастацтва, мелі гістарычныя рашэнні нашай партыі аб палітыцы ў галіне літаратуры 1925 г., аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый 1932 г.; аб часопісах «Ленінград» і «Звязда» і адзін з апошніх партыйных дакументаў «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа». У гэтых рашэннях партыі даваўся глыбокі аналіз літаратурна-мастацкага працэсу, падагульняўся вопыт нашай літаратуры і мастацтва, выкрываліся дапушчаныя памылкі, ставіліся новыя задачы і паказваліся шляхі да

іх ажыццяўлення. У гістарычным плане гэтыя партыйныя дакументы акрэсліваюць сабой граніцы тых асноўных этапаў, якія прайшлі ў сваім развіцці наша літаратура і мастацтва за сорак год. Першы перыяд — ад Кастрычніка і да 1925 г.— быў перыядам станаўлення савецкай літаратуры і мастацтва. Другі перыяд — з 1925 і па 1932 г. можна назваць перыядам перавыхавання і кансалідацыі старых і маладых творчых кадраў. Трэці перыяд, які ахоплівае сабой трыццатыя гады, быў перыядам авалодвання і перамогі метаду сацыялістычнага рэалізму. Вялікая Айчынная вайна не ўнесла якасных змен у ідэйную накіраванасць савецкай літаратуры і мастацтва, але яна сканцэнтравала ўвагу творчых работнікаў на своеасаблівых тэматычных праблемах, і ў гэтым сэнсе творчасць ваенных год складае таксама свой адменны этап. Нарэшце, пасляваеннае развіццё нашай літаратуры і мастацтва мае таксама свае асаблівасці. У наш час ідзе асабліва зацятае змаганне паміж дзвюма ідэалогіямі — буржуазнай і сацыялістычнай. Бязлітасная барацьба супраць раз'юшаных атак на савецкую літаратуру і мастацтва з боку міжнароднай рэакцыі, барацьба супраць міжнароднага рэвізіянізму і рэцыдываў буржуазнай ідэалогіі, якія зрэдку маюць месца нават сярод асобных групак нашай літаратурна-мастацкай грамадскасці і якія прыкрываюцца часамі рознымі фармалістычнымі тэорыямі,— гэта барацьба за чыстату нашай ідэалогіі, за ідэйную вышыню нашых твораў, у абарону дасягненняў савецкага мастацтва і літаратуры, у абарону метаду сацыялістычнага рэалізму складае адну з характэрных рыс развіцця савецкай культуры ў пасляваенны час.

Беларуская літаратура і мастацтва з'яўляюцца адным з атрадаў вялікай савецкай культуры, адзінай, сацыялістычнай па зместу і разнастайнай па сваіх нацыянальных формах. Працэсы, якія адбываліся ва ўсёй шматнацыянальнай культуры савецкіх народаў, мелі і маюць месца ў той ці іншай форме і ступені і ў нас у Беларусі, праяўляючыся ў розных відах нашага мастацтва і літаратуры па-свойму.

Характэрнай асаблівасцю беларускай савецкай культуры з'яўляецца тое, што яна, не занядбаўшы сваіх нацыянальных дэмакратычных і прагрэсіўных традыцый, расла і развівалася ў цеснай узаемасувязі з культурамі другіх брацкіх народаў, і ў першую чаргу з вялікай культурай рускага народа.

Найбольш моцныя і развітыя нацыянальныя традыцыі, у параўнанні з іншымі відамі беларускага мастацтва, мела да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі беларуская літаратура. Аднак новая эпоха, якая наступіла пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, патрабавала і ад яе не толькі новых тэм, новых фарбаў, але і новых сродкаў выражэння. І мы заўважаем, што беларускія пісьменнікі як старэйшага пакалення, так і народжаныя савецкай рэчаіснасцю, чуйна адгукаюцца на гэтыя патрабаванні. У беларускай літаратуры мяняецца не толькі праблематыка і вобразная сістэма, а ўвесь яе стыль і нават рытмічны лад. Павевы рускай рэвалюцыйнай паэзіі даюць новае дыханне беларускаму вершу, што выразна ўжо адчуваецца ў творах 20-х гадоў — у «Босых на вогнішчы» М. Чарота, «Безназоўным» Я. Купалы і нават у паэме «Сымон-музыка» Я. Коласа, якая пачата да рэвалюцыі і прысвечана жыццю старой Беларусі.

У далейшым, на працягу ўсіх 40 гадоў, беларуская паэзія выкрышталізоўвала і нястомна гартавала гэты своеасаблівы сплаў беларускага фальклорнага верша з выдатнымі дасягненнямі сусветнай паэтычнай культуры.

Праўда, у пошуках новых формаў і новых мастацкіх сродкаў не абышлося і без непатрэбных накладных выдаткаў. Я маю на ўвазе і так званую маладнякоўскую «бурапену» і заляцанні да фармалізму, якія мелі месца ў той ці іншай ступені на працягу ўсяго развіцця беларускай савецкай паэзіі.

У залаты фонд нашай літаратуры навечна ўвайшлі такія мастацкія шэдэўры, створаныя або завершаныя ў гады Савецкай улады класікамі нашай літаратуры, як зборнікі паэзіі «Спадчына», «Песня будаўніцтву», «Ад сэрца», паэмы «Над ракой Арэсай» і «Тарасова доля» Я. Купалы, як «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Рыбакова хата», «На ростанях», «Дрыгва» і многія іншыя творы Я. Коласа, як «Салавей», «У дрымучых лясах», «Язэп Крушынскі» З. Бядулі.

Значны ўклад у развіццё беларускай савецкай паэзіі ўнеслі П. Трус, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка і многія другія паэты. Цэлую сваю школу ў галіне беларускай сатырычнай паэзіі стварыў К. Крапіва.

Гавораць, што аб сталасці літаратуры таго ці іншага народа сведчыць развіццё мастацкай прозы. Калі гэта так, дык гэта яшчэ адзін з доказаў поўнай сталасці нашай літаратуры, дасягнутай таксама толькі ў гады Савецкай

улады. Да рэвалюцыі ў гэтым жанры ў беларускай літаратуры былі толькі невялікія апавяданні. Зараз значнага свайго росквіту дасягнуў жанр аповесці і рамана. Аўтарам першага беларускага рамана быў Ц. Гартны. Маладыя беларускія празаікі, на чале са сваім старэйшынай Я. Коласам, развілі яго і ўдасканалілі, стварыўшы шматлікія і разнастайныя ўзоры. У якасці майстроў яго трэба назваць К. Чорнага, К. Крапіву, М. Лынькова, М. Зарэцкага, Э. Самуйлёнка, П. Галавача, а таксама маладых празаікаў, як І. Шамякін, Я. Брыль, І. Мележ, М. Паслядовіч, Т. Хадкевіч, Я. Скрыган і многія іншыя.

Верныя свайму народу, беларускія пісьменнікі заўсёды жылі яго радасцямі і горам, яго ратнымі подзвігамі і працоўнай доблесцю, і гэта і складае асноўны змест лепшых твораў беларускай паэзіі і прозы, прасякнутых глыбокай партыйнасцю і сапраўднай народнасцю.

Гэтае ж самае трэба сказаць і аб нашай драматургіі, якую мне хочацца вылучыць некалькі асобна. Справа ў тым, што драматургічны жанр у нашай літаратуры дасягнуў свайго небывалага росквіту таксама толькі ў нашы савецкія дні, хоць да рэвалюцыі мы мелі ў гэтым жанры нядрэнныя ўзоры. Я маю на ўвазе драматургічную творчасць Дуніна-Марцінкевіча, Каганца, Я. Коласа і, асабліва, Я. Купалы. Але для развіцця драматургіі патрэбны тэатры. Да рэвалюцыі беларускі народ, па сутнасці, не меў прафесіянальных тэатраў. Стварэнне іх пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі выклікала бурны рост драматургіі. Зараз ужо мы можам смела гаварыць аб сваёй нацыянальнай савецкай драматургічнай школе. Заснавальнікамі яе з'явіліся Я. Колас, К. Чорны, Э. Самуйлёнак і асабліва адзін з самых шматгранных і таленавітых нашых драматургаў К. Крапіва. Традыцыі гэтай школы паспяхова прадаўжаюць і развіваюць нашы маладыя драматургі: К. Губарэвіч, А. Макаёнак, І. Мележ і іншыя.

Як стварэнне тэатраў выклікала рост драматургіі, так і развіццё драматургіі ў сваю чаргу абумовіла ў пэўнай ступені фарміраванне творчага вобліку беларускага нацыянальнага тэатра.

Старэйшым тэатрам нашай рэспублікі з'яўляецца створаны ў 1920 г. Беларускі дзяржаўны тэатр, які ў нашы дні носіць назву Беларускі дзяржаўны акадэмічны ордэна Чырвонага Працоўнага Сцяга тэатр імя Янкі Купалы. У акцёрскі калектыў яго ўваходзілі добра вядомыя цяпер дзеячы беларускай сцэны: У. Крыловіч, Г. Грыгоніс,

М. Зораў, У. Уладамірскі, Л. Ржэцкая, Б. Платонаў, І. Ждановіч, Л. Рахленка, О. Галіна, С. Бірыла і інш.

Амаль адначасова з утварэннем Першага беларускага дзяржаўнага тэатра пачаў складвацца і другі прафесійны калектыў, які спачатку называўся трупай Галубка, затым быў названы Беларускім дзяржаўным вандроўным тэатрам.

Сярод найбольш відных работнікаў вандроўнага калектыву трэба назваць кіраўніка, рэжысёра, драматурга і акцёра гэтага тэатра У. Галубка і маладых яшчэ тады таленавітых артыстаў У. Дзядзюшку, А. Згіроўскага, Быліча, Бараноўскага, Шашалевіч.

Як паказвае сама назва, Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр быў пераязным і ў задачу яго ўваходзіла абслугоўванне вясковага насельніцтва рэспублікі.

Патрэбнасць у арганізацыі такой трупы выклікалася самім жыццём. Разняволеныя працоўныя масы, стаўшы гаспадарамі жыцця, пацягнуліся да культуры, да мастацтва. Камуністычная партыя і Савецкі ўрад прыкладалі ўсе намаганні, каб патрэбы народа задаволіць як мага паўней.

З гэтай мэтай ужо ў першыя гады Савецкай улады ў рэспубліцы пачалася работа па падрыхтоўцы кваліфікаваных акцёрскіх кадраў. У 1921 г. у Маскву, у створаную там беларускую тэатральную студыю была накіравана група маладых акцёраў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Вучоба студыйцаў праходзіла пад кіраўніцтвам В. С. Смышляева. Педагогамі ў студыі працавалі пераважна рэжысёры і акцёры МХАТ-2.

У 1926 г. студыя закончыла вучобу. Сярод выпускнікоў яе былі шырока вядомыя цяпер артысты П. Малчанаў, А. Ільінскі, К. Саннікаў, М. Міцкевіч, Ц. Сяргейчык, Л. Мазалеўская, Р. Кашэльнікава, Л. Шынко, М. Бялінская, А. Радзялоўская, С. Скальскі і інш. З выпускнікоў гэтай студыі ў Віцебску быў створаны Другі беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-2), якому пазней прысвоена імя Я. Коласа.

Як бачым, беларускае прафесійнае тэатральнае мастацтва ў поўным сэнсе гэтага слова з'яўляецца дзецішчам сацыялістычнай культуры беларускага народа. Яно развівалася, расло і квітнела пад клапатлівым доглядам Камуністычнай партыі і жывілася высокімі здабыткамі тэатральнай культуры братніх народаў. Узорам для маладых беларускіх тэатраў была дзейнасць перадавых тэатраў вя-

лікага рускага народа. З высокім мастацтвам майстроў рускай сцэны беларуская грамадскасць была знаёма даўно. Яшчэ ў мінулым стагоддзі ў Беларусі выступалі В. Каратыгін, М. Савіна, В. Далматаў, А. Южын, К. Варламаў. Выдатныя рускія акцёры В. Камісаржэўская, М. Дольскі, А. Яблачкіна, М. Блюменталь-Тамарына, Ю. Юр'еў і другія наведвалі Беларусь і ў пазнейшыя гады. Іх прыезды ігралі выключную ролю ў ажыўленні тэатральнай дзейнасці ў гарадах Беларусі. Яны спрыялі пастаноўцы на мясцовых сцэнах рэвалюцыйных п'ес М. Горкага. Асабліва часта гэтыя п'есы сталі паяўляцца ў рэпертуары нашых тэатраў у гады першай рускай рэвалюцыі («На дне», «Мяшчане», «Дзеці сонца», «Васа Жалязнова»). Спектаклі па п'есах М. Горкага ўспрымаліся часта, як непасрэдны пратэст супраць самадзяржаўя, і на паказах іх нярэдка мелі месца рэвалюцыйныя выступленні.

Абапіраючыся на перадавую тэатральную культуру рускага народа, беларускія тэатры не забываліся і на свае нацыянальныя традыцыі, якія ішлі як ад народнага тэатра, так і ад тэатра В. Дуніна-Марцінкевіча і асабліва ад тэатра І. Буйніцкага. На першых парах сваёй дзейнасці беларускія тэатры шырока выкарыстоўвалі рэпертуар сваіх папярэднікаў. На сцэне ішлі «Раскіданае гняздо», «Паўлінка», «Адвечная песня», «Сон на кургане», «Прымакі» Я. Купалы, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі і рад іншых п'ес, многія з якіх ставіліся ў свой час і трупай І. Буйніцкага, і калектывам Першага Таварыства драмы і камедыі.

Як вядома, рэпертуар у першую чаргу вызначае ідэйны і мастацкі напрамак тэатра. Зразумела, што традыцыйны рэпертуар старых беларускіх тэатральных калектываў не мог забяспечыць развіццё новага тэатра. Савецкі глядач хацеў бачыць на сцэне свайго тэатра п'есы, якія б адлюстроўвалі яго рэвалюцыйную практыку. Гэта вельмі добра адчуў таленавіты мастацкі кіраўнік БДТ-1 Яўсцігней Афінагенавіч Міровіч, які прыйшоў у БДТ-1 у якасці рэжысёра і адыграў у далейшым яго жыцці выключна важную ролю.

Першым творам, пастаўленым Я. Міровічам на сцэне БДТ-1 была п'еса М. Чарота «На купалле». У аснову яе сюжэта пакладзены ўзаемаадносіны панскай дачкі і маладога сялянскага хлопца і дзяўчыны. На жаль, сюжэт гэты разгортваецца не столькі па лініі сацыяльных, колькі па лініі сямейна-маральных адносін. У такім жа пры-

блізна плане ўзаемадачыненні паміж памешчыкамі і сялянствам трактаваліся і ў п'есах Ул. Галубка «Пан Сурынта», «Апошняе спатканне» і «Ганка» на сцэне Вандроўнага тэатра і ў п'есе самога Я. Міровіча «Машэка» на сцэне БДТ-1. Аднак, не зважаючы на хібы драматургічных твораў, спектаклі «Машэка» і, асабліва, «На купалле», насычаныя фальклорам і элементамі народнай абраднасці і ўвасобленыя на сцэне з вялікім майстэрствам, былі цёпла сустрэты гледачамі і надоўга ўвайшлі ў рэпертуар БДТ-1.

Тэма рэвалюцыйнай барацьбы народа супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту знайшла сваё больш глыбокае ўвасабленне на сцэне БДТ-1 у такіх арыгінальных беларускіх п'есах, як «Кастусь Каліноўскі» і «Кавальваявода» Я. Міровіча і «Чырвоныя кветкі Беларусі» В. Гарбацэвіча. Першыя дзве з іх апавядалі аб змаганні беларускага народа ў мінулым. П'еса В. Гарбацэвіча была прысвечана партызанскай барацьбе беларускага народа супраць белапольскіх акупантаў.

Поруч з арыгінальнымі драматычнымі творамі на сцэне БДТ ішлі і перакладныя. Ужо ў самыя першыя месяцы сваёй дзейнасці тэатр паставіў п'есу М. Горкага «На дне». У наступных сезонах на яго сцэне былі ажыццёўлены спектаклі па п'есах Б. Шоу «Вучань д'ябла», Р. Ралана «Ваўкі», А. Луначарскага «Падпольшчыкі», С. Паліванава «Жрэц Тарквіній».

Рэпертуар Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра ў першыя гады яго існавання складаўся пераважна з беларускіх п'ес і ў першую чаргу з п'ес самога Ул. Галубка. Па тэматыцы іх можна падзяліць на гістарычныя, гісторыка-рэвалюцыйныя і бытавыя. Па сваіх жанрах гэта пераважна альбо меладрамы, альбо камедыі. У іх даволі шырока паказваюцца самыя разнастайныя прадстаўнікі грамадскага асяроддзя. Многія з іх былі вельмі недасканалыя, прымітыўныя і схематычныя. Узаемаадносіны эксплуататараў і працоўных у іх таксама трактаваліся пераважна ў плане сямейна-маральных дачыненняў.

З небагатым і далёкім ад надзённых пытанняў рэпертуарам распачаў сваю працу ў Віцебску і Другі беларускі дзяржаўны тэатр. У склад яго ўваходзілі: «Цар Максімільян» А. Рамізава з дадаткамі з рэчыцкага варыянта народнай драмы, зробленымі М. Міцкевічам, «Сон у летнюю ноч» В. Шэкспіра, «Вакханкі» Эўрыпіда, «Эрас і Псіхея» Жуласкага, «Апраметная» В. Шашалевіча, «У мінулы

час» І. Бэна і «Астап» А. Глобы. З усяго гэтага рэпертуару толькі адна п'еса «Астап» закранала пытанне сучаснага жыцця, паказваючы быт паслярэвалюцыйнай вёскі.

Як бачым, абмежаванасць, а часта і нізкая якасць рэпертуару на першых парах працы беларускіх тэатраў складала сур'ёзную небяспеку для іх далейшага росту.

Камуністычная партыя дбайна сачыла за развіццём беларускага тэатральнага мастацтва. Сакратарыят ЦК КП(б)Б прыняў 18 жніўня 1927 г. спецыяльную пастанову аб задачах партыі ў галіне тэатральнай палітыкі, у якой указвалася, што неабходна праводзіць цвёрдую лінію на рашучае ўкараненне п'ес, якія адлюстроўвалі б эпоху будаўніцтва сацыялізма і культурнай рэвалюцыі. «Трымаючы курс на арыгінальную п'есу,— гаварылася ў пастанове,— неабходна ў той жа час... выкарыстоўваць перакладны рэпертуар, трымаць курс на выкарыстанне, галоўным чынам, п'ес тэатраў РСФСР і іншых саюзных рэспублік».

Выконваючы ўказанні партыі, тэатры рэспублікі з большымі намаганнямі пачынаюць працаваць над увасабленнем на сцэне сучаснай драматургіі. БДТ-1 стварае спектаклі па арыгінальных п'есах беларускіх драматургаў Я. Міровіча «Перамога» і «Запяюць верацёны», Я. Рамановіча «Мост», Г. Кобеца «Гута», Курдзіна «Міжбур'е», у якіх знаходзіць адлюстраванне сучаснае жыццё і сацыялістычнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі. Поруч з гэтым тэатр ставіць лепшыя творы рускай савецкай драматургіі — «Мяцеж» па аповесці Д. Фурманава, «Бронецягнік 14-19». Ус. Іванова, «Месяц злева» В. Біль-Белацаркоўскага і др.

Рашучы паварот да сучаснай п'есы робяць і другія тэатры. БДТ-2 ставіць «Разлом» Б. Лаўранёва, «Рэйкі гудуць» і «Горад вятроў» В. Кіршона і рад другіх, а БДВТ — «Гальштук» А. Глебава, «Дыктатура» І. Мікітэнкі, «Ярасць» Е. Яноўскага.

Трыццатыя гады ў развіцці беларускага тэатра адзначаны далейшым пашырэннем і паглыбленнем сучаснай савецкай тэматыкі ў яго рэпертуары і нястомнай барацьбой за авалоданне метадам сацыялістычнага рэалізму. Важную ролю у паспяховым развіцці тэатральнага мастацтва адыграла пастанова ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Гэтай пастановай партыя дапамагла дзеячам савецкага мастацтва рашуча пераадолець меўшыя месца ў іх творчасці памылкі пралет-

культаўскага і фармалістычнага парадку. З гэтага часу было пакончана з каставай замкнёнасцю прыхільнікаў так званай «пралетарскай культуры», быў адкрыты шырокі прастор для дзейнасці ўсіх майстроў мастацтва, якія стаяць на платформе Савецкай улады.

На гэтым шляху беларускія тэатральныя калектывы дасягнулі свайго сапраўднага росквіту і прафесійнай сталасці. Такія спектаклі на тэмы савецкай рэчаіснасці, як «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка, «Жыццё кліча» В. Біль-Белацаркоўскага, «Платон Крэчат» А. Карнейчука ў тэатры Я. Купалы, «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся» Я. Коласа, «Чалавек з ружжом» Н. Пагодзіна, «Гібель эскадры» А. Карнейчука ў тэатры Я. Коласа складаюць залатыя старонкі ў даваеннай гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва.

З поспехам працягвалі творчую работу беларускія тэатры і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, аддаючы сваё майстэрства справе абароны свабоды і незалежнасці нашай Радзімы. Тэатр імя Я. Купалы, працуючы ў Томску, аднавіў многія свае ранейшыя спектаклі і паставіў п'есу К. Сіманава «Хлопец з нашага горада». Паўнакроўным творчым жыццём жыў і працаваў у г. Уральску, а затым у Арэхава-Зуеве тэатр імя Я. Коласа, паставіўшы ў час вайны «Ягор Булычоў і іншыя» М. Горкага, «Проба агнём» К. Крапівы, «Нашэсце» Л. Ляонава, «Фронт» А. Карнейчука, «Крылатае племя» А. Первенцава, «Рускія людзі» К. Сіманава і іншыя спектаклі.

Сярод пасляваенных пастановак тэатра імя Я. Купалы неабходна адзначыць такія, як «З народам» і «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Вогненны мост» Б. Рамашова, «Калінавы гай» А. Карнейчука, «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка, «Забыты ўсімі» Н. Хікмета, «Пакуль мы маладыя». І. Мележа і многія інш.

Тэатр імя Я. Коласа за пасляваенныя гады з поспехам ажыццявіў таксама многія і многія новыя пастаноўкі, сярод якіх «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Вялікая сіла» Б. Рамашова, «Незабыўны 1919» Ус. Вішнеўскага, «Сям'я» І. Папова і інш.

Вялікіх поспехаў дабіліся вядучыя беларускія тэатры ў справе ўвасаблення неўміручых вобразаў класікаў рускай і зарубежнай драматургіі. На іх сцэнах з поспехам ажыццёўлены пастаноўкі п'ес М. Горкага, А. Астроўска-

га, А. Талстога, М. Гогаля, А. Чэхава, А. Сухава-Кабыліна, В. Шэкспіра.

Вялікіх творчых поспехаў дабіўся адзін са старэйшых рускіх тэатральных калектываў нашай рэспублікі Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага. Са значнымі дасягненнямі прыходзяць да саракагоддзя БССР і іншыя тэатральныя калектывы рэспублікі, якія працуюць на беларускай і рускай мовах у Мінску, Гомелі, Брэсце, Бабруйску і многіх другіх гарадах рэспублікі.

Славай і гордасцю беларускага народа з'яўляецца Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балета. Гісторыя гэтага тэатра таксама бярэ свой пачатак ад першага беларускага драматычнага калектыву. Яшчэ ў сезоне 1926—1927 гг. на сцэне БДТ-1 паявіўся рад оперна-балетных спектакляў. Былі пастаўлены трэці акт оперы «Русалка» (на беларускай мове), балетная сцэны «Вальпургіева ноч» з «Фаўста», «Палавецкі стан» з «Князя Ігара» і інш. Уключэнне іх у рэпертуар тэатра было не выпадковым. Беларускаму тэатру, які вырас пад уплывам народнай творчасці, заўсёды было ўласціва арганічнае спалучэнне драмы, музыкі і харэаграфіі. Найбольш ярка гэта праявілася ў тэатры І. Буйніцкага. Першыя спектаклі БДТ-1 «Машэка», «На купалле», «Вяселле», «Кавальваявода» і некаторыя іншыя таксама характарызаваліся сінтэтычнасцю. Праўда, опера і балет у далейшым не атрымалі развіцця ў сценах БДТ-1, але тут была закладзена аснова будучага музычнага тэатра[1]. Перад тым, як перайсці да агляду яго работы, неабходна хоць бы коратка спыніцца на развіцці беларускай музыкі, якая з'яўляецца асновай нацыянальнага опернага мастацтва.

---

Беларускі народ стварыў нямала цудоўных песень — глыбокіх, эмацыянальных, меладычных. Аднак прафесійная нацыянальная музыка, як і іншыя віды мастацтва, пачала па-сапраўднаму развівацца ў Беларусі толькі пры Савецкай уладзе. Першыя творы беларускай савецкай музыкі сведчаць аб тым, што творчасць нашых кампазітараў развівалася на песеннай нацыянальнай аснове і пад магутным уплывам рускай музыкі.

Зачынальнікі беларускай опернай, сімфанічнай, камернай музыкі М. Чуркін, М. Аладаў, Я. Цікоцкі былі вучня-

[1] У. Няфёд. «Беларускі тэатр», Мн., 1958.

мі рускіх кампазітараў і прынеслі ў Беларусь жывыя традыцыі рускай музычнай класікі.

Старэйшым прадстаўніком беларускай музыкі з'яўляецца кампазітар М. Чуркін. У 1921 г. ён зрабіў спробу стварыць у Беларусі оперу «Вызваленая праца», у якой імкнуўся адгукнуцца на падзеі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Опера была пастаўлена раз у Амсціслаўлі (1922 г.), а другі раз у Магілёве (1924 г.). Праз пяць год пасля стварэння оперы М. Чуркін напісаў адзін са сваіх лепшых твораў — сімфаньету для аркестра «Беларускія малюнкі», у якой шырока скарыстаў беларускія народныя песні і танцы. Сімфаньета стала прыкметным творам беларускай сімфанічнай музыкі.

Цесна звязаў з беларускай музыкай сваю працу кампазітар М. Аладаў, які ў 1924 г. прыехаў на педагагічную працу ў Мінскі музычны тэхнікум. Пачаўшы з рамансаў на словы беларускіх паэтаў, ён у 1927 г. напісаў аднаактовую камічную оперу «Тарас на Парнасе». У тыя ж гады ім была створана на беларускія тэмы 2-я сімфонія.

У Магілёўскай жа вобласці, у г. Бабруйску, працаваў у пачатку сваёй дзейнасці і трэці старэйшы кампазітар Беларусі Я. Цікоцкі. Там ім была напісана ў 1924—1927 гг. першая сімфонія, прысвечаная вызваленчай барацьбе беларускага народа. Сімфонія ўпершыню была выканана на ўрачыстым адкрыцці ў 1930 г. Беларускай Акадэміі навук. Як бачыце, сувязь нашай Акадэміі з магіляўчанамі бярэ свой пачатак у даўнія гады.

У другой палове 20-х гадоў стварэннем новых і апрацоўкай народных песень пачынаюць сваю дзейнасць маладыя кампазітары І. Любан, Г. Пукст, Н. Сакалоўскі і інш.

Дваццатыя гады ў гісторыі беларускай музыкі былі гадамі зараджэння нацыянальнай оперы, сімфанічнай і камерна-інструментальнай музыкі, раманса, песень. Гэта быў перыяд падрыхтоўкі беларускіх творчых і выканаўчых музычных кадраў. Музычным цэнтрам тых гадоў быў Мінскі музычны тэхнікум. З ліку выпускнікоў гэтага тэхнікума ў 1930 г. была адкрыта дзяржаўная студыя оперы і балета, у склад якой увайшлі тады яшчэ маладыя, а цяпер ужо шырока вядомыя майстры беларускай опернай сцэны Л. Александроўская, Р. Млодэк, М. Дзянісаў, І. Балоцін.

Пад гэты час у Беларусі была даволі ўжо шырокая сетка музычных школ і вучылішчаў. У 1932 г. на базе Мінскага музычнага вучылішча была створана Беларуская Дзяржаўная кансерваторыя, якая адыграла і іграе вялікую

ролю ў падрыхтоўцы прафесійных выканаўцаў, педагогаў і кампазітараў. У гэтай справе неацанімую дапамогу, асабліва на першых парах работы кансерваторыі, аказалі буйныя спецыялісты Масквы, Ленінграда, як прафесар В. Залатароў, спявак-вакаліст П. Ціханаў, піяністы В. Сямашка, Г. Пятроў і інш.

Беларускае музычнае мастацтва ва ўсіх яго формах і жанрах дасягнула за гады Савецкай улады значных поспехаў. Многія песні, рамансы беларускіх кампазітараў сталі папулярнымі і любімымі ўсімі народамі Савецкага Саюза. У якасці прыкладаў можна назваць песні: «Мы беларусы», якая стала Гімнам нашай рэспублікі, і «Нёман» Н. Сакалоўскага, «Бывайце здаровы» І. Любана, «Радзіма мая дарагая» і «Лясная песня» У. Алоўнікава, «Пад цёмным лесам» А. Багатырова, рамансы «Мы сустрэнемся В. Яфімава, «Шаўковыя травы» Г. Пукста, рамансы А. Багатырова на словы Я. Купалы і інш. Шырокае прызнанне ў народзе атрымалі песні самадзейных кампазітараў: «Любы зоры залацістыя» Г. Галавасцікава, «Вясельная» І. Маціна, «Хорошо весною бродится» П. Касача.

Беларускія кампазітары напісалі рад удалых арыгінальных хораў і апрацавалі таксама для хору рад народных песень.

Лепшыя хоры, песні і рамансы беларускіх кампазітараў выдзяляюцца сваёй жыццярадаснасцю, выразнасцю, яркай народнай меладычнасцю.

Шырокага развіцця дасягнула сімфанічная і оперная творчасць беларускіх кампазітараў. Новыя сімфанічныя творы іх сведчаць аб разнастайнасці тэматыкі і формы, аб узросшым майстэрстве і імкненні да праграмнасці. Да ліку лепшых твораў гэтага жанру належыць 1-я і 2-я сімфоніі А. Багатырова, 3-я сімфонія і фантазія для скрыпкі з аркестрам у 4-х частках М. Аладава, 3-я сімфонія Я. Цікоцкага, сімфанічныя паэмы «Партызанская быль» і «Нарач» У. Алоўнікава, 1-шы і 2-гі фартэпіянныя канцэрты Д. Камінскага.

Нястомныя клопаты партыі аб развіцці савецкага музычнага мастацтва, у прыватнасці, указанні аб напрамках развіцця оперы і балета, стварылі ўсе ўмовы для з'яўлення першых беларускіх нацыянальных оперных і балетных спектакляў. У здзяйсненні гэтага, поруч з кампазітарамі, важную ролю адыграў Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета.

Пачатак опернага і балетнага тэатра, як я ўжо сказаў

раней, быў закладзены яшчэ ў сценах Першага беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра. Далейшымі крокамі ў яго развіцці былі пастаноўкі студэнтамі папернага класа Мінскага музычнага вучылішча опер: «Фауст» (1928), «Русалка» (1929) і «Севільскі цырульнік» (1930), а затым стварэнне ў 1930 г. дзяржаўнай студыі оперы і балета, на сцэне якой былі пастаўлены «Залаты пеўнік» і «Царская нявеста» Н. Рымскага-Корсакава, «Кармэн» Ж. Бізэ і балет Р. Гліэра «Чырвоны мак».

У 1933 г. на базе опернай студыі быў адчынены Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета. У аснову творчай дзейнасці тэатра з першага дня яго існавання быў пакладзен прынцып рэалістычнага раскрыцця музыкальна-сцэнічных вобразаў. У рэпертуар яго ўвайшлі многія класічныя оперы і балеты і лепшыя творы гэтага жанру савецкіх кампазітараў. На сцэне тэатра былі пастаўлены «Іван Сусанін» М. Глінкі, «Яўгеній Анегін», «Пікавая дама», «Чаравічкі», «Мазепа», «Іаланта» П. Чайкоўскага, «Князь Ігар» А. Барадзіна, «Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага, «Дэман» А. Рубінштэйна, «Травіята», «Рыгалета», «Аіда» Дж. Вердзі, «Севільскі цырульнік» Дж. Расіні, «Флорыя Тоска», «Чыо-Чыо-Сан» Дж. Пучыні, «Лакмэ» Л. Дэліба, «Страшны двор» С. Манюшкі і інш.

Балетны калектыў тэатра паказаў «Лебядзінае возера» і «Спячая красуня» П. Чайкоўскага, «Капелію» Л. Дэліба, «Эсмеральда» Ц. Пуні, Р. Гліэра, С. Васіленкі, «Бахчысарайскі фантан» Б. Асаф'ева, «Дон-Кіхот» Л. Мінкуса і др.

З оперных твораў савецкіх кампазітараў на сцэне тэатра былі пастаўлены «Ціхі Дон» І. Дзяржынскага, «Маладая гвардыя» Ю. Мейтуса і некалькі беларускіх опер і балетаў. У 1939—1940 гг. тэатрам былі ажыццёўлены пастаноўкі оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны» (лібрэта П. Броўкі), оперы А. Багатырова «У пушчах Палесся» (лібрэта Я. Рамановіча) па аповесці Я. Коласа «Дрыгва» і балета М. Крошнера «Салавей», лібрэта якога напісана па матывах аднайменнай аповесці З. Бядулі.

У оперы «Міхась Падгорны» кампазітар шырока скарыстаў народную песню як у выглядзе непасрэдных цытат, так і ў выглядзе арганічнага ўключэння народных напеваў і інтанацый у вакальную і аркестровую тканіну оперы. Найбольш удаліся аўтару хоры і уверцюра. Нядрэнна напісаны арыі Міхася і Марысі.

У оперы А. Багатырова «У пушчах Палесся» менш адчуваецца непасрэдная цытацыя народных песень, але

нацыянальны каларыт музыкі захоўваецца. Вылучаюцца сваёй выразнасцю і напеўнасцю арыі Кузьміча, Андрэя, Аўгінні і асабліва хоры партызан.

Цікавы па сваёй музыцы і першы беларускі балет «Салавей», у якім шырока скарыстаны беларускія танцы.

Усе гэтыя тры творы, напісаныя аб падзеях гісторыі Беларусі, прасякнуты матывамі барацьбы беларускага народа за сваё вызваленне.

Гэтымі матывамі вызначаюцца і іншыя беларускія оперныя і балетныя творы, пастаўленыя на сцэне тэатра оперы і балета. Опера Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся» (лібрэта П. Броўкі і Я. Рамановіча) прысвечана партызанскай барацьбе беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У балеце В. Залатарова «Князь-возера», лібрэта якога напісана М. Клімковічам па матывах беларускіх народных паданняў, паказваецца барацьба беларускіх прыгонных сялян супроць бязлітаснага князя-феадала. У оперы «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса расказваецца аб паўстанні 1863 г. Па сваіх матывах барацьбы з няволяй да гэтых твораў, напісаных на беларускім матэрыяле, прымыкае і опера А. Багатырова «Надзежда Дурава» (лібрэта П. Келера). У оперы Г. Пукста «Марынка» (лібрэта Э. Агняцвет) расказваецца аб нядаўняй барацьбе беларускага народа з гітлераўскімі захопнікамі. Аб паўстанні нарачанскіх рыбакоў супроць белапольскіх акупантаў у Заходняй Беларусі напісана опера Е. Туранкова «Яснае світанне» (лібрэта А. Бачылы), пастаўлена тэатрам да 40-годдзя БССР. Нельга не ўспомніць і другую оперу Е. Туранкова — «Кветка шчасця», якая ў свой час з поспехам прайшла на сцэне опернага тэатра і многія арыі і хоры з якой трывала ўвайшлі ў рэпертуар нашых канцэртных выканаўцаў.

Некаторыя оперы беларускіх кампазітараў чакаюць яшчэ свайго ўвасаблення на сцэне. Партызанскай барацьбе прысвечана опера М. Аладава «Андрэй Касценя», прававобразам якога з'яўляецца гераічны сын беларускага народа К. Заслонаў. Аб змаганні беларускага народа супроць лютага князя-феадала расказваецца ў оперы Г. Пукста «Машэка», народная легенда пра якога, дарэчы, звязана з заснаваннем г. Магілёва.

Кампазітар П. Падкавыраў напісаў оперу «Павел Карчагін», кампазітар Г. Вагнер закончыў балет «Падстаўная нявеста».

Прыведзены пералік арыгінальных беларускіх опер і балетаў сведчыць аб тым, што беларускія савецкія кампа-

зітары з поспехам авалодваюць вяршынямі музычнага мастацтва — оперным і балетным жанрам. У гэтым, як я ўжо сказаў, ёсць заслуга і нашага тэатра оперы і балета, у якім выраслі такія таленавітыя пастаноўшчыкі, дырыжоры і выканаўцы, сапраўдныя майстры опернага і балетнага мастацтва, як Л. Александроўская, М. Дзянісаў, А. Нікалаева, І. Балоцін, М. Зюванаў, Л. Бражнік, Т. Шымко, К. Кудрашова, Т. Ніжнікава, Р. Асіпенка, Л. Ражанава.

Вялікую ролю ў справе папулярызацыі беларускай музыкі і харавой класікі, у справе павышэння пеўчай культуры шырокіх народных мас праводзяць Дзяржаўны хор Беларускай ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Р. Р. Шырмы і Беларускі дзяржаўны народны хор пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Г. І. Цітовіча.

Самым маладым відам беларускага мастацтва з'яўляецца кіно. Да Вялікага Кастрычніка Беларусь, як і многія іншыя ўскраіны Расійскай імперыі, не мела ні сваёй кінавытворчасці, ні свайго кінапракату.

Мала палепшылася становішча з кінематографам і ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Толькі ў канцы 1924 года ў адпаведнасці з рэзалюцыяй XIII з'езда Камуністычнай партыі была падпісана Пастанова Савета Народных Камісараў БССР аб стварэнні Дзяржаўнага кіраўніцтва па справах кінематаграфіі і фатаграфіі — «Белдзяржкіно».

Арганізацыя новай справы пачыналася літаральна на голым месцы. Не было кінастудыі, здымачных павільёнаў, апаратуры, не было творчых работнікаў. Але на дапамогу прыйшлі кінематаграфісты Масквы і Ленінграда. Многія арганізацыйныя, эканамічныя, тэхнічна-вытворчыя і некаторыя іншыя не менш важныя задачы былі вырашаны ў самыя сціслыя тэрміны. Ужо ў канцы 1925 года было набыта навейшае па таму часу абсталяванне для адкрытай у Мінску кіналабараторыі, а праз год пры самай непасрэднай дапамозе С. М. Кірава стала ў строй кінафабрыка «Белдзяржкіно».

На першым этапе кінематаграфісты рэспублікі, выкарыстоўваючы творчы вопыт, набыты старэйшымі кінаарганізацыямі краіны, выпускалі хроніку, кароткаметражныя дакументальныя і агітацыйна-прапагандысцкія фільмы. Аднак абмежаваць сваю дзейнасць толькі кінапубліцыстыкай для кінематаграфістаў рэспублікі — гэта азна-

чала б спыніцца на паўдарозе да вызначанай мэты. З цягам часу, калі ўмацавалася эканамічная і вытворчая база, паўстала пытанне і аб выпуску мастацкіх фільмаў. Праўда, і ў гэтым напрамку было таксама нямала цяжкасцей. Востра адчуваўся недахоп высокакваліфікаваных кадраў. У сувязі з гэтым выключна вялікае значэнне меў прыход у маладую беларускую кінематаграфію сталых, спрактыкаваных майстроў рускага кінамастацтва — рэжысёраў Ю. В. Тарыча, Ул. Р. Гардзіна.

Выхаваны на лепшых прагрэсіўных традыцыях рускай культуры, Юрый Віктаравіч Тарыч прыйшоў у беларускі кінематограф з пэўнымі эстэтычнымі прынцыпамі, з немалым багажом жыццёвых назіранняў. Цвёрда стаючы на пазіцыях рэалістычнага мастацтва, зразумелага працоўнаму чалавеку, ён імкнуўся зблізіць кіно з нацыянальным тэатрам, музыкай, з іншымі мастацтвамі і ў першую чаргу з роднай літаратурай.

Дэбют Ю. Тарыча на студыі «Белдзяржкіно» ў якасці рэжысёра і сцэнарыста звязан з пастаноўкай фільма «Лясная быль», у аснову якога пакладзена экранізацыя аповесці выдатнага беларускага пісьменніка Міхася Чарота «Свінапас».

Драматычныя калізіі «Лясной былі» ў асноўным супадаюць з літаратурнай першакрыніцай. Праўда, у фільме яны набылі большую маштабнасць, больш бачны канкрэтны характар. Карціны марадзёрства і п'янага разгулу белапалякаў, бурны рост вызваленчых сіл народа, паўстаўшага на барацьбу з акупантамі, бітва за Мінск у незабыўныя ліпеньскія дні 1920 года паказаны Ю. Тарычам амаль з гістарычнай дакладнасцю. Фільм хвалюе сваёй суровай жыццёвай праўдай.

Пасля «Лясной былі» ў 1929 годзе выходзіць на экраны карціна Ул. Гардзіна «Песня вясны», пастаўленая па аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця». У тым жа годзе Ю. Тарыч паставіў фільм «Да заўтра» аб жыцці і рэвалюцыйнай барацьбе юнакоў і дзяўчат Заходняй Беларусі. Пра абуджэнне самасвядомасці сялянкі, аб яе імкненні парваць ланцугі дамастроеўшчыны і заняць раўнапраўнае з мужчынам месца ў жыцці і калектыўнай працы апавядаў фільм рэжысёра Я. Дзігана «Жанчына» (1932 г.). Тэма сучаснасці закранулася таксама ў фільмах «Джэнтльмен і певень» (1928 г.), «Нянавісць», «Крываножка» (1930 г.), «Сонечны паход», «Ураган», «Гонар» (1931 г.), «Шчасце» (1932 г.) і іншых.

Ужо толькі адзін гэты голы, далёка не поўны пералік поўнаметражных мастацкіх фільмаў, выпушчаных на экраны за якіх-небудзь пяць год, можа сведчыць, наколькі часта кінематаграфісты рэспублікі звярталіся да тэмы сучаснасці.

Поруч з гэтым беларуская кінастудыя ставіць фільмы і на гісторыка-рэвалюцыйныя тэмы. Партызанская барацьба ізноў знайшла адлюстраванне ў карціне П. Малчанава «Хвоі гамоняць» (1929 г.). Аб паўстанні 1863 года на Беларусі апавядаў «Кастусь Каліноўскі» (1928 г.) Ул. Гардзіна. Да матэрыялаў, звязаных з белагвардзейскім стракапытаўскім мяцяжом, звярнуўся рэжысёр А. Файнцымер пры пастаноўцы фільма «Атэль «Савой» (1930 г.). Сярод гэтых работ найбольшай папулярнасцю карысталася карціна «Кастусь Каліноўскі». Яе поспеху ў значнай ступені спрыяла таленавітая ігра артыстаў Мікалая Сіманава ў заглаўнай ролі і Барыса Ліванава, стварыўшага жывы, пераканаўчы вобраз маладога графа Станіслава Скірмунта. Гледачу запомніўся таксама і казачы есаул у выкананні Ул. Уладамірскага. Гэта была яго першая значная роля ў кіно.

Перыяд 30-х гадоў — адзін з самых цікавых этапаў у развіцці савецкай кінематаграфіі. У гэты перыяд у кіно з'явіўся новы выяўленчы сродак — гук. У рэспубліках павялічыўся выпуск кінакарцін. Актыўна працавалі ў гэты перыяд і работнікі «Белдзяржкіно».

Значнай удачай беларускай кінематаграфіі з'явіўся фільм «Двойчы народжаны» рэжысёра Э. Аршанскага (сцэнарысты Р. Кобец і Э. Аршанскі), у якім ставілася важная праблема перавыхавання чалавека ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці. У ролі героя фільма Рыгора Лопуха здымаўся выдатны беларускі акцёр У. Крыловіч, які пераканаўча паказаў перараджэнне свайго героя.

Некалькі карцін на матэрыяле тагачаснай рэчаіснасці паставіў рэжысёр У. Корш-Саблін («Залатыя агні», «Дачка Радзімы» і інш.). Сярод іх асабліва шырокую папулярнасць набыў фільм «Шукальнікі шчасця» (сцэнарысты І. Зельцар і Р. Кобец).

Заслужаным поспехам карысталася карціна Ю. Тарыча «Шлях карабля», якая знаёміла гледачоў з самаадданай работай ЭПРОНа.

Вялася работа ў беларускім кіно і над тварэннем фільмаў для дзяцей. Поспехам сярод юных гледачоў карыстаў-

ся фільм «Палескія рабінзоны», пастаўлены рэжысёрамі І. Бахарам і П. Малчанавым па сцэнарыю Я. Маўра.

Беларускімі кінематаграфістамі ў 30-я гады былі ажыццёўлены таксама пастаноўкі трох кінакамедый «Дзяўчына спяшае на спатканне», «Мая любоў» і «Песня аб дружбе». Вясёлая, поўная смеху кінакарціна «Дзяўчына спяшае на спатканне» (сцэнарыст А. Зорыч, рэжысёр М. Вернер), нягледзячы на яе неглыбокі змест, утрымалася на экранах аж да нашых дзён.

Значная работа праведзена майстрамі беларускага кіно па экранізацыі твораў А. Чэхава («Мядзведзь», «Чалавек у футарале», «Маска», «Мянтуз»).

Найбольшых поспехаў дасягнула беларуская кінематаграфія даваеннага часу ў гісторыка-рэвалюцыйнай тэме. Тут трэба назваць такія карціны, як «Першы ўзвод» (сцэнарыст Б. Брадзянскі, рэжысёр У. Корш-Саблін) — аб перадодзе вайны імперыялістычнай у грамадзянскую; «Агнявыя гады» (сцэнарыст І. Лукоўскі, мастацкі кіраўнік У. Корш-Саблін, рэжысёр С. Наўроцкі) — аб грамадзянскай вайне ў Беларусі; «Балтыйцы» (сцэнарысты А. Штэйн і А. Зіноўеў, рэжысёр А. Файнцымер) — аб геранчнай абароне кранштацкімі маракамі подступаў да Ленінграда ад англійскіх інтэрвентаў і рускіх белагвардзейцаў; «11 ліпеня» (сцэнарысты А. Зіноўеў і Ю. Тарыч, рэжысёр Ю. Тарыч) — аб змаганні беларускага народа за ўстанаўленне Савецкай улады ў гады грамадзянскай вайны і інш.

Ва ўсіх беларускіх фільмах здымаліся пераважна рускія акцёры. Яны многае зрабілі для развіцця беларускага кінамастацтва. Аднак патрэбна было рыхтаваць і свае кадры кінаработнікаў. Адарванасць кінастудыі ад Беларусі не магла спрыяць гэтаму, і ў 1938 г. кінастудыя «Савецкая Беларусь» была пераведзена ў Мінск. На новым месцы пачалася падрыхтоўка да здымкаў новых фільмаў, але напад фашысцкай Германіі перарваў гэтую работу.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны кінастудыя «Беларусьфільм» аднавіла сваю работу ў Мінску. За гэты час яна выпусціла каля двух дзесяткаў поўнаметражных мастацкіх кінакарцін і значную колькасць дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Сярод мастацкіх твораў Беларускай студыі ёсць арыгінальныя фільмы, фільмы-спектаклі і фільмы-канцэрты. Бадай, усе яны яшчэ свежыя ў нашай памяці, і называць іх няма патрэбы. Я назаву з іх толькі найбольш удалыя, якія, безумоўна, сведчаць аб далейшых поспехах беларускай кінематаграфіі. Гэта —

«Канстанцін Заслонаў», «Пяюць жаваранкі», «Хто смяецца апошнім», «Беларускі канцэрт», «Міколка-паравоз», «Нашы суседзі», «Шчасце трэба берагчы» і некаторыя іншыя.

Зараз на экраны рэспублікі выходзіць новы мастацкі фільм нашай студыі «Чырвонае лісце», прысвечаны гераічнай барацьбе працоўных Заходняй Беларусі супраць белапольскіх акупантаў. Правобразам галоўнага героя гэтага фільма з'яўляецца былы камсамолец-падпольшчык, цяперашні сакратар Маладзечанскага абкома партыі, верны сын беларускага народа Сяргей Прытыцкі. Ёсць усе падставы спадзявацца, што фільм знойдзе цёплы прыём у гледача.

Неўзабаве выйдуць на экраны яшчэ дзве кінакарціны Беларускай кінастудыі: «Гадзіннік спыніўся апоўначы» — аб змаганні беларускага народа супраць гітлераўскіх стаўленікаў у час акупацыі імі Беларусі і «Строгая жанчына» — аб самаадданай рабоце простай вясковай жанчыны на пасадзе старшыні сельсавета.

Поспехі беларускай кінематаграфіі немалыя. Яна заклала ўжо трывалыя асновы для стварэння яркага паўнакроўнага нацыянальнага мастацтва. Далейшыя яе поспехі залежаць ад падрыхтоўкі маладых кадраў, ад больш шырокага прыцягнення для работы ў кіно беларускіх сцэнарыстаў і акцёраў, ад цеснай сувязі творчых работнікаў з нашым кіпучым савецкім жыццём.

---

Беларускае выяўленчае мастацтва, у адрозненне ад нашага кінамастацтва, мела свае пэўныя традыцыі яшчэ і да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Аднак сапраўднага свайго росквіту, як і тэатр і музыка, яно дасягнула толькі пры Савецкай уладзе, калі для развіцця яго былі створаны ўсе ўмовы, калі яно стала справай усяго народа, часткай дзяржаўнага будаўніцтва беларускай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу.

Ужо ў першыя гады Савецкай улады на тэрыторыі Беларусі, нягледзячы на цяжкія ўмовы грамадзянскай вайны, у Гомелі, Бабруйску і іншых гарадах былі арганізаваны гурткі і курсы выяўленчага мастацтва. Найбольш інтэнсіўна мастацкая дзейнасць праявілася ў гэты перыяд у Віцебску, дзе ў 1917 г. была створана народная школа выяўленчага мастацтва, пераштвораная потым у мастацкі тэхнікум. Але ў Віцебску сярод пэўнай часткі мастакоў

шырока былі распаўсюджаны і розныя фармалістычныя плыні. Тут дзейнічалі такія крайнія фармалісты, як Малевіч і Марк Шагал, першы з якіх лічыцца цяпер у ЗША адным з заснавальнікаў мадэрнізму, а другі карыстаецца папулярнасцю першага фармалістычнага ілюстратара Бібліі.

Партыя вяла рашучую барацьбу з усялякімі буржуазнымі фармалістычнымі тэорыямі і практыкай. Яна накіроўвала мастакоў на шлях рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці. І асноўная маса мастакоў пайшла іменна гэтым шляхам.

Вялікай школай майстэрства для стваральнікаў мастацтва Савецкай Беларусі была творчасць выдатных рускіх мастакоў. У майстроў рускага рэалістычнага мастацтва вучылася як старэйшае пакаленне беларускіх мастакоў (М. Эндэ, Ю. Пэн, М. Керзін, В. Волкаў, Д. Полазаў, Я. Кругер), так і маладшае (З. Азгур, І. Ахрэмчык, А. Бембель, Я. Зайцаў, А. Глебаў, В. Цвірка і інш.).

Першыя вынікі работы беларускіх мастакоў былі падведзены ў 1925 г. на Усебеларускай мастацкай выстаўцы. Выстаўка ахоплівала жывапіс, скульптуру, графіку, тэатральна-дэкарацыйнае і прыкладное мастацтва. На жаль, на гэтай выстаўцы работ на сучасную тэматыку было яшчэ вельмі мала.

У справе набліжэння мастакоў да сучаснасці вялікае значэнне меў уведзены ў 1927 г. першы дзяржаўны заказ на тэму «Чалавек за работай». У выніку гэтага былі напісаны такія палотны, як «Работніцы» М. Эндэ, «Апрацоўка льну» М. Філіповіча, «Плытагоны» В. Волкава, «Дзіцячая калонія» Я. Кругера.

Далейшыя Усебеларускія мастацкія выстаўкі, якія праводзіліся ў 1929 і 1931 гадах, паказалі значны рост карцін на савецкую тэматыку: «Партызаны» М. Эндэ, «Партызаны» В. Волкава, «Кавальскі цэх» В. Сухаверхава, «Брыгада ў калгасе» П. Гаўрыленкі, некалькі карцін на тэмы калгаснага жыцця Я. Кругера і рад іншых.

Паспяхова развіваўся партрэтны жанр. Мастак В. Волкаў напісаў партрэт У. І. Леніна, А. Грубэ стварыў скульптуру «У. І. Ленін на трыбуне», Д. Полазаў — партрэт Я. Купалы, Я. Кругер — партрэт Я. Коласа, З. Азгур і А. Бразер стварылі бюсты Г. Скарыны.

Рашучы паварот да сучаснасці, да жыцця народа адбываецца ў творчасці беларускіх мастакоў пасля пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх ар-

ганізацый». У творчасці мастакоў з'яўляюцца новыя фарбы. Я. Зайцаў піша карціну «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск», М. Манасзон — «Сустрэча танкістаў у Заходняй Беларусі», В. Волкаў — «Выступленне таварыша Свярдлова», скульптар А. Жораў стварае скульптуру «Г. К. Арджанікідзе ў разведцы пад Барысавам», А. Глебаў — «Рэўваенсавет 1-й Коннай у атацы».

Вялікую работу правялі мастакі Беларусі ў 30-я гады па афармленню дэкаратыўнымі роспісамі і скульптурай архітэктурных збудаванняў — Дома ўрада, Дома Савецкай Арміі ў Мінску і інш.

У дні Вялікай Айчыннай вайны беларускія мастакі знаходзіліся ў арміі і партызанскіх атрадах, працавалі ў газетах і іншых выданнях. Але яны не пакідалі і творчай работы. З. Азгур стварыў партрэтныя бюсты В. В. Талаліхіна, Смалячкова, Бацькі Міная, Даватара, генерал-маёра Радзімцава, Ракасоўскага і іншых герояў і простых байцоў Вялікай Айчыннай вайны.

Яркі па характарыстыцы і арыгінальны па кампазіцыі вобраз лётчыка Гастэлы стварыў скульптар А. Бембель. Мастак І. Ахрэмчык напісаў вялікае палатно «Пасяджэнне ЦК КП(б)Б у Лёзна» пасля трансляцыі па радыё выступлення І. В. Сталіна, у якім паказвае адзін з адказных момантаў у жыцці беларускага народа, калі быў пакладзен пачатак шырокай партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Узрушанае палатно «Пахаванне партызана» напісаў Я. Зайцаў. Аб партызанскім руху расказвае карціна П. Гаўрыленкі «Партызаны ў Палессі».

Багаццем тэм і разнастайнасцю жанраў вызначаецца мастацтва Беларусі ў пасляваенныя гады. Асноўную тэматыку іх складаюць тэмы партызанскай барацьбы і тэмы аднаўлення разбураных вайной гарадоў і сёл рэспублікі.

З тэматычных карцін пра баявое жыццё партызан найбольш цікавымі з'яўляюцца карціны: «Непакораныя» В. Цвіркі, «Вядуць палонных немцаў» А. Шыбнёва, «Дапамога Масквы партызанам» Е. Ціхановіча, «За Савецкую Беларусь» В. Сухаверхава, «Партызанская пераправа» П. Гаўрыленкі.

З карцін батальнага жанру нельга не адзначыць такіх, як «Стаяць насмерць» Я. Зайцава, «Капітуляцыя баб-руйскай фашысцкай групіроўкі» М. Беляніцкага і І. Грынюка, «Клятва танкістаў» М. Манасзона, а таксама групавыя скульптуры «За Савецкую Радзіму» А. Бембеля і «Вызваленне» С. Селіханава.

Вялікі ўклад у справу развіцця партрэтнага беларускага мастацтва ўнёс З. Азгур, стварыўшы скульптурныя партрэты У. І. Леніна, Ф. Э. Дзяржынскага, Я. Коласа і многіх другіх палітычных і культурных дзеячоў.

Значных поспехаў дасягнулі беларускія мастакі ў галіне гістарычнага жывапісу. У якасці прыкладу адзначу такія жывыя і яркія палотны, як «Партызанскі парад у 1944 г. у Мінску» Я. Зайцава і «Трэцяга ліпеня 1944 г. у Мінску» В. Волкава.

Многія творы беларускіх мастакоў прысвечаны працоўнай дзейнасці савецкага чалавека і яго побыту. З іх найбольш яркімі і па пачуццю і па каларыту з'яўляюцца творы «Малацьба ў адноўленым калгасе» І. Гембіцкага, «З зямлянак у новыя дамы» П. Гаўрыленкі, «Зварот у родны калгас» Р. Кудрэвіч, «Вузаўцы» В. Волкава, «Першае верасня» А. Волкава, «Вячэрні адпачынак» А. Шаўчэнкі, «Сяброўкі» П. Рманоўскага, «Шахматысты» А. Гугеля, «На канікулы» А. Ткачова.

Беларускія мастакі напісалі многа цудоўных, свежых і каларытных пейзажаў. Нямала цікавых работ створана і ў галіне графікі.

Саракагоддзе БССР беларускія мастакі рыхтуюцца сустрэць новымі творамі. Аб іх раскажа нам прысвечаная гэтай даце мастацкая выстаўка.

---

Поспехі беларускага народа ва ўсіх галінах яго мастацкай дзейнасці надзвычай вялікія. Радасным дасягненнем з'яўляецца і той факт, што створаныя мастацкія каштоўнасці не ляжаць мёртвым грузам, не з'яўляюцца ўласнасцю кучкі багацеяў, а сталі агульным здабыткам працоўнага народа — творца і вышэйшага цаніцеля іх, і служаць вялікай справе духоўнага ўзбагачэння будаўнікоў камунізма. Здзейсніліся словы У. І. Леніна: мастацтва належыць народу.

Праграма камуністычнага будаўніцтва раскрывае новыя грандыёзныя перспектывы развіцця савецкай культуры. У сувязі з гэтым перад работнікамі культуры стаяць вялікія і адказныя задачы. Для здзяйснення іх партыя ўказвае і шляхі: гэта — адданасць работнікаў літаратуры і мастацтва вялікай справе камунізма, глыбокая партыйнасць, неразрыўная сувязь з народам.

*1959 г.*

## НА ЧУЖЫНЕ І ДОМА

Для творчага таленту П. Броўкі заўсёды была характэрнай вельмі чулая рэакцыя на ўсе новыя падзеі і з'явы жыцця. Гэтая асаблівасць выразна праявілася і ў дадзеным зборніку, напісаным паэтам за час яго прабывання ў Злучаных Штатах Амерыкі.

П. Броўка знаходзіўся ў гэтай краіне на працягу трох з лішнім месяцаў у якасці члена дэлегацыі Беларускай ССР на XIV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Невялікі параўнальна час прабывання ў Злучаных Штатах і занятасць па асноўнай рабоце не дазволілі П. Броўку шырока і падрабязна азнаёміцца з гэтай найбольш паказальнай краінай капіталістычнага свету. І ўсё ж вострае і дапытлівае вока паэта заўважыла вельмі характэрныя з'явы і рысы з жыцця амерыканскага грамадства.

З кнігі П. Броўкі перад намі выразна паўстаюць дзве Амерыкі — Амерыка вялікага багацця і Амерыка беднасці і гора. Такое ўражанне складваецца ў паэта ўжо з самага першага яго погляду на гэту краіну, заўзятыя прапагандысты якой імкнуцца пераканаць увесь свет, «што ў ёй — нібыта самы рай».

Нягледзячы на свае першыя ўражанні П. Броўка не хацеў бы быць прадузятым, і таму ён не спяшае з вывадамі. Паэт добрасумленна канстатуе пакуль што толькі факты. Ён гаворыць: «Не ведаю адносна раю, а што багата — дык відаць». І ў другім месцы з той жа аб'ектыўнасцю зазначае: «Вялікі, кажуць нам, Нью-Йорк, і сапраўды — вялікі».

Але ні багацце, ні веліч славутага горада не выклікаюць у паэта ні захаплення, ні зайздрасці. Вельмі ўжо адразу кідаюцца ў вочы жахлівыя кантрасты гэтага горада, дзе «ўсё крычыць, кудысьці мкнецца», дзе «праспекты, стрыты, што цясніны, як бы на мерку на адну», дзе небаскробы выглядаюць бяздушнымі прывідамі, дзе «ў Гарлема прадонні чорным гібеюць чорныя рабы», дзе «за пахлёбкаю нішчымнай стаіць даўжэзная чарга».

І калі пры самым першым знаёмстве са славутай капіталістычнай краінай савецкаму паэту становіцца толькі крыху «смешнавата», «што той буржуй, нібы з плаката, ідзе па трэцім авеню», дык пры далейшым азнаямленні з яе жыццём малюнкі людской галечы і гора, занядбанасці і бяспраўя выклікаюць у сэрцы глыбокі боль. Паэт праў-

дзіва паказвае карціны чалавечай нядолі, і вывады аб незлічоных багаццях хвалёнай капіталістычнай краіны прыходзяць самі сабой:

І хоць у сейфы Уол-стрыта
Ліецца золата ракой,
Мы знаем, як яно здабыта,—
На ручаях крыві людской.

Славуты амерыканскі «рай» аказваецца на самай справе сапраўдным пеклам. І на безупынны крык заступнікаў і абаронцаў «свабоднага» капіталістычнага свету П. Броўка слушна адказвае:

Я знаю —
крыкунам такім
Чаго не хочуць — досыць,
Ім свет свабодны.
А як тым,
Што сеюць, жнуць і косяць?

На гэтае пытанне паэт дае беспамылковы адказ вобразам бяздомнага музыкі, з якім сыгралі «злосны жарт яго гаспадары». Выкінуты з жыцця, усімі занядбаны, бяздомны музыкант стаў жабраком. Паказваючы яго сярод вясёлага тлуму і пышнай раскошы, П. Броўка з горкай іроніяй зазначае: «Яму пад клёнам ложак ёсць у парку гарадскім».

Іранічныя радкі аб «усеагульным дабрабыце і шчасці» амерыканскага народа пранізваюць многія вершы зборніка «Далёка ад дому» і часта перарастаюць у бязлітасную сатыру на сапраўдных валадароў жыцця, на іх прыслужнікаў і адвакатаў, на іх фальшывыя дагматы і антычалавечную мараль (вершы «Чанкайшыст», «Плаці!», «Кукарэка», «Рок-н-рол» і інш.).

Высмейваючы дзікунскія норавы амерыканскай буржуазіі, П. Броўка з вялікай сімпатыяй гаворыць аб простым народзе, «змалку адданым сваёй зямлі», працавітым і здольным, залатымі рукамі якога створана ўсё, чым сапраўды можа ганарыцца Амерыка (вершы «На чужыне», «Сапраўднаму амерыканцу» і інш.). Да гэтага чалавека працы ў сэрцы паэта, як ён зазначае, «няма ніякай злосці», наадварот, яно поўна самых добразычлівых яму пажаданняў:

Ну, што ж, у працы ў тваёй
Жадаю шчыра — ўдачы.

Зборнік П. Броўкі называецца «Далёка ад дому». Сапраўды, напісаны ён паэтам далёка ад дому, на чужыне, але напісаны чалавекам, сэрца якога заўсёды дома, на



Пятро Глебка
з унукамі на дачы. 1967 г.



Пятро Глебка і Пятрусь Броўка
ў г. Полацку. 1967 г.

радзіме, разам са сваім народам. І таму не дзіўна, што адны вершы прысвечаны непасрэдна роднаму краю, а многія другія прасякнуты гарачай думай аб ім. У іх знайшлі сваё адлюстраванне і родны пейзаж («Калі на ўсход я ранкам гляну»), і філасофскі роздум аб жыцці («Парада»), і ўспаміны маленства («Чорны хлеб»), і любоў да блізкага чалавека («У час роздуму»), і сатырычныя замалёўкі («Раённы кавалер»). Усе яны прасякнуты гарачым патрыятычным пачуццём, і сярод іх ёсць выдатныя ўзоры паэзіі («Сцяжынка пад Нью-Йоркам», «Жорны» і інш.).

Далёка ад радзімы паэт з асаблівай сілай адчуў яе харавство, яе вялікую праўду. Наглядаючы жыццё чужой краіны, другога народа, ён ва ўсёй канкрэтнай паўнаце ўбачыў сусветна-гістарычную ролю сваёй савецкай радзімы і з патрыятычнай гордасцю за яе і глыбокім смуткам па ёй заяўляе:

А мы законамі другімі
Узгадаваны ў барацьбе.
Мой родны край, мая радзіма,
Я так сумую па табе!

У зборніку «Далёка ад дому» вершы размешчаны не тэматычна, а храналагічна, у тым парадку, у якім яны выходзілі з-пад пяра паэта. Таму ў гэтай кнізе яркія замалёўкі амерыканскага жыцця і згадкі аб родным доме ўвесь час пераплятаюцца. Аднак яна звязана ў адно цэлае галоўным яе матывам — ідэяй барацьбы за мір. З павагай адзначаючы добрае, з іроніяй высмейваючы адмоўнае, паэт, звяртаючыся да вялікай амерыканскай краіны, нязменна падкрэслівае адно:

Жыві, сама як пажадала,
Не трэба пірагоў тваіх,
Каб толькі ты не выпаўзала
З драпежнай лапай да чужых.

Пачуццём вялікай добразычлівасці да амерыканскага народа, ідэямі дружбы, заклікам да міру пранізаны многія і многія вершы зборніка «Далёка ад дому» («Вайсковы аркестр на Брадвеі», «Нявыказанае выступленне на Генеральнай Асамблеі» і інш.). Такім чынам, будучы вельмі цікавай паэтычнай з'явай, кніга П. Броўкі з'яўляецца адначасова і значным укладам у вялікую справу барацьбы за мір, за супрацоўніцтва і дружбу паміж народамі.

*1960 г.*

## ЯЗЭП ПУШЧА

У пасляваенныя гады ў перыядычных выданнях часта пачалі з'яўляцца творы Язэпа Пушчы. Чытач, безумоўна, заўважыў, што перад ім выступае не пачынаючы, а вопытны і спрактыкаваны паэт. І гэта сапраўды так. Першыя вершы Я. Пушчы былі апублікаваны яшчэ ў 1922 годзе, а неўзабаве адна за другой выйшлі з друку яго кніжкі: «Раніца рыкае» (1925 г.), «Віта» (1926 г.), «Дні вясны» (1927 г.), «Песні на руінах» (1929 г.), «Крывавы плакат» (1930 г.). Затым у творчым жыцці Я. Пушчы настае вялікі перапынак, і толькі зараз мы сустракаемся з новай кнігай паэта, у якой у некаторай ступені падагульняецца яго звілісты і складаны літаратурны шлях.

Язэп Пушча (Язэп Паўлавіч Плашчынскі) нарадзіўся 7 мая 1902 года ў вёсцы Каралішчавічы Мінскага раёна ў сялянскай сям'і. Дзіцячыя гады яго прайшлі ў звычайных для вёскі ўмовах: спачатку хлопчык быў пастушком, а падросшы — стаў баранавалокам, аратым, касцом. У зімовы час ён вучыўся ў вясковай школе, а затым у Мінскім вышэйшым пачатковым вучылішчы. На гэтым, напэўна, адукацыя сялянскага хлопца і закончылася б, але прыйшла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і адкрыла перад ім шырокія дарогі.

У аўтабіяграфічных нататках, напісаных Я. Пушчам па маёй просьбе для гэтага артыкула, паэт зазначае: «Я дакладна тады ў рэвалюцыйных падзеях не разбіраўся яшчэ, але ўсё ж адчуваў, што прыйшло ў жыццё вялікае сацыяльнае і нацыянальнае абуджэнне». Іменна ў сувязі з гэтым абуджэннем праявіліся літаратурныя інтарэсы Я. Пушчы. У 1918 г. ён прачытаў першую беларускую кніжку— зборнік вершаў Я. Купалы «Шляхам жыцця», а праз два гады пазнаёміўся ў сваёй роднай вёсцы з маладым беларускім паэтам Міхасём Чаротам. Скончыўшы рэальнае вучылішча і стаўшы пасля вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў настаўнікам, Я. Пушча трапляе ў Мінск на дзевяцімесячныя курсы беларусазнаўства. Тут, як піша паэт у тых жа аўтабіяграфічных нататках, стаіўшы дыханне, ён слухаў Янку Купалу, Якуба Коласа і Змітрака Бядулю.

Няма ніякага сумнення, што згаданыя вышэй літаратурныя акалічнасці і абудзілі да жыцця паэтычны талент Я. Пушчы. Яшчэ на курсах беларусазнаўства ён спрабуе свае сілы ў літаратуры і ў 1922 г. у часопісе «Адраджэн-

не» друкуе пад псеўдавімам Лясун свае першыя вершы. Па заканчэнні курсаў Я. Пушча працуе спачатку ў Мазырскім аддзеле народнай асветы ў якасці інструктара беларускай культуры, а затым становіцца інспектарам школ Мінскага павета.

У 1923 г., разам з іншымі беларускімі пісьменнікамі, Я. Пушча з'яўляецца ўжо адным з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». З гэтага часу, дзе б ні працаваў малады паэт, літаратура становіцца яго асноўным заняткам.

Знаёмячыся з раннімі вершамі Я. Пушчы, няцяжка заўважыць, што ў іх вялікае месца займае вобраз раніцы. Нават свой першы зборнік паэт назваў «Раніца рыкае». Прысутнасць гэтага вобраза ў сваёй паэзіі сам пісьменнік у аўтабіяграфічных нататках тлумачыць наступным чынам: «Рана, з дзіцячых гадоў, стаў пастушком, узыход сонца часта сустракаў на выгане разам з каровамі; я слухаў у полі і чуў, як раніца рыкае. Гэты вобраз пазней увайшоў у маю паэзію».

Безумоўна, вобраз вясковай раніцы навеяны паэту глыбокімі ўражаннямі яго маленства. Але ў вершах Я. Пушчы вобраз раніцы выступае не толькі як прыродаапісальны момант, а мае і больш шырокі сэнс. Паэт надае яму сацыяльнае значэнне. Ён выступае сімвалам світання новага жыцця, якое пачало займацца ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ужо ў адным з самых першых вершаў «Не пагасла», датаваным 1922 годам, світанне — як вобраз, як сімвал новага жыцця — гучыць вельмі выразна:

Не пагасла зоранька, узышла.  
Выйду, гляну на шырокі шлях.  
. . . . . . . . . . . . . .  
Свецяць яснай зоранькі агні,  
Надыходзяць светлай квадры дні.

У далейшым, у вельмі многіх вершах Я. Пушчы першай паловы дваццатых гадоў, вобразы раніцы, світання, сонца, звязаныя з уяўленнямі паэта аб тым, што «надыходзяць светлай квадры дні», вар'іруюцца і развіваюцца. У доказ гэтага даволі толькі прывесці самыя назвы вершаў — «Радзіма і сонца», «Раніца», «Я раніцы кланяўся ў пояс», «Раніцу шчэбет пільнуе» і інш. У названых вершах, як і ў многіх іншых, выразна вырысоўваецца погляд паэта на чорнае мінулае сялянскага жыцця і на яго радасную сучаснасць. Народ з надзеяй чакаў светлага сві-

тання даўно. «Яму снілася новае сёння», ён вітаў яго, ён «раніцы кланяўся ў пояс» яшчэ тады, калі быў «апрануты латаным зрэб'ем», калі панавала цёмнае сутонне, «губляючы зоры ў хмызняк». І вось яна прыйшла — раніца новага жыцця, «радзімы і сонца народ дачакаўся»:

З сявенькай працы на плячах
Ратай яго спаткаў.
Уцеха сонца у вачах
І ў росах
Кожнага лістка.

У вершах Я. Пушчы дваццатых гадоў няма разгорнутага паказу тых вялікіх сацыяльных змен, якія прынесла ў вёску рэвалюцыя, як і няма канкрэтных вобразаў людзей працы. Паэт вітае і славіць новыя дні, развінаючы перад чытачом, галоўным чынам, вобразы прыроды, прасякнутыя чыстым, светлым, радасным пачуццём аўтара. Яго настрой добра ахарактарызаваны ім жа самім такімі словамі: «Я хмелем сягонняшнім п'яны». Іменна гэтым бадзёрым настроем паўнаты жыцця і выклікана песня паэта. Ён ставіць яе развіццё і росквіт у непасрэдную сувязь і залежнасць ад новага жыцця, увасобленага ім, як мы ўжо гаварылі, у вобразе раніцы:

Закалосяцца песні па лесе,
Усміхнецца як раніца ў клёне.

Раніца настала, усміхнулася і расквітнела. З нараджэннем яе — нарадзілася і песня. «Яе не трэба клікаць», заначае паэт, «яна, спявае ў сэрцы», яна «узлятае, як сокал, у сённяшні сонечны дзень». Так вызначыў Я. Пушча ў ранніх вершах сваё паэтычнае крэда. І трэба сказаць, што ў першы перыяд творчасці паэт ад яго не адступаўся. Песня яго сваім духам і настроем ішла ад жыцця і звязана была з ім. У фармальных адносінах, яе ў пэўнай ступені жывіла народная крыніца. У беларускай паэзіі дваццатых гадоў фальклорны пачатак асабліва выразна праяўляўся ў творчасці П. Труса, мяжуючы часамі з простай цытацыяй з народных твораў. Я. Пушча выкарыстоўваў народную рытміку, інтанацыю, метафару і іншыя выяўленчыя сродкі, творча перапрацоўваючы іх. Вось адзін з прыкладаў, дзе ўсе гэтыя моманты выступаюць вельмі выразна:

Ой, за лугам ды над лесам зоранька-зара
Сустракала маладзіцу, спатыкала рань:
«Расцвітай лілеяй, уставай, мая краса!
Вусны хай умые бель — сцюдзёная раса».

Значны ўплыў на творчыя пошукі Я. Пушчы мела паэзія С. Ясеніна. Гаворачы ў аўтабіяграфічных нататках аб сваёй творчасці перыяду «Маладняка», беларускі паэт адзначае: «Знаходжуся пад моцным уздзеяннем вобразнасці народнай паэзіі, захапляючыся С. Ясеніным. Шукаю новую і светлую сцежку ў паэзіі. Шырока карыстаюся вобразам, смелай метафарай, імкнуся надаць новае гучанне рыфме».

Захапленне паэзіяй С. Ясеніна заўважыць у творчасці Я. Пушчы не цяжка. Варта прыгадаць такія радкі: «Туліцца жнівень пад пуняй з ношкай аўсянай саломы», «беланогі расчухраны месяц лявоніць у лісці кляновым», «дзень раніцай іржэ» і многія іншыя падобныя па характару інтанацыі і метафары, як адразу ж адчуваецца штосьці знаёмае, блізкае да творчасці С. Ясеніна. Але захапленне паэзіяй выдатнага рускага паэта мела ў Я. Пушчы на першых парах больш знешні, чым унутраны, характар, яно не закранала аптымістычнага светаўспрымання, радасных у сваёй аснове матываў і настрояў творчасці беларускага паэта. Нават тады, калі ўслед за С. Ясеніным, які назваў сябе «последним поэтом деревни», Я. Пушча таксама гаварыў пра сябе, што «гэтак грае апошні музыка ля вясковых паломаных весніц», у яго творчасці не было яшчэ таго расчаравання і безвыходнасці, якімі адзначаны многія творы русскага паэта.

Як гэта ні парадаксальна, але застаецца фактам, што так званыя ясенінскія матывы з асаблівай сілай пачынаюць гучаць у творчасці Я. Пушчы тады, калі ў ёй усё менш заўважаецца непасрэдны ўплыў С. Ясеніна, калі беларускі паэт набывае ўсё больш і больш выразны асабісты творчы воблік. Я гэтым хачу сказаць, што ў той ідэйнай разгубленасці, да якой прыходзіць Я. Пушча пад канец дваццатых гадоў, вінаваты не толькі і столькі ўплыў С. Ясеніна, колькі іншыя акалічнасці. У першую чаргу тут трэба адзначыць той факт, што паэт не здолеў зразумець тады ва ўсёй іх гістарычнай заканамернасці і велічнай перспектыве тыя велізарныя сацыяльныя зрухі, якія пачаліся ў нашай краіне. Скончылася цудоўная раніца новага жыцця, настаў не менш цудоўны, але гарачы працавіты дзень. Патрэбна была новая песня для яго ўслаўлення. Абстрактная тэорыя «ўзвышша» аб паэзіі, якую «ўбачаць вякі і народы», не магла, на жаль, паказаць той адзіна правільны канкрэтны шлях, які вёў і вядзе да такой паэзіі,— гэта цесная сувязь з жыццём, з імкненнямі і клопатамі народа.

У паэтычнай дзейнасці Я. Пушчы пачынаюцца пакутлівыя пошукі новых творчых дарог. Усё часцей і часцей у сваіх творах таго часу («Госць па смерці», «Паэзія мая», «Бальзам жывой вады», «Мой маніфест», паэма «Сады вятроў» і некаторыя іншыя) паэт ставіць пытанне: што ж такое паэзія, гэтая, як ён называе яе, «дачка старога сатаны»? Але выразнага адказу на пытанне ў творчасці Я. Пушчы няма. З болем у сэрцы ён зазначае толькі, што «на песню радасць прамяняў ваш чулы брат, бязбожны сын».

І гэта сапраўды так. Замест светлага, залітага сонцам пейзажу, які складаў адметную рысу ранняй лірыкі Я. Пушчы, пачынаюць пераважаць малюнкі сумнай восені, калі «даліны адвеялі шумам аўсяным», калі «вераснёвыя смуглыя колеры ў задуменні засмучаным вянуць» (вершы «Зашумелі лісты», «Даліны адвеялі шумам аўсяным», «На восень дзіўлюся» і многія іншыя). «Асеннія настроі», імем якіх названы адзін з вершаў, становяцца, бадай, дамінуючымі матывамі ў творчасці паэта. Не дзіўна, што ў сувязі з гэтым нячасты ў паэзіі Я. Пушчы вобраз чалавека працы, усцешанага ратая з сявенькай на плячах, саступае месца старому бацьку, забабоннаму селяніну, да якога, як прызнаецца паэт, ён некалькі падобен сам:

Я вобраз гэты сёння бачу,
І сам падобен да яго.

Асабліва выразна матывы разгубленасці, блуканняў і адзіноты выступаюць у творах Я. Пушчы, напісаных ім у час прабывання ў Ленінградскім універсітэце, куды ён увосень 1927 г. перавёўся на вучобу з Беларускага універсітэта. Ад сумных «асенніх» настрояў паэт спрабуе лячыцца ірoніяй («Гімн іроніі»), але і яна не дае паратунку. Песімістычныя настроі паглыбляюцца. Ранейшая ясная, хоць часамі некалькі вычурная, вобразнасць замяняецца ўсё больш абстрактнай метафарай, накшталт:

Халат вякоў віхры ўзматнулі,
Ў гадах застукаў дзень крыві...

Творчы крызіс паэта дасягае найбольшай вастрыні. З-пад яго пяра з'яўляецца нізка вершаў «Лісты да сабакі», у якіх маюць месца ўжо не толькі песімізм, але і глыбокія ідэйныя зрывы і памылкі. Савецкая грамадскасць справядліва сустрэла гэту нізку жорсткай і бязлітаснай крытыкай. Трэба думаць, што паэт у выніку гэтага сур'-

ёзна задумаўся над сваім далейшым шляхам. Прынамсі зараз у сваіх аўтабіяграфічных нататках ён піша пра той час: «Ленінград здзівіў мяне сваім хараством, сваёй строгай і велічнай архітэктурай, сваімі палацамі, помнікамі. Мне было балюча, што ў Беларусі нічога гэтага няма, і гэта навеяла песімізм, які так выразна адчуваецца ў маіх ленінградскіх вершах, якіх я напісаў даволі шмат». І далей: «1930 год. Працую над новай паэмай «Сады вятроў», якая па задуме маёй павінна была вывесці мяне на шырокія прасторы вялікай паэзіі».

У паэме «Сады вятроў» у заўзятай палеміцы з Мярохам Грымніцкі рашуча выступае супраць вульгарызатараў і абараняе права на паэзію, якая павінна служыць народу. На яго думку, сапраўдны паэт прадаўжае высакародныя традыцыі сваіх вялікіх папярэднікаў і ў дасканалай мастацкай форме абуджае грамадскія імкненні сучаснікаў, Грымніцкі паважае толькі тых паэтаў, «хто плыў у мора ў навальніцу, каб радасць новую сустрэць».

Пэўны пералом у творчасці Я. Пушчы намеціўся быў ужо ў такіх яго творах, як «Песня вайны», «Цень консула» і асабліва ў паэме «Крывавы плакат» (у пазнейшай рэдакцыі — «Крывавы год»), у якіх аўтар імкнецца выйсці з рамак сваіх вузкіх хваравітых перажыванняў у шырокі свет рэальнай рэчаіснасці, узяўшы тэмамі названых твораў падзеі імперыялістычнай і грамадзянскай вайны.

Новыя творы Я. Пушчы, захоўваючы ў сваёй аснове ўласцівыя паэту рысы творчай індывідуальнасці і паэтыкі, выразна адрозніваюцца ад ранейшых як сваёй тэматыкай, так і настроямі. Зусім натуральна, што сярод іх значнае месца займаюць вершы аб сустрэчы з дарагімі з маленства мясцінамі, з Мінскам, з родным краем. Я не гавару — з Радзімай, таму што цяпер для Я. Пушчы гэтае паняцце значна пашырылася: яно абазначае не толькі Беларусь, а вялікі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, аб чым добра сведчаць такія вершы паэта, як «Слаўся, Радзіма», «Песня песень», «Дзень добры» і інш.

Важна адзначыць таксама, што вобраз Беларусі выступае ў новых вершах Я. Пушчы не ў абстракцыі, а ў канкрэтных рысах яе сягонняшняга багацця і красы, у вобліку яе гераічных і працавітых людзей, з'яднаных непарушнай дружбай з усімі братнімі народамі. Перад чытачом разгортваецца не бязлюдны пейзаж, авеяны тым ці іншым настроем паэта, як гэта нярэдка мела месца ў ранейшых творах Я. Пушчы, а паўстае вобраз краіны, на-

поўненай няспыннай стваральнай працай і яе багатымі пладамі. Мы бачым, як «з руінаў Мінск паранены ўстае», як «сям'ёй вясёлаю ідуць студэнты», як «у неба ўзвіліся, з песняй зліліся вышкі бурыльныя», як «у глебу цёплую і мяккую, як пух, насенне сейбіт радасна раскідаў». Я не хачу гэтым сказаць, што ў новых вершах Я. Пушчы зусім няма сузіральнасці, павярхоўных замалёвак, рыторыкі і нават пэўнага прымітывізму (напрыклад, у некаторых вершах для дзяцей). Не, я хачу толькі падкрэсліць, што ўлюбёны паэтам беларускі пейзаж, які складаў і складае адметную рысу яго творчасці, у новых вершах Я. Пушчы значна ажыў і загаманіў людскімі галасамі. На фоне пейзажнай карціны ў цэнтры ўвагі паэта стаў чалавек працы, няхай яшчэ не заўсёды паўнакроўны, але актыўны, дзейсны.

Рашучы паварот да жыцця, да падзей сучаснасці, зроблены паэтам у яго цяперашніх вершах, плённа адбіўся і на матывах так званай асабістай лірыкі. Канчаткова знікла пачуццё смутку і адзіноты. У гэтым сэнсе цікава супаставіць два вершы — «Маўклівая радасць мая» (1929 г.) і «Дзень добры, Мінск!» (1956 г.). І там і там, бадай, аднолькавыя абставіны: вакзал у Ленінградзе і вакзал у Маскве. Але ў першым выпадку, не зважаючы на рытарычную заяву паэта, што ён «сёння расчулена рад», ад верша вее глыбокім пачуццём адзіноты і бязлюднай маўклівасці. Зусім іншы настрой гучыць у вершы «Дзень добры, Мінск!». Тут малюнак насычан святлом, рухам, гоманам жыцця:

Як шмат радні, як людна на пероне!
Махаюць рукі родным наўздагон.
Са мной заходзіць сонца у вагон...

Падобную перамену ў пачуццях нельга тлумачыць толькі тым, што ў сувязі з пэўнымі падзеямі ў асабістым жыцці паэта ў адным выпадку ў яго сумны настрой, а ў другім — радасны. Справа тут, безумоўна, не ў хвілінным настроі і не ў фактах біяграфіі, а ў светаадчуванні паэта, у яго поглядах на рэчы тады і цяпер. Пасля доўгіх пошукаў і блуканняў Я. Пушка знайшоў нарэшце дарогу да жыцця, і ён выступае ўжо не як пабочны наглядальнік яго, а як актыўны ўдзельнік:

Ўзыходжу я на рыштаванні —
Схіліцца ў пояс зорцы ранняй,
У трывалыя муры пакласці
Ключы ад песень сэрца, шчасця.

У зборніку Я. Пушчы «Вершы і паэмы» поруч з вершамі розных гадоў змешчаны таксама і творы больш шырокіх жанраў. Я не маю магчымасці даць у гэтым артыкуле падрабязны іх аналіз. Дый наўрад ці ёсць у гэтым асаблівая патрэба. Чытач лёгка заўважыць і сам, што, напісаныя ў розныя гады літаратурнай дзейнасці паэта, яны носяць на сабе тыя ж ідэйна-мастацкія адзнакі, што і лірычныя вершы адпаведных перыядаў. Трэба, аднак, сказаць, што Я. Пушча па прыродзе сваёй лірык і гэтая асаблівасць яго таленту адчуваецца ва ўсіх творах паэта. Паэмы яго можна аднесці да так званага ліра-эпічнага жанру, і лірычны струмень у іх моцны і свежы. Слабай стараной іх з'яўляецца тое, што яны некалькі статычныя, у іх мала дзеі і выразнай характарыстыкі чалавечых вобразаў, асабліва ў ранніх. У гэтым сэнсе больш разгорнутым дзеяннем вылучаецца паэма «Людвіся» — твор аб мужнасці савецкай дзяўчыны, аб шырыні яе шчырага сэрца. Глыбока кранае чытача лірычны, напісаны ў народным стылі, уступ да гэтай паэмы, а таксама песня Людвісі ў пятым раздзеле.

У сэнсе абрысоўкі чалавечых характараў ад іншых паэм Я. Пушчы адрозніваецца паэма «Бор шуміць». Тут вобраз старога Лукаша выпісаны рэльефна і пластычна. Эпічна гучыць поўная мудрасці і сілы прамова, у якой ён заклікае народ на змаганне з гітлераўскімі захопнікамі. На жаль, і ў гэтай паэме многія месцы залішне расцягнуты, а ў яе вобразна-слоўную тканіну ўрываюцца часамі натуралістычныя штрыхі. Больш завершанай у кампазіцыйных і жанравых адносінах з'яўляецца казка «На Бабрыцы», напісаная свабодна, лёгка і дасціпна.

Пры ўсіх адзначаных недахопах новыя паэмы Я. Пушчы, як і яго цяперашнія лірычныя вершы, з'яўляюцца значным крокам у далейшым творчым развіцці паэта. Прачытаўшы зборнік «Вершы і паэмы», з поўным правам можна сказаць, што не дэкларацыяй, а глыбокім перакананнем паэта з'яўляюцца яго словы:

Народ мой сёння — будаўнік вялікі,
Да працы ўсіх сваіх сыноў паклікаў.
І мне з народам жыць і з ім тварыць.

*1960 г.*

# НЕЗАБЫЎНЫ ДРУГ РАСІІ

Адзінаццатага мая спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння англійскай пісьменніцы, аўтара шырока вядомага рамана «Авадзень» Этэль Ліліян Войніч. Хоця для каротказа чалавечага жыцця сто гадоў і даволі значны век, мне цяжка ўявіць, што гэтай цудоўнай жанчыны няма ўжо сярод жывых. Справа ў тым, што яшчэ не так даўно я меў шчасце бачыць Э. Л. Войніч, быў аднойчы ў яе доме, і да гэтага часу яна стаіць перад маімі вачыма як жывая — старэнькая, кволая, але бадзёрая і жвавая, з маладымі іскрынкамі ў позірку.

Э. Л. Войніч была чалавекам вельмі цікавай біяграфіі. І трэба адразу ж дадаць — біяграфіі складанай і нялёгкай, але ад пачатку і да канца яркай і слаўнай. Будучая пісьменніца нарадзілася ў Ірландыі ў сям'і вядомага ў свой час англійскага вучонага, прафесара матэматыкі Джорджа Буля. Маладой дзяўчынай яна прыехала ў 1887 г. у Расію і два гады жыла ў Пецярбургу, працуючы настаўніцай музыкі. Тут яна цесна звязалася з рэвалюцыйна настроенымі коламі рускага грамадства, і гэта зрабіла дабратворны ўплыў на ўсё яе далейшае жыццё і дзейнасць.

Вярнуўшыся ў 1889 годзе ў Англію, Э. Л. Войніч падтрымлівала цесныя сувязі з рускімі рэвалюцыйнымі коламі на эміграцыі. Яна была знаёма з Г. В. Пляханавым і асабліва блізка пасябравала з вядомым пісьменнікам і рэвалюцыянерам С. М. Сцепняком-Краўчынскім. У доме апошняга Ліліян сустрэлася з польскім літаратарам, нашым беларускім земляком Міхаілам Вільфрыдам Войнічам, які за сваю рэвалюцыйную дзейнасць вымушаны быў эмігрыраваць за межы Расіі. Выйшаўшы за яго замуж, яна перамяніла прозвішча Буль на Войніч, пад якім пасля і стала вядомай усяму свету пісьменніцай.

Мне думаецца, што іменна актыўны ўдзел англійскай пісьменніцы ў рэвалюцыйнай рабоце рускай і польскай палітычнай эміграцыі ў першую чаргу спрыяў станаўленню і ўсталяванню яе глыбока інтэрнацыяналісцкіх поглядаў, якія знайшлі шырокае выяўленне як у першым і самым выдатным рамане Э. Л. Войніч «Авадзень», так і ў іншых яе творах.

«Авадзень» стаў не толькі неперасягнутай з'явай у творчасці самой пісьменніцы, а і ўвайшоў у сусветную скарбніцу як адзін з самых натхнёных рэвалюцыйных твораў. Прысвечаны вызваленчай барацьбе італьянскага

народа ў 30—40 гады мінулага стагоддзя, ён натхняў на рэвалюцыйныя подзвігі не адно пакаленне слаўных змагароў за чалавечую свабоду ў многіх краінах свету.

Асабліва шырокую, усеагульную вядомасць атрымаў ён у Расіі. У савецкі час пераклады гэтага рамана апублікаваны звыш як на дваццаці мовах народаў Савецкага Саюза, у тым ліку і на беларускай, агульным тыражом больш за тры мільёны экземпляраў.

Адзін з работнікаў савецкага прадстаўніцтва пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, ведаючы, што ў свой час Э. Л. Войніч пераехала з Англіі ў ЗША, пацікавіўся яе лёсам. Амерыканцы, да якіх ён звяртаўся з гэтым пытаннем, адказалі яму, што аўтар рамана «Авадзень» нібыта даўно памёр. Але ніхто не мог сказаць, дзе магіла пісьменніцы. Аднак пры далейшых пошуках высветлілася, што Э. Л. Войніч жыве ў Нью-Йорку, усімі пакінутая і забытая.

І вось мы, група таварышаў з беларускай дэлегацыі на Асамблеі ААН, на чале з нашым добрым маскоўскім сябрам, які стаў у доме Войніч блізкім чалавекам, ідзём чацвёртага лютага 1957 года да яе на кватэру. Падымаемся на семнаццаты паверх казарменнага выгляду небаскроба. Уваходзім у цесную кватэру з двух пакояў. У маленькай прыхожай, падобнай на тамбур, няма нават вешалкі. Наша адзенне кампаньёнка пісьменніцы нясе ў спальню і кладзе яго там на ложку. Якая страшэнная беднасць! Э. Л. Войніч — шчупленькая, пасівелая, у просценькай белай кофтачцы, у паношанай спадніцы — расказвае нам, што толькі дзякуючы ганарару, які высылаюць пісьменніцы з Савецкага Саюза за выданні яе твораў, яна сяк-так зводзіць канцы з канцамі. Але найлепшым падарункам для нашай мілай гаспадыні з'яўляюцца яе кнігі, выдадзеныя ў Савецкім Саюзе. Яна паказвае нам гэтыя выданні, сярод якіх я бачу і пераклады «Авадня» на беларускую мову.

Э. Л. Войніч добра разумее рускую мову і нядрэнна гаворыць на ёй сама, затрымліваючыся, праўда, часамі, шукаючы адпаведнае рускае слова. Мы расказваем ёй аб пастаноўцы ў нашым беларускім тэатры спектакля па раману «Авадзень». У вачах пісьменніцы жывыя, бліскучыя аганькі, і яна звяртаецца да адзінаццацігадовай дзяўчынкі, дачкі нашага маскоўскага сябра:

— Вялікая і добрая ў цябе краіна, Ірынка. Такіх нідзе больш няма. Любі яе.

І гэтыя словы былі сказаны з такім глыбокім пачуццём, што забыць іх нельга. У іх проста і сціпла была выказана вялізная любоў чалавека, які застаўся для нас незабыўным другам і пасля сваёй смерці.

*1964 г.*

## ТАКІМ Я ЯГО ВЕДАЮ

Шмат на Беларусі прыгожых мясцін... Вы знойдзеце іх і на высокіх узгорках Міншчыны, і на роўных прасторах Случчыны, і сярод таямнічых і задуменных лясоў Палесся — над Бярозай і Прыпяццю, над Бугам і Нёманам, над Сожам і Дняпром. І ўсё ж, мне здаецца, няма больш прыгожых краявідаў, як у нашым азёрным краі. А сярод іх маё сэрца навек зачаравалі мясціны ў наваколлі Вушачы. Цёмна-сінія, заціненыя высокімі берагамі азёры плешчуцца там у глыбокіх чашах, а светла-блакітныя, адкрытыя сонцу, пераліваюцца ў прамяністым бляску, нанізаныя на стужку Вушы, як пацеркі на нітку.

У гэтай непаўторнай краіне хараства нарадзілася і гадавалася песня Петруся Броўкі. Гадавалася ў беднасці, у галечы, у жабрацтве... Але яна ўвабрала ў сябе жыватворныя сокі той зямлі, пераняла яе красу і выйшла ў свет, азораная мудрай праўдай жыцця.

Я некалі бываў у тых мясцінах, у ціхай аблесненай вёсцы Пуцілкавічы. Відаць, гэта было вельмі даўно, таму што майму нязменнаму і добраму другу сягоння ўжо шэсцьдзесят, а тады ж мы былі яшчэ маладыя, бадай, толькі пачыналі свой літаратурны шлях.

Дагэтуль як жывая перада мной стаіць маці паэта — чулая і добрая, строгая і справядлівая. З якой чыстай радасцю сустракала яна заўсёды нас — свайго сына і ягоных сяброў! Нарэжа скрылікамі духмянай сялянскай каўбасы, паставіць пляшку настоенай на розных травах гарэлкі, абапрэцца на стол спрацаванымі рукамі і глядзіць на нас моўчкі і замілавана. А пачнём мы з нашым маладым размахам разносіць таго ці іншага са сваіх літаратурных «праціўнікаў», прыпыніць ціха і скажа:

— Няможна так, хлопцы! Праўда, вы маладыя, няў-

рымслівыя... Але ж на вас глядзяць ужо як на сталых. Шануйцеся ж і людзей шануйце!

У часы гітлераўскай навалы маці паэта загінула ў Асвенціме, неадступна верачы ў сынаву праўду, у тое неўміручае слова, якое перадала яна з уласнага сэрца сэрцу сына.

Многа напісана добрых артыкулаў і нават цэлых даследаванняў аб творчасці Петруся Броўкі. Не раз пісаў аб ім і я. Але і дагэтуль нідзе не прачытаў і сам не здолеў вызначыць для сябе ды назваць людзям тую сілу, якая закладзена ў яго паэзіі. Ведаю толькі, што гэта сіла сапраўды значная і глыбока чалавечная, калі ворагі людзей караюць за яе смерцю тых, хто нараджае і гадуе сейбітаў добрага і чулага слова.

Не адразу на поўны голас загучала гэта сіла ў творчасці П. Броўкі. Яе пошукам, пошукам глыбокай людской праўды і таго адзінага жывога слова, якое магло б данесці гэту праўду да чалавечага розуму і сэрца, паэт прысвяціў усё сваё жыццё. І пошукі гэтыя вяліся не на вузкіх крывых сцежках, не ў цёмных закутках, а на галоўных магістралях жыцця і барацьбы народа за свой сучасны і будучы лёс.

Не ўсё, што робіцца на свеце і адыходзіць у мінулае, становіцца гісторыяй. Паэзія П. Броўкі ўвайшла ў гісторыю не таму, што яна мае сваю даўнасць, што ёй неўзабаве будзе сорак гадоў, а таму, што яна з кожным годам узнімалася з прыступкі на прыступку ўсё вышэй і вышэй, таму, што яна забірала ў свой абсяг усё шырэйшыя і шырэйшыя кругагляды, таму, што яна цякла ў асноўнай плыні нашага няспыннага руху наперад і наперад.

Я перагортваю пажоўклыя старонкі зборнікаў паэта, адбітых на грубай шэрай паперы ў 20—30-я гады, і кніг, надрукаваных на бялюткіх аркушах, выдадзеных у раскошнай аправе ў наш час...

Вось самыя першыя крокі маладога вясковага хлопца ў літаратуру — зварот да роднай, пакінутай у вёсцы бярозкі... А вось паэма «Прамова фактамі», сама назва якой нібы падкрэслівае не столькі паэтычны, колькі жыццёвы яе змест. А вось ужо больш смелая заяўка — зборнік «Паэзія». Але і да яго паэт ставіцца самакрытычна. У надпісе на экземпляры гэтай кніжкі, падараваным мне, ён адзначае: «Гэта толькі ўступ да паэзіі. Будзем чакаць новага». Нават яшчэ праз тры гады, на кнізе, шматзначна

і правільна названай «Прыход героя», дзе ўжо былі змешчаны такія паэтычныя рэчы, як «Зямля», «Праз горы і стэп», «1914», Пятрусь Броўка з жартаўлівай усмешкай піша: «Пакуль што крыху крануў, трэба глыбей...»

Безумоўна, за гэтай сціпласцю і жартаўлівасцю адчуваецца і радасць паэта за свае першыя значныя поспехі. Яны былі радасцю і для ўсёй нашай літаратуры таму, што ў кнізе «Прыход героя» быў прыход сапраўднай паэзіі. Я памятаю, як абрадавала нас паэма П. Броўкі «1914». Ён чытаў яе ўпершыню на кватэры ў Кузьмы Чорнага. Мякка ступаючы, усхвалёвана хадзіў па пакоі гаспадар кватэры. Маўкліва і засяроджана слухаў Кандрат Крапіва...

Шмат гадоў мінула з тых дат. П. Броўка напісаў многа добрых і выдатных твораў. Гаварыць пра іх ці нават называць няма патрэбы: іх добра ведаюць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. З даўніх часоў, сябруючы з паэтам, я меў шчасце часта заглядваць у яго творчую «лабараторыю». І мне б хацелася яшчэ раз падкрэсліць толькі, што «лабараторыя» гэта не ў кабінеце, не за сталом пісьменніка, а на шырокіх прасторах жыцця, на ніве жывой грамадскай дзейнасці П. Броўкі, у яго шчырым таварышаванні з людзьмі, са шматлікімі сябрамі з самых разнастайных колаў нашага грамадства.

У гэтым, відаць, сакрэт і яго заўсёды маладога таленту, і творчага натхнення, і выдатных поспехаў.

*1965 г.*

## ВЫДАТНЫ ПІСЬМЕННІК І ВУЧОНЫ

На пачатку вясны гэтага года савецкая грамадскасць шырока адзначала сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка і вучонага-філолага, вядомага ў мастацкай літаратуры пад імем Кандрата Крапівы, а ў навуковым асяроддзі — пад імем Кандрата Кандратавіча Атраховіча. У гэтым ушанаванні юбіляра дзейсны ўдзел прынялі чытачы і пісьменнікі, дзеячы культуры і вучоныя нашай краіны. Да апошніх далучыліся і паасобныя прадстаўнікі філалагічнай навукі зарубежных краін. У выніку агульных намаганняў савецкіх і зарубежных фі-

лолагаў, у гонар юбіляра быў складзены і гэты зборнік, прысвечаны пытанням беларускай мовы, выдатным знаўцам і ўдумлівым даследчыкам якой з'яўляецца К. Крапіва.

У гэтым зборніку на нашу долю выпала задача расказаць, хоць бы коратка, аб жыцці і дзейнасці К. К. Крапівы, яго літаратурнай творчасці і навуковай рабоце. Задача не лёгкая. Тым больш калі мець на ўвазе, што да гэтага часу падрабязная і грунтоўная біяграфія пісьменніка і вучонага, на жаль, яшчэ не напісана. Мы карыстаемся тут, у асноўным, тымі весткамі, якія Кандрат Кандратавіч падаў аб сабе ў сваёй аўтабіяграфіі, названай ім «Ад маленства да сталасці» і змешчанай у зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі» [1].

Чытаючы аўтабіяграфію К. Крапівы і параўноўваючы яе з іншымі пісьменніцкімі аўтабіяграфіямі з гэтага зборніка, заўважаеш вельмі шмат агульнага ў жыцці і лёсе яго равеснікаў. Гэта біяграфія таго пакалення беларускай сялянскай моладзі, якая на пачатку нашага стагоддзя, шукаючы выйсця з вясковай галечы і цемры, так упарта імкнулася да ведаў, да асветы, але вымушана была часцей за ўсё назаўсёды развітацца са сваімі марамі, а ў больш шчаслівым выпадку абмежавацца навучаннем у настаўніцкай семінарыі — адзінай больш-менш даступнай тады для сялянскай моладзі навучальнай установе.

Закончыць настаўніцкую семінарыю і стаць настаўнікам, каб самому пазбавіцца цемры і хоць праменьчык святла прынесці ў цёмную вёску, марыў і малады Кандрат Атраховіч. Але ў зусім яшчэ юнацкім узросце ягонае пакаленне з яго няспраўджанымі марамі і надзеямі захапіла першая сусветная вайна. З не багатым, але ўжо даволі пэўным, хоць часта і горкім жыццёвым вопытам увайшла гэтая моладзь у Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю. І тут перад ёю адкрыліся шырокія прасторы і яшчэ больш бязмежныя і прывабныя далягляды: перш за ўсё для многіх з іх толькі пры Савецкай уладзе прыйшло нацыянальнае ўсведамленне сябе як беларусаў. Упершыню перад імі раскрылася тайна таго, што мова іх бацькоў мае сваю гісторыю і літаратуру. Множыць і развіваць на новай, сацыялістычнай аснове культуру свайго народа стала іх правам і прызваннем.

Накрэсленыя намі агульныя контуры біяграфіі Крапі-

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мн., 1963, стар. 304—315.

вінскага пакалення ў кожным асобным выпадку, зразумела, нацоўнены сваім індывідуальным жыццёвым зместам. Не кожны, хто марыў, падобна Кандрату Атраховічу, стаць настаўнікам, стаў ім у тым сэнсе, які мы ўкладваем у паняцце «пісьменнік», тым больш у паняцце «народны пісьменнік», званне якога заслужана прысвоена Кандрату Крапіве. А іменна ў гэтым сэнсе біяграфія пісьменніка і складае для нас цікавасць як адлюстраваная ў яго творчасці частка біяграфіі Савецкай краіны, разам з якою К. Крапіва перажыў і яе высокія ўзлёты і яе горкія часіны.

Кандрат Кандратавіч Атраховіч (Крапіва) нарадзіўся 5 сакавіка 1896 года ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Маленства і дзіцячыя гады яго праходзілі ў тыповых для беларускай вёскі абставінах незаможнай сялянскай сям'і. Падросшы трохі, вясковы хлапчук пасвіў спачатку свіней, потым кароў, а ў чатырнаццаць гадоў пайшоў за плугам і за касой.

Гаворачы пра тыповыя вясковыя абставіны, у якіх рос будучы пісьменнік і вучоны, хочацца падкрэсліць адну асаблівасць, вельмі характэрную для працоўных сем'яў, але не для ўсіх ста іх працэнтаў,— мы маем на ўвазе працавітасць. Між тым паводле прызнання самога пісьменніка праца была адной з лепшых школ яго выхавання. У сваёй аўтабіяграфіі ён піша:

«У сялянскай гаспадарцы заўсёды было шмат работы — і цяжкай і лягчэйшай — і асноўным работнікам заўсёды патрэбны былі памочнікі. Прыходзілася і цяжка часамі, але я з удзячнасцю ўспамінаю сваіх бацькоў, якія навучылі мяне працаваць яшчэ ў маладым узросце, навучылі цаніць працу і паважаць людзей з мазольнымі рукамі. Урэшце, у іх не было загадзя выпрацаванай праграмы працоўнага выхавання. Гэта рабілася само сабою, у сілу неабходнасці» [1].

Любасць да працы, яшчэ змалку выхаваная ў вясковага хлопца ў асяроддзі яго працавітай сям'і, з'яўляецца адметнай рысай К. Крапівы на працягу ўсяго яго жыцця. Хлапчук старанна вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе і праз чатыры гады з поспехам закончыў яе. Хацелася вучыцца і далей, але сямейныя і матэрыяльныя акалічнасці не раз станавіліся перашкодай на гэтай дарозе. І ўсё ж праз год, па заканчэнні царкоўнапрыходскай школы, Кандрат Кандратавіч паступае ў апошні клас народнага вучы-

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі, стар. 305.

лішча ў мястэчку Уэда, затым у другі клас чатырохкласнага гарадскога вучылішча ў мястэчку Стаўбцы, адкуль пераводзіцца ў такое ж вучылішча ў мястэчку Койданава (цяперашні Дзяржынск), якое ён і канчае ў 1913 годзе. Небагатымі былі матэрыяльныя ўмовы навучання і яшчэ больш мізэрнымі былі яго духоўныя ўмовы. У абодвух вучылішчах, асабліва ў Стаўбцах, бібліятэкі былі вельмі бедныя, і кола знаёмства вучняў з мастацкай літаратурай абмяжоўвалася, бадай, аднымі падручнікамі. А горш за ўсё было тое, што і па заканчэнні вучылішча, выпускнікі яго вымушаны былі вяртацца на бацькаву сялянскую гаспадарку, паколькі гарадское вучылішча ніякай спецыяльнасці не давала.

Вярнуўся да бацькі, які на адукацыю сына прадаў ужо карову, і Кандрат Кандратавіч. Трэба было шукаць работу. Лета ён працаваў на бацькавай гаспадарцы, а ўвосень, пазычыўшы ў суседа тры рублі, паехаў у Мінск здаваць экзамен на званне народнага настаўніка [1]. Экзамены былі здадзены паспяхова, але быў ужо кастрычнік месяц, і малады настаўнік месца ў школе не атрымаў.

Прайшоў яшчэ адзін год у працы на бацькавай гаспадарцы ды на мясцовай цагельні, і толькі ў 1914 годзе Кандрат Атраховіч быў прызначаны настаўнікам земскага народнага вучылішча ў вёсцы Мнішана Пяршайскай воласці Мінскага павета. Але нядоўга маладому настаўніку давялося папрацаваць на ніве народнай асветы: пачалася вайна, і ў 1915 годзе ён быў мабілізаваны ў царскую армію. Палкавая вучэбная каманда, школа прапаршчыкаў у Гатчыне, запасны батальён у Асташкаве і пасля, у кастрычніку 1916 года — адпраўка з маршавай ротай на Румынскі фронт.

Настаўнік, затым пісьменнік, сейбіт дабра і згоды, мірны чалавек па ўсёй сутнасці свайго гуманістычнага характару, Кандрат Крапіва быў заўсёды ў ваенным страі, калі справа ішла пра абарону сацыялістычнай бацькаўшчыны. Ён удзельнічаў у грамадзянскай вайне і ў вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, у фінскай кампаніі і ў Вялікай Айчыннай вайне, удзельнічаў у якасці байца і камандзіра, палітработніка і франтавога літаратара.

У Чырвонай Арміі пачалася і літаратурная дзейнасць К. Крапівы. Праўда, першыя спробы пяра былі ў яго і перад гэтым, яшчэ ў час навучання ў Койданаўскім гарад-

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі, стар. 306.

скім вучылішчы. «Помніцца,— заўважае пісьменнік пра свае пачатковыя літаратурныя спробы,— што з-пад гэтага неспрактыкаванага пяра, відаць, пад уплывам прачытаных твораў Лермантава, з'явіліся на свет лірычныя вершы з налётам «сусветнай тугі». Так, мне здавалася, павінна была выглядаць сапраўдная паэзія» [1]. «На гэты раз,— піша далей К. Крапіва пра свой літаратурны дэбют у чырвонаармейскім друку,— я не ставіў сабе задачы пісаць высокамастацкія творы. Мною валодала не «сусветная туга», а простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім направіць. Пачаў я з простай газетнай карэспандэнцыі. Напісаў некалькі фельетонаў на бытавыя і палітычныя тэмы. Пісаў на рускай мове. Некаторыя з гэтых фельетонаў былі надрукаваны ў газеце «Красноармейская правда». У рэдакцыю гэтай газеты я паслаў спытак сваіх вершаў, і праз некаторы час быў змешчан спрыяльны артыкул пад назвай «Паэт-камандзір» [2].

Пачатак літаратурнай дзейнасці і яе крытычная ацэнка былі зроблены. І хоць пісьменнік агаворваецца, што ніколі «не думаў стаць калі-небудзь сапраўдным пісьменнікам» [3], літаратурная справа з гэтага часу становіцца справай яго жыцця. Ён пачынае актыўна супрацоўнічаць у газеце «Савецкая Беларусь», піша (цяпер ужо на беларускай мове) злабадзённыя фельетоны і сатырычныя вершы, піша, можа быць, яшчэ сапраўды не ўсведамляючы мастацкага значэння сваіх твораў, а кіруючыся толькі гарачым жаданнем «умяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць». Аднак незвычайны талент пісьменніка, абуджаны да творчасці іменна гэтым палкім жаданнем «умяшацца ў жыццё», робіць сваю справу: папулярнасць паэта-сатырыка расце, як кажуць, не па днях, а па гадзінах.

Тым часам асабістае жыццё пісьменніка ідзе, можна сказаць, усё па той жа не вельмі прасторнай і лёгкай дарозе. Дэмабілізаваўшыся ў 1923 годзе з арміі, ён разам з жонкай і сынам зноў вяртаецца ў родную вёску Нізок на бацькаву гаспадарку. Пад гэты час у вёсцы быў ужо новы, савецкі лад, але многія вясковыя злыдні былі яшчэ старыя. У хаце пачынаюцца нелады: баючыся за спадчыну, прымеркаваную толькі сваім родным дзецям, мачаха літаральна выганяе з дому пасынка і яго сям'ю. Кандрат Крапіва без усялякай маёмасці і сродкаў да жыцця пера-

---

1 Пяцьдзесят чатыры дарогі, стар. 306.
2,3 Там жа, стар. 309.

язджае ў суседнюю вёску Астравок і застаецца там за настаўніка. Сціпла і скупа ў сваёй аўтабіяграфіі гаворыць пісьменнік пра гэтыя злыдні, але шмат чалавечага гора адчуваецца за яго скупымі словамі. Пра гэта будзе больш поўна напісана ў рамане «Мядзведзічы» і ў некаторых іншых мастацкіх творах аўтара.

Не зважаючы, аднак, на ўсе цяжкасці і нягоды асабістага жыцця, К. Крапіва і ў гэтых непрыдатных умовах няспынна працуе над сваімі творамі, над удасканаленнем свайго майстэрства. Адна за другой у 1925 годзе выходзяць дзве першыя кнігі яго сатырычных вершаў і баек. У тым жа годзе пісьменнік пераязджае ў Мінск, становіцца членам літаратурнай арганізацыі «Маладняк», працуе інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. Трэба думаць, што, мабыць, ужо на гэтай краязнаўчай рабоце ў пісьменніка абудзілася не толькі цікавасць да навуковай працы, а і другі бок яго шматграннага таленту — здольнасць да навуковага аналізу і абагульнення. Безумоўна, для таго каб гэтыя якасці маглі раскрыцца поўнасцю, патрэбны былі большыя веды. І Кандрат Крапіва сталым ужо чалавекам паступае ў 1926 годзе на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які ён бліскуча і канчае ў 1930 годзе.

Пад час навучэння пісьменніка ва універсітэце ў беларускай літаратуры разгарэліся гарачыя дыскусіі аб яе прызначэнні, сутнасці і далейшых шляхах развіцця. Ужо неўзабаве спрэчкі гэтыя прывялі да расколу «Маладняка» і выхаду з яго некалькіх груп пісьменнікаў. У адну з такіх груп, якая потым утварыла літаратурнае згуртаванне «Узвышша», уваходзіў і Кандрат Крапіва. Трэба і важна адзначыць тут тыя матывы, па якіх пісьменнік выйшаў з «Маладняка», і той пункт погляду, з якога ён глядзеў на «Узвышша», стаўшы яго членам. У сваёй аўтабіяграфіі К Крапіва піша пра гэта так:

«Што да прычын, якія падштурхнулі мяне выйсці з «Маладняка», то асноўным было тое, што такая масавая арганізацыя, як мне здавалася, не ствярала ўмоў для сур'ёзнай творчай працы, што пагоня за колькасцю членаў прыводзіла да зніжэння запатрабаванняў, якія прад'яўляліся членам арганізацыі. Не падабаліся мне і багемскія настроі, якія мелі месца сярод маладнякоўцаў.

Аднак не знайшоў я задавальнення і ў арганізацыі «Узвышша». У ёй было шмат таленавітых паэтаў і пісь-

меннікаў, сярод іх Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Уладзімір Дубоўка, Максім Лужанін, але атмасфера ва «Узвышшы» не спрыяла творчаму росту. Давалі сябе адчуваць налёт фальшывага акадэмізму, што мне асабліва не спадабалася, адарванасць ад масавага культурнага руху, ад надзённых задач сацыялістычнага будаўніцтва»[1].

Цвярозая ацэнка як той, так і другой арганізацыі, глыбокае разуменне задач савецкай літаратуры дапамаглі К. Крапіве заняць у тагачасным вострым літаратурным змаганні найбольш правільную пазіцыю і спрыялі руху яго творчасці па шляху да сацыялістычнага рэалізму. Вось чаму пісьменнік так горача вітаў пастанову ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый», у выніку якой савецкія літаратары згуртаваліся на барацьбу за сацыялістычную літаратуру ў адзіным Саюзе пісьменнікаў. «Адчуваць сябе не «папутнікам»,— піша ён у аўтабіяграфіі,— а паўнапраўным членам пісьменніцкай сям'і было для мяне вялікім маральным задавальненнем»[2].

З часу арганізацыі Саюза пісьменнікаў і да нашых дзён творчасць К. Крапівы з кожным годам і з кожным новым творам набывала ўсё большую і большую ідэйную сілу і мастацкую дасканаласць. Можна смела сказаць, што гэтыя гады сталі гадамі найбольшага росквіту яго таленту. Іменна ў гэтыя гады з'явіліся такія творы пісьменніка, як «Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі», за якія аўтару двойчы — у 1941 і ў 1951 г.— была прысуджана Дзяржаўная прэмія.

Разам з росквітам творчасці К. Крапівы расла і шырылася яго навуковая і грамадская дзейнасць. У 1940 г. пісьменнік быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларускай ССР. У тыя ж перадваенныя гады ён пачаў працаваць над рэдагаваннем беларуска-рускага слоўніка. Вайна абарвала гэту працу. Пісьменнік і вучоны стаў ваенным журналістам, працуючы на Заходнім і Бранскім франтах у рэдакцыі беларускай газеты «За Савецкую Беларусь». Адкліканы ў канцы 1942 года ў распараджэнне ЦК КПБ, ён становіцца рэдактарам газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», пераробленай пасля вайны ў

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі, стар. 312.
[2] Там жа.

сатырычны часопіс «Вожык», які на працягу першых двух гадоў таксама выходзіў пад рэдакцыяй К. Крапівы.

Заняты вялікай творчай і журналісцкай працай, пісьменнік не парывае і з навуковай дзейнасцю і з 1947 года загадвае сектарам мовазнаўства ў Інстытуце літаратуры і мовы. Выбраны ў 1950 годзе правадзейным членам АН БССР, ён з часу ўтварэння асобнага Інстытута мовазнаўства становіцца яго дырэктарам, а ў 1956 годзе выбіраецца віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларускай ССР.

Кандрат Кандратавіч Крапіва з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, членам Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Чырвонага Сцяга і чатырма медалямі. У 1953 годзе вучонаму прысвоена ступень доктара філалагічных навук, а ў 1956 годзе — званне народнага пісьменніка рэспублікі.

Слаўны жыццёвы і працоўны шлях прайшоў К. К. Крапіва — ад вясковага пастушка да выдатнага пісьменніка і вучонага. Вяла яго па гэтай дарозе праўда гісторыі, вернасць Радзіме і партыі, хоць і ішоў ён сваёй, уласцівай яму хадою. І можна сказаць, што яго дарога — гэта дарога многіх і многіх мільёнаў савецкіх людзей, дарога ўсяго нашага народа. На гэтай дарозе нямала было цяжкасцей і суровых выпрабаванняў, але яна ўжо з 1917 года ясна асветлена агнямі Кастрычніка, і кожнаму савецкаму чалавеку ісці па ёй лёгка і радасна. Лёгка і радасна, мужна пераадольваючы перашкоды і гады, ідзе па ёй і Кандрат Крапіва, славячы выбраны ім шлях творчасцю і працай. Не ўдаючыся ў падрабязны і ўсебаковы аналіз мастацкай і навуковай дзейнасці юбіляра хочацца ўсё ж сказаць пра яе некалькі слоў.

* * *

Калі размова заходзіць аб шырокай папулярнасці К. Крапівы як пісьменніка, некаторыя тлумачаць часам гэту папулярнасць сатырычнай накіраванасцю яго творчасці. У некаторай меры гэта можа быць і так: жыццярадаснаму савецкаму народу ўласціва непадробнае пачуццё гумару, ён любіць і вострае слова, і вясёлы іскрысты смех.

Але творчасць К. Крапівы далёка не вычэрпваецца сатырай і гумарам. Сярод твораў пісьменніка ёсць па-сапраўднаму драматычныя і глыбока лірычныя рэчы, як, напрыклад, некаторыя яго песні і п'есы, або тыя ж зва-

рушлівыя апавяданні аб сялянскіх дзецях. К. Крапіва, безумоўна, вялікі майстар байкі і камедыі, але ён і добры лірычны паэт і цудоўны бытапісьменнік. Дыяпазон яго творчасці надзвычай шырокі, бо пісьменнік шырока глядзіць на жыццё і глыбока пранікае ў яго тайнікі: ён бачыць у ім і гераічнае, і трагічнае, і смешнае. К. Крапіва чуйна прыслухоўваецца да ўсяго новага і ўмее не толькі заўважыць яго, але і глыбока асэнсаваць і па-майстэрску яго паказаць. Творы К. Крапівы заўсёды злабадзённыя ў самым добрым сэнсе гэтага слова. Яны закранаюць самыя патаемныя куточкі чалавечага сэрца, і таму знаходзяць у сэрцы чытача самы жывы водгук.

Гэтымі якасцямі вызначаліся ўжо самыя першыя творы пісьменніка. З'явіліся яны, як мы ўжо сказалі, у 1922 годзе і адразу звярнулі на сябе ўвагу чытача. У хуткім часе іх дэкламавалі ўжо на камсамольскіх вечарах, чыталі дома, завучвалі на памяць. Сапраўды, гэта былі пераважна сатырычныя і гумарыстычныя вершы, вершы вострыя і таленавітыя. Але сакрэт іх поспеху заключаўся не толькі ў гэтым. У творах быў гарачы водгук пісьменніка на хвалюючыя праблемы свайго часу. У іх вострай сатырычнай форме, з аднаго боку, выкрываліся падкопы імперыялістаў, іх злосныя пасягненні на свабоду маладой Савецкай дзяржавы, а з другога — высмейваліся заганы застойнага вясковага быту — забабоны, рэлігійныя прымхі, некультурнасць.

Кажучы аб умовах, неабходных для пераходу да сацыялізма ў нашай краіне, У. І. Ленін у артыкуле «Аб кааперацыі» ўказваў, што для гэтага нам засталося **«толькі»** адно: зрабіць наша насельніцтва настолькі «цывілізаваным», каб яно зразумела ўсе выгады ад пагалоўнага ўдзелу ў кааперацыі і наладзіла гэты ўдзел. **«Толькі»** гэта. Ніякія іншыя прамудрасці нам не патрэбны цяпер для таго, каб перайсці да сацыялізма. Але для таго, каб зрабіць гэта «толькі», патрэбен цэлы пераварот, цэлая паласа культурнага развіцця ўсёй народнай масы» [1].

Творчасць К. Крапівы была як бы прамым водгукам на ленінскі заклік, яна вяла бязлітасную барацьбу з адсталасцю і бескультур'ем. Даволі прыгадаць такія вершы сатырыка, як «Грышча», «Калі церці, дык да смерці», «Вось такія дактары вымуць душу без пары», «Дзве кумы»,

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 33, стар. 429—430. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мн., 1951.

«Будуйце лазні», «Ціт заводзіць новы быт», «Валакіта» і многія іншыя.

Перажыткі цяжкога мінулага пісьменнік падвяргаў рэзкай крытыцы не толькі ў сваіх вершаваных творах, але і ў апавяданнях. Разам з тым, у апавяданнях К. Крапівы ўпершыню праявіліся і глыбокія лірычныя і нават трагічныя матывы (апавяданне «Пальчык»), якія знайшлі затым далейшае развіццё ў рамане «Мядзведзічы», у лірычных вершах паэта і асабліва ў яго драматычных творах. Для многіх гэта было нечаканым. Звычайна лічылі, што стыхія К. Крапівы — толькі сатыра, прычым сатыра бязлітасная.

Як бачым, падобныя вывады былі памылковыя. К. Крапіва горача адгукаецца на ўсе чалавечыя пачуцці. Пісьменнік умее смяяцца і злосна, і лагодна. Ён глыбока адчувае не толькі смешнае, але і высокае, і сумнае. Вось гэтыя ўласцівасці складаюць асноўныя рысы пісменніцкага характару К. Крапівы.

Аднак у першыя гады літаратурнай дзейнасці пісьменніка, сатыра, безумоўна, складала асноўную рысу яго творчасці. Асабліва бліскучае праяўленне знайшла сатырычная накіраванасць творчасці Крапівы ў яго байках. У гэтым жанры К. Крапіва не ведае сабе роўных у беларускай літаратуры. Байкі К. Крапівы напісаны ў традыцыйнай манеры, але вызначаюцца сапраўдным наватарствам як па сваёй ідэйнай накіраванасці, так і па форме. Тэматычна байкі К. Крапівы звязаны з адмоўнымі з'явамі сучаснага жыцця. У іх выкрываюцца заганы з пазіцый нашай савецкай маралі, а глыбіня абагульненняў гарманічна спалучаецца з яркім паказам характараў і натуральным развіццём сюжэта.

Байкі К. Крапівы глыбока нацыянальныя па свайму каларыту і вобразах. Яны вызначаюцца жывым, яркім дыялогам, перасыпаны народнымі прыказкамі і прымаўкамі, а таксама ўласнымі трапнымі выразамі аўтара, многія з якіх у сваю чаргу сталі крылатымі. Аднак, нягледзячы на глыбока нацыянальную самабытнасць баек К. Крапівы, грамадскае і мастацкае значэнне іх далёка выходзіць за нацыянальныя рамкі.

Работа К. Крапівы над байкамі з іх жывымі, хоць і алегарычнымі персанажнымі вобразамі, з іх непасрэдным, вельмі выразным дыялогам была як бы падрыхтоўчым этапам да больш шырокіх палотнаў. Алегарычныя вобразы, намаляваныя пісьменнікам у яго байках, з'яўляліся

ў поўнай ступені толькі выдатнымі эскізамі да тых высокамастацкіх партрэтаў, якія пісьменнік стварыў у сваім рамане «Мядзведзічы» і, асабліва, у сваіх п'есах.

З кожным новым творам К. Крапіва ўсё глыбей заглядаў у жыццё свайго народа. Ён ведаў гэтае жыццё і раней. Пісьменнік, як мы ўжо адзначылі, гадаваўся ў працавітай сялянскай сям'і, змалку жыў сярод працоўнага народа, быў настаўнікам, прайшоў царскую і Чырвоную Армію... Усё гэта было жыццё — суровае і вялікае. Яно ламалася і будавалася ў яго на вачах.

Пачатковаму перыяду будаўніцтва новага жыцця ў вёсцы і прысвечан раман «Мядзведзічы», напісаны ў пачатку 30-х гадоў. У гэтым рамане ідыятызм вясковага жыцця паказаны не з камічнага, а з трагічнага боку. У рамане ярка намаляваны шэрыя будні сялянскай сям'і, з цяжкой працай, з бясконцымі сваркамі, з пастаяннымі нягодамі. На барацьбу з коснымі традыцыямі мінулага, з кулацкім засіллем, з усім старым вясковым укладам паўстаюць перадавыя людзі сяла, і пісьменнік з глыбокім пранікненнем у чалавечую душу раскрывае іх светлыя мары і імкненні.

Творчасць К. Крапівы, у якой востра бічуюцца перажыткі мінулага, заўсёды была накіравана ў будучыню. У гэтым сэнсе вельмі паказальнай з'яўляецца паэма «Хвядос — Чырвоны нос», у якой сатырык абрушваецца на перажыткі мінулага з пазіцый камуністычнага будучага. Паводле свайго жанру — гэта паэма-казка. Яна не прэтэндуе на разгорнуты паказ будучага жыцця. Аўтар канцэнтруе ў ёй свой агонь на адмоўных з'явах, што маюць яшчэ месца ў нашым жыцці, зло і трапна выкрывае іх з пазіцый камуністычнага будучага. Ён бязлітасна кляймуе буржуазных нацыяналістаў, палітычных мяшчан, прыстасаванцаў, літаратурную багему, усё тое, што з'яўляецца варожым і чужым нашаму жыццю і нашым норавам. Усёй сілай сваёй сатыры пісьменнік змагаецца за высокую мараль савецкага чалавека.

Праблемам сацыялістычнай маралі прысвечаны пераважна і п'есы К. Крапівы. Першая з іх, «Канец дружбы», з'явілася ў 1933 годзе. З таго часу творчасць драматурга заваявала шырокае прызнанне. Драматычныя творы пісьменніка з поспехам ідуць на многіх сцэнах Савецкага Саюза і зарубежных краін.

Драматычная творчасць К. Крапівы разнастайная па сваіх жанрах. Тут мы маем і гераічную эпапею («Парты-

заны»), і драму («З народам»), і сатырычную камедыю («Хто смяецца апошнім»), і проста вясёлую лірычную п'есу («Пяюць жаваранкі»). Але ў якім бы жанры ні была напісана тая ці іншая п'еса К. Крапівы, усе яны актуальныя і вызначаюцца глыбокай ідэйнай задумай. У іх адчуваецца сапраўднае жыццё. Яны вострыя па канфлікту. Вобразы іх выпісаны выразна і ярка. Драматург майстэрскі валодае дыялогам — жывым, лёгкім, вясёлым.

У сваіх драматычных творах К. Крапіва стварыў рад непаўторных і незабыўных вобразаў савецкіх людзей. Цвёрдай воляй, адданасцю ідэям Камуністычнай партыі, чулым сэрцам надзелен вобраз Карнейчыка ў п'есе «Канец дружбы». Шчырая любасць да роднай Савецкай улады, народная мудрасць і вострае слова вызначаюць цудоўны вобраз беларускага селяніна, дзеда Бадыля, з п'есы «Партызаны». Непахіснай вернасцю Радзіме, спакойнай, стрыманай, але сапраўды бясстрашнай мужнасцю адзначан вобраз кампазітара Гудовіча ў п'есе «З народам». А прыгадаем вобраз Аўдоцці Вярбіцкай з п'есы «Пяюць жаваранкі» — вобраз савецкай жанчыны-маці, мудрай і ласкавай, як вобраз маці-радзімы.

Няма патрэбы пералічаць усе вобразы, створаныя К. Крапівой у яго п'есах. Гледачы бачылі іх неаднойчы на сцэне. Аднак нельга не назваць найбольш удалых з іх, асабліва тых, што так моцна ўпадабаліся як гледачам, так і чытачам. Сярод іх людзі старэйшага пакалення — працавітыя і разумныя, сумленныя і простыя, як Чарнавус, цёця Каця («Хто смяецца апошнім»), Паўліна Бохан, Туміловіч («Пяюць жаваранкі») і іншыя. Сярод іх і прадстаўнікі моладзі, выхаванай у савецкіх умовах,— натуры цэльныя, прамыя і розныя: Вера («Хто смяецца апошнім»), Перагуд («Проба агнём»), Юля Муравіцкая («З народам»), Насця Вярбіцкая («Пяюць жаваранкі»).

Драматургічныя вобразы, створаныя К. Крапівой, вызначаюцца яркасцю, своеасаблівасцю і завершанасцю. Яны цэльныя, але не просталінейныя. Многія з іх пакутліва шукаюць свайго месца ў жыцці і праходзяць складаны шлях развіцця, напрыклад: Рыгор з п'есы «Партызаны», Наталля («Проба агнём»), або вось такія каларытныя персанажы, як Пытляваны («Пяюць жаваранкі») і Туляга («Хто смяецца апошнім»).

Яркімі фарбамі з уласцівай драматургу сатырычнай завостранасцю напісаны ў К. Крапівы адмоўныя вобразы — яўныя і тайныя ворагі народа (пані Яндрыхоўская,

шляхціц Шмігельскі — п'еса «Партызаны», Гарлахвацкі — «Хто смяецца апошнім», усялякія рвачы, падхалімы і мяшчане (Жлукта — «Мілы чалавек», Зёлкін, Анна Паўлаўна — «Хто смяецца апошнім»).

К. Крапіва з'яўляецца адным з лепшых майстроў беларускай драматургіі; яго творчасць значна ўзбагаціла шматнацыянальную драматычную літаратуру Савецкага Саюза. Сіла яго творчасці — у вялікай жыццёвай праўдзе, у страснай барацьбе за высокія ідэалы савецкага грамадства, супроць усяго варожага, адсталага і пошлага.

К. Крапіва прайшоў вялікі літаратурны шлях. На гэтым шляху ў яго творчасці былі асобныя зрывы і няўдачы, але ён ніколі не выбіраў дарог лягчэйшых і пратаптаных, ніколі не пасаваў перад складанымі творчымі задачамі. Ягоны талент — надзвычай смелы талент, і смелы не перад цэнзурай, а перад грамадствам, перад якім ён бязлітасна раскрывае балячкі яго недастойных членаў, дзеля дабра, дзеля поўнага здароўя, дзеля маральнай чысціні гэтага грамадства.

У адным са сваіх артыкулаў К. Крапіва пісаў: «У савецкага народа светлы твар і чыстае сумленне». У імя захавання гэтых высакародных рыс у недатыкальнай чысціні, пісьменнік бязлітасна выкрывае і кляймуе ўсё нізкае і пошлае, што яшчэ мае месца ў нашым жыцці. Цяжкая, але неабходная работа! К. Крапіва выконвае яе бліскуча.

Аднак нам яшчэ раз хочацца падкрэсліць, што літаратурная творчасць пісьменніка далёка не абмяжоўваецца толькі сатырай. Кандрат Крапіва выдатны пісьменнік шматграннага і разнастайнага таленту. Ён стварыў у нашай літаратуры класічныя ўзоры байкі, паказаў высокае майстэрства ў апавяданні і рамане, узняў беларускую драматургію на небывалую да яго вышыню. Чалавек вялікага духоўнага багацця, ён праявіў свае здольнасці калі не ў роўнай меры, дык амаль у роўнай сіле і ў прозе, і ў вершы, і ў лірыцы, і ў эпасе, і ў драме, і ў сатыры. І такім мы яго ведаем, бадай, усе.

* * *

Аднак ёсць яшчэ адна галіна духоўнай дзейнасці пісьменніка, пра якую ведаюць значна менш, хоць шчодрымі вынікамі яе карыстаюцца, можа быць, кожны дзень. Нават біёграфы і даследчыкі творчасці К. Крапівы пішуць пра гэта вельмі скупа, зазначаючы звычайна ў канцы сва-

іх прац, што пісьменнік, поруч з літаратурнай дзейнасцю, вядзе і навуковую работу.

А між тым навуковая работа К. Крапівы — гэта не выпадковы спадарожнік у біяграфіі пісьменніка, а вельмі арганічная праява яго шматбаковага таленту, адна з уласцівых рыс яго творчага характару, яго мэтанакіраванай дзейнасці не толькі як літаратара, а і як дзеяча нацыянальнай культуры шырокага дыяпазону.

Сапраўды, які пісьменнік або мастак не выступае (калі не пісьмова, дык вусна) па пытаннях роднай яму галіны мастацкай творчасці? Такіх, бадай, няма. Але мала ёсць і такіх, для якіх бы падобнае выступленне было не часовай патрэбай, а пастаянным прызваннем. Відаць, што спалучэнне творчых імкненняў з навукова-даследчымі — справа нялёгкая, таму і не часовая. У нашай літаратуры К. Крапіва — адзін з прыкладаў такога шчаслівага спалучэння.

Цяжка сказаць, што стала прычынай гэтага другога прызвання нашага пісьменніка — ці прыродная схільнасць да глыбокага аналізу навакольнай рэчаіснасці, які так бліскуча праявіўся і ў мастацкай творчасці К. Крапівы, ці грамадзянскае пачуццё асабістай адказнасці за лёс не толькі літаратуры, а і ўсёй культуры народа. Відаць, і тое і другое: першае было добра падрыхтаванай глебай, а другое стала зернем, якое прарасло на ёй буйнымі каласамі.

Што гэта, мабыць, так — ёсць бясспрэчныя сведчанні. Яшчэ будучы студэнтам другога курса Беларускага дзяржаўнага універсітэта, К. Крапіва напісаў працу «Беларускія прыказкі» [1]. Мы не ведаем, чым была выклікана работа пісьменніка над гэтай тэмай — універсітэцкай праграмай ці жаданнем разабрацца ў асаблівасцях таго жанру народнай творчасці, які так часта ён выкарыстоўвае ў сваёй творчасці. Так ці іначай праца была напісана, і ў ёй ужо тады выдатна праявіліся не толькі глыбокая эрудыцыя аўтара, а і яго здольнасці як даследчыка. У гэтай працы К. Крапіва дае выразнае вызначэнне жанру, размяжоўвае прыказку і прымаўку, дае стройную іх класіфікацыю паводле тэматычных матываў. Дасканальна прааналізаваны ў рабоце функцыі прыказак у мове, іх паэтыка, вобразны строй і будова.

Першая навуковая праца маладога яшчэ тады пісьменніка ўвайшла ў залаты фонд нашай фалькларыстыкі, да

[1] Кандрат Крапіва. Збор твораў, т. II, стар. 383—429.

яе і цяпер звяртаюцца і на яе спасылаюцца нашы фалькларысты як на аўтарытэтную навуковую крыніцу.

І ўсё ж, пры ўсіх сваіх выдатных задатках даследчыка, К. Крапіва, можа быць, і не стаў бы вучоным — вельмі ж раўнівай была яго першая літаратурная муза. Але, як мы ўжо сказалі, пачуццё высокай грамадзянскай адказнасці за развіццё культуры народа не раз ставіла перад ім такія пытанні, на якія ён лічыў сваім абавязкам адказаць не толькі як пісьменнік, а і як даследчык-літаратуразнавец, лінгвіст, гісторык. Так з'явіліся працы К. Крапівы, прысвечаныя беларускай літаратуры, мове, гісторыі, культуры.

Пераглядаючы работы К. Крапівы па гэтых пытаннях, няцяжка заўважыць, што напісаны яны, бадай, усе як адказ на самыя злабадзённыя запатрабаванні часу, калі трэба было сказаць аўтарытэтнае, глыбока абгрунтаванае слова.

У пачатку трыццатых гадоў праводзіўся так званы «заклік ударнікаў у літаратуру». У ажыццяўленні гэтага мерапрыемства шмат было надуманага, бюракратычнага, што не толькі не магло даць карысці літаратуры, а і прынесці ёй шкоду. К. Крапіва выступіў у друку з артыкулам «Слова да малодшых» [1], у якім ён, грунтуючыся на гісторыі літаратурнага працэсу, перасцерагаў ад штучнага памнажэння «літаратурных кадраў», заклікаў звяртаць увагу на талент маладога пісьменніка, на яго мастацкія здольнасці, на веданне ім жыцця, на актуальную тэматыку яго твораў, а не толькі на яго паходжанне.

Пачынаючы з тых жа трыццатых гадоў і, бадай, да самых апошніх нашых дзён, у літаратуры вяліся і вядуцца гарачыя спрэчкі аб шляхах развіцця савецкай сатыры. Ізноў жа і тут К. Крапіва не застаўся збоку. Ён выступіў з некалькімі артыкуламі, прысвечанымі тэарэтычным і гістарычным пытанням развіцця гэтага жанру («Думкі пра сатыру», «Што мне руціць», «Аб сатырычнай камедыі» і інш.).

Многа цікавага і каштоўнага К. Крапіва ўнёс у наша літаратуразнаўства сваімі артыкуламі, прысвечанымі пытанням драматургіі — такім, як сутнасць канфлікту, яго выражэнне ў сюжэце і інш. Тут можна назваць такія працы вучонага, як «П'есы і вобразы», «Беларуская савецкая драматургія за 1947 год», «Канфлікт — аснова п'есы»

[1] Кандрат Крапіва. Збор твораў, т. II, стар. 439—448.

і інш. Да ліку гэтых прац трэба дадаць рад артыкулаў пісьменніка, у якіх аналізуецца творчасць Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і другіх беларускіх пісьменнікаў (артыкулы «Жыццё і творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа», «Нескарыстаныя магчымасці» і інш.).

Глыбока заклапочаны лёсам савецкай літаратуры, яе далейшым росквітам, К. Крапіва радуецца кожнаму яе поспеху і строга, але справядліва крытыкуе недахопы, у творчасці каго б яны ні былі.

Другой адметнай рысай, характэрнай для літаратуразнаўчага аналізу К. Крапівы, з'яўляецца супастаўленне фактаў літаратуры з нашай рэчаіснасцю, праверка іх фактамі жыцця. Толькі на аснове такога супастаўлення і праверкі даследчык робіць абагульненне і вывады, таму і гучаць яны пераканаўча і абгрунтавана. У якасці прыкладу, можна прывесці названую ўжо работу «Аб сатырычнай камедыі».

Зыходзячы з марксісцкага палажэння аб тым, што «савецкае грамадства развіваецца і рухаецца ўперад шляхам пераадолення супярэчнасцей, у якіх новае сутыкаецца са старым, аджыўшым і перамагае яго», К. Крапіва, абапіраючыся на рэальныя факты жыцця, прыходзіць да вываду, што «станоўчае і адмоўнае ў нашай рэчаіснасці сустракаецца ў розных камбінацыях і ў розных прапорцыях. Пры агульнай перавазе станоўчага нярэдка ўзнікаюць ачагі, у якіх канцэнтрацыя адмоўнага можа быць значна вышэй за сярэдняе арыфметычнае. Вось гэтыя ачагі адмоўнага і павінны ў першую чаргу цікавіць камедыёграфа, сюды і павінен быць накіраваны агонь сатыры» [1].

Дзякуючы такой трактоўцы пытання аб канфлікце ў сатырычным творы, К. Крапіва вяртае сатыры права на абагульненне і тыпізацыю, без чаго не можа быць мастацкага твора. Ён піша:

«Тыповым для канфлікту, прыгоднаму для сатырычнай камедыі, з'яўляецца, на мой погляд, наяўнасць ачага адмоўнага. Характэрным для яго з'яўляецца тое, што носьбіт зла трапляе ў адносна спрыяльнае для яго асяроддзе, у якім калі не ўсе, дык частка людзей з яго акружэння. не знаходзяцца на належнай вышыні з пункту гледжання са-

---

[1] Кандрат Крапіва. Збор твораў, т. II, стар. 552—553.

вецкіх патрабаванняў»[1]. І далей: «Такім чынам, ачаг адмоўнага ўключае ў сябе не аднаго носьбіта зла, а і спрыяльнае для яго акружэнне»[2].

Многія высунутыя і грунтоўна даведзеныя літаратуразнаўцам палажэнні, асабліва пра суадносіны ў сатырычных творах станоўчых і адмоўных вобразаў, пра «ачаг адмоўнага», які «ўключае ў сябе не аднаго носьбіта зла, а і спрыяльнае для яго акружэнне», пра заканамернасць і тыповасць адмоўнага ў жыцці, маюць, на нашу думку, вельмі каштоўнае значэнне і зараз як для практычнага развіцця сатырычнай літаратуры, так і для развіцця яе тэорыі.

* * *

Гаворачы пра навуковую дзейнасць К. Крапівы, больш за ўсё трэба адзначыць яго асабліва вялікую працу ў галіне беларускага мовазнаўства. Яго пяру належаць работы як па актуальных сённяшніх пытаннях развіцця нашай мовы, так і яе гісторыі. Многія палажэнні з гэтых работ (аб паходжанні і характары старажытнай і сучаснай беларускай літаратурнай мовы, аб дыялекце, які лёг у аснову апошняй, аб некаторых адрозненнях акання і якання і інш.) не толькі трывала ўвайшлі ў навуковы абыходак, але і адыгралі сваю практычную ролю пры вызначэнні лексічных, граматычных і арфаграфічных норм нашай мовы.

Аддаючы ў сваёй рабоце вялікую ўвагу навуковым праблемам беларускага мовазнаўства, К. Крапіва яшчэ больш пільна працуе над вырашэннем практычных задач развіцця нашай мовы. Пры яго непасрэдным і актыўным удзеле былі праведзены змены і ўдакладненні беларускага правапісу, напісана нарматыўная граматыка, складзен капітальны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы». Можна сказаць без перабольшання, што ў пасляваенныя гады Інстытут мовазнаўства АН БССР не выдаў, бадай, ніводнай працы, у якой бы ці непасрэдна як выканаўца, ці то ў якасці навуковага кіраўніка або рэдактара не ўдзельнічаў К. Крапіва.

Аднак ёсць адна галіна мовазнаўства, якая была люба пісьменніку яшчэ і да вайны — гэта лексікаграфія. К. Кра-

---

[1] Кандрат Крапіва. Збор твораў, т. II, стар. 554.
[2] Там жа.

піва поруч з Я. Коласам яшчэ ў тыя гады быў адным з рэдактараў руска-беларускага слоўніка, выхад якому ў свет засланіла ваенная навальніца. Свой вопыт лексікографа, сваё глыбокае веданне і тонкае адчуванне роднага слова К. Крапіва аддаў двум новым капітальным працам па беларускай лексікаграфіі — руска-беларускаму і беларуска-рускаму слоўнікам.

Мне хочацца з асаблівай сілай падкрэсліць тут тую неймаверна вялікую энергію, якой патрабавала ад пісьменніка гэтая работа, асабліва над беларуска-рускім слоўнікам. Я вылучаю апошні слоўнік таму, што калі пры рабоце над руска-беларускім слоўнікам укладальнікі яго мелі гатовы ўжо аналіз лексічных значэнняў, дык, працуючы над другім слоўнікам, усё гэта трэба было зрабіць упершыню. Будучы глыбокім знаўцам і выдатным майстрам беларускага слова, К. Крапіва, як кіраўнік навуковага калектыву і рэдактар слоўніка, бліскуча справіўся з неймавернымі цяжкасцямі.

Многа б яшчэ можна было сказаць аб той высакароднай навуковай і навукова-арганізацыйнай працы, якую праводзіць у розных галінах нашай культуры К. Крапіва як літаратуразнавец і лінгвіст, як выхавацель навуковых кадраў і як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР. Але пра тое, пра што не здолеў сказаць я, няхай скажуць нам яго кнігі, яго навуковыя працы, якія ляжаць сёння на стале ў кожнага, хто любіць родную літаратуру і мову.

*1966 г.*

## БЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ЛЕНІНІЯНА

Наша эпоха з'яўляецца эпохай пераходу ад капіталізму да сацыялізма. Пачатак яе быў пакладзены Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, ажыццёўленай рабочым класам Расіі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі на чале з У. І. Леніным. Сама гісторыя дбайна паклапацілася аб тым, каб у гэту вялікую эпоху на сцэну выступіў іменна такі чалавек, як Ленін, які, паводле трапнага азначэння Рамэна Ралана, быў узорам чалавека мыслі і дзеяння і ўвасобіў у сабе, як ніхто іншы, гістарычны час

творчасці людзей — пралетарскую рэвалюцыю. Вось чаму імя Леніна стала сімвалам нашай эпохі, дзеля вялікіх здзяйсненняў якой ён жыў, працаваў і змагаўся.

Напярэдадні 100-гадовага юбілею У. І. Леніна, працоўнае чалавецтва з усё большай верай і надзеяй звяртае свае думкі да неўміручага генія нашай рэвалюцыйнай эпохі, да яго вялікага вучэння. Людзі ўсё больш і больш прыходзяць да ўсведамлення таго, што ленінізм — гэта адзіная сапраўдная навуковая аснова для перабудовы свету на новых пачатках. Асоба Леніна, яго вялікі рэвалюцыйны подзвіг усё больш уплываюць на людскія розумы і становяцца дзейснай сілай гістарычнага прагрэсу. «Пад уздзеяннем ленінізма,— гаворыцца ў Звароце міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый «Аб 100-годдзі з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна»,— выраслі пакаленні камуністаў, беззапаветна адданых рабочаму класу, народу, справе сацыялізма. Жыццё і дзейнасць Леніна, яго высокія якасці як рэвалюцыянера, таварыша, чалавека будуць заўсёды служыць натхняльным прыкладам для мільёнаў рэвалюцыйных байцоў ва ўсім свеце».

Натуральна, што да Леніна, да яго спраў і здзяйсненняў звяртаюцца ў сваёй творчасці пісьменнікі, мастакі, кампазітары, кінематаграфісты, дзеячы тэатральнага мастацтва. Данесці да шырокіх мас вобраз Ільіча, яго непаўторныя рысы, данесці да іх ленінскія думы і запаветы — вельмі пачэсная задача для кожнага творца. Пачэсная і складаная.

Ленін — чалавек асаблівы; гэта дасканалы сплаў тых асабістых і грамадскіх якасцей, якія заўсёды былі прывабнымі для мастацтва. Ён канцэнтруе ў сабе рысы рэвалюцыянера, пераўтваральніка, барацьбіта супроць усяго старога, аджылага, змагара за сцвярджэнне светлага, новага. Калі звярнуцца да спадчыны мінулага, можна заўважыць, што падобныя рысы прагна шукалі для сваіх геранчных вобразаў многія творцы сусветнага мастацтва, як Дантэ, Мікеланджэла і іншыя майстры пэндзля і разца. У той жа час Ленін,— чалавек, роўнага якому не ведае гісторыя, як не ведала яна ніколі раней і такіх велізарных сацыяльных пераўтварэнняў, якія звязаны з імем Леніна. Ленінскі вобраз — гэта вобраз героя рэальнага, канкрэтнага і сімвалічнага для эпохі.

Дакладнасць абмалёўкі вобраза тут павінна спалучацца з гранічнай шырынёй, абагульненасцю характарыстыкі,



П. Ф. Глебка — вучоны сакратар грамадскіх навук АН БССР у сваім кабінеце. 1968 г.




Помнік на магіле П. Ф. Глебкі.

прыкладаў, чаго не ведала гісторыя мастацтва папярэдніх эпох. Для паспяховага ўвасаблення вобраза Леніна мастаку патрэбны не толькі выдатны талент, але і глыбокі матэрыялістычны светапогляд, правільнае разуменне гісторыі і ролі асобы ў гістарычных падзеях. Правадыр пралетарыяту, натхніцель і арганізатар сацыялістычнай рэвалюцыі, Ленін упершыню ў гісторыі здолеў ажыццявіць спрадвечную мару народа аб свабодзе і шчасці. Пры ўсім гэтым, калі ўспомніць класічную формулу «герой і натоўп», яна не мае аналогіі. Ленін не ўзвышаўся над масамі, а, выступаючы іх правадыром, быў зліты з імі; ён, як добра сказаў сібірскі селянін О. І. Чарноў, успамінаючы гутарку з Уладзімірам Ільічом, «тварыў волю мас, як старшы, ён ёсць душа мас». Іначай кажучы, вобраз Леніна — дэмакратычны, сапраўды народны і тыповы для нашай эпохі вялікіх рэвалюцыйных здзяйсненняў — з'яўляецца па ўсёй сваёй сутнасці вобразам цалкам новым, увасабленне якога ў мастацтве патрабуе зусім новых сродкаў, вялікіх ведаў і майстэрства.

Як вядома, дзелавыя і асабістыя чалавечыя якасці Леніна — таксама з'ява выдатная: палымяная натура, горача перакананы ў сваёй справе рэвалюцыянер быў і вялікім вучоным, тэарэтыкам, палітыкам і цудоўным кіраўнікомпрактыкам, незвычайным прамоўцам, які агнём сваіх слоў узрушваў свет; ён быў мужным, валявым, сабраным, непрымірымым у барацьбе і адначасова добрым, душэўным чалавекам. Паводле слоў Г. Кржыжаноўскага, гэты ўзвышана-просты чалавек быў наскрозь прасякнуты асаблівай гармоніяй вострага розуму і чулага сэрца. Гэта ж сцвярджаў і А. Луначарскі, гаворачы: «Калі спытаеце, ці былі адмоўныя рысы ва Уладзіміра Ільіча,— не ведаю, не ўспомню, не магу знайсці ад краю да краю гэтага ў палітыцы, у таварыскім жыцці, у асабістым, у тэорыі. Не ведаю, не магу ўспомніць ні аднаго выпадку, ні адной рысы адзначыць, якую можна было б назваць адмоўнай, няма такой. Станоўчы тып з галавы да ног, цуда як чалавек» [1]. Такі вобраз уяўляе сабой рэальнае ўвасабленне ідэальнага, станоўчага героя, гарманічнай асобы, да якой заўсёды імкнецца мастацтва і, натуральна, ленінская тэма няспынна будзе займаць розумы мастакоў.

---

[1] А. Луначарский. Ленин как ученый и публицист. М., 1924, стар. 23—24.

Нарэшце, вельмі важна адзначыць, што сам твар правадыра, усё яго аблічча мелі своеасаблівыя эстэтычныя якасці, выклікалі тыя высокія эстэтычныя пачуцці, якія даюць удзячны матэрыял мастаку, хоць гэтыя якасці асобага характару. Адзначаючы тытанічную магутнасць правадыра, Луначарскі гаварыў аб стылі яго работы, працах, якія выклікалі ўражанне нявыказанага бляску, унутранае эстэтычнае хваляванне ад яснасці, прастаты і чысціні яго думак. Такім чынам, трэба падкрэсліць, што адлюстраваць вобраз Леніна ў мастацтве — гэта каласальная творчая задача, якая дае і найвялікшыя магчымасці і ў той жа час тоіць велізарныя цяжкасці для мастака. Не выпадкова, што далёка не ўсім удаецца дабіцца поспеху ў рабоце. Глыбокіх, шматгранных твораў пра У. І. Леніна ў нас пакуль не так шмат. Нягледзячы на гэта, сам факт работы над ленінскім вобразам мае вялікае выхаваўчае значэнне таму, што прымушае выканаўцу думаць аб яснасці ідэйнай пазіцыі, арыентуе на вялікае змястоўнае мастацтва. Работа над такім маштабным вобразам, сутыкненне з светам пачуццяў такой выдатнай асобы, як Ленін, унутрана ўзбагачае чалавека і дапамагае ў яго барацьбе з дробязямі, якія часам закрываюць сутнасць нашага жыцця; яна, як свежы вецер, змятае нуду, абыдзёншчыну, драбнатэм'е ў мастацтве, адыход у свет вузкаасабістых інтарэсаў. Іншымі словамі, работа над вобразам Леніна — выдатная школа ідэйнасці і грамадзянскасці, майстэрства і вялікіх пачуццяў. Яна патрабуе глыбокага засваення марксісцка-ленінскага вучэння аб мастацтве, з ёю самым цесным чынам звязана складванне савецкай мастацкай школы, развіццё метаду сацыялістычнага рэалізму, гісторыя ўсяго нашага мастацтва.

Перабольшыць яе значэнне было б цяжка.

З толькі што сказанага само сабой вынікае, што і даследаванне пытанняў, звязаных с трактоўкай ленінскай тэматыкі ў розных відах і жанрах мастацкай творчасці,— праблема надзвычай шырокая і складаная. Яна, па сутнасці, абдымае, бадай, усе пытанні тэорыі і гісторыі шматнацыянальнага савецкага мастацтва. Зразумела, што дадзены зборнік артыкулаў, прысвечаных беларускай мастацкай Лeнініяне, не можа прэтэндаваць на сістэматызаванае гістарычнае даследаванне гэтага пытання. У ім робіцца толькі першая спроба абагульніць хоць бы ў агляднам плане той даволі значны вопыт, які маюць работ-

нікі беларускага мастацтва ў распрацоўцы ленінскай тэматыкі. А вопыт гэты, безумоўна, заслугоўвае ўвагі.

Звяртаючыся да яго, перш за ўсё трэба адзначыць плённую сувязь творчых пошукаў беларускіх мастакоў з дасягненнямі выдатных дзеячаў мастацтва іншых народаў нашай краіны. Савецкая Ленініяна, і перш за ўсё руская, мае цэлы шэраг глыбокіх і па-сапраўднаму хвалюючых твораў. Прыгадаем цудоўны нарыс пра У. І. Леніна М. Горкага, паэтычныя творы Уладзіміра Маякоўскага, драматычную трылогію Мікалая Пагодзіна. Вобраз Ільіча выдатна ўвасоблены ў скульптурах М. Андрэева, карцінах В. Сярова і М. Жукава, малюнках С. Васільева, кінафільмах «Ленін у Кастрычніку», «Ленін у 1918 годзе», «Апавяданні пра Леніна». З вялікай глыбінёй і шматграннасцю яго стваралі ў кіно і на сцэнічных падмостках В. Шчукін, М. Штраух. Прыклады можна павялічваць.

Шмат вучыліся на лепшых узорах савецкай Ленініяны і беларускія творцы, якія не толькі яе пашырылі, але і ўзбагацілі сваімі знаходкамі і дасягненнямі. Беларуская мастацкая Ленініяна даволі вялікая і багатая і мае сваю значную гісторыю. Яшчэ на рубяжы мінулага і нашага стагоддзяў выдатны дзеяч Камуністычнай партыі беларус Панцялей Мікалаевіч Лепяшынскі, паплечнік Леніна, які з ім супрацоўнічаў і добра яго ведаў, выступае з цэлым шэрагам графічных твораў, прысвечаных дзейнасці Уладзіміра Ільіча. Гэтыя работы Лепяшынскага Ленін не толькі добра ведаў, а і высока іх цаніў.

Можа быць, і гэту кнігу пра беларускую мастацкую Ленініяну варта было б пачынаць з агляду работы графікаў, папярэднікам якіх у распрацоўцы ленінскай тэматыкі быў наш зямляк. Аднак, паколькі зборнік не з'яўляецца сістэматычнай гісторыяй беларускай мастацкай Ленініяны, аўтары яго палічылі больш мэтазгодным размясціць матэрыял у двух раздзелах: у першым разглядаюцца творы выяўленчага мастацтва, у другім — тэатральнага і музычнага. У рамках гэтых раздзелаў, не парушаючы асабліва гістарычнай паслядоўнасці, на першы план вынесены артыкулы пра тыя віды творчасці, у якіх, на думку аўтараў, увасабленне вобраза У. І. Леніна знайшло найбольш шырокае і яркае выяўленне.

У жывапісных творах беларускіх аўтараў вобраз Уладзіміра Ільіча з'яўляецца ўжо ў 20-х гадах. Над мастацкай Ленініянай працуюць Ю. Пэн, Я. Кругер, М. Гусеў і інш. Праўда, яны яшчэ дасягаюць нямногага, імкнучыся пера-

даць у сваіх карцінах толькі партрэтнае падабенства правадыра. А мастацкая карціна, як вядома,— не дакументальны фотаздымак, яна перш за ўсё патрабуе шырокіх філасофскіх абагульненняў. У гэтым кірунку і вядзе пошукі адзін з найбольш таленавітых нашых жывапісцаў В. Волкаў. І яго праца на ўвасабленне ленінскай тэмы — у даваенныя гады з'яўляецца найбольш плённай.

Шмат працуюць беларускія мастакі над увасабленнем вобраза Ільіча ў пасляваенны перыяд. Назавём для прыкладу І. Давідовіча, Я. Харытоненку, Я. Зайцава, А. Семілетава, А. Гугеля, З. Паўлоўскага, У. Стальмашонка, А. Казлоўскага. Асабліва шмат увагі надаюць стварэнню Лeнініяны ў беларускім жывапісе мастакі А. Шыбнеў і К. Касмачоў.

Не заўсёды праца беларускіх жывапісцаў увенчваецца належнымі поспехамі. Аднак недахопы, якія сустракаюцца ў іх карцінах, не павінны засланяць добрага вопыту. Мастакі ў пошуках. І верыцца, што гэтыя пошукі прывядуць да новых адкрыццяў, да новых цікавых, па-сапраўднаму глыбокіх і маштабных твораў мастацкай Лeнініяны.

З творчым уздымам над увасабленнем вобраза Леніна працуюць беларускія скульптары. Пачатак гэтай працы ў 20-я гады паклаў А. Грубэ. У 30-х гадах велічны вобраз Ільіча стварае М. Керзін. У гэты час вылучаюцца таксама творы А. Бембеля. Помнікі яго работы, пастаўленыя ў Слуцку і Полацку, вызначаюцца ўзнёсласцю і завершанасцю форм.

У пасляваенны час над ленінскай тэматыкай, поруч з А. Бембелем і З. Азгурам, плённа працуюць скульптары А. Глебаў і С. Селіханаў. Да гэтых жа тэм звяртаюцца і маладзейшыя аўтары — В. Палійчук, П. Белавусаў і інш. Лепшыя работы беларускіх майстроў скульптуры, прысвечаныя Леніну, вядомы далёка за межамі рэспублікі. Так, шырокай папулярнасцю карыстаецца кампазіцыя З. Азгура «Ленін з дзяўчынкай», а таксама асобныя яго помнікі Леніну, пастаўленыя ў гарадах Савецкага Саюза.

Шырокае і разнастайнае адлюстраванне знаходзіць ленінская тэматыка ў творчасці беларускіх графікаў. З графічнымі творамі пра Ільіча, выкананымі ў самай разнастайнай тэхніцы як у станковай, так і ў кніжнай графіцы, выступаюць многія беларускія мастакі. Сярод аўтараў, якія працавалі або працуюць над ленінскай тэмай, мы сустракаем К. Касмачова, Л. Рана, М. Бельскага, А. Волкава, С. Геруса, Б. Кузьмічова, П. Калініна, І. Бялецкага,

М. Маліноўскага і многіх іншых. Асабліва хочацца адзначыць работу ў гэтай галіне нашага старэйшага графіка М. Тычыны, які яшчэ ў 1926 г. цікава аформіў паэму М. Чарота «Ленін».

Ёсць значныя здабыткі ў распрацоўцы ленінскай тэмы і ў беларускай музыцы. Кампазітары прысвяцілі Уладзіміру Ільічу, адлюстраванню яго велічных спраў і здзяйсненняў даволі шмат твораў розных жанраў. Сярод іх аўтараў мы сустракаем імёны праслаўленых майстроў старэйшага пакалення — У. Тэраўскага, М. Чуркіна, М. Аладава, Я. Цікоцкага, Р. Пукста. Свой плён у беларускую музычную Ленініяну ўнеслі і кампазітары сярэдняга пакалення — Я. Дзягцярык, Ю. Семяняка, І. Кузняцоў, А. Абеліёвіч, Д. Камінскі. Працавалі і працуюць над ленінскімі творамі і маладыя аўтары — І. Лучанок, Д. Смольскі і інш.

Вобраз Ільіча праслаўляецца ў кантатах, сімфанічных паэмах і творах іншых музычных жанраў. Беларускія кампазітары стварылі і шэраг песень, у якіх апяваецца веліч ленінскіх запаветаў, кіруючая і накіроўваючая роля Камуністычнай партыі. Назавём толькі некаторыя з іх. Гэта перш за ўсё «Песня аб партыі» У. Алоўнікава, «Партыі слава» і «Таму што мы — камуністы» І. Кузняцова, «Лічыце мяне камуністам» і «Абеліскі» Д. Смольскага, «Камуніст» І. Лучанка і іншыя. На жаль, сярод іх яшчэ мала твораў, якія набылі б шырокую папулярнасць у народзе.

Пачынаючы з 1938 г., вобраз Уладзіміра Ільіча ўвасабляецца і на нашых тэатральных падмостках. Спачатку на сцэне тэатра імя Коласа, пазней тэатра імя Купалы ставяцца амаль усе найбольш значныя п'есы савецкіх драматургаў, у якіх паказаны вобраз Ільіча. Увогуле беларуская тэатральная Ленініяна вельмі багатая на здабыткі, а вобразы Ільіча, якія стварылі П. Малчанаў і Б. Платонаў, стаяць у шэрагу лепшых дасягненняў савецкага шматнацыянальнага тэатра. Значнага поспеху дасягнулі ў выкананні ролі Леніна Ф. Шмакаў і А. Трус.

П'есы з вобразам Леніна неаднаразова ставіліся на сцэнах рускіх тэатраў, якія працуюць у Беларусі. Да лепшых работ трэба аднесці вобраз, увасоблены на сцэне Д. Арловым яшчэ ў даваенны час. У пасляваенны перыяд найбольш сур'ёзныя работы ў ленінскім рэпертуары С. Бульчыка і А. Логінава.

Народныя мастакі працуюць над ленінскай тэматыкай

у самых розных відах мастацтва — у музыцы, у самадзейным тэатры, у скульптуры і жывапісе. Сапраўднай арыгінальнасцю вызначаюцца творы пра Леніна, выкананыя ў разьбе па дрэве, інкрустацыі, у ткацтве і вышыўках — словам, у тых тэхніках, якія з'яўляюцца, калі можна так сказаць, спецыфічна народнымі і ў якіх амаль выключна выступаюць самадзейныя майстры.

Важна таксама адзначыць, што, працуючы над мастацкай Ленініянай, народныя ўмельцы імкнуцца не толькі дакладна паказаць іканаграфічныя рысы Ільіча, але і перадаць у сваіх творах найвялікшую любоў і павагу да правадыра працоўных, усенародную да яго пашану.

Неаднаразова рабіліся спробы паказаць вобраз У. І. Леніна і ў самадзейным драматычным мастацтве. Але ўсё ж значных здабыткаў тут было няшмат. І, мабыць, не выпадкова. Увасобіць вобраз на сцэне — адна з самых складаных мастацкіх задач. І наша самадзейнасць (як, дарэчы, і некаторыя прафесіянальныя тэатры) знаходзіцца яшчэ не на такім высокім узроўні, каб можна было паспяхова яе вырашаць. Зразумела, аўтары зборніка палічылі немэтазгодным спыняцца на такіх спробах, засяродзіўшы сваю ўвагу на тых творах прафесіянальнага і самадзейнага мастацтва, якія адзначаны і самастойным падыходам да тэмы, і пэўнай удачай у яе вырашэнні.

Ленініяна — гэта не толькі творы, у якіх непасрэдна паказваецца вобраз Ільіча. Гэта і тыя мастацкія рэчы, у якіх увасоблены яго бессмяротныя ідэі, яго запаветы.

Пры ўсім гэтым зборнік, у якім зроблена першая спроба падагульніць дасягненні і здабыткі беларускіх аўтараў у адлюстраванні вобраза Ільіча ва ўсіх відах мастацкай творчасці, можа паслужыць асновай для далейшых даследаванняў у гэтай галіне. У ім побач з падагульненнем станоўчага вопыту не абмінаюцца і недахопы, якія маюцца ў некаторых работах, закранаюцца асобныя праблемныя пытанні, звязаныя з увасабленнем вобраза Уладзіміра Ільіча.

Гаворачы пра гэта, хацелася б перш за ўсё звярнуць увагу творчых работнікаў Беларусі на такую акалічнасць. Да гэтага часу сюжэтамі іх твораў часцей за ўсё з'яўляліся найбольш вядомыя моманты з жыцця і дзейнасці Леніна, не раз ужо закранутыя перад гэтым у творчасці іншых мастакоў (напрыклад, «Сустрэча Уладзіміра Ільіча на Фінляндскім вакзале», «Ленін у Разліве», «Хадакі ў Леніна» и г. д.). Бясспрэчна, гэта найбольш вострыя эпізоды ў

гісторыі барацьбы У. І. Леніна за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Але варта толькі праглядзець асноўныя вехі біяграфіі Уладзіміра Ільіча, учытацца ў яго творы і перапіску, каб за кожным ленінскім словам і крокам заўважыць няспынна-напружанае жыццё і кіпучую дзейнасць у імя перамогі. Кожная старонка гэтага жыцця і дзейнасці можа быць тэмай і сюжэтам новага твора пра Леніна.

Аднак У. І. Ленін не толькі ў гісторыі, а і ва ўсіх сучасных здзяйсненнях нашага народа і народаў усяго свету, ленінская думка і ленінская справа, з'яўляючыся самым істотным выяўленнем эпохі, маюць адносіны да ўсіх бакоў народнага жыцця. І як невычарпальна гэта жыццё, так невычарпальна ленінская тэма ў мастацтве.

*1967 г.*

## ПАЎЛЮК ТРУС

Сапраўдны талент — заўсёды талент арыгінальны. Увага да яго творчасці можа прытухаць і разгарацца зноў, але згаснуць зусім яна не можа.

Такім талентам быў і паэтычны талент Паўлюка Труса. Я памятаю, з якім захапленнем у другой палове дваццатых гадоў сустракалі яго вершы шматлікія чытачы, як апладзіравала яму моладзь на літаратурных вечарах! Затым надышлі гады больш спакойных адносін да вершаў паэта, гады пэўнага роздуму над яго творчасцю. І вось у апошнія часы ізноў ажывілася цікавасць да паэзіі Паўлюка Труса.

У адным з апошніх нумароў газеты «Літаратура і мастацтва» ў сувязі з выхадам у свет новага выдання твораў П. Труса адзін з даўнейшых і сталых прыхільнікаў яго паэзіі расказвае, якім баявым, патрыятычным натхненнем дыхнулі на яго і ягоных таварышаў вершы паэта, калі да іх трапіла яго кніга ў Белавежскую пушчу.

Гэта было ў 1943 годзе, у час Вялікай Айчыннай вайны. *(Кніга Паўлюка Труса трапіла ў партызанскую брыгаду.— Заўвага рэд.)* Тады з даты заўчаснай смерці маладога паэта мінула толькі чатырнаццаць гадоў. Налета з той жалобнай даты споўніцца роўна сорак гадоў. За гэты час вырасла ўжо не адно новае пакаленне і чытачоў і паэ-

таў. Але і зараз, хто б ні разгарнуў кнігу П. Труса, ён знойдзе ў ёй нешта такое, што не пакіне яго абыякавым.

У чым жа сакрэт гэтай неўвядальнасці трусаўскіх радкоў? На гэта пытанне я адказаў ужо ў пачатку, калі сцвярджаў, што кожны сапраўдны паэт — паэт арыгінальны, і ў гэтым сіла і неўвядальнасць і П. Труса. Цяжэй адказаць на другое пытанне — у чым жа і як гэтая арыгінальнасць праявілася ў творчасці паэта? Не ведаю. Відаць, на гэтае пытанне, прачытаўшы творы П. Труса, кожны чытач дасць свой адказ. Для мяне яна заключаецца ў поўнай адпаведнасці шчырай непасрэднасці П. Труса як паэта і як чалавека.

Мы пазнаёміліся з П. Трусам хлапчукамі ў першым класе Уздзенскага вышэйшага пачатковага вучылішча. Яму было тады чатырнаццаць, а мне трынаццаць гадоў. З таго часу і да апошніх дзён ягонага жыцця мы былі добрымі сябрамі. Бацькі П. Труса жылі не багата, калі не сказаць — бедна. Хлопцу даводзілася часамі сядзець у вучылішчы і без хлеба. Але я ніколі не бачыў яго ў роспачы або ў глыбокім засмучэнні. Прывыкшы змалку да працы, ён у цяжкія часіны жыцця здабываў сабе хлеб сваімі рукамі. І ён заўсёды быў вясёлы, непаседлівы і рухавы. Сярод нашых равеснікаў ніхто не ўмеў так непасрэдна, залівіста, аж да слёз, смяяцца, як смяяўся П. Трус. Каб добра пасмяяцца, пазней, калі мы ўжо вучыліся ў Мінску, ён часта хадзіў у цырк, асабліва, калі там выступалі клоуны. Наогул ён любіў усе віды мастацтва, прымаў удзел у пастаноўках на самадзейнай сцэне, спяваў у хоры. Душа яго была раскрыта насцеж усяму прыгожаму, якога ён так мала бачыў у свае дзіцячыя гады. Вяршыняй гэтага хараства ў яго маленстве была народная песня. І ён любіў яе ўсім сваім сэрцам, і спяваў заўсёды з натхненнем і асалодай. Адгэтуль, ад народнай песні, ад народнага жарту, ад шчырага і вясёлага сэрца паэта ідуць і два пачаткі яго творчасці — лірычны і гумарыстычны. Дарэчы, чытачы, на жаль, амаль не ведаюць гумарыстычных твораў П. Труса, а іх у яго нямала, і напісаны яны ярка, з жывым дыялогам, сакавітай, простай, часамі нават грубаватай, народнай мовай.

Але, безумоўна, П. Трус перш за ўсё лірык. Шчырым, сакавітым, блізкім народным песням лірызмам прасякнуты не толькі яго вершы, а і паэмы, у тым ліку і такі твор высокага грамадзянскага пафасу, як паэма «Дзесяты падмурак». Нарэшце, паэзія П. Труса вылучалася сярод тво-

раў свайго часу яшчэ адной, уласцівай іменна ёй, своеасаблівай якасцю — музыкальнасцю слова.

Пры ўсім гэтым П. Трус быў паэтам свайго часу, таго часу, калі ў краіне ўсталёўвалася новае жыццё, авеянае подыхам рэвалюцыі і вялікіх сацыяльных і нацыянальных здзяйсненняў. П. Трус быў шчырым песняром гэтага новага жыцця, але ён спяваў яму хвалу не голасам рыторыкі, а голасам лірыкі. Песня яго звернута да сэрца чалавека, таму яна знаходзіць водгук і сёння.

П. Трус памёр, калі яму было ўсяго 25 гадоў, калі ён папрацаваў у літаратуры толькі пяць-шэсць гадоў, калі яго талент набываў сваю сталасць і сілу. Як шмат каштоўнага і, можа быць, нават вялікага ён мог яшчэ зрабіць! Але і тое, што зроблена паэтам — гэта не толькі гісторыя нашай літаратуры, не толькі мастацкае водгулле былога,— гэта яшчэ жывая наша песня сёння і заўтра.

*14/IV 1968 г.*

# ДАРОГА ВЫПРАБАВАННЯЎ

## УРЫВАК З ДЗЁННІКА

**19.VIII-1941 г.** Станцыя Гародня. І вось цягнік адправіўся кудысьці на поўдзень. Куды — ніхто не ведае. Чагосьці так журботна, што хочацца плакаць. Каб развеяцца, паспрабую весці запіскі, якія я пачынаў некалькі разоў і і не вёў: то быў заняты, то была добрая сябрына, то проста ленаваўся. Але цяпер няма нічога — ні работы, ні сяброў... Далёка дзесьці засталося ўсё... І ты, мая верная сяброўка — чалавек самай высакароднай душы. Адзін пайду Дарогай жыцця і вайны. На гэтай дарозе — тысячы сяброў, вялікіх сыноў маёй Радзімы, што аддавалі і аддаюць за яе кроў і жыццё... Буду ўспамінаць і запісваць хоць бы коратка пройдзенае. Пачну з першага дня гэтых вялікіх і нечуваных падзей, якія мяняюць і зменяць свет. Цалкам перапісваю сюды запісанае ў гэты дзень яшчэ ў Мінску.

**22.V.** Яшчэ ўчора ў самых мірных умовах глядзелі ў Доме Чырвонай Арміі спектакль МХАТа. Нішто не прадвяшчала тых падзей, якія разгарнуліся сягоння.

У шэсць гадзін раніцы мяне пабудзіў тэлефонны званок. Са Сталінскага райкома партыі прасілі пабудзіць Сянько [1] і перадаць яму, каб ён зараз жа быў у райкоме. Я пабудзіў і перадаў. Не паспеў заснуць, як зараўла сірэна трывогі. Я падумаў, што гэта асаавіяхімаўскія вучэнні.

---

[1] Сянько Яфрэм Сцяпанавіч — інструктар былога Сталінскага РК КПБ г. Мінска.

Праз невялікі час пазванілі ізноў — з Палітупраўлення Заходняй ваеннай акругі. Пыталіся, ці ў Мінску Броўка, а таксама іншыя пісьменнікі, і прасілі пабыць дома яшчэ з гадзінку, абяцаючы пазваніць ізноў. А неўзабаве пазванілі з «Красноармейской правды»: «Слухайце, але не паўтарайце. Нам тэрмінова патрэбен верш на пэўную тэму...» Я тады зразумеў усё і толькі запытаў: «А навала адкуль?» — «З Захаду». І так, значыць, вайна з Германіяй.

Паспешна паснедаў, сеў за работу, але праз паўгадзіны Модэль[1] выклікаў у Саюз пісьменнікаў. На вуліцах усё яшчэ было мірна і спакойна. У рэдакцыі «ЛіМа» сеў дапісваць верш. Перашкаджаюць, не дадуць сабраць увагі. Нарэшце чую размову, што зараз будзе выступаць Молатаў. Бягу да радыё, слухаю прамову: вайна пачалася, фашысты бамбардзіравалі Кіеў, Жытомір, Гродню і іншыя гарады.

Верш закончыў праз некалькі хвілін. Здаў у «Звязду» і для перакладу.

У Доме пісьменніка ўзбуджанасць. Панамарэнка гаварыў на экстраным сходзе партактыву, што немцы бамбілі Ліду, Пінск і іншыя гарады Заходняй Беларусі; патрэбен спакой і дысцыпліна, дысцыпліна...

Увечары павінен буду дзяжурыць у Доме (пісьменніка) і таму бягу дахаты паабедаць. У калідоры сустракаю Кандрата[2]. Ён ужо атрымаў павестку. Цёпла і сардэчна развітваемся.

На вуліцах горада небывалая ўзбуджанасць. Каля хлебных крам утварыліся чэргі. Купілі з Яфрэмам (Сянько) паўлітэрка, выпілі на развітанне за нашу перамогу. Пасля абеду пайшоў ізноў у Дом (пісьменніка). Ходзяць розныя чуткі: быццам бы нашы войскі каля Варшавы; збіта пад Мінскам некалькі нямецкіх самалётаў. Хочацца верыць, што гэта праўда. Адно верна: на Мінск нямецкая авіяцыя памыкалася чатыры разы і ўсе разы была адбіта. Слава нашым сокалам!

Увечары перадалі па радыё Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб ваенным становішчы, мабілізацыі 1905—1918 гг. і інш. Нарэшце ўсё змоўкла. Горад цёмны і нямы... Я пішу гэтыя нататкі. Магчыма, што гэтая ноч будзе і спакойная. Купала, Лынькоў і Броўка дзесьці ў Пры-

[1] Модэль Міхась — крытык. У той час быў сакратаром партарганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

[2] Кандрат Крапіва.

балтыцы[1]. Была тэлеграма, што прыедуць сягоння каўнаскім поездам, але поезд гэты не прыйшоў. Невядома, як яны дабяруцца.

Удзень у паходным снаражэнні ішла вялізная калона міліцыі. Прайшла з песняю калона маладых лётчыкаў. Больш войска чамусьці не відаць было. Зараз з-пад Дома ўрада на Камароўку ідзе калона парожніх грузавікоў. Па тратуары гужам цягнуцца людзі ў чорным. Хто яны: рабочыя, войска? Бясконца ў цемры снуюць машыны. Што будзе заўтра?

Аб тым, што было заўтра і да сённяшняга дня, раскажу ў другім месцы.

**20.VIII.** Ноч прайшла спакойна, калі не лічыць стогнаў і галасных трызненняў: «Абкружаны! Гранатаю! Наперад!..» Едзем на поўдзень. Праехалі нядаўна толькі Сноўск, дзе доўга стаялі і дзе нас тры разы бамбілі і абстрэльвалі з кулямётаў. Страшна — няма дзе схавацца, а ўсім так хочацца жыць. Са мной у купэ палітрук Карамазаў, ранены ў нагу, адзін магілёвец, пераеханы машынай, яшчэ двух. Ляжым на мяккіх пасцелях, і часамі здаецца, што я еду кудысьці ў плацкартным вагоне ў добрыя мірныя часы. Але вось на станцыях сустракаюць нас з плачам чароды жанчын, выглядаючы сваіх мужоў, братоў і сыноў, і лёгкія і светлыя лятункі разлятаюцца як дым. Сёння зрабілі перавязку, і я адчуваю сябе значна лепш. Чытаю лірыку Пушкіна: «Умолкну скоро я!..»

К чорту смутак! Трэба жыць, каб перамагчы чорную сілу...

**21.VIII.** Цэлую ноч прастаялі перад станцыяй Бахмач, і амаль цэлую ноч дзесьці перад намі бамбілі чыгунку. Людзі сталі хвалявацца, іншыя даходзілі да істэрыкі, вінавацілі камісара, што той не патрабуе, каб нас хутчэй прапусцілі. Я спаў спакойна, калі не лічыць кашмарных сноў. Раніцай нам як начсаставу падалі лепшае снеданне і папяросы замест махоркі. Учарашнія буяны пачалі ізноў шумець, чаму няма роўнасці. Мне стала няёмка, тым больш што я і сам папаў у начсастаў так. Калі нас, запісваючы ў спіскі, запыталі пра званне, я адказаў: «Інструктар-літаратар».— «А званне?» — «Лейтэнант»,— адказаў Карамазаў, якому я перад гэтым гаварыў, што літработнікі ў нас звычайна маюць званне лейтэнанта. Так я і лічыўся цяпер лейтэнантам.

Праехалі Канатоп. Тут больш спакойна. Прачытаў то-

[1] Яны былі на Першым з'ездзе пісьменнікаў Латвіі ў Рызе.

мік Пушкіна. Прыйшла ў галаву думка зрабіць у будучым зборнік перакладаў з рускай класічнай паэзіі — ад Пушкіна да Маякоўскага: «Залатыя скарбы». З Пушкіна хацелася б даць: «К Чаадаеву», «Деревня», «Редеет облаков...», «Я пережил свои желанья», «Умолкну скоро я!..», «Узник», «Птичка», «К морю», «К А. П. Керн», «Зимний вечер», «Пророк», «Зимняя дорога», «В Сибирь», «Три ключа», «Поэт», «Няне», «Утопленник», «Анчар», «Кавказ», «Обвал», «Брожу ли я...», «Бесы», «Элегия», «Эхо», «Конь», «Осень», «Не дай мне бог сойти с ума», «Туча», «Памятник», «Кто, волны, вас остановил...» — усяго семсот семдзесят радкоў. А да гэтага дадаць: Лермантава, Фета, Цютчава, Някрасава, Горкага, Брусава, Блока, Багрыцкага і Маякоўскага. Пакуль што гэта толькі планы. Але з надзеяй на будучыню весялей жывецца.

**22.VIII.** Учора ўвечары мае суседзі ізноў справілі паніку. Асабліва вызначаюцца гэтым чатыры лёгкараненыя: удзень бузяць, гарланяць, выхваляюцца сваімі баявымі «подзвігамі», а ўночы псіхуюць. Так было і ўчора. Нас надоўга затрымалі на нейкай невялікай станцыі. Пакуль сталі, панікёры прачулі, што недзе за дзесяць кіламетраў скінулі немцы дэсант і самалёты ворага ідуць у кірунку да гэтай станцыі. У дадатак да гэтага на станцыі гарэлі агні. Пачалася істэрыка, і чатыры баязліўцы давялі да самай высокай узбуджанасці ўвесь вагон. Але і гэта ноч прайшла спакойна, калі не лічыць на гэты раз... вошай. Апанавалі яны мяне раптоўна і ў вялікай колькасці. Аднак — усё дарма, усё перажывецца. Горш, што справы на фронце не вельмі вясёлыя. Сёння два месяцы вайны. І вось радыё прынесла вестку, што нашы войскі пакінулі Гомель, апошні горад Беларусі. Няма ў мяне цяпер ужо ні кавалачка роднай зямлі. Адна радасць, што Радзіма мая бязмежная і ёсць яшчэ дзе прыхіліць галаву.

Праехалі Курск. Тут спакойна. Як у мірны час, на пероне прадаюць марожанае, папяросы. Шмат бежанцаў і ваенных эшалонаў. Дапытваюцца, што там — на фронце.

**23.VIII.** Прачнуўся ў восем гадзін. Імжыць дробны асенні дождж. Стаім у Варонежа. Чалавек сорак з нашага эшалона пакінулі ў горадзе. Мы накіроўваемся кудысьці далей, кажуць, што на Тамбоў.

Палова восьмай. Цямнее. А мы ўсё яшчэ ад паловы шостай стаім на станцыі Кочатаўка. Хтосьці брынкае ў вагоне на гітары. Дзіўны інструмент чалавек — як ён хутка настройваецца на новы лад. Нядаўна яшчэ мацюкаліся,

нерваваліся, а паспакайнела — і запелі. Хораша пелі напшы змрокам учора на нейкім паўстанку. І гэта — раненыя! Слаўныя людзі. І вечар быў слаўны — цёплы, мяккі. Сёння хмарна. І на душы хмарна, як у жыцці «Растеряевой улицы», якую я чытаю...

**24.VIII.** У дзве гадзіны прыбылі на станцыю Балашоў і пачалі выгружацца. Прайшоўшы ўсе шпітальныя працэдуры, нарэшце ляжу на ложку і... сумую. Папаў я ў палату для тых, што ачуньваюць. Згаладаўшыся па святле і волі, яны ўвесь час блукаюць па двары. Я — адзін. Пішу Лынькову і Крапіве ліст.

**25.VIII.** Прамінуў дзень шпітальнага жыцця. Вечар. Гарыць электрычнасць. Непрывычна гэта і, па-мойму, залішне бестурботна; лепш бы быць заўсёды напагатове, хоць фронт адгэтуль і далёка. На двары іграе гармонік, на вакзале гудуць паравозы, за сцяною ўрач гутарыць з хворым — «нервознікам ад бамбёжкі». Урач — маладая, мілая жанчына. Адна, здаецца, з усіх, што занята работаю, а то тут шмат тупае «персаналу», а дапрасіцца чаго-небудзь нельга.

**26.VIII.** Сёння быў сонечны, ясны дзень. Але і ён прайшоў звычайна: снеданне, абед, вячэра, абход урача, брыццё, перавязка... Чытаў вясковыя апавяданні Мапасана. Увечары было кіно — «Член правительства». Высыпалі ўсе хворыя, нават некаторых вынеслі на насілках і ложках, паставілі іх на двары недалёка ад экрана. Якая вялікая ў чалавека смага жыцця!

**27.VIII.** Хмурае надвор'е. Сніўся Пестрак, Лынькоў, Броўка...

Балашоў — запылены і неўладкаваны гарадок. Шпіталь наш змяшчаецца ў нейкім старым будынку на беразе Хапра. За ракой — некалькі драўляных домікаў і мазанак, а далей — невялікі лясок, хутчэй — хмызняк. І гэта прыемна — падобна трошкі на родны беларускі пейзаж.

Перадалі па радыё апошнія паведамленні... Слёзы коцяцца з вачэй, калі слухаеш пра падрыхтоўку ленінградцаў да абароны. Няўжо падзе і гэты асілак, гэтая цытадэль і слава савецкага народа? Сэрца гаворыць, што калі вораг і возьме гэты горад, дык нялёгка яму дастанецца перамога. А дзесьці ў глыбіні нутра жыве надзея, што горад Леніна — непераможны.

Збіраўся паслаць Сашу[1] пісьмо і не ведаю, ці варта.

---

[1] Саша (Аляксандр Іларыёнавіч Бялькевіч) — брат жонкі П. Глебкі.

Хмурае надвор'е, і настрой хмуры. Наогул усе гэтыя дні я жыву ў чаканні чагосьці неспадзяванага; сэрца томяць нейкія цяжкія прадчуванні. Што з нашымі? Што з Нінаю [1]?

Дзесяць гадзін. Быў абход урача. Прапісала дадатковае харчаванне. Гаворыць, што хутка буду здаровы. Моцна цякуць вушы. Абяцала выпісаць вушніка.

Бяруся чытаць «Морские рассказы» Станюковіча.

**28.VIII.** Дзень прайшоў звычайна. Чытаў, гуляў на більярдзе, глядзеў выступленне акцёраў мясцовага тэатра. Страшная халтура пра шпіянаж. І якая прорва паміж гледачамі і акцёрамі! Першым сорамна за «прадстаўнікоў мастацтва», а другія самым сур'ёзным чынам лічаць, што іх халтура — сапраўднае мастацтва. Зараз, здаецца, яшчэ будзе кіно.

**29.VIII.** ...Сёння прачнуўся ў шэсць гадзін. Слухаў зводку за 28-е. Нашы пакінулі Днепрапятроўск. Ізноў успомніўся Мінск... Што там? Дзе Ніна? У Мінску? У Цербутах? Хоць бы якую-небудзь атрымаць ад іх вестачку. Паслаў пісьмо Сашу. Не ведаю, ці дойдзе яно і ці ведае і Саша што-небудзь пра нашых. Зрабілі перавязку... Чакаем абеду. Ідзе дождж. Дзесяць гадзін. Павячэралі. Ізноў ідуць размовы пра фронт. Усе пытаюць: калі ж кончыцца вайна? І ўсе адказваюць, што не скора. Ёсць смутак у гэтых адказах, але няма роспачы... У сэрцы самых маладушных жыве надзея, і яна прынясе перамогу.

**31.VIII.** Учора на двары было кіно: «Фронтовые подруги». Было трохі халаднавата, і я, відаць, прастыў. Сёння страшна блага сябе пачуваю: пухне шчака, гарыць флегмона, бяруць дрыжыкі, баліць галава, тэмпература 37,8. Хаця б не было чаго сур'ёзнага.

**2.IX.** Становішча маё не палепшылася: шчака ўспухла яшчэ больш, не магу нічога глытаць. Сплю неспакойна. Сёння сніў, што на мяне пікіруе нямецкі бамбардзіроўшчык. Я бягу па Вакзальнай плошчы ў Мінску, хаваюся за ўзведзеныя там барыкады, за нейкія надалбы. Нарэшце прыбягаю ў нейкі падвал у вакзале. Са мною Ніна. Мы сядзім і закусваем. Усё спакойна і добра. З'яўляюцца знаёмыя: Каповіч [2], Якімовіч [3]... І ўсё раптам прапала — пабудзілі. У нас перамена — абедаць будзем не ў палаце, а ў сталовай.

---

[1] Ніна (Ніна Іларыёнаўна) — жонка П. Глебкі.

[2] Кацовіч Лазар Абрамавіч (1905—1953) — савецкі пісьменнік,

[3] Якімовіч Аляксандр Іванавіч (1904—1979) — беларускі савецкі пісьменнік.

Прачытаў «Пролог», чытаю «Жизнь и приключения Николаса Никльби». У сем гадзін раніцы па радыё перадавалі пісьмо Максіма Танка. Значыць, чуткі, якія я слухаў у Мінску 24.VI, пад вечар, аб прыходзе Танка і Пестрака ў Мінск — правільныя, прынамсі, напалавіну, бо не чуваць пра аднаго Піліпа.

3.IX. Напісаў і ўкінуў у скрынку вялікі ліст Лынькову і Крапіве. Адказу ад іх на першы ліст усё няма. Наогул ніякіх навін. Паводле паведамленняў, на фронце ўсё жорсткія баі. Нашы войскі эвакуіравалі Талін. Маё становішча пагоршылася: зусім запухла правае вока. Цэлы дзень ляжу з грэлкай.

4.IX. Наша жыццё ідзе аднастайна — ні вялікіх падзей, ні глыбокіх пачуццяў, ні выразных думак. Мроіцца штосьці неакрэсленае і няўлоўнае. Часта сняцца сны, і ўсё аб адным — аб родных мясцінах і людзях:

Адно я не пазбыўся бед —
Мне сняцца сны аб Беларусі [1].

Скончыў чытаць Дзікенса і цяпер сяджу без кнігі, бо бібліятэка тут вельмі бедная. Каб не сумаваць, пастараюся прыпомніць і запісаць сваё падарожжа ад Мінска да Балашова.

23 чэрвеня было некалькі налётаў на Мінск, але бомбы былі скінуты дзесьці за горадам — відаць, на аэрадромы. Мы яшчэ бестурботна хадзілі па вуліцах, у час трывогі выходзілі ў Доме пісьменніка на балкон і сачылі за самалётамі. Удзень — паміж дванаццаццю і дзвюма гадзінамі — выклікалі ў ЦК да Гарбунова. Прысутнічалі: Купала, Колас, Броўка, рэдактары газет, мастакі. Гутарка ішла аб выпуску плакатаў з вершаванымі подпісамі. Размеркавалі тэмы. Гарбуноў сказаў, што ў Брэсцкай вобласці, адкуль ён нядаўна вярнуўся, некаторыя работнікі кінуліся ў паніку і сталі ўцякаць. Давялося іх вярнуць на месцы, наладзіць сувязь. Войскі нашы трымаюцца добра... Абадзёраныя, мы разышліся, дамовіўшыся ў шэсць гадзін падаць у ЦК тэксты для плакатаў. Мы з Броўкам заселі працаваць у Доме пісьменніка. Зрабіўшы подпісы, занеслі іх у ЦК і пайшлі да Броўкі абедаць. Паабедалі і толькі выйшлі, як ізноў абвясцілі трывогу. Перачакалі яе ў пад'ездзе суседняга дома. Броўка пасля гэтага пайшоў у Дом пісьменніка, а я дадому. Дома сталі капаць у садзе шчыліну. На

[1] З верша Я. Купалы «Так, я — пралетарыят».

ноч падрыхтавалі для вынасу на двор некаторыя рэчы і ляглі спаць. Ноч прайшла спакойна.

24 чэрвеня ў гадзіны тры-чатыры раніцы — трывога. Мы ўсталі, сталі рыхтавацца піць чаі. Ізноў трывога — гул самалётаў, стрэлы зенітак, выбухі. Мы кінуліся ў сад у шчыліну. Толькі ўскочылі, як дзесьці зусім блізка прасвістала і разарвалася бомба. Глянулі — гарадзь будынкі. Пачалі выцягваць з кватэры рэчы. Хутка стала спакайней. Укінулі ізноў усё ў калідор, замкнулі і вырашылі выйсці з вакзальнага раёна, мяркуючы, што бамбяць толькі гэты раён. Выйшлі на вуліцу — навокал пажары. Рушыліся да нямецкіх могілак, сталі спрачацца, куды ісці. На яўрэйскіх могілках рассталіся: я пайшоў у Дом пісьменніка, а Ніна, бацька і маці — да нейкай знаёмай. Дамовіліся, што буду чакаць Ніну ў Доме пісьменніка. Ішоў я па Інтэрнацыянальнай, цераз пляц Волі, па Ленінскай. На вуліцах поўна шкла, разбіты некаторыя будынкі, павалены тэлеграфныя слупы, абарваны правады. На пляцы Волі — некалькі варонак, адна ля самых варот касцёла. Разбіт дом Галоўміліцыі. Па Савецкай, ад Ленінскай да НКВД і ў другі канец, усё цэлае, толькі сям-там павысыпаліся шыбы.

З Дома пісьменніка пайшлі з Броўкам у рэдакцыю «Красноармейской правды». Па дарозе туды ўсё цэлае, пачынаючы ад плошчы. У рэдакцыі дагаварыліся, што 25-га раніцай прыйдзем на працу, і, узяўшы адносіны, накіраваліся ў ваенкаматы афармляцца. Броўка адразу ж зайшоў у ваенкамат на Бакуніна, а я пайшоў далей. Не дайшоў да Дома пісьменніка, як ізноў трывога. Сяк-так прарваўся, дабег. У Доме — Вольскі, Кучар, Куляшоў, Маўр. Прыбегла Купаліха [1]: што рабіць, чакаць ці выязджаць на дачу?Араілі выехаць. Кучар і Вольскі званілі Банніку [2], каб уладзіцца ў рэдакцыю [3],— не дагаварыліся. Скора прыйшоў Броўка. Ён, Мар'я Канстанцінаўна [4], Кучар, Маўр і яшчэ некалькі чалавек вырашылі ісці на Апанскага — там быццам бы спакайней. Куляшоў, які толькі перад гэтым прыехаў ад бацькі, меўся ісці ў ваенкамат. Я павінен быў застацца чакаць Ніну. Так пасля гэ-

---

[1] Купаліха (Уладзіслава Францаўна Луцэвіч) — жонка Я. Купалы.

[2] Баннік — начальнік аддзела прапаганды Палітупраўлення Беларускай ваеннай акругі.

[3] Рэдакцыя газеты «Красноармейская правда».

[4] Мар'я Канстанцінаўна Хайноўская — загадчыца медкабінета пры Доме пісьменніка.

тага я нікога з іх не бачыў. Пачалася бязлітасная бамбардзіроўка ўсяго горада. Я пайшоў у нашым двары ў падвал і праседзеў там дацямна. Змрокам стала ціха. Горад увесь гарэў, дым засцілаў усё неба. Я накіраваўся дахаты. Дайшоўшы да шчотачнай фабрыкі, пачуў вінтовачную перастрэлку. Ад пераезда бягуць жанчыны: «Ай, немцы!» Я спыніўся. Праз момант страляніна заціхла. Як высветлілася, каля чыгункі прыкмецілі дыверсантаў. Яны пачалі адстрэльвацца. Аднак трох з іх злавілі, а чацвёрты ўцёк.

Нашы ўсе і Федаровічы [1] сядзелі ў шчыліне. Пачалі абмяркоўваць, што рабіць, трэба куды-небудзь сысці з гэтага месца. Бацька катэгарычна заявіў, што ён нікуды не рушыцца. Пасля доўгіх угавораў вырашылі пайсці без яго... Цяжка было ісці, але ніхто тады яшчэ не думаў, што гэта не на адну ноч, надоўга. Надзелі паліто, узялі ў карзінку вяндліны і туфлі для Ніны. Ідзём па Мяснікова. Пад нагамі хрустае шкло. Усё неба абнята чырвона-чорным зарывам. Вуліцы напоўнены дымам і бурым моракам. У гэтым мораку маўкліва, з клункамі на плячах, з чамаданамі, з дзецьмі на руках, рухаюцца людзі. Час ад часу іх твары асвятляе зарыва. Дыхнуў вецер, і дым яшчэ гусцей сцелецца па вуліцах. То там, то ў другім месцы агністым дажджом узлятаюць увысь і сыплюцца далоў іскры. Жудасны малюнак!

На рагу Рэвалюцыйнай і Камсамольскай ізноў спрачаемся, куды ісці — у Акадэмію навук ці ў Дом пісьменніка. Пеця з Насцяй [2] ідуць у Акадэмію, а я, Ніна і маці ў Дом пісьменніка. Зайшлі ў падвал у двары — поўна людзей, цемра, хнычуць дзеці, духата. Ні вады, ні электрычнасці ў горадзе няма. У падвале з нашых — машыністка Соня з дзяўчынкай, работніца з Упраўлення па ахове аўтарскіх праў. Праз нейкі час з'явіўся Сянько: усе камуністы павінны пайсці з ім. Ідзём у нейкі двор па Савецкай, там нас разбіваюць на ўзводы і аддзяленні — атрад па барацьбе з дэсантам. Я аддаю свой капялюш Яфрэму (Сянько) і бяру ў яго кепку, развітваемся: ён ідзе ў райком.

Чакаем вінтовак. Мінае гадзіна, другая. Нарэшце з'яўляецца сакратар райкома і абвяшчае:

— Абставіны склаліся так, што пакідайце горад і ідзіце, куды хто хоча і можа.

---

[1] Федаровічы — суседзі. Гаспадар іх па прафесіі цырульнік.

[2] Пеця (Пётр Іларыёнавіч Бялькевіч) — брат Ніны Глебка. Насця (Анастасія Андрэеўна Волкава) — жонка Пятра Бялькевіча.

Уражанне такое, што пад самым Мінскам немцы. Куды ж ісці? Модэль прапануе ісці следам за ўсімі з нашага атрада — ён увесь дрыжыць. Я настойваю зайсці ў Дом пісьменніка да нашых. Заходзім. Уме ўвасьмярых без усякіх планаў і меркаванняў зварочваем на Камсамольскую, праходзім па Варашылава і выбіраемся на Магілёўскае шасэ. На шасэ — суцэльны людскі паток; імчацца машыны, бязбокія, на трох колах... Каля ваеннага гарадка па нас з лесу пачалі страляць з кулямётаў. Натоўп рынуўся з шасэ і прыпаў да зямлі. Страляніна спынілася. Тады, як магутны парыў буры, людзі ўзняліся, зламалі агароджу і рынулі ў ваенны гарадок. Ушчаміўшыся паміж шчыкецін, я шпурнуў к чорту карзіну, забыўшыся, што там Німіны туфлі. Бедная Ніна засталася ў падраных тапачках!

Праз ваенны гарадок ізноў выбраліся на шасэ. Дзяўчынка машыніесткі Соні не можа ісці; Соня бярэ яе на рукі. Цяжка! Соню падмяняе Ніна, работніца з Упраўлення (па ахове аўтарскіх праў), Модэль, я... Але ідзём усё адно вельмі павольна... Перад намі — цемра, набітая людзьмі, за намі — таксама бясконцы людскі вал, а яшчэ далей — у агні і дыме разбіты і адзінокі горад, родны горад, любімы Мінск. Я ізноў гавару... што, можа, дарэмна пайшлі, прынамсі, мне трэба было зайсці ў рэдакцыю «Красноармейской правды» і быць разам з ёй. Але Модэль катэгарычна заяўляе, што рэдакцыі ў Мінску ўжо няма: Броўка хадзіў і нікога не застаў.

— Дзе ж усе нашы?

— Усе пакінулі горад, і нам трэба трымаць шлях па Магілёўскім шасэ, яны ўзялі кірунак на Магілёў.

Я адказваю на гэта, што Броўка і Кучар павінны завітаць у Пухавічы, бо там іх сем'і, і прапаную ісці на Пухавічы — гуртам лягчэй будзе вырашыць, што рабіць...

Стала світаць, і адразу ж пачалася страшная кананада: над Мінскам пачуліся выбухі бомбаў, над намі сталі рвацца снарады зенітак, а хутка з'явіліся і фашысцкія самалёты. Перад намі метраў за дзвесце-трыста быў лес. Мы рынуліся бегчы ў лес. Дабеглі, агледзеліся — нікога другога з нашых спадарожнікаў не было. Сталі гукаць — не адклікаюцца. Папробавалі шукаць, але марна — лес увесь кішэў людзьмі. Мы прылеглі і гадзінку паспалі. Усталі разам з сонцам і ўжо ўтраіх (я, Ніна і маці) рушылі далей. Так пачаўся для нас дзень 25 чэрвеня.

Далейшы шлях апішу заўтра, бо зараз абход і трэба ісці на перавязку.

**5.IX.** Учора ўвесь час ішоў дождж, а сягоння ясны і ціхі дзень ранняй восені. «Приятна мне ее прощальная краса». На сэрцы спакой і мір. І не хочацца ўспамінаць жудаснага мінулага. А трэба — магчыма, што гэта адзінае, што застанецца мне на памяць аб нашым сумесным з Нінай горы і радасці.

Ішлі мы хутка, абганялі тысячы людзей, а перад намі ўсё без канца і краю быў густы чалавечы тлум. За сорак і больш кіламетраў быў відаць над Мінскам дым; як навальнічная хмара, ён займаў цэлую палавіну неба. І сонца выглядала праз яго сіратліва, засмучана і чырвонае-чырвонае, як кроў. За сорак і больш кіламетраў чуліся выбухі. Людзі, напружыўшы апошнія сілы, уцякалі ад гэтага жаху. Але панурыя, бязлітасныя фашысцкія сцярвятнікі даганялі іх на ўсіх дарогах. І тады натоўп, як падхопленыя ветрам лісты, рассыпаўся па абочынах дарогі, прыпадаў да зямлі. Толькі нядужыя, як абламаныя галінкі, крыху мітусіліся і тады падалі проста на дарозе, а пасля ўжо калекі бездапаможна драпалі кіпцюрамі зямлю, а старыя паўзлі на руках, а грудныя дзеці заліваліся слязьмі. Калі спакайнела, людзі вылазілі з ям, з кустоў і паспешна ішлі і ішлі...

У мяне да гэтага часу стаяць уваччу тры малюнкі:

1. Чалавек у белым гарнітуры. Галава яго ўся разбіта, вісяць кавалкі мяса, белая вопратка пачарнела ад крыві. Ён кружыцца на адным месцы і моліць: «Дапамажыце!» Пазней мне казалі, што ён ужо канаў на дарозе, а быў ён быццам бы зубным урачом у Мінску.

2. Дзіцянё, гадоў паўтара яму ці два. Яно ляжыць у канаве, худое, чорнае, ляжыць, відаць, ужо дні два, бо тварык згарэў ад сонца а ўсё цела ў пяску і гразі. Яно ўжо ледзь-ледзь дыша, і галасок яго падобны на камарыны піск. Але яно яшчэ напамінае аб сабе.

3. А вось ужо зусім маўклівыя ахвяры. За крокаў дзесяць ад дарогі ляжыць мёртвы мужчына. Твар яго зямлісты, правая рука яго моцна сціснута, у ёй ён трымае ручку мёртвага хлопчыка гадоў пяці. Тварыка дзіцяці не відаць, галоўка яго падагнута пад сябе і ўсё цела страшна скручана. А мужчына ляжыць выцягнуты і роўны.

І не ведаю, што страшней: ці стаяць пад кулямётным агнём фашысцкіх самалётаў на шасэ, ці ляжаць поруч з гэтымі трупамі, масянжовымі ад сонца, чорнымі ад зямлі і зямлістымі ад смерці. А іх сустрэнеш на кожным кроку, як толькі ступіш з дарогі. Я налічыў іх дзесяць на адлег-

ласці ад ляска, у якім мы адпачывалі, да павароткі на Пухавічы. Павярнуўшы на Пухавіцкае шасэ, мы іх ужо не сустракалі, і людзей на дарозе стала таксама меней. Праязджалі толькі асобныя машыны з ваеннымі розных родаў войск, але без зброі. Я стаў меркаваць, што гэта яшчэ не адступленне, бо буйных часцей, узброеных, з абозамі, не было відаць. Наадварот, даволі часта ішлі машыны з боепрыпасамі ў кірунку на Мінск.

Мы пайшлі спакайней. Мы амаль нічога не елі ад раніцы 24 чэрвеня, але голаду не адчувалі. Страшна марыла толькі смага, і ля кожнага калодзежа, усюды, дзе толькі можна, пілі ваду. У гадзіны дзве дня былі ў Дукоры і там вырашылі падсілкавацца. Але там ужо было поўна бежанцаў і дастаць што-небудзь з ежы было немагчыма. Нарэшце сяк-так выпрасілі ў адной жанчыны некалькі яек і літар малака, а ў каапераціві дасталі трыста грам пячэння, бо хлеба не было. Паеўшы, выйшлі на рэчку, абмылі сцёртыя дашчэнту ногі, адпачылі трохі і рушылі далей. У гадзін сем прыйшлі ў Пухавічы ў дом адпачынку, але там ужо нікога не засталі: за гадзіну прыблізна перад гэтым прыехалі туды на грузавіку Броўка і Кучар, забралі ўсіх адпачываючых і выехалі. Мы паабедалі і, апасаючыся начнога самалётнага дэсантнага налёту на аэрадром і на самыя Пухавічы (аб гэтым хадзілі там чуткі), парашылі ісці далей і падначаваць у бліжэйшай за Пухавічамі вёсцы. На наша шчасце, за станцыяй папалася машына і давезла нас да раз'езда Блужа. Адтуль мы хацелі дабрацца да Беразянкі, але ўжо не маглі і заначавалі ў Бабах.

**7.IX.** Ні заўчора пасля абеду, ні ўчора цэлы дзень не давялося запісаць ні радка: мае суседзі з нуды кінуліся ў размовы і не давалі ні хвіліны спакою. Цяпер усе на канцэрце. І я маю магчымасць пісаць. Калі не лічыць кароткіх сноў аб родных мясцінах і смутку аб іх наяве, мне аб цяперашнім сваім жыцці няма чаго і сказаць. А што пісаць аб смутку і прагных імкненнях, калі разумееш, што «ўсё, што адарвалася ад зямлі, варочаецца да яе толькі пасля вандраванняў, якія далёка заводзяць ад таго месца, адкуль гэтыя вандраванні пачаліся». І так, аб нашых далейшых вандраваннях.

Пераначаваўшы ў Бабах, мы 26 чэрвеня рушылі ў Беразянку з надзеяй застаць Коласа. Але і гэта надзея не спраўдзілася. Коласа там не было і не заязджаў. Пагутарыўшы з яго былымі гаспадарамі, мы пад спёкай і пылам, разбітыя, з пакалечанымі нагамі і прыгнечанымі сэрцамі

накіраваліся на Цербуты. Па дарозе нас дагнаў чалавек, які прабіраўся на Слуцк. Іх тысячы было на дарогах, што пехатою прабіраліся на Бабруйск, на Магілёў, на Арол і нават на Дон і на Урал. За кіламетраў пяць ад Цербутаў нас дагнала падвода з Арэшкавіч. Упрасілі хлопца падвезці нас. Разгаварыліся — вядома, аб вайне. І ён, просты хлопец з глухіх Арэшкавіч, таксама не можа і думаць, каб немцы перамаглі. А тым часам відаць аж тут, як над Мінскам стаіць чорная хмара дыму; дзесьці на аэрадроме бамбёжка, і ў нізкіх сялянскіх хатах дрыжаць столі, высыпаюцца шыбы...

Дабраўшыся ў Цербуты, мы ўздыхнулі з палёгкай. Увечары да нас прыйшла жонка скульптара Бембеля, папрасіла зайсці да іх, бо Андрэй не можа рухацца. Я пайшоў. Пагаварылі аб становішчы, абмеркавалі, што рабіць, і прыйшлі да вывадаў, што трэба прабірацца далей. Аднак 27 чэрвеня мы яшчэ не маглі нікуды рушыцца і адпачывалі.. Схадзілі толькі ў Тальку на разведку: цягнікі яшчэ зрэдку праходзяць, пошта на замку, а ў Пухавічы, кажуць, вярнуліся ваенкамат і райком. Нічога незразумела! Чакаем 28-га і вырашаем усё-такі ісці далей, на Асіповічы. Жонка Бембеля з дзецьмі застаецца на дачы. Мы ўчацвярых ідзём у Тальку. Надзей на цягнік няма ніякіх. Уздоўж чыгункі накіроўваемся пехатою на Асіповічы. Праз некалькі кіламетраў ад Талькі сустракаем людзей, якія ідуць з Асіповіч. Ад іх дазнаёмся, што 27-га немцы занялі Чырвоныя Дарогі і сёння, магчыма, ужо ў іх руках і Асіповічы. Ісці няма куды, варочаемся назад, прабуем прайсці ў Лапічы, але і адтуль бягуць людзі. Што ж рабіць? Бембель з некім пайшоў пад вечар у Пухавічы на мабілізацыю. Я застаўся адзін. У той жа дзень прыйшоў у Цербуты да сям'і настаўнік Касцян. Вырашылі, што ён дзянёк адпачне і мы з ім папрабуем усё-такі прабіцца. Сем'і пакінем у Цербутах. Ніна згаджаецца... 29 чэрвеня ў дванаццаць гадзін развіталіся... Правялі нас жанчыны за мост, і мы пайшлі. Калі ж і дзе сустрэнемся, любая мая!

Мы вырашылі прабівацца на Свіслач. Дарога ідзе глухім, нізінным лесам. Зрэдку толькі даганяюць нас асобныя невялікія групы чырвонаармейцаў. Толькі ў мястэчку Лапічы мы ўбачылі адзнакі арганізаванасці і дысцыпліны. Тут у нас упершыню за ўсю дарогу праверылі дакументы. Калі я паказаў свой пісьменніцкі білет, малады хлопец, які правяраў дакументы, запытаў: «Дык гэта вы і ёсць вядомы Пятро Глебка?» Я адказаў, што як быццам бы той

самы. Хлопец акінуў мяне з ног да галавы і прамовіў: «Д-да!» Нас адпусцілі. Я пераканаўся, што мяне сям-там усё ж ведаюць. У гэтым я яшчэ раз упэўніўся ў той жа дзень. У Пагарэлым мы сталі прасіцца начаваць. Людзі недаверліва глядзелі на нас і знаходзілі сотні прычын адмовіць. Мы зразумелі, што нас баяцца, і прапанавалі праверыць нашы дакументы. У гэты час да грамады падышоў малады хлопец і сказаў: «Нашто правяраць? Хіба вы так не бачыце, што гэта вядомы наш пісьменнік Пятро Глебка. Правільна я гавару?» — звярнуўся ён да мяне. Хлопец быў мясцовы настаўнік па прозвішчу Скрыпка [1]. Сам ён таксама пісаў вершы. Ён забраў нас да сябе, накарміў вячэраю і палажыў спаць на сваім ложку. Раніцай ён ішоў у армію, і мы з ім развіталіся, накіраваўшыся да адной настаўніцы, якая, паводле яго слоў, вельмі прасіла нас зайсці. А нам што, «бежанцам», саромецца няма чаго, калі трэба паснедаць. Зайшлі. Настаўніца аказалася падчарыцай Маўра. Стала пытацца пра яго, пра вайну. Мы стараліся заспакоіць і абнадзеіць, ды, праўду кажучы, мы самі шчыра верылі, што немцы туды не прыйдуць. Настаўніца накарміла нас, дала на дарогу яец, масла, вяндліны. Мы падзякавалі, развіталіся і пайшлі. Церусіў дробны дождж. Хутка ён стаў ліць як з вядра. Мы схаваліся на ганку закінутай царквы. Там ужо было многа людзей — бежанцы з-пад Баранавіч. Дзеці плачуць, просяць хлеба і малака. Цяжка бачыць такія малюнкі. Не зважаючы на дождж, мы пайшлі далей. Мой спадарожнік стаў ісці вельмі павольна. Я пачаў яго падганяць. Апаўдні прайшлі лес непадалёку ад Свіслачы. І раптам лес пачалі бамбіць. Аказваецца, там быў мабілізацыйны пункт, і, відаць, немцы праведалі. Скора са Свіслачы сталі бегчы людзі, заяўляючы, што ў мястэчку фашысты. Мы паляжалі ў лесе і вырашылі прабірацца ўверх уздоўж Бярозы да Якшыч. Пад вечар прыйшлі ў Прыцерпы. Дзесьці на поўначы — бамбёжка. Кажуць, немцы бамбяць у Якшычах мост. Што ж нам туды ісці ў такім разе. Вырашылі прабірацца на лодках. Але лодак мала, а людзей — маса: пераапраўляецца нейкая чырвонаармейская часць. Касцян з гвалтам убіўся ў лодку, пераехаў на той бок і пераагнаў дзіравы човен. Вылілі ваду, селі ўдвух і сяк-так перабраліся. Шпарка накіраваліся ў Во-

[1] Скрыпка Міхась Аляксандравіч — беларускі савецкі пісьменнік.

страў з надзеяй там пераначаваць. Але на ўскраіне сяла нашы часці занялі абарону, у сяле — слёзы, лямант. Мы пайшлі далей і адмахалі ўжо ў цемры яшчэ кіламетраў дзесяць. У гэты дзень, 30 чэрвеня, я і прыкончыў свае ногі. Начаваць нам давялося ў нейкай вёсцы непадалёку ад шасэ (кіламетраў за дзесяць ад Вострава). Усе калёсы пад шопай былі ўжо заняты. Мы ляглі на кучы нейкай саломы на двары, але пайшоў дождж, і мы перабраліся ў недабудаваную, але накрытую хату вартаўніка. Уначы прачнуліся ад перастрэлкі. Раптам дзверы ў нашу хату адчыніліся і хтосьці на ламанай рускай мове запытаў: «Сторож здесь?» Мы прытаіліся. Чалавек запытаў яшчэ раз і адышоўся да калодзежа. Там яго чакала яшчэ трое ўзброеных. Яны аб чымсьці пачалі спрачацца і хутка зніклі. Стала ціха. Мы схавалі свае дакументы пад салому і цэлую ноч не спалі. Гаварылі, што быццам бы нямецкі дэсант нападоўся ў вёсцы на нашых чырвонаармейцаў. Раніцай рушылі далей. Я зусім не мог ісці, а мой Касцян, які раней так адставаў і ледзьве цягнуўся, цяпер імчаўся, як лакаматыў. На шчасце, нам трапілася падвода і за дзесяць рублёў падвезла нас кіламетраў восем да станцыі. На гэтай станцыі мы вырашылі чакаць цягніка, бо далей ужо ісці я не мог. Напісаў ліст Ніне. Скора загуў цягнік і паказаўся паравоз з чатырма вагонамі. Людзі з лесу рынуліся да вагонаў. Мы ўжо страцілі былі ўсякую надзею ўбіцца, але, напружыўшы ўсе сілы, сяк-так ушчаміліся. Радасць наша была нядоўгая. Цягнік дайшоў да чарговага раз'езда і спыніўся. Нам абвясцілі: усе, хто мае зброю, ваенныя і цывільныя, застаюцца ў эшалоне і варочаюцца назад, а ўсе астатнія павінны выгрузіцца... Цягнік усё стаяў. Стаялі і мы, спадзеючыся, што, можа, маршрут будзе зменены. Нарэшце людзі пачалі разыходзіцца. Маладая жанчына несла на плячах старую маці. Ёй не хапіла сіл. Яна палажыла хворую і пайшла ў бліжэйшую хату прасіць прытулку...

На раз'езд падышоў паравоз з гружанай пяском платформай. Людзі абляпілі платформу і паравоз, як мухі; відзеліся адны галовы і галовы. А над раз'ездам кружылі самалёты. Мы вырашылі ісці пяшком па шпалах да станцыі Друць. Не адышліся і на два кіламетры ад раз'езда, як там пачалася бамбёжка. На шчасце, ахвяр чалавечых не было.

Перамагаючы боль, смагу і голад, мокнучы пад дажджом, мы дабраліся пад вечар 1 ліпеня ў вёску Дубна. На станцыі Друць у гэты час нямецкія самалёты абстралялі

мірнае насельніцтва, некалькі чалавек ранілі і аднаго забілі. Людзям было не да нас, і кожны стараўся справадзіць нас з хаты. Пайшлі да настаўніка. Настаўнікам там быў малады хлопец Караўка. У хаце цесна, брудна, поўна дзяцей, сваіх і чужых. Але нас усё-такі прынялі, пакармілі, узялі сушыць нашу адзежу, а нас палажылі спаць.

Раніцай 2 ліпеня я ўжо абуцца не мог і папрасіў Караўку дастаць лапці. Ён збегаў да суседа і прынёс мне новенькія лазовікі. Жонка з гамака зрабіла аборы, дала анучы. Караўка нас правёў, паказаў дарогу на Гарадзішча, Сяміначы, Альхоўку, і мы развіталіся. Удзень перайшлі цераз Друць. Там тысячы калгаснікаў працавалі на земляных работах, на шасэ снавалі машыны з чырвонаармейцамі. Стала весялей на сэрцы. Мы дайшлі да Бакатава і заначавалі.

**8.IX.** Жыццё ідзе па-старому: у сем падымаемся, мыемся; нам мераюць тэмпературу; снедаем, затым чакаем абходу ўрача. Пасля абходу — прымаем лекі. Сёння мне грэлі маю «скулу» кварцавымі лямпамі. Хутка абед. Распачынаць далейшых запісак — не варта. Лепш дачытаю «Гняздо простых людзей» О'Фаалэйна. Мне падабаецца яго манера — элегія. Прыйшла думка, што варта б напісаць у такой манеры раман-біяграфію «чалавека нашага часу», які (раман) канчаецца падзеямі гэтай вайны і нашай перамогай. (А перамога — будзе!) Матэрыялам магло б быць і маё жыццё і жыццё маіх знаёмых. Калі буду жывы, трэба будзе папробаваць.

Ну, вось і васемнаццаць гадзін. Скора вячэра, а я аб сваім падарожжы не напісаў сягоння ні радка. Трэба канчаць — успаміны ўносяць неспакой у маё сэрца.

З другога на трэцяе ліпеня начавалі мы ў Бакатаве ў дэпутата сельскага Савета. Трэцяга ўсталі надзвычай рана і рушылі ў дарогу. На захадзе сонца падышлі да Магілёва. Вось ён — канчатковы пункт нашых імкненняў. На шасэ ідуць і ідуць бежанцы, імчацца ваенныя машыны. Перад самым горадам узводзяцца ўмацаванні, стаяць замаскаваныя супрацьтанкавыя гарматы. У горадзе нас затрымалі і адвялі на шоўкавую фабрыку. Там разабраліся і адпусцілі. Пайшлі ў горад. Якраз у садзе нас застаў налёт. Перачакалі і рушылі шукаць ЦК. Нідзе нічога не дабіліся, але стала ясна, што і ЦК, і Урад, і Штаб фронту з Магілёва выехалі. Я наважыў усё ж такі знайсці рэдакцыю «Красноармейской правды» і запрапанаваў ехаць у Смаленск. Касцян... згадзіўся на маю прапанову неахвотна.

Аднак рушылі на вакзал. Па дарозе сустракаем шмат бежанцаў, якія ідуць з вакзала, кажуць, што сёння цягніка не будзе. З адной з груп вяртаемся назад. У гэтай групе: работнік Акадэміі навук, работнік наркамсаўгасаў і яго жонка. Упяцярых зайшлі на нейкі двор і папрасіліся пераначаваць. У нас праверылі дакументы і дазволілі. Ляглі пад ліпай на голай зямлі. Цэлую ноч над намі лятали ракеты, дзесьці стралялі, гулі самалёты. Так сустрэў мяне Магілёў — уся мая надзея разляцелася. З трывогай у сэрцы 4 ліпеня раніцай рушылі на Крычаў...

**14.IX.** Сёння быў канцэрт артыстаў Цэнтральнага Дома Чырвонай Арміі (брыгада ЦДКА, а артысты з розных маскоўскіх тэатраў — Станіслаўскага, Масэстрады і інш.). Гуляў у шахматы. Цяпер у нас праходзіць шахматны турнір, і я ўключыўся таксама і таму кожны дзень трачу на гэта некалькі гадзін. Учора і сёння пісаў поруч з гэтым фельетон для насценгазеты — «Тысяча і адно няшчасце, якія адбыліся з-за адных тапачак». Цяпер бяруся за верш на рускай мове для той жа газеты. Не ведаю, што з гэтага выйдзе...

**15.IX.** Чытаю Заля «Разгром». Напісаў верш «Прощание»... Як быццам бы месцамі нават і нядрэнна выйшла. Трэба будзе папрактыкавацца яшчэ.

**17.IX.** Ад хлопцаў усё няма ніякіх вестак. У выніку гэтага, пасля таго як мяне выпішуць, давядзецца накіравацца ў адзел кадраў ПрыВВО [1]. Куды накіруюць адтуль — невядома. Каб развеяць нуду, многа чытаю, практыкуюся ў напісанні вершаў на рускай мове. Начальнікам нашага трэцяга аддзялення з'яўляецца Галіна Пятроўна Плетнікава. У яе вялікае гора — забілі мужа. Засталося васьмімесячнае дзіця. Сама яна — хрупкая, з сінімі вачамі, у якіх затоены смутак і скруха. Слаўны чалавек! Пачуўшы пра яе няшчасце, я напісаў і прысвяціў ёй верш «Жизнь хороша».

...Мне здаецца, што ў вершаскладанні на рускай мове я раблю значныя поспехі.

**19.IX.** За гэтыя дні многіх хворых выпісалі. Сягоннязаўтра выпішуць і мяне, хоць я і не зусім яшчэ паправіўся. Відаць, прыбывае вялікая колькасць раненых. Куды накіруюць мяне — не ведаю. Ад хлопцаў — ні слуху ні духу. Дзе яны, што з імі — не магу сабе і ўявіць. А час ідзе гэтак хутка! Сёння месяц, як я выехаў з рэдакцыі [2]. Часу

---

[1] Прыволжская ваенная акруга.

[2] Рэдакцыя газеты «За Савецкую Беларусь».

мінула досыць багата, а радасных змен не чуваць. Праўда, у апошнія дні я жыў зусім спакойна, бо шмат быў заняты: гуляў у шахматы, пісаў лісты для хлопцаў (пачулі, што я пісьменнік, і пачалі з'яўляцца з просьбай «напісаць ліст, каб аж слёзы навярнуліся»), многа чытаў. Скончыўшы «Разгром», прачытаў «Мои воспоминания» Брусілава. Абедзве кнігі аб вайне з немцамі. Выходзіць, што амаль усе гітлераўскія «тэорыі» — місіянства арыйскай расы, панаванне над усім светам — распаўсюджваліся немцамі ўжо і тады. І праяўленне гэтых установак на практыцы тое ж самае: тая ж грубасць, той жа цынізм, тыя ж зверствы і бесчалавечнасць. Аднак пры ўсёй нямецкай нахабнасці і сіле ў франка-прускую вайну і ў вайну 1914—1918 гг. тэорыя і практыка немцаў пацярпелі крах. Няўжо ж цяпер, у эпоху сацыялізма ў СССР, гэтыя ашалелыя канібалы возьмуць верх? Ніколі, не! Вялікія ахвяры прынясе мой народ, але будзе пераможцам. Над цемрай і шаленствам запануе святло і розум. Можа, я не дажыву да гэтага, але гэта будзе так.

**21.IX.** Дзевятнаццатага ўвечары для мяне ўжо падрыхтавалі дакументы на выпіску. Але ўночы аднавілася мая хвароба, і ўся шчака апухла ізноў. Відаць, зашкодзіла тое, што я намыўся ў ванне. Як бы там ні было, а мне стала няёмка, быццам бы я захварэў ізноў назнарок, каб не выпісвацца са шпіталя. Напала апатыя, і цэлы дзень учора і да дванаццаці гадзін сягоння ляжаў у ложку. Уночы была трывога, і хоць як стараешся пераканаць сябе, што паміраць давядзецца ўсё адно, на сэрцы стала яшчэ больш неспакойна. Сніліся трывожныя сны... Паколькі сягоння няма нічога больш вясёлага, буду апісваць свой шлях ад Магілёва і да гэтага шпіталя.

Чацвёртага ліпеня на світанні выйшлі з Магілёва. Дарогі забіты войскам, бежанцамі і жывёлай. Сталі меркаваць: куды ісці? Нарэшце пагадзіліся дабірацца да Крычава. Па дарозе, па прапанове работніка наркамсаўгасаў, вырашылі зайсці ў саўгас «Вейна», каб там падсілкавацца і адпачыць. Паляжаўшы гадзінку-дзве ў высокім і густым, але нашчэнт змятым і стоптаным жыце, памаленьку сталі падыходзіць да саўгаса. Скрозь паабапал дарогі — замаскаваныя гарматы, кулямёты, тэлефонныя правады, войска... Бесперапынна кружаць самалёты. Па іх з усіх бакоў б'юць гарматы. Над намі свішчуць снарады і сыплюцца асколкі. Апаўдні сяк-так дабраліся да «Вейна». Нам згатавалі цудоўны абед, мы як след падсілкаваліся і

ляглі адпачыць у клубе. Я на момант задрамаў і быў раптам разбуджаны воклічам: «Рукі ўгару!» Расплюшчыўшы вочы, я ўбачыў прад сабою хлопца гадоў шаснаццаці-семнаццаці з дробнакаліберпай вінтоўкай у руках. За ім стаяла яшчэ хлопцаў тры-чатыры таго ж узросту.

— Вашы дакументы? — закрычаў на мяне хлопец.

Мне стала весела ад яго ваяўнічасці, і я, не ўстаючы, запытаўся таксама:

— А вашы дакументы?

Хлопец ляснуў замком вінтоўкі і яшчэ больш грозна загадаў:

— А ну, падымайся, пан дыверсант!

Я ўбачыў, што, калі я не паслухаюся, хлопец можа выстраліць, і паказаў дакументы.

— Дык гэта вы пісьменнік Глебка? — збянтэжана паглядзеў на мяне хлопец.— Мы ж вашы творы вывучаем у школе.

— Вось бачыш, у школе вывучаеце, а застрэліць хацеў: відаць, нялёгка я вывучаюся, што ты гэтак на мяне разгневаўся?

Хлопец збянтэжыўся яшчэ больш. Аказваецца, яго збілі з панталыку мае лапці! Няшчасныя лапці! Колькі разоў я праз вас папаў пад падазронасць. Праўда, малады хлопец пастараўся акупіць сваю памылку. Ён прынёс мне вады памыць ногі. Раздабыў дзесьці жоўтага вазеліну і дапамог мне забінтаваць мае раны. Пры гэтым мы разгаварыліся. Ён — сын дырэктара саўгаса Язвінскага. Калісьці жылі ў Уздзенскім раёне, у саўгасе «Каралёва»; цяпер ён студэнт і камсамолец, прыехаў на вакацыі і арганізаваў з камсамольцаў групу апалчэння. Усе цудоўныя хлопцы, рвуцца ў бой. Сустрэча з гэтымі хлопцамі прынесла мне радасць і бадзёрасць. Тым часам мой спадарожнік, работнік наркамсаўгасаў, дагаварыўся з адной падводай. Гэта была параконная падвода калгаснікаў з-пад Мінска. Іх было чатырох чалавек — старшыня калгаса, яго брат (работнік праектбюро), брыгадзір калгаса і дырэктар сталовай на пабудове авіязавода ў Мінску. Нас было пяцёра. Умовіліся, што мы паложым на падводу клункі, а самі будзем ісці, толькі час ад часу пад'язджаючы на падводзе па чарзе. Але ў дарозе хутка гэта ўмова была забыта. Спачатку, не злазячы з падводы, ехала жонка работніка наркамсаўгасаў, затым каля яе стала прымасціўся і муж, за ім на возе разлёгся і Касцян, скардзячыся на сваё сэрца. Ішлі толькі час ад часу работнік акадэміі, я ды самі калгаснікі. Коні

пачалі прыставаць. Але дзень прамінуў, і мы спыніліся начаваць у нейкім саўгасе. Назаўтра, 5 ліпеня, дабраліся да Чавусаў. Спыніліся на ўскраіне і пайшлі ў горад разведаць, што чуваць. Ніхто дакладна нічога не ведае. Ясна адно, што на цягнік надзеі мала... Вырашылі ехаць падводай далей, у кірунку на Рослаўль... Многа бежанцаў. Праязджаем вёскі Магілёўшчыны. Хлеба нідзе не дастаць. Спыняемся начаваць на калгасным двары (не помню назвы калгаса). Дасталі вядро малака, бульбы, але зварыць яе не давялося: стала цёмна і агню раскладаць нельга. На двары многа бежанскіх падвод — калгаснікі са Случчыны. Шныраць пранырлівыя чалавечкі, прапануючы падвезці пятьдзесят кіламетраў да станцыі Крычаў за... 300 рублёў. Нашы падводчыкі прыслухоўваюцца і матаюць на вус. У выніку назаўтра рана нам адмовілі ў падводзе, матывуючы тым, што прысталі коні, а мы едзем увесь час не злазячы...

...Рушылі пяшком... Хутка нас нагнала наша ранейшая падвода і ўзяла работніка акадэміі, які быў без паліто. Засталіся мы ўчацвярых. Гэты дзень, 6 ліпеня, быў дажджлівы, і мы прамоклі да ніткі. Пад вечар дабраліся да нейкага раз'езда. Там якраз стаяў цягнік. Запыталіся: ці скора пойдзе? Машыніст адказаў, што гадзіны праз дзве. Але мінула і тры гадзіны, а цягнік усё стаяў. У лесе сабралася многа бежанцаў і мабілізаваных... Да ст. Крычаў заставалася кіламетраў дваццаць, і многія пайшлі пяшком, а Касцян і астатнія мае спадарожнікі пайшлі начаваць у бліжэйшую вёску. Я не мог рушыцца і застаўся адзін.

Ноч была халодная і дажджлівая, а вагоны, за выключэннем аднаго, былі някрытыя. Я спачатку курчыўся на мяшках з аўсом на адкрытай пляцоўцы, а пасля не вытрымаў і палез у крыты таварны вагон, таксама поўны мяшкоў са збожжам. На мяшках у спёртай і смуроднай атмасферы ляжала адзін на адным чалавек пяцьдзесят — дзеці, жанчыны, старыя... Сагнуўшыся ў тры пагібелі, я прымасціў галаву на нечых ботах, каленьмі ўпёрся ў нечую с...., а нагамі — у грудзі і так прамучыўся да раніцы.

Раніцай, 7 ліпеня, з вёскі вярнуўся работнік наркамсаўгасаў з жонкай, а Касцян дзесьці так і застаўся: ён, баючыся бамбёжкі, старанна імкнуўся ўнікнуць усякіх чыгунак. У гадзін дзесяць цягнік рушыўся, і праз гадзіны дзве мы былі на станцыі Крычаў. Там прастаялі гадзіны дзве, затым пералезлі ў другі эшалон і рушылі на Рос-

лаўль. Гэтым эшалонам эвакуіраваўся Магілёўскі аўтарамонтны завод.

Мае лапці ў начальства эшалона выклікалі падазронасць, але ж яны выратавалі мяне ад голаду: праверыўшы мае дакументы і даведаўшыся, што я пісьменнік, начальнік эшалона дазволіў мне купіць у іх ларку хлеба, разынак і цукру. Гэта было якраз у свой час, бо я ўжо больш як суткі нічога не еў і страшна мучыўся ад голаду.

Сёмага ліпеня ўвечары мы дабраліся да Рослаўля, але праехалі Рослаўль-1 і апынуліся на ст. Рослаўль-2. Звярнуліся да каменданта станцыі. Той адмовіўся нам дапамагчы і прапанаваў ісці назад пяшком. Ісці трэба было дзесяць кіламетраў, а я не меў сіл зрабіць і трох крокаў. Пачалі ўпрашваць начальнікаў эшалонаў, каб падвезлі нас да Рослаўля-1. Усе катэгарычна адмаўляюцца. Нарэшце напалі на аднаго, які адмаўляе, але ў голасе яго чуваць ноткі спачування. Вырашылі ад яго не адыходзіцца і ўпрашваць. Перад самым адыходам эшалона ён узяў нас у свой вагон, адабраў дакументы, прыставіў вартавога і такім парадкам даставіў нас у Рослаўль-1. Начавалі мы там у зале на падлозе.

Восьмага раніцай быў налёт, і ледзьве мы паспелі перабегчы з перона цераз вакзал, як на пуцях упала некалькі бомб. Двух чалавек раніла. Як толькі самалёты зніклі, я зноў вярнуўся ў вакзал і сустрэў кампазітара Палонскага, а затым К. Цітова [1]. Ад апошняга я даведаўся, што рэдакцыя «Красноармейской правды» сапраўды ў Смаленску. Цітоў прапанаваў з адным з эшалонаў зараз жа ехаць туды, але я быў вельмі стомлены і ўгаварыў яго дзень адпачыць у Рослаўлі. Мы пайшлі ў горад. Зайшлі ў рэстаран абедаць і сустрэлі поўны рэстаран бежанцаў з Мінска... Пасля абеду знялі ў гасцініцы нумар, памыліся ў ванне і ляглі адпачываць. У вечары я схадзіў у амбулаторыю, і там мне зрабілі перавязку. Назаўтра зрабілі другую перавязку, але ні лапця, ні чаравіка, аднак, на левую нагу я абуць не мог. Давялося хадзіць з адной нагой абутай, а з другой у шкарпэтцы. У такім выглядзе дзевятага ліпеня мы ізноў з'явіліся ў Рослаўлі на вакзале. Ваенны камендант абяцаў нас пасадзіць у першы эшалон, які будзе ісці на Смаленск, але эшалоны праходзілі за эшалонамі, а браць нас ніхто не хацеў. Мы пачалі самі прасіць началь-

---

[1] Цітоў Канстанцін Маркавіч (1905—1972) — рускі савецкі пісьменнік і перакладчык.

нікаў эшалонаў. Адзін з іх згадзіўся нарэшце нас узяць. Селі мы ў вагон, поўны пахучага сена...

Дзесятага ліпеня наш эшалон спыніўся за кіламетраў пяць ад Смаленска, і мы рушылі ў горад пяшком. Прыйшлі туды ўжо надвячоркам. Некалькі кварталаў горада былі разбіты і спалены, але жыццё ішло сваім парадкам. Мы зайшлі да каменданта даведацца, дзе рэдакцыя, і ён накіраваў нас у Дом кнігі. Там я застаў Гурскага [1], Барысенку [2], іншыя хлопцы былі за горадам. Сустрэлі мяне сябры так радасна і гасцінна, што цяжка і апісаць. Яны дасталі масла, кансервы, напаілі мяне чаем і палажылі спаць. З наступнага дня, адзінаццатага ліпеня 1941 г., для мяне пачалася мая работа ў газеце.

**22.IX.** Тры месяцы вайны. Радыё паведамляла, што нашы войскі пакінулі Кіеў. Я не хачу, не магу і не веру ў магчымасць нашага паражэння. Аднак асобыя няўдачы на фронце так гнятуць маё сэрца, што пачынаюць закрадвацца сумненні: а ці не залішне мы ўсе «аблагародзіліся»? А ці не залішне ў нас усіх было добрае жыццё, каб мы маглі лёгка ахвяраваць яго? Пачынаю ізноў і ізноў успамінаць факты з гісторыі нашага народа. Так, мы перажывалі і больш цяжкія часіны і выходзілі пераможцамі. Значыць, і цяпер перамога будзе наша. Уся справа ў тым, каб захаваць спакой і трывалась духу, сэрца і нерваў.

**24.IX.** Нарэшце атрымаў ад хлопцаў тэлеграму: «Приезжай Орел типографии жди...» Я малніраваў, каб тэлеграфіравалі афіцыяльнае патрабаванне. Не ведаю, што з гэтага будзе. Надзей папасці ізноў у сваю рэдакцыю вельмі мала.

**26.IX.** Адказу ад хлопцаў усё яшчэ няма. Спакойна, сэрца, давай будзем успамінаць дні, праведзеныя разам з сябрамі.

Убачыў я ўсіх таварышаў у лесе за кіламетраў пятнаццаць ад Смаленска. Там быў і Крапіва, і Лынькоў, і Панчанка, і Стаховіч, і яшчэ некалькі хлопцаў з мінскіх газет. Аказваецца, што іх вылучылі з «Красноармейской правды» ў спецыяльную рэдакцыю газеты «За Савецкую Беларусь»; газета прызначана для акупіраваных раёнаў і выходзіць на беларускай мове. Тут жа, поруч з рэдакцыяй «Красноармейской правды», змяшчаюцца рэдакцыі нямец-

---

[1] Гурскі Ілья Данілавіч (1899—1972) — беларускі савецкі пісьменнік.

[2] Барысенка Васіль Васільевіч (1904—1984) — беларускі савецкі літаратуразнавец.

кай і польскай газет. У апошняй працуюць Лебедзеў і Рудзько[1]. Сярод работнікаў «Красноармейской правды» і прыкамандзіраваных да яе карэспандэнтаў маскоўскіх газет таксама многа знаёмых: Стаўскі, Суркоў, Ф. Левін[2] і інш. Адным словам, сям'я наша вялікая.

Мяне ў той жа дзень, 11 ліпеня, абмундзіравалі, і я скінуў свае знатныя лапці. Праўда, ботаў адзець не давялося, бо на левай назе была страшная рана, з якою мне давялося працацкацца аж да першых дзён жніўня. Мне пазычылі тапачкі, і я ў іх і хадзіў, падкасаўшы на левай тапачцы заднік пад пятку.

Быў здадзены ў друк першы нумар нашай газеты, і, пакуль наладжвалася друкаванне,— мы адпачывалі. Я пару разоў ездзіў у Смаленск на перавязку. У горадзе, калі не лічыць асобных налётаў, было спакойна. Аднак праз некалькі дзён нам давялося наш лагер пакінуць — немцы падыходзілі да Смаленска.

Ехалі мы ноччу, у цемры, без фар... Наш шафёр (ён жа і карэктар — работнік «Віцебскага рабочага»), чалавек у такіх паездках неспрактыкаваны, скора стаміўся і стаў засынаць. Машына яго хадзіла ўлукаткі ад адной абочыны дарогі да другой. А насустрач нам па аўтастрадзе Мінск — Масква безупынна імчаліся ў цемры машыны. Некалькі разоў мы стукнуліся (на шчасце, без усякіх аварый) ілбом і бокам з нечымі машынамі, некалькі разоў амаль віселі над самым адкосам...

Мінула ноч, настаў дзень, а канца дарозе ўсё няма. Балюча сціскаецца сэрца — да Масквы засталося кіламетраў 250. Нарэшце каля Вязьмы звярнулі з шасэ на прасёлачную. У густым воблаку пылу відаць горш, як у цемры ночы. Кіламетраў дваццаць мы ехалі гадзіны тры. Апаўдні спыніліся ў бярозавым лесе, разбілі палаткі. Пачалася штодзённая праца. Работы, праўда, было не многа, таму што газета наша выходзіла цераз дзень. Я пісаў лозунгі, «вокны», вершы, першым з якіх быў «Да моладзі», напісаны 15.VII. Асаблівых падзей у нашым жыцці не было. Удалося звязацца з Купалам у Маскве і з Коласам у Клязьме. Даведаліся таксама, што Броўка быў у Гомелі і паехаў з Кучарам да сям'і ў Куйбышаўскую вобласць. Крапіва атрымаў весткі, што і яго жонка там. Пра нашы

---

[1] Лебедзеў — журналіст; Рудзько Юрый Герасімавіч (1913—1948) — беларускі савецкі пісьменнік.

[2] Стаўскі Уладзімір Пятровіч, Суркоў Аляксей Аляксандравіч, Левін Фёдар Маркавіч — рускія савецкія пісьменнікі.

сем'і — Лынькова, Гурскага, маю — нічога невядома. Паслалі запытанне ў перасяленцкае бюро, але адказу не атрымалі. У ноч з 21 на 22 ліпеня над намі прайшлі нямецкія (самалёты) на Маскву. І з гэтага часу яны ішлі амаль кожную ноч, бясслаўна гінучы на подступах да Масквы. Фронт больш-менш стабілізаваўся. Усё было б добра, каб мяне не стрэла новае няшчасце: не паспела зажыць нага, як з'явіўся нарыў на правай скіўіцы. Абуў боты, а шчаку падвязаў. У такім выглядзе чысла сёмага жніўня я разам з рэдакцыяй выехаў з-пад Вязьмы на Ґомель. Ехалі мы цераз Бранск, Старадуб... Здаецца, 11 жніўня прыехалі ў Гомель. Там я сустрэў Кузьму (Чорнага), Азгура, Машару, Астрэйку і шмат іншых работнікаў з рэдакцый. Яны працавалі хто ў «Звяздзе», хто ў «Раздавім фашысцкую гадзіну». Там жа быў і ЦК і Урад. Да нас заходзіў Азірскі [1], бываў Гарбуноў і Тупіцын [2], якія з Заходняга фронту пераехалі ў Гомель. У горадзе было спакойна. Упершыню за тыя паўтара месяца мы спалі пад страхою і раздзеўшыся. Але цешыліся мы нядоўга. 13-га ўдзень на горад наляцела некалькі самалётаў. А ноччу з 13-га на 14-е пачалася бамбёжка горада. Успыхнулі пажары, праўда, невялікія, а ўдзень 14-га яны былі патушаны. Мы падрыхтаваліся да эвакуацыі і ў гадзіны чатыры выехалі з горада. Спыніліся ў лесе непадалёку ад аэрадрома і пражылі дзве страшныя ночы. На працягу іх над намі ішлі паветраныя баі і безупынна рваліся снарады. Неба гарэла агнямі і грымела выбухамі. 16 жніўня мы пераехалі ў другое месца.

Увечары ў мяне начаў пухнуць твар. Назаўтра я ўстаў апухлы так, што нічога не бачыў. Урач з санупраўлення накіраваў мяне ў палявы шпіталь. Аднак мы вырашылі, што мне лепш паехаць у Чарнігаў.

...Чарнігаў быў мірны і спакойны, быццам і вайны няма на свеце. У шпіталь мяне там не прынялі; я накіраваўся назад і 18 жніўня раніцай паехаў у Гародню. Туды ў палявы шпіталь прыбыла вялікая партыя раненых пад Гомелем. Упершыню я ўбачыў жах вайны. Людзі ў пашарпаным адзенні, акрываўленыя, у пяску, у дыме, з асмяглымі вуснамі, без рук, без ног, з разбітымі скіўіцамі і павылупленым мясам; некаторыя жудасна стогнуць, а некаторыя ляжаць маўкліва, як пласты. Праз некалькі гадзін мяне перавязалі і накіравалі на эвакапункт. Там малюнак змя-

[1] Азірскі — тады загадчык аддзела ЦК КПБ.

[2] Тупіцын — тады загадчык сектара, памочнік першага сакратара ЦК КПБ.

ніўся: з белымі павязкамі, на мыліцах, забыўшыся на боль і нядаўнія жахі, людзі мыліся, чысціліся, галіліся, расказвалі анекдоты і спявалі. Начавалі мы хто ў памяшканні, а хто проста на двары. Я з палітруком Караманавым спаў таксама на зямлі, але пад раніцу не вытрымаў і перайшоў у дом. Уся плошча была занята, чуліся стогны і трызненні, у паветры пахла чалавечай крывёй. О, праклён табе, вайна, праклён вам, азвярэлыя рыцары смерці, вам, фашысцкія людаеды!

**29.IX.** Усе гэтыя дні стаіць зверскі холад, ідзе дождж, а часамі пракідаецца і снег. Мы цэлымі днямі не вылазім з-пад коўдраў. Гэтым тлумачыцца і тое, што я ўсе гэтыя дні нічога не запісваў. Ды і запісваць няма чаго: жыццё ў шпіталі ідзе па-старому; шлях ад Мінска да шпіталя ў Гародні я ўжо коратка апісаў; дарога ад Гародні да Балашова таксама адзначана ў маіх штодзённых нататках. Застаецца сказаць некалькі слоў аб шпіталі і яго людзях. Подыху вайны тут не адчуваецца, людзі працуюць па-мірнаму... Колькі тут сапраўдных гераінь і энтузіястак. Нядаўна тут лячылася жанчына, ваенны ўрач. Яшчэ не зусім ачуняўшы, яна выпісалася са шпіталя і вярнулася ізноў на фронт. Так жа аддана працуе і начальнік нашага аддзялення. Дома малое дзіця, у самой вялікае гора, а яна амаль круглыя суткі знаходзіцца ў шпіталі, замяняючы часта раненым і сястру і няньку. Ёсць слаўныя нянькі. Вось адна з іх — Маруся. Муж на фронце, дома трое дзяцей, і яна паспявае і іх дагледзець, і нас абслужыць, і грамадскую работу весці... Ёсць у нас залатыя людзі!

**30.IX.** Учора атрымаў ад Міхася і Кандрата ліст [1]. Пішуць, што знаходзяцца непадалёку ад досыць вялікага горада, праз які мы праязджалі. Відаць, непадалёку ад Бранска. Друкуюцца яны ў Арле. Клічуць хутчэй прыязджаць. А як мне туды папасці? Сёння мяне выпісалі і вярнулі ізноў, таму што апухла шчака. І гэта ўжо другі раз так. Як толькі збіраюцца выпісаць, я пачынаю хварэць. Атрымоўваецца, што я раблю гэта назнарок. Ёсць жа і такія... Непрыемна робіцца з такімі тыпамі. Уцеху даюць простыя, сціплыя людзі, непрыкметныя героі гэтай вайны. Вось лейтэнант Чарнышоў. Усе расказваюць легенды аб нямецкай узброенасці. А ён з усмешкай прыводзіць факты, як гэтыя да зубоў узброеныя немцы беглі ад нашых танкаў, на якіх пад агнём артылерыі і кулямётаў сядзела наша пяхота, у

[1] Міхась — Лынькоў; Кандрат — Крапіва.

тым ліку і ўзвод Чарнышова на чале з камандзірам. Паправіўшыся ад раны, ён адразу ж папрасіў яго выпісаць. З ім выпісаўся чырвонаармеец Сафронаў, ціхі задуменны чалавек, які аддаваў увесь свой час у шпіталі кнігам. На фронце, кажуць, ён такжа маўкліва ўвесь час сядзеў за кулямётам. Наогул, заўважаецца, што раненыя ў самым пекле фронту менш балбочуць аб жахах, чымся раненыя дзе-небудзь далёка ад перадавых ліній. Вось таўсматы, з шырокім адкрытым тварам лейтэнант Пасек, кавалерыст, хадзіў у атакі, бачыў таксама многа страшнага. Але ў яго апавяданнях поруч з гэтым адчуваецца гордасць за нашы сілы, якія добра даюцца ў знакі немцам. Слухаючы яго, разумееш, чаму пры яўнай перавазе ў агнявых сродках немцы нясуць такія велізарныя страты. Палюбіўся мне малады чырвонаармеец, украінец Ваня Рэдзька. Непасрэдны, просты, часамі наіўны, як дзіця, ён выконваў свой абавязак як унутраную нейкую патрэбнасць. Яго нядаўна выпісалі са шпіталя і, напэўна, хутка ізноў накіруюць на фронт. Ён аб гэтым і не думае, ён збіраецца выехаць пад агонь так бестурботна, як быццам бы збіраецца ісці ў караул. Зусім іначай ставіцца да гэтага палітрук Плоткін, мой зямляк, рагачовец... Яго клічуць у бой пераконанні, абдуманае рашэнне. Аднак і той і той, пры ўсёй іх рознасці душэўнай, спакойна гатовы выканаць свой абавязак.

Сярэдняе становішча паміж імі займае лейтэнант Батрачэнка, малады артылерыст, які нядаўна закончыў школу. Як Рэдзька, непасрэдны і, як Плоткін, часамі разважлівы, ён ірвецца ў бой. Але... рука — на правай руцэ адарваны тры пальцы. І кожны дзень ён трывожна пытае ў доктара, ці могуць яго паслаць у страявыя. Магчыма, што гэта прага бою ідзе ад некаторай роспачы, якая, напэўна, закрадваецца ў сэрца гэтага маладога, дваццацігадовага калекі. Прынамсі, гэтая роспач яўна відаць у другога раненага — таджыка Назімава. Яму дваццаць два гады... Ён яшчэ на тэрміновай службе. У фінляндскую кампанію быў ранены ў галаву, у руку... Цяпер быў ранены ў нагу, ачуняў і быў ізноў на фронце. Але адкрылася старая рана, пайшла кроў, адправілі ў шпіталь. І вось ён са скрухай разважае: ...што, калі адарвуць нагу ці руку і я перастану быць работнікам? Навошта я тады сям'і і жонцы?

...Сягоння яго адпраўляюць дамоў. Не ведаю, як яго прыме жонка. Ад яго імя я пісаў ёй ласкавыя і жаласлівыя лісты. Такі ж ліст ад імя Рэдзькі я напісаў і адной дзяўчыне, якая яму ўпадабалася. Але, нягледзячы на ўсё

маё старанне і на ўсю пышнасць і перакананьнасць пісьма, дзяўчына адказала Рэдзьку кароценькай запісачкай: «У вас ёсць дзесьці добрая сяброўка, а я, на жаль, спатказца з вамі не магу».

Не ведаю, што пацярпела большае паражэнне: ці мой пісьменніцкі талент, ці фізіяномія Рэдзькі? Здаецца, і тое і другое ў аднолькавай ступені.

**1.Х.** Перадалі па радыё аб здачы Палтавы. Перад картай СССР доўга стаяць хворыя, сёстры, урачы... Задуменна пазіраюць на чырвоны кружок «Полтава», акідваюць устрывожаным зрокам прасторы за Уралам, цяжка ўздыхаюць і, панурыўшы галаву, адыходзяць ад карты.

Увечары было кіно «Большой вальс». Польдзі нагадала мне маю бедную галінку Ніну — тая ж дабрата і самаахвярнасць. У мяне з вачэй пакаціліся слёзы. Нервы! Дарэчы, нервы сталі благія не ў аднаго мяне. У трынаццатую палату да нас пасялілі былі... чалавека, падобнага на каўказца. Аказалася — ён яўрэй, Рыўкін, працаваў раней у Жлобіне ў кнігарні, а ў апошні час — у Беластоку ў ваенторгу. Ведае Пімена Панчанку... У першыя дні каля яго нельга было прайсці — ад кожнага шораху ён падскокваў да столі. Цяпер паспакайнеў...

**6.Х.** Балашоў. Другога кастрычніка позна ўвечары, у гадзін адзінаццаць, прывезлі новую групу раненых. Большасць з іх эвакуіравана з іншых палявых шпіталяў. І калі раней у нас былі раненыя ў ногі і рукі, цяпер з'явіліся зусім бязногія і бязрукія... У нашу палату палажылі небажчыка Кажухоўскага. Ён быў ранены яшчэ 27 ліпеня ў спіну. Пашкоджаны пазваночнік... На працягу ўсіх начэй ён жудасна крычыць і плача, і я ніяк не магу заснуць. Добра, што нарэшце мяне, здаецца, скора выпішуць. Хвароба мая патроху праходзіць. Абрыдла тут да чорцікаў. Рад, што скора вырвуся. Ад хлопцаў адказу на маю тэлеграму (з просьбай выслаць афіцыйнае патрабаванне) не атрымаў. Давядзецца, значыць, ехаць у Саратаў, а адтуль — куды пакіруюць.

**10.Х.** Сёмага кастрычніка мяне збіраліся выпісаць і меркавалі, куды ж мяне накіраваць: у Саратаў, Ульянаўск ці Горкі. Восьмага на імя начальніка шпіталя прыйшла ад Лынькова тэлеграма з просьбай накіраваць мяне да іх у рэдакцыю. Начальнік згадзіўся, і мне зарыхтавалі накіраванне ў Арол. Я абрадаваўся, што буду зноў са сваімі хлопцамі. Але дзевятага раніцай радыё паведаміла, што Арол заняты немцамі. Што мне рабіць? Чакаць новага па-

ведамлення ад Лынькова? А калі яно будзе? Папярэдняя яго тэлеграма (маланка) была выслана з Арла 30 верасня, а ў Балашове была толькі сёмага кастрычніка... Я ўсё яшчэ спадзяюся, што атрымаю ад хлопцаў паведамленне аб іх новым месцазнаходжанні, і таму выязджаць не спяшаюся. Ды і выехаць адгэтуль не лёгка: званіў учора цэлы дзень на вакзал, калі будзе поезд — невядома. Жыць далей у шпіталі няёмка, і я перасяліўся ў гасцініцу, дзе і пішу зараз гэтыя нататкі. У нумары зверскі холадна, брудна... А дзецца няма куды. Учора абышоў увесь горад — грязь, нуда... Увечары быў у кіно «Прожектор». Памяшканне кінатэатра — хлеў, а фільм «Антон Иванович сердится» — неблагі. Зараз думаю накіравацца на станцыю і даведацца там наконт цягніка. Да, справы мае невясёлыя!

Быў на вакзале. Народу там набіта, як мух у мухалоўцы... Дзякуючы камандзе санінструктараў, якія накіроўваліся ў Астрахань, сяк-так паабедаў у буфеце. Трэба сказаць, што ваенныя сходзяцца вельмі хутка. А ў закрытых шпіталях паміж людзьмі ўзнікае пяшчотнасць, як паміж інстытуткамі. Мяне хлопцы праводзілі са слязамі на вачах. Прасілі напісаць ім на памяць па некалькі слоў. Я, апанованы сапраўдным шчырым пачуццём дружбы, экспромтам напісаў...

...Здавалася, што цяжка будзе забыцца аб іх. А вось я ўжо сяджу з новымі сябрамі, а пасля праводжу іх да вагонаў. Мой цягнік будзе невядома калі. Ізноў варочаюся ў гасцініцу. Напісаў Лынькову ліст, у якім апісаў усе свае здарэнні, і прасіў даць мне ў Саратаў тэлеграму. А зараз, каб выратавацца ад холаду, вымушаны ізноў ісці ў кіно, хоць гэты фільм я ўжо бачыў учора.

**12.X.** ... Поезд на Саратаў ішоў з Харкава і быў перапоўнены дарэшты. Ехалі рабочыя нейкага ваеннага завода. Камендант хацеў пасадзіць нас без білетаў. Але дзверы былі пазачыняны, і ў дзвярах стаялі рабочыя пікеты. Паскандаліўшы з імі, камендант махнуў рукою і сказаў нам уладкоўвацца як хто хоча. Я пачаў прасіцца ў адным, у другім, у трэцім вагоне. Але людзі былі як каменныя, і ніякія просьбы іх не кранал. Падпільнаваўшы хвіліну, калі «пікетчык» неяк адвярнуўся, я цішком пралез у тамбур. У цемнаце мяне ніхто не заўважыў. Але холад у тамбуры прабіраў да касцей, і я стаў ляскаць зубамі. Знайшоўся адзін гуманіст, які запрасіў мяне ў вагон... Тым часам цягнік рушыў на ўсход. За вокнамі валіў буйны снег, і скора ў стэпе стала чыста і бела. У гадзіны чатыры

прыехалі на станцыю Рцішчава, дзе і сядзім. Хлеба дастаць трудна. Сяк-так дабіліся да буфета і паабедалі. У Рцішчаве яшчэ цясней, як у Балашове. Тут людзі не сядзяць, а стаяць шчыльна адзін пры адным. Дзяціны піск, жаночая сварка, мужчынская лютая лаянка зліваюцца ў адзіны суцэльны гул, падобны на гул пачварнага пчалінага рою. Цягнік павінен быў быць у сем гадзін, а ўжо скора дванаццаць, а яго ўсё не чуваць. Мы цэлыя суткі на нагах (са мной з Паўднёвага фронту едуць два ваенюрысты), і стаяць не стае сіл. А на дварэ валіць вялізнымі мокрымі камякамі снег, цемра... Людзі сядзяць, замеценыя снегам, на пероне, на пуцях. Каля іх бялеюць горы клункаў. Гэта ўсё эвакуіраваныя. Я адышоўся на хвіліну ад касы, у агітпункце пішу гэтыя нататкі. Тут трохі вальней, але трэба ізноў ісці да касы, каб не празяваць поезда.

13.X. Нарэшце сягоння ў гадзін пяць атрымалі білеты. На дварэ не пераставаў валіць снег, але мы цярпліва стаялі на пероне, каб першымі папасці ў вагон і заняць верхнія лаўкі. Але пакуты нашы былі марныя: вагоны дачнага тыпу і лавак верхніх няма. Усё ж такі мы шчаслівыя, што сядзім у цяпле і за каўнер не падае снег. У нашым купэ едуць тры жанчыны, жонкі работнікаў Смаленскага аблвыканкома. Яны па выкліку мужоў ездзілі з Саратаўскай вобласці, куды яны эвакуіраваны, у Вязьму, але не даехалі і ізноў варочаюцца ў калгас... У іх ёсць думка прабірацца куды-небудзь далей. І так тысячы людзей снуюць цяпер сюды-туды, не знаходзячы сабе прыстанку.

З Баку ў Саратаў едзе жанчына з дачкою. Жанчына — варажбітка, гадае пасажырам на карты і амаль усім вяшчае смерць. Прайдоха страшная. За гаданне яна ўжо асуджана была на пяць год. А цяпер, калі ў чалавечых простых душах хаос і ўтрапенне, яна ізноў выплыла на свет і едзе ў сваю вёску да мужа, хоць муж ужо жыве з другой. Ёй толькі трыццаць чатыры гады, а на выгляд год шэсцьдзесят: твар сапраўднай клікушы, таленту ніякага. Двух слоў звязаць не можа, не то што выдумаць што-небудзь арыгінальнае. Адна фраза спадабалася мне з яе аднастайнай і нуднай балбатні: «Вас хутка чакае любоўная пасцель і чырвонаю дамаю». Рэшта яе гаворкі — тупое паўтарэнне слоў: казённы дом, пісьмо, грошы, слёзы... Аднак знаходзяцца людзі, што вераць.

14.X. Прыехалі ў Саратаў у гадзін дзесяць. Народу на станцыі як і ўсюды. Многа ваенных з польскага корпуса.

(Я некалькі чалавек іх бачыў яшчэ на вакзале ў Балашове, але думаў, што гэта нашы адзеты ў трафейную польскую вопратку і накіроўваюцца дамоў. Аказваецца, тут фарміруецца польскі корпус.) Хлеба не дастаць... У каменданта горада атрымаў адрас 19-й запасной брыгады і накіраваўся туды, на Пакроўскую, 14. Снег перастаў, выглянула сонца, але на душы ў мяне была імгла. Дзяжурны ў брыгадзе сказаў мне зайсці ў сем вечара. Пайшоў у горад шукаць сталовай. Усюды стаяць даўжэзныя хвасты, як у 1939 годзе ў Беластоку малюнак бежанства. Выстаяўшы гадзіну перад дзвярыма, я нарэшце зайшоў у рэстаран. Апрача галушак, нічога не было...

Пакуль паабедаў, было ўжо сем гадзін. Я паспяшыў у штаб 19-й брыгады. Начальнік аддзялення, інтэндант II рангу Кунін, пачуўшы, што мне прыпісалі лейтэнанта, задумаўся, што рабіць. Параіў звярнуцца ў аблваенкамат — можа, ім патрэбны літработнікі. На гэтым мы і развіталіся. Начаваць у брыгадзе не было дзе, і я зноў паплёўся ў цемры ў камендатуру, дастаў дазвол на ложак, сяк-так знайшоў інтэрнат начсаставу і вось сяджу ўжо тут за сталом і пішу. У пакоі холад пякельны, але я пасля некалькіх бяссонных начэй рад халоднаму і мулкаму ложку, як самай лепшай пярыне.

**15.X.** Праспаў да дванаццаці гадзін дня. Ноччу марозіла, а ўдзень высвеціла сонца, пачаў раставаць снег.

Саратаў — слаўны горад. Шмат зеляніны, на вуліцах некаторых — кусты акацый. Дрэвы не паспелі пажаўцець і скінуць лісця. Пад цяжарам снегу і абледзянення галіны абламаліся, сухое зялёнае лісце сыплецца на белы снег. Сад выглядае як пасля навальніцы. Зіма і не зіма, нейкае недаразуменне і хаос. Незвычайны год і ў людзей і ў прыродзе.

Схадзіў у ваенкамат. Там сказалі, што мая справа іх не тычыцца і няхай брыгада што хоча, тое і робіць: альбо адсылае ва Ульянаўск у штаб акругі, альбо дэмабілізуе, альбо... пашле ў полк у якасці байца. Пайшоў ізноў да Куніна. Ён паставіўся да мяне вельмі спагадліва і параіў ехаць ва Ульянаўск. Я, зразумела, згадзіўся з радасцю. Мне выпісалі камандзіроўку і літар, але ўжо не на імя лейтэнанта, а на імя літаратара... Падзякаваў Куніну, ён папрасіў напісаць, што будзе са мною ва Ульянаўску, я паабяцаў, і мы развіталіся. Я пайшоў на прыстань. Якраз на Ульянаўск адпраўляўся параход, але плацкартных месц не было, і я вырашыў пераначаваць яшчэ ў Саратаве. Уве-

чары быў у тэатры оперы і балета. Глядзеў «Сільву» з удзелам Л. І. Цяпліцкай. Вайна параскідала і іх (заслужаных і незаслужаных) па розных гарадах і гарадках. У аркестры тэатра ўбачыў Бяссмертнага[1]. Пагаварылі ў антракце — скардзіцца на дрэнны прыём, на голад, на холад. Пасля спектакля ў калідоры сустрэў і С. Ю. Друкер[2]. У просценькай паркалёвай сукенцы, захутаная ў белую хустку, яна выглядала беднай і змучанай. Разгаварыліся: яна прыехала сюды з курорта, а дзе муж і дзеці — не ведае. Гаварыла, што бачыла Броўку і Танка. Яны мелі намер ехаць у Гомель...

16.X. Удалося захапіць некалькі піражкоў і паснедаць. Схадзіў на рынак, каб купіць чаго на дарогу, але нічога не дастаў. Са злосці купіў партфель, а ў яго — пару кніжак: Руставелі ў перакладзе Нуцубідзе і аповесці Дастаеўскага. Навошта? Не ведаю, цягне старая прывычка.

Параход меўся адыходзіць у пяць гадзін, у мяне быў час, і я зайшоў у Дом артыста. Друкер не застаў — пайшла даваць урокі. Пагутарыў з Бяссмертным. У яго, асабліва ў яго жонкі, роспач. Баяцца, каб вайна не дакацілася сюды, мяркуюць, ці не паехаць у Ташкент, кагосьці вінавацяць ва ўсіх няшчасцях. Стала непрыемна, і я пастараўся хутчэй развітацца...

Я сяджу на заваленай мяшкамі ніжняй палубе (плацкарту не дастаў) і ўспамінаю, як мы падарожнічалі з табою (Ніна) па Чорным моры, па Дняпры, як марылі паехаць па Волзе. І вось я — на Волзе. А дзе ты, радасць мая і гора маё!

18.X. Двое сутак плывём па Волзе (з Саратава выехалі ў дваццаць тры трыццаць). Колькі я чуў аб красе Волгі! А за двое сутак убачыў толькі пустэльны бераг, пацярушаны злёгку снегам. Справа ў тым, што плацкартных месц не было, давялося сесці ў чацвёрты клас. «Аляксандр Сяргеевіч Пушкін» (так называецца цеплаход) набіты да адказу... Людзі ў замяшанні снуюць па краіне з адной вобласці ў другую. Праўда, цяпер дазваляецца ўезд у той ці іншы горад толькі па накіраванню эвакапунктаў. Але ўсякімі праўдамі і няпраўдамі эвакуіраваныя ўхітраюцца мяняць месца па некалькі разоў... Вялікая колькасць людзей краіны жыве ў дарогах...

---

[1] Бяссмертны Аркадзь Львовіч — беларускі савецкі скрыпач, дырыжор, педагог.

[2] Друкер Соф'я Юр'еўна — беларуская савецкая спявачка, народная артыстка БССР.

Наступленне немцаў на Заходнім фронце працягваецца, баі ідуць амаль на самых подступах да Масквы. Радыё паведаміла, што Адэса эвакуіравана. Што будзе? Я веру, сіл у нас шмат. Толькі трэба, каб кожны пранікся адказнасцю, каб кожны адчуў і ўразумеў, што паратунак у ім самім, а не толькі ў другіх, трэба, каб кожны дзейнічаў сам, а не жыў толькі спадзяваннямі, што ворага нехта разаб'е без яго. Калі ж настане хвіліна гэтага ўсведамлення?!

А яна настане...

...Са мною, па маёй мяккацеласці, водзяць кампанію самыя няшчасныя і абарванцы. Відаць, выгляд у мяне такі, што кожны са мною запанібрата і на «ты». У Рцішчаве адна яўрэйка прапанавала мне перанесці ёй у вагон рэчы, абяцаючы заплаціць пяць рублёў. У Саратаве нейкая грамадзянка прасіла ўзяць ёй у воінскай касе білет і таксама абяцала заплаціць. Я запрасіў сто пяцьдзесят рублёў. Яна паглядзела недаўменна і адышлася. Стары паганы погляд на салдата, спадчына царызму!

...Пасля дзесяцігадзіннай стаянкі ў Куйбышаве параход нарэшце ў 23.45 павольна рушыўся далей. Заўтра, здаецца, буду ва Ульянаўску. А зараз — спаць. У Куйбышаве многа выйшла пасажыраў, і я завалодаў верхняй лаўкай і магу цяпер паспаць.

**19.X.** Да Ульянаўска застаўся адзін перагон. У гадзін 14—15 прыедзем. Што мяне там чакае?..

**20.X.** Тут нарадзіўся правадыр. С такой думкай ступіў я на зямлю Ульянаўска. З прыстані ў горад вядзе велізарная лесвіца. Тубыльцы з гордасцю заяўляюць, што ў ёй семсот сорак прыступак. Мне здаецца, што іх значна менш. Аднак падняцца ў горад досыць цяжка. З вышыні адкрываецца грандыёзная панарама Волгі. Адгэтуль Ленін у маленстве глядзеў на свет. З хваляваннем я ішоў горадам. Шмат мемарыяльных дошак: «Тут праездам у Арэнбург спыняўся Пушкін у 1836 г.»; «Тут вучыўся Ленін»; «Тут нарадзіўся Ганчароў»... Гарадок-музей! Цяпер ён кішыць людзьмі — бежанцы, ваенныя. Я адразу ж пайшоў у Палітупраўленне Прыволжскай ваеннай акругі... Мяне накіравалі на камісію. Я зайшоў на медкамісію, і там мне сказалі прыйсці сягоння (20.X.). Паабедаў у рэстаране і пайшоў начаваць на перасыльны пункт. Там спяць на голых дошках, але мне і іх не хапіла. Вырашыў скарыстаць час у тэатры. Ішла п'еса «Разлом». Гадуна іграў хтосьці

страшна падобны на Іванова[1]. У перапынку ўзяў праграму і ўпэўніўся, што гэта сапраўды ён. Тут жа працуе і Малчанаў. У другім антракце зайшоў да іх за кулісы. Абняліся, як родныя. Пасля спектакля пайшлі да Малчанава, дасталі і выпілі ягаднага віна, расказалі адзін другому сваё гора. Тэатр іх эвакуіраваўся ва Уральск, а яны на свой страх і рызыку злезлі ў Куйбышаве. Адтуль іх накіравалі сюды. Спачатку было цяжка, начавалі ў тэатры і дзе папала. Цяпер больш-менш уладзіліся: працуюць, маюць пакоі. Іваноў ажаніўся...

Начаваў у Малчанавых. А сёння быў на камісіі. Заключэнне: годзен к службе на рабоце, «не связанной с длительной ходьбой». З гэтым заключэннем пайшоў ізноў у аддзел кадраў Палітупраўлення. Яны перагаварылі з рэдактарам акруговай газеты і накіравалі мяне да яго. Там высветлілася, што як вольнанаёмнага мяне могуць узяць на работу, а як ваеннага — не, бо штаты запоўнены. Рэдактар параіў звярнуцца да гарваенкома, каб ён альбо накіраваў мяне па спецыяльнасці, калі ёсць патрабаванне, альбо дэмабілізаваў...

Слухалі нейкі джаз. Начую ізноў у Малчанава.

**21.X.** Праседзеў у Палітупраўленні гадзіны чатыры. Нарэшце дабіўся прыёму. Начальнік кадраў напісаў у ваенкамат: «Направляется т. Глебка для принятия на учет». Адтуль накіравалі ў мандатную камісію. Камісія забракавала, паколькі я нестраявы, і накіравала назад у ваенкамат. Заўтра пайду ізноў да ваенкома. А сягоння Іваноў, яго жонка, Мазалеўская[1] і я павячэралі ў рэстаране, выпілі яблычнай настойкі, затым пайшлі да Іванова. Я чытаў старыя і новыя вершы; успаміналі Беларусь, Мінск, Віцебск...

**23.X.** У ваенкамаце перамянілі мне білет і сказалі ісці ў міліцыю і брацца на ўчот.

...А людзі ў горад усё прыбываюць, галоўным чынам з Масквы. З харчаваннем стала вельмі дрэнна. Каб атрымаць абед, я праседзеў сягоння ў рэстаране чатыры гадзіны. На рынку — шалёныя цэны: гусь каштуе 150 рублёў. Што будзе зімою? Мяне пужае холад. Дастаў сягоння ў атэлье цёплую рубашку... Бялізны маю ўсяго пару, якая на мне. Ні коўдры, ні рушніка, ні мыла — нічога няма. Не

---

[1] Іваноў Павел Іванавіч — беларускі савецкі акцёр, заслужаны артыст БССР.

[1] Мазалеўская Любоў Іванаўна — беларускі савецкі рэжысёр, педагог і артыстка, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

ведаю, як я буду выкручвацца. Жыву пакуль што ў Малчанава. Спадзяюся ў далейшым на шчасце. Сёння ў горадзе ўведзена зацямненне. На вуліцах — гразь і цемра, цемра і гразь.

**24.X.** Лёс мой усё больш акрэсліваецца. Быў у рэдактара акруговай газеты, батальённага камісара Сакалова. Прыняў ветла і цёпла. Атрымаў анкеты для паступлення да іх на работу ў якасці літработніка... Застаецца дастаць памяшканне, пасцель і бялізну. А з гэтым тут не так лёгка. Штогадзіны прыбываюць машыны і параходы з бежанцамі з Масквы... Афіцыяльна абвешчана аб эвакуацыі з Масквы наркаматаў. Тут ідзе падрыхтоўка да работ па ўмацаванню левага берага Волгі...

Глядзеў «Обрыв» у пастаноўцы Малчанава. Афармленне шэрае. У рабоце рэжысёра многа непрадуманага, у ігры — шмат нуднага. Не дзіва! — пастаноўка зроблена за два тыдні. Публікі ў тэатры поўна, праўда, не так, як у рэстаране, але ўсё ж такі...

**27.X.** Сёння першы дзень на рабоце. Прызначылі мяне літработнікам у аддзел прапаганды; аклад, здаецца, 750 рублёў. Сяк-так можна будзе жыць. Атрымаў пропуск у сталовую. Кормяць там няважна, але танна — абед рублёў 5, а снеданне і вячэра 3—4 рублі. Такім чынам на харчаванне будзе ісці не больш як 15 рублёў у дзень. Учора купіў пару бялізны за 80 рублёў і ручнік за 25 рублёў. Застаецца дастаць пакой. Пакуль што жыву ў Малчанава.

З фронту паведамляюць, што баі ідуць на Харкаўскім, Мажайскім і Малаяраславецкім напрамках. Гавораць, што на Заходнім фронце многа нашых трапіла ў акружэнне. Як там мае хлопцы? Што з імі? Думаю напісаць ім сёння-заўтра ліст. Немцы перагрупоўваюць часці для новага наступлення. Масква, Масква! Які цябе чакае лёс? Камітэт абароны на чале з Сталіным у Маскве. Трэба спадзявацца, што сталіца вытрымае шалёны націск і на гэты раз.

Пішу для «экзамену» артыкул аб дысцыпліне. Не выходзіць у мяне штосьці па-руску — суха і няскладна атрымліваецца. Не ведаю, як будзе прынята мая работа; газетны народ — здрадлівы, і чакаць ад іх хвалы не даводзіцца. Аднак нейк жа будзе. Абы ўсё было добра на фронце...

**28.X.** Баі за Маскву, за Таганрог, за Ленінград, за Калінін — працягваюцца. Баі ідуць, нечуваныя ў гісторыі. Калі чытаеш асобныя эпізоды, замірае сэрца ад гордасці за нашых людзей. Баі ідуць рашальныя. Усё можа быць, але

пасля гэтых баёў нямецкая армія ачуняе не скора. А ў нас — спакойнае жыццё. Напісаў артыкул «Свято чти воинскую дисциплину». Рэдактар прапанаваў напісаць апавяданне на тэму: «Оборона Родины — кровное дело всех, даже далеких от фронта». Абяцаў падумаць. Пакой знайсці немагчыма. А можа, і не трэба? Сорамна сядзець у гэтай цішы, калі там, у сэрцы Бацькаўшчыны, ліецца кроў.

31.X. З кожным днём цяжэй становіцца з харчаваннем. Па хлеб становяцца чэргі яшчэ з адзінаццаці-дванаццаці гадзін ночы. На рынку кіло масла каштуе 120 рублёў, пачак запалак — 2 рублі. У сталовай (гэта ў закрытай) даводзіцца траціць на полудзень дзве гадзіны. Даюць на абед часамі і мяса, але мы прыходзім пасля работы, і нам даcтаецца звычайна каша-куцця, каша з пшанічных круп і расольнік альбо капуста...

1.XI. Паслаў нарэшце хлопцам лісты — адзін адэкватны другому. Напісаў артыкул «Победа или смерть — девиз советского воина». Працую над апавяданнем. Атрымаў першую зарплату — 135 рублёў з капейкамі. Пакоя ўсё яшчэ не маю і праводжу амаль круглыя суткі ў рэдакцыі.

2.XI. Учора схадзіў у лазню, патраціў чатыры гадзіны, але памыўся і адчуў сябе так, нібы зноў нарадзіўся на свет. Схадзіў у горад, пагаліўся, паблукаў па рынку. Хацеў купіць коўдру і прасцірадла, але цэны недаступныя... Купіў за 15 рублёў агульны сшытак і за 10 рублёў іржавую самабрыйку. Увечары з Малчанавым зайшлі ў тэатр... Затым... пайшлі да нейкай віцяблянкі пытацца пра пакой для мяне. Віцяблянка гэта жыве ў свайго дзядзькі — дырэктара хлебазавода. Жыццё, відаць, яе не вельмі салодкае таксама. Аднак нас пачаставалі салодкім чаем, а гэта цяпер — вельмі многа значыць. Пакой абяцалі пашукаць.

3.XI. Заходзіў да віцяблянкі — ёсць куток у сям'і (іх двое), а пакоя асобнага не чуваць. Абяцала пашукаць яшчэ. Удзень быў у начальніка танкавага вучылішча Героя Савецкага Саюза генерал-маёра Кашубы. Цяпер сяджу і пішу гэты артыкул, а пойдзе ён за подпісам генерала... З месцовай газеты прасілі верш у кастрычніцкі нумар. Абяцаў.

4.XI. У адной з нашых работніц можна застацца жыць у пакоі сумесна з ёю. Сям'я ў яе — яна ды сын дзевяці год. Выгада, што там усё гатовае, нявыгадна, што сумесна. Можна яшчэ пасяліцца ў пакой да аднаго літработніка Азнобішына. Але тут трэба набываць пасцель і ўсю іншую

гаспадарку. Трэба будзе паглядзець. Пакой у маім жыцці, як і ў гэтых нататках, займае цяпер галоўнае месца. Пачаў два вершы, але ніводнага не скончыў, таксама як і артыкула генеральскага. Трэба працаваць!

**6.XI.** Вось надышло і свята. Як радасна сустракалі мы яго ў Мінску! З якімі надзеямі глядзелі ў будучыню! А цяпер — трывога і няпэўнасць... Наступленне пад Масквой і Ленінградам як быццам бы спынена. Што прынясуць кастрычніцкія дні?..

Артыкул для Кашубы напісаў і здаў у друк. Учора ўвечары занёс у рэдакцыю «Пролетарского пути» верш «Москва». Як і водзіцца ў правінцыяльных газетах, пастараліся прыдрацца да некаторых радкоў. Я абяцаў паправіць і сёння прынесці папраўкі. Але правіць не збіраюся, хочуць — друкуюць, хочуць — не. Скончыў верш для нашай газеты «Октябрь». Адным словам, стараюся «падзарабіць», бо жыць мне вельмі цяжка — столькі трэба купіць, а грошай — кот наплакаў. Мерзну ў шынялі і ў пілотцы, як цюцька. Сёння мяне штосьці калоціць, баюся захварэць...

Увечары трэба будзе схадзіць у тэатр. Там абяцаў быць знаёмы Іванову лейтэнант, у якога можна быццам бы будзе жыць. Гэта было б вельмі добра: у сям'і мне лягчэй будзе — і вады гарачай можна дастаць, і зварыць сёе-тое ільга, а можа, і пасцель будзе гаспадарская. Вось гэта было б добра! У крайнім выпадку давядзецца ісці да Азнобішына. Мяне пужае там тое, што печы няма, а ёсць паравое ацяпленне, але цяпліць яго ніхто не цепліць — гэта значыць жыць у зверскім холадзе. Пасуды таксама ні ў яго, ні ў мяне ніякай, нават вады выпіць няма чым. Усё гэта трэба купляць, а дзе ты яго цяпер дастанеш? Значыць, давядзецца раніцай ісці без усякага снедання і галадаць аж да дзвюх гадзін дня. А ці вынесу я гэта? Сілы мае страшна падарваны, ем я без канца і краю кашы і ўсё хачу есці. Ну, нейк жа будзе.

Свята трэба, як і ў мінулыя гады, сустрэць бадзёра. Вітанне табе, Кастрычнік,— дзень барацьбы і вызвалення, дзень пакут і радасці, дзень веры і надзей!

**7 лістапада.** Дзень Кастрычніка, 25 год рэвалюцыі.

...Цэлы дзень сядзелі дома. У пяць думаем схадзіць з Паўлам да Іванова. Учора быў у тэатры. Спектакль скончыўся ў дзве гадзіны. У Віцебскім п'еса [1] ішла лепш. Аб

---

[1] П'еса М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом».

афармленні няма чаго і гаварыць. Тут не афармленне, а адно непаразуменне. Публіка прыняла пасрэдна. Тым часам тут павінен быў быць трыумф. Ён жа тут нарадзіўся. Тут прайшлі яго дзіцячыя гады. Адгэтуль, з высокага берага Волгі, ён упершыню глядзеў на той свет, за вызваленне ісціннай красы якога ён змагаўся ўсё сваё жыццё, разбураючы старое і творачы новае. І свет навек запоўніў Леніна, мяцежнага рэвалюцыянера і нястомнага зодчага. Ленін жыве ў кожным доме і ў кожным сэрцы. Але тут, у горадзе, які носіць цяпер яго імя, памяць аб ім беражэ не толькі сэрца чалавека, а і кожны камень на бруку. Як жа ўрачыста павінны былі сустрэць яго землякі! Не, тэатр не справіўся з п'есай. Адзін Малчанаў — цудоўны...

**8.XI.** Учора зайшлі да Іванова, не засталі і пайшлі ў тэатр. Я сядзеў і гутарыў з Данскім[1]... Пасля спектакля ледзьве прыйшлі — мяцеліца і вецер збівалі з ног. Пачалася зіма. Шынялёк мой падбіты ветрам — холадна, галодна, адзінока, і прытулку мне няма...

**13.XI.** Усе дні быў вельмі заняты — хадзіў у шпіталь і вучылішчы арганізоўваць матэрыял. Напісаў некалькі карэспандэнцый і фельетон «Первый снег». Кватэры ўсё яшчэ не маю і згубіў ужо надзею знайсці... Дзякуй Малчанавым, прытулілі і глядзяць, як роднага. На жаль, самім ім жывецца не соладка.

**17.XI.** А дні ўсё ідуць. Здаецца, нічога і не раблю, а ўвесь час заняты. Устаю у сем — сем трыццаць. Мыюся, выпіваю шклянку вады з хлебам. У восем пятнаццаць выходжу на работу. Пакуль сёе-тое — глядзіш, ужо гадзіна, трэба рыхтавацца бегчы ў сталовую. Бяжыш зламаўшы галаву, каб за гадзіну (з 1.15 да 2.15) паснедаць. У сталовай вялізная чарга, і часамі вяртаешся няеўшы. Да шасці ізноў працуеш. У шэсць бяжыш абедаць. На абед ідзе паўтары-дзве гадзіны. А ў дзевяць ізноў трэба на работу. Не заходзячы дадому, іду ў рэдакцыю, працую да адзінаццаці вечара. Пакуль прыйдзеш дахаты, збярэшся спаць — гадзіна ночы. Такім чынам, сплю ў суткі шэсць-сем гадзін. Дзіўлюся, як я не прасыпаю на работу. Нядзелі чакаеш з вялікімі спадзяваннямі, але яна таксама праходзіць непрыкметна.

Учора хадзілі масла браць з Паўлам. Затым пайшлі ў тэатр. Там поўна бежанцаў. Некалькі параходаў зазіма-

---

[1] Данскоі Марк Сямёнавіч — рускі савецкі рэжысёр кіно і сцэнарыст, народны артыст СССР.

вала ва Ульянаўску, з іх згрузілі на прыстані эвакуіраваных, а адтуль размясцілі, дзе толькі можна было. Заняты калідоры, ложы, галёрка...

Сёння пісаў перадавы аб рускай зброі і палкаводцах.

**20.XI.** Маю надзею пасяліцца ў інтэрнаце пры рэдакцыі. Выгода: блізка, электрычнасць, цёпла. Трэба толькі купіць пасцель. На рынку дарагавізна. За пальчаткі заплаціў 50 рублёў. Думаю ў нядзелю перасяліцца...

**23.XI.** Цэлы дзень гаспадарыў. Купіў за 450 рублёў коўдру, за 160 — два прасцірадлы, за 30 — куль сена. З нейкай скрыні зрабіў ложак. Любоў Іванаўна (Мазалеўская) спрэзентавала падушачку пад адно вуха. Такім чынам пасцель ёсць, і я перасяліўся на новую кватэру — у памяшканне пры рэдакцыі...

**25.XI.** Напісаў ад імя Героя Савецкага Саюза Дзяканава артыкул «Дисциплина множит наши силы». Выклікалі ў гарком чагосьці. Аказваецца, прапануюць прыняць удзел у літаратурным вечары. Даў згоду...

**27.XI.** Паслаў ліст Міхасю і Кандрату. У газеце «Фрунзевец» змешчан верш Коласа ў перакладзе нейкага Ліпко. Адкуль там узяўся гэты верш? Можа, там сам Якуб? Паслаў у Ташкент ліст Ліпко з просьбай паведаміць, адкуль узяўся верш, а калі ведае — адрас Коласа.

Быў вечар (літаратурны). Народу было поўна... Я чытаў «Героі» на беларускай мове і «Москва» на рускай. Малчанаў прачытаў на беларускай «Да моладзі» і «Вясёлыя песні». Па-першае, пераблытаў, а па-другое, былі, мне здаецца, недарэчы, бо вечар цалкам прысвечаны вайне. Цікавым было выступленне Собалева[1] з расказам аб абароне Адэсы. Які гераізм!

**28.XI.** Рэдактар паклікаў і паведаміў, што рэдакцыя выязджае ў Саратаў. Ці згодзен я? — пытае. А што ж я маю рабіць. Канечна, я ахватней паехаў бы ў Мінск альбо да сваіх хлопцаў у франтавую. А там гарачыя справы: паведамляюць, што нашы наступаюць на Калінінскім участку і ў Данбасе. Па чутках — наступленні пачаліся аж 11.XI. Другія чуткі, што Кулік у Волагдзе рыхтуе ўдарную групу. Я раблю здагадкі, што можа пачала дзейнічаць гэта група. Так ці не — весці з франтоў параўнальна нядрэнныя. Вось толькі няма ніякіх вестак ад хлопцаў. Што з імі? Ці не перакінулі іх на той бок фронту?

---

[1] Собалеў Леанід Сяргеевіч — рускі савецкі пісьменнік, Герой Сацыялістычнай Працы.

**30.XI.** Цэлы дзень хаджу і не знаходжу сабе месца. Аб чым бы ні думаў, што б ні ўзяўся рабіць — перада мной стаіць ён, жывы, вясёлы бражнік і нястомны работнік, вялікі талент, чалавек шчырага сэрца і мудрай думкі. Не можа гэтага быць, каб ён... Не, я не хачу нават вымаўляць гэтага слова. Завошта ж нас карае доля? Спачатку Багдановіч, пасля Трус, пасля Самуйлёнак і цяпер Кузьма (Чорны). Усе таленавітыя і такія маладыя, у росквіце творчых сіл. Аб Кузьме паведаміў мне Малчанаў. Ён бачыў нейкага сваяка. І вось ён гаворыць, што Кузьма памёр ва Уральску на вакзале ад разрыву сэрца. Якая недарэчная смерць! Сэрца, каторае мясціла столькі чалавечага гора, не змагло вынесці апошняга выпрабавання. Дружа мой! Ты так любіў Беларусь і памёр не дома. Дармо, адпомсцім і за гэта! І памяць аб табе будзе жыць на радзіме. Але мне здаецца, што гэта няпраўда. Мне так хочацца, каб гэта было няпраўда, але я нічым не магу адагнаць ад сябе гэтай думкі. Нават другое паведамленне, што быццам бы мая сям'я ў Алма-Аце, не зрабіла на мяне асаблівага ўражання. А можа, гэта таму, што я больш чым упэўнены, што мяне зблыталі з Петрусём (Броўкам); гэта, мусіць, Лёля ў Алма-Аце. І высветліць няма ў каго... А тут яшчэ пераезд. Нашы ўсе ўсхваляваны, як заўсёды перад ад'ездам; адзін я хаджу, нібы пад зямлёй. Любы мой Кузьма! Вечная памяць табе, калі праўда, што цябе насцігла бязлітасная смерць. І сто год табе здароўя, калі ты жывы і не крануты рукою смерці. І ў тым, і ў другім выпадку ты са мною — жывы і нязменны, браце мой, дружа мой!

**1.XII.** Зайшоў да Малчанава... Аказваецца, памёр не Чорны, а Бядуля... Сэрца маё сціснулася ад вялікай утраты і болю. Вечны спакой табе, дарагі Змітрок! Няхай хоць пасля смерці шлях твой будзе ўсланы славай, якую стварыў табе твой талент.

Канечна, у Алма-Аце не мая сям'я, а Броўкіна... Заўтра мы выязджаем. Вітанне табе, Дарога жыцця!

**2.XII.** Цэлы дзень сягоння змарнавалі. Сказалі нам сабрацца для ад'езду ў дванаццаць гадзін дня, а выехалі мы на вакзал толькі ў шэсць гадзін. Мароз страшны! А нам давялося стаяць на дварэ гадзіны паўтары. Я адубеў і прамёрз да касцей. Нарэшце падалі састаў. Вагон нам папаўся халодны, дзіравы — жах. Сядзім і хукаем на рукі. Ша! рушыліся — дзесяць гадзін. Пакідаю мілы рускі гарадок. Гарадок сапраўднай рускай нацыянальнай архітэктуры.

Праўда, адчуваецца ў гэтых двухпавярховых драўляных дамках уплыў Азіі. Але разьба, цудоўная і непаўторная разьба ёсць вынік чыстага рускага генія, простага народа, безыменных цесляроў. Да пабачэння ў лепшыя часіны, гарадок — радзіма Леніна!

**3.XII.** Мароз трашчыць. У вагоне — хоць ваўкоў ганяй. Перабраўся на верхнюю лаўку — там цяплей. Атрымалі на ўсю дарогу паёк — два селядцы, бляшанку кансерваў, дзвесце грам масла, дзвесце грам сыру, пяцьсот грам цукру, грам дзвесце каўбасы, кавалак мыла, два пачкі папярос і тры пачкі запалак на кожнага. Усё гэта, як і хлеб, выдалі па картачках.

**4.XII.** Пасля доўгай стаянкі ў Чышме ў гадзіны дзве дня рушылі ізноў, на гэты раз у кірунку на паўднёвы захад. За вокнамі без канца і краю цягнецца стэп, зацярушаны злёгку снегам і перарэзаны зрэдку невысокімі ўзгоркамі. Аднастайнасць навявае маркоту. І як ні ганю ад сябе ўспаміны, перада мною як жывыя ўстаюць малюнкі роднай Беларусі, родныя людзі і мая няшчасная Ніна. Смутак агортвае маю душу. І праз гэты смутак прыходзіць натхненне — не бурнае, поўнае парываў, ціхае, поўнае задуменнасці. Думка снуецца за думкай і складваецца ў невыразныя яшчэ, але бачныя мне вобразы. П'еса, напісаць якую мне прыйшла думка тыдні два таму назад, пачынае патроху вырысоўвацца. Матэрыял укладваецца прыблізна ў тры акты, пяць-шэсць карцін. Месцамі сюжэт яшчэ перарываецца, бо матэрыял не хоча пакарыцца і служыць ідэі, якую я хачу выказаць. Ідэя гэта наступная: пагарда да смерці нараджае жыццё, прыносіць перамогу. Мне здаецца, што гэту п'есу я мог бы напісаць за месяц, калі б не работа ў рэдакцыі, якая адбірае ў мяне цэлы дзень. Падругое, невядома, як мяне сустрэне Саратаў, ці будуць там хоць якія-небудзь умовы для работы, у першую чаргу кватэрныя ўмовы. Здаецца, што — не. А зрэшты, на ўсё воля лёсу. Пакуль што ён абыходзіўся са мной капрызна, але не жорстка. Буду спадзявацца, што так будзе і ў далейшым.

**5.XII.** Праязджаем мірныя, зацярушаныя снегам вёскі і гарады. Не верыцца, што дзесьці ідзе жорсткая, крывавая вайна. Адны толькі наклейкі на вакзалах. «Шукаю сям'ю такую-та», «Я знаходжуся там і там» — напамінаюць аб вялікім зрушэнні народа. Я напісаў таксама некалькі «шукальных пісем», г. зн. пісем без дакладнага адрасу: Ліпко і Коласу ў Ташкент і Лёлі (Броўка) і адрас-

наму бюро ў Алма-Ату. Думаю апусціць іх у Чкалаве, у якім мы будзем ноччу.

**6.XII.** У дзве гадзіны раніцы праехалі Чкалаў. Апусціў лісты. У дзесяць гадзін вечара праехалі Уральск, апусціў ліст Дорскаму [1]. Абрыдла ехаць. На дварэ стаяць маразы. Мы не злазім з верхніх лавак... Заўтра ўвечары ці пасля-заўтра раніцай павінны быць у Саратаве.

Прачытаў Рафілі «Нізамі». Шэрая кніга, шмат паўтораў, аднастайнасці: «гуманізм», «гуманістычны», «гуманіст». Аб Нізамі не так можна б напісаць!

Сёння радаснае паведамленне Інфармбюро: нашы на поўдні развіваюць наступленне... Пад Масквой таксама трымаюцца моцна. Дай жа, доля, ім і ў далейшым добрую ўдачу!

**7.XII.** Дзве гадзіны дня. Ярка свеціць сонца. Я стаю перад акном і гляджу на роўны і шырокі стэп. Уражанне такое, што ты стаіш перад мураванай сцяной, якая засланяе ад цябе разнастайнасць свету. Жывеш толькі сваім унутраным светам...

**8.XII.** Да Саратава засталося кіламетраў шэсцьдзесят-семдзесят. Марозная раніца ці агульная ўзбуджанасць парадзілі ў маім сэрцы нейкае невыразнае, але прыемнае спадзяванне на лепшыя дні. Не ведаю, ці апраўдаецца гэтае спадзяванне і ці ветла сустрэне Саратаў. Пакажа будучыня. Трэба патроху збірацца.

Доўга мерзлі на дварэ, пакуль падалі машыны. Накіравалі нас часова ў інтэрнат Дома Чырвонай Арміі. Я папаў у вялізны пакой, у якім ужо каліськці жыў. Пайшоў у горад, каб павячэраць, але скрозь цёмна і зачынена. Трэба лажыцца спаць без вячэры.

**9.XII.** Пачалася вайна паміж Японіяй і ЗША, Англіяй... Як гэта недарэчы! Няхай бы яны яшчэ патрывалі два-тры месяцы. Мы змаглі б атрымаць дапамогу ад ЗША і Англіі і тым часам наладзіць сваю эвакуіраваную прамысловасць, пусціць у ход тысячы машын-бежанак, якія стынуць у эшалонах на ўсіх станцыях, дзе мы толькі ні праязджалі. Нямецкая дыпламатыя выйграла. Цяпер шляхі да перавозак у СССР з Англіі і ЗША сталі яшчэ больш небяспечныя. Па-другое, ЗША цяпер самім патрэбна ўзбраенне. Так, нямецкая дыпламатыя выйграла, але нямецкая армія праігрывае: сённяшнія паведамленні з фран-

---

[1] Дорскі Іосіф Львовіч — беларускі савецкі тэатральны дзеяч і драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

тоў, асабліва з Заходняга, як і ранейшыя, досыць радасныя — нашы войскі займаюць патроху асобныя пункты...

**10.XII.** Цэлы дзень бегаў і шукаў матэрыялу, потым апрацоўваў яго. Часу не маю ні хвіліны, няма нават калі схадзіць у лазню... Жывём усё яшчэ ў памяшканні Дома Чырвонай Арміі, сталуемся дзе папала, а часцей за ўсё — зусім не абедаем. Навіны з франтоў — уцешныя: нашы перайшлі ў контрнаступленне.

**14.XII.** Жудасны настрой. Чацвёрты дзень мучуся жыватом. У пакоі холадна... У дадатак да ўсяго здарылася непрыемнасць. Я атрымаў у аднаго ваенінжынера артыкул, паложыў з блакнотам у кішэнь і пайшоў з хлопцамі ў кіно. Там у мяне выцягнулі блакнот і артыкул. Давялося, пазычыўшы ў сляпога вачэй, ісці і прасіць аўтара аднавіць артыкул...

Сёння прыйшоў другі эшалон штаба, і з імі прыехалі ўсе астатнія работнікі нашай рэдакцыі. Няма толькі рэдактара, які выехаў на машыне і загразь дзесьці ў Хвалынску.

З фронту весткі яшчэ больш радасныя: у выніку наступлення нашы войскі занялі каля 400 населеных пунктаў, нанеслі супраціўніку вялікія страты і ўзялі багатыя трафеі.

**15.XII.** Нашы занялі станцыю Вузлавую, Дубна і яшчэ рад пунктаў. Ходзяць чуткі, што баі ідуць пад самым Харкавам і Арлом. У рэдакцыі таксама навіна: у аддзелах пакідаюць толькі па адным ваенным, астатніх адклікаюць і замяняюць іх вольнанаёмнымі.

**17.XII.** Пасля Растова, Ціхвіна, Яльца і Кліна нашы войскі занялі Калінін. Мацнеюць надзеі на скоры зварот на радзіму. Адно трывожыць: ці хопіць сіл замацаваць поспехі, бо, зразумела, немцы кінуць на фронт усё, каб вярнуць утрачанае становішча. Чытаючы аб вандалізме гітлераўцаў у Яснай Паляне і іншых адбітых назад мясцінах, ізноў думаю пра Мінск, пра дом. Успомнілася развітанне з Нінай, Магілёўскае шасэ...

Зрабіў накіды вершаў, але працаваць няма дзе: рэдакцыя змяшчаецца ў адным пакоі Дома Чырвонай Арміі, а ў інтэрнаце таксама шумна і цесна.

**21.XII.** Устаў у шэсць раніцы і пайшоў у друкарню чытаць газету, дзе і прабыў да дванаццаці дня. Затым быў у рэдакцыі, паабедаў, і вось — ужо цёмна. Дзень, у які я спадзяваўся папрацаваць над творамі, схадзіць да сям'і Пашы Іванова, прайшоў. Калі ж гэта ўладзіцца наша жыццё?

**22.XII.** Сёння роўна паўгода, як па палях маёй Радзімы ліецца кроў майго народа. Здаецца, дзень першай трывогі быў так нядаўна, здаецца, толькі некалькі дзён таму назад, поўны надзеі на нашы сілы, я пісаў першы верш аб вайне. Яшчэ ўваччу стаяць першыя нямецкія самалёты... устрывожаныя знаёмыя людзі... летняе сонца. Пакінуты родны горад стаіць перада мною у сонечным бляску і ў чорным дыме. Я ніяк не магу ўявіць яго ў снезе, забруджаным крывавымі слядамі ворага, згарэлым і абрабаваным. Але гэта так: не сонца, а чорная ноч стаіць над пажарышчам і там на папялішчы ў гэтай ночы, у невядомай для мяне, але жудаснай долі мая Ніна, мае родныя, усе, каго я любіў...

Шмат перажыў я за гэтага паўгода, але я меў заўсёды над галавой калі не дах, дык сваё вольнае неба, калі не белы хлеб, дык сваю скарынку, калі не абутак, дык лапці з роднай лазы... А што маюць яны, мае родныя, апрача розак з гэтай лазы?! І днямі, калі мне ўсміхаецца шчасце, яшчэ з большым болем я ўспамінаю іх... У мяне ёсць работа, ёсць прытулак, ёсць хлеб. У мяне ёсць надзея на скоры зварот на радзіму, надзея, сагрэтая поспехамі нашых войск. Яны не маюць і гэтай надзеі, бо наўрад ці даходзяць да іх праўдзівыя, г. зн. нашы, савецкія весткі аб становішчы на фронце. Родны вецер, данясі да іх гэтыя словы праўды, хай яны запаляць у іх пакутных душах хоць слабы агеньчык маёй надзеі...

**24.XII.** З васьмі гадзін учарашняга дня і да васьмі сённяшняй раніцы дзяжурыў па нумару газеты... Работнікаў засталося мала, а работы прыбавілася. Але я не ныю. Вось хацелася б толькі атрымаць ліст ці хоць якую весточку аб нашых хлопцах, аб знаёмых. Тут выходзіць украінскі «Камуніст» і «Советская Украина». Тут жа і ўкраінскі ўрад. Аб беларусах і Беларусі — не чуваць ні слова. Толькі сёння ў сталовай выпадкова пачуў, што быццам бы ў «Советской Украине» быў надрукаваны «цікавы артыкул вядомага беларускага пісьменніка аб жыцці ў акупіраваных раёнах». Думаю зайсці ў рэдакцыю і прагледзець архіў. Хто гэта мог бы напісаць на гэту тэму?

**25.XII.** Шчасце чалавека складаецца з тысячы драбніц. І досыць бывае дзвюх-трох гэтых драбніц, каб прынесці чалавеку кавалачак радасці. Два дні хадзіў арганізоўваць матэрыял — і ўсё няўдачна. Мне здалося, што, калі я вяртаюся з гэтых паходаў у рэдакцыю, усе глядзяць на мяне і... гатовы рассмяяцца. Цэлы рад яшчэ падобных

драбніц нагналі на мяне благі настрой. Але вось сёння рэдактар звярнуўся да мяне з пытаннем, ці не хачу я заказаць шапку зімовую і сінія штаны. Глупства! Але ў яго запытанні я пачуў клопаты і аба мне. І гэта мяне падбадзёрыла. А ў канцы дня ў давяршэнне радасці атрымаў з Уральска тэлеграму: «Крапива Тамбове... разыскивает тебя телеграфируй возможность приезда Уральск подробности письмом дирекции Крапивиха»[1]. Тэлеграма не зусім зразумелая, але яна прынесла мне сапраўдную радасць... Не ведаю таксама, навошта я ва Уральску... Зрэшты, усё гэта не так важна. Важна тое, што я ведаю, дзе хлопцы, а яны даведаюцца, дзе я. Заўтра пашлю тэлеграму.

**26.XII.** У Тамбоў тэлеграфіраваў: «Поздравляю новым годом побед жду писем Саратове Доме Красной Армии редакции газеты «Красноармеец»... Крапівіхе ва Уральск тэлеграфіраваў, што высылаю ліст. Адным словам, сувязі ўстанавіў.

**29.XII.** Памыўся, іду дзяжурыць у друкарню. Пачаў верш пра Новы год. Можа, там закончу. За 47 рублёў атрымаў вушанку — цёпла, як у добрай хаце.

**31.XII.** Мінуў апошні дзень 1941 года. Цэлы дзень бегаў і арганізоўваў выказванні ў сувязі з Новым годам. Быў у шпіталі № 360 у раненага і ўзнагароджанага ордэнам Леніна палкоўніка кавалерыі Канстанціна Сяргеевіча Мядокса. Арыгінальны чалавек — вялікія русыя вусы, благародны твар, сінія ласкавыя вочы... І вось гэты «холены барын» на выгляд — адчаянны рубака. На целе ў яго дзевяць ран. Дзесяты асколак прабіў срэбны партсігар і толькі абадраў крышку скуру. Я з прыемнасцю пагутарыў з ім паўгадзіны. Шпіталь — велізарны, аднак заняты не толькі палаты, але і калідоры. Хацеў яшчэ сустрэцца з адным гвардзейцам, ды кароткі быў час. Прыбег у рэдакцыю ў чатыры гадзіны, спешна апрацаваў заметкі, паабедаў, і вось... трэба сустракаць ужо і Новы год, а я нават не голены. Ліха з ім! Абыдзецца і так. Тым больш што ў мяне ёсць чым іншым адзначыць сустрэчу Новага года: за 115 рублёў атрымаў з ваенгандлю сінія галіфэ з чырвонымі кантамі і зараз жа іх тут у рэдакцыі і адзеў, скінуўшы свае старыя і зашмальцаваныя порткі. Далоў усё гнілое і нетрывалае! Няхай жыве новае і моцнае, як моцная наша

---

[1] Крапівіха — Алена Канстанцінаўна — жонка Кандрата Крапівы.

воля і наш дух. А гэтыя якасці дзівяць не толькі чужаземцаў, а і маіх аднакраінцаў. I сапраўды — дзівіцца ёсць чаму! Толькі што паведамілі па радыё, што нашы занялі Калугу. Пры гэтым, гавораць, разбіты чатыры пяхотныя карпусы, адна танкавая дывізія, адна мота, дзве брыгады «СС». Вось гэта слаўны навагодні падаруначак! На гэты раз Гударыяна (а гэта ўсё яго часці) пабілі яшчэ спрытней, чым пад Бранскам і Тулай. Поспехі на самым пярэдадні Новага года даюць падставы спадзявацца, што 1942 год будзе апошнім годам фашысцкіх злачынстваў, годам пагібелі гітлераўцаў і годам канчатковай перамогі Чырвонай Арміі. Я разумею, што Керч і Феадосія, занятыя намі пазаўчора, Калуга, занятая сёння, Сухінічы ці Арол, якія будуць заняты заўтра,— яшчэ не вырашаюць пытанняў вайны і перамогі ў бліжэйшы час. Лёс у вайне часта мяняецца. Можа здарыцца, што немцы збяруць новыя сілы і не толькі стрымаюць наш націск, але пяройдуць у контрнаступленне і зоймуць рад пунктаў ізноў. Але я ўжо цвёрда ўпэўнены, што наша армія набыла наступальны дух і яго нічым не зламаць. Перамога канчатковая будзе наша. З гэтай непахіснай верай я і сустракаю Новы, 1942 год.

# МАЯ АНКЕТА

«Мая анкета» — не мемуары. У мемуарах я павінен даць вобраз сваёй эпохі і сучаснікаў. Я не важуся гэта зрабіць, бо не маю матэрыялаў. І гэта нават не ўспаміны, бо дзённіка я не пісаў. Гэта весткі пра сябе. Весткі звычайныя для анкет. Розніца, што ў «маёй» анкеце я гэтыя весткі не толькі падаю, а і каменціру́ю, выказваю свае погляды на рэчы, пра якія ў анкетах звычайных не абавязкова гаварыць. Ізноў-такі — гэта аба мне. І калі ў іх і адлюстроўваецца пэўным чынам сучаснае мне грамадства, дык толькі ў той меры, у якой я сам прадукт гэтага грамадства...

Расказы Коласа — гэта тонкая праўда, нават анекдоты ці анекдатычныя выпадкі ў яго гучаць як праўда.

Купала не расказваў зусім.

Чорны сачыняў расказ на падставе рысы характару, Лужанін — перадаваў факты, счэпліваючы іх па-свойму. Яго выдумка — як нешта, што было сапраўды... Прыбаўляе да праўды толькі адну рысу, і становіцца цікавым жартам... Гэта было і ў студэнцкія гады. Тады я не думаў, што ён будзе гумарыстам у «Вожыку». Але даволі расказваць выдумкі Лужаніна, бо што ён сам будзе пісаць у сваіх успамінах.

Мы ўсе трохі выдумляем ва ўспамінах. Глядзім на былое з сягонняшняга. Вось чаму я выбраў анкету — тут факты, дакумент...

П. Трус — зусім не ўмеў «выдумваць» расказаў. Ён затое ўмеў ацаніць «выдумку» і смяяцца па-сапраўднаму. Трус расказваў тое, што было — выгнанне ў абоз, хвароба дызентэрыяй... Яго «выдумкі» пра Ціта — гэта спраўдныя літаратурныя выдумкі — народны лубок пра Ціта, напрыклад...

Гэта была самая звычайная раніца. Свяціла сонца і г. д. (апісанне добрай беларускай раніцы)... І мне зноў прынеслі анкету...

І мне прыйшла думка расшыфраваць яе — што тоіцца за кожным пунктам. Тут могуць быць выкрыцці-разаблачэнні. Нічога не зробіш — трэба адзін раз у жыцці зрабіць гэта. Адбіткі пальцаў, пячаткі, подпісы і г. д. А што такое адбіткі пальцаў — працавітых, з мазалямі, з моцнымі пупішкамі, у якіх разоры цэлыя... Усё гэта трэба апісаць...

Так я думаў, калі ехаў з Броўкам у Маскву на канферэнцыю абароны міру...

Мне часта задавалі пытанні — чаму я ў апошнія гады не пішу вершаў.

Я, жартуючы, адказваў: таму, што калі пісаць па сучасных (мадэрнісцкіх) правілах — гэта не будуць вершы. А пісаць, як я пісаў,— гэтага ніхто не хоча прызнаць за вершы.

Я падумаў, падумаў і вырашыў напісаць прозаю гэтую кніжку.

**Прозвішча...**

Імя — Пётр — камень,— але я не камень, наадварот, нават мяккацелы... У дзяцінстве я звязваў Пётр з «спятрэць» і думаў, чаму не кажуць «сцімошыць» або «аб'ілваніць», як і «абалваліць»...

**Маленства...**

Выган на раніцу. Маці абяцае: «Удзень паспіш». І сам думаеш паспаць. А прыгоніш — і на рэчку...

Карову забіраюць за падаткі. І што цікава — ідзе не ўпіраючыся, пакорна, толькі зрэдку жаласліва рыкае. А ніколі ж не хадзіла на повадзе...

Маё дзяцінства — аборы ў ёлачку, віццё звычайнае — справа налева, а пры ёлачцы — і наадварот (па гадзіннiку, супраць сонца). Чаму справа налева пры звычайным

віцці? Відаць, таму што правая рука мацнейшая. (А чаму яна мацнейшая — гл. Энцыклапедыю «левша».)

Расказы пра нашэсце французаў і шведаў... Рускі патрыятызм беларусаў, які так ярка праявіўся ў 1812 г. і пра які не гавораць нашы гісторыкі, калі пішуць аб уз'яднанні Беларусі з Расіяй у канцы XVIII ст.

**Пол...**

Мужчынскі. Не ўмею гатаваць, нават кашы не звару. Але сцвярджаць на гэтай падставе, што ты — мужчына, рызыкоўна. П'ю гарэлку... Насіў у вайну вусы. Баюся сваёй жонкі — гэта ўжо важкі доказ мужчынскасці. Куру, галюся цераз дзень, а то і кожны.

**Год, месяц, дзень нараджэння...**

Добра таму, хто народзіцца... 30 лютага: дзень нараджэння ніколі не давядзецца спраўляць, ні пяцідзесяцігадовых, ні шасцідзесяцігадовых юбілеяў... Я нарадзіўся 6 ліпеня. Нават 24/VI... А святых Пятроў — маса!

Час нараджэння — перад Пятром...

Рымскія святыя — апекуны прафесій. Многія святыя аказаліся банкрутамі. Але мой патрон Пётра апраўдаў сваё прызванне — ён застаўся цвёрды, што камень. Праўда, прысвечаны яму дзень ён падзяліў з Паўлам.

І ў маленстве дзялілі з дзядзькам Паўлам — усё яму, а мне нічога. І ў сталыя гады слава прыпадала Броўку (нас блыталі), нават Кандрату... Затое ў цешчы я вымагаў дваццаць восем імянін у год. Я не бражнік, але гэта рыса маёй самахарактарыстыкі...

Дата майго нараджэння — 1905 г.— рэвалюцыя, выступленне Я. Купалы ў друку з вершам «Мужык».

Мне здаецца, што я не такі ўжо стары, а можа, малады (нават стоячы поруч з Бураўкіным). Але я вось гляджу на «Вожык» — 25-ты год выдання, на «Беларусь» — 22-гі год выдання, на «Полымя» — 43-ці год выдання. А яны ж нарадзіліся ўсе пры мне! Ні Бураўкіна, ні Стральцова яшчэ не было, бадай, і на свеце! Значыць, я сапраўды стары!

Маладосць адчувае гісторыю больш выразна, чым старасць. Для мяне ўсё, што было пасля 1905 г.,— гэта мая сучаснасць з усімі яе дробязямі, а для чалавека 1945 г. нараджэння — гэта сапраўды гісторыя, ачышчаная ад дробязей і вырашаная ў дакладных законах сацыяльнага працэсу. Падобнае ўспрыманне гісторыі характэрна не толь-

кі для асобнага чалавека, а і для цэлых грамадстваў і класаў: новае сацыялістычнае грамадства кіруецца гістарычнымі законамі, а буржуазнае — уражаннямі свайго маленства і маладосці.

**Месца нараджэння...**

Кажуць, на полі ў час жніва. Можа, адгэтуль — любоў да паэзіі.

Славуты абаронца плоўдзіўскага «Лакаматыва» Тодар Паунаў нарадзіўся 7/X 1942 г. на стадыёне. Бацька яго Стэфан Паунаў, у мінулым футбаліст, а цяпер трэнер — так расказвае пра гэта:

«Мы гулялі на старым стадыёне «Лакаматыў» са «Славіяй» на першынство краіны. Я прасіў жонку не прыходзіць — ёй ужо надышоў час раджаць. Але яна ўсё ж прыйшла. На лаўцы ёй стала блага, машына «хуткай дапамогі» затрымалася, і... Тоша з'явіўся на свет».

**Мая мясцовасць, яе клімат...**

Апошні мяняецца. Можа стацца, што патомкі і ўяўлення не будуць мець аб клімаце гэтай мясцовасці пры мне. А патомкі павінны гэта ведаць — не як я жыў, а людзі, што стваралі ім будучыню...

Рака Вуса... Колькі на ёй нарадзілася добрых людзей (падлічыць, ці не на ёй нарадзіўся і Дзяржынскі?).

Наша мясцовасць была святлянай — Дзяржынскі і іншыя не маглі нарадзіцца ў гэтых месцах, калі б яны былі захалуснымі.

Беларуская зямля... Яна радзіма Скарыны, Касцюшкі, Міцкевіча, Каліноўскага, Багушэвіча, Дзяржынскага і г. д.— людзей таленавітых ва ўсіх галінах навукі і мастацтва і людзей усіх нацыянальнасцей — беларусаў, палякаў, рускіх...

**Мой бацька...**

Калі я прачытаў Кала Бруньёна — мне паказаўся мой бацька, балагур, весяльчак (у час «вясёлы» — калі падвыпіўшы) і майстар. Бацька любіў прыгожыя рэчы, і я вучыўся майстэрству не ў літаратуры, а на тым, як бацька рабіў разважкі...

У царкоўнапрыходскай школе я быў «памочнікам» настаўніцы і карыстаўся з сваёй пасады...

**Мінск...**

Які ён быў, як я прыехаў да яго, сёння можна бачыць толькі на малюнках (гравюрах) А. Тычыны...

Першыя крокі ў літаратуры, захапленне Ясеніным... (Можа быць таму, што нам, вясковым хлопцам, ясенінская прырода была вельмі блізкай. Я помню паэзію вечара ў «Соках цаліны», калі ідуць авечкі з поля, узнімаючы пыл, дагэтуль... А «Сокаў...» у цэлым чытаць ужо не магу. Маякоўскі сваёй паэзіяй быў для мяне далейшы.)

**Хатні адрас.**

На гэтае пытанне ў розныя гады я адказваў па-рознаму — у залежнасці ад месца, дзе я пражываў...

У дваццатыя — трыццатыя гады такімі месцамі для паэтаў і студэнтаў былі Р. Люксембург, Красівая, Старамяшчанская... Як у Парыжы Лацінскі квартал. Ніхто ардэроў не даваў. Хоць жылі далекавата, а збіраліся часта.

Цяпер жывём у адным доме, а не бачымся па году...

**Аб маёй генеалогіі.**

Баюся, што, калі пачну яе ўстанаўляць, знойдзецца не меншая куча «спадкаберцаў», як у таго Жана-П'ера Мале.

**Сямейнае становішча...**

Звычайна кажуць: у мяне (у яго) жахлівае сямейнае становішча, страшнае і г. д. І ніколі я не чуў: шчаслівае ў мяне сямейнае становішча.

Я заўсёды адказваў: сямейны! Тым самым вызначалася і маё сямейнае становішча: усе думалі, што яно таксама жахлівае. А сапраўды, я быў шчаслівы. Пазнаёміўся з гэтым шчасцем у 1927 г., сустрэўшы Н. Б.

**Мая жонка і жонкі іншых пісьменнікаў.**

Аб ролі жонак у жыцці творчых людзей. Чэхаўская жонка (паэта, артыста) з нейкага апавядання — засынае на яго творах.

Петраркаўскі вобраз... Марыя Верашчака ў жыцці Міцкевіча...

**Рост...**

Я недзе чытаў, што міжнародная метэаралагічная арганізацыя, абагуліўшы вынікі шматлікіх навуковых эксперыментаў, прыйшла да вывадаў, што «самыя буйныя (крупныя) дзеці нараджаюцца ў чэрвені і ліпені». Я на-

радзіўся і ў чэрвені (паводле старога стылю), і ў ліпені (паводле новага) і таму павінен быў бы быць асабліва буйным. Не ведаю, які я быў пры нараджэнні, бо на полі, дзе маці нарадзіла, вагі не было. У дзяцінстве ж я быў лядашчым. Ды і цяпер не вялікі, а сярэдняга росту — 170 сантыметраў. Відаць, у тыя часы навуковыя вывады міжнароднай метэарганізацыі яшчэ не дзейнічалі.

У Польшчы адбываюцца сустрэчы людзей высокага росту. На вроцлаўскай сустрэчы 1968 г. было прынята рашэнне арганізаваць «Клуб веліканаў». У задачы клуба ўваходзяць клопаты аб забеспячэнні членаў яго адпаведнымі памерамі адзення і абутку. Рост цяперашняга старшыні клуба — 226 сантыметраў. У параўнанні з ім я маленькі...

**Колер вачэй.**

Не аб колеры трэба б пытаць, а пра іх чыстату, светласць, здольнасць бачыць праўду... У мяне маленькія вочы. Але не сляпыя. А бываюць вялікія і сляпыя.

Вочы ў Якуба і Янкі, у іншых маіх сяброў...

**Іншыя прыкметы.**

Сярод іншых: зайздросны (зайздрошчу добрай кнізе, людзям, якія маюць магчымасць шмат чытаць і інш.), «гультаяваты» і іншыя рысы, адным словам, самахарактарыстыка...

**Прафесія.**

Ідэі міру паміж народамі зарадзіліся разам з бальшавікамі. Да іх ніхто не смеў сказаць слова супраць вайны на працягу стагоддзяў, каб не стаць «здраднікам». Слова «мір» у яго народным значэнні першы вымавіў Ленін. І яно пайшло па свеце, шырачыся, як хваля, і шукаючы сваёй перамогі.

У Іспаніі загінулі: Лукач, Федэрыка Гарсія Лорка, англійскі пісьменнік Ральф Фокс... А ў гэту вайну — дзесяткі!.. Дошка з імёнамі загінуўшых у Маскоўскім Доме літаратараў.

Супраць вайны, за свабоду, за праўду змагаліся Пушкін, Байран, Авідзій...

Пісьменнік — змагар за мір. (Гэта ў адказ на пытанне — прафесія? — пісьменнік... Ленінскае «літаратар».)

**Мая спецыяльнасць — паэзія.**

Розныя погляды на паэзію і прызначэнне паэта... Можна сказаць, што я жыў у эпоху вялікіх творцаў (Купала, Колас і інш.), хоць быў самым маленькім сярод іх.

**Я, мой характар...**

Нельга сказаць, каб я не разбіраўся ў людзях. Але мне заўсёды хацелася думаць аб іх лепш, чым асобныя з іх таго заслугоўвалі. Мне часта было сорамна за іх, і я рабіў выгляд, што не бачу іх гадасцей. Відаць, гэтыя гадасці былі ва мне самім, і я саромеўся за сябе, калі саромеўся за іх. І тут суцяшэннем у такіх маіх паводзінах былі словы Гётэ, якія я, праўда, прачытаў толькі нядаўна.

«Обращаясь с ближними так, как они того заслуживают, мы делаем их только хуже. Обращаясь же с ними так, как будто они лучше того, что они представляют в действительности, мы заставляем их становиться лучше».

Гнілая філасофія гуманізму! Але яна апраўдвае мае ўчынкі. Чалавек — друг — гэта маё шчасце; чалавек — вораг — гэта мая нядоля (няшчасце). У такім разе, чаму я павінен абмяжоўваць маё шчасце толькі бацькамі, жонкай, дзецьмі? Маімі роднымі і блізкімі? Чаму я не павінен яго шукаць на шырокім полі жыцця, калі шчасце — гэта бязмежнае мора?

Кажуць, што я добры па натуры. Дапусцім, што гэта так. Але натура мая выхоўвалася ў (маім) жыцці... І калі я сапраўды добры, дык я выхаваны так пры Савецкай уладзе.

**Мае прывычкі...**

Люблю спаць на мяккім.

На марскім маяку ў Розеве (Польшча) натоўпы наведвальнікаў, аглядаючы ложак, на якім тут калісьці спаў Ст. Жэромскі, цішком выносяць «на ўспамін» аб пісьменніку саломкі з матраца. Наглядчыку маяка даводзіцца набіваць нанова матрац сенам у сярэднім каля дзесяці разоў на год...

Я, відаць, належу да тых, чые матрацы заўсёды будуць цэлыя...

У нас большасць называлі па жанчынах: Алютчыкавы, Марынчыкавы, а па мужчынах — Якубчыкавы, Юрчыкавы, Антонавы... Мы належалі да старэйшага радавітага

роду — да матрыярхату, а гэтыя, мужчынскія назвы-мянушкі,— скараспелкі, нядаўнія...

Мы са Сцяпанам Глебкам (Марынчыкавым) бралі ад дзяўчат цукар. Цяпер бы гэта назвалі хабарам. А тады не называлі, бо мы бралі цукар, а ён карысны для развіцця розуму. І мы былі тады сапраўды разумнымі — першымі ды лепшымі вучнямі. Пасля я страціў смак да цукру і да ўсяго салодкага. Калі я аднойчы прызнаўся аб гэтым Я. Коласу і папрасіў у яго растлумачыць прычыну маёй неахвоты да цукру, ён разважліва сказаў: «Відаць, таму не любіш салодкага, што табе больш даспадобы горкае...»

Тут я запярэчыць не мог. Але страта смаку да цукру пазбавіла мяне і розуму.

І часта мне сябры кажуць: тут трошкі ў цябе розуму не хапіла. А жонка, дык тая ідзе яшчэ далей (а калісьці, як я еў цукар, я не здаўся ёй такім); яна мне гаворыць: «Бесталковы ты чалавек». А калі я пытаю, што такое «бесталковы», яна без таго змякчэння, якое бывае ў сяброў, катэгарычна заяўляе: «Розуму не маеш!»

**Што чыталі?**

Ёсць кнігі, як баявыя салдаты: з узнагародамі (адзнакамі розных бібліятэк), нумарамі, ранамі (пашарпаныя лісты і інш.). І ёсць чысценькія, як чыны тылавой службы, з холенымі барадамі і інш. Успомніць, як я сустрэў аднаго такога на Калінінскім і... казырнуў (па барадзе — ён быў падобны да генерала, а ў сапраўднасці — малодшы лейтэнант).

Развіць гэтае параўнанне кнігі з салдатам — кнігі-разведчыкі, кнігі-знішчальніцы, кнігі-крэпасці і г. д.

Кніга можа доўга жыць толькі тады, калі думы яе аўтара ўзышлі на глебе сучаснасці, а плады іх прызначаны для нашчадкаў. (Разуменне гэтага да мяне прыйшло позна.)

**Кніга, друк...** Роля ў гэтым газетна-часопісных манапалістаў накшталт нямецкага Акселя Шпрынгера.

Кніга ў маім жыцці...

**Нацыянальнасць і агульначалавечае...**

Цудоўна сказана пра гэта ў Бялінскага. Дзіўна, што ніхто, наколькі мне вядома, не звярнуў на гэта ўвагі. Сапраўды, у савецкай літаратуры агульначалавечым, перш за ўсё, з'яўляецца не тое старое, што складае яго нормы,

а тое новае, што яна (літаратура) уносіць: Кастрычніцкую рэвалюцыю, напрыклад, і ўсё народжанае ёю...

Уносіць свой нацыянальны ўклад у агульначалавечую скарбніцу — не значыць паўтараць «агульначалавечыя ідэі», якія ўжо існуюць, а ўносіць тое новае, што можа быць прынята чалавецтвам. Яно можа нарадзіцца толькі ў нацыянальным.

Нацыянальнае пытанне — самая складаная сацыяльная праблема сучаснасці, нават у сацыялістычных дзяржавах...

Усім вядома і ўсё вядома: кіпчакоў змянілі кіргізы, полаўцаў — іншыя і г. д. (гл. Этнаграфію). А пра нас ніхто не скажа — адкуль і куды мы прыйшлі. Мы жылі тут вечна...

У верасні — кастрычніку (1968 г.) праходзілі дні абласцей у Мінску — Брэсцкай, Віцебскай... Заключны канцэрт выклікаў у мяне слёзы — колькі фарбаў, колераў, тэмпераменту... Колькі талентаў! І ўсё — беларускае... І было б злачынствам уніфікаваць гэтыя нацыянальныя бліскучыя колеры народаў СССР, а затым — і іншых краін у будучым...

**Любоў і нянавісць.**

Як салдату даюць зброю, каб сродкамі смерці бараніць жыццё, так мне дадзена нянавісць, каб аберагчы любоў. Не мая віна, што на свеце існуюць поруч жыццё і смерць, любоў і нянавісць. Але мой абавязак заўсёды, калі пагражаюць любові, вастрыць маю нянавісць... На свеце няма нічога абсалютнага... Справядлівасць ёсць толькі адна — гістарычная справядлівасць... У імя жыцця і любові яна не можа адмовіцца ад нянавісці і кары (смерці).

Дапусцім, я дарую ворагу... Але ці даруе ён сваім супрацоўнікам, сваім ворагам? Калі ён не даруе ім, значыць, не ён, а я буду іх забойцам. Які ж тут зрабіць выбар? Адзіны — выбар гістарычнай справядлівасці.

Такі вывад павінен зрабіць сапраўдны гуманізм...

**Лірыкі і фізікі...**

Чым больш будзе развівацца навука і тэхніка, тым больш чалавек будзе не аддаляцца ад прыроды, а зближацца з ёю. Цяпер, напрыклад, прасторамі гарадскіх вуліц і плошчаў усё больш і больш завалодваюць камень, асфальт... і машыны. Але надыдзе час, калі машыны (у пер-

шую чаргу транспарт) людзі выселяць у падземныя і падземныя прасторы, а самі цалкам завалодаюць зямной паверхняй горада. Гарадскія вуліцы і плошчы стануць суцэльнымі паркамі, садамі, газонамі, і толькі, можа, вузкія дарожкі для пешаходаў будуць адзеты ў камень і жалеза, а жывая прырода, і, зразумела, яна, зноў стане, як і была, адным з першаразрадных прадметаў лірыкі.

**Паэты.**

У паэта (у адрозненне ад празаіка) павінна быць толькі адна запісная кніжка — яго душа: што ўрэзалася ў яе назаўсёды, толькі тое і павінна ўвайсці ў твор (верш).

Я часта ўздыхаю, чаму не падобны паэты на кветкаводаў, якія рады падзяліцца любым насеннем. А паэты? Наадварот. Відаць, прафесія накладвае адбітак на характар...

Цяжка паэту, калі апынецца ў ролі англійскага прапаведніка — ён гаворыць, а ніхто яго не слухае.

Жоўтая кофта Маякоўскага, як і мужчынскі гарнітур Жорж Санд, сродкі рэкламы... А лепш, напэўна, мець прапагандыста свайго таленту,— аб чым пісаў Фурманаў.

Сярэдневяковыя і пазнейшыя загалоўкі кніг як пэўны від самарэкламы аўтара.

**Паэзія.**

Самае страшнае, што я бачыў за сваё жыццё на свеце, гэта веліч талентаў, загубленых не для паэзіі, а для слоўнай эквілібрыстыкі ў бязмежнай пустэчы сэрца і розуму.

«З цэлым народам гутарку весці...» — вось задача і мэта кожнага пісьменніка і мастака, толькі на гэтым шляху і павінны весціся пошукі, наватарства, авангард...

Паэтычным культам Купалы было Сонца. Я выбраў сабе, не падазраючы таго, культ сэрца... Сонца аднолькава свеціць над светам. А сэрца?.. На жаль, на свеце сэрцы бываюць і добрыя і злыя. І я часта марна гукаў тое ці іншае сэрца — яно не адгукалася...

Мая паэзія ў многім глухая (і нямая). А сонца заўсёды прыносіць цяпло і выклікае радасць і ўсмешку.

Усе планеты нашай Галактыкі круцяцца навакол Сонца. Усе яны блішчаць аднолькавым святлом — хто ўласным, а хто адлюстраваным (чужым).

Паэты — дзеці Зямлі. Усе яны здаюцца аднолькавымі, як планеты. Але не аднолькава свецяць...

Паэзія набыла і набывае з кожным днём усё шырэйшае гучанне. Той, хто сцвярджае адваротнае, проста не ўмее лічыць. Сапраўды, калі дапусціць, што Саюз пісьменнікаў Беларусі праводзіў 360 выступленняў, на якіх прысутнічала па 200 чалавек, дык акажацца, што літаратурнымі вечарамі ахоплена было 72 000 чалавек. А па тэлебачанні за адзін сэанс можна ахапіць... Не будуць глядзець? Прымусіць! Пускаць літаратурныя выступленні паміж часткамі кінафільмаў... А тыражы кніг могуць быць невялікія — 2000 экземпляраў. Усё роўна кнігі цяпер ляжаць на паліцах без чытання...

Чытаць (шырокаму кругу) авангардыста гэтак жа небяспечна, як лячыцца ў доктара-эксперыментатара — добрае дзеянне іх сродкаў на пацыента яшчэ не ўстаноўлена.

**Тэхніка і паэзія.**
Галоўны парадокс нашага веку: пры такім велізарным развіцці дакладных навук наш свет запоўнены больш як які-небудзь іншы нечуваным фантазёрствам (накшталт фантазій аб робатах, якія будуць самі пладзіць робатаў, аб стварэнні ў колбе чалавека, аб генетыках, якія будуць канструіраваць чалавека, як архітэктары, і г. д.).

Машыну можна навучыць не толькі працаваць, а і есці. Але для чаго ёй яда?

Яе можна навучыць пісаць і вершы. Але навошта ёй вершы, калі яна, прачытаўшы іх, не задрыжыць сваім сэрцам, не рынецца стрымгалоў за сваёй каханай, апетай у гэтых вершах.

Амерыканскі прафесар Джозеф Вуд Крутч дасціпна заўважыў: «Калі машына пачне не толькі задаваць пытанні і даваць адказы, але і спрачацца з другой машынай на тэму, ці машыны яны, ці жывыя істоты (злуючыся і абураючыся пры гэтым),— толькі тады людзі здаровага розуму будуць мець права дапусціць, што з правадоў, лямпаў і транзістараў можна стварыць хаця б далёкае падабенства мозгу».

**Шахматы і паэзія.**

На шасцідзесяці чатырох клетках шахматнай дошкі з трыццаццю дзвюма шахматнымі фігурамі можа быць колькасць камбінацый з дзесяткамі нулёў... І ўсё ж палі дошкі абмежаваны і колькасць фігур абмежавана. А колькі ж можа быць камбінацый у паэзіі, дзе тры міліярды людзей-творцаў (фігур) і сотні тысяч слоў (ды яшчэ і ў розных мовах — г. зн. не квадрат, а куб!). Тут камбінацыі бязмежныя, як сусвет. І не трэба баяцца ў паэзіі пачаткаў індыйскай партыі ці гамбіта двух канёў. Трэба баяцца абстракцыйных пошукаў. Іменна баязліўцы кідаюцца ў пошукі розных мадэрнаў.

**Паэзія і... футбол.**

Бразільскі футбаліст Пеле застрахаваў свае ногі на 60 тысяч даляраў. А чаму не чуваць, каб страхавалі сэрца паэта? Любы рэцэнзент у любую хвіліну можа ўдарыць па ім самым недазволеным спосабам, і — нічога, ніхто страхоўкі не плаціць...

**Паэзія і навука...**

У будучым рэгуліроўшчыкам будзе старшына міліцыі з вышэйшай асветай, які павінен будзе кіраваць рухам «сістэмай тэле-аўтаматычнага рэгулявання: «чорныя работы» (падмятанне вуліц і г. д.) знікнуць.

**Мастацтва.**

Мастацтву даступна і дазволена ўсё — і драматызм, і слязлівасць, і смутак, і радасць, нават паказ хітрасці.

Недазволена і супрацьпаказана мастацтву толькі сама хітрасць, то-бок хітрасць яго твораў, у чым бы яна ні выражалася — ці ў мудрагелістай форме, ці ў хітрай палітыцы (палітыканства) аўтара. Можна даравать наіўнасць, агітку, памылкі, заблуджэнні, прастадушнасць, калі яны шчырыя, але нельга дараваць хітрасць.

Талстой у сваіх павучаннях хітрыў, таму яны не мастацкія.

Што ж такое паэзія? Я ніколі, у адрозненне ад іншых, не пісаў пра гэта вершаў. Але маё разуменне трэба даць, бо іначай што ж будуць цытаваць крытыкі. І такі верш трэба мне напісаць.

Я не лічу такую хітрасць, якая відаць наскрозь, бо гэта прастадушша, а яно паэзіі не супрацьпаказана.

**«Сучаснае» (мадэрнісцкае) мастацтва.**

У час сустрэчы мастакоў у Дэмбіцы (Жэшуўскае ваяводства) адзін з удзельнікаў стварыў прасторавую кампазіцыю з металалому і труб. За яго творчасцю наглядалі мясцовыя рабочыя. Праз некалькі дзён поруч з першай кампазіцыяй з'явілася другая, якую зрабілі рабочыя ў тым жа стылі...

**Эстэтыка.**

Мастак — яго талент і свядомасць, ідэалогія і псіхалогія, іх узаемаадносіны.

«Псіхалагічны ўклад» класа — гэта сукупнасць тыповых для асноўнай масы класа грамадскіх настрояў і ўяўленняў, жыццёвых норм і імкненняў, якія непасрэдна адлюстроўваюць аб'ектыўныя ўмовы жыцця класа і вызначаюць іх (рабочых.— *П. Г.*) грамадскія паводзіны, ступень іх актыўнасці ў класавай барацьбе. Псіхалогія адрозніваецца... ад ідэалогіі тым, што ў ёй адносна большую ролю іграюць стыхійныя, эмацыянальныя рэакцыі мас на грамадскую рэчаіснасць. Ідэалогія ж асэнсоўвае патрэбнасці і інтарэсы класа тэарэтычна, у выглядзе пэўнай сістэмы поглядаў, разумення грамадскага развіцця, тэарэтычна абгрунтаванай праграмы практычных дзеянняў мас».

Не значыць, аднак, што свядомасць мас носіць чыста «псіхалагічны», «дэідэалагізаваны» характар. Тут дыялектычнае адзінства.

Вобразна: ствол (ідэалогія) і крона (псіхалогія) дрэва. Вецце больш паддаецца ветру.

**Літаратура, мастацтва** — фізіка, матэматыка... (Дубоўкаўскі лірык і матэматык.)

Помнікі чалавечай творчасці падзяляюцца на дзве катэгорыі. Адны прыносяць нам асалоду і сёння (творы вялікага мастацтва — ад першабытнага мастацтва?). Другія мы аглядаем і прымяраем работу папярэднікаў да нашай (драўляны тратуар на Мінскім замчышчы і сённяшні асфальт). Ці не ў гэтым яшчэ адна розніца паміж мастацтвам і тэхнікай (лірыкай і фізікай)?

Практыка пісьменнікаў майго пакалення — пісаць з працягамі, калі рэч не гатова (а гэта дапускаў і Чорны, і нават Колас), не давала магчымасці ахапіць усю карціну, параджала спешку. А я помню, што гэта было ў час майго сакратарства і ва «Узвышшы», і ў «Полымі».

**Ваш літаратурны жанр?**

Мірны — паэзія. Хаця ў літаратуры ідзе ідэалагічная барацьба, яна ніколі не пераходзіла ў крывавую. А вось спорт лічыцца барацьбой, накіраванай на ўмацаванне дружбы між народамі, а выклікае крывавыя сутычкі. Як, напрыклад, сутыкненне (узброенае) паміж Гандурасам і Сальвадорам на глебе футбола.

**Літаратурнае жыццё дваццатых — трыццатых гадоў...**

Літаратурнае жыццё паловы дваццатых гадоў было вельмі бурнае (не паспеў «Маладняк» скласціся, як праз два-тры гады распаўся — утварыліся «Узвышша», «Пробліск», «Камуна», «Полымя» і інш.— а цяпер у нас праз 4—5 гадоў не могуць сабраць з'езда чарговага Саюза пісьменнікаў.) У гэтым сэнсе выразнымі этапамі былі пленум ЦК «Маладняка», Акадэмічная канферэнцыя па правапісу і інш. (Гл. матэрыялы гэтых сходаў.) Дыскусіі. Разуменне гісторыі беларускай літаратуры. Барацьба супраць традыцыйных ацэнак Дуніна, Чачота, Багушэвіча і інш. Гэтыя традыцыі не пераадолены і цяпер. Сапраўды — ці быў сентыменталізм, рамантызм і інш. у беларускай літаратуры? Па-мойму, Чачот, асабліва Дунін — рамантыкі: ідуць ад Міцкевіча, але калі той высмейвае шляхотнасць «Пана Тадэвуша», Дунін піша ўсур'ёз. Тады не ведалі, што Дунін быў звязаны з рухам 1863 г. Таму трэба ўсё пераглядзець у святле новых матэрыялаў. Цікавая пазіцыя Чаржынскага і інш. (Гл. палеміку ў «Працах Акадэмічнай канферэнцыі па правапісу», пытанні Дубоўкі, Пушчы і іншых.)

Аб аптымізме беларускай літаратуры думка Чаржынскага вельмі слушная,— што чорная паказвалася рэчаіснасць, а не настрой аўтараў чорны («Невясёлая старонка наша Беларусь...» і інш.).

Літаратурная барацьба тады была выразна класавай... Я ведаў, што за плячыма майго ідэйнага супрацiўніка стаіць пэўны клас. Іншая справа цяпер...

...Крыўдна не тое, што крытыкуюць, а тое, што ідуць не той дарогай... А можа, мы вельмі пастарэлі і не разумеем маладых? Хто яго ведае. Але нігілізм, як я гэта называю, ніколі не прыносіў карысці прагрэсу. І над гэтым і маладым і старым трэба задумацца.

Якія розныя пакаленні — мы і нашы сучаснікі. Ціка-

ва праверыць, аб чым думала маё пакаленне ў такія гады (у маладосці), і супаставіць з адказамі на анкету прадстаўнікоў пакалення пяцідзесятых гадоў.

**Мая праца з маладымі...**

Мала працаваў, на пісьмы не адказваў, не ведаў, што параіць...

Слухаючы ж Міколу Хведаровіча аб яго дапамозе маладым, думаеш, што ён мог бы, як і французскі пісьменнік Гіяцынт Табо дэ Латуш, сказаць пра сябе: «Я создал больше авторов, чем произведений».

**Крытыка...**

Яна часамі знаходзіць у творы тое, аб чым аўтар ніколі і не думаў. У такім разе паміж пісьменнікам і крытыкам ствараюцца адносіны, пра якія гаворыцца ў анекдоце пра Гегеля.

Адзін малады чалавек запытаўся аднойчы ў Гегеля:

— Што б вы зрабілі, калі б раптам ваш пакой на палавіну яго вышыні быў заліты вадой?

— Перш за ўсё я паклікаў бы кіраўніка мясцовай пошты,— адказаў Гегель.

— Чаму пошты? — здзівіўся дзяцюк.

— Залішне шмат хочаце ведаць, малады чалавек,— скептычна заўважыў філосаф.

У нас залішне шмат значэння надаюць ацэнцы твора крытыкай. Да яе трэба прыслухоўвацца, але не яна выносіць канчатковы прысуд, а народ. Кажуць, што эстэтычныя густы народа не развіты. Гэтаму пярэчыць народная творчасць, створаная на такім высокім узроўні. А тварыў яе калектыў. Суб'ектывізм у ацэнках — гэта спадчына індывідуалістычнага грамадства, калі культура была культурай пануючага класа. Цяпер усе пісьменныя, усе чытачы, усе крытыкі...

...І мы, смертныя, можам памыляцца ў ацэнках. Так і мяне — крытыка не балавала (рэцэнзія Дудара на «Шыпшыну», артыкул Шарахоўскага на «Арку над акіянам» і інш.).

«Людзі скупыя на этыкеткі. Прыкмеціўшы яе, яны вельмі неахвотна згаджаюцца яе перамяніць». Не помню, хто гэта сказаў. Але гэта праўда. Назваўшы мяне «рыта-

рычным», крытыкі дагэтуль не адмаўляюцца ад гэтага эпітэта. А я колькі пакутаваў, колькі праліў слёз...

Рыторыка — адзін з прыёмаў паэзіі...

Я пісаў свае творы з захапленнем, але паказваць сароме́ўся. І цяпер тое ж.

Тварэц павінен быць скромным. Бог, стварыўшы свет за шэсць дзён, не выхваляўся, а пайшоў адпачываць, бо тварэнне — праца не лёгкая. А паэты часта выхваляюцца сваімі творамі, як жанчыны сваёй красой. Дарэчы, аб жанчынах і іх красе.

Я дзесьці не так даўно чытаў, што адзін цэйлонскі міністр, дбаючы аб папаўненні казны, запрапанаваў устанавіць падатак на жаночую красу. Падатак павінны плаціць усе жанчыны, але дыферэнцыявана — у залежнасці ад таго, як высока ацэньвае сваю красу сама жанчына, чым вышэйшая гэта самаацэнка, тым большы падатак.

Чытаючы, я падумаў: а што, калі б такі парадак увесці для самаацэнак паэтаў. Як шмат паменшала б у нас геніяў. Кожны не толькі сам бы не пасмеў заявіць, што «я геній», але і ад пахвалы крытыкаў адмахваўся як мага: — Ды што вы! Які ж я геній? Я нават не талент. У мяне наогул няма ніякіх здольнасцей. Ды і вершаскладаннем я не валодаю. Паглядзіце самі, якія ж гэта вершы! Гэта ж не вершы, а лапці — ні рыфмы, ні рытму, не гаворачы ўжо пра сэнс або метафары, тым больш пра нейкую думку...

**Як я пішу...**

Ідэал — пушкінская і коласаўская прастата. У паэзіі вобразнасць дасягаецца не толькі метафарычнасцю, а і музыкай — як у музыцы. Слова мае гук, сэнс і пераноснасць...

Радасць — у самім гучанні ўжо мажор. А смутак — мінор, мяккасць. Спалучэнні — «ціхі смутак вачэй» — анапест, мяккасць у самім гучанні, а не толькі ў рытме і сэнсе. У той час як: «Ціхая радасць вачэй» — дактыль, узнёсласць... хоць эпітэт той жа. Альбо яшчэ: «Чорны смутак вачэй», добра «чорная радасць вачэй» — якая гэта розная музыка («белая печаль» — здаецца, у Метэрлінка?).

Калі пішацца — не думаецца. Выяўляецца пасля.

В. Катаеў дзесьці ўпамінае, што У. Маякоўскі казаў яму:

— Запомните, что у писателя на столе должно быть абсолютно пусто. Шурум-бурум к черту. Это отвлекает.

У К. Чорнага на стале заўсёды было чыста. Злева ляжала стопка паперы, густа спісаныя лісты. Пасярэдзіне чарніліца і ступка з ручкай і завостранымі карандашамі. Зрэдку — кніга, якую ён перад гэтым чытаў.

Я ніколі не прытрымліваўся такой метады. Я лічу, што творчасць — гэта захапленне, і пішу на любых кавалачках, любым стылом. Толькі пасля пачынаецца работа — перапісванне, рэдагаванне...

У пачатку літаратурнай дзейнасці мне хапала аркушыка паперы на чатыры вершы. Цяпер, каб напісаць страфу і «адшліфаваць» яе, як кажуць, мне патрэбна добрая стопка лістоў, а на верш — і паўкілаграма. А каб перапісаць яе, патрэбен час. Можа быць, гэта адна з прычын, чаму з'яўляюцца ў мяне рэдка вершы...

Некалі пісалі ў «Беларускай вёсцы» ды і ў другіх рэдакцыях на вузенькіх стужках паперы. Ад рукі здавалі ў набор. Былі і машыністкі, але мала. І вузкая стужка была своеасаблівым шыкам: на ёй пісалі журналісты, а не на лістах, як усе звычайныя людзі. Стужка была своеасаблівай, як здавалася, адзнакай прафесіянала.

Паперы было мала і не было за што купіць. Мала паперы і шмат натхнення. У Труса ўжо была папера... Ён перапісваў свае вершы прыгожым чытэльным почыркам па некалькі разоў...

Чым менш пішу, тым больш выдаткую паперы (па дзесяць раблю варыянтаў).

Праца толькі тады стамляе, калі яна нялюбая.

**Тэма Заходняй Беларусі ў маёй творчасці...**

...Тэма гэта выклікалася падзеямі ў Заходняй Беларусі (працэс Грамады, забойствы нашых прадстаўнікоў у Польшчы, паведамленні ў газетах аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі, «прыезд» і прыход у Савецкую Беларусь Таўлая, Жылкі, грамадаўцаў, Харужай і інш.).

**Ленін у маёй творчасці...**

У мяне Ленін толькі сімвал тых сіл, якія рухаюць натоўпы людзей. Самога Леніна мне паказаць не пад сілу.

**Вашы найбольш значныя творы?**

Тут патрэбна самакрытычна сказаць пра свае творы, а

больш пра погляды на гісторыю, літаратуру, асобных пісьменнікаў. У прыватнасці — пра Міцкевіча (Тадэвуш) і Марцінкевіча (сентыменталізм, «ідэалізацыя» паноў). У гэтым духу трэба б направіць і артыкул пра Міцкевіча.

**Мая пісьменніцкая папулярнасць...**

Не можа раўняцца з папулярнасцю Трумана Капатэ, якога скрозь пазнаюць і адводзяць найлепшыя столікі, як пішуць французскія газеты.

**Мае літаратурныя ўпадабанні...**

Я ў маладосці не разумеў і не любіў Шэкспіра, хоць саромеўся ў гэтым прызнацца. Відаць, метафарычнасць яго мовы была таму прычынай. Прачытаўшы Талстога пра Шэкспіра, я абрадаваўся: не адзін я так стаўлюся да Шэкспіра, але і Талстой. Аднак, учытваючыся ў Талстога, я заўважаў, што ва мне расце пратэст супраць талстоўскай трактоўкі. Гэта прычынілася да таго, што я ўсё больш мірыўся з Шэкспірам, хоць ён і не стаў маім улюбёным пісьменнікам. Праўда, Дорскі ды яшчэ сёй-той казалі мне, што я сам іду ад Шэкспіра. Пахвала не толькі не заслужаная, але і далёкая ад ісціны.

У кожнага свой густ... «На вкус и цвет товарища нет»,— кажуць рускія.

На мой густ, самае прыгожае — праўда, мая праўда, якая паводле маіх перакананняў з'яўляецца і праўдай майго народа. Ёй і толькі ёй я стараўся служыць сваім словам і сваёй справай...

**Граніца...**

З паездак я вынес заключэнне: граніцы праходзяць не паміж народамі, а паміж людзьмі — багатымі і беднымі, праўдзівымі і ашуканцамі...

І так скрозь — і ў Нью-Йорку, і ў Парыжы, і ў іншых капіталістычных краінах. І мне ўспомніўся надпіс на пагранічнай арцы, якую я праехаў упершыню: «Камунізм змяце ўсе граніцы».

За граніцу варта ездзіць хоць бы таму, што, пабываўшы на чужыне, мацней пачынаеш любіць сваю радзіму.

Я быў у ЗША ў палове нашага стагоддзя, на яго пераломе, у час далейшага росту манаполій; эскалацыі вайны

самых высокіх прыбыткаў і галечы; нападу расізму і антыкамунізму і г. д.; самага высокага смоку... дымнай і туманнай грамадскай атмасферы: першы раз быў у 1955 г., а апошні ў 1964—1965 г.

Я аглядаў будынкі, масты, шасэ... Мала сустракаўся з людзьмі, па многіх прычынах — няведанне мовы, нежаданне «вышэйшых» сустракацца са мной, а «ніжэйшых» не дапускалі да гэтых сустрэч. Я мала гаварыў з людзьмі і не магу сказаць, як гавораць пра сваіх людзей пасля наведання Украіны, Таджыкістана, агледзеўшы многія «достопримечательности»: «Больш за ўсё мне спадабаліся людзі».

Я наглядаў іх збоку, здалёк і ўгадваў іх — іх характары, душы і г. д. па іх справах...

Вось велізарнейшы мост — гэта іх работа. Вось кантора банка — гэта прыстанішча павука... Вось біржа — муравейнік не разумных істот, а вар'ятаў...

Мы наведалі біржу ўдзень...

Калі Нью-Йорк вертыкаль Амерыкі, дык Вашынгтон яе гарызанталь...

(Наклаўшы сілуэт аднаго горада на другі, атрымаем крыж.) І калі ў Нью-Йорку — трушчобы, дык у Вашынгтоне — хібаркі... Я не хачу ганіць гэтых гарадоў — творчая думка над імі папрацавала,— я хачу толькі параўнаннем гэтых кантрастаў даць уяўленне аб амерыканскіх гарадах... Пры апісанні гарадоў гавораць пра іх твар. Правільней гаварыць пра сілуэт горада. У Чыкага сілуэт абеліска на шырокім пастаменце...

**Пра граніцу — амерыканскае разуменне...**

Прыгранічнае становішча Беларусі выпрацавала таксама свой людскі характар. Але ён не падобны на амерыканскі.

**Вайна (удзел у ёй).**

Чаму не гавораць у анкетах аб удзеле ў барацьбе за мір? «Мір — гэта адваротны бок вайны, і толькі»,— кажуць...

Перадваенныя гады... Пагроза вайны... Трывогі людскія... Іспанія, Халхін-Гол, Фінляндыя, Заходняя Беларусь — ваенныя рэгіянальныя падзеі, пярэдадне вялікай вайны...

Як на гэта рэагавалі пісьменнікі («Васіль Баранаў» Куляшова і іншыя).

Гаворачы пра вайну, трэба прачытаць «Буру» Эрэнбурга.

(Глядзі ў Длугаша, як рыхтаваўся да бою Ягайла і Ульрых фон Юненген... Колькі сантыментальнасці, псіхалагічных перажыванняў!..)

Дзесьці на Магілёўшчыне (гл. ваенныя запіскі тых дзён). Дачка нясе на плячах старую маці... У старой на твары жах, які мог бы адлюстраваць у дрэве скульптар Ісаак Якаўлевіч Іткінд.

Каму шмат дадзена...

Заходні Фронт, Вязьма і г. д. Сустрэча з Цэзарам Саладаром...

Калінінскі фронт. Латышка, што называла быка мужам жаранай каровы (як у анекдоце: «Што такое старая дзева? — Жонка халасцяка»).

Прыехаўшы з фронту ў Маскву, слухаю ў канцэртнай зале кансерваторыі з Краўчанкам сімфонію Шастаковіча...

**Майданак.**

За жалезнымі кратамі сядзелі людзі. Цяпер за драцянымі навалены іх убогія рэчы — стоптаныя чаравікі, шчарбатая лыжка, з пагнутымі, абламанымі пальцамі відэльцы...

Жабрачае ўбоства начыння і велічнае багацце чалавечых душ.

**Мова.**

Калі ў маёй памяці ўстаюць словы Багушэвіча: «Не пакідайце роднай мовы, каб не памерці», у мяне па скуры прабягае мароз. Яны гучаць, як труба архангела, што склікае на страшны суд.

Мовы і іх зліццё ў будучым...

А можа, і не сальюцца — будзе адна агульная мова, але будуць і свае «раённыя»; вывучаць мовы будзе лёгка, бо знойдуцца добрыя метады, часу будзе больш, бо на матэматыку і іншыя прадметы пры гэтых метадах будзе таксама ісці менш часу.

Праца над слоўнікамі, камунікацыя людзей з дапамогай гукавых слоўнікаў: націснуў пальцамі на слова «стол» у беларуска-французскім слоўніку, і пачуеш: «ле табль»...

Як жа пры такой тэхніцы могуць знікнуць мовы і нацыянальнасці?..

**Мінск.**

Не памятаю, хто сказаў: «Бог стварыў свет, чалавек

стварыў горад». Калі справа ідзе аб Мінску, я сказаў, што Мінск стварыў чалавек, які стаў богам.

Мае паездкі па Беларусі і ў тым ліку першы паход з Трусам і Лужаніным, паездка па дарозе Марцінкевіча, на радзіму Цёткі...

А чаму ж не пусціць па дарогах выдатных людзей піяпераў, як яны з такім поспехам ходзяць па дарогах герояў вайны?

**Мае літаратурныя знаёмствы — Ул. Галубок...**

Не ведаю, ці быў Галубок наогул знаёмы з творчасцю Дзюма. Ва ўсякім разе, калі б ён унік у яе глыбей, абарона ім у яго п'есах бедных падкідышаў мела б у асобе Дзюма вопытнага адваката...

Абавязкова напісаць пра Таўлая — падобнага на Багдановіча — не па жыццёвай долі, а па вобліку, характару...

Баюся, што я маю анкету так і не дапішу: старасць усё часцей напамінае аб кароткіх чалавечых днях, калі цямнее раней, чым ты паспяваеш закончыць работу на сваім полі... А ў цемнаце — якая ж гэта работа!

Усё часцей пачынаю датаваць свае нататкі да «Анкеты». Баюся, што не хопіць часу і сіл апісаць дваццаць з лішнім тысяч пражытых дзён,— няхай жа застануцца некаму для памяці хоць гэтыя — адзначаныя датамі.

У чалавека пасля смерці застаецца адно — толькі памяць аб ім...

У ліпені 1968 г. я ляжаў у бальніцы... Чытаў «Невыдуманные рассказы» Верасаева. Ён часта сцвярджае, што не баіцца смерці, вітае яе амаль...

Я — баюся... Як Пушкін: «Я жить хочу, чтоб мыслить и страдать».

Хтосьці сказаў, што геній заўсёды адзінокі. Мабыць, толькі таму, што я не геній, адзіноты я ніколі не адчуваў. Са мною былі сябры, з якімі я выпіваў і вёў гутаркі; былі кнігі, дзе думкі выказаны яшчэ больш прадумана; была навакольная прырода з яе пахамі і фарбамі... У мяне заўсёды не хапала часу, не хапала адзіноты, каб «насладиться» гэтым...

## МАЯ АНКЕТА

**(працяг)**

### Уводзіны

Я пішу гэтыя ўводзіны да не пачатага яшчэ твора не для таго, каб захаваць непарушныя традыцыі добрых раманістаў — пачынаць твор, асабліва гістарычны, з абавязковага ўступу. Не! Я гляджу на традыцыі, як разважлівы чалавек на свае ўлюбёныя рукавіцы, падшытыя цёплай заечай шкуркай: іх добра насіць зімой, але было б вар'яцтвам надзяваць летам. Уводзіны патрэбны мне для іншых мэт. Па-першае, каб дагадзіць маім сябрам вучоным, якія без уводзін не абыходзяцца, нават пішучы заметку ў газету. Па-другое, каб растлумачыць назву. Па-трэцяе, для чытача, калі ён адолее гэтыя ўводзіны, ён прачытае і ўвесь твор, які не толькі арыгінальна задуманы, але і цікава будзе напісаны аб тым, чаму я палюбіў «А» і зненавідзеў «Б», і чытач прачытае яго з цікавасцю і пэўнай карысцю...

Калі я напішу «Маю анкету», я пастараюся апублікаваць з яе ўсё, што будзе можна... А астатняе здам на схові́шча натарыусу з такой умовай у тастаменце: «Дазваляю друкаваць усё цалкам ці часткова з неапублікаванага, калі *апублікаванае* будзе друкавацца пры гэтым *усё цалкам*». Так, можа, за гадоў пяць-дзесяць «Мая анкета» апублікуецца ўся.

Калі і пры кім гэта будзе *дакладна* — мне цяжка сказаць.

Калі ты маеш даныя быць вялікім чалавекам, не пішы ніякіх дзённікаў: неасцярожна ты можаш сказаць у ім штосьці такое, што наследнікі твае схаваюць яго ў такія тайнікі, дзе ён праляжыць стагоддзі, і ніхто яго не знойдзе (пакуль не пераджыве некалькі пакаленняў гэтых наследнікаў).

Я не збіраюся быць вялікім, аднак дзённікаў не пісаў... Пісаў анкеты.

Праводзяцца доследы па перасаджванню мозга аднаго чалавека другому. Калі перасадзяць мой мозг другому, ён будзе ведаць усё, чым я жыў... Тады і «Мая анкета» стане непатрэбнай, бо я не ўсё расказваю.

Дык вось пераходзім да анкетных пытанняў.

**Прозвішча, імя, імя па бацьку?**

Перш чым адказаць на гэта першае пытанне кожнай анкеты, я, у сваю чаргу, хачу задаць вам таксама пытанне: ці задумаўся хто-небудзь з усіх людзей, хто запаўняў анкеты, чаму ў іх гэтае пытанне стаіць першым? Відаць, не. А я думаў над гэтым, і не раз. Мае роздумы прывялі мяне да вываду, што анкета літаратурны жанр — відаць, таму, што першую анкету прыдумаў пісьменнік. (Гэта яшчэ адно пацверджанне, што анкета — літаратурны жанр.) Чаму? Таму што ні адзін чалавек не думае так доўга над сваім прозвішчам, як той, хто думае ўступіць на ніву літаратуры. І ў гэтым ёсць жалезная логіка. Добрае, мілагучнае прозвішча для пісьменніка можа замяніць нават талент, прынамсі на першым часе, гэта верная гарантыя поспеху, гэта палавіна славы. І сапраўды, хіба ж мог бы, скажам, «Яўгеній Анегін» набыць сусветнае значэнне, калі б аўтар яго называўся не Пушкін, а, скажам, Казлоў, Іваноў і г. д. Дзе там! Нават блізкія сінонімы гэтага не маглі б надаць твору таго значэння, як Пушкін. Напрыклад, Гарматкін, Ракетны...

Паспрабуйце перакласці, як гэта рабілі, Пушкіна нават на Гарматкіна, Кнута Гамсуна... (Прыгадаць, як клапаціўся аб сваім прозвішчы Бальзак.)

Аб значэнні прозвішча для літаратурнага поспеху гаворыць Святаслаў Мінкаў.

Паколькі бацькі мае, як гэта будзе відаць з далейшых адказаў, не думалі аб маёй пісьменніцкай кар'еры, не думалі і аб прозвішчы. І многія свае няўдачы я адношу за кошт майго такога звычайнага прозвішча.

Вы скажаце, што недальнабачнымі былі і другія бацькі і далі сваім дзецям не заўсёды добрыя прозвішчы? Дык тут прадбачлівыя аўтары самі знайшлі выхад — прыдумалі сабе адпаведныя псеўданімы. Я, праўда, не ведаю, чаму такія псеўданімы: напрыклад, Ядвігін Ш.

«Ёсць прозвішчы, якія дзякуючы лёсу і жыццёваму подзвігу набываюць нейкае сімвалічнае значэнне»,— кажа К. Чапек.

«Бах» — у перакладзе азначае ручай (гл. слоўнік).

Я дзесьці прачытаў, што адзін іспанец мае прозвішча з 46 літар.

Мне здавалася, што маё прозвішча вельмі кароткае, а імя Пётр — таксама. «Петра — есть то слово грэцкое, значит: камень мягкий, подлейший, то есть од каменя камень». (Гл. Коршунаў. «Афанасий Филиппович», стар. 167.) Распісваючыся, я іх злучаў — Пятро Глебка — і пасля, калі стаў адміністратарам, каяўся — доўга пісаць.

«Мода» па псеўданімы ў 20-я гады была ад традыцый старой беларускай літаратуры. Але калі даўней гэта было выклікана неабходнасцю (напр., чаму Колас павінен быў «хавацца» пад псеўданімам), дык у 20-я гады ў лепшым выпадку — традыцыяй, бо добрыя ж прозвішчы Кудзелька, Плашчынскі, Каратай і г. д. Псеўданім можа падкрэсліваць напрамак творчасці — Крапіва, напрыклад, Бядуля, Гартны... За псеўданімам можна схавацца ад людзей, але не ад свайго сумлення.

Мы многа думалі — якія выбраць псеўданімы. Выдатны вастраслоў нашага класа Алесь Чучко даваў парады: «Заплюйсвечка», «Падыміхвост» і яшчэ больш выразныя. Мы не прымалі іх не таму, што па нацыянальнай форме былі ўкраінскія, а таму, што ў іх мала прыгожага. Мы тады не маглі ведаць апавядання балгарскага пісьменніка Святаслава Мінкава, бо і апавяданне яшчэ не было напісана. Але разумелі, што з дрэнным прозвішчам няма дарогі.

І вось Каратай прыдумаў — Лужанін. Сяргею Серадзе пасля гэтага было ўжо лёгка назваць сябе Дарожным. Хоць у першага ніякіх лугоў не было, у другога было многа лугоў і ніякіх дарог, бо ён быў з Палесся. Але эталон быў знойдзены: прырода. Неўзабаве і я знайшоў бы сабе псеўданім. Але здарылася няшчасце — надрукавалі мой верш, у якім калі і было што добрае, дык гэта прозвішча майго бацькі — Глебка. У хуткім часе я і зусім супакоіўся, калі сказалі, што яно гучыць як Глінка, хоць Глебка, відаць, не ад глебы.

Каюся, што не памяняў прозвішча або не ўзяў псеўданім — нас не блыталі б з Броўкам. (Расказы аб гэтых блытанінах.)

**Пятро Панч...** З лялечных тэатраў: рускі Пятрушка, англійскі Панч. (Ці не тут разгадка псеўданіма — Пятро Панч?)

Лахуці, прыехаўшы аднойчы на дачу Я. Коласа ў Беразнянку (а можа, у Балачанку? Адным словам, за Пухавічы), не застаў яго дома — Колас быў на рыбалцы. Лахуці пайшоў на рэчку, падышоў да дуба, дзе павінен быў знайсці Якуба, але не заўважыў яго. Лахуці пачаў клікаць: «Якуб! Калляс! Дзе ты?» Як мог ён называць Коласа (коласа жытняга, пшанічнага) «Калясам» ці «Каллясам»? Ці не сказаўся тут уплыў усходняга?

(Гл. «Праўду» за 12 ліпеня 1962 г., дзе змешчана прамова сірыйца на Кангрэсе за раззбраенне Халіля Калласа. Даведацца: што па-сірыйску абазначае «каллас».)

Адкуль псеўданім Я. Коласа. 1 снежня 1952 г. у клубе Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта быў вечар Я. Коласа ў сувязі з яго сямідзесяцігоддзем. На вечары хтосьці прыслаў Я. Коласу запіску з запытаннем, чаму ён узяў сабе такі іменна псеўданім — Якуб Колас. Паэт адказаў так. У 1906 годзе ў верасні ў Мінску ладзілася выданне ці вяліся толькі размовы аб выданні беларускай газеты «Наша доля». Адзін з арганізатараў газеты (Колас яго не назваў, але, відаць, гэта быў Уласаў), ведаючы настаўніка Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча як чалавека, які займаецца пытаннямі беларускай народнай творчасці, запрапанаваў яму прыняць удзел у газеце. Міцкевіч даў згоду. Тады арганізатар газеты параіў яму, каб пазбегнуць непрыемнасцей ад улад, пісаць пад якім-небудзь псеўданімам. А ў той час Канстанцін Міхайлавіч захапляўся творчасцю Якубовіча-Мельшына, асабліва спадабаўся яму адзін верш, у якім гаварылася пра нейкія калоссі ці колас. Думаючы над выбарам псеўданіма і перагортваючы Якубовіча-Мельшына, Канстанцін Міхайлавіч натрапіў на верш аб коласе (калоссях) і вырашыў назваць сябе Якуб(овіч) Колас. Так расказваў аб гэтым сам Канстанцін Міхайлавіч.

**Імя па бацьку.** «Чаму па бацьку, а не па маці? Васіль Марыевіч, Іван Нінавіч і г. д. Тым больш што бацька бывае невядомы, а маці заўсёды ведаюць. Ды і маці часцей, чым бацька, гаворыць: сынок мой...

Толькі пагарда мужчын парадзіла іменаванне не па маці, а па-мацярынску...»

Гэта выказванне аднаго з тых, хто не ведаў бацькі.

**Год нараджэння (1905)...** Гісторыя паказвае, што год, месяц, нават дзень смерці аднаго выдатнага рэвалюцыянера, дзеяча становіцца годам, месяцам, днём нараджэння новага чалавека — будучага рэвалюцыянера, дзеяча і г. д. Гісторыя ішла і працягвае ісці сваім няўмольным поступам (знайсці супадзенні смерці аднаго выдатнага чалавека і нараджэння другога — будучага выдатнага). Гісторыя прадбачыць цяжкасці і дубліруе часамі нараджэнні ў тыя ж дні праз некалькі гадоў (нараджэнне Купалы, Броўкі, Глебкі і Коласа)...

Лілія Рэгале была знойдзена батанікам Вільсанам у 1905 годзе. Калі пытаюць: «Якія любіце кветкі?», адказваю: «Маю равесніцу — лілію Рэгале».

**Мой бацька.** Мой бацька быў майстар на ўсе рукі. Выпіўшы, ён падобны быў на Кала Бруньёна — пачынаў гаварыць у рыфму. Праўда, ён не рабіў, як Кала, такіх палітычных і грамадскіх абагульненняў, больш рыфмаваў на «сямейныя» тэмы, а грамадскія ішлі не далей свайго селавога «старасты», валаснога пісара і старшыні. У палітыцы ён быў асцярожны. Верыў папу, рабіў колы земскаму начальніку, піў у яго на ганку чарку, хваліўся «Эх, я такія колы зрабіў ураднiку, што ён будзе ездзіць на іх, пакуль на свеце будуць ураднікі».

Калі сусед прыйшоў і сказаў, што звергліі Мікалая другога, ён, аглянуўшыся на дзяцей (і мяне ў тым ліку), сказаў: «Ты што, Паўлюк, пасядзець хочаш? Доўга будзеш сядзець, пакуль Мікалай не навучыць іх (мяне і інш.)».

Пра «вясковы куфэрак», які суправаджаў хлопца майго пакалення ў горад і... да жаніцьбы з гараджанкай, якая выкідала гэты куфэрак у хлевушок ці пуньку.

Куфэрак — не фабрычны, не цяперашні, не бавульчык, а «цуд» вясковага майстэрства.

**Рост.** Заўважана тэндэнцыя, што рост мужчын павялічваецца хутчэй, чым жанчын. Мяркуюць, што ў 3000 годзе сярэдні рост мужчын будзе 5 м 77 см, а жанчын — 2 м 33 см. Вось тады мужчыны сапраўды змогуць «насіць жанчын на руках» А вага? (Жанчыны не растуць ушыркі.) Я. Брыль важыць 110 кг, а Р. Няхай — 55 кг.

**Да пытання аб сямейным становішчы.** Анекдот з зарубежнага гумару:

— Тата, чаму ў мэрыі жаніх і нявеста падаюць адно аднаму рукі?

— Такая традыцыя, сынок. Ты ж ведаеш, што баксёры на рынгу робяць перад матчам тое ж самае.

Мы не спаборнічалі ў жыцці, як на рынгу. Калі я пісаў пра дзяўчат, жонка гаварыла, калі я пытаў, ці добры верш:

Цудоўны! Мне падабаецца, што ты нязменна пішаш пра бялявых. Ідэя пастаянства — вось што важна ў ім.

...А сама яна чорная.

**Мая жонка.** Як у развіцці літаратуры, так і ў сямейным жыцці з жонкай бываюць розныя перыяды. Спачатку, калі мы пажаніліся, нашы ўзаемаадносіны вызначаліся проста: я меў адзін касцюм, які яна заўсёды гладзіла. Калі стала некалькі касцюмаў, адзін, які насіў штодзень, пачаў гладзіць я (святочны менш трэба гладзіць). Пантоплі пад маю старасць сталі засоўвацца так далёка пад ложак, што трэба было поўзаць. А я ні перад кім не поўзаў.

Віктор Гюго напісаў за пяцьдзесят гадоў 10 тысяч пісем да сваёй каханай.

Я столькі сваёй жонцы не напісаў. І не толькі таму, што не хапала паперы...

**Узрост жанчыны.** Яны так яго ўтойваюць, што нават пры гульні «Колькі табе год» за зыходны пры вылічэнні ў галаве бяруць не сапраўдны ўзрост, а выдуманы... Яны так моцна, нават фанатычна вераць у яго, што ашукваюць нават смерць. Гэтым, я думаю, тлумачыцца той факт, што працягласць жыцця жанчыны большая, чым мужчыны.

**Сацыяльнае паходжанне.** Першым мінскім князем быў Глеб Усяславіч... Наўрад ці каб мы паходзілі ад яго. Тым больш што гэта цяпер недарэчы і небяспечна. (Расказ К. Чорнага, як быў «князем» Антон Бялевіч у час вайны.)

Адзін з англійскіх камуністаў атрымаў званне лорда. Пра гэты тытул гл. Энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, т. 18, стар. 12.

**Асобыя прыкметы...** Мае вусы... На свеце, кажуць, ёсць 250 відаў вусоў. Мае былі 251.

**Мая маўклівасць...** Біном Ньютана — калі ў мяне пра яго запыталі, я стаў маўклівы, як сам Ньютан быў маўклівы ў парламенце. Можа, з таго часу я і ў крыўдзе на Ньютана і падтрымаць гатоў выступленне супраць яго законаў амерыканца Нормана Дзіна.

**Студэнцкія (дваццатыя) гады...** Жан-Жак Русо, як яго ідэі падносіліся нам у педтэхнікуме.

**НЭП...** На мяне ён дыхнуў «мянялаўкай» на рагу Камсамольскай і Нямігі... «Золата маеце»? «Долары?» Рэстараны Вангжэцкага і інш.

**Вучоба ў БДУ.** Тады ішлі спрэчкі аб школе Пакроўскага. БДУ. Прафесары яго, Барычэўскі...

Мае вершы 20-х гадоў — у прыватнасці пра Кітай («Шыпшына»)...

**Калі пачалі пісаць?** Тады, калі яшчэ не было кібернэтыкі, якая так аблягчае пісанне. Аб матэматычным метадзе ў паэзіі пачалі гаварыць толькі у самым пачатку 60-х гадоў. Спрэчка ў Дубоўкі матэматыка і лірыка ў паэме «І пурпуровых ветразяў узвівы...».

**Як вы працуеце?** — такога пытання ў афіцыйных анкетах няма. Але яго задаюць часта чытачы. Голас чытача — голас народа. І трэба адказаць і на гэта пытанне.

Можа, наогул уключыць у анкету і пытанні чытачоў?

**Як і калі вы працуеце?** Уночы. Ёсць дзве катэгорыі людзей, якія працуюць уночы,— асенізатары і паэты. У наш век тэхнікі, калі пры каналізацыі і г. д. асенізатары знікаюць, застаюцца начнымі працаўнікамі толькі паэты. У гэтым сэнсе я і разумею радкі Маякоўскага: «Я асенізатар і вадавоз паэзіі — бабы капрызнай...» А закаханыя?

**Як і дзе я пішу.** Як пішуць іншыя (Броўка). Пішу старым спосабам — пяром, а не на машынцы...

Мне заўсёды было сорамна, калі я прыносіў свае творы ў рэдакцыю або калі бачыў, што іх трымаюць у руках мае знаёмыя... Асабліва было сорамна, калі бачыў іх у ру-

ках чытача. Па-першае, ён мог чытаць не самае лепшае, што ў кнізе было. Па-другое, калі ён сам чытаў, усе недахопы кідаліся больш у вочы, чым тады, калі ён лавіў мае вершы на слых, калі ў маім чытанні я прыхарошваў іх «пафасам» чытання.

Думаю, ні адзін пісьменнік не стварыў такога твора, які ён хацеў стварыць, хоць па заканчэнню работы і радаваўся (Пушкін пасля «Барыса...»).

Мне позна ўжо займацца мадэрнізмам: мне засталося мала жыць, а хочацца пакінуць нашчадкам што-небудзь з сапраўднага мастацтва.

«Если бы я был царь,— пісаў Леў Талстой,— я бы издал закон, что писатель, который употребит слово, значения которого он не может объяснить, лишается права писать и получает сто ударов розог...»

А я выдумаў слова «навучэнец» і нічога не баяўся.

Старасць мая ў значнай ступені залежыць ад Паўла Кавалёва і іншых супрацоўнікаў «Вожыка». Чым больш будзе смешных твораў у іх часопісе, тым больш я пражыву. (Гл. часопіс «Огни Болгарии» за снежань 1963 г., дзе гаворыцца, што смех спрыяе здароўю.) Але баюся, што смех «Вожыка» хутка загоніць мяне ў магілу.

**Пісьменнікі — мае знаёмыя і сябры.** Чаплін пра сяброў: «Может быть, у меня никогда не было потребности в большом количестве друзей — слава мешает правильному выбору».

**Колас, Купала...** Ёсць паэты, якія выказваюцца праз назву перажыванняў. Другія выражаюцца праз пейзаж, або праз свет рэчаў (Гартны), або праз гісторыю (Багдановіч), ён жа і праз міфалогію — лясун і г. д.; тут і Бядуля; абодва не вельмі ведалі быт.

Колас — праз сялянскае жыццё (мой родны кут); Купала — праз пейзаж (вольным гоманам хвоек высокіх...).

Дунін-Марцінкевіч, паездка па яго шляху ў «Беларусь». (Гл. у сувязі з гэтым у артыкуле Мальдзіса ў «Голасе Радзімы», № 23—24 за 1964 г. паведамленне аб паездцы сястры ўдзельніка паўстання 1863 г. у Шчаўры.) («Шчаўроўскія дажынкі»? Трэба праверыць.) Неслухоўскі.

Ці не быў Неслухоўскі знаёмы са Статкоўскім і да яго трапіў у Тыфліс?

Пра Самуйлёнка, пра Зарэцкага, пра Сташэўскага. (Дарэчы, Трус не быў вучнем Сташэўскага, бо першы скончыў сямігодку, калі другі не з'яўляўся яшчэ яе настаўнікам.)

Чорны, Броўка і іншыя беларускія пісьменнікі.

Застаўся адзін (Ніна паехала на дачу — вясна ў разгары). Я не мог паехаць, бо ў 12.30 выступаў па тэлебачанні пра Ахрэмчыка ды і хворы быў (напярэдадні, у пятніцу, а сёння нядзеля, разбалеўся жывот). Учора, у суботу, зайшоў Якаў Уладзіміравіч, наказаў, што есці і чаго не есці. Калі сумленна падлічыць, дык нічога нельга есці. А я з'еў гаршчок рысавай кашы — згаладаў за два дні страшна! Я казаў Якаву Уладзіміравічу, што наш дом стаіць, відаць, на такім месцы, дзе любяць паесці (Ів. Шамякін, напрыклад, я ды і многія іншыя).

**Гумар.** Пра гумар у Чапліна. Смех...

«...трагическое и смешное всегда рядом: вероятно, потому, что смех — это вызов судьбе; мы смеемся, сознавая свое бессилие, беспомощность перед силами природы... смеемся, чтобы не сойти с ума».

Пра характар гумару Крапівы і інш.

Гумар французскі (Мерымэ, Франс і падобныя, а не Рабле) лёгкі, а Крапівы і г. д. цяжкаваты, але сочны.

Біёграфы адзначаюць, што Салтыкоў-Шчадрын у час прабывання яго ў ліцэі лічыўся сярод знаёмых пад імем «панурага ліцэіста». Відаць, гэта неабходна для сатырыка. Такім жа ў нас выглядаў і Крапіва.

І Кандрат, і Кузьма бывалі да краёў напоўненыя гумарам, смехам. Але ў Кузьмы ён, як кроплі, блішчаў у вачах, свяціўся на твары і — тады выбухаў.

У Кандрата яго знадворку зусім не было відаць. З тым большай сілай ён выбухаў і тады толькі ўжо, праравўшыся, свяціўся ў вузенькіх вачах.

**19.II.66 г.** Субота. Быў у Кандрата з 3 да 10 вечара. Ён запрасіў, каб пачытаць мне кавалкі п'есы і параіцца, што даць для «ЛіМа» у сувязі з 70-годдзем. Прачытаў ён мне тры першыя карціны, якія пакуль што толькі і напісаны.

Назва «Вароты неўміручасці». Рэч мне спадабался, вострая і павінна быць цікавая. Я параіў даць для «ЛіМа» першую карціну — больш цэльная... Ён прачытаў яшчэ некалькі баек і сатырычных вершаў і сярод іх — цудоўную байку «Плывец-тэарэтык».

Верш Крапівы пра Цата-Мацкевіча... падрыхтаванне да юбілею Кандрата... размова з Броўкам пра першую карціну новай п'есы Крапівы, якую (карціну) аўтар намерваўся даць у «ЛіМ». (Броўка кажа, што без наступных карцін нельга даваць, незразумела і... невыгодна...)

**Літаратура.** Многім можа паказацца, што ўсё, што я пішу,— няпраўда, прынамсі — не тыповае... А што такое тыповае? Калі два-тры чалавекі думаюць так, як я,— гэта тыповае?.. А дзесяць, сто, тысяча? Таксама не тыповае? Значыць, трэба для тыповага сама менш простая большасць? Дык адкуль жа я сярод гэтай большасці з'явіўся адзін? І чаму? Вырадак? Не! Так не можа быць. Ёсць людзі такія ж, як я. Значыць, і гэта наша група, кагорта — з'ява тыповая, але не ўсеагульная, не большасная, аднак жа даволі (зробім гэтую агаворку), даволі тыповая.

Магчымасці рэалізму невычарпальныя, таму што ён ідзе ад жыцця, якое вечна абнаўляецца. Такім абнаўленнем у нашу эпоху стаў рашучы паварот чалавецтва да сацыялізму, і зусім заканамерна, што і ў мастацтве вядучым стылем эпохі стаў стыль сацыялістычнага рэалізму як найбольш поўнае і адэкватнае мастацкае выражэнне сутнасці гэтай эпохі і яе тэндэнцый. І калі гаварыць пра стыль эпохі, няма патрэбы прыплятаць сюды Кафку і інш. мадэрністаў і шукаць кампрамісу паміж імі. Адзіным сапраўдным стылем эпохі з'яўляецца стыль сац. рэалізму, а не нешта сярэдняе паміж ім і мадэрнізмам.

Мастацтва — гэта рэалізм. Пячорны чалавек пачынаў ад яго («точка, точка, запятая, вот и рожица кривая»), і мы прадаўжаем тое ж. За сто гадоў колькі было «наватараў»! І ўсе яны канулі ў невядомасць. А Талстой, Франс, Ралан, Горкі жывуць. «Прагрэс — гэта лепшае, а не толькі новае»,— сказаў Лопэ дэ Вэга.

«Чалавек старажытных эраў быў больш натуральны і гарманічна ўпісаны ў прыроду, добра яе адчуваў і ведаў» — так, кажуць, думае Тур Хеердал.

Мне здаецца: літаратура, якая арыентуецца на падсвядомае ці на «плынь», «поток» свядомасці,— бесперспектыўная. У такім выпадку літаратура памрэ, бо будуць вынайдзены прыборы, якія ў тысячу разоў лепш змогуць улоўліваць «падсвядомае» ў псіхіцы чалавека. А вось прыборы, якія маглі б улоўліваць грамадскія ўзаемаадносіны людзей, наўрад ці будуць вынайдзены. Тут адзіным «прыборам» застанецца вока чалавека. І сферай літаратуры была і будзе сфера грамадская.

Цудоўная думка ў Чапека («Иностранная литература», № 12, 1963): «літаратура для народа» не патрэбна народу і не патрэбна эліце, як і наадварот, таму што «літаратура эліты — гэта снабізм, мадэрнізм. А вось іменна сапраўднаму народу патрэбна сапраўдная літаратура — не лубачная і не «завумная», мадэрнісцкая, абстаракцыянісцкая і г. д., а іменна — сапраўдная ў самым высокім сэнсе гэтага слова. (Гл. у тым жа артыкуле Чапека шмат іншых вельмі здаровых меркаванняў і думак.)

Цікавы парадокс: з кім бы я ні сустракаўся не толькі з беларускіх ці нават наогул савецкіх творцаў, а і зарубежных — мы правільна разважалі з імі аб сутнасці і прызначэнні літаратуры, але пасля гэтага, як і перад гэтым, пісалі чорт ведае што!

Калі не памыляюся, класікі марксізму гаварылі, што пры камунізме ўсе будуць мастакамі. Такім чынам, трэба думаць, што прафесіянал-мастак «адамрэ». Але нічога пры гэтым не сказана пра прафесіянала-крытыка. А мне здаецца, што ён павінен адмерці першы, таму што крытыкам мастацкай, як і ўсёй іншай, прадукцыі павінен быць спажывец, а не тавравед. Таваразнаўцы існуюць толькі да таго часу, пакуль спажыўцы самі не разбіраюцца ў якасці прадукцыі, а як толькі яны стануць разбірацца ў гэтым — тавараведы будуць не патрэбны.

Мы крычым, што крытыка адстае, і ва ўсіх грахах літаратуры вінавацім крытыку. Добра нехта сказаў, што гэтым мы адводзім крытыцы месца «хлопцаў для біцця».

**Паэзія.** Мой брат Алесь быў рэалістам: не любіў селядцоў і не мог пераносіць іх паху.

С. Граховяк прызнаваў мастацтва для мастацтва. Ён піша: селядцоў ніколі не еў, а толькі глядзеў на іх.

**Паэзія і навука.** Сучасныя вучоныя самыя непапраўныя рамантыкі, а сучасныя паэты самыя неверагодныя рацыяналісты. Першыя вераць у цудадзейную сілу машын (робата), а другія не вераць не толькі ў слова, а нават у яго творцу...

**Вучоныя.** Калі Кох адкрыў вібрыён халеры, яго супрацоўнік Петэнгофер (які адмаўляў вучэнне пра бактэрый) на публічным прадстаўленні глынуў цэлую прабірку гэтых бактэрый... І не захварэў.

**Навука і літаратура (спрэчкі пра гэта ў нашы дні).** Электроніка можа дапамагчы ў справе перакладаў, выдання кніг, арганізацыі работы бібліятэк... (Тут пра армянскую кнігу з некалькіх соцень цялячых шкур і кнігі-малюткі, якія патрэбны будуць для бібліятэк.) Знікнуць свае ўласныя бібліятэкі, а ў сувязі з гэтым зменшацца тыражы (праблема тыражоў сёння).

Эрэнбург на Маскоўскім Міжнародным Кангрэсе за мір: «Моральный и духовный прогресс человечества начал отставать от прогресса технического. Это картина общая. Наука заняла место искусства, ее развитие законно, но отставание искусства приводит к одностороннему развитию человека».

Пры Пастэры справіліся з мікробамі, а ў нас з ракам не могуць. Дык ці так ужо шагнула далёка навука? Яе вельмі прапагандуюць, і яна таму засланіла мастацтва.

Польскі пісьменнік Станіслаў Лем піша апавяданні, як бунтуюцца кібернетычныя машыны... Адно з іх — смешнае — змешчана ў «Жыцце літэрацке», № 32, 1963.

Мне, калі я чытаю грозныя прадраканні, што машына заменіць паэта, успамінаюцца апавяданні Лема і становіцца смешна...

**Пераклады і талент перакладчыкаў.** Талент Семяжона. Ён зрабіў творчасць замежных пісьменнікаў беларускай... Глядзіш на якую-небудзь дзяўчыну ці «фіндлея» і бачыш беларусаў, толькі што апрануліся яны ў замежную вопратку, а душа — наша, беларуская... Не ведаю, што лепш пры перакладзе: апранаць замежную душу ў нац. вопратку ці трансфармаваць замежную душу ў нацыянальную, апра-

наючы ў замежную вопратку. Семяжон ідзе апошнім шляхам.

**Маё разуменне мастацтва...** Эстэтыка — гэта філасофская аснова мастацтва. Як і ў філасофіі, асноўныя катэгорыі эстэтыкі могуць быць агульнымі (прыгожае, трагічнае і г. д.), але трактоўка іх у розных эстэтыках розная... Эстэтыка не выключае тэорый мастацтва і літаратуры як тэорый тэхнікі мастацтва ці літаратуры.

Мая эстэтыка... «От живого созерцания к абстрактному мышлению и от него к практике — таков диалектический путь познания истины, познания объективной реальности»,— гаварыў Ленін.

Літаратура і мастацтва даюць скандэнсаваны (тыповы) прадмет (вобраз) «созерцания». Чытач ідзе тут сам ад «созерцания» «к абстрактному мышлению» (вывадам, сілагізмам). Ад вывадаў — дзеянне (гэта — выхаваўчай, жыццесцвярджальнай ролі мастацтва). Чым больш правільна (тыпізавана) у адпаведнасці з рэальнасцю нарысаваны вобраз «созерцания», тым больш правільныя шляхі да ісціны знойдзе чытач.

**Мастацтва.** Існуе легенда старажытных грэкаў. Дзяўчына, якая павінна была разлучыцца з сваім каханым, які ішоў на вайну, папрасіла яго стаць каля скалы і вугалем абрысавала яго цень. А сапраўды, калі чалавек пачаў рысаваць, яшчэ людзі не ведалі жалеза. Было гэта прыкладна за 25 тысяч гадоў да н. э., у эпоху каменнага веку. І першы чалавек, які абводзіў контуры (наскальныя рысункі), быў рэалістам — перадаваў свой працоўны вопыт; мастацтва — ад працы. Мастацтва — гэта рэалізм.

Спачатку людзі навучыліся рысаваць, а пасля ўжо пісаць, бо першабытны чалавек рысунак рабіў сродкам паведамлення (нарысаваны на кары дрэва, шкуры жывёл).

**Спецыфіка мастацтва.** Кожнаму мастаку патрэбны ўласцівы яму матэрыял: паэту — ёмкае (пераканаўчае) слова, жывапісцу — сакавітая фарба. І кожнаму — вострае вока, чуйны слых... Але больш за ўсё патрэбна чулае і добрае сэрца. Бетховен быў глухі, скульптар Масара — сляпы. Але сэрцы ў іх былі чуйныя і відушчыя...

Мастацтва, страціўшы сваю функцыю ідэалагічнай зброі, можа стаць толькі забавай.

**Нацыянальнасць.** Беларус (характарыстыка нацыі). А што такое беларус? Сам ён ніколі не называў сябе так. Адказваў на пытанне пра нац-насць: — Не ведаю. Або: — Тутэйшы. Не тое што паляк. Той адразу, нават з калыскі, адказваў: «Хто ты естэсь? Поляк малы». Але не думайце, што «тутэйшы» такі ўжо наіўны. Калі ў панскім маёнтку ён адказваў на пытанне: «Адкуль ты?» — «Тутэйшы», дык ён падразумяваў, што не сам пан тут гаспадар. Але гэта высвятлілася толькі ў кастрычніку 1917 г. А «кто ты естэсь», Купала напісаў, калі быў ужо вялікі. І нядарам кажуць, што ён і выдумаў Беларусь. Другія сцвярджаюць, што і Колас яму памог выдумаць. Беларусы нічога не вынайшлі. «Пана Тадэвуша», «Гальку» выдумалі выхадцы з Беларусі. А сам беларус, калі што і прыдумаў, дык толькі дружбу народаў.

Нацыянальнай асаблівасцю беларуса з'яўляецца тое, што яго абважваюць у Мінску так жа, як у Туле.

Беларусы ядуць мачанку. А цыган: мне і суха добра (этнаграфія беларусаў).

Нацыянальныя мастацкія традыцыі — гэта не штосьці абстрактнае, раз і назаўсёды дадзенае народу пры яго нараджэнні або фарміраванні, а канкрэтны вопыт стваральнікаў данага мастацтва, абапёрты на гісторыю свайго народа.

Таму на розныя пытанні — што гэта такое «нацыянальныя традыцыі мастацтва» — адказ можа быць толькі адзін: гэта гісторыя мастацтва народа. Яна не абавязкова павінна адрозніваецца па ўсіх лініях эстэтыкі ад гісторыі мастацтваў іншых народаў, але яна абавязкова ў пэўных пунктах мае свае асаблівасці.

Традыцыі заўсёды абнаўляюцца ў сувязі з пашырэннем і паглыбленнем вопыту.

Пэўныя асобныя нацыянальныя традыцыі могуць сябе зжыць канчаткова, іншыя могуць развівацца і паглыбляцца.

У беларускіх нац. традыцыях (творчай практыцы) бадай зусім адсутнічае станоўчы вобраз эксплуататара (памешчыка, купца і г. д.), што мае месца, скажам, у іншых літаратурах (французскай, рускай, польскай). Тлумачыцца гэта гістарычна тым, што пануючыя класы ў Беларусі, як правіла, былі палапізаваны або русіфікаваны... Вось чаму «вострая сацыяльная праблематыка» стала адной з рыс нацыянальных мастацкіх традыцый, як

і пэўны этнаграфізм (уплыў народнай творчасці). Відаць, «Несцерка» на рускай сцэне немагчымы сёння, як і «На купалле» і інш.

**Аб мове.** Родная мова...

Владыки и те исчезали
Мгновенно и наверняка,
Когда невзначай посягали
На самую суть языка».

*З верша Яраслава Смелякова «Русский язык»*

Пушкін пра рускую літаратурную мову яго часу і яе пашырэнне ў грамадстве.

Дастаеўскі ганарыўся, што ўвёў слова «стушеваться», Бабарыкін — слова «интеллигент»... З імем Карэла Чапека звязваюць нараджэнне слова «робот».

На дацкай мове адзенне са шкур, якое носяць паўночныя паляўнічыя, называецца анорак. (Хіба не блізкае да андарак?)

Адкуль слова шавінізм? Ад напалеонаўскага ваякі Шовена?

Рэмбо называў галосны гук «а» чорным. А мы — беларусы — акаем. Які адгэтуль вынік?

Дарэчы, Вітка расказваў, як ён у маленстве смяяўся, калі пачуў прозвішча Катаеў.

**Аб мове літоўскага княства.**

Калі яна складвалася ў XIII—XIV ст., яна атрымала аснову ад беларускіх гаворак, бо Кіеўскае і Чарнігаўскае княствы былі далучаны да Літвы толькі ў другой палове XIV ст. (1345—1377).

**Красворды і мова.** Я люблю іх разгадваць — угадваць словы па некалькі знаках. Думаю, гэта карысна для пісьменіка. Для начальніка, які, зачыніўшыся ў кабінеце, разгадвае красворд,— зусім не карысна.

**Чужаземныя мовы.** «...разговор через переводчика всегда подобен стрельбе на далекую дистанцию — слишком долго приходится ждать, пока узнаешь, попал ли ты в цель» (Чаплін. «Мая біяграфія»).

Метады навучання замежным мовам.

**Мова.** Нацыянальная гордасць — вялікае і святое пачуццё, калі прадметам гэтай гордасці з'яўляецца не эгаізм, а чалавекалюбная брацкая дзейнасць твайго народа.

Беларусь — рубеж дзвюх культур: заходняй, рымскай і ўсходняй, візантыйскай...

Даўно вядома, што народ, які не ведае свайго мінулага, не можа асэнсаваць (зразумець) сваёй сучаснасці і ўгадаць (прадбачыць) сваю будучыню.

Беларуская бульба...

Апісанне — як яе варыць. Верш Панчанкі. І трэба даць адпаведную оду бульбе, як, напрыклад, Энца Рава — каве.

**Мая Радзіма.** Месца нараджэння — СССР.

Сімбірск, дом, дзе нарадзіўся Ленін...

Я пачуў гэту страшную вестку ва Уздзе... І нібы штосьці стукнула цяжкое пад сэрца. Я выйшаў і паехаў дахаты. Ціха было ў вёсцы. Ціха было на двары. Я выпраг каня і ўвайшоў у хату. Аблакаціўшыся на варштат, падпёршы рукамі галаву, ціха сядзеў бацька. З кута ў кут хадзіла маці. Сястра, стоячы каля печы, выцірала хвартухом слёзы. Падлеткі і меншыя дзеці ціхім гуртам стаялі ў парозе. Паўлюк прама сядзеў на лаве і час ад часу моргаў вачыма — з іх упарта каціліся слёзы.

Я зайшоў у хату і тут зразумеў не розумам, а сэрцам веліч утраты. Я не ведаў яшчэ тады (у час смерці Леніна) ні яго вялікага вучэння, ні яго мудрасці, ні яго чалавечнасці. Я ведаў толькі, што ён вызваліў людзей, ведаў яго любоў да людзей, ведаў, чаму панік галавой бацька, чаму, заламаўшы рукі, ходзіць па хаце маці, чаму слёзы на вачах у дзядзькі Паўлюка, і ўсё ізноў амярцвела ва мне, і я заплакаў... Быў снег і мароз... І я захацеў аб усім гэтым напісаць.

**Традыцыі і наватарства, маладыя і старыя...** Мне помніцца фатаграфія — Чэхаў чытае ў МХАТе «Чайку». Станіслаўскі і Ліліна разумеюць яе і згодны з ёю. Толькі думаюць аб шляхах яе («Чайкі») увасаблення. Да Неміровіча гэта яшчэ «не дайшло», ён у вялікім роздуме. А Меерхольд не верыць, ён у роздуме скептычным. І мне здаецца, дзве гэтыя фігуры — Неміровіч і Меерхольд — антыподы: «традыцыя — Неміровіч» думае, а «наватарства — Меерхольд» ужо адразу адмаўляе.

У палякаў-літаратараў традыцыі літаратурныя (і народныя) не прызнаюцца, але кавярні ўсе ў «народным» стылі (у Саюзе пісьменнікаў, у Кракаве). Пішуць пад французаў, а п'юць пад шляхту.

**Наватарства...** Кожны чалавек — наватар, не падобны на іншага... Цяжэй быць традыцыяналістам, і іх няшмат на свеце.

Усе людзі ходзяць, ядуць і г. д.— аднолькава, тут яны робяць «што», але «як» робяць — гэта не падобна. І пошукі павінны быць накіраваны на «што», а не на «як»...

Не помню, дзе і хто але нехта вельмі добра сказаў: Нішто так хутка не старэе, як наватарства».

Наследаванне добрым традыцыям заключаецца не ў тым, каб так пісаць, як пісалі папярэднікі, каб так думаць, як думалі яны, а ў тым, каб так рабіць, як рабілі яны. Яны ўмешваліся ў жыццё, яны былі на перадавых пазіцыях свайго часу, яны былі з народам...

Здаецца, Мікеланджэла дзесьці сказаў: «Мой вялікі стыль наплодзіць вялікіх дурняў».

Гэта аб пэўнай частцы «наватараў»...

**Філасофія...**

Калі б не было шматлікіх памылковых тэорый, якія стаяць на шляху чалавечага прагрэсу, як бы далёка пайшло чалавечае пазнанне!..

Ніколі нельга гаварыць, што «гэтага не можа быць». Мы далёка і далёка не ведаем яшчэ ўсіх магчымасцей прыроды. А яны, безумоўна, бясконцыя, і «ўсё можа быць».

Прадмет мастацтва — не столькі (і не ўся) аб'ектыўная рэчаіснасць, колькі (і ў першую чаргу) праца, працэс асваення чалавекам свету.

## ЗАЎВАГІ

### Артыкулы

За выяўленне маладых сіл (с. 5)
Упершыню —: Узвышша, 1930, № 7, с. 65—71.
Праца над словам (с. 13)
Упершыню —: Заклік, 1933, № 2, с. 83—89.
У пошуках праўды і выдумкі (с. 25)
Упершыню —: Полымя, 1935, № 1, с. 111—128.
Зборнік вершаў Пімена Панчанкі (с.48)
Упершыню —: Советская Белоруссия, 1941, 23 сак. (на рускай мове).
Аб нашай паэзіі і аб новых вершах Петруся Броўкі (с. 52)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1940, 17 жн.
Адам Міцкевіч (с. 59)
Упершыню —: Полымя, 1940, № 11, с. 112—125.
Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі (с. 75)
Упершыню—: Полымя, 1945, № 9, с. 97—122.
Паэзія барацьбы і перамогі (с. 100)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1945, 2 ліп.
Пясняр народа (с. 112)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1946, 6 лістап. (пад назвай «Пясняр пафасу народнай барацьбы»).
Міхась Лынькоў—пісьменнік і грамадзянін (с. 122)
Упершыню —: Полымя, 1947, № 1, с. 8—10.
Гістарычныя творы М. Клімковіча (с. 127)
Упершыню —: У кн.: Клімковіч М. Драматычныя паэмы. Мн., 1947, с. 3—12.
Пілiп Сямёнавіч Пестрак (с.139)
Упершыню — : У кн.: Пестрак П. Выбраныя творы. Мн., 1947, с. 3—10.
Геніяльны паэт рускага народа (с. 149)
Упершыню — : Полымя, 1949, № 6, с. 91—99.
Бяспрэчны поступ (с. 169)
Упершыню —: Беларусь, 1951, № 3, с. 30 (пад назвай «Бяспрэчны поступ наперад»).
Памятныя размовы (с.176)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1952, 5 ліп.
Вялікі пачатак (с. 180)
Упершыню — : Літ. і мастацтва, 1955, 28 мая.

А д а м  М і ц к е в і ч  у  Б е л а р у с і  (с. 182)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1955, 2 снеж.
Т а л е н а в і т ы  п я с н я р  (с. 188)
Упершыню —: У кн.: Маякоўскі ў Беларусі. Мн., 1957, с. 14—15.
Д у б о ў к а  (с. 189)
Упершыню —: У кн.: Дубоўка У. Выбраныя творы. Мн., 1959, с. 3—11.
Н а  ч у ж ы н е  і  д о м а  (с. 223)
Упершыню —: У кн.: Броўка П. Далёка ад дому. Мн., 1960, с. 3—6.
Я з э п  П у ш ч а  (с. 226)
Упершыню —: У кн.: Пушча Я. Вершы і паэмы. Мн., 1960, с. 3—10.
Н е з а б ы ў н ы  д р у г  Р а с і і  (с. 234)
Упершыню —: Работніца і сялянка, 1946, № 5, с. 16.
Т а к і м  я  я г о  в е д а ю  (с. 236)
Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1965, 25 чэрв.
В ы д а т н ы  п і с ь м е н н і к  і  в у ч о н ы  (с. 238)
Упершыню —: У кн.: Беларускае славянскае мовазнаўства. Мн., 1972, с. 3—21 (напісаны ў сааўтарстве з М. Суднікам. Тут публікуецца першая частка, аўтарам якой з'яўляецца П. Глебка).
Астатнія артыкулы друкуюцца па выданню: Глебка П. Паэзія барацьбы і перамогі. Мн., 1973.

## Дарога выпрабаванняў

П. Ф. Глебка вёў дзённік ад пачатку вайны да Дня Перамогі. Захаваліся невялікія блакноты і вучнёўскія сшыткі, якія змяшчаюць запісы аб бачаным і перажытым паэтам у час вайны.
Упершыню —: «Полымя», 1976, № 7, с. 178—206.

## Мая анкета

З канца пяцідзесятых гадоў П. Ф. Глебка пачаў збіраць матэрыял для кнігі «Мая анкета». Пісьменнік не паспеў яе напісаць, але захавалася многа паасобных запісаў, накідаў і нататак да твора. Частку з гэтых запісаў падрыхтавала да друку жонка паэта Н. І. Глебка і апублікавала ў часопісе «Маладосць», 1975, № 7, с. 158—171; 1981, № 9, с. 168—177.

ЗМЕСТ

## Артыкулы

**Глебка П.**

Г 53 Збор твораў. У 4-х т. Т. 4 Артыкулы, дзённік, «мая анкета».— Мн.: Маст. літ., 1986.— 351 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 10 к.

Чацвёрты том Збору твораў склалі артыкулы аб творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, рэцэнзіі, прамовы, а таксама дзённік паэта і «Мая анкета».

ББК 84Бел7

Г $\frac{4702120200-017}{М 302(05)-86}$ 112—86

Бел 2

Петр Федорович

ГЛЕБКА

*Собрание сочинений в 4-х томах*

Том 4

*Статьи, дневник, «Моя анкета»*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Хв. Д. Жычка. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары Л. Я. Прагін, В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 2193

Здадзена ў набор 12.05.85. Падп. да друку 27.11.85. АТ 06874. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,00. Ул.-выд. арк. 19,85. Тыраж 5000 экз. Зак. 1432. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, парспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.